ЗАПІСЫ выдаюцца Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва. Адрыс: Weissruthenisches Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V., München 13, Adalbertstr. 38/0.

Das Jahrbuch WISSENSCHAFTLICHE SCHRIFTEN wird von dem Weissruthenischen Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V., München 13, Adalbertstr. 38/0, herausgegeben.

ANNALS is a publication of the Whiteruthenian (Belorussian) Institute of Arts and Sciences, Munich 13, Adalbertstr. 38/0.

Buchdruckerei „Logos" GMbH, München 19, Bothmerstr. 14, Germany

Зацікаўленьне сьвету навуковымі праблемамі народаў Усходняе Эўропы, а між імі й народу беларускага, шпарка нарастае. У выніку, адчуваецца вялікая патрэба сталага адмысловага выданьня, прысьвечанага важнейшым пытаньням сучаснага й мінулага беларускага народу. Такое выданьне канечнае асабліва таму, што ў самой Беларусі сяньня няма абставінаў для аб'ектыўнае беларусаведнае працы.

Дык вось, усьведамленьне войстрае патрэбы навуковае публікацыі, увага якое была-б сканцэнтраваная на Беларусі й беларускім народзе, і прыводзіць да аднаўленьня, як гадавіка, **Запісаў** Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, якія ў гадох 1952—54 выходзілі як часапіс.

У гадавіку друкавацца будуць матар'ялы, датычныя да ўсіх важнейшых галінаў беларусаведы ў іхным сучасным і гістарычным аспэкце, арыгінальныя й рэфэратныя працы, паведамленьні, зацемкі й рэцэнзіі.

---

Das Interesse der ganzen Welt an den wissenschaftlichen Problemen der osteuropäischen Völker, darunter auch denen des weissruthenischen Volkes, wird immer grösser. Aus diesem Grunde ist eine regelmässig erscheinende Zeitschrift, die sich mit den wichtigsten Fragen der Gegenwart und der Vergangenheit des weissruthenischen Volkes befasst, dringend notwendig. Eine solche Publikation ist allein schon deshalb erforderlich, weil im heutigen Weissruthenien die Bedingungen für eine freie, objektive Weissruthenienkunde nicht gegeben sind.

Die Notwendigkeit des Vorhandenseins einer wissenschaftlichen Zeitschrift, die sich eingehend mit Weissruthenien und dem weissruthenischen Volk befasst, führt daher zum Wiedererscheinen des Jahrbuches **Wissenschaftliche Schriften** (Zapisy), das 1952-1954 in Zeitschriftenform vom Weissruthenischen Institut für Kunst und Wissenschaft herausgegeben wurde.

Im Jahrbuch werden Untersuchungen, Vorträge, Mitteilungen, Anmerkungen und Rezensionen veröffentlicht, die die wichtigsten Probleme auf dem Gebiet der Weissruthenienkunde behandeln.

---

The interest of the world in the problems of East European peoples, among them people of Belorussia, is growing fast. This interest urgently demands a special publication dedicated to the most important questions of Belorussian history and present problems. The necessity for such a publication in the West is sharpened by the fact that impartial research is impossible in Soviet Belorussia today. Therefore, the Whiteruthenian (Belorussian) Institute of Arts and Sciences is renewing its publication of **Zapisy (Annals).** This review had appeared from 1952 to 1954.

**Zapisy** will contain documents, articles, communications, and book reviews covering various Belorussian fields of research.

## ЗЬМЕСТ


А н д р э й   Б а г р о в і ч

Жыхарства Беларускае ССР у сьвятле перапісу 1959 году . . . . 9

С т а н і с л а ў   С т а н к е в і ч

Русыфікацыя беларускае мовы ў БССР і супраціў русыфікацыйнаму працэсу . . . . . . . . . . . . . . 89

Н.  Н е д а с е к

Камунізм і «беларускі нацыяналізм» (гістарычны агляд пачатку дачыненьняў) . . . . . . . . . . . . . . 138

Я н   С т а н к е в і ч

Пскоўскі дыялект . . . . . . . . . . . . . . 178

П а в а л   У р б а н

Стан вывучэньня гісторыі Беларусі ў БССР . . . . . . . 203

М і к о л а   К у л і к о в і ч

Тэма сучаснасьці ў творчасьці беларускіх савецкіх кампазытараў . 226

С ы м о н   К а б ы ш

Сельская гаспадарка Беларускай ССР у сьвятле навейшых статыстычных дадзеных . . . . . . . . . . . 253

КНІГАПІС . . . . . . . . . . . . . . . . 263


## INHALTSVERZEICHNIS


A n d r e j   B a h r o w i t s c h

Die Bevölkerung der Weissruthenischen SSR nach der Volkszählung von 1959 . . . . . . . . . . . . . . 9

S t a n i s l a u   S t a n k i e w i t s c h

Die gegenwärtige Russifizierung der weissruthenischen Sprache in der BSSR und der Widerstand gegen diesen Prozess . . . . 89

N.  N i e d a s i e k

Kommunismus und „Weissruthenischer Nationalismus“ (ein historischer Überblick über die Anfangsperiode) . . . . . . . . 138

J a n   S t a n k i e w i e t s c h

Der Pleskauer Dialekt . . . . . . . . . . . . . . 178

P a u l   U r b a n

Die weissruthenische Geschichtsforschung in der BSSR . . . . 203

M i k o l a   K u l i k o w i t s c h

Das Gegenwartsthema in den Werken weissruthenischer Komponisten 226

S y m o n   K a b y s c h

Die Landwirtschaft der BSSR im Lichte der jüngsten Statistik . . . 253

BUCHBESPRECHUNG . . . . . . . . . . . . . 263

## TABLE OF CONTENTS

Andrej Bahrovich

Population of the Belorussian SSR in the 1959 Census . . . . . . 9

Stanislau Stankevich

Russification of the Belorussian Language Today and Resistance to this Process in the BSSR . . . . . . . . . . . . . 89

N. Nedasek

Communism and „Belorussian Nationalism" (A historical survey of the initial period) . . . . . . . . . . . . . . 138

Jan Stankevich

The Pskov Dialect . . . . . . . . . . . . . . 178

Paval Urban

Belorussian History Studies in the BSSR . . . . . . . . . 203

Mikola Kulikovich

Motives of Contemporaneity in the Works of Soviet Belorussian Composers . . . . . . . . . . . . . . 226

Symon Kabysh

Latest Statistics on BSSR Agriculture . . . . . . . . . 253

BOOK REVIEWS . . . . . . . . . . . . . . 263

# Жыхарства Беларускае ССР
## у сьвятле перапісу 1959 году

Андрэй Багровіч

Дакладны поўны абраз усіх дэмаграфічных зьменаў і стратаў жыхарства тэрыторыі Беларусі за гады панаваньня на ей Масквы савецкае зможа даць толькі будучыня, тады, калі гісторыя здыме замкі сакрэтнасьці із савецкіх архіваў і статыстычных установаў.

Але й перапіс 1959 году, некаторыя дадзеныя якога апублікаваў савецкі друк, дае, калі й не ўсебаковае й поўнае, дык усё-ж дастаткова яскравае ўяўленьне аб памерах таго нязвычайна вялікага ўбытку жыхарства Беларусі, які скрывала доўгімі гадамі ўпорыстым маўчаньнем савецкая дэмаграфічная статыстыка. Лікі вось гэтага перапісу й разгледжаныя ў працы ў супастаўленьні зь гістарычнымі падзеямі й фактамі ды існуючымі дадзенымі папярэдніх перапісаў тэрыторыі.

Аддаючы ў рукі чытачоў гэты кароткі нарыс дэмаграфічнага стану Беларускае ССР, аўтар пачуваецца да абавязку выказаць сваю глыбокую ўдзячнасьць д-р Вітаўту Кіпелю за аказаную выдатную дапамогу цэннымі заўвагамі ды патрэбнымі статыстычнымі й дэмаграфічнымі матарыяламі.

### ПЕРАПІСЫ ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСКАЕ ТЭРЫТОРЫІ

Усесаюзны савецкі перапіс жыхарства зь 15 студзеня 1959 году прынёс цэлую чараду цікавых статыстычных дадзеных, важных для выяўленьня як сучаснага дэмаграфічнага стану Беларускае ССР, так і разьвіцьця яе жыхарства на працягу 20-ці міжперапісных гадоў. Два магутныя дзейнікі фармавалі й дэфармавалі дэмаграфічную структуру рэспублікі ў міжперапісным дваццацігодзьдзі. Адзін з гэтых дзейнікаў, гэта дэструкцыйны імпат Другое Сусьветнае Вайны, дзеяньні якое гадамі ахаплялі ўсю беларускую нацыянальную тэрыторыю. Другі, і яшчэ важнейшы сваімі катастрафальнымі для жыхарства БССР вынікамі, гэта панаваньне на землях Беларусі камуністычнае расейскае дыктатуры, з масавым тэрорам, масавымі дэпартацыямі, дый сталымі прымусовымі масавымі высяленьнямі.

Пад камбінаваным узьдзеяньнем вось гэтых двух гістарычных фактараў і зайшлі паважныя адхіленьні ў ранейшым дэмаграфічным разьвіцьці тэрыторыі. У выніку, паўсталі й вялікія зьмены ў лічбах натуральнага руху, у вышыні агульнага ліку жыхарства рэспублікі, у нацыянальным і рэлігійным яго складзе, у гушчыні засяленьня, ступені урбанізацыі, структуры паводля веку, паводля полу, дый іншыя. Сам факт вялікіх, грунтоўных пераменаў, што зайшлі ўва ўсіх галінах дэмаграфічнае статыстыкі Беларускае ССР у часе ад пачатку Другое Сусьветнае Вайны, дэмографам быў агульна ведамы. Дый да перапісу 1959 году ня было аніякое аб'ектыўнае статыстычнае базы для ўняцьця гэтых пераменаў у канкрэтныя лічбовыя вялічыні й гэтак выяўленьня запраўдных іх памераў. Даводзілася абмяжоўвацца аднымі дагадкамі й дапушчэньнямі.

Справу пагаршала тое, што да перапісу 1959 году на працягу ўсяго XX ст. ніякіх ня толькі паваенных, але й міжваенных, дый даваенных перапісаў жыхарства, якія абыймалі-б адначасна ў с ю т э р ы т о р ы ю сучаснае Беларускае ССР, наагул не існавала. Першы агульны перапіс жыхарства Расейскае імпэрыі, праведзены яшчэ ў XIX ст., бо ў 1897 годзе, задалёкі ў часе ад сучаснае гістарычнае запраўднасьці, каб лічбовымі яго дадзенымі можна было шырэй карыстацца для азначэньня цяперашняга дэмаграфічнага стану тэрыторыі.[1] Савецкі-ж перапіс 17 сьнежня 1926 году абыймаў толькі тэрыторыю даваеннае Беларускае ССР, гэта значыць прастору бяз усіх тых земляў былое Заходняе Беларусі, якія тады ўваходзілі ў склад тагачаснае павэрсальскае Польшчы. Па сваей вялічыні, тэрыторыя гэтая станавіла ўсяго каля 60% сучаснае тэрыторыі рэспублікі. Хоць дадзеныя гэтага перапісу былі пазьней апублікаваныя, і яны вельмі важныя для азначэньня тагачаснага дэмаграфічнага стану рэспублікі, дый усё-ж у іх ня змог яшчэ адбіцца, а навет паважней і зазначыцца, кірунак усіх тых дэмаграфічных пераменаў, якія прыносіла із сабою для тэрыторыі Беларусі новая, камуністычная форма расейскага панаваньня.[2]

[1] Падсумаваньні вынікаў перапісу 1897 году апублікаваныя ў: Общий свод по империи результатов разработки данных всеобщей переписи населения произведенной 28 января 1897 года. Под редакцией Н. А. Тройницкого. Том I і II. С.-Петербург, 1905. Дадзеныя аб роднай мове жыхарства беларускае тэрыторыі ў томе II, б. 5, таксама табл. XIIa. Крытычны разгляд лікаў перапісу 1887 году датычных Беларусаў, і іх карэктуру на аснове моваведных фактаў, правёў Я. Карскі ў першым томе сваіх «Беларусаў»: Е. Ф. К а р с к и й — Белоруссы, т. I. Варшава, 1903, б. 185—195. Поўныя вынікі перапісу 1897 году выдадзеныя тады-ж у 89 тамох: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 года. Под. ред. Н. А. Тройницкого. Центральная Статистическая Комиссия. Тт. I—89. С.-Петербург, 1898—1905.

[2] Дадзеныя перапісу 1926 году апублікаваныя ў: Всесоюзная перепись населения 1926 года. Тамы I—56. Москва, 1928—1933. Дадзеным зь Беларускае ССР адведзеныя тамы: X. Белорусская Советская Социалистическая Республика. Отдел I. Народность, родной язык, возраст, грамотность. Москва, 1928. Том XXVII. Отдел II. Занятия. Москва, 1928. Том XLIV. Отдел II. Семейное состояние, месторождение и продолжительность проживания. Увечность. Москва, 1929. Центральное Статистическое Управление СССР. Отдел переписи. Ёсьць статыстычныя лікі аб Беларускай ССР, або Беларусах, і ў іншых тамох гэтае публікацыі. Падсумаваньні вынікаў гэтага-ж перапісу ў сэрыі: Всесоюзная перепись населения 17 декабря 1926 года. Краткие сводки. Выпуск I—VII. Москва, 1928—1933. Пра нацыянальны склад жыхарства Беларускае ССР і Беларусаў на тэрыторыі СССР паза БССР, у вып. IV гэтае сэрыі: Народность и родной язык населения СССР. Издание Центрального Статистического Управления. Москва, 1928.



1926 год, гэта быў час гэтак званага НЭП'у, калі сама новая палітычна-сацыяльная сыстэма Савецкае імпэрыі была яшчэ толькі ў зачатках свайго фармаваньня, і дзеля гэтага пара гэтая была яшчэ зусім нехарактэрная для існасьці таго савецкага палітычна-сацыяльнага ладу, які свае аснаўныя своеасьці сталінскага тыпу выявіў і разьвіў толькі пачынаючы ад пачатку трыццатых гадоў. Тады гэта, з заведзеным масавым партыйным тэрорам, пачалося й тарнаваньне дэпартацыяў, як пэрманэнтнага мераприемства для перакіданьня масаў жыхарства на далёкія тэрыторыі імпэрыі. Мэтад гэты й па сяньня застаўся характэрнаю асаблівасьцяй палітычнага рэжыму расейскага камунізму, тарнаваньне якога дае Маскве магчымасьць у даволі кароткім часе паважна мяняць дэмаграфічны стан паасобных нацыянальных рэспублікаў і акругаў СССР. Другі ўсесаюзны савецкі перапіс з 17 студзеня 1939 году таксама абыймаў толькі тэрыторыю ў межах даваеннае Беларускае ССР. Дый перапіс гэты ня шмат узбагаціў лічбовымі дадзенымі дэмаграфічную статыстыку навет і тагачаснае малое БССР, бо толькі даслоўна колькі й вельмі агульных лічбаў гэтага перапісу аб ліку жыхарства рэспублікі, аб яго нацыянальным складзе й роднай мове, было пазьней апублікавана. Усе іншыя дадзеныя гэтага перапісу аб рэспубліцы ня былі друкаваныя й па сяньня засталіся недаступнымі для дасьледнікаў.[3]

Апрача самых агульных лікаў па нацыянальнасьці й роднай мове жыхарства СССР і яе рэспублікаў, выяўленых савецкім перапісам 1939 году, апошнімі дзесяцігодзьдзямі сталінскае пары ніякіх іншых важнейшых статыстычных, ані перапісных, ані няперапісных дадзеных аб Беларускай ССР, як і СССР наагул, не публікавалася. Толькі пасьле сьмерці Сталіна, у 1956 годзе, паказалася першая паваенная афіцыяльная савецкая статыстычная публікацыя зь некаторымі ў ей і дэмаграфічнымі дадзенымі. Быў гэта статыстычны зборнік СССР, складзены й выдадзены Цэнтральнаю Статыстычнаю Управаю пры савеце міністраў СССР.[4] У ім ёсьць некаторыя лічбы й аб жыхарстве Беларускае ССР. Дэмаграфічныя лічбы гэтага зборніка, калі ходзіць аб стан на 1956 год, былі, аднак-жа, ня перапіснага паходжаньня й вартасьці, а толькі адбівалі лічбы афіцыйнае ўрадавае савецкае ацэны.

На тэрыторыі заходніх акругаў сучаснае Беларускае ССР, на былых землях Заходняе Беларусі, землях, што ў міжваенныя гады знайходзіліся ў межах Польскае дзяржавы, апошні даваенны перапіс жыхарства праводзіўся 9 сьнежня 1931 году. Лічбы гэтага перапісу датычныя дэмаграфічнага стану былога Наваградзкага, дый тых частак Віленскага, Беластоцкага й Палескага ваяводзтваў, што сяньня ўходзяць у склад Беларускае ССР, і бу-

[3] Некаторыя агульныя лікі перапісу 1939 году апублікаваныя ў: «Правда» і «Известия», 2. 6. 1939 і 29. 4. 1940. Таксама ў: Сообщения Государственной Плановой Комиссии Союза ССР об итогах всесоюзной переписи населения СССР 1939 г. Некаторыя канчатковыя лікі ў «Вестник статистики», № 6, 1956, б. 89—96. Даволі абшырны аналіз дэмаграфічнае статыстыкі СССР да пары Другое Сусьветнае Вайны можна знайсьці ў выданьні Лігі Народаў: Frank L o r i m e r — The Population of the Soviet Union. History and Prospects. League of Nations. Geneva, 1946.

[4] Народное хозяйство СССР. Статистический сборник. Центральное Статистическое Управление при Совете Министров СССР. Москва, 1956.

/дць тымі апошнімі існуючымі перапіснымі дадзенымі для гэтае тэрыторыі з часу перапісу 1959 году.[5]

З вышэйшага агляду перапісаў можна бачыць, што перапісная статыстыка ў галіне дэмаграфічнай для заходняе часткі сучаснае тэрыторыі Беларускае ССР, былых земляў Заходняе Беларусі, існуе толькі з часу польскага перапісу жыхарства 9 сьнежня 1931 году. Для ўсходняе-ж часткі сучаснае Беларускае ССР, для тэрыторыі ў даваенных межах рэспублікі, перапісныя дадзеныя ў галіне дэмаграфічнае статыстыкі пераважна яшчэ старэйшыя, бо ў бальшыні паходзяць з часу савецкага перапісу 17 сьнежня 1926 году.

Вось дзеля ўсіх вышэй прыведзеных мяркаваньняў, даводзіцца з асаблівою ўвагай аднесьціся да тых новых статыстычных лікаў, якія абвешчаныя ўжо савецкім друкам як дадзеныя, выяўленыя перапісам жыхарства 15 студзеня 1959 году. Некаторыя агульныя *тымчасовыя* вынікі гэтага перапісу датычныя й Беларускае ССР, ужо апублікаваныя Цэнтральнаю статыстычнаю Управаю пры савеце міністраў СССР. У першай публікацыі гэтае Управы, якая была зробленая 10 травеня 1959 году,[6] былі пададзеныя перапісныя лічбы агульнага ліку жыхарства СССР і паасобных яго рэспублікаў у супастаўленьні з такімі-ж лічбамі 20 гадоў раней, паводля стану на 1939 год. Адначасна былі пададзеныя лікі агульныя й у працэнтах меставога й неместавога жыхарства па рэспубліках і па іх акругах, лікі жыхарства местаў СССР з жыхарствам больш 50 000, або й меншых адміністрацыйных цэнтраў, у супастаўленьні зь лікамі для тых-жа местаў у 1939 годзе. Адначасна былі дадзеныя агульныя лікі структуры жыхарства ўсяго СССР па полу дый прыведзеныя агульныя сярэднія лічбы натуральнага руху жыхарства для ўсяго СССР, г. зн. сярэднія гадавыя лічбы нараджэньняў і сьмерцяў, а таксама сужэнстваў. Апошнія лічбы пададзеныя, аднак-жа, толькі сярэднія для ўсяе тэрыторыі СССР, без адпаведных лічбаў для паасобных рэспублікаў.

4 лютага 1960 году тая-ж Цэнтральная Статыстычная Управа (якая ў далейшым тут будзе звычайна прыводзіцца ў скароце, як ЦСУ) дала другую публікацыю, таксама *тымчасовых* вынікаў усесаюзнага перапісу 1959 году: «Аб роўні эдукацыі, нацыянальным складзе й структуры веку жыхарства СССР».[7] Нацыянальны склад жыхарства пададзены тут у ліках для кажнай нацыянальнасьці на прасторы СССР, і ў ліках нацыянальных групаў па паасобных рэспубліках. У канцы далучаныя лічбы сужэнстваў на 1000 жыхароў для тэрыторыі ўсяго СССР, і па полу, але без паданьня такіх-жа лічбаў для паасобных рэспублікаў. Тое самае й зь лічбамі аб структуры жыхарства паводля групаў веку.

У 1960-м ужо годзе, паказаўся статыстычны гадавік тае-ж ЦСУ, у якім перадрукаваныя нанава тыя-ж агульныя вынікі перапісу 1959 году, што публікаваліся раней, але зь некаторымі зьменамі ў вялічыні некаторых лікаў, асабліва ў галіне нацыянальнага складу жыхарства рэспублікаў. Гэтыя

[5] Вынікі перапісу 9 сьнежня 1931 году, як і папярэдняга перапісу Польскае рэспублікі з 30 верасьня 1921 году, можна знайсьці ў кніжыцах польскага ўрадавага статыстычнага штогодніка: Mały rocznik statystyczny, Warszawa. Выдаваўся ён і ў францускай мове пад назовам: Petit annuaire statistique de la Pologne, Warszawa.

[6] «Правда» і «Известия», 10. 5. 1959.

[7] «Правда» і «Известия», 4. 2. 1960.



зьмены трэба ўважаць за ўдакладненьні ранейшых «тымчасовых» лічбаў перапісу.[8]

Пры разглядзе дадзеных савецкае статыстыкі трэба мець заўсёды на ўвеце ведамы факт, што ў камуністычнай сыстэме ўсякія публікацыі абумоўленыя прапагандным мяркаваньнямі рэжыму. Дзеля гэтага й у галіне дэмаграфічнае статыстыкі СССР звычайна публікуецца толькі тое, што, паводля ацэны савецкіх кіруючых партыйных дзейнікаў, паказвае савецкі лад у выгадным сьвятле. Усё іншае да публічнага ведама звычайна не падаецца. Гэтак ёсьць і з вынікамі апошняга перапісу. На трэйцім годзе ад яго правядзеньня апублікаваныя толькі некаторыя агульныя лічбы, пры тым, некаторыя зь іх даюцца толькі ў сярэднім разрэзе для ўсяго СССР, без адпаведных лічбаў для паасобных рэспублікаў. Ужо колькі дзесяткоў год не публікуюцца, таксама, ніякія лічбы натуральнага руху жыхарства Беларускае ССР, — гадавыя лічбы нараджэньняў, сьмерцяў, натуральнага прыросту. Падаюцца яны ў савецкіх публікацыях толькі як сярэднія для ўсяго СССР, дый толькі для апошняе дэкады, ад 1950 году.

Усе перапісныя лікі публікацыяў ЦСУ, якія тычацца сучаснага дэмаграфічнага стану Беларускае ССР, а якія наагул былі публікаваныя, у далейшым будуць тут і пададзеныя дый разгледжаныя ў супастаўленьні зь ведамымі гістарычнымі фактамі й падзеямі, дый ранейшымі статыстычнымі дадзенымі беларускае нацыянальнае тэрыторыі. Адначасна будзе намаганьне ўстанавіць на іх аснове сучасны дэмаграфічны стан Беларускае ССР, адзначыць важнейшыя, паўсталыя ў ім, перамены, выявіць памеры гэтых пераменаў і іх прычыны. У канцы знойдзецца абагульненьне высноваў дый спроба азначыць тэндэнцыі й пэрспэктывы далейшага дэмаграфічнага разьвіцьця Беларускае ССР у складзе Савецкае імпэрыі, а пад нясупынным узьдзеяньнем масавых міграцыйных мерапрыемстваў, што праводзяцца на тэрыторыі рэспублікі паводля плянаў і загадаў з расейскага цэнтру імпэрыі, Масквы.

## ТЭРЫТОРЫЯ РЭСПУБЛІКІ

Перад разглядам вынікаў савецкага перапісу 1959 году ў галіне жыхарства Беларускае ССР неабходна даць кароткую гістарычную інфармацыю аб паўстаньні тэрыторыі рэспублікі ў сучасных яе межах. Гэта важна дзеля таго, што сучасная дзяржаўная тэрыторыя Беларускае ССР не аднолітага паходжаньня. Заходняя й ўсходняя часткі гэтае тэрыторыі міжваеннаю парою мелі розную долю, дзесяцьгодзьдзямі належылі да розных — Польшчы й СССР — дзяржаўных арганізмаў, з кардынальна адменнымі палітычна-сацыяльнымі сыстэмамі, што, бязумоўна розна адбівалася й на характары іх дэмаграфічнага разьвіцьця.

Перад Першаю Сусьветнаю Вайною блізу ўсе землі сучаснае Беларускае ССР былі ў складзе пяці губэрняў Расейскае імпэрыі: Менскае, Віленскае, Горадзенскае, Магілеўскае, Віцебскае. Хоць усе гэтых пяць губэрняў, як выказаў і першы агульны перапіс жыхарства Расейскае імпэрыі

[8] Народное хозяйство СССР в 1959 году. Статистический ежегодник. Центральное Статистическое Управление при Совете Министров СССР. Москва, 1960.

1897 году, мелі абсалютную бальшыню жыхарства з роднаю беларускаю моваю, называць іх беларускімі, ці, старым гістарычным назовам, літоўскімі губэрнямі, у афіцыйных урадавых дакумэнтах і распараджэньнях было забаронена асабістым царскім загадам ад 1840 году.[9] Назоў «Беларусь» ца тэрыторыі тарнаваўся й далей толькі ў неафіцыйнай расейскай навуковай літаратуры. Царскія ўлады завялі для гэтых губэрняў, і наагул для беларускае тэрыторыі, сваё адмысловае азначэньне: «Северо-Западный Край», назоў, які меў скрываць нацыянальную існасьць тэрыторыі, і гэтак аблягчаць, а, часткова, і апраўдваць права Расеі на яго дэнацыяналізацыю й русыфікацыю.

Ужо ў канцы 1917 году, скліканьнем Усебеларускага Кангрэсу ў Менску, пачалася спроба арганізаваньня самастойнае Беларускае Народнае Рэспублікі, акт незалежнасьці якое й быў абвешчаны 25 сакавіка 1918 году ў Менску. Дый новая дзяржава ня здолела даўжэй утрымацца, а нават не пасьпела й належна ўсталявацца. За яе тэрыторыю пачалося змаганьне між дужэйшымі суседзямі — новапаўсталаю Польшчаю і, бальшавіцкаю ўжо, Расеяй. Вайна гэтая была закончаная фармальна Рыскаю ўгодаю 18 сакавіка 1921 году, паводля якое, тэрыторыя Беларусі дзялілася між Польшчаю й СССР.

Заходняя частка беларускае этнаграфічнае прасторы, што ў выніку Рыскае ўгоды адыйшла да Польскае рэспублікі, у міжваенныя гады складала ў Польшчы тэрыторыю чатырох ваяводзстваў: Віленскага, Наваградзкага, Палескага й бальшыню Беластоцкага. За ранейшым прыкладам царскае Расеі, і новая польская ўлада да беларускіх земляў знамерана тарнавала назоў, які нічым не паказваў на нацыянальную яе адрознасьць ад этнічнае польскае тэрыторыі: Kresy Północno-Wschodnie, або Ziemie Północno-Wschodnie. Як бачым, назоў быў дакладна пераняты ад расейскае царскае ўлады, з зразумелаю падменаю слова «Западный» на Wschodnie.

З часткі беларускае тэрыторыі на ўсход ад Рыскае мяжы камуністычная Масква сфармавала сваю Беларускую ССР, абвешчаную яшчэ 1. 1. 1919 ў Смаленску як супроцьвагу для Беларускай Народнай Рэспублікі. Насуперак дэкляраціі ў часе абвешчаньня гэтае рэспублікі аб тым, што яна мае абымаць у с е беларускія этнаграфічныя землі, Масква ў запраўднасьці прыдзяліла гэтай, цалком ад сябе залежнай, рэспубліцы, вельмі малую тэрыторыю: усяго 6 паветаў былое Менскае губэрні, агульнае паверхні 52 316 кв. км., з жыхарствам усяго паўтара міліёна чалавек.

На дамаганьні, аднак-жа, жыхарства, а таксама захадамі ўладаў БССР, 3 сакавіка 1924 году Масква згадзілася перадаць у межы Беларускае ССР часткі тэрыторыі Віцебскае, Магілеўскае, Гомельскае й Смаленскае губэрняў, — беларускія землі, што былі перад тым у складзе РСФСР. У выніку гэтага, тэрыторыя рэспублікі ўзрастае да 109 764 кв. км. паверхні, з жыхарствам 4.2 міліёнаў чалавек.

У выніку далейшых дамаганьняў жыхарства беларускіх этнічна земляў, пакінутых за межамі Беларускае ССР, 6 сьнежня 1926 году адбываецца другое «ўзбуйненьне» рэспублікі праз далучэньне Гомельскага й Рэчыцкага паветаў, у выніку чаго паверхня рэспублікі ўзрастае да 125 700 кв. км., а жыхарства да 5 міліёнаў чалавек. У гэтай тэрытар'яльнай вялічыні Беларуская ССР заставалася аж да пачатку Другое Сусьветнае Вайны ў восень 1939 году.

**Табл. I: Тэрыторыя рэспублікаў СССР паводля стану на 15. 1. 1959 году.**

| | Тэрыторыя у тысячах кв. км. |
|---|---|
| СССР | 22 272.2 |
| Расейская СФСР | 17 075.4 |
| Казахская | 2 756.0 |
| Украінская | 601.0 |
| Туркмэнская | 488.0 |
| Узбэкская | 408.9 |
| **Беларуская** | **207.6** |
| Кіргіская | 198.5 |
| Таджыкская | 143.0 |
| Азэрбайджанская | 86.6 |
| Грузінская | 69.7 |
| Лятувіская | 65.2 |
| Латвійская | 63.7 |
| Эстонская | 45.1 |
| Малдаўская | 33.7 |
| Армянская | 29 8 |

Посьля разгрому Польшчы нямецкімі арміямі і па папярэдняй дамоўленасьці зь Гітлерам, 17 верасьня 1939 году савецкая армія акупавала ўсходнія прасторы Польшчы, а між імі й землі Заходняе Беларусі. На аснове савецка-нямецкае ўгоды Рыбэнтропа-Молатава з 28 верасьня 1939 году, тэрыторыю Заходняе Беларусі паверхні 108 000 кв. км. Масква далучае да Беларускае ССР, павялічаючы гэтак рэспубліку да 233 700 кв. км. Дый ужо 10 кастрычніка таго-ж 1939 году Масква ізноў адразае ад Беларускае ССР места Вільню з часткаю Віленшчыны, тэрыторыю паверхні 6 911 кв. км., з жыхарствам 503 701 чалавек дый перадае яе незалежнай тады яшчэ Летуве. 3 жнівеня наступнага 1940 году Масква перадае для тае-ж Летувы, ужо ССР, акупаванай савецкаю арміяй, далейшыя часткі тэрыторыі Заходняе Беларусі паверхні 2 647 кв. км., з жыхарствам 105 000, памяншаючы гэтак тэрыторыю рэспублікі разам на кругла 9 560 кв. км. паверхні.[10] Пры канцы Другое Сусьветнае Вайны, у 1945 годзе, Масква аддзяляе ад Беларускае ССР яшчэ й частку Беласточчыны зь Беластокам дый беларускае Падляшша, тэрыторыю агульнае паверхні каля 16 540 кв. км., дый перадае паваенная адноўленай, але ўжо сатэлітнай, Польшчы. У выніку гэтых усіх перадзелаў, далучэньняў дый адлучэньняў, тэрыторыя Беларускае ССР у паваенную пару, ад 1945 году, абыймала паверхню 207 600 кв. км. У гэткіх межах яна была й у часе савецкага перапісу 1959 году, такою застаецца й па сяньня.

[9] С. Б., Цар і назовы Літва, Беларусь. Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, № 2. Ню Ёрк, 1952, б. 108.

[10] Anicetas S i m u t i s. Lithuanian world directory — Pasaulio lietuvių žinynas. New York, 1958, b. 13.

У гэтым кароткім аглядзе прапушчаюцца адміністрацыйныя перадзелы й «межы» фармаванага ў часе апошняе сусьветнае вайны немцамі, у гадох 1941—1944, г. зв. Генэральнага Камісарыяту Беларусі, паколькі гэтыя падзелы былі часовыя, кароткатрываліся дый ня мелі нейкага паважнейшага значаньня для дэмаграфічнага стану тэрыторыі.У гэтым часе, пад нямецкаю акупацыяй, дэмаграфічныя перамены й зьнішчэньні жыхарства былі менш-больш адзінакавыя на усей беларускай нацынальнай тэрыторыі, незалежна ад знаходжаньня паасобных яе частак у межах Генэральнага Камісарыяту Беларусі, ці вонках яго.

Па вялічыні сваё тэрыторыі сучасная Беларуская ССР знайходзіцца на шостым месцы сярод іншых рэспублікаў СССР, пасьля Расейскае СФСР, Казахскае, Украінскае, Туркменскае дый Узбэкскае ССР.

Адміністрацыйна тэрыторыя Беларускае ССР у паваенныя ўжо гады колькі разоў была перадзеліваная й лік яе акругаў з 12 быў зьведзены да 7 у часе перапісу 15 студзеня 1959 году. Былі гэта акругі («вобласьці»): Берасьцейская, Віцебская, Гомельская, Горадзенская, Менская, Магілеўская й Маладэчанская. На прасторы гэтых сямі акругаў на 1 студзеня 1958 году існавала 161 сельскіх дый 11 меских раёнаў. Местаў было 69. Усіх сельсаветаў 1904.[11]

Пры гэткім падзеле на 7 акругаў тэрыторыя акругаў Берасьцейскай, Горадзенскай дый Маладэчанскай складаліся цалком з былых земляў Заходняе Беларусі, што ў міжваенную пару ўвайходзілі ў склад тагачаснае Польскае рэспублікі. Апрача гэтага, тры раёны Менскае акругі — Клецкі, Нясьвіскі дый Стаўпецкі, — паходзілі таксама з былых земляў Заходняе Беларусі. Тэрыторыя рэшты Менскае акругі, дый акругі Віцебская, Гомельская й Магілеўская, абыймалі сабою тэрыторыю Беларускае ССР ў яе даваенных межах.

Ужо пасьля перапісу 15 студзеня 1959 году, а магчыма й у выніку гэтага перапісу, які выказаў высокую ступень вылюдненьня Беларускае ССР за 20 мінулых міжперапісных гадоў, загадам прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Беларускае ССР з 20 студзеня 1960 году, Маладэчанская акруга была скасаваная, а яе раёны падзеленыя між трымя суседнімі акругамі — Менскай, Горадзенскай і Віцебскай. Гэтага-ж дня другім загадам таго-ж Вярхоўнага Савету было скасавана й 15 раёнаў па паасобных акругах рэспублікі.[12] Адначасна быў значна паменшаны лік сельсаветаў. У выніку гэтага на пачатку 1960 году Беларуская ССР мела ўжо толькі 6 акругаў, 147 раёнаў сельскіх і 11 меских, 1758 сельсаветаў, 69 местаў і 124 пасёлкі меставога тыпу.[13]

Паколькі савецкі перапіс 1959 году праводзіўся пры адміністрацыйным падзеле на 7 акругаў, дый спачатна публікаваныя вынікі перапісу падаваліся паводля гэтага падзелу, у дадзеным разглядзе вынікаў перапісу й будзем у некаторых выпадках трымацца гэтага адміністрацыйнага падзелу з часу перапісу. Адначасна пададзеныя аднак-жа й лічбы раскладу жыхарства рэспублікі паводля новага падзелу на акругі. Пададзены ён на аснове лічбаў апублікаваных у статыстычным гадавіку ЦСУ «Народное хозяйство СССР в 1959 году», Масква, 1960.

[11] Атлас Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Акадэмія Навук БССР. Мінск—Масква, 1958, б. 131. Атляс выдадзены адначасна й паралельным выданьнем парасейску. Таксама: СССР. Административно-территориальное деление союзных республик на 1 января 1958 года. Изд. 9-ое. Москва, 1958, б. 5. Таксама: Белорусская ССР. Административно-территориальное деление. Минск, 1955, б. 5.

[12] «Звязда», № 17, 21. 1. 1960.

[13] Народное хозяйство СССР в 1959 году. Москва, 1960, б. 48—49.



## ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСІ Ў XX СТАГОДЗЬДЗІ

У гісторыі Беларусі дваццатае стагодзьдзе характэрнае перавагаю гадоў неспакойных эканамічна й палітычна, перарываных гадамі вялікіх ваенных зьнішчэньняў. У гэткіх гістарычных абставінах, зразумела, ня можна спадзявацца нейкага раўнамернага дэмаграфічнага разьвіцьця тэрыторыі.

У XX ст. тэрыторыя Беларусі зазнала зьнішчэньні аж двох сусьветных войнаў. Апрача гэтага, адбылося на ей і колькі меншых, абмежанага засягу, войнаў, дзьве рэвалюцыі, колькі гаспадарчых крызысаў, дый, у канцы, гвалтоўнае руйнаваньне й перамена сацыяльна-эканамічнага ладу з суправаджаючым яго палітычным тэрорам, масавымі дэпартацыямі, перасяленьнямі дый уцёкамі жыхарства.

Чарадаваньне гадоў ваенных і неваенных, дый гадоў спакайнейшых і неспакойных у разьвіцьці жыхарства беларускае нацыянальнае тэрыторыі, пазваляе 58-гадовы час ад пачатку стагодзьдзя да апошняга савецкага перапісу 1959 году, — гады 1901—1958, — пэрыядызаваць на гэткія важнейшыя адрэзкі часу:

1. 1901—1913 = 13 гадоў, — пара рэлятыўнага даваеннага супакою.
2. 1914—1920 = 7 гадоў, — час Першае Сусьветнае Вайны й наступіўшых пасьле яе войнаў мясцовага засягу.
3. 1921—1929 = 9 гадоў, — пара паваеннага супакою.
4. 1930—1938 = 9 гадоў, — пара эканамічнага крызысу, што крануў заходнія землі тэрыторыі сучаснае рэспублікі, дый пачатак савецкіх масавых дэпартацыяў на тэрыторыі БССР.
5. 1939—1945 = 7 гадоў, — Другая Сусьветная Вайна.
6. 1946—1958 = 13 гадоў, — час паваенных савецкіх дэпартацыяў зь Беларускае ССР і прымусовых масавых перасяленьняў.

Ужо сама, вышэй пададзеная, пэрыядызацыя паказвае на факт, што на 58 пачатковых гадоў XX стагодзьдзя 14 прыпадае на пару войнаў, зьнішчальная дзейнасьць якіх, беспасярэдня ці пасярэдня, ахапляла ўсю беларускую нацыянальную тэрыторыю, прычыняючы нязвычайна вялікія страты жыхарству. З 44 неваенных гадоў, роўна палова, бо 22 гады, прыпадаюць на часы, калі хоць войнаў і ня было, адбываліся аднак-жа гэткія масавыя прымусовыя міграцыі жыхарства Беларусі, што ўважаць іх за нармальныя ў дэмаграфічным разьвіцьці тэрыторыі аніяк немагчыма.

Для лепшага зразуменьня сучаснага дэмаграфічнага стану Беларускае ССР, варта бліжэй прыгледзіцца да кажнага з гэтых шасьці пэрыядаў, дый адзначыць важнейшыя характэрныя рысы разьвіцьця жыхарства Беларусі ў іх.

1. Гады 1901—1913, гэта час умоўнага супакою на тэрыторыі Беларусі. Умоўнага, бо ў гадох 1904—1905 гэтага пэрыяду адбылася расейска-японская вайна, якая, хоць адбывалася й далёка ад беларускай нацыянальнай тэрыторыі, дый не закранала яе беспасярэдня, аднак-жа спрычыніла некаторыя страты жыхарства Беларусі зь ліку змабілізаваных у расейскую армію, дый, зразумела, адбілася й на лічбах натуральнага руху жыхарства. Кранула ў нейкай ступені дэмаграфічны стан тэрыторыі й рэвалюцыя 1905—1906 гадоў. Побач гэтых дзьвюх гістарычных падзеяў, разьвіцьцё жыхарства на тэрыторыі Беларусі ў гэтую пару характэрнае яшчэ масавым эміграцыйным рухам з прычынаў эканамічных. Адна хваля эміграцыі зь Беларусі ішла тады на ўсход — у Сібір дый іншыя азійскія краі Расейскае імпэрыі. Другая-ж адбывалася ў кірунку адваротным, на захад, за межы Расейскае імпэрыі, за акіян. Гэтыя эмігранты кіраваліся галоўна ў Задзіночаныя Стэйты Паўночнае Амэрыкі дый Канаду.

У Амэрыку масава эміграваła беларускае сялянства і, у ня меншым ліку, жыхары занялалых пад расейскім панаваньнем местаў Беларусі, галоўна Жыды. На ўсход, у краі Сібіру, маглі ехаць толькі сяляне, паколькі Жыдом царскім урадам было забаронена пасяляцца паза межамі устаноўленае «черты оседлости», якая абыймала тэрыторыю 15 заходніх губэрняў імпэрыі.

Прычынаю гэтых масавых міграцыйных рухаў зь Беларусі, якія пачаліся яшчэ ў канцы XIX ст., быў той эканамічны застой, да якога давяла дый які стала ўтрымлівала каляніяльная эканамічная палітыка царскага рэжыму ў Беларусі ў XIX ст. Эміграцыя гэтая ў абодвух кірунках — і заходнім, за акіян, і ўсходнім, на Сібір, — адбывалася ў масавых памерах. Аб вялічыні заходняе эміграцыі можа сьветчыць той вялікі лік эмігрантаў зь Беларусі тае пары, дый іх нашчадкаў, які яшчэ й сяньня знайходзіцца ў Задзіночаных Стэйтах Паўночнае Амэрыкі дый Канадзе. Агульны лік гэтае эміграцыі за межы Расейскае імпэрыі, ад канца XIX ст. да пачатку Першае Сусьветнае Вайны, ацэньваецца на кругла мілён.

Немалы эміграцыйны рух быў і на ўсход, у Сібір. Ягоныя памеры часткова паказвае й савецкі перапіс 1926 году, калі сярод жыхарства некаторых акругаў Сібіры было ўстаноўлена 14 да 16 працэнтаў Беларусаў. Гэтак, для прыкладу, у Канскай акрузе паводля гэтага перапісу жыло 13.4%Беларусаў, у Тулунаўскай 14.0%, у Торскай 15.8%.[14] Перапіс гэты, аднак-жа, ня выявіў усей лічбовай вялічыні беларускае калянізацыі Сібіры. Даводзяць гэта факты, што, паводля сьветчаньня М. Кавалеўскага, ужо на пераломе XIX—XX стагодзьдзяў Беларусы станавілі 5/6 жыхарства Усурыйскага краю.[15] А ад 1896 да 1914 году, за 19 гадоў, агульны лік сялян-перасяленцаў толькі з Магілеўскай, Віцебскай дый Менскай губэрняў, і зарэгістраваных толькі ў Чэлябінску дый Сызрані, станавіў каля 500 000 чалавек. За 50 гадоў-жа, што папяраджалі Першую Сусьветную Вайну, паводля існуючых дадзеных, зь Беларусамі гэткім спосабам выбыла 1 387 000 чалавек.[16]

[14] Всесоюзная перепись населения 17 декабря 1926 года. Краткие сводки, вып. IV. Народность и родной язык населения СССР. Издание ЦСУ. Москва, 1928.
[15] М. Ковалевский. Экономический строй России. С.-Петербург, 1900.
[16] Народное хозяйство Белорусской ССР за 40 лет. Под ред. С. Н. Малинина. Госплан БССР. Минск, 1957, б. 20.



2. Пэрыяд 1914—1920 гадоў, гэта час Другое Сусьветнае Вайны (1914—1918) дый, наступіўшых пасьле яе, меншых войнаў мясцовага засягу (1919—1920). У гэтым часе, апрача сусьветнае вайны, на тэрыторыі трэба адзначыць: спробы ўстанаўленьня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі, польска-савецкую вайну, Слуцкае дый іншыя народныя антысавецкія паўстаньні, дый у канцы — падзел тэрыторыі Беларусі між Польшчаю й бальшавіцкаю Расеяй, праведзены ўгодаю ў Рызе 18 сакавіка 1921 году, устанаўленьне Беларускае ССР, залежнае цалком ад Масквы дый пазьней у складзе СССР. Вялікія страты жыхарства тэрыторыі, зразумела, былі спрычыненыя ня толькі самымі ваеннымі падзеямі, але й спадам лічбаў нараджэньня дый лічбаў натуральнага гадавога прыросту. Мелі сваё значэньне для лічбовага стану жыхарства тэрыторыі й масавыя ўцёкі жыхарства ў глыбкі імпэрыі перад наступаючым фронтам вайны, г. зв. «бежанства». Вайна, затое, спыніла цалком усе даваенныя эміграцыйныя рухі эканамічнага характару.

3. Гады 1921—1929, гэта пара паваеннага супакою. Тэрыторыя Беларусі ў гэтую пару, у выніку Рыскае савецка-польскае ўгоды, падзеленая між Польшчаю і, савецкаю ўжо, Расейскаю імпэрыяй, СССР. У выніку й жыхарства гэтых дзьвюх частак — заходняе й усходняе — у міжваенную пару жыло ў вадменных палітычных і сацыяльна-эканамічных умовах. У Заходняй Беларусі, пад Польшчаю, гэтыя гады адзначаюцца нязвычайна высокімі лічбамі натуральнага гадавога прыросту. Сярэдняя для гадоў 1921—1931 была 29 на 1000.[17] Дзеля заведзеных тымчасам амэрыканскіх іміграцыйных абмежаньняў, эміграцыйны рух з Заходняе Беларусі ў Задзіночаная Стэйты Амэрыкі нязначны. Невялікі эміграцыйны рух зь земляў Заходняе Беларусі ў краі заходняе Эўропы — Францыю, Бэльгію, дый краі Паўдзённае Амэрыкі, галоўна Аргентыну. Затое адбываецца значны іміграцыйны рух — наезд на землі Заходняе Беларусі жыхарства з этнічна польскіх земляў, спрычынены намаганьнямі польскага ўраду правясьці калянізацыю гэтых земляў польскім нацыянальна элемэнтам шляхам масавага пасяленьня польскіх вайсковых і цывільных асаднікаў, дый ня менш масавае насыланьне польскіх урадоўцаў.

У гэтым-жа часе на тэй усходняй частцы Беларусі, што была ў межах тагачаснае Беларускае ССР, жыхарства перажывае таксама даволі спакойную палітычна пару г. зв. НЭП-у, пару рэлятыўнае эканамічнае свабоды, рэлятыўнага матар'яльнага дабрабыту дый некаторых магчымасьцяў нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Гэтыя гады й для тэрыторыі тагачаснае БССР азначаюцца высокімі лічбамі натуральнага гадавога прыросту, сярэдня 24—25 на 1000. У выніку скасаваньня законаў царскага рэжыму пра «черту оседлости» для Жыдоў, зазначаецца ажыўленьне эміграцыйнага руху з тэрыторыі Беларускае ССР жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці, якое кіруецца ў іншыя абшары, галоўна цэнтры, савецкае ўжо Расейскае імпэрыі. Зь беларускае тэрыторыі ў складзе СССР спыняецца затое ўсякая эміграцыя ў Амэрыку, ці іншыя замежныя краі, дзеля забароны эміграцыі за межы СССР.

4. Гады 1930—1938 для тэрыторыі ў межах тагачаснае Беларускае ССР азначаюцца запачаткаваньнем Сталінскага тэрору з масавымі арыштамі,

[17] Petit annuaire statistique de la Pologne 1938. Warszawa, 1938, b. 19.

нішчэньнямі й дэпартацыямі жыхарства. Асабліва вялікія хвалі масавых арыштаў і дэпартацыяў у Беларускай ССР адбываюцца ў гадох 1930, 1933 і 1936/37. Арышты й дэпартацыі на тэрыторыі Беларускае ССР праводзяцца тады для ліквідацыі беларускага патрыятычнага актыву, г. зв. «беларускіх нацыянальных дэмакратаў», і яны ахапілі вялікі лік навукоўцаў, пісьменьнікаў, мастакоў, студэнцкую моладзь, дый наагул беларускую інтэлігенцыю — увесь навуковы, культурны й палітычны актыў. Адначасна ішла расправа зь беларускім сялянствам за ягоны апор савецкай прымусовай калектывізацыі. Калі-ж ня існавала канкрэтных прычынаў — дэпартацыі праводзіліся пад клічам ліквідацыі «ворагаў народу», дый за прыпісваныя бяз дай прычыны сувязі з «агентурамі капіталістычных краінаў».

У выніку тэрору й масавых дэпартацыяў, падае, зразумела, моцна й лічба натуральнага прыросту, Як паказваюць лічбы перапісу 1939 году, ад 17 сьнежня 1926 да 17 студзеня 1939 году, лік жыхарства рэспублікі ўзрос з 4 983 200 да 5 568 000, гэта значыць на 584 800 чалавек, што дае сярэднюю лічбу гадавога прыросту ўсяго 1%, ці ўсяго палову сярэдняе тыповае для беларускае тэрыторыі 2%. А першыя гады гэтага міжперапіснага пэрыяду, гады 1927—1929, мелі яшчэ напэўна вельмі высокі натуральны прырост, прыкладам 24.9 на 1000 у 1927 годзе. Дык спад прыросту дый страты жыхарства прыйшлі ў пазьнейшыя гады, гады масавага тэрору. Як паказваюць лічбы перапісу 1939 году, у гэтым пэрыядзе на тэрыторыі тагачаснае Беларускае ССР, рэспубліка мела недалік жыхарства 763 000 ад спадзяванага, калі за базу для абліку прыняць сярэднюю тэарытычную для Беларусі лічбу гадавога прыросту па 20 на 1000. Пры гэткім азначэньні спадзяванага ліку жыхарства ў БССР на пачатку 1939 году павінна было-б быць не 5 568 000, як выказаў перапіс, а 6 331 000. Паважныя перамены у гэтымжа часе адбываюцца й у дэмаграфічным разьвіцьці Заходняе Беларусі пад Польшчаю ў умовах наступіўшага вельмі цяжкога сусьветнага гаспадарчага крызысу. У выніку крызысу дый польскае каляніяльнае гаспадаркі на гэтых землях, вельмі высокая раней лічба натуральнага гадавога прыросту падае на больш як палову, з 29 да 14 на 1000. Адбываецца адначасна далейшы, крыху ўзьвялічаны, эміграцыйны рух у краі Заходняе Эўропы дый Паўдзённае Амэрыкі.

5. Гады 1939—1945, гады Другое Сусьветнае Вайны. Ужо з самога пачатку гэтае вайны, зь нямецка-польскае яе фазы, вайна гэтая беспасярэдня кранула беларускія землі, у дадзеным прыпадку землі Заходняе Беларусі. Асабліва вялікія страты жыхарства гэтых земляў спрычыніла пазьнейшая акупацыя гэтых земляў у верасьні 1939 году савецкаю арміяй, дый пасьлейшая іх саветызацыя, з масавымі арыштамі, дэпартацыямі дый масавымі ўцёкамі жыхарства на Захад. Яшчэ большыя страты жыхарства былі ў нямецка-расейскую фазу вайны, калі ваенныя падзеі ахаплялі ўжо ўсю беларускую нацыянальную тэрыторыю. Беспасярэднія ваенныя страты сярод цывільнага жыхарства на землях Беларусі ў часе Другое Сусьветнае Вайны былі беспараўнаньня вышэйшыя за страты ў Першую Сусьветную Вайну. Прычынаў на гэта было колькі: 1. шырокае тарнаваньне ў вапошняй вайне авіяцыі для нішчэньня далёкіх зафронтавых пунктаў, асабліва местаў; 2. рухомасьць ваеннага фронту, у вадваротнасьць ягонай стабілізацыі ў Першую Сусьветную Вайну; 3. шырокі, масавы партызанцкі антынямецкі й антысавецкі рух дый супрацьпартызанцкія мерапрыемствы акупацыйных арміяў; 4. гітлероўская акцыя экстэрмінацыі жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці; 5. масавыя вывазы жыхарства на прымусовыя працы ў Нямеччыну, і, 6. масавыя ўцёкі жыхарства перад наступаючымі арміямі, асабліва ўцёкі перад наступаючай савецкай арміяй. Агульны лік стратаў жыхарства цывільнага й вайсковага для тэрыторыі ў межах сучаснае Беларускае ССР, афіцыйнымі савецкімі камуністычнымі дзейнікамі рэспублікі была ацэненая на 1 500 000 чалавек.[18] Вялікія страты былі й дзеля спаду лічбаў нараджэньня дый натуральнага прыросту.

6. У гадох 1946—1958 ужо ўся тэрыторыя сучаснае Беларускае ССР знайходзіцца пад беспасярэдняю ўладаю камуністычнае Масквы. На ей далей праводзяцца масавыя дэпартацыі жыхарства, або як рэпрэсіі за выказанае ў часе вайны варожае настаўленьне да Масквы й яе камуністычнага ладу, або ў парадку «нармальных» у Сталінскую пару масавых і індывідуальных дэпартацыяў з мэтаю палітычнага тэрору дый для здабыцьця камуністычнай дзяржаве таннае нявольніцкае работніцкае сілы. Масавыя вывазы жыхарства зь Беларускае ССР ня спыняюцца аднак-жа й зь сьмерцяю Сталіна ў 1953 годзе. Наадварот, ужо ад 1954 году іх пачынаюць праводзіць у яшчэ большых памерах, спачатку пад клічам рэалізацыі пляну Хрушчова «асваеньня цалінных земляў», а пасьля, ад 1956 году, для засяляньня й індустрыялізацыі мала разьвітых усходніх прастораў Савецкае імпэрыі. Вывазы цяпер праводзяцца з мэтаю прымусовага перасяленьня, а не ў канцэнтрацыйныя лягеры для катаржнае працы дый на фізычнае зьнішчэньне, як было за Сталіна. Сваімі лічбовымі памерамі, калі ходзіць аб тэрыторыю Беларускае ССР, яны яшчэ вышэйшыя за дэпартацыі Сталінскае пары. Дэпартацыі праводзяцца арганізавана й практычна забіраюць з рэспублікі ўвесь яе гадавы натуральны прырост, паралізуючы гэтак далейшы рост ліку жыхарства рэспублікі. Адначасна з масавымі вывазамі жыхарства пераважна беларускае нацыянальнасьці, адбываецца й сталае адначаснае насыланьне ў межы рэспублікі дзесяткоў тысячаў савецкае чынавецкае адміністрацыі, пераважна расейскае нацыянальнасьці, Дзеля масавых памераў прымусовае міграцыі лічбы нараджэньняў дый натуральнага прыросту ніколі не дасягаюць вышыні зь першага дзесяцігодзьдзя міжваеннае пары.

Гэткія, у кароткім нарысе, галоўныя важнейшыя асаблівасьці разьвіцьця жыхарства Беларусі ў паасобных пэрыядах часу XX стагодзьдзя. На заканчэньне гэтага агляду застаецца разгледзіць дакладней яшчэ адно важнае пытаньне. Ходзе гэтта аб устанаўленьне тыповае для Беларусі XX ст. сярэдняе лічбы натуральнага гадавога прыросту жыхарства для спакойных, «нармальных» гадоў, гадоў бяз войнаў, палітычнага тэрору, масавых дэпартацыяў. Лічба гэтая важная й патрэбная, як база для аблічэньня спадзяванага ліку жыхарства тэрыторыі Беларускае ССР пры нармальных, спакойных умовах. Толькі гэткім шляхам можна ўстанавіць і лікі фактычных дэмаграфічных стратаў рэспублікі, спрычыненых Другою Сусьветнаю Вайною дый савецкім тэрорам і прымусовымі міграцыямі.

Як з папярэдняга разгляду шасьці паасобных пэрыядаў у дэмаграфічным разьвіцьці Беларусі XX ст. бачым, запраўды «спакойных» гадоў бе-

[18] «Правда» і «Известия», 10.2. 1955 г., Прамова першага сакратара ЦК КП БССР К. Мазурава на сэсіі вярхоўнага савету СССР.

ларускія землі за 58 год мелі ўсяго 22. Будуць гэта гады першага пэрыяду, папяраджаючага Першую Сусьветную Вайну, гады 1901—1913, дый пэрыяд 1921—1929.

Што да першага пэрыяду, дык лічбы натуральнага гадавога прыросту ў гэтыя гады хісталіся ад 18 да 20 на 1000, сярэдня былі ў вышыні 19, нягледзячы на японскую вайну, якая адбывалася ў гэтым часе, рэвалюцыю 1905 году дый масавую эканамічнаю эміграцыю. У другім з разгляданых тут «спакойных» пэрыядаў, у гадох 1921—1929, сярэднія лічбы натуральнага гадавога прыросту на беларускай тэрыторыі былі значна вышэйшыя. Для земляў у межах тагачаснае Беларускае ССР лічбы натуральнага руху жыхарства — нараджэньня, сьмерцяў дый натуральнага прыросту, — у гадох 1923—1927 падае табл. 2.[19]

**Табл. 2. Лічбы натуральнага руху жыхарства Беларускае ССР у гадох 1923—1927.**

| | 1923 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 |
|---|---|---|---|---|---|
| Нараджэньні | 37.4 | 39.8 | 42.3 | 41.3 | 39.1 |
| Сьмерці | 13.3 | 15.3 | 18.7 | 14.9 | 14.2 |
| Прырост | 24.1 | 24.5 | 23.6 | 26.4 | 24.9 |

З табл. 2 відаць, што сярэдняя лічба натуральнага гадавога прыросту ў тых гадох, дадзеныя зь якіх былі апублікаваныя, выносіла 24.7 на 1000. На землях Заходняе Беларусі, пад Польшчаю, у гэтым самым прыблізна часе, бо ў гадох 1921—1931, сярэдняя лічба гадавога прыросту трымалася на вышыні 29 на 1000.[20] У пазьнейшым часе, у гадох 1931—1938, дзеля цяжкога эканамічнага крызысу ў Польшчы, гэтая лічба для Заходняе Беларусі спала сярэдня да 14 на 1000.[21] Нягледзячы на гэта, за гады знаходжаньня Заходняе Беларусі ў межах Польшчы, ад 1921 да 1938 году, сярэдняя гадавая лічба натуральнага прыросту жыхарства для ўсяго гэтага часу становіць 22 на 1000, што значыць, што яна была істотна вышэйшая за 2%.

На аснове пададзеных вышэй статыстычных фактаў, узятых з 22-гадняга «спакойнага» для тэрыторыі Беларусі часу, часу бяз войнаў, масавага палітычнага тэрору дый масавых дэпартацыяў, маем дастатковую падставу за тыповую сярэднюю гадавую лічбу натуральнага прыросту жыхарства Беларусі ў спакайнейшыя гады XX стагодзьдзя азначыць на ня менш 20 на 1000, ці 2%. Зь лічбы гэтай і будзем далей выходзіць пры азначэньні вышыні дэмаграфічных стратаў тэрыторыі Беларускае ССР у апошнім міжперапісным дваццацігодзім пэрыядзе.

[19] Лічбы гадоў 1924—1927 паводля: Белоруссская ССР в цифрах. Центральное Статистическое Управление БССР. Минск, 1929, б. 54—55. Лічбы 1923 году паводля: Большая Советская Энциклопедия, т. 5, Москва, 1927, б. 385.

[20] Petit annuaire statistique de la Pologne 1938, b. 19.

[21] Тамсама, б. 18.



## ЛІК ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСКАЕ ССР

Паводля першае публікацыі ЦСУ тымчасовых вынікаў апошняга савецкага перапісу з 10 травеня 1959 году, лік жыхарства Беларускае ССР 15 студзеня 1959 году быў 8 060 000.[22] Тая-ж лічба ў другой публікацыі ЦСУ з 4 лютага 1960 году, без аніякіх тлумачэньняў, зьніжаная да 8 055 000.[23] Такая-ж зьніжаная лічба паўтараецца пазьней і ў гадавіку ЦСУ «Народное хозяйство СССР».[24] Трэба думаць, што гэтае зьніжэньне на 5 000, гэта ўдакладненьне ранейшых тымчасовых вынікаў перапісу й лічба **8 055 000**, гэта й ёсьць запраўдны лік жыхарства Беларускае ССР, устаноўлены перапісам на 15 студзеня 1959 году.

Лік жыхарства Беларускае ССР, выяўлены перапісам, у першай публікацыі, а таксама ў гадавіку на 1959 год, супастаўляецца ЦСУ зь лікам для тае-ж тэрыторыі паводля стану на 1939 год, якую ЦСУ падае як 8 910 000. Савецкі перапіс 17 студзеня 1939 году, як ведама, праводзіўся толькі на тэрыторыі Беларускае ССР у даваенных межах рэспублікі, дзе было тады ўстаноўлена 5 568 000 жыхароў. З гэтага вынікае, што лік жыхарства на тых землях былое Заходняе Беларусі, што ўвайшлі ў сучасныя межы Беларускае ССР, ЦСУ ацаніла на студзень 1939 году ў вышыні 3 342 000. Гэта, як праверка паказвае, ня згодна з праўдаю. Лік жыхарства Беларускае ССР, пасьля павялічэньня рэспублікі ў 1939 годзе землямі былое Заходняе Беларусі, савецкія публікацыі падаюць наагул вельмі розна. Гэтак, у другім выданьні савецкай вялікай энцыкляпэдыі з 1950 году, аб жыхарсьцьве Беларускае ССР гаворыцца: «па дадзеных 1939 жыхарства становіць 10 500 000 чалавек.[25] Гэткія, а часам навет і большыя лічбы, паўтараюцца і ў іншых савецкіх афіцыйных публікацыях.

Куды ніжэйшую лічбу жыхарства Беларускае ССР падае ЦСУ у сваім паваенным статыстычным зборніку, выдадзеным у 1956 годзе. Там лік жыхарства Беларускае ССР на 1940 (не на 1939!) год падаецца на 9 200 000.[26] Тое-ж самае ЦСУ, як бачым, усяго тры гады пазьней, пры публікацыі вынікаў перапісу 1959 году, лічбу гэтую зьнізіла да 8 910 000, не даючы аніякога паясьненьня, на якой гэта аснове ў 1939 годзе на той-жа тэрыторыі павінна быць на 290 000 жыхароў менш, як у 1940 годзе. Беручы на ўвагу пачатак вайны ў восені 1939 году, страты дзеля яе і забітымі, і палоннымі ў Нямеччыне, страты ўцекачамі на Захад перад савецкай акупацыяй тэрыторыі, і страты савецкімі дэпартацыямі зь земляў Заходняе Беларусі, у 1940 годзе можна было-б спадзявацца скарэй ніжэйшае лічбы жыхарства на дадзенай тэрыторыі, як яна была на пачатку 1939 году. У кажным выпадку ніколі ня вышэйшае аж на 290 000.

Калі ўжо самыя аўтарытэтныя афіцыйныя савецкія статыстычныя ўстановы й выданьні для тае самае тэрыторыі і ў тым-жа часе падаюць не адну, а колькі розныя вялічыні лічбаў жыхарства, дык гэта ставіць перад неабходнасьцяй беспасярэдняе праверкі справы з мэтаю ўстанаўленьня, якая

[22] «Правда» і «Известия», 10. 5. 1959.

[23] «Правда» і «Известия», 4. 2. 1960.

[24] Народное хозяйство СССР в 1959 году.

[25] БСЭ, т. 4. 1950, б. 476. 10 400 000 пададзена ў афіцыйнай партыйнай публікацыі: С. Сулькевич — Территория и население СССР. Политиздат при ЦК ВКП(б). Москва, 1940, б. 46.

[26] Народное хозяйство СССР. 1956, б. 18.

гэта лічба адказвае запраўднаму ліку жыхарства Беларускае ССР на яе тэрыторыі ў межах сучасных, а паводля стану на пачатку 1939 году. Паколькі лік жыхарства для тэрыторыі даваеннае Беларускае ССР быў дакладна ўстаноўлены перапісам 17 студзеня 1939 году ў вышыні 5 568 000, дык для ўстанаўленьня ліку жыхарства на ўсей сучаснай тэрыторыі ў тым часе трэба азначыць толькі лік жыхарства на тых землях былое Заходняе Беларусі, каторыя ўвайшлі ў склад цяперашняй тэрыторыі рэспублікі.

Бяручы за выходныя лічбы апошняга польскага перапісу на землях былое Заходняе Беларусі 1931 году, дый прыймаючы на ўвагу факт, што ў гадох 1931—1938 на гэтых землях лічба сярэдняга гадавога прыросту была 1.4%,[27] дакладным аблічаньнем даводзіцца сьцьвердзіць, што на пачатку 1939 году на тэрыторыі земляў Заходняе Беларусі, што сяньня ўходзяць у склад БССР, павінна было быць **3 776 000**, а не 3 342 000 чалавек, як ацаніла ЦСУ. Гэтая лічба, разам з 5 568 000 жыхарства ўстаноўленага перапісам у даваеннай БССР, дае разам **9 344 000** чалавек для ўсяе тэрыторыі Беларускае ССР у сучаснай яе вялічыні, а ў пачатку 1939 году,* — ці, на 434 000 больш, як падае ў сваей апошняй публікацыі ЦСУ. Вось гэтае лічбы, якую дае нам дакладнае аблічэньне, і будзем трымацца ў далейшым, як лічбы, што павінна адказваць запраўднаму ліку жыхарства ў студзені 1939 году для тэрыторыі Беларускае ССР у сучасных яе межах, заміж не адказваючай запраўднаму стану лічбе ЦСУ на той-жа час у вышыні 8 910 000. Трэба пры тым адцеміць, што лічбы 10 500 000 і блізкія ей, што сустракаюцца ў некаторых ранейшых савецкіх афіцыйных публікацыях для таго самага часу, таксама ня фікцыйныя лічбы. Дый лічбы гэтыя належаць да тэрыторыі Беларускае ССР не ў сучасных яе межах, а ў межах пачатку кастрычніка 1939 году, перад адлучэньнем ад яе Масквою Вільні дый часьці Віленшчыны, дый, ужо пры канцы апошняе вайны, Беластоку, Беласточчыны дый беларускага Падляшша. Дык лічба 10 500 000 адказвае прыблізнаму ліку жыхарства тэрыторыі рэспублікі ў кароткатрывалую пару яе найабшырнейшых дзяржаўных межаў пачатку кастрычніка 1939 году, а не тэрыторыі Беларускае ССР у межах сучасных, значна паменшаных.

## ВЫШЫНЯ ДВАЦЦАЦІГОДНЯГА ДЭМАГРАФІЧНАГА ДЭФІЦЫТУ РЭСПУБЛІКІ

Калі трымацца афіцыйных лікаў ЦСУ, паводля якіх у студзені 1939 году на прасторы Беларускае ССР у сучасных яе межах мела быць 8 910 000 жыхароў, а 15 студзеня 1959 году там-жа аказалася ўжо ўсяго 8 055 000, дык вышыня недаліку жыхарства Беларускае рэспублікі за 20 міжперапісных гадоў будзе 855 000, ці 9.6%. Паколькі, аднак-жа, як відаць з ранейшага абліку, запраўдны лік жыхарства ў студзені 1939 году на тэрыторыі сучаснае Беларускае ССР быў істотна вышэйшы, бо станавіў 9 344 000, дык і лічба дваццацігодняга недаліку жыхарства рэспублікі ў запраўднасьці значна вышэйшая, бо становіць **1 289 000, ці 13.4%**. Толькі яшчэ адна

[27] Petit annuaire statistique do la Pologne 1938. b. 19.

* Такі-ж лік — 9.3 мільёнаў — для тэй самай тэрыторыі й 1939 г. падае й Е. И. Бугаев — Советская Белоруссия к тридцатилетию Великой октябрьской социалистической революции. Минск, 1947, б. 3.



рэспубліка СССР у тым-жа часе выказвае недалік жыхарства, але значна меншы за Беларускую ССР, гэта суседняя ей Лятувіская ССР, з працэнтам дэфіцыту 5.9. Усе іншыя маюць павялічэньне жыхарства, а некаторыя й вельмі значнае, як відаць з Табл. 3.

**Табл. 3: Прыраўнаньне лікаў жыхарства рэспублікаў СССР (у тысячах) у гадох 1939 і 1959**

| Рэспублікі | 1939 | 1959 | Зьмена ў % |
|---|---|---|---|
| Расейская СФСР | 108 379 | 117 534 | + 8.4 |
| Украінская | 40 469 | 41 869 | + 3.5 |
| **Беларуская** | **9 344 *** | **8 055** | **— 13.4 *** |
| Узбэкская | 6 336 | 8 106 | + 27.9 |
| Казахская | 6 094 | 9 310 | + 52.8 |
| Грузінская | 3 540 | 4 044 | + 14.2 |
| Азэрбайджанская | 3 205 | 3 698 | + 15.4 |
| Лятувіская | 2 880 | 2 711 | — 5.9 |
| Малдаўская | 2 452 | 2 885 | + 17.7 |
| Латвійская | 1 885 | 2 093 | + 11.0 |
| Кіргіская | 1 458 | 2 066 | + 41.7 |
| Таджыская | 1 484 | 1 980 | + 33.4 |
| Армянская | 1 282 | 1 763 | + 37.5 |
| Туркмэнская | 1 252 | 1 516 | + 21.1 |
| Эстонская | 1 052 | 1 197 | + 13.8 |
| СССР | 191 112 | 208 827 | + 9.3 |

Лёгка заўважыць на табліцы, што найбольшы рост выказваюць тыя рэспублікі, куды кіраваліся масы жыхарства ў часе савецкіх перасяленьняў, а таксама тыя, якіх тэрыторыі не кранулі падзеі апошняе сусьветнае вайны безпасярэдня. Гэтак, жыхарства Казахскай ССР за 20 гадоў узрасло на 52.8%, Кіргіскай на 41.7%, Армянскай на 37.5%, Таджыкскай на 33.4%, Узбэкскай на 27.9%. Паводля публікацыі тае-ж ЦСУ з 10 траўня 1959 году, у некаторых акругах савецкага Далёкага Ўсходу ў гэтым самым часе жыхарства павялічылася навет на цэлых 70%.[28] Трэба адцеміць, што гэты «Далёкі Ўсход» быў адначасна й месцам шматлікіх канцэнтрацыйных лягераў, каля якіх ня раз вырасьлі няіснаваўшыя раней там месты, як прыкладам Варкута з 56 000 жыхароў у 1959 годзе, якая ў савецкай статыстыцы 1939 году наагул ня існавала.[29] Даволі высокая працэнтная лічба павялічэньня жыхарства ў рэспубліках Латвійскай дый Эстонскай, вышэйшая за сярэднюю + 9. 3 для ўсяго СССР, нягледзячы на ваенныя страты дый масавыя дэпартацыі, тлумачыцца насыланьнем туды расейскага жыхарства, што відаць з таго, што ў 1959 годзе лік Расейцаў

* Лічба жыхарства даецца згодна з праведзеным дакладным аблічэньнем заміж меншай лічбы 8 910 000, пададзенай ЦСУ, якая не адказвае праўдзе. Дзеля гэтага й лічба працэнтнае зьмены жыхарства іншая за — 9,6%, якая выпадала-б зь лічбаў ЦСУ.

[28] «Правда» і «Известия», 10. 5. 1959.

[29] Тамсама.

ў гэтых рэспубліках павялічыўся ў два з паловаю разы ў прыраўнаньні да стану даваеннага. Жыхарства ўсяго СССР, улучна з дэфіцытнаю Беларускаю ССР, як відаць з табліцы, узрасло ў сярэднім на 9.3%. Сярэдні-ж рост жыхарства на тэрыторыі СССР безь **Беларускае ССР** выражаецца вышэйшаю лічбаю 10.5%. Вось на гэтульки ў запраўднасьці ўзрасло жыхарства рэшты СССР у часе, калі жыхарства Беларускае рэспублікі спала на 13.4%. Гэта значыць, што калі супроцьставіць тэрыторыю Беларускае ССР тэрыторыі ўсяе рэшты СССР, дык дыяпазон працэнтнае розьніцы ў зьмене адпаведных лічбаў жыхарства ў 20-годнім міжперапісным пэрыядзе вынясе 10.5 + 13.4 = 23.9% на некарысьць Беларускае ССР

Дый трэба мець наўвеце, што недалік жыхарства Беларускае ССР у вышыні 1 289 000 на 15 студзеня 1959 году, у прыраўнаньні да стану на гэй-жа тэрыторыі ў студзені 1939 году, дае нам толькі лічбу арытмэтычнае розьніцы, а зусім не выяўляе запраўднага дэмаграфічнага ўбытку, бо-ж апрача нястачы 1 289 000 зь лічбы існаваўшага ўжо ў 1939 годзе жыхарства, нестае яшчэ й усяго нармальна спадзяванага дваццацігодняга натуральнага прыросту жыхарства тэрыторыі. Да ўстанаўленьня лічбы запраўднага дэмаграфічнага дэфіцыту ў дадзеным адрэзку гадоў гэтта й пярэйдзем.

Для аблічэньня стратаў жыхарства нейкае тэрыторыі, спрычыненых вайною, эпідэміямі, ці іншымі нязвычайнымі дзейнікамі, тарнуецца звычайна такі спосаб, што спачатку аблічаецца лік жыхарства, які павінен быў-бы быць на дадзенай тэрыторрыі й на дадзены час пры нармальным яго росьце. Ад атрыманае гэтак лічбы адыймаецца лік жыхарства сьцьверджаны ў дадзеным часе перапісам. Розьніца між гэтымі дзьвюма вялічынямі й дае вышыню запраўднае страты жыхарства. Для аблічэньня лічбы нармальна спадзяванага ліку жыхарства нейкае тэрыторыі на азначаны час выходзіцца зь ведамай раты гадавога натуральнага прыросту дадзенай тэрыторыі ў нармальныя, папярэджаючыя катастрафічныя падзеі, гады. Гэтую лічбу звычайна выводзіцца як сярэднюю гадавога натуральнага прыросту тэрыторыі за колькі, прыкладам 5, гадоў найбліжэйшых нармальнага дэмаграфічнага разьвіцьця. На гэткі спосаб аблічэньня стратаў жыхарства спрычыненых вайною згаджаюцца й сучасныя савецкія дэмографы.[30] Калі ходзіць пра тэрыторыю сучаснае Беларускае ССР, нажаль немагчыма апірацца на сярэднюю натуральнага гадавога прыросту за 5 гадоў папярэджаючых міжперапісны пэрыяд 1939—1959, паколькі й у гады перад студзенем 1939 разьвіцьцё жыхарства рэспублікі не адбывалася ў нармальных умовах. Былі гэта гады самага жорсткага Сталінскага тэрору гады г. зв. яжоўшчыны, калі на тэрыторыі даваеннае Беларускае ССР адбываліся масавыя арышты, ліквідацыі й масавыя дэпартацыі. Пры тым лічбаў натуральнага руху жыхарства Беларускае ССР гэтых гадоў савецкая ўлада наагул ніколі не публікавала, і яны ня ведамыя. Вось дзеля гэтага для аблічэньня нармальна спадзяванага ліку жыхарства Беларускае ССР на час перапісу 1959 году даводзіцца апірацца на сярэднія лічбы натуральнага прыросту жыхарства тэрыторыі ў іншыя, спакайнейшыя гады. Як у вадным з папярэдніх разьдзелаў гэтае працы было ўжо выяўлена, тыповая сярэдняя рата гадавога натуральнага прыросту на тэрыторыі Беларусі ў рэлятыўна спакойныя гады XX стагодзьдзя была 20 на 1000, ці 2%. Вось на гэтай лічбе можна й аперціся пры абліčаньні жыхарства тэарытычна спадзяванага на тэрыторыі Беларускае ССР на пачатку 1959 году пры ўмовах нармальнага яго разьвіцьця.

[30] Б. Ц. Урланис: Методы исчисления людских потерь от войн. У зборніку: «Проблемы демографической статистики». Академия Наук СССР, Москва, 1959, б. 298.



Аблік такі паказвае, што пры 2% гадавога прыросту, за 20 гадоў зь лічбы жыхарства 9 344 000 у студзені 1939 году да студзеня 1959 году павінна быць 13 878 000 чалавек. Калі-ж перапіс 1959 году, заміж гэтае спадзяванае тэарытычна лічбы, выказаў на той-жа тэрыторыі ўсяго 8 055 000, гэта, значыць, што ўбытак жыхарства тэрыторыі рэспублікі за 20 міжперапісных гадоў становіць лічбу 5 823 000, ці 41.6%. Дый і гэтая лічба не адбівае яшчэ ўсяе вышыні дэмаграфічнага дэфіцыту тэрыторыі ў міжперапісным адрэзку часу. Была-б яна правільнаю, калі-б у гэтым часе не адбывалася аніякое паважнейшае **іміграцыі** ў межы рэспублікі. Так аднак-жа ня было. Ведама, што праз усе паваенныя гады, побач з масавымі дэпартацыямі й перасяленьнямі беларускага, пераважаюча, жыхарства рэспублікі, адбывалася адначасна, хоць і ў значна меншых лічбовых памерах, але сталае насыланьне ў рэспубліку савецкіх чынавецкіх кадраў, блізу вылучна расейскае нацыянальнасьці. Насыланьне гэтае праводзілася для русыфікацыі каляніяльнае адміністрацыі рэспублікі з мэтаю татальнага яе падпарадкаваньня расейскаму імпэр'яльнаму цэнтру ў Маскве.

Спосаб аблічэньня лічбовае вышыні гэтага насланага расейскага элемэнту ў межы рэспублікі ў міжперапісныя гады пададзены ў вадным з далейшых разьдзелаў гэтае працы, там, дзе разглядаюцца перапісныя лікі расейскае нацыянальнае мяншыні на тэрыторыі Беларускае ССР. Тутка скажам толькі, што аблічэньні гэтыя паказваюць, што ад 1944 году, ад часу савецкае рэакупацыі ад Немцаў тэрыторыі Беларускае ССР, у межы рэспублікі было наслана, ці іміґравала, кругла 222 000 чалавек расейскае нацыянальнасьці. Вось бяз гэтае іміграцыі лік жыхароў рэспублікі на 15 студзеня 1959 году быў-бы меншы на тыя-ж 222 000, ці выносіў-бы ня 8 055 000, а **7 833 000**, а дзеля гэтага й дэмаграфічны дэфіцыт рэспублікі ў запраўднасьці на такую-ж лічбу вышэйшы й выносіць не 5 823 000, а **6 045 000**, або **43.4%** таго, што павінна было-б быць пры нармальным натуральным росьце жыхарства тэрыторыі.

Шэсьць мільёнаў дэмаграфічнага ўбытку на працягу ўсяго 20 гадоў і на рэспубліку вялічыні Беларускае ССР, лічба нязвычайна вялікая. Агляд гістарычных падзеяў, што адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў часе разгляданых міжперапісных гадоў, дае нам і адказ на пытаньне: якія былі галоўныя прычыны такога нязвычайна высокага дэмаграфічнага недаліку. Былі іх дзьве: страты жыхарства спрычыненыя Другою Сусьветнаю Вайною, і, страты ў выніку савецкага тэрору дый пэрманэнтных масавых дэпартацыяў.

## ВАЕННЫЯ СТРАТЫ ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСКАЕ ССР

Паводле афіцыйнага аўтарытэтнага асьветчаньня першага сакратара Камуністычнае Партыі БССР К. Мазурава, у часе Другое Сусьветнае Вайны Беларуская ССР мела каля **1 500 000** стратаў людзьмі,[31] што становіць

[31] «Правда» і «Известия», 10. 2. 1955.

16% тагачаснага жыхарства рэспублікі (выходзячы з раней азначанага ліку ў вышыні 9 344 000 на пачатку 1939 году). Практычна гэта значыць, што на тэрыторыі Беларускае ССР вайна зьнішчыла кажнага 6-га жыхара. На асновеназіраньняў ваенных падзеяў на тэрыторыі Беларускае ССР і памераў спрычыненых імі зьнішчэньняў у часе апошняе сусьветнае вайны, трэба дапусьціць, што пададзеная Мазуравам лічба ваенных стратаў жыхарства адказвае праўдзе. Страчаных 1 500 000, зразумела, далі й адпаведны ўбытак у натуральным прыросьце, які, лічаны, па 2% у год, як тыповай сярэдняй для тэрыторыі лічбы, на пачатак 1959 году вырасьце ў лічбу каля поўмільёна, што разам дае кругла **2 000 000** стратаў жыхарства Беларускае ССР спрычыненых вайною ў праекцыі на час перапісу 1959 году.

Страты ваенныя складаюцца із стратаў жыхарства цывільнага й вайсковага (зь ліку змабілізаваных). Паводля свайго паходжаньня страты гэтыя можна аднесьці да гэткіх колькі важнейшых фактараў і фазаў Другое Сусьветнае Вайны на тэрыторыі Беларусі:

1. Страты жыхарства ў часе нямецка-польскае вайны ў верасьні 1939 году. Страты гэтыя былі спрычыненыя толькі жыхарству на тэрыторыі былое Заходняе Беларусі, і сваімі памерамі яны ня былі такімі вялікімі, паколькі ваенныя падзеі гэтае фазы вайны вельмі мала кранулі беспасярэднятую частку тэрыторыі Заходняе Беларусі, якая пазьней увайшла ў склад Беларускае ССР. Страты гэтыя складаюць галоўна жаўнеры польскае арміі, што паходзілі зь беларускіх земляў, дый што палі ў часе змаганьняў, або загінулі ў нямецкім палоне. Некаторыя страты былі й у выніку дзеяньняў нямецкае авіяцыі. Агульная лічба стратаў гэтае пачатковае фазы вайны месьціцца хіба ў межах пару дзесяткоў тысячаў.

2. Страты жыхарства Беларусі ў выніку савецкага наступу на Польшчу, пачатага 17 верасьня 1939 году, у выніку якога былі занятыя савецкаю арміяй дый далучаныя да Беларускае ССР землі Заходняе Беларусі. Страты гэтыя складаюцца з загінуўшых сярод цывільнага жыхарства дый забітых у часе ваенных дзеяньняў жаўнераў як польскае, гэтак і савецкае арміяў, што паходзілі зь Беларусі, а найбольш — спасярод загінуўшых у савецкім палоне. Лічбы гэтых стратаў таксама рэлятыўна нізкія, паколькі апор аддзелаў з разьбітае раней Немцамі дый дэзарганізаванае ўжо польскае арміі быў невялікі. Найбольш стратаў вынікла пасярод трапіўшых у савецкі палон. Ведамая рэч, што, прыкладам, сярод зьнішчаных органамі НКВД у самым Катыні пад Смаленскам каля 10 000 палонных ахвіцэраў польскае арміі, значны лік паходзіў зь земляў Заходняе Беларусі.

3. Страты спасярод змабілізаваных у савецкую армію зь Беларусі ў часе савецка-фінскае вайны ад 30 лістапада 1939 году да 12 сакавіка 1940 году. Гэтыя страты былі ў межах колькі тысячаў чалавек. Страты маглі тычыцца толькі жыхарства даваеннае Беларускае ССР, паколькі з толькішто далучанае Заходняе Беларусі савецкі рэжым яшчэ не пасьпеў правесьці вайсковых набораў дый паслаць на фінскі фронт.

4. Страты жыхарства на тэрыторыі Беларускае ССР у часе нямецка-савецкае вайны ад 22 чэрвеня 1941 году. Страты ў гэтай фазе Другое Сусьветнае Вайны складаюць асноўны стрыжэнь ўсіх ваенных стратаў Беларусі. Сваею дзейнасьцяй гэтая фаза вайны ахапляла беспасярэдня тэрыторыю ўсяе Беларусі, усходняе й заходняе, і ў выніку галоўна яе, паводля пададзеннае раней афіцыйнае савецкае ацэны, тэрыторыя Беларускае ССР згубіла каля 1 500 000 свайго жыхарства, калі тымчасам страты першых трох, раней пералічаных, фазаў, былі ў вышыні ўсяго колькі дзесяткоў тысячаў. Страты ў гэтым часе былі вельмі высокія й паўшымі ў баёх жаўнерамі чырвонае арміі, што паходзілі зь Беларускае ССР, і забітымі спасярод цывільнага жыхарства спрычыненыя беспасярэднімі ваеннымі падзеямі ў часе нямецкага наступу ў 1941 годзе, а таксама ў часе савецка контрнаступу ў 1944 годзе; дзейнасьцяй нямецкае й савецкае авіяцыі, дзейнасьцяй антынямецкае й антысавецкае партызанкі дый адпаведных супроцьпартызанскіх акцыяў. Да гэтага даходзіць некаторы лік загінуўшых спасярод вывезеных на прымусовыя працы ў Нямеччыну, дый асабліва спасярод жаўнераў у нямецкім палоне. І ў канцы, трэба дадаць каля поўмільёна ахвяраў гітлероўскага нішчэньня жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці.

## СТРАТЫ ЖЫХАРСТВА НЕВАЕННЫЯ

Калі ад раней аблічанае лічбы агульнага дваццацігодняга дэмаграфічнага недаліку жыхарств на тэрыторыі Беларускае ССР у вышыні 6 045 000 адняць лічбу ваенных стратаў, дый страчанага дзеля гэтага натуральнага прыросту, лічбу, якая ў папярэднім разьдзеле была азначаная на кругла 2 000 000, дык атрымаем лічбу стратаў жыхарства ў тым-жа адрэзку часу паходжаньня неваеннага вышыні **4 045 000**, ці, у закругленьні, роўна 4 мільёны. Лічба гэтая паказвае, што неваенныя страты сваімі памерамі два разы большыя за ваенныя, і становяць 67%, ці роўна 2/3 усяго дэмаграфічнага дэфіцыту гэтае пары, калі тымчасам страты ваеннага паходжаньня твораць 33%, ці 1/3 усяго дэмаграфічнага дэфіцыту.

Высокая лічба стратаў жыхарства паходжаньня неваеннага паясьняецца ня толькі тым, што савецкія дэпартацыі дый прымусовыя міграцыі былі масавых памераў, але й тым, што яны трывалі на куды даўжэйшым адрэзку часу. Хоць гадавая рата ваенных стратаў жыхарства на тэрыторыі Беларусі ў часе Другое Сусьветнае Вайны ад пачатку нямецка-савецкае яе фазы й была нязвычайна высокая, але гэтыя зьнішчэньні былі абмежаныя ў часе да ўсяго 3-4 год. калі тымчасам савецкія прымусовыя міграцыі з тэрыторыі трывалі блізу праз увесь міжперапісны час з кароткім трыгоднім перапынкам у пару нямецкае акупацыі. Гэта вось абумовіла тое, што беспасярэднія й пасярэднія страты жыхарства Беларускае ССР, спрычыненыя палітычным тэрорам і масавымі прымусовымі міграцыйнымі мерапрыемствамі расейскага бальшавіцкага рэжыму, аказаліся на тэрыторыі Беларускае ССР два разы вышэйшымі за такія-ж страты ваенныя.

Страты жыхарства Беларускае ССР спрычыненыя савецкім рэжымам былі, зразумела, не аднаго, а разнаякага паходжаньня. Апрача сталых масавых дэпартацыяў і прымусовых перасяленьняў, што праводзіліся ўвесь час — і ў пару Сталіна, і ў пару Хрушчова, — на дэмаграфічнае разьвіцьцё рэспублікі свой вялікі ўплыў мелі й палітычны тэрор Сталінскае пары, і эканамічная анархія дый нястачы, а ў выніку ўсяго разам — сталыя нізкія лічбы нараджэньняў дый сталы спад натуральнага прыросту жыхарства. Апрача гэтага, дзеля трываючага палітычнага тэрору, часьць жыхарства

тэрыторыі намагалася пры кажнай гістарычнай нагодзе ўцякаць зь яе, эміграваць, творачы гэтак паважную лікам эміграцыю зь Беларусі.

Паводля свайго паходжаньня дэмаграфічны дэфіцыт Беларускае ССР дзеля неваенных прычынаў можна раскласьці на гэткія чатыры групы: 1) ненароджаныя, 2) зьнішчаныя, 3) дэпартаваныя, 4) уцекачы.

### I. Ненароджаныя

Пад ненароджанымі тут разумеюцца дэмаграфічныя страты тэрыторыі Беларускае ССР дзеля спаду й сталага нізкога ўзроўня гадавое лічбы нараджэньняў, спаду прынесенага на тэрыторыю савецкім палітычна-эканамічным ладам. Лічба ненароджаных дзеля гэтага пэрманэнтнага спаду становіць значную частку ўсяго дэмаграфічнага дэфіцыту Беларускае ССР за час дваццаці міжперапісных гадоў. Лічбы нараджэньняў, а за імі й лічбы натуральнага гадавога прыросту моцна спалі ў Беларускай ССР яшчэ перад перапісам 1939 году, нейдзе ад пачатку трыццатых гадоў, калі быў разгорнуты масавы Сталінскі тэрор. Хоць лічбы натуральнага руху жыхарства БССР тае пары й ня былі ніколі публікаваныя, адылі зь некаторых пасярэдніх дадзеных можна зрабіць выснаў, што лічба натуральнага прыросту ўжо ніколі не магла падняцца да тэй роўні, якую яна мела ў пару НЭП-у, ані навет ніколі не дасягнула вышыні тыповай сярэдняй для гадоў спакойных на тэрыторыі Беларусі ў XX ст. — 20 на 1000, ці 2%.

Лічбы нараджэньняў і натуральнага гадавога прыросту для Беларускае ССР таксама не публікаваліся за міжперапісныя паваенныя гады. У статыстычных зборніках СССР, якія друкаваліся ад 1956 году, падаюцца лічбы натуральнага руху жыхарства, пачынаючы ад 1950 году, але сярэднія для ўсяе тэрыторыі СССР, а не для паасобных рэспублікаў. Не падае іх і апублікаваны ў 1957 годзе ў Менску статыстычны зборнік Беларускай ССР.[32] З пададзеных, аднак-жа, агульных лічбаў для СССР, дый зь некаторых сьветчаньняў прэсы БССР, можна зрабіць выснаў, што й у «лепшыя» савецкія паваенныя гады лічбы нараджэньняў і натуральнага прыросту на тэрыторыі Беларускае ССР ніжэйшыя й за савецкія сярэднія, што будзе зразумелым, калі возьмем на ўвагу стала трываючыя масавыя высяленьні з рэспублікі наймаладзейшых кантынгэнтаў яе жыхарства. Сам пэрманэнтны спад лічбы нараджэньняў на тэрыторыі Беларускае ССР, спрычынены савецкім рэжымам за міжперапісныя неваенныя гады, дае каля **1 мільёна** дэмаграфічных стратаў на студзень 1959 году, калі за нармальную для тэрыторыі лічбу гадавога прыросту прыняць 20 на 1000, а за сярэднюю зьніжаную савецкім ладам — 16 на 1000. Гэта й будзе прыблізна лічба дэмаграфічных стратаў у дадзеным адрэзку часу «ненароджанымі».

### 2. Зьнішчаныя

Можна адцеміць тут колькі важнейшых фазаў на працягу 20-ці міжперапісных гадоў, у якія нішчэньні жыхарства Беларускае ССР савецкім рэжымам праводзіліся асабліва масава:

[32] Народное хозяйство Белорусской ССР за 40 лет.



1. Зьнішчаныя зь земляў былое Заходняе Беларусі пасьле яе акупацыі савецкаю арміяй у верасьні 1939 году і аж да часу выбуху нямецка-савецкае вайны ў канцы чэрвеня 1941 году. Зьнішчэньні былі асабліва вялікімі ў часе савецкага адступленьня перад нямецкаю арміяй у канцы чэрвеня 1941 году, калі НКВД масавымі экзэкуцыямі ня раз намагалася сьпешна ліквідаваць свае перапоўненыя вязьніцы. Праводзіліся гэтыя ліквідацыі й у часе эвакуацыйных канвояў зьняволеных, як прыкладам у часе перагону вязьняў менскіх астрогаў у Чэрвень у канцы чэрвеня 1941 году. Сюды залічаюцца й тыя спасярод дэпартаваных у канцэнтрацыйныя лягеры зь земляў Заходняе Беларусі, якія пазьней тамака загінулі.

2. Жыхары ўсяе тэрыторыі рэспублікі ці то зьнішчаныя на месцы, ці што загінулі пасьле дэпартацыі іх у канцэнтрацыйныя лягеры ў першыя месяцы й гады пасьля рэакупацыі тэрыторыі Беларускае ССР ад нямецкае арміі ўлетку 1944 году. Гэтае нішчэньне вялося пад відам пакараньняў за выяўлены Беларусамі патрыятызм і антысавецкія настроі, за ўдзел у антысавецкай партызанцы або за супрацоўніцтва зь ёю, дый, пад закідам супрацоўніцтва зь Немцамі.

3. Сталыя ліквідацыі дый ссылкі на зьнішчэньне ў канцэнтрацыйныя лягеры індывідуальныя й масавыя, — характэрная неадлучная прыкмета Сталінскіх гадоў савецкага рэжыму.

Дакладную лічбовую вялічыню зьнішчанага гэтак жыхарства рэспублікі знаюць хіба толькі архівы НКВД, ці іншых адпаведных савецкіх органаў палітычнага тэрору. Тут можна даць толькі спробу асьцярожнае лічбовае ацэны гэтых стратаў, улучна із спрычыненым дзеля іх убыткам у натуральным прыросьце жыхарства рэспублікі, у праекцыі на пачатак 1959 году, у вагульнай вышыні на поўмільёна чалавек.

### 3. Дэпартаваныя

Да гэтае катэгорыі тут залічаюцца ў першую чаргу ўсе дэпартаваныя з тэрыторыі Беларускае ССР у міжперапісныя гады дый накіраваныя ў канцэнтрацыйныя лягеры, якія, хоць і выжылі, але на тэрыторыю свае рэспублікі ўжо больш не вярнуліся. Далей усе высланыя ў прымусовыя лягеры нявольніцкае працы дый усе вывезеныя на прымусовае перасяленьне. Да агульнае сумы іх дадаецца страчаны для рэспублікі спадзяваны ад іх натуральны прырост. Адцеміць гэтта трэба гэткія важнейшыя хвалі дэпартацыяў жыхарства з тэрыторыі Беларускае ССР у разгляданым пэрыядзе часу:

1. Масавыя дэпартацыі жыхарства зь земляў былое Заходняе Беларусі ад часу савецкае акупацыі ў верасьні 1939 году да часу выбуху нямецка-савецкае вайны ў канцы чэрвеня 1941 году. Гэтыя вывазы былі праведзеныя галоўна трымя наваротамі: 9-10 лютага 1940 году, у травені 1940 году дый на конаднях нямецка-савецкае вайны.

2. Масавыя дэпартацыі пасьле савецкае рэакупацыі тэрыторыі Беларускае ССР ад Немцаў улетку 1944 году дый у першыя паваенныя гады, праводжаныя як рэпрэсіі за выяўленыя антысавецкія настроі.

3. Дэпартацыі жыхарства Беларускае ССР для засяленьня савецкае часткі былое нямецкае Ўсходняе Прусіі, г. зв. Калінінградзкае акругі. Па-

водля шматлікіх сьветчаньняў, сярод сучаснага жыхарства гэтае акругі шмат высяленцаў зь Беларускае ССР[33]).

4. Пэрманэнтныя масавыя й індывідуальныя дэпартацыі жыхарства ў канцэнтрацыйныя лягеры, у лягеры катаржнае прымусовае працы дый на ссылкі, тыповыя для сталінскіх гадоў савецкае дыктатуры.

5. Сталыя рэкрутацыі адзінокіх і сем'яў зь Беларускае ССР у паваенныя гады для перасяленьня ў вакругі савецкае эўрапэйскае Поўначы дый у раёны савецкае Азіі. Заклікі для рэгістрацыі на гэткія перасяленьні ішлі ўвесь час у прэсе Беларускае ССР у паваенныя гады з адначаснымі парукамі дармавога перавозу, грашовых дапамогаў на пасяленьне й г. д.

6. Масавыя прымусовыя вывазы зь Беларускае ССР адзінокіх і сем'яў, пачатыя ў сакавіку 1954 году зь ініцыятывы Хрушчова для выконваньня ягонага пляну «асваеньня цалінных земляў». Дэпартаваныя кіраваліся пераважна ў Казахскую ССР дый іншыя акругі савецкае паўдзённае Азіі.[34]

7. Масавыя прымусовыя вывазы на сталае пасяленьне, галоўна моладзі, зьвязаныя з заклікам Цэнтральнага Камітэту КП СССР з 19 травеня 1956 году. Мэта дэпартацыяў — індустрыялізацыя й засяленьне мала разьвітых краінаў СССР, галоўна савецкае Азіі дый эўрапэйскае савецкае Поўначы.[35])

Лік дэпартаваных ці ў канцэнтрацыйныя лягеры, ці ў лягеры прымусовае працы, якія выжылі, але не вярнуліся назад у Беларускую ССР, а таксама дэпартаваныя на прымусовыя перасяленьні, становіць найвышэйшую лічбовую пазыцыю ў дэмаграфічным дэфіцыце Беларускае ССР неваеннага паходжаньня. Агульную лічбу дэпартаваных і пераселеных з тэрыторыі рэспублікі, разам з прычыненым дзеля гэтага для рэспублікі ўбыткам у натуральным прыросьце жыхарства, за час на пачатак 1959 году можна азначыць на кругла 1 500 000.

### 4. Палітычныя ўцекачы

Даволі значную па вялічыні частку дэмаграфічнага дваццацігодняга дэфіцыту Беларускае ССР становіць і лічба палітычных уцекачоў. Ад палітычнае эміграцыі й уцёкаў за межы савецкі рэжым намагаецца заўсёды забясьпечыць сябе сваею строга пілнаванаю дзяржаўнаю мяжою дый недапусканьнем да выездаў за межы СССР сваім звычайным грамадзянам. Гэтак паўстала ведамая савецкая «зялезная заслона». Заслона гэтая аднак-жа была часова адсунутая з тэрыторыі Беларускае ССР Другою сусьветнаю вайною, і значная частка жыхарства Беларускае ССР у пачатковай ваеннай і канцавой паваеннай фазе скарыстала з гэтага, каб вымкнуцца з засягу савецкага рэжыму й, асабліва, ворганаў яго палітычнага тэрору. У дваццацігоднім міжперапісным пэрыядзе часу трэба адцеміць гэткія важнейшыя палітычныя эміграцыйна-бежанскія хвалі з тэрыторыі Беларускае ССР:

[33] Глядзі „New York Times", Dec. 28, 1946. Таксама „Lithuanian Bulletin", VII, New York, January—March 1949.

[34] Аб масавых дэпартацыях-перасяленьнях жыхарства зь Беларускае ССР у пару дыктатуры Хрушчова падрабязьней у: Genocide in the USSR. Institute for the Study of the USSR. Munich 1958, b. 87. А таксама ў: The Crimes of Khrushchev, Part 6. Committee on Un-American Activities. House of Representatives, Washington, 1960, b. 19—24.

[35] «Правда» і «Известия» з 19 травеня 1956 г.



1. Палітычныя эмігранты-уцекачы, якім удалося пакінуць тэрыторыю рэспублікі ў часе апошняе сусьветнае вайны дый эміграваць у краі Захаду: Заходнюю Эўропу, краі Амэрыкі, у Аўстралію. Галоўныя масы гэтае новае эміграцыі зь Беларусі знайходзяцца сяньня ў Нямеччыне, Францыі, Бэльгіі, Англіі, ЗША, Канадзе, Аргентыне, Аўстраліі. Па сваей нацыянальнасьці эмігранты гэтыя Беларусы, Палякі, Жыды, а ў меншым ліку й асобы іншых нацыянальнасьцяў тэрыторыі Беларусі. Лічбова гэтую новую эміграцыю з тэрыторыі Беларускае ССР можна ацаніць на прыблізна 100.000. Частку яе становяць «непаваротцы» зь ліку вывезеных Немцамі на прымусовыя працы ў Нямеччыну ў часе апошняе вайны, а якія не захацелі варочацца назад на свае землі пад уладу савецкага татальнага рэжыму.

2. Палітычныя эмігранты-уцекачы, што паходзяць галоўна з тэрыторыі былое Заходняе Беларусі, а якія ў часе пачатковай, і ў канцавую фазу вайны, а часткова й у першую пару па сканчэньні гэтае вайны, самі пакінулі свае землі дый пераехалі на тэрыторыю сучаснае Польшчы, каб гэтак вымкнуцца зь беспасярэдняга засягу савецкага рэжыму. Між імі значная частка такіх, што кіраваліся далей на Захад, але якія не пасьпелі туды эміграваць дзеля хуткага разьвіцьця ваенных падзеяў. Сотні тысячаў гэткіх уцекачоў з тэрыторыі сучаснае Беларускае ССР рассыпаныя ў польскай частцы былых нямецкіх Усходніх Прусаў, на польскіх новаздабытых ад Немцаў землях на захадзе, і наагул на ўсей тэрыторыі сучаснае Польшчы. Гэтыя выхаджэнцы зь Беларусі пераважаюча беларускае, але ў значнай меры й польскае нацыянальнасьці. Агульны лік іх трэба ацэньваць як большы за поўмільёна.

3. Жыхарства Беларускае ССР, якое было пераселенае ў паваенную Польшчу ў выніку афіцыйнае вымены жыхарства між Польшчаю й СССР, што праводзілася галоўна ў гадох 1944-1947, а ў меншых памерах адбывалася й пазьней. Перасяленьне гэтае мела адбывацца на дабравольных асновах, з выменаю польскага жыхарства зь Беларускае ССР, на беларускае з Польшчы. Агульна ведама, што пад відам «Палякоў» выяжджалі тады ў вялікай масе й Беларусы, дый ня толькі каталікі, але й праваслаўныя. На абшарах новазанятых Польшчаю былых нямецкіх прастораў сяньня існуе каля 80-ці праваслаўных прыходаў, складзеных пераважна зь беларускіх уцекачоў і перасяленцаў.[36]) Лік перасяленцаў зь Беларускае ССР у часе гэтае вымены, толькі за гады 1944-1947, паводля публікаваных афіцыйных дадзеных, станавіў 274 163. Пакольні гэтая акцыя вымены праводзілася далей і ў гадох 1956-1959, калі Масква дазволіла выехаць з СССР у Польшчу й некаторым палітычным зьняволеным дый ссыльным, «былым польскім грамадзянам», сярод якіх было шмат і такіх, што паходзілі зь земляў былое Заходняе Беларусі, дык лік гэты можна азначыць як ня менш за 300 000.[37]

Улічваючы ўсе вышэй названыя катэгорыі палітычнае эміграцыі з тэрыторыі Беларусі дый дадаўшы адпаведную суму stratаў дзеля яе ў натуральным прыросьце, можна азначыць прыблізны лік страты жыхарства Беларускае ССР дзеля палітычнае эміграцыі ў міжперапісным пэрыядзе на кругла **1 000 000.**

[36] Православный календарь на 1961 год. Варшава, 1961, б. 62—72.

[37] Дакладней аб вымене жыхарства між Польшчаю й Беларускаю ССР у працы: Мікола Волацiч — Насельніцтва Заходняе Беларусі й яго перасяленьне між сучаснай Польшчай і БССР. «Беларускі Зборнік», кн. 4. Інстытут для Вывучэньня СССР. Мюнхен, 1956, б. 23—34.

## ЛІЧБОВЫ РАСКЛАД УСІХ ДЭМАГРАФІЧНЫХ СТРАТАЎ РЭСПУБЛІКІ

На аснове папярэдняга разгляду можна бачыць, што вышыня агульнага дэмаграфічнага дэфіцыту рэспублікі за 20 міжперапісных гадоў выражаецца лічбаю 6 мільёнаў. Гэтая лічба, як выводная зь ліку апошняга перапісу дый аблічэньняў абапертых на лічбе сярэдняга гадавога прыросту жыхарства тэрыторыі ў нармальныя, спакойныя гады, належыць да катэгорыі абгрунтаваных на матэматычным абліку, а не вялічыняў толькі ацэначных. Таксама вышыня дэмаграфічнага дэфіцыту, спрычыненага ваеннымі стратамі жыхарства, абапертая на афіцыйнай савецкай ацэне, якую падаў да ведама першы сакратар КП БССР К. Мазураў, асоба ў дадзеным пытаньні, з гледзішча на сваё становішча, найбольш кампэтэнтная.

Затое расклад дэмаграфічнага дэфіцыту рэспублікі неваеннага паходжаньня па катэгорыях даводзілася праводзіць ужо блізу вылучна шляхам ацэны. Ніякіх статыстычных дадзеных пра абсалютную вышыню паасобных катэгорыяў неваенных дэмаграфічных стратаў Беларускае ССР блізу ня існуе. Лічбы зьнішчаных, дэпартаваных і выселеных з рэспублікі, пэўне-ж, знаходзяцца нейдзе ў цэнтральных архівах МГБ, ці іншых адпаведных савецкіх установаў, але цяжка спадзявацца, каб лічбы гэтыя былі апублікаваныя, як доўга трывае сучасны савецкі рэжым. Ад 1928 году савецкімі ўладамі ня былі публікаваныя й лічбы натуральнага руху жыхарства рэспублікі, навет і за апошнія паваенныя гады, калі ЦСУ публікуе гэтыя лічбы ў сярэднім абліку для ўсяго СССР. Бяз гэтых лічбаў немагчыма ўстанавіць дакладна й наколькі савецкая сыстэма абнізіла на тэрыторыі Беларускае ССР тыповую для яе ранейшую высокую лічбу натуральнага гадавога прыросту, хоць яна бясспрэчна была нізкою ўжо ад пачатку палітычнага тэрору ў 1930-х гадох. Дзеля гэтага й лічба стратаў тэрыторыі «ненароджэнымі» носіць характар лічбы ацэначнае, прыблізнае. Вось дзеля ўсіх гэтых прычынаў, калі агульная лічба дэмаграфічнага дэфіцыту рэспублікі, як і падзел яго на страты ваенныя й неваенныя абаперты на статыстычных фактах, дык затое сам расклад стратаў жыхарства дзеля прычынаў неваенных паводля адпаведных групаў носіць ужо характар толькі прыблізных ацэначных лікаў, азначаных галоўна на аснове беспасярэдняе веды гістарычных падзеяў у міжперапісным часе на тэрыторыі Беларускае ССР, дый толькі часткова на існуючых канкрэтных лічбовых дадзеных. Лікі гэткага прыблізнага раскладу дэмаграфічных стратаў тэрыторыі Беларускае ССР, якія былі азначаныя ў папярэднім разьдзеле гэтае працы, падсумаваныя на табл. 4.

**Табл. 4: Расклад дэмаграфічнага дэфіцыту Беларускае ССР ад студзеня 1939 да студзеня 1959 па прычынах яго паходжаньня**

| | | Вышыня стратаў |
|---|---|---|
| Агульны дэмаграфічны дэфіцыт рэспублікі | | 6 000 000 |
| З чаго: страты ваенныя | | 2 000 000 |
| неваенныя | | 4 000 000 |
| Неваенныя страты раскладаюцца на: | | |
| 1. Ненароджаныя | 1 000 000 | |
| 2. Зьнішчаныя | 500 000 | |
| 3. Дэпартаваныя | 1 500 000 | |
| 4. Уцекачы | 1 000 000 | |



Трэба мець яшчэ наўвеце, што лічбы стратаў пададзеныя на табліцы, гэта не абсалютныя голыя лічбы самых стратаў дадзенае катэгорыі, а яны абыймаюць разам і выпаўшы дзеля іх натуральны прырост жыхарства ў праекцыі на пачатак 1959 году. Для прыкладу: 100 000 дэпартаваных з Заходняе Беларусі нейдзе ў 1940 годзе, да пачатку 1959 году вырасьце ў дэмаграфічную страту вышыні блізу 140 000 дзеля страчанага разам для рэспублікі натуральнага прыросту ад дадзенага ліку. Тая-ж самая лічба 100 000 вывезеных у 1954 годзе ў Казахстан да пачатку таго-ж 1959 году вырасьце ў дэмаграфічную страту рэспублікі вышыні ўсяго каля 110 000, паколькі да 1959 году з гэтае лічбы губіцца натуральны прырост усяго 5-ці гадоў. Дык лічбы табліцы даюць вышыню дэмаграфічнага ўбытку паводля паасобных катэгорыяў у праекцыі на пачатак 1959 году, а не самыя абсалютныя лікі ненароджаных, зьнішчаных, дэпартаваных ці ўцекачоў, якія будуць заўсёды адпаведна ніжэйшыя.

Калі прыгледзіцца яшчэ да дваццацігодніх дэмаграфічных стратаў рэспублікі, паказаных на табл. 4, дык можна заўважыць, што страты й убытак жыхарства, па іх характару, апрача падзелу на страты ваенныя й неваенныя, можна разьбіць яшчэ на дзьве важныя катэгорыі ў іншай роўніцы. Да аднае будзе належыць увесь убытак жыхарства ваеннага паходжаньня дый катэгорыі ненароджаных і зьнішчаных із стратаў неваенных. Разам яны становяць лік таго жыхарства, якое сяньня ня існуе ані на тэрыторыі Беларускае ССР, ані паза ею, — гэта страты абсалютныя. Групы-ж дэпартаваных і ўцекачоў становяць другую частку, — гэта жыхарства, што сяньня існуе і мае свой той ці іншы натуральны прырост, але існуе паза тэрыторыяй Беларускае ССР. Гэта страты не абсалютныя, а толькі страты тэрыторыі рэспублікі. Дэпартаваныя існуюць-жывуць далей на прасторах савецкае Маскоўскае імпэрыі, а ўцекачы — у краёх свае эміграцыі. Лічбова, страты першае групы, абсалютныя, выражаюцца агульным лікам **3 500 000.** Гэта лік жыхарства страчанага й для тэрыторыі рэспублікі, і няісную чага наагул. Лік жыхарства страчанага толькі для тэрыторыі рэспублікі меншы, у вышыні **2 500 000.**

Калі зьвернем цяпер сваю ўвагу на разьвіцьцё жыхарства Беларускае ССР у сучасную, посьлеперапісную пару, дык адцеміць трэба, што працэсы, якія спрычынілі неваенны дэфіцыт жыхарства, сяньня дзеюць на тэрыторыі рэспублікі ня ўсе або дзеюць не з аднолькавай інтэнсыўнасьцяй, як у ранейшыя гады. Гэтак, магчымасьці палітычных уцёкаў ці эміграцыі, у выніку паваеннае стабілізацыі савецкага рэжыму на тэрыторыі рэспублікі, з гэрмэтычна нанава зачыненымі межамі, сяньня ізноў ня існуюць. Выглядае, што апошнім часам не праводзіцца таксама беспасярэдняга, праз канцэнтрацыйныя лягеры, масавага фізычнага нішчэньня жыхарства. Затое ўзрасьлі значна лічбы прымусовага перасяленьня жыхарства з рэспублікі, прымусовых міграцыяў у сувязі зь мерапрыемствамі Хрушчова пад клічамі «асваеньня цаліны» ў савецкай Азіі дый засяляньня й індустрыялізацыі мала населеных прастораў імпэрыі. Выглядае, што дыктатура Хрушчова кладзе націск не на фізычнае нішчэньне, а больш на захаваньне дэпартаванага жыхарства, як патрэбнае працоўнае сілы, і як неабходнага людзкога матар'ялу для калянізацыі мала заселеных прастораў. Затое мацнейшы націск цяпер кладзецца на дэнацыяналізацыю й русыфікацыю й самых дэ-

партаваных, і, з другога боку, жыхароў рэспублікаў, куды масы дэпартаваных кіруюцца, з разьлікам на іх сьмерць ня фізычную, а нацыянальную.

Трэба яшчэ адцеміць, што разгляданыя тут лікі агульнага дэмаграфічнага дэфіцыту й стратаў неваеннага паходжаньня, гэта толькі лікі за 20 міжперапісных гадоў, за час ад пачатку 1939 да пачатку 1959 году. Яны не абыймаюць усіх стратаў прычыненых камуністычным расейскім рэжымам беларускай нацыянальнай тэрыторыі за ўсё існаваньне там савецкага ладу. Для азначэньня дэмаграфічных стратаў Беларускае ССР за ўвесь час яе існаваньня, да пададзенага ліку трэба дадаць яшчэ страты жыхарства рэспублікі міжваеннае пары дзеля масавага тэрору й дэпартацыяў у трыццатых гадох. Як вынікае з прыраўнаньня перапісных лікаў жыхарства Беларускае ССР з 1939 году, у вышыні 5 568 000, і 1926 году — 4 983 000, за 12 гадоў часу было толькі 585 000 прыросту, ці менш 1% у год. А, тымчасам, выходзячы зь сярэдняе нармальнае лічбы прыросту для тэрыторыі 2%, на пачатку 1939 году, з 4 983 000 у канцы 1926, павінна быць 6 331 000, а не 5 568 000, як выказаў перапіс. Значыцца дэмаграфічны недалік жыхарства Беларускае ССР у часе сьнежань 1926 — студзень 1939, выносіў дакладна 763 000. Вось гэтая лічба, разам з дэмаграфічным дэфіцытам 6 045 000 за апошні дваццацігодні міжперапісны час, дае суму 6 808 000 усіх дэмаграфічных стратаў Беларускае ССР у часе ад 17 сьнежня 1926 да 15 студзеня 1959 году.

## РАЗЬМЯШЧЭНЬНЕ ЖЫХАРСТВА ПА АКРУГАХ

У першай публікацыі тымчасовых вынікаў апошняга савецкага перапісу жыхарства ЦСУ падало лік жыхарства Беларускае ССР па сямі існаваўшых у перапісным часе акругах — «вобласьцях» — рэспублікі.[38] Лічбы гэтыя й пададзеныя ніжэй у табл. 5. Паверхня паасобных акругаў у квадратных кілямэтрах падаецца паводля іншых афіцыйных савецкіх публікацыяў.[39] Дадаткова дадзеная аблічаная гушчыня засяленьня паасобных акругаў.

**Табл. 5: Лік жыхарства, паверхня й гушчыня засяленьня Беларускае ССР па акругах і паводля стану на 15 студзеня 1959 году**

| Акругі | Лік жыхароў у тысячах | Тэрыторыя ў тысячах кв. км. | Гушчыня засяленьня на кв. км. |
|---|---|---|---|
| Берасьцейская | 1 205 | 34 | 35.4 |
| Віцебская | 935 | 28 | 33.4 |
| Гомельская | 1 355 | 40 | 33.9 |
| Горадзенская | 897 | 20 | 44.8 |
| Менская | 1 728 | 35 | 49.4 |
| Менская бязь Менску | 1 219 | 35 | 34.8 |
| Магілеўская | 1 130 | 27 | 41.9 |
| Маладэчанская | 810 | 24 | 33.7 |
| **Беларуская ССР** | **8 060** | **208** | **38.8** |

[38] «Правда» і «Известия» 10. 5. 1959.
[39] Народное хозяйство Белорусской ССР за 40 лет, б. 269.



Зь лічбаў табліцы відаць, што найвышэйшым лікам жыхарства выдзялялася Менская акруга з 1 728 000, за ею ўжо ішла Гомельская з 1 355 000. Найменш мела Маладэчанская — 810 000. Што да Менскае акругі, дык па ліку жыхарства яна высоўваецца на першае месца яўна толькі дзякуючы факту існаваньня на тэрыторыі акругі сталічнага места Менску. Бязь Менску акруга лікам жыхарства ўступала-б першае месца Гомельскай. Ніякага супастаўленьня ліку жыхарства па акругах у гадох 1959 і 1939 нажаль немагчыма зрабіць дзеля таго, што ў 1939 годзе адміністрацыйны падзел тэрыторыі ў даваеннай БССР быў зусім іншы. Пры тым, ніякіх вынікаў перапісу 1939 году па акругах наагул ня было публікавана.

Ужо пасьле перапісу, 20 студзеня 1960 году, Прэзыдыюм вярхоўнага савету Беларускае ССР выдаў дэкрэт, якім была скасаваная Маладэчанская акруга, а ейныя раёны былі падзеленыя між Віцебскай, Менскай дый Горадзенскай акругамі.[40] Скасаваньне Маладэчанскае акругі было афіцыйна матываванае мэтаю скараціць гэтак адміністрацыйна-бюракратычны апарат дый звольненых урадоўцаў перакінуць у адміністрацыю калгасаў. Тое, што ліквідацыя акругі была праведзеная ўсяго колькі месяцаў пасьле абвешчаньня вынікаў перапісу, зь якіх выявілася вялікая ступень вылюдненьня Беларускае ССР, насоўвае думку, што беспасярэднюю прычынаю ліквідацыі акругі маглі быць і гэтыя вынікі перапісу. Праводжанае савецкім рэжымам сыстэматычнае вылюдненьне Беларускае ССР масавымі вывазамі жыхарства, нязвычайна вялікія памеры якіх перапіс 1959 году й выказаў, у сваей лягічнай кансэквэнцыі мусіць і весьці да паступовага зьмяншаньня й адміністрацыйных адзінак рэспублікі. Адначасна зь ліквідацыяй Маладэчанскай акругі было зьліквідавана й 15 раёнаў дый паменшаны лік сельсаветаў на 146.

У 1960 годзе, у статыстычным гадавіку на 1959 год, ЦСУ апублікавала вынікі перапісу 1959 году, у якіх перапісныя лічбы датычныя Беларускае ССР раськінутыя ўжо паводля новага, посьлеперапіснага падзелу рэспублікі на 6 акругаў.[41] Жыхарства на тэрыторыі гэтых новых акругаў на 15 студзеня 1959 году, паводля дадзеных гэтага гадавіка, раскладалася так, як паказана на табл. 6. Паводля гэтага-ж гадавіка падаецца на табліцы й гушчыня засяленьня. Тэрыторыя-ж павялічаных акругаў Віцебскай, Горадзенскай дый Менскай аблічана для таблiцы адмыслова.

Як бачым з Табл. 6, і пасьле апошняга адміністрацыйнага перадзелу рэспублікі Менская акруга захоўвае сваё першае месца па ліку жыхарства, а Гомельская другое. На апошнім месцы, замiж скасаванае Маладэчанскае, апынулася цяперка Горадзенская акруга з 1 077 000 жыхарамі. Пры падзеле рэспублікі на 6 акругаў, усе акругі лікам жыхарства перавышаюць адзін мільён, а Менская навет і 2 мільёны. Зьмяніліся адпаведна й лічбы гушчыні жыхарства паасобных акругаў. Зьмены гушчыні ў акругах, вялічыні якіх новы перадзел не крануў, — Берасьцейскай, Гомельскай дый Магілеўскай, — у прыраўнаньні зь лічбамі на папярэдняй таблiцы, паясьняюцца хіба ўдакладненьнямі вынікаў перапісу.

[40] «Звязда» № 17, 21. 1. 1960.
[41] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 31—32.

**Табл. 6: Лік жыхарства, паверхня й гушчыня засяленьня Беларускае ССР па акругах паводля перадзелу рэспублікі 20. 1. 1960. Лічбы жыхарства паводля стану ў часе перапісу 15. 1. 1959 г.**

| Акругі | Лік жыхароў у тысячах | Тэрыторыя ў тысячах кв. км. | Гушчыня засяленьня на кв. км. |
|---|---|---|---|
| Берасьцейская | 1 205 | 34 | 35.8 |
| Віцебская | 1 247 | 40 | 31.1 |
| Гомельская | 1 357 | 40 | 34.0 |
| Горадзенская | 1 077 | 26 | 43.1 |
| Менская | 2 037 | 41 | 49.7 |
| У гэтым Менск | 509 | — | — |
| Магілеўская | 1 132 | 27 | 41.5 |
| **Беларуская ССР** | **8 055** | **208** | **38.8** |

## ЗЬМЕНЫ ГУШЧЫНІ ЗАСЯЛЕНЬНЯ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСКАЕ ССР

Натуральная рэч, што памяншэньне ліку жыхарства рэспублікі, якую выявіў перапіс 1959 году, яе дэпапуляцыя выражаецца й адпаведным спадам гушчыні засяленьня тэрыторыі Беларускае ССР. Сярэдняя гушчыня засяленьня рэспублікі ў часе перапісу была 38.8 чалавек на кв. км. Найвышэйшую гушчыню засяленьня выказвае Менская акруга, за ёю ідзе Горадзенская дый Магілеўская. Найніжэйшая гушчыня засяленьня ў Віцебскай акрузе. Вышэйшая гушчыня засяленьня на тэрыторыі Менскае акругі яўна абумоўленая фактам існаваньня ў акрузе паўмільённага сталічнага Менску. Гушчыня засяленьня на тэрыторыі самое акругі, бязь Менску, выражаецца лічбаю 37.3 ч. на кв. км. Памеры спаду гушчыні засяленьня тэрыторыі на працягу дваццаці міжперапісных гадоў паказвае табл. 7. Лічбы гушчыні засяленьня на гэтай табліцы пададзеныя для гадоў 1939 і 1959, у ваблічэньні для цэлае сучаснае тэрыторыі рэспублікі, і, асобна, для тэрыторыі даваеннае БССР і тое тэрыторыі былое Заходняе Беларусі, што далучаная ў часе апошняе вайны да Беларускае ССР.

**Табл. 7: Зьмены гушчыні засяленьня тэрыторыі Беларускае ССР у часе ад пачатку 1939 году да пачатку 1959 году**

| Тэрыторыя | Лік жыхароў на кв. км. 1939 г. | 1959 г. | Спад |
|---|---|---|---|
| БССР у даваенных межах | 44.2 | 39.7 | —4.5 |
| Землі былое Заходняе Беларусі | 46.6 | 37.4 | —9.2 |
| БССР у сучасных межах | 45.0 | 38.8 | —6.2 |

З табл. 7 відаць, што гушчыня засяленьня на ўсей тэрыторыі Беларускае ССР за 20 міжперапісных гадоў зьнізілася ў сярэднім на 6.2 чалавек на кв. км. Лічбы табліцы паказваюць таксама важны дэмаграфічна факт, што зьніжэньне гушчыні засяленьня ня было раўнамерным на тэрыторыі былое Заходняе Беларусі й тэрыторыі даваеннае БССР. На даваеннай тэрыторыі БССР спад гэты вышыні 4.5 чл. на кв. км., калі тымчасам на далучаных землях Заходняе Беларусі — 9.2 чл. на кв. км. З гэтага вынікае, што тэрытар'яльныя страты жыхарства на землях былое Заходняе Беларусі за дваццацігодні час больш як у два разы вышэйшыя за такія-ж страты на тэрыторыі даваеннае БССР.



Вылічэньне гушчыні засяленьня асобна для прасторы даваеннае БССР, і асобна для той тэрыторыі былое Заходняе Беларусі, што сяньня ўходзіць ў склад рэспублікі, дае магчымасьць нам зрабіць той адміністрацыйны падзел рэспублікі на акругі, які існаваў у часе перапісу. Паводля гэтага падзелу акругі Берасьцейская, Горадзенская й Маладэчанская складалі далучаную тэрыторыю былое Заходняе Беларусі. Чатыры-ж іншыя акругі станавілі даваенную тэрыторыю Беларускае ССР, з тым малым выняткам, што раёны Клецкі, Нясьвіскі й Стаўпецкі Менскае акругі былі прырэзаныя да яе ад земляў былое Заходняе Беларусі. Вось, калі ад ліку жыхарства ўсходніх акругаў адняць жыхарства, якое павінна прыпадаць на тэрыторыю гэтых трох раёнаў, дый дадаць яго да жыхарства трох заходніх акругаў — посьле гэтае карэктуры атрымаем падзел сучаснага жыхарства на тэрытор'яльныя дзьве часткі: старое ўсходняе тэрыторыі, і новае заходняе. Наглядна розьніцу спаду ліку жыхарства на заходніх і ўсходніх землях рэспублікі, выражаную ў лічбах абсалютных, паказвае табл. 8.

**Табл. 8: Спад ліку жыхарства на заходніх і ўсходніх землях рэспублікі у часе ад пачатку 1939 году да пачатку 1959 году**

| Тэрыторыя | Лік жыхарства ў тысячах 1939 г. | 1959 г. | Недалік у тысяч. | Недалік у % |
|---|---|---|---|---|
| Землі былое Заходняе Беларусі | 3 776 | 3 055 | —721 | —20.0 |
| Землі даваеннае БССР | 5 568 | 5 000 | —568 | —10.0 |
| Уся сучасная БССР | 9 344 | 8 055 | —1 289 | —13.4 |

Табл. 8 паказвае, што хоць на землях былое Заходняе Беларусі ў 1939 годзе было значна менш жыхарства, як на землях усходніх, дык недалік там жыхарства на пачатку студзеня 1959 году аказаўся вышэйшы, бо 721 000, калі на тэрыторыі даваеннае БССР з куды большым лікам жыхартва гэты недалік быў значна меншым, бо 568 000. Выражаючы гэтую розьніцу ў працэнтах, можна бачыць, што калі даваенная тэрыторыя Беларускае ССР выказвае на пачатку 1959 году нястачу 10% свайго жыхарства з 1939 году, дык тэрыторыя былое Заходняе Беларусі не далічаецца 20% ці два разы больш. Практычна гэта значыць, што на тэрыторыі даваеннае БССР не стае кажнага дзесятага жыхара, а на тэрыторыі былое Заходняе Беларусі кажнага пятага. Выяўленая перапісам 1959 году вышэйшая ўдвая ступень дэпапуляцыі земляў Заходняе Беларусі за землі даваеннае БССР мусіць мець свае прычыны. Калі разглянуцца за імі, дык адзначыць трэба найперш гэткіх пяць важнейшых:

1. Масавыя савецкія дэпартацыі жыхарства з тэрыторыі Заходняе Беларусі ў часе ад яе акупацыі савецкаю арміяй у верасьні 1939 году да выбуху нямецка-савецкае вайны 22 чэрвеня 1941 году.

2. Уцёкі жыхарства былое Заходняе Беларусі на захад посьле заняцьця тэрыторыі савецкаю арміяй у верасьні 1939 году, і пазьней, у часе — дый посьле — нямецкага адступленьня з тэрыторыі Беларусі ў 1944 годзе. Гэтыя ўцёкі жыхарства на захад перад наступам савецкае арміі ў канцавой фазе вайны дзеля самога геаграфічнага палажэньня былі больш магчымыя жы-

харству зь земляў Заходняе Беларусі, як земляў усходяе часткі Беларускае ССР.

3. Пры афіцыйнай вымене жыхарства між Польшчаю й Беларускаю ССР, якая адбывалася галоўна ў гадох 1944—1947, выяжджаць у Польшчу пад відам Палякаў ці проста былых польскіх грамадзян мела магчымасьць толькі жыхарства Заходняе Беларусі. У выніку гэтае вымены з тэрыторыі Заходняе Беларусі выехала ў Польшчу больш 300 000 чалавек. Падобная магчымасьць выезду для жыхарства земляў даваеннае БССР практычна ня існавала.

4. Як сьветчаць некаторыя савецкія дэмаграфы, вывазы на прымусовыя перасяленьні ў паваенную пару праводзіліся з былых заходнябеларускіх земляў у куды большых памерах, як зь земляў даваеннае БССР. Гэтак А. А. Дольская кажа: «Месцам выхаду перасяленцаў зьяўляюцца ў васнаўным... заходнія акругі БССР, дзе існуюць лішкі працаздольнага жыхарства, што выясьняецца высокім натуральным прыростам, вызваленьнем работнікаў зь існаваўшых тут старых прамысловых прадпрыемстваў у выніку іх мэханізацыі й ін.».[42]

5. Некаторы ўплыў на меншую лічбу недаліку жыхарства на ўсходзе рэспублікі мела й тое, што на тэрыторыі даваеннае БССР знайходзіцца сталічны Менск, які ў паваенную пару адзначыўся нязвычайным ростам. Хоць агульны лік жыхарства рэспублікі ад 1939 году паменеў больш як на мільён, дык Менск, наадварот, за гэты час павялічыў сваё жыхарства на цэлых 270 000. Гэты факт зрэдукаваў у некаторай ступені вышыню запраўднага недаліку жыхарства на тэрыторыі ўсходняй дый рэлятыўна павысіў лічбу гушчыні яе засяленьня.

## СТАН УРБАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАЕ ССР

У першай публікацыі ЦСУ тымчасовых вынікаў усесаюзнага перапісу 1959 году пададзеная й новая перапісная статыстыка меставога й неместавога жыхарства Беларускае ССР па акругах рэспублікі з супастаўленьнем з такімі-ж лічбамі на 1939 год.[43] Тыя-ж дадзеныя паўтораныя ў гадавіку ЦСУ на 1959 год, але зь некаторымі зьменамі ў вышыні лічбаў дый паводля новага адміністрацыйнага падзелу рэспублікі на 6 акругаў.[44] Лічбы із статыстычнага гадавіка ЦСУ пададзеныя на табл. 9.

Дадзеныя табл. 9 паказваюць, што з пасярод 6-ці акругаў рэспублікі найбольшым працэнтам меставога жыхарства выдзяляецца Менская акруга, але гэта яўна, як і ў выпадку гушчыні засяленьня, толькі дзякуючы існаваньню на тэрыторыі акругі паўмільённага сталічнага Менску. З пасярод іншых акругаў найвышэйшы працэнт меставога жыхарства выказваюць акругі Віцебская ды Магілеўская, па 32%. Ужо ніжэй сярэдняе рэспублікі Гомельская, бо 29%, і найніжэйшыя працэнты урбанізацыі ў акругах Берасьцейскай, — 24%, дый, на апошнім месцы, Горадзенскай, 23%. Агульна трэба сказаць, што рэспубліка, нягледзячы на сталую савецкую прапаган-

[42] А. А. Дольская. Социалистический закон народонаселения. Москва, 1959, б. 97—98.

[43] «Правда» і «Известия», 10. 5. 1959.

[44] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 31—32.



ду пра яе урбанізацыю, застаецца и надалей краем пераважаючa сялянскім з 69% неместавога жыхарства.

**Табл. 9: Лічбы меставога й неместавога жыхарства Беларускае ССР паводля стану на 15. 1. 1959 г. па акругах**

| Акругі | Лік жыхарства на 15. 1. 1959 у тысячах; у гэтым | | | У % да ўсяго жыхарства | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | Меставое | Неместавое | Меставое | Неместавое |
| Берасьцейская | 1 205 | 284 | 921 | 24 | 76 |
| Віцебская | 1 247 | 404 | 843 | 32 | 68 |
| Гомельская | 1 357 | 389 | 968 | 29 | 71 |
| Горадзенская | 1 077 | 251 | 826 | 23 | 77 |
| Менская | 2 037 | 793 | 1 244 | 39 | 61 |
| У гэтым Менск | 509 | 509 | — | 100 | — |
| Магілеуская | 1 132 | 360 | 772 | 32 | 68 |
| **Беларуская ССР** | **8 055** | **2 481** | **5 574** | **31** | **69** |

З гледзішча свае ўрбанізацыі Беларусь і пры расейскім савецкім рэжыме, — падобна як было й пры расейскім царскім, — застаецца аднэй з найбольш адсталых краёў імпэрыі. Наглядна можна аб гэтым пераканацца з апублікаванай ЦСУ статыстычнай табліцы аб ліках меставога й неместавога жыхарства па рэспубліках СССР з аднaчасным паказаньнем працэнтнага росту меставога жыхарства ў часе ад 1939 да 15 студзеня 1959 году.[45]

**Табл 10: Працэнтны лік жыхарства меставога па рэспубліках СССР у гадох 1939 і 1959 з % іх росту**

| Рэспублікі | Лік жыхарства меставога ў % да ўсяго жыхарства 1939 | 1959 | Рост у % |
|---|---|---|---|
| Расейская СФСР | 33 | 52 | 19 |
| Украінская | 34 | 46 | 12 |
| **Беларуская** | **21** | **31** | **10** |
| Узбэкская | 23 | 34 | 11 |
| Казахская | 28 | 44 | 16 |
| Грузінская | 30 | 42 | 12 |
| Азэрбайджанская | 36 | 48 | 12 |
| Лятувіская | 23 | 39 | 16 |
| Малдаўская | 13 | 22 | 9 |
| Латвійская | 35 | 56 | 21 |
| Кіргіская | 19 | 34 | 15 |
| Таджыкская | 17 | 33 | 16 |
| Армянская | 29 | 50 | 21 |
| Туркменская | 33 | 46 | 13 |
| Эстонская | 34 | 56 | 22 |
| **СССР** | **32** | **48** | **16** |

Як з табл. 10 відаць, па ступені свае урбанізацыі месца Беларускае ССР сярод рэспублікаў СССР перадапошняе. Толькі адна Малдаўская ССР, з усяго 22% меставога жыхарства, мае большы працэнт жыхарства неместа-

[45] Тамсама, б. 10.

вога за Беларускую ССР. Усе іншыя рэспублікі маюць вышэйшую ступень урбанізацыі. Ёсьць між імі й такія, што 20 гадоў таму, у 1939 годзе, мелі меставога жыхарства значна меншы працэнт за Беларускую ССР, прыкладам рэспублікі Кіргіская й Таджыкская, а цяпер з гэтага гледзішча яны перагналі рэспубліку Беларускую. З табліцы можна таксама бачыць, што й па тэмпе урбанізацыі Беларуская ССР на шэрым канцы, перад аднэй Малдавіяй. За 20 міжперапісных гадоў лік меставога жыхарства Беларускае ССР павялічыўся ўсяго на 10%, пры сярэднім узросьце для ўсяго СССР 16%, а для РСФСР 19%. У колькі іншых рэспубліках узрост гэты вышэйшы й за 20%. З гэтага даводзіцца зрабіць выснаў, што ўрбанізацыя найпавальнейшым тэмпам у СССР адбываецца на тэрыторыі Беларускае рэспублікі, за адным, ізноў-жа, выняткам Малдавіі. Апрача ваенных зьнішчэньняў местаў Беларусі, у факце затарможанага тэмпа росту местаў рэспублікі, бясспрэчна ,адну з важнейшых роляў згулялі масавыя дэпартацыі жыхарства, дый Масквою плянова ўтрымліваная нізкая ступень індустрыялізацыі БССР.

Пры трываньні падобнага нізкага тэмпа ўрбанізацыі Беларускае ССР, рэлятыўная розьніца гэтае ўрбанізацыі, у прыраўнаньні зь іншымі рэспублікамі СССР, будзе ўзрастаць на яе некарысьць. А пры далейшых масавых вывазах жыхарства зь Беларускае ССР на перасяленьне ў іншыя рэспублікі імпэрыі, нейкага прысьпяшэньня тэмпа ўрбанізацыі спадзявацца няма ніякіх асноваў.

## МЕСТЫ БЕЛАРУСКАЕ ССР

У першай публікацыі вынікаў усесаюзнага перапісу жыхарства ЦСУ пад 9-м пунктам апублікавала табліцу: «Лік жыхарства местаў, што зьяўляюцца цэнтрамі саюзных і аўтаномных рэспублікаў, краёў і акругаў, а таксама другіх местаў з жыхарствам больш 50 тысячаў, паводля тымчасовых дадзеных». У гадавіку ЦСУ на 1959 год пералік местаў СССР даецца з крыху зьмененымі лічбамі іх жыхарства.[46] Сярод іх падаецца й 10 местаў Беларускае ССР з жыхарствам больш 50 000. Гэтыя месты, лікі іх жыхарства ў 1939 і 1959 гадох, дый працэнты іх рост дае табл. 11.

**Табл. 11: Жыхарства местаў Беларускае ССР у часе перапісу 1959 году у прыраўнаньні да стану ў 1939 годзе**

| | Лік жыхарства ў тысячах | | 1959 г. у % |
|---|---|---|---|
| | 1939 | 1959 | 1939 г. |
| 1. Менск | 237 | 509 | 215 |
| 2. Гомель | 139 | 168 | 121 |
| 3. Віцебск | 167 | 148 | 89 |
| 4. Магілеў | 99 | 122 | 122 |
| 5. Бабруйск | 84 | 98 | 116 |
| 6. Берасьце | 41 | 74 | 178 |
| 7. Горадзень | 49 | 73 | 148 |
| 8. Ворша | 54 | 64 | 120 |
| 9. Барысаў | 49 | 59 | 121 |
| 10 Баранавічы | 27 | 58 | 212 |

[46] Тамсама, б. 35—44.



Зь лічбаў працэнтнага росту местаў Беларускае ССР за 20 міжперапісных гадоў можна бачыць, што, нягледзячы на вялізарныя ваенныя зьнішчэньні, усе месты ня толькі дасягнулі сваіх даваенных лікаў жыхарства, але іх і перавысілі. Выняткам з гэтага гледзішча ёсьць толькі адзін Віцебск, які ў 1939 годзе меў 167 000, а цяпер усяго 148 000, ці 89% даваеннага. Калі, аднак-жа, прыраўнаць тэмпа росту местаў Беларускае ССР да такога-ж тэмпа ў іншых рэспубліках СССР, дык выяўляецца, што яно ў Беларусі значна павальнейшае, на што паказвалі ўжо й раней пададзеныя нізкія працэнтныя лічбы росту меставога жыхарства ў Беларускай ССР. Вынятак у гэтым правіле станавілі толькі Менск дый месты былое Заходняе Беларусі — Баранавічы, Берасьце й Горадзень.

Асабліва шпаркім тэмпам росту адзначыўся Менск. Зь места вялічыні ніжэй чверці мільёна ў 1939 годзе, ён падняўся да рангі местаў вышэй поўмільёна. Можна падаць колькі прычынаў гэтага хуткага паваеннага росту Менску. Адна зь іх, гэта значнае ўзбуйненьне Беларускае ССР, сталічным адміністрацыйным цэнтрам якое ёсьць Менск. У выніку далучэньня да Беларускае ССР у часе Другое Сусьветнае Вайны земляў былое Заходняе Беларусі, ранейшая тэрыторыя рэспублікі павялічылася на 60%, і блізу на толькі-ж падняўся лік жыхарства. Гэты факт, бясспрэчна, мусіў адбіцца на раптоўным росьце адміністрацыйнага цэнтру рэспублікі, асабліва ў сыстэме гэтак выбуялае адміністрацыйнае бюракрацыі, якою ёсьць савецкі палітычны рэжым дый савецкі эканамічны лад. Шпаркі рост Менску — адбітак гэтага. Гэта непрапарцыянальна вялікая савецкая бюракратычная галава, што выбуяла на целе мала індустрыялізаванага дый слаба ўрбанізаванага краю.

Прычына другая, гэта тое, што ў выніку падзеяў і пераменаў Другое Сусьветнае Вайны Менск апынуўся на асабліва важным, бадай найважнейшым камунікацыйным шляху між імпэр'яльным цэнтрам Масквою, самою імпэрыяй, дый цэнтральнаю Эўропаю, дзе сяньня савецкія акупацыйныя арміі дый сатэлітныя дзяржавы. Эканамічныя й палітычныя сувязі зь імі, а таксама з краямі вольнымі Заходняе Эўропы, адбываюцца сяньня галоўна праз тэрыторыю Беларусі й Менск. Гэта, бязумоўна, адбілася таксама на росьце паваеннага Менску, як важнага камунікацыйна-транзытнага вузла імпэрыі на шляху ў цэнтральна-заходнюю Эўропу. Значна меншага значэньня для росту Менску быў трэйці факт — закладзіны ў ім колькі большых хвабрыкаў, як трактарнага дый аўтамабільнага заводаў.

Разглядаючы пералік местаў Беларускае ССР, кідаецца ў вочы, што на землях былое Заходняе Беларусі, якія сяньня ў складзе рэспублікі, няма аніводнага места ў раньзе больш ста тысячаў. Усе чатыры месты рэспублікі гэтае рангі, й дарастаючае пятае, Бабруйск, знайходзяцца на тэрыторыі старой, даваеннай БССР. Сталася гэта таму, што абодва большыя гаспадарчыя й культурныя гістарычныя меставыя цэнтры Заходняе Беларусі, — і Вільню, і Беласток, — Масква адрэзала ад тэрыторыі рэспублікі. Вільня яшчэ ад кастрычніка 1939 году была перададзеная Летуве, а Беласток, абвешчаны сталічным местам Заходняе Беларусі ў гадох 1939-1941, пры канцы апошняе сусьветнае вайны быў пераказаны новапаўсталай сатэлітнай Польшчы. У выніку, заходнія прасторы сучаснае Беларускае ССР аказаліся адрэзанымі ад сваіх натуральных гістарычна разьвітых, культурных і гандлёва-прамысловых асяродкаў. У Вільні перапіс 15 студзеня 1959 году вы-

казаў 236 000 жыхароў. Беласток, ваяводзкі цэнтр сучаснае Польшчы, у тым-жа часе меў 116 000 жыхароў.

Магчыма, што ў шпарчэйшым росьце местаў былое Заходняе Беларусі — Берасьця, Горадні дый Баранавічаў, — у некаторай ступені зазначыўся працэс кампэнсацыйнага іх павялічэньня на месцы страчаных натуральных меставых асяродкаў тэрыторыі, Вільні ды Беластоку. Галоўнаю, аднакжа, прычынаю хуткага росту местаў заходніх акругаў рэспублікі быў, бясспрэчна, працэс саветызацыі новазанятых Масквою тэрыторыяў, зь неадлучнаю ў дадзенай сыстэме бюракратызацыяй адміністрацыйнага й гаспадарчага апарату. На ўсходніх землях гэтая бюракратызацыя адбылася ўжо значна раней, на заходніх-жа ў паваенныя гады міжперапіснага пэрыяду, што й праявілася ў шпарчэйшым росьце местаў заходніх акругаў рэспублікі. Факт раптоўнага росту Менску ды колькі меншых заходнябеларускіх адміністрацыйна-камунікацыйных цэнтраў не мянае аснаўное агульнае тэндэнцыі паваеннага разьвіцьця местаў Беларускае ССР: павольнага тэмпа іх росту калі прыраўнаць яго да сярэдняга тэмпа росту местаў у іншых рэспубліках СССР. Часткова павольны тэмп росту местаў Беларусі — вынік вялікіх іх зьнішчэньняў у часе Другое Сусьветнае Вайны. Дый галоўная прычына — савецкая штучная дэпапуляцыя тэрыторыі рэспублікі масавымі дэпартацыямі й высяленьнямі.

## ЛІЧБЫ НАТУРАЛЬНАГА РУХУ ЖЫХАРСТВА

Разам зь некаторымі агульнымі дадзенымі перапісу 1959 году ЦСУ апублікавала й сярэднія лічбы натуральнага руху жыхарства для ўсяго СССР на час перапісу. Ніякіх, нажаль, публікацыяў такіх-жа лічбаў па рэспубліках ЦСУ не дала, дзеля гэтага няма іх і для Беларускае ССР. Не падаюць ніякіх сучасных лічбаў натуральнага руху жыхарства на тэрыторыі Беларускае ССР і менскія паваенныя статыстычныя публікацыі,[47] як не падавалі іх і ў міжваенную пару ад 1928 году. Пададзеныя ЦСУ сярэднія лічбы натуральнага руху жыхарства для ўсяго СССР на час перапісу гэткія: на 1000 жыхароў больш 25 нараджэньняў у год і 7,5 памерлых, што дае лічбу натуральнага гадавога прыросту 17,5 на 1000. Пры сталых масавых вывазах рэпрадукцыйна найбольш вартаснага жыхарства, трэба дапускаць, што ў Беларускай ССР лічбы нараджэньняў, а разам і лічбы натуральнага прыросту істотна ніжэйшыя за сярэднія ўсяго СССР, а лічбы сьмяротнасьці вышэйшыя. Калі-ж яны аказаліся-б і прыблізна тае-ж вышыні, дык трэба адцеміць вялікі спад лічбы нараджэньняў, якая й на пачатку гэтага стагодзьдзя, і ў першую дэкаду міжваеннае пары на тэрыторыі ўсяе Беларусі трымалася каля 40 на 1000 у год.

ЦСУ, прыводзячы лічбы натуральнага руху, між іншым, піша: «у паваенныя гады былі рэалізаваныя меры па далейшым павялічэньні матар'яльнай помачы цяжарным жанчынам, шматдзетным і адзінокім маткам, заахвочваньню да шматдзетнасьці, узмацненьню аховы мацярынства й дзяцей, разьвіцьцю аховы здароўя й узмацненьню мэдыцынскай помачы жыхарству. Гэтыя мерапрыемствы й нясупынны рост дабрабыту савецкага народу забясьпечылі высокую нараджальнасьць . . .».[48] Наўсуперак гэтаму вось цьверджаньню ЦСУ, у Беларускай ССР, як і ўва ўсім СССР, сучасная лічба нараджэньняў сьветчыць не аб яе вышыні, а аб вялікім спадзе, спадзе з 40 да 25 на тысячу, ці на 37,5% ад сярэдняе для тэрыторыі ў спакойныя гады першых трох дэкадаў XX стагодзьдзя. У савецкай палітычнай сыстэме, дзе публікуецца блізу вылучна толькі тое, што выдаецца дадатнім з гледзішча партыйнае камуністычнае прапаганды, яўны яскравы спад лічбы нараджальнасьці у СССР быў аднэй з прычынаў непублікаваньня доўгі час ніякіх лічбаў натуральнага руху жыхарства наагул. Толькі ў паваенную пару, калі адначасны значны спад сьмяротнасьці ізноў істотна павысіў лічбу натуральнага прыросту, ад 1950 году ЦСУ ўжо пачало публікаваць лічбы натуральнага руху жыхарства, але ізноў толькі сярэднія для ўсяго СССР, а не для паасобных рэспублікаў, каб не выяўляць дэтальней сваіх плянавых дэмаграфічных мерапрыемстваў па паасобных нацыянальных рэспубліках, накіраваных, як правіла, на лічбовае паслабленьне жыхарства нацыянальнасьці нерасейскай, а павялічэньне ліку жыхарства расейскага.

З пачаткам публікацыі лічбаў натуральнага руху ў гадавіках ЦСУ, ад 1956 году, перад савецкімі дэмграфамі паўстала нялёгкае заданьне вызсьніць дый з гледзішча марксізму ўматываваць факт сталага вялікага спаду нараджальнасьці ў «сацыялістычным грамадстве». Г. М. Максімаў высокія лічбы нараджальнасьці ў дасавецкую пару паясьняе «шырокім тарнаваньнем працы дзяцей і падросткаў у дробнатаварнай сялянскай гаспадарцы» дый тым, што «пры перадзелах прыдатнае да карыстаньня сялянскае зямлі быў браны на ўвагу лік ядуноў», і дзеля гэтага існавала «імкненьне сялянства да павялічаньня свае сям'і».[49] Дык цьверджаньне Максімава прызнае, што ў савецкім ладзе спад нараджальнасьці паясьняецца эканамічнай незацікаўленасьцяй сялянства ў дзецях і вялікай сям'і. Калі ходзе пра тэрыторыю Беларускае ССР, тут прыпушчэньне Максімава не адказвае запраўднасьці натолькі, што ў Беларусі ніколі ня існавала абшчыннае карыстаньне сялянскаю зямлёю дый не праводзілася ніякіх перадзелаў зямлі ані па ядунох, ані па ліку працуючых. Абшчынны лад, гэта чыста расейская форма землякарыстаньня, чужая для сялянства беларускае тэрыторыі. Тлумачэньне Максімава недастатковае яшчэ й дзеля гэтага, што спад нараджальнасьці ў СССР зазначыўся ня толькі сярод сялянскага жыхарства, але й сярод жыхарства меставога. Больш правільнае ягонае агульнае фармуляваньне прычынаў спаду лічбы нараджальнасьці словамі, што «Прынцыпы гэтага крыюцца ў сацыяльна-эканамічных умовах жыцьця краіны», а таксама ў «вялізарных перамяшчэньнях жыхарства». Дый усё гэта Максімаў тарнуе толькі да факту «крыху зьніжанае нараджальнасьці» пары г. зв. савецкае «рэканструкцыі 1930-х гадоў». Максімаў пару разоў падчырквае, што зьніжэньне гэтае было «часовым», «абумоўленым спэцыфічнымі абставінамі рэарганізацыйнага пэрыяду», а пра далейшы спад нараджальнасьці й у паваенную пару наагул нічога не ўспамінае, быццам яно ня існавала. Гавора ён, наадварот, аб «стабілізацыі» нараджальнасьці.[50]

Накш намагаецца падыйсьці да пытаньня, а навет яго прааналізаваць

---

[47] Прыкладам: Народное хозяйство Белорусской ССР за 40 лет.

[48] «Правда», «Известия», 10. 5. 1959.

[49] Г. М. Максимов — Движение и состав населения СССР. «История СССР», № 1, Академия Наук СССР. Институт Истории. Москва, 1961, б. 33.

[50] Тамсама, б. 34.

А. А. Дольская.[51] Найперш яна не хавае яўнага факту сталага спаду нараджальнасьці ў СССР. Паменшыць затое ягоную вагу Дольская стараецца цьверджаньнем, што «Сацыялістычнае грамадзтва змагаецца не за высокі ўзровень нараджальнасьці . . .».[52] Аналізуючы прычыны сталага спаду лічбы нараджальнасьці ў СССР, Дольская пералічае гэткія: 1) значнае працэнтнае зьніжэньне ліку сялянскага жыхарства СССР у вагульным ліку жыхарства краіны; 2) зьнішчэньне абшчыннае перадзельна-выраўноўваючай сыстэмы сялянскага землякарыстаньня дый пераход на калгасныя «працадні»; 3) памяншэньне ліку сужэнстваў і скарачэньне даўжыні рэпрадукцыйнага іх часу забаронаю раньніх, да 18 гадоў, сужэнстваў; 4) памяншэньне ліку сужэнстваў дзеля вялікіх ваенных стратаў жыхарства ў некаторых катэгорыях веку; 5) памяншэньне ліку сужэнстваў дзеля вялікіх ваенных стратаў мужчынаў і лічбовае непрапарцыянальнасьці жыхарства на полу; 6) вялізарныя перамены ў эканоміцы ў выніку індустрыялізацыі й калектывізацыі; 7) масавыя перамяшчэньні жыхарства, «часовы разрыў сямейнае лучнасьці»; 8) зьмены характару жаночае працы з хатняе на працу ў адлучэньні ад сям'і; 9) недастаткі ў жыльлі, грамадзкім харчаваньні, дзіцячых дый іншых грамадзкіх уладжаньнях; 10) рэзкі спад сьмяротнасьці дзяцей і ў выніку задаваленьне патрэбы сям'і ў дзецях; 11) распадзел грамадзкіх даброт паводля працы, а не па патрэбе; 12) рост дабрабыту некаторых слаёў жыхарства, у выніку чаго адпадае патрэба ў дзецях, як у работніках і карміцелях на старасьць; 13) «павышэньне культуры й вызваленьне часьці жыхарства ад існуючага яшчэ ўплыву рэлігійных догмаў, што забараняюць нутрасямейную рэгуляцыю цяжарнасьці й радоў».[53]

Пералік Дольскаю прычынаў, дзеля чаго ў савецкім «сацыялістычным грамадзтве» лічба нараджэньняў рэзка спала й далей падае, хоць і ня поўны, але не малы, і ён паказвае на тое, што зьява гэтая не часовая й прыпадковая, а сталая прыкмета савецкага ладу, — гэта адзін з «сацыялістычных законаў народанасяленьня».

Сярод пералічаных прычынаў спаду нараджальнасьці ў СССР, Дольская, як і іншыя савецкія дэмографы, не падае аднае вельмі важнае й характэрнае для пары Сталінскае дыктатуры: масавага палітычнага тэрору й дэпартацыяў у канцэнтрацыйныя лягеры. Толькі мо' укосна Дольская намякае пра гэта ў сваей фразе пра «часовы разрыў сямейнае лучнасьці».[54] Куды выразьней пра гэта гавора ўжо Максімаў: «заўзяты супраціў клясавых ворагаў, і асабліва кулацтва, — усё гэта . . . прывяло да зьніжэньня нараджальнасьці».[55]

У наяўнасьці факту вялікага сталага спаду лічбы нараджальнасьці, савецкае партыйнае й дзяржаўнае кіраўніцтва рабіла ня мала захадаў, каб гэты непажаданы сабе працэс адвярнуць або, найменш, стрымаць. У 1936 годзе Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам і Саветам Народных Камісараў СССР была прынятая пастанова пра ўвядзеньне пакараньня як за крымінальны праступак за выкананьне аборту без адпаведных лекарскіх паказаньняў. Вынік гэтае пастановы аказаўся невялікім. У 1935 годзе нараджальнасьць у СССР была 30,1, у 1940 годзе — 31,7 на 1000 жыхароў.[56] Калі ў паваенную пару адбываўся далейшы спад нараджальнасьці, указам прэзыдыюму вярхоўнага савету СССР з 23 лістапада 1955 г. забарона абортаў была ізноў скасаваная, дый ізноў бязь ніякага паважнейшага ўплыву на самую лічбу нараджальнасьці ў СССР, паказваючы савецкаму кіраўніцтву яўны факт, што працэс сталага спаду нараджальнасьці ў «сацыялістычным грамадзтве» не паддаецца рэгуляцыі ані дзяржаўнымі, ані партыйнымі «ўказамі».

Засталіся бяз вынікаў і іншыя мерапрыемствы савецкае ўлады, накіраваныя на стымуляцыю павышэньня нараджальнасьці, як абкладаньне падаткам сужэнстваў бязьдзетных ад 20-га году іх веку, прэміі шматдзетным маткам за кажнае новароджанае дзіцё, пачынаючы ад трэйцяга, дый штомесячныя дзяржаўныя дапамогі, пачынаючы ад кажнага чацьвертага дзіцяці. Адначасна шматдзетным маткам былі ўстаноўленыя ганаровыя дыплёмы «Маці-гераіні», ордэны «Мацярынская слава» і «Мэдалі мацярынства». Таксама было забаронена ня прыймаць жанчынаў на працу дзеля іх цяжарнасьці, ці зьніжаць ім дзеля гэтага заработную плату. Працуючым-жа цяжарным даваліся платныя звальненьні з працы на час радоў дый у перадрадавы пэрыяд цяжарнасьці. Для кормячых матак былі ўстаноўленыя перапынкі ў працы для кармленьня іх дзяцей.

На патрэбу павышэньня нараджальнасьці налягала ўвесь час і партыйная прапаганда. Хрушчоў на нарадзе камсамольцаў і моладзі зьвярнуўся ў гэтай справе з канкрэтным заклікам: «Калі кажная сям'я будзе абмяжоўвацца адным-двумя дзяцьмі, тады жыхарства нашай краіны пойдзе на ўбытак . . . Дзеля гэтага трэба мець у сям'і хоць-бы трое дзяцей . . .»[57] Дый, як факты статыстыкі паказалі, нягледзячы на ўсе захады й мерапрыемствы, і наўсуперак агітацыі і заклікаў самых высокіх партыйных кіраўнікоў, нараджальнасьці ў СССР, як дагэтуль, не ўдалося ані павысіць, ані навет стрымаць яе далейшага спаду. Камуністычнае кіраўніцтва імпэрыі ў канцы, відаць, пераканалася, што лічба нараджальнасьці не паддаецца агітацыі, прапагандзе, ані партыйным ці дзяржаўным заклікам. У выніку ўсяго, у сярэдзіне 1950-х гадоў былі дазволеныя публікацыі лічбаў натуральнага руху жыхарства СССР з паказаньнем нізкіх лічбаў нараджэньня, а савецкія дэмографы, як А. А. Дольская, ужо ў 1959 годзе прабавалі аналізаваць і прычыны спаду нараджальнасьці, дамагаючыся «ацэны гэтага факту з гледзішча заданьняў савецкага грамадзтва».[58] Дык, хоцькі-няхоцькі, факт спаду лічбы нараджэньняў у СССР і савецкім дэмографам даводзіцца прызнаць за адну з «аснаўных законамернасьцяў разьвіцьця народанасяленьня СССР» паводля тэрміналёгіі Максімава, ці ўвесьці ў свой «сацыялістычны закон народанасяленьня» паводля азначэньня Дольскай.

У выніку вялікага спаду нараджальнасьці у СССР панізілася істотна й гадавая лічба натуральнага прыросту. Калі пададзеная ЦСУ на час перапісу лічба 17,5 на тысячу тарнуецца й для Беларускае ССР, дык тут яна ніжэйшая на 2,5 ад тыповае сярэдняе для тэрыторыі ў спакойныя неваенныя гады ў першыя тры дэкады XX стагодзьдзя. Пры праводжаньні сталых

[51] А. А. Дольская. Социалистический закон народонаселения. Москва, 1959.
[52] Тамсама, б. 127.
[53] Тамсама, б. 130.
[54] Тамсама, б. 125.
[55] Г. М. Максимов — Движение и состав населения СССР, б. 34.

[56] А. А. Дольская — Социалистический закон народонаселения, б. 126.
[57] Тамсама, б. 129.
[58] Тамсама, б. 132.

масавых перасяленьняў з тэрыторыі рэспублікі кантынгэнтаў жыхарства найперш маладога й рэпрадукцыйна найбольш актыўнага, трэба лічыцца з магчымасьцяй значна ніжэйшае лічбы натуральнага прыросту ў рэспубліцы за сярэднюю для ўсяго СССР.

Адцеміць затое трэба нізкую сярэднюю для СССР лічбу сьмяротнасьці — 7,5 на 1000 у часе перапісу. Нізкая лічба сьмяротнасьці дае рэлятыўна высокую лічбу натуральнага прыросту жыхарства СССР, нягледзячы на вялікі спад нараджальнасьці. Калі гэтая лічба адказвае запраўднасьці, дык у яе нізкой вышыні адбіваецца ня толькі поступ у галіне аховы здароў'я й лячэньня на прасторы паваеннага СССР, спыненьне масавага тэрору, некаторае палепшаньне ўмоваў быту, але й той факт, што ў мінулыя цяжкія гады Сталінскае дыктатуры, сталых эканамічных нястачаў дый ваенных нягодаў вялікія масы старых і фізычна слабейшых вымерлі, выжылі больш вытрываліся фізычна, здаравейшыя. Гэта й адбіваецца цяпер у часова нізкіх паваенных лічбах сьмяротнасьці ў СССР. На гэта, як на прычыну сучаснае нізкое сьмяротнасьці ў СССР, паказваюць і дэмаграфы захаду,[59] хоць дэмаграфы савецкія, бясспрэчна важны для разьвіцьця жыхарства СССР масавы тэрор Сталінскае пары, адмаўляюцца браць на ўвагу як дэмаграфічны фактар наагул.[60]

Непублікаваньне савецкімі афіцыйнымі дзейнікамі ніякіх лічбаў натуральнага руху жыхарства па рэспубліках, ані адначасна з публікацыяй дадзеных перапісу, ані паза імі, у гадавіках ЦСУ ці ў адпаведных рэспубліканскіх статыстычных выданьнях, паказвае на яўную намеранасьць гэтага. Наяўнасьць лічбаў натуральнага руху жыхарства па рэспубліках пазваляла-б дакладней аблічыць у іх лічбовыя памеры ўсіх масавых дэпартацыяў і прымусовых перасяленьняў жыхарства, падобных тым, якія апошнімі гадамі стала праводзіцца з тэрыторыі Беларускае ССР. Гэта давала-б аснову для лепшае лічбовае ар'ентацыі ў плянах і намерах, якімі кіруецца Масква пры перамяшчаньні людзкіх масаў імпэрыі шляхам прымусовае міграцыі. Гэта-ж, ізноў-жа, яўна зусім не ляжыць у інтарэсе сучасных кіраўнікоў расейскага савецкага рэжыму імпэрыі й дзеля гэтага яны факты гэтыя намагаюцца скрыць і перад вокам сьвету, і перад жыхарамі імпэрыі, дый асабліва — перад самымі нерасейскімі народамі СССР.

## ПАДЗЕЛ ЖЫХАРСТВА ПАВОДЛЯ ПОЛУ Й ГРУПАЎ ВЕКУ

І ў галіне падзелу жыхарства паводля полу дый групаў веку публікацыі ЦСУ вынікаў усесаюзнага перапісу 1959 году, як дагэтуль, таксама не падаюць ніякіх лічбаў па паасобных рэспубліках, а толькі сярэднія для ўсяго СССР.

Паводля ЦСУ, на тэрыторыі СССР перапіс на пачатку 1959 году выявіў 55% жанчынаў і 45% мужчынаў. У 1939 годзе прапорцыя гэтая выяўлялася лічбамі: жанчынаў 52%, мужчынаў 48%. Як паясьняе ЦСУ, дыспрапорцыя лічбаў жыхарства паводля полу паўстала ў выніку вялікае розьніцы ў лічбах мужчынаў і жанчынаў у групах веку вышэйшых за 32 гады.

[59] Erik Boettcher. Die Sowjetische Wirtschaftspolitik am Scheidewege. Tübingen, 1959, b. 26.

[60] Г. М. Максимов — Движение и состав населения СССР, б. 29.



У групах маладзейшага веку лічбовы расклад жыхарства паводля полу прыблізна роўны, зь невялікаю перавагаю мужчынаў над жанчынамі, перавагаю агульнае вышыні 240 000.[61] У другой сваей публікацыі, пад параграфам 10-м ЦСУ падае дадзеныя прапарцыянальнага ліку мужчынаў і жанчынаў паводля паасобных групаў веку для ўсяго СССР у ліках на 1000 жыхароў.[62] Лікі гэтыя пададзеныя ў таб. 12.

**Табл. 12: Лік жанчынаў і мужчынаў на 1000 жыхароў па групах веку ўва ўсім СССР паводля стану на 15 студзеня 1959 г.**

| Групы веку | Роджаныя ў гадох | На 1000 жыхароў прыпадае Мужчынаў | Жанчынаў |
|---|---|---|---|
| 0 — 9 год | 1958 — 1949 | 509 | 491 |
| 10 — 19 „ | 1948 — 1939 | 505 | 495 |
| 20 — 24 „ | 1938 — 1934 | 494 | 506 |
| 25 — 29 „ | 1933 — 1929 | 490 | 510 |
| 30 — 34 „ | 1928 — 1924 | 453 | 547 |
| 35 — 39 „ | 1923 — 1919 | 391 | 609 |
| 40 — 44 „ | 1918 — 1914 | 384 | 616 |
| 45 — 49 „ | 1913 — 1909 | 384 | 616 |
| 50 — 54 „ | 1908 — 1904 | 384 | 616 |
| 55 — 59 „ | 1903 — 1899 | 334 | 666 |
| 60 — 69 „ | 1898 — 1889 | 349 | 651 |
| 70 і старэйшыя | 1888 — | 319 | 681 |
| Усяго | | 450 | 550 |
| У гэтым ліку ў веку: | | | |
| 0 — 31 год | | 501 | 499 |
| 32 год і старэйшыя | | 375 | 625 |

За прычыну вялікае дыспрапорцыі ў лічбах мужчынаў і жанчынаў веку старшага за 32 гады ЦСУ падае войны, а галоўна апошнюю сусьветную вайну. Гэтае паясьненьне, аднак-жа, не раскрывае ўсяе праўды. Другім і вельмі важным фактарам спрычыніўшым дыспрапорцыю быў тэрор савецкага рэжыму ў пару Сталінскае дыктатуры. Масавыя прасьледы, фізычныя нішчэньні «ворагаў народу», «кулакоў», «буржуазных нацыяналістых», масавыя дэпартацыі й ссылкі іх у канцэнтрацыйныя лягеры на фізычнае зьнішчэньне, — заўсёды больш тарнаваліся да мужчынаў, як жанчынаў, хоць агульна ведама, што палітычнаму прасьледу й дэпартацыям ня раз падлягалі й цэлыя сем'і, разам зь цяжарнымі жанчынамі, старымі, дзецьмі дый сысункамі. Пацьвярджае факт палітычнага тэрору як фактару спрычыніўшага павышэньне дыспрапорцыі лічбаў паводля полу, й наступнае: гадавік ЦСУ на 1959 год падае, што паводля перапісу 1926 году мужчынаў у СССР тады было 48%, жанчынаў 52%. Дыспрапорцыю гэтую можна паясьняць стратамі Першае Сусьветнае Вайны дый вайны грамадзянскае. Як, аднак-жа, той-жа гадавік там-жа падае,[63] і перапіс 1939 году выказаў дакладна тую-ж дыспрапорцыю — 48% мужчынаў, 52% жанчынаў. Нармальна за 12 міжперапісных неваенных гадоў, у часе 1927-1938, трэба было-б спадзявацца ўжо істотнага выраўнаньня дыспрапорцыі. Калі-ж яно не на-

[61] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 12.

[62] «Правда» і «Известия», 4. 2. 1960. Таксама ў: Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 12.

[63] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 12.

ступіла, гэта сьветчыць, што ў міжперапісныя гады мусіла існаваць нейкая прычына значна вышэйшае сьмяротнасьці мужчынаў за жанчынаў. Прычыну гэтую дае нам гісторыя: Сталінскі тэрор 1930-х гадоў.

З гэтага-ж гледзішча цікава зьвярнуць увагу й на катэгорыю веку 55-59 гадоў, катэгорыю, якая выказвае асабліва нізкую лічбу мужчынаў: усяго 334 на 666 жанчынаў, што практычна значыць, што ў гэтай групе веку на дзьве жанчыны выжыў толькі адзін мужчына. Як табл. 12 паказвае, асобы гэтай групы радзіліся ў гадох 1903-1899. З пачаткам Першае Сусьветнае Вайны мужчыны ў гэтых гадох дайшлі да веку 11-15 год., а зь яе канцом да веку 15-17 год, значыцца былі яшчэ ў веку немабілізацыйным, і дзеля гэтага Першая Сусьветная Вайна не магла адбіцца на нізкім ліку мужчынаў гэтых гадавікоў. Крыху пацярпець яны маглі ўжо затое пазьней ад рэвалюцыі, грамадзянскае вайны дый вызвольных змаганьняў народаў імпэрыі. Пры пачатку Другое Сусьветнае Вайны гадавікі гэтае групы веку мелі ўжо 35-40 год, значыцца былі ў мабілізацыйным веку, хоць і не належылі да катэгорыі, у якой можна было-б спадзявацца найбольшых стратаў. Паколькі мужчыны гэтых гадавікоў маглі браць удзел толькі ў ваднэй, — Другой, — сусьветнай вайне, дык лягічна й ваенныя страты сярод іх павінны быць ніжэйшыя за страты гадавікоў крыху старэйшых, якія маглі быць удзельнікамі абедзьвюх сусьветных войнаў. Дык найвышэйшыя страты сярод гэтых якраз гадавікоў ваеннымі прычынамі не даюцца вытлумачыць [?] — 

ясьніць. Будуць аднак-жа яны зразумелымі, калі зьвернем увагу на факт, што гэтая акурат група веку перажыла сваю сталасьць у гады самага жорсткага Сталінскага тэрору 1930-х гадоў.

Калі, дзеля адсутнасьці адпаведных лічбаў для Беларускае ССР, дапусьціць, што прапорцыя мужчынаў і жанчынаў сярод жыхарства рэспублікі сяньня прыблізна такая самая, як і ўва ўсім СССР, тады кругла 8 мільёнаў сучаснага жыхарства Беларускае ССР складалася-б з 3 600 000 мужчынаў і 4 400 000 жанчынаў. Практычна гэта значыла-б, што на кажных 11 жанчынаў прыпадала-б толькі 9 мужчынаў. Дый у запраўднасьці на тэрыторыі Беларускае ССР трэба лічыцца з значна большаю дыспрапорцыяй полаў. На гэта існуе колькі паважных прычынаў. Папершае, у адваротнасьці некаторым іншым рэспублікам СССР, тэрыторыя Беларускае ССР была ўся гадамі ахопленая **беспасярэднімі** дзеяньнямі Другое Сусьветнае Вайны й дзеля гэтага дазнала асабліва вялікіх стратаў жыхарства, і, у першую чаргу, стратаў сярод мужчынаў. Падругое, савецкі тэрор забіраў тут значна больш ахвяраў, як прыкладам у Расеі, бо расейска-бальшавіцкі рэжым у Беларусі ня толькі змагаўся з «ворагамі народу» пад палітычнымі ці сацыяльнымі лёзунгамі, але й у роўніцы нацыянальнай. Колькі разоў на тэрыторыі рэспублікі праводзіліся масавыя арышты й дэпартацыі за «нацыянальныя ўхілы» — за «нацыянал-дэмакратызм», за «буржуазны нацыяналізм». Гэтакія прасьледы беларускага нацыянальнага элемэнту ў беларускай-жа рэспубліцы асабліва масава праводзіліся ў гадох 1930, 1933, 1936-37, 1940-41 (у Заходняй Беларусі), у паваенныя гады. Масавых дэпартацыяў дзеля гэтых прычынаў тэрыторыя Расеі ніколі ня мела, там за нейкі расейскі «нацыяналізм» ніякіх рэпрэсіяў расейскі камуністычны рэжым не праводзіў. Патрэйцяе, — як выяўляе й перапіс 1959 году, дэпартацыі й перасяленьні жыхарства з тэрыторыі Беларускае ССР былі найбольшыя, асабліва ў паваенную пару, а яны таксама краналі



лічбова больш мужчынаў, як жанчынаў. Тое самае трэба сказаць і аб палітычных уцекачох. Сярод беларускае эміграцыі лічбова мужчыны пераважаюць значна лік жанчынаў. Вось усе вышэй пералічаныя факты прамаўляюць за тым, што на тэрыторыі Беларускае ССР трэба лічыцца з фактам значна вышэйшае дыспрапорцыі полаў, як гэта ёсьць у сярэднім на прасторы ўсяго СССР.

Беспасярэднім вынікам значнае лічбовае дыспрапорцыі полаў ёсьць і дыспрапорцыя лічбаў сужэнства мужчынаў і жанчынаў. Паводля ЦСУ, перапіс выказаў, што на пачатку 1959 году на прасторы СССР прыпадала ў год 12 сужэнстваў на 1000 жыхароў.[64] Аднак-жа на 1000 мужчынаў старэйшых за 16 год, у 1959 годзе ў сужэнстве было 695, калі на 1000 жанчынаў у тымсамым часе й веку ў сужэнстве было ўсяго 522.[65] Істотна будзе тут адцеміць, што падобная дыспрапорцыя паводля полу ў лічбах сужэнстваў выступала яскрава й перад выбухам Другое Сусьветнае Вайны, ужо ў 1939 годзе, калі на 1000 мужчынаў у сужэнстве было блізу столькі-ж, што й цяпер, бо 690, а тымчасам на 1000 жанчынаў было ў сужэнстве тады толькі 605, ці менш на 85 за мужчынаў.[66] І гэты факт паказвае на тое, што важным фактарам у сучаснай вялікай лічбовай дыспрапорцыі паводля полу жыхарства СССР былі ня толькі войны, але й доўгатрывалы масавы савецкі тэрор Сталінскае пары.

## ЗЬМЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СКЛАДУ ЖЫХАРСТВА БЕЛАРУСКАЕ ССР

Склад па нацыянальнасьці жыхарства СССР і паасобных яго рэспублікаў, паводля стану ў часе ўсесаюзнага перапісу 15 студзеня 1959 году, першы раз быў апублікаваны ЦСУ 4 лютага 1960 году.[67] У гадавіку ЦСУ на 1959 год лічбы нацыянальнага складу пададзеныя таксама, дый зь некаторымі зьменамі ў іх вялічыні, праўдападобна ўдакладненьнямі. Паводля дадзеных гадавіка ЦСУ, нацыянальны склад жыхарства Беларускае ССР у часе перапісу 1959 году выглядаў так, як паказана на таб. 13.[68]

**Табл. 13: Нацыянальны склад жыхарства Беларускае ССР паводля перапісу 15 студзеня 1959 году**

| Нацыянальнасьць | Лік у тысячах | У % усяго жыхарства |
|---|---|---|
| Беларусы | 6 532 | 81,1 |
| Расейцы | 659 | 8,2 |
| Палякі | 539 | 6,7 |
| Жыды | 150 | 1,9 |
| Украінцы | 133 | 1,7 |
| Іншыя | 42 | 0,5 |
| **Усяго** | **8 055** | **100,0** |

[64] «Правда» і «Известия», 10. 5. 1959.
[65] «Правда» і «Известия», 4. 2. 1960.
[66] Тамсама.
[67] Тамсама.
[68] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 17.

У публікацыях ЦСУ апошняе групы — «Іншыя» — не падаецца. Паколькі, аднак-жа, сума лічбаў для пяці пералічаных ЦСУ нацыянальнасьцяў становіць 8 013 000, з гэтага вынікае, што на дробныя нацыянальныя групы павінна прыпадаць 42 000, што, ізноў-жа, становіць ня 0,4% усяго жыхарства рэспублікі, як выпадала-б з сумы працэнтных лічбаў ЦСУ для іншых, пералічаных, нацыянальнасьцяў, а 0,5%. Розьніца паўстае дзеля таго, што працэнтныя лічбы ЦСУ не дакладныя, а закругленыя да дзесятых. Новыя перапісныя — працэнтныя й абсалютныя — лікі нацыянальнага складу жыхарства Беларускае ССР, калі прыраўнаць іх да падобных лікаў пары міжваеннае й ранейшых, у некаторых нацыянальных групах выяўляюць вялікія зьмены.

## I. Беларусы

Апублікаваныя ЦСУ дадзеныя перапісу 15 студзеня 1959 году падаюць Беларусаў на тэрыторыі свае Беларускае ССР 6 532 000, ці 81,1% усяго жыхарства.[69] Для часу 20 год раней, для пачатку 1939 году, нейкіх дакладных **перапісных** лічбаў ліку Беларусаў для ўсей сучаснай тэрыторыі рэспублікі ня існуе, паколькі польская перапісная статыстыка па нацыянальнасьці на прасторы Заходняе Беларусі, нагінаная для польскіх мэтаў палітычных, калі ходзіць аб Беларусаў, не адказвала фактычнаму стану на толькі, што з дадзенымі яе ня лічыліся паважна й польскія дасьледнікі.[70] Існуюць затое дакладныя статыстычныя лікі па нацыянальнасьці для тэрыторыі даваеннае Беларускае ССР з часу першага ўсесаюзнага савецкага перапісу 17 сьнежня 1926 году. Перапіс гэты выказаў на тэрыторыі тагачаснае рэспублікі 80,6% Беларусаў. Калі прыраўнаць гэтую лічбу да выказанае сучасным перапісам 81,1%, дык можна бачыць, што на працягу мінулых трох дзесяцігодзьдзяў працэнтна Беларусы захавалі сваю пазыцыю, а навет быццам яе крыху й узмоцнілі, нягледзячы на масавыя савецкія дэпартацыі. Павялічэньне гэтае, аднак-жа, ня трэба прыпісваць нейкаму большаму натуральнаму прыросту сярод жыхароў рэспублікі Беларусаў, хоць і яно магло быць. Паўстала яно галоўна дзеля вялікага працэнтнага абніжэньня жыхарства рэспублікі некаторых іншых нацыянальнасьцяў, прыкладам Жыдоў.

Дык у гадох 1959 і 1926 працэнтны лік Беларусаў у рэспубліцы трымаўся на той самай вышыні, каля 80%. Паводля савецкае афіцыйнае ацэны, і на заходніх частках тэрыторыі рэспублікі, былых землях Заходняе Беларусі, пасьле іх улучэньня ў БССР, «Беларусы складалі больш 80% жыхарства».[71] Бяручы гэта на ўвагу, можна прыняць працэнтную лічбу 80 за выходную для абазначэньня прыблізнага ліку Беларусаў на ўсей сучаснай тэрыторыі рэспублікі, але паводля стану на пачатку 1939 году. Паколькі, як раней падавалася, агульны лік жыхарства сучаснае тэрыторыі Беларускае ССР на пачатку 1939 году аблічэньнем быў азначаны на 9 344 000, дык Беларусаў між імі, пры 80%, павінна было на той час быць прыблізна 7 475 000. Блізу дакладна такую-ж лічбу на той-жа час, бо 7 466 000, падае й дэмограф П. Міраненка.[72]

З прыраўнаньня лічбаў жыхарства беларускае нацыянальнасьці рэспублікі ў 1939 годзе 7 475 000, а ў 1959 годзе 6 532 000, бачым, што недалік за 20 міжперапісных гадоў жыхароў Беларускае ССР беларускае нацыянальнасьці выносіць высокую лічбу **943 000.** Дык, хоць працэнтна Беларусы на тэрыторыі рэспублікі й захавалі прыблізна свой стан, дык у вабсалютных ліках за міжперапісны пэрыяд яны згубілі 12,6% свайго ліку пачатку 1939 году. Трэба яшчэ мець наўвеце, што апрача страчаных 943 000 Беларусаў рэспублікі, быў страчаны разам і ўвесь дваццацігодні прырост беларускае нацыянальна часьці жыхарства. Калі гаварыць аб агульным ліку Беларусаў у СССР, дык трэба мець наўвеце, што значны лік Беларусаў знайходзіцца й паза тэрыторыяй Беларускае ССР, а таксама, што за межамі тае-ж рэспублікі апынуліся й вялікія абшары беларускае этнічнае тэрыторыі.

## 2. Расейцы

Расейская нацыянальная меншыня на тэрыторыі сучаснае Беларускае рэспублікі рэлятыўна нядаўнага паходжаньня, у кажным выпадку яна тут значна пазьнейшая за меншыню жыдоўскую й польскую, бо Расейцы першы раз у паважнейшым ліку на тэрыторыі паявіліся толькі каля пачатку XVIII ст., калі з Маскоўшчыны, ад рэлігійнага тамака прасьледу, у Вялікае Княства Літоўскае ўцякала тысячы раскольнікаў. На беларускіх землях раскольнікі знайшлі сабе супакой, прытулак, умовы да існаваньня й эканамічнага разьвіцьця, а галоўна — рэлігійную й нацыянальную свабоду. Народ празваў іх тут старавэрамі. Старавэрскія рэлігійныя грамады ў Беларусі праіснавалі да пачатку XX стагодзьдзя, а на заходніх яе частках — аж да Другое Сусьветнае вайны. У часе перапісу 1897 году на беларускай тэрыторыі жыло 26 647 старавэраў, бальшыня з чаго, бо 20 123 чалавек, знайходзілася ў Віцебскай губэрні, 2 878 было ў Магілеўскай, а 1548 у Віленскай.

Ад канца XVIII ст., пасьле распадзелу Рэчыпаспалітае й далучэньня тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага да Расейскае імпэрыі, пачынаецца сталы наплыў на тэрыторыю Беларусі жыхарства расейскае нацыянальнасьці, галоўна ў характары імпэр'яльнага адміністрацыйнага чынавецтва, а ў меншым ліку, у ролі ўладальнікаў большае зямельнае маемасьці, прыдзяляннае ім царскаю ўладаю з ранейшых дзяржаўных маёнткаў, ці зь земляў сканфіскаваных ад мясцовых земляўласьнікаў за іхнае варожае да Масквы настаўленьне. Гэткая практыка асабліва шырака тарнавалася пасьле супроцьрасейскіх паўстаньняў 1831 й 1863 гадоў. Царскаю ўладаю рабіцца спробы пасяленьня на тэрыторыі Беларусі й расейскіх сялян-каляністых, але вынікі гэтае акцыі аказаліся ніякія.

Нягледзячы на ўсе натугі расейскага царскага рэжыму ў кірунку каланізацыі расейскім жыхарствам тэрыторыі Беларусі, а таксама русыфікацыі мясцовага жыхарства беларускага, намаганьні гэтыя заставаліся бязь

---

[69] Тамсама.

[70] K. Srokowski. Sprawa narodowościowa na Kresach Wschodnich. Warszawa, 1925. St. Paprocki. Minority affairs in Poland. Warszawa, 1935. Яго-ж: Poland und das Minderheitenproblem. Warszawa, 1935, б. 100—101.

[71] БСЭ, т. 4. 1950, б. 476.

[72] Ю. П. Мироненко. Национальный состав населения СССР по данным советской статистики. «Вестник Института по изучению СССР», № 2, Мюнхен, 1958, б. 47.

нейкіх паважнейшых вынікаў. Насланы расейскі элемэнт або беларушчыўся ў вакружаючай беларускай народнай стыхіі, або проста адплываў з часам з тэрыторыі назад у Расею, дзеля таго, што чуўся чужа й няўтульна сярод адрознага сабе па псыхіцы, мове, звычаях і традыцыях, а ня раз і веры, жыхарства. З другога боку, зьведзеная расейскаю каляніяльнаю палітыкаю эканоміка краю да стану найбольш занапалае ўва ўсей імпэрыі, ня суліла насланым і ніякіх пэрспэктываў лёгкага дасяганьня дабрабыту, ці хоць-бы бястурботнага самастойнага бытаваньня. Вось дзеля гэтых прычынаў, нягледзячы на ўсе спробы й намаганьні царскае Масквы, расейская нацыянальная мяншыня на тэрыторыі сучаснае Беларускае ССР аж да часу Першае сусьветнае вайны лічбова ўзрастала паволі, і па сваім агульным ліку знайходзілася на трэйцім месцы, пасьля мяншыні жыдоўскае дый польскае. У міжваенную пару на тэрыторыі тагачаснае БССР адбываецца далейшы ўзрост ліку жыхарства расейскае нацыянальнасьці. Перапіс 1926 году выказвае ў межах тагачаснае Беларускае рэспублікі 383 806 Расейцаў, ці 7,7% ўсяго жыхарства. На землях Заходняе Беларусі, пад Польшчаю, у тым-жа часе працэнт расейскага жыхарства быў значна меншы, усяго 2%, што на пачатак 1939 году для тэрыторыі, якая пазьней увайшла ў склад сучаснае Беларускае ССР, дае прыблізную лічбу 75 000.

Як перапіс 1939 году паказаў, жыхарства тагачаснае БССР у часе ад перапісу 1926 году павялічалася у сярэднім ўсяго на 1% у год. Калі гэтую рату росту прыняць за аснову, дык на тэрыторыі тагачаснае рэспублікі з 383 806 Расейцаў 1926 году, на пачатку 1939 году павінна ўжо быць ня менш 430 000. А гэтая лічба, разам з 75 000 Расейцаў далучанае пазьней тэрыторыі Заходняе Беларусі, для ўсяе сучаснае тэрыторыі рэспублікі, але на пачатак 1939 году, дае лічбу **505 000,** ці кругла поўмільёна, што ў працэнтах усяго жыхарства складае 5,4%. ЦСУ, публікуючы першы раз тымчасовыя вынікі перапісу 1959 году па нацыянальнасьці, падало лік Расейцаў на тэрыторыі Беларускае ССР як 729 000, ці 9,2% усяго жыхарства.[73] У гадавіку ЦСУ на 1959 год лік гэты, аднак-жа, зьніжаны на цэлых 70 000 да **659 000,** што становіць **8,2%** жыхарства рэспублікі. Праўдападобна гэта й ёсьць канчаткова ўдакладненая лічба жыхарства расейскае нацыянальнасьці на тэрыторыі Беларускае ССР.

Пры гэтай нагодзе варта адцеміць факт, што, як вынікае зь лічбаў нацыянальнасьці пададзеных у гадавіку ЦСУ, і прыраўнаньня іх да папярэдня публікаваных лічбаў тымчасовых вынікаў перапісу тымсамым ЦСУ, пры першай публікацыі блізу ўва ўсіх рэспубліках СССР расейская нацыянальная група падаецца ў значна вышшых лічбах, і коштам нацыянальнасьцяў нерасейскіх. Разам па ўсім СССР у тымчасовых выніках было пададзена Расейцаў больш ледзь не на поўмільёна, бо на 474 000, ад таго, што перапіс у запраўднасьці выявіў. І гэткая вялікая розьніца-памылка ўверх здарылася блізу вылучна з аднэй расейскай нацыянальнасьцяй. Лікі, прыкладам, Жыдоў ці Палякаў засталіся й у другой публікацыі ЦСУ, у гадавіку, дакладна тыя-ж самыя. Як гэта можна, пры тымчасовым навет абліčаньні вынікаў перапісу, дайсьці да сталае памылкі ўверх ліку аднае, пануючае ў імпэрыі, нацыянальнасьці, — лягічна выясьніць ня лёгка. Факт гэты застаецца адным з сакрэтаў савецкае перапіснае тэхнікі. Паколькі перапіс 1959 году ўстанавіў для тэрыторыі Беларускае ССР лічбу Расейцаў

[73] «Правда» і «Известия», 4. 2. 1960.



у вышыні **659 000,** а, як мы бачылі з папярэдняга, на пачатку 1939 году на тэй-жа тэрыторыі было 505 000 Расейцаў, дык з супастаўленьня гэтых двух лічбаў вынікае, што ў часе, калі ўсё жыхарства рэспублікі выказвае дэфіцыт вышыні 1 279 000, ці 13,4%, расейская мяншыня можа наадварот пахваліцца, значным павялічэньнем свайго лічбовага стану на 154 000, ці на 30% папярэдняга свайго ліку. Гэтае павялічэньне, зразумела, магло адбыцца толькі шляхам сталага насыланьня Масквою ў межы Беларускае ССР Расейцаў, галоўна ў ролі кіруючага палітычнага й адміністрацыйна-гаспадарчага каляніяльнага апарату рэспублікі. Дарогаю русыфікацыі мясцовага беларускага жыхарства павялічэньне гэтае не магло паўстаць, бо-ж 20 гадоў, менш як век аднаго пакаленьня, — замалы адрэзак часу на паважныя лічбовыя зьмены гэтым шляхам. Супроць гэтага сьветчыць і захаваны працэнтны стан беларускага жыхарства рэспублікі ў вышыні больш 80%.

З розных гледзішчаў вельмі важна выясьніць, колькі за міжперапісныя гады гэтага расейскага жыхарства было ў межы рэспублікі накіравана. Калі лік жыхарства рэспублікі за 20 міжперапісных гадоў спаў на 13,4%, дык трэба дапусьціць, што й лік тых Расейцаў, што на пачатку 1939 году жылі на сучаснай тэрыторыі рэспублікі зь ліку 505 000, мусіў адпаведна зьнізіцца на 68 000, ці спасьці да лічбы 437 000 на пачатак 1959 году. Калі-ж замісь гэтага перапіс выказаў 659 000, ці на **222 000** больш, дык гэта й ёсьць тая нечаканая надвыжка Расейцаў, якая не даецца выясьніць нармальным натуральным прыростам, ці, гэта й будзе лік нова насланага расейскага жыхарства на тэрыторыю рэспублікі ўлучна зь нейкаю доляю паўсталага ў гэтым часе натуральнага ад яго прыросту. Практычна, насыланьне ў межы рэспублікі расейскага элемэнту магло ў дадзеным адрэзку часу адбывацца блізу вылучна ад рэакупацыі тэрыторыі рэспублікі ад нямецкае арміі ўлетку 1944 году, да часу перапісу 1959 году, значыцца на працягу чатырнаццаці з паловаю гадоў. Расейцаў, насыланых асабліва масава ў гадох 1939-1941 на новаакупаваныя землі былое Заходняе Беларусі можам практычна ня браць на ўвагу, паколькі пры нямецкім наступе ў пачатку савецка-нямецкае вайны ўсе насланыя ўцяклі з тэрыторыі. Калі цяпер падзелім 222 000 надвыжкі Расейцаў на час 14 з паловаю гадоў, дык атрымаем, што сярэдняя гадавая лічба іміграцыі расейскага жыхарства ў межы рэспублікі, разам з натуральным ад яго прыростам за гэты час, будзе ў гадавой вышыні 15 310, ці, у закругленьні, 15 000 чалавек. Гэта вельмі важная цыфра, бо гэта ня што іншае, як **сярэдні гадавы каафіцыент расейскае каляніза-цыі Беларускае рэспублікі ў гадох 1945-1958.**

Выяўленая перапісам надвыжка Расейцаў у межах рэспублікі ў вышыні 222 000 вельмі важная й зь іншага гледзішча, бо пазваляе нам удакладніць лічбу дэмаграфічнага дэфіцыту рэспублікі за 20 міжперапісных гадоў. Каб адзначыць гэты дэфіцыт, трэба ад выяўленага ліку жыхарства рэспублікі на час перапісу адняць лік імігрантаў, што ўехалі ў межы рэспублікі ў міжперапісным пэрыядзе. Паколькі іміграцыя складалася блізу вылучна з Расейцаў, дык выяўленая дэмаграфічная надвыжка ў расейскай нацыянальнай групе ў вышыні 222 000 і ёсьць прыблізнаю лічбаю гэтае іміграцыі. Адпаведная карэктура, на гэтай аснове, і была зробленая ў вадным з папярэдніх разьдзелаў гэтае працы, дзе аблічаецца дэмаграфічны дэфіцыт рэспублікі за 20 міжперапісных гадоў.

Працэнтная вага расейскага жыхарства рэспублікі за 20 міжперапісных

гадоў узрасла таксама істотна — з ранейшых 5,4% на пачатку 1939 году, да 8,2%, ці на 2,8%. У выніку расейская нацыянальная мяншыня тэрыторыі з свайго раней трэйцяга па лічбовай сіле месца, посьле мяншыняў жыдоўскай дый польскай, перасунулася цяпер на месца першае. Як расейская мяншыня разьмяшчаецца тэрытарыяльна ў рэспубліцы, па акругах дый раёнах, пакульшто немагчыма нічога сказаць, паколькі ЦСУ, як дагэтуль, перапісных лічбаў па нацыянальнасьці ані па акругах, ані па раёнах не публікавала. Можна толькі дапускаць, што Расейцы сканцэнтраваныя пераважна па меставых цэнтрах дый адміністрацыйна-прамысловых асяродках рэспублікі, паколькі сацыяльна яны становяць галоўны кіраўніча-чынавецкі стрыжэнь дзяржаўна-палітычнае й гаспадарчае адміністрацыі краіны. Дзеля таго, што ўсе большыя месты сучаснае Беларускае ССР, улучна з найбольшым сталічным Менскам, знаходзяцца на тэрыторыі акругаў даваеннае БССР, дык і працэнт Расейцаў там і цяпер напэўна значна вышэйшы, як на землях былой Заходняй Беларусі.

Цікава зьвярнуць увагу на абсалютныя й працэнтныя лікі Расейцаў у іншых рэспубліках СССР, асабліва рэспубліках суседніх беларускай, дый прыраўнаць іх да ліку ў БССР. Лічбы гэтыя, паводля публікаваных ЦСУ вынікаў перапісу 1959 году дае табл. 14.

**Табл. 14: Абсалютныя й працэнтныя лікі расейскага жыхарства рэспублікаў СССР паводля стану на 15.1.1959 году**

| Рэспублікі | тысячах Лікі ў | жыхарства Лікі ў % |
|---|---|---|
| Расейская СФСР | 97 864 | 83,3 |
| Украінская | 7 091 | 16,9 |
| Казахская | 3 974 | 42,7 |
| Узбэкская | 1 091 | 13,5 |
| **Беларуская** | **659** | **8,2** |
| Кіргіская | 624 | 30,2 |
| Латвійская | 556 | 26,6 |
| Азэрбайджанская | 501 | 13,6 |
| Грузінская | 408 | 10,1 |
| Малдаўская | 293 | 10,2 |
| Туркменская | 263 | 17,3 |
| Таджыкская | 263 | 13,3 |
| Эстонская | 240 | 20,1 |
| Лятувіская | 231 | 8,5 |
| Армянская | 56 | 3,2 |
| **СССР** | **114 114** | **54,6** |

Лічбы табл. 14 паказваюць, што паводля ступені расейскае каланізацыі й русыфікацыі, блізу ўсе рэспублікі СССР знаходзяцца ў значна горшым палажэньні ад Беларускае ССР. У Казахскай ССР, дзе Расейцаў цяпер 42,7%, яны становяць ужо найбольшую лічбаю нацыянальную групу, пераўышаючы значна сваім лікам і намінальных гаспадароў рэспублікі, аўтахтонных Казахаў, якіх тамака цяпер усяго 30,0%. Падобнае палажэньне й у Кіргіскай ССР, дзе Расейцаў цяпер 30,2%, а Кіргізаў хоць і большы працэнт, бо 40,5%, дый яны не становяць ужо абсалютнае бальшыні ў сваей



рэспубліцы. Кідаецца ў вочы й вялікі ўзрост Расейцаў у трох прыбалтыйскіх рэспубліках — Летуве, Латвіі й Эстоніі. У Летуве ў 1940 годзе было толькі 2,2% Расейцаў, цяпер 8,5%, значыцца блізу ў чатыры разы болей. Латвія, якая яшчэ ў 1939 годзе мела 10.6% Расейцаў, цяпер мае іх ужо 26,6%, ці больш у два з паловаю разы. Тое-ж у Эстоніі, з працэнтам расейцаў 8,2% у 1935 годзе, а цяпер 20,1%. У факце нязвычайна вялікага ўзросту ліку Расейцаў у прыбалтыйскіх рэспубліках праяўляецца бясспрэчна плянаване намаганьне Масквы магчыма хуткаю каланізацыяй і русыфікацыяй праз тэрыторыі гэтых рэспублікаў вымасьціць беспасярэдні шырэйшы доступ Расеі да Балтыйскага мора, да чаго імпэрыяльная Масква напірае найменш ужо ад чатырох стагодзьдзяў — ад пары Івана Грознага. Меншы працэнт расейскага жыхарства ад Беларускае ССР сяньня мае адна толькі Армянская ССР, дзе Расейцаў 3,2%.

Рэлятыўна ня гэткі высокі працэнт расейскае нацыянальнае мяншыні ў Беларускай ССР, хоць і павышаны за паваенныя толькі гады на 2,8%, не перашкаджае гэтаму, што мяншыня гэтая займае сяньня вельмі важную, бо пануючую палітычную, дзяржаўную, эканамічную й культурную пазыцыю ў рэспубліцы. Расейцамі цяпер у Беларускай ССР абсаджаныя блізу ўсе важнейшыя кіраўнічыя партыйныя, дзяржаўна-адміністрацыйныя й прамыслова-гаспадарчыя становішчы ня толькі на ўзроўні рэспубліканскім, акруговым дый раённым, але навет і ў сельсаветах ды калгасах. З Расейцаў рэкрутуецца й блізу ўся міжнародная дыпляматычная й палітычна-прапагандная рэпрэзэнтацыя рэспублікі, прыкладам «беларускія» прадстаўніцтвы й дэлегацыі ў Задзіночаных Нацыях.

Заведзеная савецкая сыстэма дзяржаўнага валаданьня й адміністраваньня ўсіх багацьцяў і рэсурсаў нацыянальнае гаспадаркі дае Маскве магчымасьць насаджваць на тэрыторыі Беларускае рэспублікі ня толькі сваю імпэр'яльную, каляніяльнага тыпу, адміністрацыю, як гэта было ў імпэрыі й у царскую пару, але, у дадатак, і ўсю кіраўнічую гаспадарчую адміністрацыю. Гэткім шляхам Масква сяньня падмяніла Расейцамі ў гандлёва-прамысловых галінах народнае гаспадаркі жыдоўскую нацыянальную мяншыню, а Расейцы, на месца жыдоў, сталі галоўнаю масаю жыхарства сучасных большых местаў Беларусі.

Для гэтае пануючае нацыянальнае мяншыні й яе каляніяльна-русыфікацыйных заданьняў у рэспубліцы, у якой больш 90% жыхарства не Расейцы, сяньня друкуецца больш кніжак парасейску, як пабеларуску, хоць Беларусаў тут больш 80%. Гэтак, у 1959 годзе ў межах рэспублікі было надрукавана 744 кніжак парасейску, а толькі 571 пабеларуску, ці, у працэнтах, 57% расейскіх, 43% беларускіх, хоць яшчэ ў гадох 1930-1935, у Беларускай ССР друкавалася сярэдня 85% кніжак пабеларуску, а толькі 5% парасейску.[74] У гэтым-жа годзе ў рэспубліцы выдавалася 66 пэрыядычных друкаў парасейску, а толькі 24 пабеларуску (улучна із зборнікамі і бюлетэнямі, якія выходзяць пэрыядычна), хоць, як паказваюць лічбы агульнага іх тыражу, — 2 135 000 для расейскіх пэрыёдыкаў, а 5 807 000 для беларускіх, — само жыхарства куды ахватней чытала друк беларускі, як расейскі.[75] Кры-

[74] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 781. Лічбовыя дадзеныя аб друку Беларускае ССР у гадох 1930—1935 у «Летапіс друку БССР» за адпаведныя гады, Менск.

[75] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 783.

ху накшае палажэньне было з газэтамі, зь якіх на тэрыторыі рэспублікі 212 (улучна з калгаснымі газэтамі), друкавалася пабеларуску, а толькі 43 парасейску.[76] Галоўны сяньня ў Беларускай ССР прэсавы орган расейскае каляніяльнае адміністрацыі, — аснаўнога пануючага стрыжня новае сацыяльнае эксплятуючае клясы савецкага грамадзкага ладу, — гэта менскі расейскі штодзёньнік «Советская Белоруссия».

Падобнае вышэйшаму, палажэньні й у іншых галінах культурнага жыцьця рэспублікі, у якіх расейская мяншыня займае ня то што ўпрывіліяваную, а проста дамінуючую пазыцыю. Гэтак, бальшыня тэатраў рэспублікі карыстаецца ня мовяю бальшыні жыхарства рэспублікі, беларускаю, а мовяю расейскаю.[77] Тое-ж і з праграмамі радыястанцыяў БССР. Падобна ёсьць і з вышэйшым школьніцтвам рэспублікі. Навет і сэсіі г. зв. вярхоўнага савету БССР, найвышэйшае заканадаўчае ўстановы рэспублікі, яе парлямэнту, для выгады пануючае ў рэспубліцы нацыянальнае расейскае мяншыні, у «сувэрэннай» і беларускай намінальна дзяржаве, праводзяцца сяньня парасейску, а не на мове народу, які складае больш 80% жыхарства рэспублікі.

### 3. Палякі

Сваімі пачаткамі польская нацыянальная мяншыня на тэрыторыі Беларусі старэйшая за расейскую. Яна розьніцца ад мяншыні расейскае й сваім паходжаньнем. Расейцы ў Беларусі ў сваей масе, гэта экстратэрытар'яльны элемэнт, імігранты або іхныя нашчадкі. Толькі ў значна меншым ліку сярод расейскае нацыянальнае мяншыні сустрэнем і зрушчаных мясцовых жыхароў. Польская-ж нацыянальная мяншыня на тэрыторыі Беларусі, наадварот, у сваей масе паходжаньня аўтахтоннага, із спалянізаванага ад пакаленьняў мясцовага жыхарства, і, толькі выняткова, будуць гэта імігранты з Польшчы ці іхныя нашчадкі.

Магчымасьці іміграцыі на тэрыторыю Беларусі для польскага этнічна жыхарства з Польшчы адкрыліся ўжо ад Крэўскае вуніі 1385 году, вынікам якое была створаная супольная Рэчыпаспалітая Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага. Пазьней магчымасьці гэтыя, аднак-жа, былі моцна абмежаныя адмысловымі пастановамі й законамі Вялікага Княства, у першую чаргу Літоўскімі Статутамі. У выніку, польскае іміграцыі на тэрыторыі Беларусі, як працэсу масавага, гісторыя ня знае. Часовым, кароткатрывалым выняткам у гэтым правіле былі міжваенныя гады, калі на тэрыторыю Заходняе Беларусі, што ўходзіла тады ў склад паверсальскае Польшчы, польская ўлада насылала сотні тысячаў польскіх урадоўцаў ды цывільных і вайсковых асаднікаў. Гэткім спосабам у міжваенную пару на землях былое Заходняе Беларусі апынулася каля 265 000 этнічна польскага жыхарства.[78] Дый гэтыя масы польскіх імігрантаў, у вабставінах далейшых гістарычных падзеяў, на беларускіх землях ня здолелі ўтрымацца. Вялікая іх частка ўцякла з тэрыторыі ўжо ў восені 1939 году, пасьле ваеннага разгрому Польшчы нямецкімі арміямі. Тыя, што засталіся, былі пазьней дэпартаваныя ўглыбкі Савецкае імпэрыі бальшавіцкаю акупацыйнаю ўладаю, асабліва грунтоўна асаднікі. Невялікая астача ліквідавалася посьле, шляхам афіцыйнае вымены польскага жыхарства Беларускае ССР на беларускае з Польшчы, у пачатковых паваенных гадох.

Ня існуе ў межах сучаснае Беларускае ССР і ніякае польскае этнічнае тэрыторыі з аўтахтонным польскім жыхарствам. Масква, як ведама, сучасную заходнюю мяжу Беларускае ССР з сатэлітнаю Польшчаю на ўсім яе прабегу правяла па тэрыторыі беларускай, пакідаючы па польскім баку значныя часткі беларускае Беласточчыны й Падляшша. Тамака сяньня існуе каля сотні беларускіх праваслаўных прыходаў, дзеюць беларускія культурна-асьветныя гурткі, працуюць беларускія пачатковыя й сярэднія школы, выдаецца беларускі пэрыядычны друк. Дык Палякі польскага этнічнага паходжаньня на тэрыторыі сучаснае Беларускае ССР, як правіла, ня існуюць. Мясцовыя жыхары, што падаюць сваю нацыянальнасьць як польскую, гэта толькі ў большай ці меншай ступені палянізаваныя Беларусы, этнічна адналітага паходжаньня з рэштаю беларускага жыхарства рэспублікі. Працэс палянізацыі на тэрыторыі Беларусі паважней зазначыўся ад XVII стагодзьдзя. Найперш пальшчэлі сацыяльныя «вярхі» — магнаты, замажнейшая шляхта, багацейшае мяшчанства каталіцкага веравызнаньня. Нашчадкі іхныя на пачатку XX ст. былі ўжо натолькі спалянізаваныя, што чуліся вялікімі польскімі патрыётамі, і, па сваім перакананьні дый палітычнай дзейнасьці, былі часта больш шавіністычна настроеныя ад Палякаў этнічных.

Крыху пазьней, палянізацыя пранікла й у масы беларускага каталіцкага мяшчанства, а таксама дробнае шляхты, якая аднак-жа, ведала звычайна добра й мову сваіх прашчураў, беларускую мову. Найменш палянізацыйны працэс крануў беларускае сялянства каталіцкага веравызнаньня. За выняткам нешматлікіх селішчаў пры пары заходнябеларускіх местаў, у сваей масе ўся «пальшчыня» сялян-каталікоў зводзілася да таго, што былі яны «польскае», значыцца каталіцкае веры. Польскае каталіцкае духавенства, інтэлігенцыя, а ў міжваенную пару й польская ўлада, дзеля палітычных мяркаваньняў, на тэрыторыі Беларусі сьведама праводзіла ідэнтыфікацыю каталіцтва з польскаю нацыянальнасьцяй, прапагуючы формулу: каталіцтва — польская вера, хто каталік — той Палях.

Тое-ж самае праз ўсё XIX стагодзьдзе цьвердзіла, з другога боку, і расейская палітычная прапаганда, а навет ня раз і афіцыйныя расейскія дзейнікі, якія ўпісвалі ў Палякі ўсіх Беларусаў каталікоў. Для прыкладу, адна зь першых статыстыкаў і картаў беларускае этнічнае тэрыторыі, складзеная палкоўнікам расейскае арміі Р. Ф. Эркертам у 1863 годзе, была абапертая на прынцыпе, што падзел па веры ў Беларусі адказвае падзелу й нацыянальнаму на Палякаў і Беларусаў. Гэткім шляхам усе каталікі Беларусі былі аўтаматычна залічаныя ў Палякі. Палкоўнік Эркерт пісаў: «У Заходняй Расеі ... усе славянскія жыхары праваслаўнага веравызнаньня павінны ўважацца Расейцамі, а ўсе тыя, што вызнаюць каталіцкую рэлігію, — Палякамі ... Выказаны намі пагляд ... падзяляюць і расейскі дый польскі «прасталюдзін», таксама як цывільныя й ваенныя ўлады, духавенства, памешчыкі, дый усё нашае кватэраванае там войска».[79] Калі на

[76] Тамсама, б. 784.
[77] Культурное строительство СССР. Центральное Статистическое Управление. Москва, 1956, б. 298.
[78] Мікола Волацiч. Насельніцтва Заходняе Беларусі ... «Беларускі Зборнік», кн. 4. Інстытут для вывучэньня СССР. Мюнхэн, 1956, б. 13.

[79] R. F. Erkert: Atlas ethnographique des provinces, habitées en totalité ou en partie

гэткі прынцып пры азначэньні нацыянальнасьці апіраліся навет расейскія аўтары, няма дзіва, што асабліва шырака тарнавалі яго ў сваей статыстыцы й публікацыях аўтары польскія й польскія ўрадовыя дзейнікі міжваеннае пары, якія запісвалі ў Палякі ўжо ня толькі ўсіх Беларусаў каталікоў, але немалую частку й праваслаўных. На аснове правіла: «каталіцтва — польская вера», на землях Заходняе Беларусі польскімі перапісамі й статыстыкамі ў міжваенныя гады й ствараласся «польская бальшыня» тэрыторыі.

З пашырэньнем беларускае нацыянальнае сьведамасьці сярод масаў сялянства ў XX ст., гэтая прышчэпліваная вякамі з польскага й расейскага боку ідэнтыфікацыя рэлігіі з нацыянальнасьцяй ужо губляла на сваей сіле й значаньні. Здарылася аднак-жа гэтак, што падзеі Другое Сусьветнае Вайны неспадзеўкі змушалі беларускае каталіцкае сялянства да навароту да гэтага прынцыпу дзеля звычайнага самазахаваньня. Пры канцы вайны, пасьля рэакупацыі тэрыторыі Заходняе Беларусі савецкаю арміяй, склалася такое палажэньне, што, каб пакінуць падсавецкую тэрыторыю дый вымкнуцца з-пад беспасярэдняга засягу савецкага тэрору, адзінаю радаю было падаць сваю каталіцкую веру за азнаку польскае нацыянальнасьці й атрымаць гэтак права на пераезд у сатэлітную Польшчу. Ведама сяньня, што з гэтае магчымасьці тады скарыстала шмат сотняў тысячаў беларускага сялянства былое Заходняе Беларусі як каталіцкага, так і праваслаўнага. Сьветчыць пра гэта, між іншым, і колькі дзесяткаў праваслаўных прыходаў, што рассыпаныя сяньня на былых нямецкіх тэрыторыях сучаснае Польшчы.[80] Ведама таксама, што яшчэ пазьней, тысячы сасланых у савецкія канцэнтрацыйныя лягеры Беларусаў зь земляў былое Заходняе Беларусі, каб вырвацца з гэтых лягераў, а разам і з самога Савецкага Саюзу, скарысталі з падпісанае ўрадам Гамулкі дамовы з савецкім урадам аб рэпатрыяцыі ў Польшчу палітычных зьняволеных Палякаў, дый, падаючы сваё былое польскае грамадзянтва, ці ізноў каталіцкае веравызнаньне за аснову, пераехалі ў Польшчу. Колькі год раней, падобным спосабам у вольны сьвет, на свабоду, з канцэнтрацыйных савецкіх лягераў і ссылак, вырваліся, запісаўшыся ў польскую армію генэрала Андэрса, тысячы іншых зьняволеных Беларусаў.

Перапіс 1959 году на тэрыторыі Беларускае ССР выявіў 539 000 Палякаў, што становіць 6,7% жыхарства рэспублікі. Важна пры гэтым адзначыць, што паводля апублікаваных ЦСУ дадзеных перапісу, толькі 45,5% усіх жыхароў СССР, што 15 студзеня 1959 году падалі сваю нацыянальнасьць за польскую, падало адначасна й польскую мову за сваю родную. Гэта значыць, што бальшыня Палякаў СССР, бо 54,5%, за родную мову ўважае ня польскую, а нейкую іншую. Нажаль, падобная статыстыка, як дагэтуль, не апублікаваная па рэспубліках, і дзеля гэтага немагчыма сказаць, колькі жыхароў Беларускае ССР, што падалі сваю нацыянальнасьць за польскую, адначасна падало й польскую мову за сваю родную.

Калі значнае павялічэньне ліку жыхарства расейскае нацыянальнасьці на тэрыторыі рэспублікі, а памяншэньне жыдоўскае, можна было прадба-

par les Polonais. S.-Peterbourg, 1863. Перавыдадзены ў 1864 годзе парасейску: Р. Ф. Эркерт. Взгляд на историю и этнографию западных губерний России (С атласом). С.-Петербург, 1864.

[80] Православный календарь на 1961 год. Варшава, 1961, б. 62—72.



чыць і спадзявацца, дык рэлятыўна высокая лічба Палякаў — больш поўмільёна — для знаючых беспасярэдня тэрыторыю, яе жыхарства й гістарычныя падзеі апошніх гадоў, была ў вялікай меры неспадзеўкаю. Была не адна, а колькі важных прычынаў, якія паказвалі на тое, што лічба Палякаў на тэрыторыі павінна значна спасьці, магчыма навет да вышыні, якую выказваў савецкі перапіс 1926 году на тэрыторыі тагачаснае БССР — 2%.

Найперш, як спаміналася ўжо раней, усё насланае за міжваенныя гады польскае этнічна жыхарства ў ваенную пару цалком шчэзла з тэрыторыі Заходняе Беларусі й яно не магло адбіцца на вышыні сучаснай лічбы Палякаў у Беларускай ССР. Падругое, як ведама, савецкі рэжым дэпартаваў з тэрыторыі заходнябеларускіх земляў усіх большых польскіх земляўласьнікаў, блізу ўсіх каталіцкіх сьвятароў дый значную частку іншых Палякаў, калі яны самі ня справіліся перад гэтым уцячы на захад. Замажнейшыя сацыяльна клясы, галоўна апора польшчыны на тэрыторыі, практычна перасталі існаваць ужо посьле першае савецкае акупацыі Заходняе Беларусі ў гадох 1939-1941. З рэшты Палякаў тэрыторыі значны іх лік эміграваў на захад перад контрнаступам савецкае арміі ў 1944 годзе. Частка гэтых уцекачоў затрымалася на этнічна польскіх землях і сяньня знайходзіцца ў межах польскае дзяржавы. Частка паддалася далей на захад і цяпер рассыпаная, як эмігранты, па краёх заходняе Эўропы, Амэрыкі, у Аўстраліі. За хваляй уцекачоў, прыйшла й другая масавая эміграцыйная хваля з тыхжа земляў былое Заходняе Беларусі на аснове праведзенае афіцыйнае вымены жыхарства між Польшчаю й Беларускай ССР. Ведама, што з гэтае нагоды скарыстала больш 300 000 жыхароў Заходняе Беларусі.[81] Хоць сярод гэтых перасяленцаў-«Палякаў» быў вялікі лік найчысьцейшых Беларусаў, ды ўсё-ж ня мала тады выехала й Палякаў пераконаных. Да ўсяго трэба яшчэ дадаць, што абодва вялікія месты Заходняе Беларусі, дзе жылі большыя масы палянізаванага мяшчанства, — Вільня й Беласток, — былі адрэзаныя Масквою ад тэрыторыі Беларускае ССР ды перададзеныя Польшчы (Беласток), або Летуве (Вільня).

Вось пры ўлічэньні ўсіх гэтых фактаў цяжка было спадзявацца, каб у межах рэспублікі мог застацца яшчэ паважнейшы лік Палякаў. Гэтак думалі й некаторыя польскія аўтары, што паходзілі самі зь беларскіх земляў і добра іх ведалі.[82] Калі на тэрыторыі даваеннае БССР, на аснове дадзеных перапісу 1926 году, у 1959 годзе можна было лічыцца зь лічбаю Палякаў каля 100 000, дык для значна меншых прасторам і жыхарствам заходніх земляў можна было спадзявацца мала больш. Калі-ж перапіс 1959 году выявіў лічбу на 300 000 вышэйшую ад гэткае ацэны, дык гэта магло стацца толькі дзеля таго, што ў дадзеных гістарычных умовах частка беларускага каталіцкага сялянства знайшла мэтазгодным падаваць сваю нацыянальнасьць не за беларускую, а польскую, карыстаючы з старое формулы: каталік — значыцца Паляк.

Калі заходнябеларускае сялянства ў пэўнай сваей часьці гэтак зрабіла, дык яно, з свайго боку, мела на гэта ня мала прычынаў. Каб глыбей зразумець гэты крок, трэба зьвярнуць увагу на раней ужо спамінаны факт,

[81] Мікола Волацiч. Насельніцтва Заходняе Беларусі..., б. 26.

[82] Stanisław Świaniewicz. Pozycja gospodarcza Ziem W. Ks. Litewskiego Dzieje ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. Alma Mater Vilnensis. Londyn, 1953, b. 43

што ў канцавой фазе вайны, калі было ясна, што бальшавіцкая армія нанава акупуе тэрыторыю Заходняй Беларусі, сярод сялянства Заходняе Беларусі, — і каталіцкага, і праваслаўнага, — зазначыўся спантанічны масавы ўзрух да ўцёку на захад. Ведама добра, што да гэтага роспачнага кроку ўросслае спрадвеку ў сваю зямлю сялянства штырхалі ня нейкі польскі патрыятызм, ці прапольскія сымпатыі, а стыхійны страх перад новаю пагрозаю бальшавіцкага палітычнага тэроры, памеры й жудасьці якога беларускаму сялянству давялося пазнаць у часе савецкае акупацыі тэрыторыі ўжо ў 1939-1941 гадох. Дык псыхалягічная аснова гэтага спантанічнага міграцыйнага руху беларускага жыхарства земляў Заходняе Беларусі ляжала ня ў роўніцы нацыянальнай, ані рэлігійнай, а — палітычнай. Гэта быў акт народнае прынцыповае нэгацыі расейскага камуністычнага рэжыму, ягонага антысялянскага сацыяльна-грамадзкага ладу, ягонае палітычнае дыктатуры й тэрору, ягонае прымусовае калектывізацыі й масавых дэпартацыяў. Выглядае, што частка тых, якія ў ваенную ці беспасярэднюю паваенную пару не наважыліся або ня мелі змогі пакінуць сваю спрадвечную зямлю, сваё адмоўнае становішча да існуючае ў Беларускай ССР і ўсім СССР расейскае камуністычнае ўлады задэманстравала цяпер паданьнем свае нацыянальнасьці польскаю ў часе перапісу. У гэтым кроку яўная дэманстрацыя супроць пануючага рэжыму, і, разам, хіба, некаторае палітычнае страхаваньне, каб, на выпадак, калі-б нейкая гістарычная магчымасьць «вымены» ці проста ўцёкаў на захад ізноў паўстала, была-б аснова паклікацца на сваю «каталіцка-польскую» нацыянальнасьць.

І для гэтага свайго кроку сялянства земляў былое Заходняе Беларусі мела даволі паважных прычынаў. Найперш — што, і ці шмат, здабыў селянін Заходняе Беларусі апынуўшыся ў межах «свае» Беларускае ССР? Заміж абяцанае даваеннымі лістоўкамі КПЗБ (Камуністычная Партыя Заходняе Беларусі) й савецкаю радыёваю прапагандаю зямлі дый дабрабыту, дастаў ён калектывізацыю, калгасную прыгонную сыстэму, мізэрна аплачваныя працадні, хранічныя недастаткі. Палітычна — заміж абяцанае свабоды, правоў і дэмакрацыі, прыйшлося зазнаць дыктатуру, тэрор ды савецкую фарсу «дэмакратычных» выбараў. У дадатак прыйшлі масавыя дэпартацыі й прымусовыя перасяленьні.

З нацыянальнага гледзішча «свая» Беларуская ССР на месца ранейшае палянізацыі пад Польшчаю прынесла русыфікацыю ў школе, друку, дзяржаўных установах. На свае вочы й на кажным кроку селянін можа назіраць, як на ўсіх адказных кіраўнічых становішчах пасаджаныя Расейцы, калі тым-жа часам сотні тысячаў Беларусаў кажны год вывозяцца на прымусовыя перасяленьні з тае «свае» дзяржавы, якая на практыцы аказалася ня чым іншым, як толькі інструмантам Масквы для палітычнага ўціску народу, эканамічна-сацыяльнага й каляніяльнага яго вызыску, дэнацыяналізацыі й русыфікацыі.

А адначасова гэтае-ж сялянства чуе й добра ведае, што непадалёк за мяжою, у Гамулкавай Польшчы, дзе знайшлі прытулак сотні тысячаў ягоных суродзічаў, зь якімі існуе сталая сувязь, — хоць жывуць таксама пад камуністычнаю дыктатурай, аднак-жа без калгаснага прымусу, без пагрозы дэпартацыяў і перасяленьняў. У выніку, у часе перапісу яно ў рубрыцы нацыянальнасьці й задэманстравала сваё прызнаньне той крысе людзкой свабоды, якое пазбавілі яго зусім у межах «свае-ж» Беларускае рэспублікі.



Дый якія-б тлумачэньні й камэнтары аб ліку Палякаў у Беларускай ССР не даваць, трэба прызнаць, што перапіс 1959 году паказвае, што польская нацыянальная меншыня на тэрыторыі рэспублікі яшчэ існуе і ў даволі паважнай лічбе. Па сваей лічбовай сіле яна сяньня займае другое месца сярод нацыянальных меншыняў рэспублікі, уступаючы сваім лікам толькі меншыні расейскай. Яшчэ ў мінулым і на пачатку гэтага стагодзьдзя лічбовыя пазыцыі гэтых меншыняў на тэрыторыі Беларусі былі адваротныя.

Другі важны выснаў, які з вышэй разгледжаных фактаў даводзіцца зрабіць, гэта той, што ў нацыянальнай перапіснай статыстыцы на беларускай тэрыторыі фактар рэлігійны не перастаў іграць свае паважнае ролі яшчэ й цяпер, у другой палове XX ст., дый навет пры існаваньні на тэрыторыі атэістычнага, антырэлігійнага расейскага рэжыму.

Пры канцы разгляду сучаснага лічбовага стану польскае нацыянальнае меншыні на тэрыторыі Беларускае ССР, цікава прыраўнаць лікі жыхарства польскае нацыянальнасьці па іншых рэспубліках СССР, як іх выявіў перапіс 1959 году. У табл. 15 гэтыя лікі, абсалютныя й працэнтныя, і пададзеныя для ўсіх тых рэспублікаў, лічбы Палякаў у якіх ЦСУ апублікавала.

**Табл. 15: Жыхарства польскае нацыянальнасьці ў СССР па рэспубліках паводля перапісу 15 студзеня 1959 году**

| Рэспублікі | Лікі ў тысячах | Лікі ў % жыхарства |
|---|---|---|
| СССР | 1 380 | 0,7 |
| **Беларуская** | **539** | **6,7** |
| Украінская | 363 | 0,9 |
| Лятувіская | 230 | 8,5 |
| Расейская СФСР | 118 | 0,1 |
| Латвійская | 60 | 2,9 |
| Казахская | 53 | 0,6 |
| Іншыя | 17 | — |

Як відаць з табл. 15, на Беларускую рэспубліку ў СССР сяньня прыпадае найбольшы лік Палякаў. Кругла 40% усяго жыхарства СССР, што ў часе перапісу падало сваю нацыянальнасьць за польскую, жыве сяньня на тэрыторыі Беларускае ССР. На высокім працэнце Палякаў у Летувіскай ССР яўна заважыў факт далучэньня да гэтае рэспублікі Вільні з ваколіцамі. Там Масква зьліквідавала сяньня беларускае школьніцтва разам з праіснаваўшай да савецкай акупацыі на працягу цэлага чверцьвечча Віленскай Беларускай Гімназіяй, але падтрымлівае школьніцтва польскае дый насаджвае ўсімі сіламі школьніцтва расейскае. Вялікая частка Палякаў Летувіскае ССР, гэта сяляне Віленшчыны, тыя-ж Беларусы «польскае» каталіцкае веры. Падобнага часткова паходжаньня й лічба Палякаў у Латвійскай ССР, дзе беларускае каталіцкае сялянства Латгаліі й цяпер, як ня раз і раней, запісанае ў Палякі на аснове тае-ж «польскае веры».

## 4. Жыды

Жыды ў Беларусі — адна з найстарэйшых нацыянальных мяншыняў. Існаваньне Жыдоў на тэрыторі можна сьцьвердзіць ад больш як тысячы гадоў, бо найменш ад VIII ст. нашай эры. Як відаць з правоў і прывілеяў цадзеных Вітаўтам Вялікім у канцы XIV ст. Жыдом местаў Берасьця, Горадні, Трокаў дый іншых, Жыды тады ўжо тварылі па местах Беларусі людныя, добра арганізаваныя й эканамічна бойкія грамады. Рэлігійная й нацыянальная талеранцыя, якая панавала ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім за Ягайлавічаў, стварала асновы для далейшага эканамічна-культурнага разьвіцьця жыдоўскае мяншыні ў Беларусі, пара красаваньня й дабрабыту якое прыпадае на XVI стагодзьдзе.

Сучасныя беларускія Жыды гістарычна склаліся зь дзьвёх розных па часе й месцы паходжаньня іміграцыйных плыняў. Старэйшая, першапачатная іміграцыя ішла некалі з краёў паўдня й блізкога Ўсходу. Жыды гэтага паходжаньня, праз доўгія стагодзьдзі сужыцьця зь беларускім жыхартсвам, значна асымляваліся й гаварылі пабеларуску. Другая плынь жыдоўскае іміграцыі кіравалася на землі Беларусі, асабліва ад канца XVI ст., з краёў Заходняе Эўропы, галоўна Нямеччыны. Гэтыя Жыды культурна й моўна былі гэрманізаваныя й яны гэта прынесьлі з сабою нямецкую мову, зь якое разьвілася сучасная мова жыдоўская. На тэрыторыі Беларусі гэтая навейшая, заходняя іміграцыйная плынь з часам культурна перамагла, запанавала й накінула ўсім Жыдом Беларусі сваю нямецка-жыдоўскую мову.

Карыстаючы з рэлігійнае й эканамічнае свабоды на прасторы Вялікага Княства Літоўскага, жыдоўская нацыянальная мяншыня з часам разраслася на толькі, што тварыла галоўную масу гандлёва-рамесьніцкага меставога жыхарства Беларусі. Некаторыя месты беларускіх земляў у XIX-XX ст. ст. мелі 50-70% і болей жыхароў жыдоўскае нацыянальнасьці. Факт лічбовае й гаспадарскае дамінацыі Жыдоў у местах Беларусі быў аднэй з прычынаў таго, што беларускае па нацыянальнасьці мяшчанства слаба разьвілося, а гэта ізноў мела свае немалыя кансэквэнцыі для культурнага й палітычнага жыцьця Беларусі апошніх стагодзьдзяў і асабліва беларускага нацыянальнага адраджэньня.

З часам эканамічнае й праўнае палажэньне Жыдоў на беларускіх землях значна пагоршала, асабліва посьле прылучэньня земляў Вялікага Княства Літоўскага да Расейскае імпэрыі ў канцы XVIII ст. Царскі ўрад вызначыў жыдоўскаму жыхарству г. зв. «черту оседлости», паза якую Жыдом было забаронена пераяжджаць і пасяляцца. У прастор «черты оседлости» ўходзілі й беларускія землі, за выняткам Смаленшчыны. Дзеля цяжкога гаспадарскага застою на беларускіх землях пасьля іх далучэньня да Расеі масы жыдоўскага жыхарства трапілі ў вельмі цяжкое эканамічнае палажэньне. Пры тым дакучалі й арганізаваныя па большых местах Беларусі чорнасоценцамі антыжыдоўскія пагромы. Дзеля гэтага ад канца XIX ст. пачынаецца масавая эміграцыя жыдоўскага жыхарства тэрыторыі на захад, галоўна ў Амэрыку.

Першы агульны перапіс жыхарства Расейскае імпэрыі 1897 году на прасторы тых пяці тагачасных беларускіх губэрняў, зь якіх сяньня выразаная тэрыторыя цяперашняе Беларускае ССР, — Менскай, Віленскай, Гарадзенскай, Віцебскай і Магілеўскай, — сьцьвердзіў 14,1% жыдоўскага жыхарства.[83] У выніку масавай эміграцыі з гэтых губэрняў жыдоўскага жыхарства на пачатак Першае Сусьветнае Вайны лік Жыдоў на гэтай тэрыторыі спаў да 10%. Гэткі прыблізна працэнт жыдоўскага жыхарства існаваў на тэрыторыі былое Заходняе Беларусі ў межах Польшчы, і празь міжваенныя гады. Падчас польскага перапісу 1931 году на прасторы 4-х этнічна беларускіх ваяводзстваў — Віленскага, Наваградзкага, Палескага й Беластоцкага, — было выяўлена 9,7% Жыдоў.

На беларускіх землях у межах Беларускае ССР у міжваенныя гады адбываўся тымчасам далейшы працэнтны спад жыдоўскага жыхарства дзеля эміграцыі. Посьле залому царскага рэжыму ў Расеі, былі скасаваныя й законы аб г. зв. «черте оседлости» жыдоўскага жыхарства. Адначасна былі пастароненыя ўсякія праўныя абмежаньні жыдоўскага жыхарства й Жыдом пры новай камуністычнай уладзе імпэрыі сталі даступныя ўсе адміністрацыйныя становішчы. У выніку гэтага пачалася масавая эміграцыя Жыдоў з тэрыторыі даваеннае Беларускае ССР на ўсход, найперш у Маскву, Ленінград і іншыя адміністрацыйна-эканамічныя цэнтры савецкае імпэрыі. У выніку гэтай эміграцыі працэнт жыдоўскага жыхарства ў тагачаснай БССР далей падае. Перапіс 17 сьнежня 1926 году ў межах рэспублікі знайходзіць іх 8,2%. Спад гэты адбываецца й далей аж да пачатку Другое Сусьветнае Вайны. У некаторай часьці быў ён спрычынены й намерам Сталіна арганізаваць у савецкай Азіі жыдоўскую аўтаномную рэспубліку — Біробіджан.

Пасьля далучэньня, у верасьні 1939 году, да Беларускае ССР земляў Заходняе Беларусі на тэрыторыі рэспублікі ў сучасных яе межах у сярэднім было прыблізна 8% жыдоўскага жыхарства, з тым, што вышэйшы працэнт, 9,7%, быў на навадалучаных заходніх прасторах, а ніжэйшы на тэрыторыі даваеннае БССР. Пры 8% у сярэднім, на пачатку 1939 году на тэрыторыі Беларускае ССР у сучасных яе межах мусіла быць каля 750 000 жыхароў жыдоўскае нацыянальнасьці.

Агульна ведама, што жыдоўскае жыхарства панесла нязвычайна вялікія страты ў часе нямецкае акупацыі тэрыторыі рэспублікі падчас апошняе сусьветнае вайны ў выніку гітлераўскага масавага нішчэньня Жыдоў. Вынікі перапісу 1959 году й даюць магчымасьць азначыць прыблізна памеры гэтых гітлераўскіх зьнішчэньняў у канкрэтных лічбовых вялічынях. Паводля ЦСУ, 15 студзеня 1959 году на тэрыторыі Беларускае ССР было запісана кругла 150 000 жыхароў жыдоўскае нацыянальнасьці, што становіць 1,9% сучаснага жыхарства рэспублікі. Калі, як відаць з папярэдніх абліччэньняў, на пачатку 1939 году на той-жа тэрыторыі іх было 750 000, значыцца недалік за перапісны час выносіць 600 000. З гэтае лічбы вынікае, што лік Жыдоў тэрыторыі рэспублікі, зьнішчаных акцыяй Гітлера ў часе нямецкае акупацыі тэрыторыі ў гадох 1941-1944, трэба ацэньваць прыблізна на поўмільёна. Рэшта 100 000 прыпадзе на тых, што перад нямецкім наступам змаглі ўцячы на ўсход, ды на тых, што ўжо посьле вайны эмігравалі на захад — у краі Эўропы, Амэрыкі, у Ізраэль.

Дзеля эміграцыі, а галоўна дзеля гітлераўскае акцыі масавага нішчэнь-

[83] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 года, под ред. Н. А. Тройницкого. Общий свод по империи результатов разработки данных первой всеобщей переписи населения произведенной 28 января 1897 года, том II б. 20.

ня, жыдоўская нацыянальная група на тэрыторыі Беларусі згубіла сваю ранейшую пазыцыю наймацнейшае лічбаю нацыянальнае меншыні, пазыцыю, якую яна займала ў Беларусі ад стагодзьдзяў. Але для дакладнасьці трэба адцеміць, што ў паваенныя гады, з нарастаньнем Сталінскага антысэмітызму, і камуністычны рэжым рэспублікі на загад з Масквы праводзіў дэпартацыі, а навет фізычнае нішчэньне Жыдоў з тэрыторыі Беларускае ССР. Фізычнаму зьнішчэньню падпала тады галоўна жыдоўская нацыянальная інтэлігенцыя. Ведамая шырэй савецкая расправа з жыдоўскімі пісьменьнікамі й журналістымі ў 1948 годзе. Як у міжваенную, гэтак і ў паваенную пару, Масква праводзіла далей сыстэматычную дэнацыяналізацыю й русыфікацыю, дый, наагул, пляновую акцыю раскладу й ліквідацыі Жыдоў у СССР, як рэлігійна-нацыянальнае групы. На тэрыторыі Беларускае ССР сяньня няма аніводнае жыдоўскае школы, ніводнае жыдоўскае газэты, ня выдаецца ніводная жыдоўская кніга, і не дапускаецца тварэньня ніякіх жыдоўскіх культурных ці рэлігійных арганізацыяў. Адзіныя існуючыя сяньня жыдоўскія асяродкі, гэта колькі сынагогаў па большых местах Беларускае ССР.

Расейскія камуністычныя кіраўнікі імпэрыі сяньня выразна намагаюцца давесьці да канца справу ліквідацыі Жыдоў на тэрыторыі СССР, распачатую Гітлерам, хоць і іншымі спосабамі: дэнацыяналізацыяй і русыфікацыяй. Вынікі гэтых намаганьняў паказвае й перапіс 1959 году, які сьцьвердзіў, што цяпер толькі 21,1% Жыдоў СССР за сваю родную мову падае яшчэ мову жыдоўскую. У часе перапісу 1926 году лік Жыдоў з жыдоўскаю моваю як роднаю быў яшчэ ў вышыні 76%. Гэтак на працягу ўсяго 32 гадоў 55% жыдоўскае меншыні ў СССР згубіла сваю жыдоўскаю мову. Дык пры ацэне нізкіх лічбаў жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці на тэрыторыі Беларускае ССР трэба мець наўвеце, што гэта ня толькі вынік гітлераўскіх нішчэньняў. Часткова на нізкіх лічбах Жыдоў адбіліся й савецкія лквідацыі жыдоўскага жыхарства Сталінскае пары дый кансэквэнтна праводжаная іх дэнацыяналізацыя. Яны таксама вынік і эміграцыі, як дабравольнае, гэтак і прымусовае, што трывае ўжо ад канца XIX ст.

На табл. 16 супастаўленыя Беларуская зь некаторымі іншымі рэспублікамі СССР паводля ліку жыдоўскага ў іх жыхарства на аснове пададзеных ЦСУ лічбаў перапісу. Аб ліку Жыдоў у рэспубліках тут не пералічаных ніякіх лічбаў ЦСУ, як дагэтуль, не публікавала.

Вялікі лічбовы й працэнтны спад жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці, гэта найбольшая зьмена нацыянальнага складу рэспублікі, якую выявіў савецкі перапіс 1959 году. У выніку, жыдоўская нацыянальная меншыня на тэрыторыі Беларускае ССР лікам спала із свайго раней першага месца, на месца трэйцяе. Пры тым спад аказаўся на толькі вялікім, што меншыня гэтая наагул выпала зь ліку трох «вялікіх» меншыняў тэрыторыі — жыдоўскае, польскае й расейскае, і перайшла да катэгорыі меншыняў меншых лічбаю й значаньнем, да якіх, побач жыдоўскае меншыні, на тэрыторыі рэспублікі належаць яшчэ Украінцы.

У сувязі з памяншэньнем лічбовым, зразумела, моцна зьменшылася й удзельная вага жыдоўскае меншыні ў жыцьці рэспублікі. На памяншэньне палітычна-гаспадарскае вагі жыдоўскае меншыні тэрыторыі, апрача вялікага лічбовага яе спаду, заважыў моцна яшчэ й той факт, што пры сучасным савецкім сацыяльна-эканамічным ладзе, пры ліквідацыі прыватнага гандлю, рамясла и промыслу, жыдоўская меншыня згубіла й сваю ранейшую спэцыфічную пазыцыю сацыяльна адналітае гандлёва-прамысловае й рамесьніцкае клясы тэрыторыі.



**Табл. 16: Жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці па рэспубліках СССР паводля перапісу 15. 1. 1959 году**

| Рэспублікі | Лікі ў тысячах | Лікі ў % жыхарства |
|---|---|---|
| СССР | 2 268 | 1,1 |
| Расейская СФСР | 875 | 0,7 |
| Украінская | 840 | 2,0 |
| **Беларуская** | **150** | **1,9** |
| Малдаўская | 95 | 3,3 |
| Узбэкская | 94 | 1,2 |
| Грузінская | 52 | 1,3 |
| Латвійская | 37 | 1,7 |
| Лятувіская | 25 | 0,9 |
| Эстонская | 5 | 0,5 |
| Іншыя | 90 | — |

Праз усё апошняе паўтысячагодзьдзе жыдоўскае жыхарства Беларусі станавіла галоўны стрыжэнь мяшчанскае клясы й канцэнтравала ў сваіх руках фінансавы капітал дый важнейшыя гандлёва-прамысловыя функцыі краю. Гэтая важная пазыцыя ў нацыянальнай эканоміцы Беларусі для жыдоўскае меншыні сяньня страчаная й, відаць, беспаваротна. Галоўныя прычыны гэтага дзьве. Адна, гэта новы савецкі сацыяльна-эканамічны лад, у працэсе заводжаньня якога ўсе важнейшыя кіраўнічыя функцыі гаспадарскага жыцьця рэспублікі Масква пастаралася перадаць у рукі насланае сваё расейскае каляніяльнае адміністрацыі. У выніку, гэтая адміністрацыя й заняла сяньня месца жыдоўскага жыхарства па меставых і прамысловых асяродках рэспублікі, становячы галоўную масу мяшчанства большых местаў тэрыторыі. Другая прычына ляжала ўжо ў самым драматычным спадзе лічбовае сілы жыдоўскага жыхарства тэрыторыі ад канца XIX да паловы XX ст., спадзе на больш 12%, з 14,1% у 1917 годзе, да 1,9% у паваенную пару. Больш паловы гэтага спаду спрычыненая эміграцыяй. Рэшта — вынік гітлераўскага нішчэньня Жыдоў у часе апошняе сусьветнае вайны.

## 5. Украінцы

Украінцы, чацьвертая сяньня па лічбовай вялічыні нацыянальная меншыня на тэрыторыі Беларускае ССР, не належаць да меншыняў вялікіх лікам. Згодна з дадзенымі, апублікаванымі ў гадавіку ЦСУ на 1959 год, на тэрыторыі рэспублікі перапіс выявіў 133 000 Украінцаў, ці 1.7% усяго жыхарства.

У часе перапісу 1926 году, у межах тэрыторыі тагачаснае Беларускае ССР, за ўкраінскую сваю нацыянальнасьць падало 35 000 асоб, што складала тады 0.7% жыхарства рэспублікі. З пазьнейшым тэрытар'яльным павялі-

чэньнем Беларускае ССР шляхам далучэньня земляў былое Заходняе Беларусі, зусім зразумела, што й абсалютны лік Украінцаў мусіў на тэрыторыі рэспублікі ўзрасьці. Калі, як паказваюць лічбы апошняга перапісу, гэтая мяншыня ўзрасла адначасна й працэнтна да 1.7%, дык, трэба дапушчаць, гэта адбітак тых масавых перамяшчэньняў народаў СССР, якія апошнімі дзесяцігодзьдзямі Масква сьведама й сыстэматычна праводзіць зь яўнаю мэтаю большага іх расьцярушаньня й нацыянальнага аслабленьня. Для прыраўнаньня варта адцеміць, што жыхароў беларускае нацыянальнасьці на тэрыторыі Украінскае ССР той-жа перапіс 1959 году выявіў 291 000, ці больш як удвая ад ліку Украінцаў у Беларускай ССР. Рэлятыўна невялікі лік на тэрыторыі рэспублікі Украінцаў, народу суседняга беларускаму, сьветчыць адначасна й пра тое, што ніякае тэрытар'яльнае ўкраінскае этнічнае мяншыні ў межах Беларускае ССР ня існуе.

### 6. Меншыя нацыянальныя групы

У вапублікаваных ЦСУ дадзеных савецкага перапісу 1959 году, паза расейскаю, польскаю, жыдоўскаю ды ўкраінскаю мяншынях Беларусі, не даецца ніякіх лічбаў аб іншых, драбнейшых нацыянальных групах рэспублікі. Аднак-жа вялічыню агульнага іх ліку можам даведацца шляхам адняцьця сумы лічбаў жыхарства нацыянальнасьці беларускай і чатырох пералічаных вышэй нацыянальных мяншыняў, якая становіць 8 013 000 ад агульнага ліку жыхарства рэспублікі 8 055 000. Гэткім спосабам дойдзем да 42 000 астачы, лічбы, якая й ёсьць агульным лікам усіх іншых дробных нацыянальных групаў. Працэнтна яна становіць 0.5% усяго жыхарства. У часе перапісу 1926 году, у межах тагачаснае БССР, усе дробныя нацыянальныя мяншыні станавілі разам 0.8% жыхарства рэспублікі, ці на 0. 3% больш як цяпер.[84] З гэтага працэнтнага ліку 0.3% прыпадала тады на Латышоў, 0.1% на Немцаў, 0.1% на Лятувісаў, 0.1% на Татараў дый 0.2% на ўсе іншыя, яшчэ драбнейшыя лікам нацыянальнасьці.

Зь ліку вышэй названых нацыянальнасьцяў, дзеля «рэпатрыяцыі» ў Нямеччыну ў ваенныя гады, з тэрыторыі рэспублікі хіба цалкам ці блізу цалкам, зьліквідавалася нямецкая нацыянальная група. У якіх іншых групах і якія працэнтныя зьмены паўсталі за 20 міжперапісных гадоў — пакульшто няма ніякіх дадзеных. Аульна аднак-жа трэба сьцьвердзіць факт, што, як паказвае ніжэйшая працэнтная лічба дробных нацыянальнасьцяў Беларускае ССР, зазначаецца выразная тэндэнцыя іх лічбовага памяншэньня й зьніканьня, што, хіба, вынік натуральнага працэсу асыміляцыі ў пераважаючай масе іншанацыянальнага асяродзьдзя.

Сьцьверджаны апошнім перапісам ніжэйшы працэнтны лік жыхарства дробных нацыянальнасьцяў рэспублікі пацьвярджае важны факт, што насыланы ў межы рэспублікі Масквою бюракратычна-чыноўніцкі элемэнт складаецца блізу вылучна з асоб расейскае нацыянальнасьці. Калі-б гэтак ня было, дык мы мелі-б не паніжэньне, а павышэньне працэнтнае лічбы дробных нацыянальнасьцяў. Факт гэты таксама пярэчыць дапушчэньням, быццам у межы рэспублікі ў паваенныя гады было навезенае ў вялікім ліку

[84] Белорусская ССР в цифрах к 10-летию существования БССР. 1919—1929. БССР, Центральное Статистическое Управление. Минск, 1929, б. 62.



жыхарства азійскіх краінаў савецкае імпэрыі. З апублікаваных перапісных лічбаў 1959 году гэткае масавае іміграцыі на тэрыторыі рэспублікі не сьцьвярджаецца.

## БЕЛАРУСЫ Ў СССР ПАЗА ТЭРЫТОРЫЯЙ БЕЛАРУСКАЕ ССР

У гадавіку ЦСУ на 1959 год пададзена, што перапіс 15 студзеня 1959 году на тэрыторыі ўсяго СССР, улучна зь Беларускаю ССР, выявіў 7 913 000 Беларусаў. Паколькі тым самым часам у межах Беларускае ССР было 6 532 000 Беларусаў, з гэтага вынікае, што паза межамі рэспублікі, у рэшце СССР, у часе перапісу знайходзілася 1 381 000 Беларусаў, ці 17,5%.

Разьмяшчэньне Беларусаў на тэрыторыі ўсяго СССР па паасобных рэспубліках, паводля дадзеных ЦСУ, у часе перапісу 1959 году было выяўлена такім, як паказана на табл. 17. На гэтай табліцы пералічаюцца толькі тыя сем рэспублікаў СССР, лікі Беларусаў у якіх апублікаваныя ЦСУ. У 8-мі іншых рэспубліках у часе перапісу было запісана Беларусаў вельмі мала, бо агульная іх сума становіць усяго 42 000.

**Табл. 17: Беларусы па рэспубліках СССР паводля стану на 15 студзеня 1959 г.**

| Рэспублікі | Лік у тысячах | Лік у % жыхарства | У % усіх Беларусаў |
|---|---|---|---|
| СССР | 7 913 | 3,8 | 100,0 |
| Беларуская | 6 532 | 81,1 | 82,5 |
| Расейская СФСР | 844 | 0,7 | 10,7 |
| Украінская | 291 | 0,7 | 3,7 |
| Казахская | 107 | 1,2 | 1,4 |
| Латвійская | 62 | 2,9 | 0,8 |
| Лятувіская | 30 | 1,1 | 0,4 |
| Эстонская | 11 | 0,9 | 0,1 |
| Іншыя | 42 | — | 0,5 |

Як раней ужо спаміналася, сталыя масавыя вывазы беларускага жыхарства з тэрыторыі свае-ж рэспублікі трываюць ужо ад самага пачатку трыццатых гадоў. Дакладней, калі адкінуць тры гады нямецкае акупацыі, яны праводзіліся на працягу 26-ці даперапісных гадоў. Калі мець наўвеце гэты факт, дык трэба прызнаць, што лік 1 361 000 Беларусаў, выяўленых быццам у СССР перапісам 1959 году паза межамі свае рэспублікі, аб'ектыўна бяручы, ня можа адказваць праўдзе. Ён павінен быць значна вышэйшы. На правільнасьць такога цьверджаньня паказвае нам і той факт, што ўжо савецкім перапісам 1926 году на тэрыторыі СССР, але паза межамі Беларускае ССР, было выяўлена 722 000 Беларусаў. З гэтага 320 000 жыло ў Сібіры, 250 000 у эўрапэйскай часьці РСФСР.[85] Ліку Беларусаў паза тэрыторыяй свае рэспублікі, выяўленага перапісам 1939 году, савецкія публікацыі не падалі.

[85] Всесоюзная перепись населения 17 декабря 1926 года. Краткия сводки. Вып IV. Народность и родной язык населения СССР. Москва, 1928, б. VII.

Калі ад сьцьверджанага апошнім перапісам 1 381 000 Беларусаў паза сваей рэспублікай адыймем найперш усіх Беларусаў з новадалучаных да СССР у часе вайны тэрыторыяў трох прыбалтыйскіх рэспублікаў, дый Заходняе Украіны, разам каля 175 000, а посьле ад 1 206 000 астачы адыймем яшчэ й 722 000 Беларусаў, якія жылі паза межамі БССР ужо й у 1926 годзе, дык акажыцца, што за 32 гады, ад перапісу 1926 году, нягледзячы на нясупынныя масавыя дэпартацыі Беларусаў, лік іх паза сваей рэспублікай узрос усяго на 484 000. Гэта яўная супярэчнасьць з фактамі. За 32 гады ўжо самым натуральным прыростам з 722 000 у 1926 годзе, да 1959 году, трэба было-б чакаць каля 1 206 000. Значыцца масава дэпартаваных, вывожаных, перасяляных у гэтым часе ў іншыя краі СССР Беларусаў, якіх трэба было-б спадзявацца мільёны, наагул няма — яны шчэзьлі да апошняга чалавека.

Дык лік Беларусаў паза тэрыторыяй свае рэспублікі, дадзены апошнім савецкім перапісам, яўна не згаджаецца ані зь ведамымі гістарычнымі фактамі масавых дэпартацыяў з тэрыторыі, ані з дадзенымі папярэдніх савецкіх перапісаў. Прычыны гэтага могуць быць дзьве: або значны іх лік сяньня на толькі русыфікаваўся, што ў часе перапісу яны самі запраўды падалі й сваю нацыянальнасьць, а ня толькі мову, за расейскую. Або — другая магчымасьць — перапіснымі савецкімі органамі тэндэнцыйна й знямерана вялікі лік Беларусаў, што жывуць цяпер за межамі свае бацькаўшчыны, быў прыпісаны да пануючае нацыянальнасьці імпэрыі — Расейцаў. Выглядае, што галоўную ролю мусіў іграць тут другі фактар, паколькі нацыянальная асыміляцыя нармальна патрабуе значна большага часу, дый звычайна не адбываецца масава на працягу ўсяго аднаго пакаленьня. Тымбольш гэтае дапушчэньне выглядае правільным дзеля таго, што рубрыкі савецкае перапіснае статыстыкі пакідаюць-жа магчымасьць падаваць сваю беларускую нацыянальнасьць і тым, што ўжо згубілі сваю беларуску мову.

У дагэтуляшніх публікацыях ЦСУ не пададзена, як разьмешчаныя па акругах, краёх ды «аўтаномных» рэспубліках РСФСР выяўленыя тамака 844 000 Беларусаў. А гэтыя лічбы маглі-б даць адказ на вельмі важнае пытаньне: куды, у якія краіны РСФСР дэпартаваныя Беларусы пераважна кіраваліся. Ужо ў часе перапісу 1926 году ў некаторых акругах Сібіру Беларусы станавілі 14-16% жыхарства. Масавыя дэпартацыі Беларусаў у гадох посьле гэтага перапісу павінны былі-б гэтыя лікі яшчэ значна павысіць. Гэты факт пацьвярджае й афіцыйны савецкі друк. Прыкладам, савецкая «вялікая» энцыкляпэдыя ў 1955 годзе пра гэта кажа: «Даволі шмат Беларусаў у Сібіры (прыкл. у Краснаярскім краі)».[86]

Бяз дадзеных аб лічбовым тэрытар'яльным разьмяшчэньні Беларусаў у РСФСР немагчыма пакульшто адказаць і на гэткія цікавыя й важныя пытаньні: якая частка Беларусаў у Сібіры й азійскіх прасторах РСФСР, а якая ў эўрапэйскіх. Якая сканцэнтраваная ў большых местах і цэнтрах імпэрыі, Маскве, Ленінградзе й іншых, а якая знайходзіцца паза меставымі й індустрыяльна-адміністрацыйнымі асяродкамі. Каб адказаць на гэтыя важныя пытаньні, давядзецца пачакаць на публікацыі лічбаў апошняга перапісу аб разьмяшчэньні жыхарства розных нацыянальнасьцяў па

[86] БСЭ, т. 37, 1955, б. 39.



акругах, местах і селішчах, калі такая публікацыя будзе калі-небудзь наагул зробленая.

Што да іншых савецкіх рэспублікаў і лічбы ў іх Беларусаў, дык трэба падчыркнуць значнейшы іх лік на сучаснай тэрыторыі Украінскае ССР — 291 000, што, выглядае, звычайны вынік праводжанага ў СССР перамешваньня жыхарства розных нацыянальнасьцяў па паасобных рэспубліках. Неправўдападобна нізкі, затое, лік Беларусаў падала ЦСУ для Казахскай ССР. Усяго 108 000 тамака, куды ўжо блізу 30 год праводзяцца індывідуальныя й масавыя ссылкі Беларусаў і Сталінам, і Хрушчовам.[87] Самою русыфікацыяй выясьніць шчэзьненьня масаў дэпартаваных у Казахстан Беларусаў немагчыма, бо на гэта быў за кароткі час. Вачавідкі маем гэтта прыклад звычайнага прыпісваньня бальшыні Беларусаў, як і іншых навезеных у Казахстан нацыянальнасьцяў, да Расейцаў не чакаючы навет на іхную русыфікацыю. На гэта паказвае й нязвычайна вялікі ўзрост Расейцаў у Казахскай ССР, дзе іх цяпер, паводля апошняга перапісу, 3 974 000 або 42.7%. У 1933 годзе Расейцаў там было толькі 1 280 000 ці 19.8%. Выходзе так, што вывозіцца ў Казахскую ССР галоўна Беларусаў, Украінцаў ды іншыя нерасейскія нацыянальнасьці, а перапіс знайходзіць тамака найбольш Расейцаў. Тое самае, што аб Казахскай ССР, можна сказаць і аб іншых азійскіх рэспубліках ды краінах СССР.

Зварачвае на сябе ўвагу й даволі малы лік Беларусаў у дзьвёх, суседніх Беларускай, прыбалтыйскіх рэспубліках — Лятувіскай і Латыскай, хоць у межы гэтых рэспублікаў уходзяць і часткі беларускае этнічнае тэрыторыі — частка Віленшчыны ў Лятувіскай ССР, Дзьвіншчына з Латгаліяй у Латвійскай ССР. У Лятувіскай ССР перапіс знайшоў усяго 30 000 Беларусаў, 1.1% усяго жыхарства, што паказвае на тое, што Беларусы Віленшчыны ў сваей масе былі запісаныя або Расейцамі або, каталікі, Палякамі. Палякоў у Лятувіскай ССР апошні перапіс падае 230 000, ці 8.5%, хоць у гадох, 1944—1947, у часе вымены жыхарства між Польшчаю й СССР, з тэрыторыі Лятувіскае ССР было ўжо перасялена, як Палякаў, 180 000 чалавек.[88]

Падобнае зусім палажэньне й у Латвійскай ССР, дзе перапіс падае 61 000 або 2.9% Беларусаў. У гэтай лічбе ўжо часткова адчуваецца існаваньне ў межах рэспублікі беларускае этнічнае тэрыторыі, хоць сама лічба й далёкая ад запраўднае. Як у Лятувіскай ССР, гэтак і ў Латвійскай, усе беларускія школы, якіх было тамака колькі дзесяткоў, савецкая расейская ўлада зьліквідавала, разам із дзьвінскаю й рыскаю беларускімі сярэднімі школамі. На іх месца адкрытыя школы расейскія.[89]

Сумуючы свой агляд лічбаў Беларусаў у СССР і Беларускай ССР на аснове публікаваных дадзеных савецкага перапісу, трэба зрабіць колькі высноваў. Найперш, трэба падчыркнуць факт, што перапіс сьцьвердзіў ня прырост, а памяншэньне агульнага ліку Беларусаў за 20 міжперапісных гадоў, памяншэньне ў вышыні 362 000, ці на 4.1%, калі за лічбу Беларусаў на пачатку 1939 году прыймем афіцыйны савецкі лік 8 275 000. Гэткі лік, як устаноўлены «па канчатковых падліках перапісу 1939 году», падае

[87] Genocide in the USSR. Institute for the Study of the USSR. Munich, 1958, b. 87. The Crimes of Krushchew. Part 6. Committee on Un-American Activities. House of Representatives. Washington, 1960, b. 19-24.

[88] Мікола Волаціч. Насельніцтва Заходняе Беларусі . . ., б. 26.

[89] Культурное строительство СССР. Москва, 1956, б. 186—187.

савецкая вялікая энцыкляпэдыя.[90] Перапіс выказаў затое ўзрост лічбы Беларусаў паза тэрыторыяй свае рэспублікі, але ў межах СССР. Але лікі перапісу яўна не адбіваюць сапраўднае сучаснае лічбовае вялічыні Беларусаў паза Беларускаю ССР. Зь лічбаў ЦСУ відаць, што апошні савецкі перапіс зарэгістраваў беларускую нацыянальнасьць толькі часткі ўсей той масы Беларусаў, што была вывезеная з тэрыторыі рэспублікі на працягу апошніх блізу 30-ці даперапісных гадоў. Бальшыня-ж іх, відаць, была прыпісаная да расейскае нацыянальнасьці. Трэба адцеміць, што факт масавага вывазу жыхарства з тэрыторыі Беларускае ССР наагул вельмі неахвотна й рэдка прызнаецца ў навуковым савецкім друку. Пераважна-ж савецкія аўтары цяперашняе большае расьцярушаньне жыхарства беларускае нацыянальнасьці паза сваею этнічнаю тэрыторыяй намагаюцца паясьняць масавымі ўцёкамі жыхарства зь Беларусі перад нямецкім наступам улетку 1941 году. Гэткае выясьненьне ня згоднае з праўдаю. Найперш, уцёкі гэтыя ня былі гэткімі масавымі. Уцякала галоўна савецкая партыйная й дзяржаўная адміністрацыя, пераважна расейскае нацыянальнасьці. Навет і Жыды ў сваей масе заставаліся на месцы, паколькі яны ня былі сьведамыя факту, што гітлераўская акупацыя нясе ім фізычнае зьнішчэньне. Аб гэтым цалкам і, відаць, знамерана, праз увесь час вайны маўчала ўся савецкая прэса дый радыё.

Тая-ж частка жыхарства рэспублікі, якая й уцякла перад Немцамі, у сваей масе пазьней вярнулася на тэрыторыю Беларускае ССР назад. У выніку, уплыў уцёкаў жыхарства перад нямецкаю арміяй ня мог паважней заважыць на сучасных ліках Беларусаў паза межамі свае рэспублікі. Вялікія масы беларускага жыхарства, раськінутыя сяньня па тэрыторыі СССР, апынуліся тамака ня дзеля ўцёкаў із свае тэрыторыі, а ў выніку савецкіх дэпартацыяў і прымусовых перасяленьняў сталінскае й хрушчоўскае пары.

Для нагляднага ўсьведамленьня, якую пазыцыю па сваім ліку займаюць сяньня Беларусы сярод іншых народаў СССР, на табл. 18 пададзеныя лікі 22 большых нацыянальнасьцяў СССР, як іх падае ЦСУ на час савецкага перапісу 1959 году.[91] Разам пададзена, і які працэнт іх лічыць за родную мову — мову свае нацыянальнасьці.

З табл. 18 відаць, што нягледзячы на ўсе вялікія лічбовыя страты Беларусаў у міжперапісную пару дзеля вайны, савецкага тэрору дый русыфікацыі, беларускі народ па сваім ліку захаваў за сабою трэйцяе месца сярод іншых народаў СССР, пасьля народаў расейскага і ўкраінскага. На чацьвертым месцы за Беларусамі знайходзяцца Ўзбэкі зь лікам 6 015 000, і на пятым Татары ў ліку 4 968 000. Трэба падчыркнуць, што трэйцяе месца па сваім ліку Беларусы захавалі паміма таго, што ў тым-жа часе Беларуская ССР, як дзяржава, дзеля масавых дэпартацыяў, па ліку свайго жыхарства спала з ранейшага трэйцяга месца на месца пятае, апярэджаная ў міжперапісным часе Казахскаю й Узбэкскаю ССР.

У рубрыцы аб працэнце з роднаю моваю на табл. 18 бачым, што 84,2% усіх Беларусаў, што жылі ў часе перапісу на тэрыторыі СССР, улучна з БССР, падало за сваю родную мову мову беларускую. Да якой роднай мовы прызналася рэшта 15.8% Беларусаў, ЦСУ нічога ня кажа, хоць лёгка

[90] БСЭ, т. 50 Москва, 1957, б. 108.
[91] Народное хозяйство СССР в 1959 году, б. 13.



дагадацца, што пераважна была гэта мова расейская. ЦСУ таксама пакульшто не падало, які гэта працэнт Беларусаў прызнаецца да беларускае мовы як роднае ў межах Беларускае ССР, а які працэнт паза яе межамі. Лягічна, зразумела, трэба спадзявацца большага працэнту Беларусаў з роднаю мовою небеларускаю паза сваей рэспублікай, як у яе межах. Аднак-жа, для пацьверджаньня гэтага дапушчэньня, у дасюлешніх публікацыях ЦСУ не стае адпаведных лічбовых паказаньняў. Паводля моўнае русыфікацыі Беларусы, з захаванаю роднаю моваю ў 84.2%, займаюць сярэдняе палажэньне ў прыраўнаньні да іншых народаў СССР. Як відаць з табл. 18, найвышэйшую ступень русыфікацыі выказваюць нацыянальнасьці нетэрытар'яльныя: Жыды — усяго 21.1% з роднаю моваю, Палякі — 45.5%. З тэрытар'яльных нацыянальнасьцяў найболып моўна русыфікаванымі аказаліся Башкіры. Зь іх толькі 61.9% захавала родную мову. Іншыя, пералічаныя ў табліцы, большыя лікам, народы СССР выказваюць значна меншую ступень русыфікацыі, а найменшую з усіх — Туркмэны, зь якіх 98,9% прызнаецца да свае мовы, як роднае.

**Табл. 18: Лічбовы стан большых народаў СССР паводля перапісу 15 студзеня 1959 году**

| Народы | Лік у тысячах | Зь іх за родную мову падало мову свае нацыянальнасьці (у %) |
|---|---|---|
| Расейцы | 114 114 | 99,8 |
| Украінцы | 37 253 | 87,7 |
| **Беларусы** | **7 913** | **84,2** |
| Узбэкі | 6 015 | 98,4 |
| Татары | 4 968 | 92,1 |
| Казахі | 3 622 | 98,4 |
| Азарбайджанцы | 2 940 | 97,6 |
| Армяне | 2 787 | 89,9 |
| Грузіны | 2 692 | 98,6 |
| Лятувісы | 2 326 | 97,8 |
| Жыды | 2 268 | 21,1 |
| Малдаўцы | 2 214 | 95,2 |
| Немцы | 1 620 | 75,0 |
| Чувашы | 1 470 | 90,8 |
| Латышы | 1 400 | 95,1 |
| Таджыкі | 1 397 | 98,1 |
| Палякі | 1 380 | 45,5 |
| Мардва | 1 285 | 78,1 |
| Туркмэны | 1 002 | 98,9 |
| Башкіры | 989 | 61,9 |
| Эстонцы | 989 | 95,2 |
| Кіргізы | 969 | 98,7 |
| Іншыя | 5 267 | — |
| СССР | 208 827 | 94,3 |

**Вельмі важныя й цікавыя высновы ў гістарычнай 60-цігадовай пэрспэктыве насоўвае прыраўнаньне сучаснага ліку Беларусаў у Савецкай імпэрыі**

— 7 913 000 — да такога-ж ліку з часу перапісу 1897 году. Першы перапіс Расейскае імпэрыі 1897 году, у часе якога рэгістравалася родная мова жыхарства, а не нацыянальнасьць, Беларусаў па мове запісаў 5 886 000. Лік гэты яўна не адказваў запраўднаму, дзеля таго, што ў часе перапісу жыхарства вялікае часткі бясспрэчнае беларускае моўнае тэрыторыі — Смаленшчыны, паўдзённае Пскоўшчыны, Берасьцейшчыны дый Піншчыны, у сваей масе было запісанае да жыхарства не беларускага па мове. Ці сталася гэта зь ініцыятывы перапісчыкаў, ці кіраўнікоў перапісу ў цэнтры, справа ня высьсьненая. Ведама толькі, што перапісныя лічбы «роднае мовы» мянялі й у цэнтральнай імпэрскай перапіснай установе, аб чым гэтая-ж установа сама падае ў сваім «Общим своде» ў гэткіх словах: «Дзеля таго, што рубрыка аб роднай мове пры праводжаньні перапісу мела за галоўную мэту высьсьніць акурат нацыянальнасьць жыхарства, дык у шмат якіх выпадках пры распрацоўваньні перапіснага матар'ялу было прызнана за мэгазгоднае паддаць дадзеныя азначанай рубрыкі адпаведным папраўкам, карыстаючыся пры гэтым другімі паказьнікамі й азнакамі, што былі ў тых-жа перапісных лістох».[92]

Ведамы мовавед і беларусавед Яўхім Карскі адразу-ж посьле перапісу зрабіў папраўку перапіснага ліку 1897 году й на 1903 год устанавіў лік Беларусаў паводля мовы ў вышыні 8 318 000.[93] І карэктура Карскага ня была яшчэ поўнаю, бо ня брала на ўвагу Берасьцейшчыны й Піншчыны, але ягоны лік усё-ж быў значна бліжэйшым запраўднаму ад перапіснага ліку 1897 году. Удакладненая лічба Карскага, 8 318 000 на 1903 год, паказвае, што 6 гадоў раней, у 1897 годзе, лік Беларусаў па мове (разам зь Берасьцейшчынай і Піншчынай), быў ня меншы 8 мільёнаў. Калі гэтую лічбу прыраўнаем да афіцыйнага савецкага ліку Беларусаў «па канчатковым падліку перапісу 1939 году 8 275 000»,[94] і да ліку апошняга савецкага перапісу 1959 году ў вышыні 7 913 000 па нацыянальнасьці, а па мове ўсяго 6 663 000, дык пабачым, у якім кірунку адбываецца лічбовы «рост» беларускага народу ў складзе раней царскае, а цяпер камуністычнае Расейскае імпэрыі. Калі навет і правесьці ізноў карэктуру цяперашняга перапісу, тую-ж, якую Карскі ў 1903 годзе зрабіў для перапісу 1897 году, ды дадаць да 6 663 000 сучасных Беларусаў паводля мовы ўсё неместавое жыхарства Смаленшчыны й іншых бясспрэчна беларускіх моўных тэрыторыяў, дык і так дойдзем да ліку каля 8 мільёнаў, значыцца таго-ж ліку, што быў і шэсьцьдзесят год таму, або ў 1897 годзе.

З гэтага супастаўленьня лікаў жыхарства зь беларускаю роднаю моваю ў 1897 і 1959 гадох даводзіцца зрабіць канкрэтны высноў, што й у умовах расейскага камуністычнага ладу, як і ранейшага царскага, лічбовы рост беларускага народу ў складзе Маскоўскае імпэрыі паралізуецца. Факт сучаснае сталае дэпартацыі зь межаў Беларускае ССР усяго натуральнага прыросту жыхарства рэспублікі сьветчыць пра тое, што паралізаваньне лічбовага росту рэспублікі, а разам і беларускага народу расейскімі камуністычнымі валадарамі імпэрыі праводзіцца знамерана, плянова й сыстэматычна. У гэткі спосаб савецкая імпэр'яльная Масква намагаецца падсеч

[92] Общий свод по империи результатов разработки данных всеобщей переписи населения, произведенной 28 января 1897 года. Под ред. Н. А. Тройницкого. Том II, С.-Петербург, 1905, б. 1.

[93] Е. Ф. Карский. Белоруссы, т. I. Варшава, 1903, б. 189—190.

[94] БСЭ, т. 50. Москва, 1957, б. 108.



у корані магчымасьці далейшага дэмаграфічнага росту беларускага народу, наканаваўшы яго, у найлепшым выпадку, на лічбовы застой, пры аднначасным шпаркім лічбовым узросьце — і натуральным, і праз русыфікацыю нерасейскіх народаў імпэрыі, — свайго народу расейскага.

Трэба ў канцы адцеміць, што, калі-б удалося ўстанавіць і дакладны запраўдны сучасны лік Беларусаў у межах СССР, пытаньне агульнага ліку ўсіх Беларусаў сьвету гэтым яшчэ не разьвязваецца дзеля таго, што й паза межамі СССР, у сатэлітнай Польшчы, існуе яшчэ беларуская этнічная тэрыторыя. Апрача гэтага, у гэтай-жа Польшчы, у краёх Заходняе Эўропы, Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі, Аўстраліі, існуе сяньня вялікая лікам, старая й новая, эканамічная й палітычная, беларуская эміграцыя. Азначэньне, навет і прыблізнае, ацэначнае, сучаснага агульнага ліку гэтае эміграцыі, заданьне ня лёгкае й яно выйходзіць паза межы намечаныя для гэтае працы аб дэмаграфічных ліках датычных Беларусаў і Беларускае ССР, выяўленых у часе савецкага перапісу 1959 году.

## БЕЛАРУСКАЯ ЭТНІЧНАЯ ТЭРЫТОРЫЯ Ў СССР ПАЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСКАЕ РЭСПУБЛІКІ

Пры разглядзе дэмаграфічных лікаў перапісу 1959 году, датычных тэрыторыі Беларускае ССР, на месцы будзе адзначыць важны факт, што сучасныя межы рэспублікі далёка не абыймаюць усяе беларускае этнічнае тэрыторыі. Вялікія яе часьці знайходзяцца паза межамі Беларускае ССР, а некаторыя навет і за межамі СССР.

Гэтак, паза БССР і СССР, а ў межах сучаснае Польшчы, Беласток зь Беласточчынай і беларускае Падляшша. Тамака цяпер існуе больш ста пачаткавых школаў беларускіх і зь беларускаю моваю, як прадметам, тры школы сярэднія, больш ста гурткоў беларускае культурна-асьветнае арганізацыі й каля ста праваслаўных прыходаў. У межах СССР, але паза тэрыторыяй Беларускае ССР, Вільня й часьць Віленшчыны. У межах Латвійскае ССР Дзьвіншчына й беларуская частка Латгаліі. Да Украінскае ССР належаць беларускія моўна часткі паўночнае Чарнігаўшчыны.

Усе пералічаныя вышэй беларускія этнічныя тэрыторыі, аднак-жа, значна меншых памераў за тыя беларускія прасторы, якія Масква прырэзала да свае расейскае рэспублікі, да РСФСР. Пра далучаныя да РСФСР беларускія этнічна землі вось што ў 1927 годзе пісала Большая Советская Энциклопедия: «Этнаграфічная Беларусь ці прастора, на якой Беларусы становяць абсалютную або рэлятыўную бальшыню, ахоплівае, апрача Беларускае ССР, таксама некаторыя часьці РСФСР, а пайменна часткі Бранскае, Смаленскае й Пскоўскае губэрняў».[95]

На этнаграфічных і моўных картах расейскіх навукоўцаў, пачынаючы ад «Этнаграфічнае карты эўрапэйскае Расеі» Рыттыха 1875 году,[96] Смаленск і Смаленшчына, заходняя Браншчына, Невельшчына й паўдзённыя часткі Пскоўшчыны адзначаюцца як тэрыторыі бясспрэчна беларускія. Гэтак ёсьць на картах Карскага з 1903,[97] 1917 ды іншых гадоў,[98] на карце Маскоўскае

[95] БСЭ, т. 5, 1927, б. 352.

[96] А. Ф. Риттих. Этнографическая карта Европейской России. Санкт-Петербург, 1875.

[97] Е. Ф. Карский. Белоруссы, т. I. Варшава, 1903.

[98] Е. Ф. Карский. Этнографическая карта белорусского племени. Россий-

Дыялекталягічнае Камісіі 1915 году,[99] на паваенных цяперашніх картах расейскіх моваведаў Аванесава з 1949,[100] Черных[101] і Кузняцова з 1954 і пазьнейшых гадоў.[102] Тэрыторыі гэтыя былі таксама азначаныя як беларускія пастановаю I-га зьезду Камуністычнае Партыі (бальшавікоў) Беларусі з 30 сьнежня 1918 году аб межах Беларускае савецкае рэспублікі. У параграфе 4-м гэтае пастановы гаворыцца, што ў склад Беларускае рэспублікі мае ўходзіць Смаленскі «раён» разам з падраёнамі Смаленскім, Бельскім, Духаўшчынскім, Парэцкім, (Дзямідаўскім), Дарагабускім, Ельнінскім, Красінскім і Рослаўскім; «раён» Гомельскі з падраёнамі Сураскім, Мглінскім, Старадубскім; «раён» Віцебскі з падраёнамі Вяліскім, Невельскім і Себежскім.[103] Вось усе гэтыя «падраёны» свае-ж «саюзнае» Беларускае рэспублікі Масква пазьней забрала й далучыла да Расейскае СФСР.

І вось, нягледзячы на шматлікія гістарычныя, этнаграфічныя й лінгвістычныя пацьверджаньні расейскіх навукоўцаў беларускасьці гэтых прастораў, асабліва паводля мовы, і, наўсуперак факту, што тэрытарыяльная маса жыхарства гэтых прастораў і сяньня гавора пабеларуску, у часе ўсіх расейскіх перапісаў — 1897, 1926, 1939 і 1959 гадоў — жыхары гэтых тэрыторыяў і расейскімі царскімі, і расейскімі савецкімі перапісчыкамі былі заўсёды й пагалоўна запісаныя ў Расейцы ня толькі паводля нацыянальнасьці, але й паводля мовы. Дый царскі перапіс 1897 году рубрыкі нацыянальнасьці наагул ня меў, а толькі рубрыку «роднае мовы». Моваввед Карскі, на аснове расейскіх-жа афіцыйных статыстычных публікацыяў,[104] адразу-ж посьле перапісу 1897 году, у 1903 годзе, устанавіў, што ў самой Смаленскай губэрні Беларусаў было тады 947 826 чалавек.[105] Гэтую яўную супярэчнасьць і царскіх, і савецкіх расейскіх перапісаў з фактамі мовы, этнаграфіі й гісторыі, расейскія дэмографы й раней, і цяпер, абыходзяць нейк моўчкі. Хоць лічбы нацыянальнасьці й мовы апошняга савецкага перапісу па акругах і раёнах яшчэ й не апублікаваныя, але ёсьць асновы дапускаць, што дакладна тое-ж паўтарылася й у часе сучаснага перапісу, ствараючы ізноў моўна-статыстычны парадокс: рэгістрацыю ў Смаленшчыне, Браншчыне, Пскоўшчыне мільённых масаў Расейцаў з расейскаю «роднаю моваю», хоць кажнаму моваведу ведама, што масы гэтыя гавораць пабеларуску. Што гэтак сталася й цяпер, на гэта паказвае той факт, што паводля публікацыяў ЦСУ, у часе апошняга перапісу 99.8% жыхароў СССР, што запісалі сваю

ская Академия Наук. Труды Комиссии по изучению племенного состава населения Росси. Петроград, 1917. Карта гэтая была перавыдадзеная ў гадох 1918, 1920, 1921.

[99] Дурново Н. Н., Соколов Н. Н., Ушаков Д. Н. Опыт диалектологической карты русского языка в Европе, с приложением очерка русской диалектологии. Труды Московской Диалектологической Комиссии, ч. V. Москва, 1915.

[100] Р. И. Аванесов. Очерки русской диалектологии, ч. I. Москва, 1949.

[101] П. Я. Черных. Историческая грамматика русского языка. Изд. 2-ое. Москва, 1954.

[102] П. С. Кузнецов. Русская диалектология, Изд. 2-ое. Москва, 1954. Изд. 3-е. Москва, 1960.

[103] Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Документы и материалы по истории Белоруссии, т. IV. Институт Истории Академии Наук БССР. Минск, 1954, б. 446—447.

[104] Обзор Смоленской губернии за 1901 год. Всеподданейший доклад губернатора. Смоленск, 1901.

[105] Е. Ф. Карский. Белоруссы, т. I. Варшава, 1903, б. 190.



нацыянальнасьць як расейскую, адначасна и за сваю родную мову падалі мову расейскую.

Што да вялічыні беларускае моўна-этнічнае тэрыторыі, дык «Большая советская энциклопедия» ў 1927 годзе азначала яе на 317 000 кв. км.,[106] з чаго відаць, што ў межах сучаснае Беларускае ССР з паверхняю 207 600 кв. км. знаходзіцца прыблізна толькі 2/3 беларускае этнічнае тэрыторыі. Дый на сьцьверджаньні факту існаваньня вялікіх беларускіх этнічна-моўных прастораў у межах РСФСР, пытаньне вялічыні беларускае нацыянальнае тэрыторыі яшчэ ня вычэрпваецца. Як першы раз было паказана на карце Маскоўскае Дыялекталягічнае Камісіі 1915 году,[107] а пазьней удакладнена на ўспомненых сучасных моўных картах Аванесава,[108] Черных,[109] Кузнецова,[110] за такімі чыста беларускімі з моўнага гледзішча прасторамі, як Смаленшчына, не пачынаецца яшчэ расейская этнічна-моўная тэрыторыя, бо між беларускімі й расейскімі моўнымі прасторамі існуе й на ўсходзе, і на поўначы яшчэ шырокая паласа г. зв. пераходных беларуска-расейскіх гаворак. Тэрыторыя гэтых пераходных гаворак цягнецца ўздоўж Смаленшчыны на ўсходзе, а на поўначы яна займае значную частку Пскоўшчыны з Псковам. Гэтыя «пераходныя» моўна прасторы паўсталі шляхам шматвяковых моўных расейскіх наслаеньняў на старой мясцовай беларускай мове. Дык моўная аснова ўсіх гэтых пераходных гаворак беларуская. З моўнага гледзішча прасторы гэтыя й сяньня ня менш беларускія, як расейскія. Дзеля гэтага й сучасныя, раней спамінаныя, расейскія моваведы на сваіх дыялекталягічных картах землі гэтыя ня ўлучаюць у моўную тэрыторыю расейскую, а пакідаюць іх між беларускімі й расейскімі моўнымі прасторамі.

Аб беларускасьці «пераходных» моўных прастораў тая-ж «Большая советская энциклопедия» 1927 году падавала: «... белорусские па аснове дыялекты пашыраныя й далей на ўсход ... у большай, паўдзённа-заходняй часьці Калужскай губэрні ... Беларускі ўплыў ... блізу ўва ўсей Пскоўскай губэрні (за выняткам Порхаўскага павету) і паўдзённа-заходняй часьці Цьверскае, і навет у паўдзённай памежнай паласе Ленінградзкае губэрні ...» (б. 352). Па сваей вялічыні гэтыя, пераходныя моўна, беларускія палосы даволі значныя. Іхная агульная паверхня дасягае каля 160 000 кв. км. Вось і гэтыя ўсе прасторы, якія й паважнейшыя расейскія моваведы на сваіх картах да расейскага моўнага абшару не залічаюць, у часе ўсіх расейскіх перапісаў — і царскіх, і савецкіх, — падаюцца таксама за чыста расейскія ня толькі паводля нацыянальнасьці, але й паводля мовы.

На табл. 20 пададзенае, у квадратных кілямэтрах і мілях, супастаўленьне паверхні трох тэрытарыяльных прастораў: Беларускае ССР, беларускае чыстае моўнае тэрыторыі й усяго беларускага моўнага абшару, разам з гаворкамі пераходнымі. Адначасна падаецца й жыхарства гэтых тэрыторыяў на пачатак 1959 году, у мільёнах. Лікі жыхарства прастораў чыстага моўнага й усяго, разам зь пераходнымі гаворкамі, пададзеныя ацэначныя, прыблізныя, паколькі дагэтуляшнія публікацыі ЦСУ даюць перапісныя лічбы

[106] БСЭ, т. 5. 1927, б. 352

[107] Дурново Н. Н., Соколов Н. Н., Ушаков Д. Н. Опыт диалектологической карты русского языка в Европе, с приложением очерка русской диалектологии. Труды Московской Диалектологической Комиссии, ч. V. Москва 1915.

[108] Р. И. Аванесов. Очерки русской диалектологии, ч. I. Москва, 1949.

[109] П. Я. Черных. Историческая грамматика русского языка.

[110] П. С. Кузнецов. Русская диалектология.

жыхарства толькі па акругах, што не дае магчымасьці больш дакладнага азначэньня лікаў жыхарства дадзеных прастораў.

**Табл. 20: Паверхня й жыхарства тэрыторыі Беларускае ССР, тэрыторыі беларускае чыстае мовы й беларускае моўнае прасторы з гаворкамі пераходнымі, у пачатку 1959 году**

| | Паверхня ў кв. км. | Паверхня ў кв. мілях | Жыхарства ў мільёнах |
|---|---|---|---|
| Беларуская ССР | 207 600 | 80 200 | 8 |
| Прастора беларускае чыстае мовы | 320 000 | 120 000 | 12*) |
| Прастора беларускае мовы з гаворкамі пераходнымі | 480 000 | 180 000 | 18*) |

Зь лічбаў табл. 20 выяўляецца схэматычнае правіла: Беларуская ССР у сваіх межах абыймае толькі 2/3 тэрыторыі чыстае беларускае мовы, якая із свайго боку, становіць усяго каля 2/3 вялічыні ўсяго беларускага моўнага абшару, разам з гаворкамі пераходнымі. Паверхня тэрыторыі беларускае чыстае мовы на табліцы закругленая з 317 000, да 320 000 кв. км., на тэй аснове, што савецкая энцыкляпэдыя 1927 году сваімі этнаграфічнымі межамі Беларусі на захадзе не ахапіла забужанскага куска беларускае этнічна зямлі ў Белападляскім павеце.

На беларускай моўна-этнічнай тэрыторыі, што сяньня ў СССР, але паза межамі Беларускае ССР, знайходзяцца гэткія большыя месты: Вільня з жыхарствам на 15 студзеня 1959 году 236 000, Бранск 207 000, Смаленск 147 000, Чарнігаў 90 000, Пскоў 81 000, Дзьвінск 65 000, Вялікія Лукі 59 000. Зь іх Вільня ў Лятувіскай ССР, Дзьвінск у Латвійскай, Чарнігаў у Украінскай. Усе іншыя, пералічаныя вышэй, месты, сяньня ў межах Расейскае СФСР. Паза тэрыторыяй СССР, хоць таксама на беларускім этнічна-моўным прасторы, знайходзіцца Беласток, места, якое цяпер у межах сатэлітнае Польшчы, і якое на пачатку 1959 году мела 116 600 жыхароў.[111]

На аснове, хай сабе й прыблізных, ацэначных лікаў сучаснага жыхарства беларускае этнічна-моўнае тэрыторыі, можна зрабіць спробу азначыць і ўвесь дэмаграфічны дэфіцыт усяе беларускае нацыянальнае тэрыторыі ў 20-цігоднім міжперапісным часе. Хоць паверхня ўсіх трох тэрыторыяў была аднолькава абнятая дэструкцыйнымі дзеяньнямі Другое Сусьветнае Вайны й савецкім масавым тэрорам ды дэпартацыямі, ды, для дакладнейшага азначэньня недаліку тамака жыхарства за міжперапісны пэрыяд, трэба ўзяць на ўвагу й некаторыя іх спэцыфічныя рэгіянальныя дэмаграфічныя адрознасьці, дый, пры abліку ваеннага й неваеннага дэмаграфічнага дэфіцыту, парабіць адпаведныя карэктуры. Гэтак, Смаленшчына, Браншчына, Пскоўшчына, дый усе пераходныя моўныя тэрыторыі, за часоў царскага рэжыму ў імпэрыі знайходзіліся паза жыдоўскаю «чертой оседлости». Дзеля гэтага лік жыдоўскага жыхарства на гэтых тэрыторыях і на пачатку Другое Сусьветнае Вайны быў невялікі. У выніку, гітлераўскія нішчэньні Жыдоў на гэтых прасторах у часе вайны не маглі спрычыніць гэткіх высокіх лічбовых стратаў жыхарства, як на прасторы Беларускае ССР, дзе страты жыдоўскія становяць 1/3 усіх ваенных стратаў.

*) Лікі ацэначныя.

[111] Mały rocznik statystyczny 1960. Główny Urząd Statystyczny Polskiej Rzeczpospolitej Ludowej. Warszawa, 1960, b. 10.



Другі важны мамэнт, на які трэба мець увагу пры азначэньні дэмаграфічных стратаў неваеннага ўжо паходжаньня, гэта тое, што дзеля свайго геаграфічнага палажэньня із Смаленшчыны дый усіх беларускіх прастораў гаворак пераходных жыхарства ня мела магчымасьці для масавых уцёкаў на захад перад наступам савецкіх арміяў, як гэта было на тэрыторыі Беларускае ССР, а асабліва тэрыторыі былое Заходняе Беларусі. Дзеля гэтага гэтыя тэрыторыі ня мелі й стратаў жыхарства дзеля масавае палітычнае эміграцыі-ўцёкаў на захад. Вось, улічаючы гэтыя мамэнты, ацэначныя лікі ваенных, неваенных і агульных дэмаграфічных стратаў для трох тэрыторыяў — Беларускае ССР, беларускае чыстае моўнае прасторы й моўнае прасторы зь беларускімі гаворкамі пераходнымі — выглядалі-б так, як паказана на табл. 21.

**Табл. 21: Дэмаргафічныя страты жыхарства за гады 1939—1959 на тэрыторыях Беларускае ССР, беларускае чыстае мовы, і беларускае мовы з гаворкамі пераходнымі.**

| Дэмаграфічныя страты | Тэрыторыя Беларускае ССР | Тэрыторыя беларускае мовы | Моўная тэрыторыя з гаворкамі пераходнымі |
|---|---|---|---|
| Ваенныя | 2 000 000 | 2 750 000 | 3 750 000 |
| Неваенныя | 4 045 000 | 5 170 000 | 7 420 000 |
| Усяго | 6 045 000 | 7 920 000 | 11 170 000 |

Лікі табл. 21, зразумела, маюць характар лікаў ацэначных, прыблізных. Як доўга дасьледнікам будуць недаступныя канкрэтныя лічбовыя дадзеныя пра ваенныя й неваенныя страты жыхасртва рэспублікі, пра натуральны рух гэтага жыхарства і пра дэтальнейшыя лікі апошняга перапісу на вышэй названых трох тэрытарыяльных вялічынях, датуль будзе немагчымае больш дакладнае азначэньне дэмаграфічных стратаў гэтых тэрыторыяў. Агульна бяручы, аднак-жа лікі гэтыя правільна паказваюць памеры таго вялізарнага дэмаграфічнага дэфіцыту, які беларуская нацыянальная тэрыторыя дазнала ў часе дваццаці міжперапісных гадоў.

Помніць яшчэ трэба, што ўсе ацэначныя лікі стратаў жыхарства на табліцы даюць толькі страты дваццацігодняе міжперапіснае пары, а не абыймаюць усіх стратаў жыхарства тэрыторыі за ўвесь час панаваньня на ёй расейскага савецкага рэжыму. Для азначэньня стратаў жыхарства беларускае тэрыторыі за ўвесь савецкі час, трэба, найперш, дадаць дэмаграфічны недалік міжперапіснага часу 1926—1939 гадоў, які для тэрыторыі тагачаснае БССР ў гэтай працы раней ужо быў аблічаны на 763 000. Калі ў тэй-жа прапорцыі аблічым дэмаграфічны дэфіцыт для тэрыторыяў чыстае беларускае мовы, вышыні 1 017 000, і беларускае мовы разам з гаворкамі пераходнымі, у вышыні 1 589 000, дык для трох розных тэрыторыяў у часе 1926—1959 адпаведныя лікі дэмаграфічнага дэфіцыту будуць выражацца лічбамі: БССР — 6 808 000, прастора чыстае беларускае мовы 8 937 000 і беларуская мова разам зь пераходнымі гаворкамі — 12 759 000.

## ВЫСНАВЫ

Перад пераходам да абагульненьняў і выснаваў, найперш важна адказаць на пытаньне: ці і на колькі апублікаваныя ЦСУ дадзеныя перапісу 1959 году аб Беларускай ССР, асабліва ў галіне нацыянальнага яе складу,

і лічбы Беларусаў на тэрыторыі ўсяго СССР, адбіваюць запраўдны стан? На аснове папярэдняга аналізу вынікаў перапісу на гэтае пытаньне прыходзіцца даць два розныя адказы: іншы для дадзеных датычных тэрыторыі Беларускае рэспублікі, іншыя для ліку Беларусаў у іншых рэспубліках СССР.

Калі ходзіць аб перапісныя лікі Беларускае рэспублікі паводля нацыянальнасьці, дык із супастаўленьня іх зь існуючымі папярэднімі перапіснымі й няперапіснымі дадзенымі, зь ведамымі гістарычнымі падзеямі й фактамі міжперапісных гадоў, даводзіцца дайсьці да адказу, што апублікаваныя ЦСУ лічбы, агульна бяручы, могуць прыблізна адказваць запраўднаму стану. Для правільнейшае ацэны іх значэньня трэба мець, аднак-жа, наўвеце дзьве паважнейшыя засьцярогі.

Найперш, трэба помніць, што перапіс праводзіўся ў пару, калі ў СССР ад дзесяткоў ужо год, праз магутны апарат партыйнае прапаганды, Масква праводзіць нясупынную глёрыфікацыю свайго «вялікага рускага народу», расейскае мовы, культуры дый наагул усяго расейскага. Адначасна існуе яўная й сыстэматычная тэндэнцыя абсаджваць Расейцамі ўсе важнейшыя кіруючыя палітычна-адміністрацыйныя й гаспадарчыя становішчы ў нерасейскіх рэспубліках імпэрыі. У гэтай атмасфэры нацыянальнае няроўнасьці й назольлівых хваласьпеваў усяму, што расейскае, зусім натуральна, што некаторая частка жыхарства нерасейскіх народаў, зь мяркаваньняў асабістае кар'еры й лепшае матар'яльнае сабе пэрспэктывы, намагаецца «прытарнавацца» да палітычнага палажэньня ў гэткі спосаб, што замяж свае запраўднае нацыянальнасьці, падае нацыянальнасьць народу пануючага ў імпэрыі, расейскую. Рэч пэўная, што калі-б перапіс праводзіўся пры палітычнай атмасфэры запраўднае роўнасьці ўсіх народаў СССР, лікі жыхарства народаў нерасейскіх выпалі-б істотна вышшымі, а лік расейскага — адпаведна ніжшым.

Другая засьцярога датычыцца лічбы польскае нацыянальнае мяншыні ў рэспубліцы, якая ў перапісе бясспрэчна выпала значна вышэйшаю ад запраўднае дзеля тае прычыны, што ў дадзеных палітычных умовах частка беларускага сялянства каталіцкага веравызнаньня — паводля ацэны аўтара каля 300 000 — падала сваю нцыянальнасьць за польскую, на аснове старога на тэрыторыі палітычна-прапаганднага прынцыпу: «каталіцкая вера — польская вера». Гэтае пытаньне шырэй разгледжанае ў разьдзеле аб польскай нацыянальнай мяншыні на тэрыторыі рэспублікі.

Вось, улічаючы гэтыя засьцярогі, наагул трэба ўважаць апублікаваныя ЦСУ лічбы перапісу для тэрыторыі Беларускае ССР за прыблізна адказваючыя запраўднаму сучаснаму стану. Затое зусім адваротныя высновы трэба зрабіць з аналізы лічбаў перапісу аб ліку Беларусаў на прасторы СССР паза межамі Беларускае рэспублікі. Пры ведамых масавых дэпартацыях і вывазах на перасяленьні, якія праводзіліся з тэрыторыі Беларускае ССР ад пачатку 1930-х год, дый бяручы на ўвагу, што ў часе перапісу 1926 году за межамі рэспублікі, але на тэрыторыі СССР, было выяўлена 722 000 Беларусаў, лічба апублікаваная ЦСУ з апошняга перапісу — 1 381 000 — аніяк ня можа адказваць праўдзе. Калі навет мець наўвеце, што значны лік дэпартаваных у Сталінскую пару пагінуў па канцэнтрацыйных лягерах, дык усё-ж цяперашняя перапісная лічба Беларусаў паза межамі свае рэспублікі станоўка ня можа адбіваць запраўднасьці. Вывезеныя ў пару дыктатуры Сталіна, а асабліва Хрушчова, не маглі гэтак хутка дэнацыяналізавацца й русыфікавацца. Пры тым, калі-б яны навет і пасьпелі згубіць сваю беларускую мову, рубрыкі перапісу давалі-ж ім магчымасьць падаваць і далей сваю нацыянальнасьць, побач расейскае мовы як роднае. Дый само паймо «родная мова», дакладна бяручы, можа тарнавацца да той толькі мовы, якою чалавек карыстаўся з свайго маленства, а не да мовы пазьней набытае.

Гэтыя ўсе мяркаваньні змушаюць зрабіць выснаў, што ў часе апошняга савецкага перапісу вялікія масы Беларусаў паза тэрыторыяй рэспублікі знамерана былі запісаныя ў Расейцы й па нацыянальнасьці, і па мове, для хутчэйшага павялічэньня ліку жыхарства пануючае расейскае нацыянальнасьці, коштам нерасейскіх, дзеля чаго прымусовыя масавыя перасяленьні ў СССР, між іншым, і праводзяцца. Што гэткія, а ня іншыя намеры Масквы, відаць гэта й з таго, што пераселеным у Казахстан, Краснаярскі край ці іншыя краіны савецкае Азіі й Эўропы, Беларусам, Украінцам ды іншым не дазволена мець тамака свае нацыянальныя арганізацыі, свае школы, сваей прэсы, свайго друку й наагул якіх-небудзь формаў свайго культурна-нацыянальнага жыцьця. Адразу-ж пасьля перасяленьня ўсім ім накідаецца расейская мова.

Другі яскравы факт, які пацьвярджае нязгоднасьць з запраўднасьцяй перапісных лічбаў Беларусаў паза тэрыторыяй Беларускае ССР, гэта яўнае запісваньне ўсіх Беларусаў Беларускае этнічнае тэрыторыі, што сяньня ў межах РСФСР, прыкладам Смаленшчыны, Расейцамі ня толькі па нацыянальнасьці, але й па мове, хоць усе — і царскія, і савецкія, — расейскія аўтары-моваведы сьцьвярджаюць факт, што мова Смаленшчыны — мова беларуская. З усяго гэтага відаць, што апублікаваная ЦСУ лікі жыхароў беларускае нацыянальнасьці перапісу 1959 году не адказваюць праўдзе, бо не падаюць у паўніні ліку дэпартаваных Беларусаў, Беларусаў беларускае этнічнае тэрыторыі ў РСФСР і Беларусаў тых, што жылі на прасторы Савецкае імпэрыі, а паза межамі свае рэспублікі, ужо ў часе перапісу 1926 году.

Пераходзячы да нацыянальнага складу жыхарства рэспублікі, трэба падчыркнуць, што найбольшыя зьмены, якія перапіс у гэтай галіне выявіў, датычацца зьменаў у лічбовым стане жыхарства нацыянальнасьці жыдоўскае й расейскае. У выніку, жыдоўская мяншыня лікам сваім спала з ранейшага першага месца на месца трэйцяе. Расейская-ж із свайго даваеннага месца трэйцяга, высунулася на месца першае. Польская-ж мяншыня, хоць і панесла значныя лічбовыя страты, усё-ж здолела захаваць сваю ранейшую пазыцыю другое па ліку нацыянальнае мяншыні.

Вялікі лічбовы спад жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці, гэта галоўна вынік нішчэньняў жыдоўскага жыхарства ў часе апошняе вайны гітлероўскімі акупацыйнымі органамі. У значна меншай меры спад гэты спрычынены эміграцыяй жыдоўскага жыхарства з тэрыторыі Беларусі. Вялікі-ж лічбовы ўзрост расейскае нацыянальнае мяншыні на тэрыторыі паўстаў у выніку бюракратычна-чынавецкае калянізацыі Беларусі, праводжанае Масквою плянава й сыстэматычна з мэтаю замацаваньня каляніяльнае ад сябе залежнасьці рэспублікі, яе нацыянальнага паслабленьня й прысьпяшэньня яе русыфікацыі. Зь лічбаў перапісу вынікае, што тэмпа расейскае калянізацыі рэспублікі ў паваенныя гады выражаецца сярэдняю гадавою лічбаю 15 000 чалавек. Гэткі гадавы каафіцыент сучаснае расейскае калянізацыі Беларусі.

Разам зь вялікімі зьменамі ў нацыянальным складзе жыхарства Беларускае ССР у міжперапісным пэрыядзе, зайшлі, зразумела, і немалыя зьмены ў складзе рэлігійным. Нажаль аб гэтым зь перапісу нічога ня можна даведацца дзеля тае прычыны, што савецкія перапісы веравызнаньня жыхарства не рэгіструюць. Улічаючы, аднак-жа, вялікае памяншэньне ліку жыхарства жыдоўскае нацыянальнасьці й веры, трэба ўважаць, што сучасны склад жыхарства рэспублікі па веравызнаньні павінен прыблізна выражацца гэткімі працэнтнымі вялічынямі: праваслаўных 75%, каталікоў 20%, Жыдоў 2%, іншых 3%. Перад апошняю сусьветнаю вайною склад жыхарства па веравызнаньні на той-жа тэрыторыі выглядаў прыблізна гэтак: праваслаўных 70%, каталікоў 20%, Жыдоў 8%, іншых 2%. Удзельная вага праваслаўных мусіла цяпер узрасьці дзеля вялікага спаду ліку жыхасртва іншых веравызнаньняў, галоўна жыдоўскага. Судзячы з прэсы БССР, у паваенную пару на тэрыторыі рэспублікі моцна лічбова ўзрасьлі драбнейшыя пратэстанцкія веравызнаньні — баптыстыя, сёмушнікі, мэтадыстыя, сьветкі Яговы й іншыя.

Неправоджаньне ніякое перапіснае рэгістрацыі па веравызнаньні ў СССР і праслед рэлігіі даводзяць да таго, што й кіраўнічыя партыйныя вярхі імпэрыі сяньня вельмі недакладна зар'ентаваныя ў веравызнавальным складзе жыхарства паасобных рэспублікаў ці нацыянальнасьцяў. Прыкладам гэтага можа служыць такая інфармацыя ў савецкай «вялікай» энцыкляпэдыі з 1957 году: «Па афіцыйным веравызнаньні бальшыня Расейцаў, Украінцаў і Беларусаў належала да праваслаўнай царквы, **частка заходніх** Украінцаў і **Беларусаў — да уніяцкае.**[112] Фактам-жа ёсьць, насуперак сказанаму, што ніякога паважнейшага ліку Беларусаў прыналежных да ўніяцкае царквы ня існуе. Ёсьць затое мільёны Беларусаў каталікоў, пра якіх рэдактары энцыкляпэдыі, відаць, нічога ня чулі.

Дый, гаворачы пра веравызнаньні на тэрыторыі сучаснае Беларускае ССР, трэба ўсьведаміць, што ў умовах войстрага камуністычнага праследу рэлігіі, закрываньня й нішчэньня цэркваў, інтэнсыўнае бязбожніцкае прапаганды й атэістычнага школьнага ўзгадаваньня моладзі, якія на бальшыні тэрыторыі рэспублікі праводзяцца на працягу болей 40-ка год, старыя поймы пра веравызнаньне й царкоўную прыналежнасьць сяньня наагул вельмі праблематычныя. У шмат якіх выпадках гэта ўжо больш традыцыя паходжаньня зь сям'і таго ці іншага веравызнаньня, як сучаснае прызнаваньне да яго.

Пераходзячы да агульнага ліку жыхарства Беларускае ССР, выяўленага перапісам у вышыні 8 055 000, трэба найперш падчыркнуць факт ня росту, павялічэньня жыхарства рэспублікі, а яго спаду, памяншэньня на 1 289 000 чалавек з 9 344 000 на пачатку 1939 году. Па стратах свайго жыхарства тэрыторыя Беларускае ССР за 20 міжперапісных гадоў выяўляе найвышэйшы працэнт дэмаграфічнага недаліку сярод усіх іншых рэспублікаў ССР. Агульная лічба дэмаграфічнага дэфіцыту за міжперапісны пэрыяд перавышае 6 мільёнаў. Нягледзячы на частыя войны на тэрыторыі гісторыя Беларусі апошніх стагодзьдзяў ня знае гэткіх вялікіх стратаў жыхарства ў гэткім кароткім адрэзку часу. Характэрна таксама, што толькі адна траціна дэмаграфічнага недаліку рэспублікі, 2 000 000, прыпадае на страты спрычыненыя Другою Сусьветнаю Вайною. Рэшта стратаў — 4 000 000 — гэта бес-

[112] БСЭ, т. 50. 1957, б. 108.



пасярэдні ці пасярэдні вынік расейска-камуністычнага каляніяльнага гаспадараньня на землях беларускае рэспублікі на працягу 20-ці міжперапісных гадоў.

Гаворачы аб стратах ваенных, трэба адцеміць гэткі важны факт: імпэр'яльная Масква свае расейскія землі здолела акружыць паласою нерасейскіх краёў і народаў. У выніку, ваенныя зьнішчэньні заўсёды ў першую чаргу й найбольш кранаюць памежныя, ахопленыя ваеннымі дзеяньнямі, народы імпэрыі, а значна менш цэнтральна й стратэгічна выгадна паложаную Расею й расейскі народ. Гэтак і ў часе апошняе сусьветнае вайны расейская нацыянальная тэрыторыя ваеннымі дзеяньнямі была беспасярэдня закранутая толькі часткова, а тымчасам тэрыторыі ўсіх заходніх рэспублікаў імпэрыі, і асабліва Беларусі, былі гадамі й цалком ахопленыя зьнішчальнымі ваеннымі дзеяньнямі. У гэткі спосаб кажная падобная вайна аўтаматычна наносіць куды большыя зьнішчэньні й страты сярод жыхарства закранутых вайною нерасейскіх «акраінных» народаў імпэрыі, як сярод жыхарства цэнтральна паложанага народу расейскага, і ў выніку дае прапарцыянальны ўзрост лічбовае сілы пануючага расейскага народу, а разам спад ахопленых вайною народаў нерасейскіх.

Неваенныя страты жыхарства рэспублікі, спрычыненыя Сталінскім палітычным тэрорам і дэпартацыямі, наносяцца й далей акцыяй сталага масавага перасяляньня жыхарства зь Беларускае ССР. Існуюць дадзеныя, якія пазваляюць зрабіць і прыблізную ацэну гадавое раты вывазаў жыхарства з рэспублікі ў паваенныя перадперапісныя гады, у пару Хрушчоўскае дыктатуры. Гэтак, у статыстычным зборніку ЦСУ з 1956 году,[113] пададзеныя савецкія ацэначныя лікі жыхарства паасобных рэспублікаў СССР паводля стану на красавік 1956 году. Хоць гэтыя лікі й ня перапіснага паходжаньня, але ў гэткай татальна дзяржаўна кіраванай сыстэме, як савецкая, дзе ўсё на ўліку, яны звычайна даволі дакладна адбіваюць запраўдны стан, калі толькі не праводзіцца нейкіх знамераных дэфармацыяў для адмысловых прапагандных мэтаў. Як савецкі ўсесаюзны перапіс тры гады пазьней паказаў, ацэначныя лікі ЦСУ жыхарства паасобных рэспублікаў, як і цэлага СССР, былі даволі дакладныя й адказвалі тагачаснаму стану.

На табл. 22 пададзеныя ў супастаўленьні ацэначныя лікі ЦСУ жыхарства паасобных рэспублікаў СССР на красавік 1956 году, і, побач, лікі жыхарства ўстаноўленыя тры гады пазьней, падчас перапісу 1959 году.

З прыраўнаньня лікаў паводля ацэны ЦСУ на 1956 год да лікаў атрыманых шляхам перапісу блізу тры гады пазьней можна дайсьці да высnаву, што ацэначныя лікі ЦСУ на 1956 год былі вельмі блізкімі да запраўдных. Перапіс 1959 году пераважна ўсюдых выявіў адпаведны прырост жыхарства на паасобных рэспубліках: большы ад нармальнага там, куды кіраваліся гэтым часам масы перасяленцаў, прыкладам у Казахскай і Узбэкскай рэспубліках, меншы ў тых, скуль гэтыя вывазы пераважна праводзіліся — Беларускай, Украінскай ССР, рэспублік прыбалтыйскіх.

Лік жыхарства Беларускае ССР у 1956 годзе ЦСУ аценіла на 8 мільёнаў. У часе перапісу, блізу тры гады пазьней, жыхарства рэспублікі было большым усяго на 55 000 чалавек, што дае гадавую рату прыросту ўсяго 19 000. Як у разьдзеле пра расейскую нацыянальную мяншыню ў Беларускай рэспубліцы было ўжо выяўлена, гадавы каафіцыент расейскае іміграцыі ў ме-

[113] Народное хозяйство СССР в 1956 году. б. 18.

жы Беларускае ССР у паваенныя гады сярэдня роўны 15 000 чалавек. Гэта значыць, што й гэты мізэрны прырост жыхарства рэспублікі — 55 000 у тры гады — паясьняецца лічбаю насыланых у межы рэспублікі кадраў савецкае кіраўнічае адміністрацыі й іхных сем'яў, асоб расейскае нацыянальнасьці. З гэтага можа быць толькі адзін лягічны выснаў, што ў 1956—1958 гадох зь межаў Беларускае ССР савецкімі масавымі вывазамі на перасяленьні забіраўся дакладна ўвесь натуральны прырост жыхарства рэспублікі.

**Табл. 22: Лікі жыхарства рэспублікаў СССР у 1956 і 1959**

| Рэспублікі | Лікі жыхарства ў мільёнах: Ацэна ЦСУ на красавік 1956 | Лікі жыхарства ў мільёнах: Перапіс 15. 1. 1959 |
|---|---|---|
| СССР | 200,2 | 208,8 |
| Расейская СФСР | 113,2 | 117,5 |
| Украінская | 40,6 | 41,9 |
| **Беларуская** | **8,0** | **8,1** |
| Узбэкская | 7,3 | 8,1 |
| Казахская | 8,5 | 9,3 |
| Грузінская | 4,0 | 4,0 |
| Азэрбайджанская | 3,4 | 3,7 |
| Лятувіская | 2,7 | 2,7 |
| Малдаўская | 2,7 | 2,9 |
| Латвійская | 2,0 | 2,1 |
| Кіргіская | 1,9 | 2,1 |
| Таджыкская | 1,8 | 2,0 |
| Армянская | 1,6 | 1,8 |
| Туркмэнская | 1,4 | 1,5 |
| Эстонская | 1,1 | 1,2 |

Бліжэй азначыць лічбу натуральнага прыросту жыхарства Беларускае ССР у гадох 1956—1958 у ліках абсалютных справа ня лёгкая, дзеля таго, што савецкія афіцыйныя дзейнікі знамерана ня публікуюць ніякіх лічбаў натуральнага руху жыхарства рэспублікі праз усе паваенныя гады. ЦСУ падае толькі лічбы сярэднія натуральнага руху жыхарства для ўсяго СССР, а не для паасобных рэспублікаў. Сярэдняя-ж гадавая лічба натуральнага прыросту для ўсяго СССР у гадох 1956—1958, паводля публікацыяў ЦСУ, была 17,8 на 1000. Калі-б гэтая лічба адказвала прыблізна сучаснаму натуральнаму гадавому прыросту й для тэрыторыі Беларускае ССР, дык за тры няпоўныя гады — ад красавіка 1956 году да 15 студзеня 1959 году — сума агульнага натуральнага прыросту была-б роўнаю 396 000, ці па 142 000 у год. Вось 142 000 чалавек — гэта й ёсьць прыблізная лічбовая вышыня гадавых вывазаў жыхарства рэспублікі. Гэтая лічба, ці лічба крыху й ніжэйшая, але ей блізкая, гэта гадавы каафіцыент дэпапуляцыі Беларусі, што праводзіцца сыстэматычна Масквою ў пару дыктатуры Хрушчова. Сталае забіраньне зь межаў рэспублікі жыхарства ў вышыні ўсяго яе натуральнага прыросту ня толькі паралiжуе дэмаграфічны рост рэспублікі. Дэпапуляцыя, бясспрэчна, адбіваецца й на гаспадарчым, культурным і нацыянальным жыцьці Беларусі. Коратка гэтта зьвернем увагу толькі на некаторыя важнейшыя аспэкты й вынікі сыстэматычнага вылюдненьня Беларускае ССР.



Найперш, у выніку вялікіх дэмаграфічных стратаў за час 20-ці міжперапісных гадоў, Беларуская ССР па ліку свайго жыхарства спала з ранейшага трэйцяга месца сярод рэспублікаў СССР на пятае. Разам з памяншэньнем ліку жыхарства, зразумела, падае й гаспадарчы, палітычны й нацыянальны патэнцыял рэспублікі дый яе рэлятыўная вага ў складзе Савецкае імпэрыі.

Вынік дэпапуляцыяў і сталыя адміністрацыйныя перадзелы рэспублікі зь ліквідацыяй акруговых, раённых і сельсаветных адміністрацыйных адзінак: менш жыхароў — менш акругаў і раёнаў. Вынікам спаду ліку жыхарства рэспублікі й паралiжаваньня вывазамі далейшага дэмаграфічнага росту ёсьць і рэлятыўна павольнае тэмпа індустрыялізацыі й урбанізацыі рэспублікі. Беларуская ССР у часе перапісу 1959 году мела найніжэйшы працэнт меставога жыхарства ад усіх, за выняткам Малдаўскае, савецкіх рэспублікаў. У дзяржаве такое татальнае цэнтралізацыі, як Савецкая імпэрыя, дзе разьвіцьцё найменшае галіны народнае гаспадаркі й промыслу кажнае рэспублікі плянуецца й рэгулюецца зь імпэр'яльнага цэнтру, Масквы, такое павольнае тэмпа індустрыялізацыі й урбанізацыі сьветчыць аб знамераным тармажэньні разьвіцьця промыслу й эканомікі Беларусі зь яўнаю мэтаю дастаць у гэткі спосаб у сваё свабоднае распараджэньне мільённыя рэсурсы беларускага працоўнага жыхарства для прымусовых вывазаў-перасяленьняў у менш заселеныя й гаспадарча разьвітыя краі імпэрыі ў Эўропе й Азіі.

У выніку сыстэматычных вывазаў жыхарства Беларускае ССР у рэспубліцы адчуваецца й хранічная нястача працоўных рук, якая нарастае няраз да крытычнага палажэньня, заграждаючы катастрофаю народнай гаспадаркі, асабліва ў галіне земляробства. Для прыкладу, у 1957 годзе, пасьля 4-х год асабліва інтэнсыўных Хрушчоўскіх вывазаў жыхарства Беларусі на «асваеньне цаліны» й засяляньня Сібіру, у калгасах Беларускае ССР дайшло да гэткае войстрае нястачы працоўных рук, што ў канцы жніўня, калі нармальна ў Беларусі ўсе ўраджаі ўжо сабраныя, больш паловы сьпелых збажжовых культураў знайходзілася яшчэ на калгасных палёх, гніло на дажджы, а вялікая частка была ўжо наагул страчаная. Пры гэткім грозным для харчаваньня рэспублікі й дзяржаўных дастаўак палажэньні ў Менску давялося склікаць экстранае паседжаньне савету міністраў рэспублікі й ЦК Камуністычнае партыі БССР, якое выдала надзвычайныя загады аб мабілізацыі жыхарства для збору гінучых ураджаяў. Пастановы й мерапрыемствы гэтага паседжаньня верхавіны каляніяльнае ўлады рэспублікі былі апублікаваныя ў прэсе БССР 27 жніўня 1957 году.[114] У гэтай пастанове, між іншым, даецца загад, каб для збору ўраджаяў на тэрыторыі рэспублікі мабілізаваць, на чале з настаўнікамі, і ўсіх школьнікаў дый піянэраў, значыцца дзяцей у веку 10-14 год.

Іншы яскравы прыклад вынікаў дэпапуляцыі Беларусі масавымі дэпартацыямі, гэта зьява паўставаньня на тэрыторыі рэспублікі вялікіх абшараў цалінных земляў на месцы раней культываваных грунтаў. Аб гэтым маскоўская «Праўда» паведамляла яшчэ ў 1954 годзе.[115] Тое-ж сьцьверджаў ня раз на пленумах ЦК КПСС у Маскве першы сакратар ЦК КП БССР

[114] «Звязда», 27. 8. 1957.
[115] «Правда», 21. 10. 1954.

К. Мазураў, калі дакладваў аб «новай цаліне» ў Беларускай ССР дзеля закіданьня культываваных грунтаў дый неправоджаньня патрэбнае мэліярацыі. Той-жа Мазураў яшчэ ў 1957 годзе сьцьвердзіў, што ад 1950 году ў Беларусі пасяўныя плошчы збажжовых культураў скараціліся на 730 тысячаў гактараў. А, з другога боку, ён-жа ў 1961 годзе казаў: «пры адпаведнай дапамозе Беларусь можа прыбавіць да наяўных 6-ці мільёнаў гактараў ворнае зямлі каля 4-х мільёнаў гактараў выдатнае цаліны».[116]

Калі дакладней прыгледзіцца да праводжаных, ужо ад пары Сталінскае дыктатуры, масавых дэпартацыяў у СССР, дык даводзіцца сьцьвердзіць, што перасяленьнямі камуністычная Масква намагаецца дасягнуць не адну, а сваіх колькі важных імпэр'яльных мэтаў. Само здабываньне гэтым шляхам масаў таннае прыгоннае працоўнае сілы, гэта хоць і важны эканамічна, мамэнт, але далёка не адзіны й дэцыдуючы аспэкт савецкіх перасяленьняў. Дэпартацыі, найперш, асабліва ў Сталінскую пару, гэта адзін з шырака тарнаваных спосабаў расправы з палітычнаю й нацыянальнаю апазыцыяй да расейскага савецкага рэжыму. У паваенны час, пры помачы дэпартацыяў, гадамі праводзілася змаганьне з шырокім антысавецкім партызанскім рухам у Беларусі, Прыбалтыцы, Украіне. Некаторыя меншыя паўночна-каўкаскія народы, як Чэчэнцы й Інгушы, былі дэпартаваныя з свае спрадвечнае нацыянальнае тэрыторыі пагалоўна.

Далей, пры помачы сталых масавых вывазаў жыхарства, Масква намагаецца паслабіць тыя рэспублікі й народы, спасярод якіх масы дэпартаваных набіраюцца й вывозяцца. Гэта ня што іншае, як сталае «крывіпушчаньне» й абяскроўліваньне дадзеных народаў зь фізычна здаровага маладога й рэпрадукцыйна найбольш цэннага людзкога матар'ялу. Разам, гэта палягчае насыланай у тыя-ж рэспублікі расейскай каляніяльнай адміністрацыі скарэй і мацней перабраць у свае рукі кіраўніцтва палітычнага, эканамічнага й культурнага жыцьця народу, дый татальна й бяз рэшты ўзалежніць яго ад Масквы. З другога боку, і ў тых краёх, куды перасяленцы масава кіруюцца, адбываецца таксама паслабленьне аўтахтоннае нацыянальнасьці, спачатна праз яе разбаўленьне масаю перасяленцаў, а з часам і маёрызацыю, як гэта ўжо сталася, прыкладам, з Казахскаю рэспублікай, дзе Казахі сяньня апынуліся ў меншыні.

Праз высяленьні й перамешваньне масаў жыхарства рознае нацыянальнасьці Масква яўна намагаецца з часам маёрызаваць на іх-жа нацыянальнай тэрыторыі ўсе нерасейскія падсавецкія народы, каб некалі дасягнуць стану падобнага, як у Задзіночаных Стэйтах Паўночнае Амэрыкі, дзе тэрытар'яльных этнічных меншыняў няма. Вось, да падобнае «амэрыканізацыі» нацыянальнае структуры імпэрыі, як этапу да поўнае русыфікацыі, Масква сяньня й імкнецца.

Дык, хоць у афіцыйнай партыйнай прапагандзе за мэту масавых дэпартацыяў падаюцца пляны эканамічныя — асваеньне цаліны, індустрыялізацыя, засяленьне мала заселеных прастораў, то паслабленьне нерасейскіх народаў, — адных праз дыспэрсыю, другіх праз разбаўляньне й далейшую русыфікацыю, — гэта ў запраўднасьці адна з галоўных мэтаў савецкіх масавых перасяленьняў. Што не гаспадарчыя, а іншыя мяркаваньні дэцыдуючыя ў справе дэпартацыяў, відаць гэта на прыкладзе Беларусі. Ня раз, а дзесяткі разоў у савецкай прэсе, і на зьездах ЦК Камуністычнае Партыі СССР паведамлялася аб тым, што ў Беларускай ССР, на Палесьсі, існуюць вялікія прасторы свае цаліны, дый, што ў выніку высяленьняў на тэрыторыі рэспублікі паўстаюць вялікія абшары новае цаліны дзеля нястачы працоўных рук для дагляду пасеўных грунтаў. Усе гэтыя факты Масква добра знае, і, калі, нягледзячы на гэта, і надалей з тэрыторыі рэспублікі ўсё-ж забірае ўвесь яе натуральны прырост жыхарства, каб перавозіць гэтыя людзкія масы колькі тысячаў кілямэтраў далей, на савецкія азійскія прасторы, гэта ўсё сьветчыць пра тое, што не эканамічныя мяркаваньні для Масквы галоўныя.

У перасяленчай акцыі, бясспрэчна, вялікае значэньне маюць і стратэгічныя пляны Масквы. І гэта ня толькі ў сэньсе нацыянальнага паслабленьня гэткім шляхам сваіх каляніяльных народаў дый замацаваньне свайго над імі панаваньня. Калі прыгледзіцца на карце да тэрыторыяў, куды ў сваей масе кіруюцца перасяленцы зь Беларусі, дык кідаецца ў вочы, што пераважна яны пасяляюцца ў паўдзённай паласе савецкае Азіі, уздоўж мяжы з камуністычным Кітаем. Сямісотмільённы Кітай належыць сяньня да найгусьцей заселеных краёў сьвету. Праз шпаркі натуральны прырост гушчыня засяленьня хутка далей узрастае. Гэткі працэс раней-пазьней можа давесьці да спробы пашырэньня межаў на рэлятыўна пустыя сумежныя азійскія прасторы Расейскае імпэрыі. Вось, масавым засяленьнем жыхарства на гэтых прасторах Масква, відавочна, і пробуе блякаваць загадзя шляхі магчымае экспансіі перанаселенага Кітаю на поўнач.

У суме-ж, савецкая масавая прымусовая міграцыя разьлічаная на замацаваньне расейскага панаваньня над нерасейскімі народамі, дый на падняцьце гаспадарчага й мілітарна-стратэгічнага патэнцыялу імпэрыі для лягчэйшага дасягненьня канчатковае мэты Масквы — дамінацыі над сьветам.

Калі ходзіць аб Беларусь, дык сыстэматычныя масавыя вывазы жыхарства бясспрэчна аслабляюць паважна ня толькі нацыянальна-палітычны патэнцыял рэспублікі, але й беларускага народу наагул. Дэпартаваныя з рэспублікі на мясцох свайго прызначэньня не пасяляюцца кампактнымі нацыянальнымі грамадамі, а раськідаюцца сярод жыхарства аўтахтоннага й перасяленцаў іншых нацыянальнасьцяў. Сяньня мільёны высяленцаў зь Беларусі параськіданыя па ўсім вялізарным прасторы імпэрыі ад Белага Мора на захадзе аж да Сахалінскае атокі Ціхага акіяну на ўсходзе. Беларускім перасяленцам, калі яны навет і акажуцца ў большай канцэнтрацыі ў нейкай акрузе, Масква не дазваляе мець сваіх беларускіх нацыянальных арганізацыяў, сваей прэсы, свайго друку, сваей беларускай школы. Гэтак, адарваныя ад свайго краю й этнічна-нацыянальнага асяродзьдзя, кінутыя на прасторы чужое зямлі, сярод няпрывычнае сабе прыроды й клімату, сярод чужых па мове, звычаях і псыхіцы людзей, беларускія перасяленцы сучаснымі камуністычнымі валадарамі Расейскае імпэрыі асуджаныя на хуткую дэнацыяналізацыю, русыфікацыю, на нацыянальную сьмерць.

Дый, як апублікаваныя ЦСУ вынікі перапісу 1959 году ў рубрыцы Беларусаў за межамі Беларускае ССР паказваюць, расейская партыйная адміністрацыя імпэрыі навет і ня чакае на тое, калі беларускія высяленцы запраўды зрусыфікуюцца. Іх ужо й цяпер запісваюць масава Расейцамі ня толькі па нацыянальнасьці, але й па мове, праўдападобна дапускаючы, што іхная доля і так наканаваная, шлях для захаваньня свае мовы й свае нацыянальнае апрычонасьці ім адсечаны. Гэткім спосабам дасягаецца шпаркае, найменш у лічбах статыстыкі, павялічаньне ліку пануючае ў імпэрыі

[116] «Звязда», 13. 1. 1961.

нацыянальнасьці расейскае, пры адначасным зьніжэньні лічбовае вялічыні народаў нерасейскіх.

Масавыя вывазы жыхарства Беларускае ССР, прыблізныя лічбовыя памеры якіх выяўляе перапіс 1959 году, ня спыняюцца й далей. Для праводжаньня вывазаў на перасяленьні ў рэспубліцы даўно існуе адмыслова паклiканая ўстанова: «Галоўнае ўпраўленьне па перасяленьню й арганізаванаму набору рабочых пры Савеце Міністраў БССР.» Гэтае «праўленьне» па ўсей рэспубліцы мае сетку сваіх акруговых і раённых аддзелаў, празь якія й праводзіцца набор жыхарства на вывазы. Кіраўніком гэтае цэнтральнае рэспубліканскае перасяленчае ўстановы гадамі быў Расеец М. І. Гусеў.

Для патрэбаў высяленчае акцыі каляніяльная адміністрацыя рэспублікі вядзе сталы ўлік «лішніх працоўных рэсурсаў». У публікаваным у 1957 годзе Акадэміяй Навук БССР гаспадарчым аглядзе Беларускае ССР увесь час адзначаюцца акругі й раёны рэспублікі, што маюць большыя ці меншыя «лішкі» працоўных «рэсурсаў». У той-жа публікацыі ёсьць і сьцьверджаньне ўплыву дэпартацыяў на агульны лік жыхарства рэспублікі: «У паваенныя гады, нягледзячы на хуткі натуральны прырост, лік жыхарства (Беларускае ССР) у сувязі зь перасяленьнямі ў раёны новага гаспадарчага асваеньня павялічаецца паволі».[117] Што вывазы ня спыняюцца, а праводзяцца масава й посьле перапісу 1959 году, пра гэта паведамляе прэса БССР. Прыкладам, менская «Звязда» з 17 сакавіка 1961 году зьмясьціла інфармацыю БЕЛТА (Беларускае Тэлеграфічнае Агенцыі) аб тым, што на сталае пасяленьне ў саўгасы Казахстану 15 сакавіка было адпраўлена эшалонам 115 сем'яў з Гарадзенскае акругі. У тым-жа паведамленьні гаворыцца: «У сакавіку эшалоны зь перасяленцамі адпраўляюцца з рэспублікі на цаліну праз кажныя два дні... 16 і 17 сакавіка адпраўляцца новыя эшалоны зь перасяленцамі зь Менскай, Берасьцейскай і Гомельскай акругаў».[118] З гэтых паведамленьняў відаць, што Масква й далей наважаная забіраць з рэспублікі ўвесь ейны натуральны прырост жыхарства й ністожыць гэтак магчымасьці яе росту, разьвіцьця, яе будучыню.

Гэтак, расейскія камуністычныя валадары імпэрыі Беларускую ССР сяньня яўна выкарыстоўваюць у ролі калёніі адмысловага прызначэньня: быць рэзэрвуарам працоўнае прыгоньніцкае сілы, зь якога Масква можа чэрпаць уволю патрэбныя сабе масы жыхарства для асвойваньня, індустрыялізацыі й засяляньня далёкіх прастораў імпэрыі, а разам дэнацыяналізацыі й русыфікацыі іншых каляніяльных народаў і краінаў.

Для Беларускае-ж ССР плянавае, сыстэматычнае вылюдненьне нясе спад яе дэмаграфічнага, гаспадарчага й нацыянальнага патэнцыялу, што сьпіхае рэспубліку да рангі менш важнае й палітычна й эканамічна Маскве падпарадкаванае татальна каляніяльнае правінцыі імпэрыі ў савецкую эпоху яе існаваньня.

---

[117] Белорусская ССР. Институт Экономики Академии Наук БССР. Москва, 1957, б. 71.

[118] «Звязда», 17. 3. 1961.



# Русыфікацыя беларускае мовы ў БССР
## і супраціў русыфікацыйнаму працэсу

Станіслаў Станкевіч

Паводля савецкай камуністычнай тэорыі, працэс зьліцьця ўсіх народаў Савецкага Саюзу ў г. зв. савецкую або сацыялістычную, а як цяпер, асабліва пасьля XXII зьезду КПСС гаворыцца, у камуністычную нацыю адбываецца на базе ўзаемнага скрыжоўваньня нацыянальных элемэнтаў усіх народаў, засяляючых Савецкі Саюз, і фармаваньня зь іх новых, супольных для ўсіх народаў нацыянальных элемэнтаў і асаблівасьцяў, як асновы гэтае новае нацыі. У запраўднасьці-ж гэты працэс праводзіцца вылучна на расейскай нацыянальнай базе — на базе расейскае гісторыі, расейскае культуры, расейскае мовы й навет на базе расейскага патрыятызму. Такім парадкам фактычна праводзіцца не працэс заціраньня нацыянальных асаблівасьцяў усіх народаў СССР і тварэньня зь іх новае сацыялістычнае нацыі, адменнае ад усіх існуючых сяньня народаў СССР, у тым ліку й ад расейскага народу, але працэс усебаковае русыфікацыі ўсіх нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. У пляне гэткай нацыянальнай палітыкі праводзіцца ў шырокім маштабе й русыфікацыя ўсіх нерасейскіх моваў Савецкага Саюзу, у тым ліку й беларускай мовы.

Узьнятая яшчэ ў пачатку 30-ых гадоў кампанія супраць беларускае мовы ў БССР і палітыка ейнае русыфікацыі знайшлі сваё найшырэйшае сканкрэтызаваньне ў выдадзенай у 1931 годзе пад рэдакцыяй дырэктара Інстытуту Філязофіі Беларускай Акадэміі Навук акадэміка С. Я. Вольфсона й пры галоўным ягоным аўтарстве кнізе «Навука на службе нацдэмаўскай конррэвалюцыі». Практычным завяршэньнем першае фазы гэтае кампаніі сталася ўрадавая пастанова Савету народных камісараў БССР з 28 жнівеня 1933 г. «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу», якая, аднак, датычыла ня толькі правапісу, але й фанэтычных ды марфалягічных асаблівасьцяў беларускае мовы.

Ужыцьцяўляная ў Беларусі моўная палітыка адначасна праводзілася й сярод усіх іншых нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. Таксама як у Беларусі, яна ўзьнікла ў пачатку 30-ых і дасягнула свайго найвышэйшага пункту пад сярэдзіну 30-ых гадоў. Для абгрунтаваньня яе выкарыстоўвалася агульна абавязваючая ў СССР да 1950 г. лінгвістычная тэорыя ака-

дэміка Н. Я. Марра пра паўстаньне й разьвіцьцё моваў. Паводля гэтае тэорыі, мова — гэта клясавая зьява, і на працягу ўсяе гісторыі адбываецца рэвалюцыйны працэс скрыжоўваньня моваў, які вядзе да поўнага іхнага зьліцьця ў вадну мову на ўсім сьвеце. Пры гэтым Марр ня прызнаваў паходжаньня ад супольнае мовы-асновы сваяцкіх моваў, якія твораць сям'ю або групу моваў, але цьвердзіў, што спачатку ў розных мясцох незалежна ад сябе паўстала шмат моваў.

Гэтая першая фаза бальшавіцкае моўнае палітыкі ў дачыненьні да беларускае мовы грунтоўна разгледжаная ў вольным сьвеце д-рам Я. Станкевічам,[1] а ў дачыненьні да ўкраінскае мовы — праф. В. Чапленкам і праф. Р. Смаль-Стоцкім,[2] прычым апошні, аналізуючы грунтоўна працэс русыфікацыі ўкраінскае мовы, коратка спыняецца над такімі-ж працэсамі ўва ўсіх нерасейскіх мовах СССР, у тым ліку й у беларускай мове. Смаль-Стоцкі даводзіць свой разгляд бальшавіцкай моўнай палітыкі да канца 1950 г., калі была Сталінам адкінутая моўная тэорыя Марра, як ненавуковая й «вульгарызатарская», і была ўсанкцыянаваная ім новая моўная тэорыя аб будучай інтэрнацыянальнай сусьветнай мове й папярэдніх ёй занальных мовах.[3] У 1950 г. Сталін пісаў:

> мы будзем мець справу ня зь дзьвюма мовамі, ... а із сотнямі нацыянальных моваў, зь якіх у выніку даўгога эканамічнага, палітычнага й культурнага супрацоўніцтва нацыяў будуць выдзяляцца спачатку найбольш узбагачаныя адзіныя занальныя мовы, а потым занальныя мовы зьліюцца ў вадну супольную міжнародную мову, .. якая ... будзе новай мовай, што ўбярэ ў сябе найлепшыя элемэнты нацыянальных і занальных моваў.[4]

Гэткім парадкам, паводля Сталіна, адна з прадбачаных ім занальных моваў павінна паўстаць у Савецкім Саюзе, зразумела, на базе расейскае мовы. Савецкая моваведа ў далейшым больш прамоўчвае пытаньне занальных моваў, і наагул не распрацоўваецца яно ідэялягічна, а асноўны націск кладзецца на паўстаньне аднае сусьветнае мовы. Савецкі вучоны М. Каммары гэтак фармулюе гэтую праблему:

> Для лучнасьці вольных камуністычных нацыяў што раз больш настойлівай неабходнасьцяй будзе, на нашую думку, выдзяленьне зь існуючых моваў **адзінае**, якая магла-б легчы **ў васнову** будучай адзінай **сусьветнай** мовы як сяродка лучнасьці для **ўсяго** чалавецтва і ўвабрала ў сябе **багацьце ўсіх іншых нацыянальных моваў і культураў**[5] (падчыркнута тут і ў наступнай цытаце М. Каммары).

Каммары пакідае адкрытым пытаньне, якая-ж канкрэтна мова павінна легчы ў васнову «будучае адзінае сусьветнае мовы», але лёгіка ягоных разважаньняў не пакідае сумлеваў, што гэтай мовай павінна стацца расейская мова. Крыху балонаў раней ён робіць выразную да гэтага алюзію:

[1] Я. Станкевіч. Моўная палітыка бальшавікоў у Беларускай ССР. «Беларускі Зборнік» Інстытуту Вывучэньня СССР, кн. 2, Мюнхэн, 1955. Тое-ж у скарачэньні паангельску — The Language Policy of the Bolsheviks in the Belorussian SSR. „Bielorussian Review" of the Institute for the Study of the USSR. No. 1. Munich, 1955.

[2] Васіль Чапленко. Більшовіцька мовна політика. Інститут Вывучэньня СССР, Мюнхэн, 1956.

Roman Smal-Stocki. The Nationality Problem of the Soviet Union and Russian Communist Imperialism. Milwaukee, 1952.

[3] «Правда», 20. 6. 1950.

[4] И. Сталин. Марксизм и вопросы языкознания. Москва, 1950, б. 111-112.

[5] М. Каммари. Строительство коммунизма и развитие национальных языков. «Политическое самообразование», № 4, 1960, б. 75.



> Ленін падчыркваў, што вялікая расейская мова будзе зусім дабравольна вывучацца ўсімі народамі Расеі, калі не навязваць яе сілай, звужаючы правы іншых нацыяў і моваў. Патрэбы эканамічных, палітычных, культурных лучнасьцяў народаў у шматнацыянальнай дзяржаве й грамадзтве прыродна й законамерна прыводзяць да дабравольнага вывучэньня мовы бальшыні жыхарства ў ў якасьці сяродка міжнацыянальных лучнасьцяў разам з вывучэньнем сваей роднай мовы кажнай нацыяй. Практыка поўнасьцю пацьвердзіла справядлівасьць ленінскага прадбачаньня. Для часткі малых нацыяў, племяў і народнасьцяў расейская мова ўжо цяпер сталася ня толькі сяродкам **міжнацыянальных** лучнасьцяў, але й **роднай** мовай.[6]

Як было ўспомнена на пачатку, у васнове ідэялягічных прынцыпаў камунізму ляжыць сьціраньне нацыянальных асаблівасьцяў паасобных народаў і іхнае будучае зьліцьцё ў вадзіную камуністычную нацыю, а іхных моваў — у вадзіную сусьветную мову. Спасярод, аднак, усіх нацыянальных асаблівасьцяў нацыяў і народаў сьціраньне й зьліцьцё моваў у вадзіную мову мае закончыцца найпазьней. Гэтак новая Праграма КПСС канстатуе:

> Зь перамогай камунізму ў СССР настане яшчэ большае збліжэньне нацыяў, павялічыцца іхная эканамічная й ідэйная супольнасьць, разьвіюцца супольныя камуністычныя рысы іхнага духовага абліčча. Аднак сьціраньне нацыянальных розьніцаў, у васаблівасьці моўных розьніцаў, куды даўжэйшы працэс, чымся сьціраньне клясавых асаблівасьцяў.[7]

Дзеля тактычных і прагандовых матываў у Савецкім Саюзе ўсьцяж гаворыцца аб поўнай свабодзе разьвіцьця ўсіх нацыянальных культураў і моваў ды іхнай раўнапраўнасьці. Навет у новай Праграме КПСС ясна сказана, што «ў умовах брацкай дружбы і ўзаемнага даверу народаў нацыянальныя мовы разьвіваюцца на аснове раўнапраўя і ўзаемнага ўзбагачэньня».[8] Але ў запраўднасьці расейская мова знаходзіцца ў вынятковым палажэньні, што практычна дае ёй поўную гэгемонію над усімі іншымі мовамі народаў Савецкага Саюзу, а ўспомнены прынцып «узаемнага ўзбагачэньня» ў практыцы зводзіцца да аднабаковага «ўзбагачэньня» нерасейскіх моваў з расейскае мовы, а не наадварот. Гэтае вылучнае і ўпрывілеянае палажэньне расейскае мовы звычайна абгрунтоўваецца наступнай ейнай роляй:

1. Расейская мова «па свайму багацьцю, па грандыёзнаму значэньню тых каштоўнасьцяў, што створаны на гэтай мове, займае адно зь першых месц сярод вядучых моваў сьвету і ня можа не аказаць уплыву на другія мовы нашага Саюзу».[9]

2. «Руская мова займае асобнае месца сярод іншых моў Савецкага Саюзу. Зьяўляючыся мовай вялікага рускага народу, які аказвае нябачаны ў гісторыі прагрэсыўны ўплыў сваёй культурай на культуру іншых народаў, які вывеў гэтыя народы нашай краіны на шлях сацыялізму, згуртаваўшы іх у вадзіную, моцную, многанацыянальную сям'ю, руская мова ў вышэйшай ступені ўзьдзейнічае на нацыянальныя мовы».[10]

[6] Тамсама, б. 70.

[7] «Правда», 2. 11. 1961.

[8] Тамсама.

[9] Н. І. Крукоўскі. Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. Менск, 1958, б. 5.

[10] М. І. Крукоўскі ў калектыўнай кнізе «Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі». Менск, 1958, б. 122.

3. Як запісана ў новай Праграме КПСС, «працэс дабравольнага вывучэньня, побач з роднай мовай, рускай мовы мае пазытыўнае значэньне, дзеля таго што гэта дапамагае ўзаемнай абмене дазнаньнем і далучэньню кажнай нацыі й народнасьці да культурных дасягненьняў усіх іншых народаў СССР і да сусьветнай культуры. Руская мова фактычна сталася агульнай мовай міжнацыянальных лучнасьцяў і супрацоўніцтва ўсіх народаў СССР».[11]

4. «Цяпер расейская мова сталася ўзапраўды другой роднай мовай народаў, што насяляюць тэрыторыю Савецкага Саюзу, і як такая, жывіць і ўзбагачае сабой мовы гэтых народаў»[12] А як цьвердзіць цытаваны вышэй Каммары, «для часьці малых нацыяў, плямён і народнасьцяў расейская мова ўжо цяпер сталася ня толькі сяродкам **міжнацыянальных** зносінаў, але й роднай мовай… Паводля дадзеных перапісу насельніцтва 1959 году, звыш 10 мільёнаў насельніцтва нерасейскага паходжаньня назвалі расейскую мову сваей роднай мовай».[13]

Заданьнем гэтага артыкулу ёсьць разгляд найсьвяжэйшага моўнага працэсу ў БССР, як выніку бальшавіцкае моўнае палітыкі апошняга часу, а таксама руху супраціву моўнае русыфікацыі, які пачаўся ў сувязі з пасьлясталінскай «адлегай», асабліва пасьля XX зьезду партыі ў 1956 г., і разьвіваецца з большым або меншым насіленьнем аж да апошняга часу. Падобна як і на працягу ўсяе русыфікацыйнае моўнае кампаніі, запачаткаванае ў 30-ых гадох, гэтак і ў ейнай цяперашняй фазе ўва ўсіх нерасейскіх мовах Савецкага Саюзу адбываецца больш менш адначасна аднолькавы працэс і аднолькавая ў дачыненьні да яго рэакцыя з боку паасобных народаў. Калі ходзіць пра славянскія нерасейскія мовы Савецкага Саюзу — беларускую і ўкраінскую, дык гэты працэс, у сувязі із сваяцтвам гэтых моваў як міжсобку, гэтак між імі й мовай расейскай — ува ўсіх навет дэталях ідэнтычны. Калі-ж ходзіць пра мовы неславянскія — цюрскія, мовы народаў Каўказу, а таксама мовы балцкіх народаў, якія ў дадатку толькі ў 1940 г апынуліся ў складзе Савецкага Саюзу, дык у працэсе русыфікацыі іх, пэўна-ж, існуюць некаторыя фармальныя й колькасныя розьніцы ад такога-ж працэсу ў мове беларускай і ўкраінскай, але ў асноўных прынцыпах і галоўна мэтах, да якіх працэс гэты скіраваны, розьніцаў няма ніякіх. Таму прадстаўленае ніжэй палажэньне беларускае мовы ў БССР можа ў поўнай меры ілюстраваць палажэньне і ўсіх нерасейскіх моваў народаў Савецкага Саюзу.

Рэалізацыя бальшавіцкай моўнай палітыкі ў БССР, падобна як і ў іншых нацыянальных рэспубліках, праводзіцца адначасна ў двух кірунках, якія ўзаемна сябе дапаўняюць і паступова, але пасьлядоўна вядуць да будучай поўнай нівэляцыі беларускае мовы: 1. у кірунку звужэньня сфэры ўжываньня беларускай мовы ў публічным жыцьці рэспублікі й замены яе расейскай, як «другой роднай мовай» беларускага народу; 2. у кірунку ўсебаковае русыфікацыі яшчэ дапушчанай да публічнага ўжываньня беларускай літаратурнай мовы. Абодвы гэтыя працэсы разгледзім асобна.

---

[11] «Правда», 2. 11. 1961.

[12] М. І. Крукоўскі. «Фарміраванне і развіццё беларускай сацыялістычнай нацыі», б. 122.

[13] М. Каммари, тамсама, б. 70.



## ЗВУЖЭНЬНЕ СФЭРЫ ЎЖЫВАНЬНЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Афіцыйнае вызнаньне расейскай мовы ў якасьці «другой роднай мовы» нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу ў сваім практычным выніку прывяло ня толькі да моўнага паралелізму ў БССР, але навет, як канкрэтна пабачым ніжэй, да нясумернай перавагі расейскай мовы над беларускай у публічным жыцьці БССР. Перш за ўсё гэтая гэгэмонія расейскае мовы мае месца ў школьнай практыцы БССР. Паводля афіцыйнага сьцьверджаньня, у Беларусі 95% школаў у 1955/56 навучальным годзе вяло навучаньне ў беларускай мове, а толькі 5% — у расейскай мове.[14] Але гэтак было толькі на паперы і, відаць, толькі паводля афіцыйнага назову школаў, як беларускіх і як расейскіх, бо ў запраўднасьці беларускія з назову школы ў вялізарнай бальшыні выкладаньне ўсіх школьных прадметаў, за выняткам беларускае мовы й літаратуры, праводзяць, як правіла, у расейскай мове. Будзе карысна прывесьці найбольш характэрныя выказваньні на гэтую тэму самых савецкіх настаўнікаў і студэнтаў савецкіх вышэйшых навучальных установаў у БССР.

Супраць ігнараваньня беларускай мовы ў школьным навучаньні першым на ўвесь голас падняў трывогу ў канцы 1957 году студэнт аддзелу журналістыкі Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту малады беларускі пісьменьнік Барыс Сачанка. У сваім артыкуле «Шанаваць родную мову»[15] Сачанка, на довад сваіх цьверджаньняў аб дэградацыі беларускае мовы, прывёў шмат аўтэнтычных фактаў. Між іншым ён пераказаў размову з аднэй настаўніцай з Магілеўшчыны, якая яму расказала наступнае: «Я зь вёскі з-пад Магілева, вучылася ў беларускай школе, здаецца, да паступленьня ва ўнівэрсытэт нядрэнна і гаварыла пабеларуску. А там забыла ўсё. Ды гэта і ня дзіўна. Пяць год ня было чуваць на лекцыі беларускага слова!» Камэнтуючы гэтыя словы, Сачанка далей спасьцерагае: «Куды-б ты не паступаў — у тэхнікум або інстытут — беларускай мовы й літаратуры здаваць ня трэба. Зайдзі ў любую арганізацыю, у любую ўстанову — усе справы вядуцца на рускай мове. Родная мова амаль ня ўжываецца ні на шыльдах, ні на этыкетах». Каб надаць большае палітычнае вагі сваім словам ды, відаць, застрахавацца перад абвінавачаньнем у «нацыянальнай абмежаванасьці й вылучнасьці», аўтар, зацытаваўшы словы Леніна: «члены РКП на тэрыторыі Ўкраіны павінны на справе праводзіць права працоўных мас вучыцца й гаварыць ува ўсіх савецкіх установах на роднай мове, усяляк процідзейнічаючы русыфікатарскім спробам адцясьніць украінскую мову на другі плян, ператвараючы яе ў сяродак камуністычнай адукацыі народных мас» — заканчвае свой артыкул вывадам: «Гэта ленінскае палажэньне поўнасьцю адносіцца й да нашай беларускай мовы».

Артыкул Сачанкі выклікаў жывы водгук сярод беларускай савецкай інтэлігенцыі й распачаў цэлую кампанію за прывярненьне правоў беларускае мовы ў школьніцтве й наагул у публічным жыцьці. Адусюль пасыпаліся лісты ў рэдакцыю газэты «Літаратура і Мастацтва» ад настаўнікаў, студэнтаў і пісьменьнікаў у справе ненатуральнага выціжаньня беларускае мовы із школьнага жыцьця, так што гэтая газэта, дзеля друкаваньня не-

---

[14] «Культурное строительство СССР». Москва, 1956, б. 186—187.

[15] Барыс Сачанка. Шанаваць родную мову. «Літаратура і Мастацтва» № 99, 14. 12. 1957.

каторых з такіх лістоў, была змушаная адвесьці на працягу нейкага часу на сваіх балонах у ваддзеле «З рэдакцыйнай пошты» спэцыяльную рубрыку п. н. «Шанаваць родную мову». Урыўкі зь некаторых такіх лістоў, як найбольш характэрныя, ня лішнім будзе тут прывесьці.

Гэтак студэнт 5-га курсу філялягічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту В. Чамярыцкі піша:

> Добрых 90 працэнтаў мастацкай і вучэбнай літаратуры, якую трэба перачытаць студэнту за 5 год, выдадзеная на рускай мове... І сапраўды, было сорамна сядзець на некаторых беларускіх уроках: столькі небеларускіх выразаў, столькі небеларускіх слоў. Адным словам, нейкі руска-беларускі дыялект. Правільна кажуць нашы выпускнікі, што ў сэньсе практычнага валоданьня беларускай мовай ва ўнівэрсытэце яны нічога не атрымалі, а, наадварот, больш забылі, чым навучыліся. А гэтак-жа абстаіць справа зь беларускай мовай і ў іншых ВНУ рэспублікі.[16]

Далей аўтар, падобна як і Сачанка, робіць вывад: «Толькі тады, калі мы пачуем жывую беларускую мову з вуснаў выкладчыка і прадаўца, сакратаркі і інжынера, дырэктара заводу і міністра, калі мы знойдзем яе ў заявах і ў пратаколах судовых працэсаў, на старонках навуковых прац — толькі тады беларуская мова зойме належнае месца ў жыцьці». Таксама, падобна як Сачанка, дзеля большай палітычнай вагі сваіх словаў і застрахаваньня перад эвэнтуальным абвінавачаньнем у «буржуазным нацыяналізьме», ён канчае свой артыкул словамі: «Кажная нацыя можа разьвіваць сваю духовую й матарыяльную культуру толькі на сваёй роднай мове — так гаворыць марксізм. Ня ведаючы і не шануючы яе, нельга любіць па-сапраўднаму іншыя мовы».

А вось сьветчаньне настаўніка Валейкаўскай школы Смаргоньскага раёну:

> Б. Сачанка правільна піша, што ў нашых вышэйшых навучальных установах цяжка пачуць роднае слова. А звычайна пра ўнівэрсытэт гавораць, што гэта «кузьня нацыянальных кадраў». Я ў мінулым годзе скончыў беларускае аддзяленьне нашага ўнівэрсытэту. Лекцыі на роднай мове слухаў толькі па беларускай мове й літаратуры. І я цяпер вельмі радаваўся-б за тых, хто там вучыцца, калі-б яны слухалі й іншыя дысцыпліны на роднай мове.[17]

Ня менш вымоўныя заўвагі студэнта Менскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікуму В. Голуба, у якіх знаходзім і цэнныя фактычныя дадзеныя:

> Родная мова для нас — беларуская. Але як гэта ні дзіўна, яна займае мала месца ў сучасны мамэнт у нашым культурным жыцьці. У Менску зараз працуюць 58 сярэдніх школ. Зь іх толькі дзесяць — беларускія. Ды хіба-ж толькі ў Менску такое становішча? Прыкладна тое-ж наглядаецца ў Гомелі, Брэсьце, Магілеве і іншых гарадох.[18]

Прывёўшы канкрэтныя прыклады із школьнай практыкі, аўтар сьцьвярджае падобнае занядбаньне беларускай мовы і ў іншых галінах культурнага жыцьця: «Не да гонару студыі «Беларусьфільм», што фільмы яе гучаць не па-беларуску, а Акадэміі Навук БССР тое, што такія кнігі, як «Гісторыя БССР», «Гісторыя Менску», «Беларускае мастацтва», выпушчаны

[16] «Літаратура і Мастацтва», № 3, 8. 1. 1958.
[17] Тамсама.
[18] Тамсама.



ў сьвет у першую чаргу на рускай мове або навет толькі на рускай».[19] Напасьледак, як іншыя аўтары, В. Голуб заканчвае свой артыкул патрабаваньнем, што «ў Беларусі беларуская мова павінна заняць належнае месца»

Асабліва цікавыя й цэнныя заўвагі на гэтую тэму выкладчыка беларускай мовы Майскай сямігадовай школы Крупскага раёну К. Санько:

> У нашым раёне налічваецца 79 школ зь беларускай мовай навучаньня, дзе працуе вялікая армія настаўнікаў зь сярэдняй і вышэйшай адукацыяй. Аднак пераважная частка настаўнікаў урокі (апрача беларускай мовы) праводзіць на рускай мове... Я цалкам згодзен з аўтарам артыкулу (Б. Сачанкам — С. С.), што беларуска мова павінна ўвайсьці ў паўсядзённы побыт усіх слаёў насельніцтва... Беларуская мова не павінна адыходзіць на задні плян.. Яна павінна быць сапраўды роднай.[20]

Газэта «Літаратура і Мастацтва», зьмяшчаючы далейшыя матарыялы настаўнікаў і наагул сваіх чытачоў у вабароне беларускае мовы ў школе, прыводзіць, між іншых, наступны характэрны прыклад: «Настаўнік У. Васілец (Пагосцкая сярэдняя школа Старобінскага раёну) піша, што ў школьнай бібліятэцы з праграмных твораў па беларускай літаратуры ёсьці толькі адна кніга К. Чорнага, дзьве кнігі Крапівы й тры экзэмпляры трылёгіі Я. Коласа «На ростанях» у перакладзе на рускую мову. Такое становішча ня толькі ў Пагосцкай школе, але і ў многіх іншых школьных бібліятэках».[21] У тым-жа самым нумары, паклікаючыся на лісты чытачоў, «Літаратура і Мастацтва» робіць агульны вывад, што «чытачы праяўляюць клопаты аб далейшым росквіце беларускай нацыянальнай культуры, робяць слушныя заўвагі, выказваюць свае пажаданьні».

У сувязі з пачатай кампаніяй у вабароне беларускае мовы ў школах Беларусі газэта «Літаратура і Мастацтва» ў нумары за 26-га лютага 195[...] зьмясьціла наступнае паведамленьне:

> Нядаўна міністар сьветы БССР тав. Ільюшын прыслаў у нашу рэдакцыю пісьмо, у якім дае адказ на закранутыя газэтай пытаньн[...] Тав. Ільюшын піша:
>
> «Вывучэньню роднай мовы ў школах і пэдагагічных навучальных установах удзяляецца вялікая ўвага. Для пачаткавай і сярэдняй школы, сярэдніх і вышэйшых пэдагагічных навучальных установаў Міністэрствам асьветы БССР складзены праграмы, выдадзены падручнікі па мове і літаратуры, мэтадычныя дапаможнікі, зборнікі практыкаваньняў. Школьныя падручнікі па ўсіх іншых дысцыплінах таксама выдадзены на беларускай мове ў дастатковай колькасьці. Школьныя бібліятэкі ў васноўным камплектаваны праграмнымі творамі беларускай літаратуры.
>
> Міністэрства асьветы правяло ў 1957/58 навучальным годзе шэраг мерапрыемстваў, накіраваных на палепшаньне выкладаньня беларускай і рускай моваў, ліквідацыю недахопаў, якія маюцца ў гэтай справе. Ад настаўнікаў беларускіх школ строга патрабуецца весьці выкладаньне ўсіх прадметаў, за выключэньнем рускай мовы і літаратуры, на беларускай мове. Кіруючым работнікам народнай асьветы прапанавана ўлічваць пры камплектаваньні беларускіх школ настаўнікамі веданьне імі беларускай мовы...» А ў пэдага[...]

[19] Тамсама.
[20] Тамсама.
[21] «Літаратура і Мастацтва», № 17, 26. 2. 1958.

гічных інстытутах «выкладчыкам, што вядуць выкладаньне на рускай мове, вызначаны час для падрыхтоўкі да выкладаньня на беларускай мове».

Што гэтая заява Міністра асьветы БССР — адно папяровая спроба заспакаеньня ўстрывожанай запраўдным станам грамадзкай апініі, сьветчаць ня толькі далейшыя нараканьні на дэградацыю беларускай мовы ў школьніцтве, але пацьвярджае гэта й сама рэдакцыя газэты ў заўвазе пад лістом Міністра асьветы, дзе гаворыцца: «Міністэрства асьветы БССР, бясспрэчна, многае ўжо зрабіла й робіць, каб выправіць некаторыя ненармальныя зьявы ў школьнай справе, але адказ т. Ільюшына не паказвае ў поўнай меры сапраўднага становішча з выкладаньнем беларускай мовы й літаратуры ў школах і пэдагагічных ВНУ рэспублікі».[22]

Не зважаючы на патрабаваньні настаўнікаў, інтэлігенцыі й наагул беларускага жыхарства забясьпечыць у школах рэспублікі выкладаньне ў роднай беларускай мове й не зважаючы на вышэй прыведзеную заяву Міністра асьветы БССР, школьная палітыка ў цэлым СССР пайшла ў кірунку зусім адваротным да гэтых патрабаваньняў. У канцы 1958 году сэсія Вярхоўнага Савету СССР прыняла закон «Аб умацаваньні сувязі школы з жыцьцём і далейшым разьвіцьці народнай асьветы ў СССР», а сьледам за гэтым і ў саюзных рэспубліках былі прынятыя падобныя законы. Гэты закон у БССР быў прыняты ўжо ў пачатку 1959 году. Артыкул 11 разьдзелу II-га гэтага закону гаворыць:

> «Навучаньне ўва ўсіх школах Беларускай ССР ажыцьцяўляецца ў роднай мове вучняў. Бацькі маюць права пастанаўляць, у школу зь якой мовай навучаньня аддаваць сваіх дзяцей». І яшчэ далей: «Навучаньне расейскае мовы ў школах зь беларускай мовай навучаньня, а так-жа навучаньне беларускай мовы ў школах з расейскай або іншай мовай навучаньня праводзіцца згодна жаданьня вучняў і іхных бацькоў».[23]

Да ўваходу ў сілу гэтага закону ў расейскіх школах, што знаходзяцца на тэрыторыі саюзных рэспублік, абавязвала выкладаньне ў якасьці асобнага прадмету нацыянальнай мовы, як другой дзяржаўнай мовы тэй нацыянальнай рэспублікі, дзе знаходзіцца расейская школа. У той-жа самы час у нацыянальных школах тэй або іншай рэспублікі было абавязкавае і навучаньне расейскае мовы. Паводля новага закону пытаньне аб неабходнасьці навучаньня нацыянальнай мовы ў расейскіх школах пакідаецца на волю самых вучняў і іхных бацькоў тэй або іншай расейскай школы. Таксама на волю вучняў і бацькоў пакідаецца пытаньне аб навучаньні расейскай мовы ў тэй або іншай нацыянальнай школе рэспублікі. Тая акалічнасьць, што бацькі вучняў у Савецкім Саюзе знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад партыйных ворганаў і прафсаюзных арганізацыяў, пытаньне аб неабходнасьці навучаньня нацыянальнае мовы рэспублікі ў расейскіх школах, — а такіх школаў у кажнай нацыянальнай рэспубліцы нясумерна вялікая колькасьць прапарцыянальна да жыхарства расейскае нацыянальнасьці — фактычна перадаецца на разьвязаньне мясцовых партыйных і прафсаюзных ворганаў, якія, як правіла, праводзяць палітыку зьмяншэньня сфэры ўжываньня нацыянальнае мовы й даваньня пяршынства расейскай мове, як гэтага вымагае цэнтральнае партыйнае кіраўніцтва.

[22] Тамсама.

[23] «Советская Белоруссия», № 86, 12. 4. 1959.



Гэта датычыцца выкладаньня беларускае мовы, як прадмету, у расейскіх школах БССР, дзе, як мы бачылі, палажэньне беларускае мовы пасьля ўспомненае школьнае рэформы зьмянілася на горшае. А ейнае палажэньне ў беларускіх школах засталося такім самым, якім было й раней, і не зьмянілася на лепшае навет пасьля абвешчаньня цытаванага ліста Міністра асьветы БССР. Аб гэтым красамоўна сьветчыць выступленьне ў гэтай справе беларускага савецкага моваведа Я. Рапановіча ў самым канцы 1961 году з артыкулам пад вымоўным загалоўкам «Дбаць пра культуру мовы». Рапановіч, між іншым, сьцьвярджае:

> Да сяньняшняга дня ў многіх школах рэспублікі (аўтар мае наўвеце афіцыйна беларускія школы — С. С.) беларуская мова вывучаецца як прадмет. Астатнія-ж дысцыпліны вядуцца як папала — то на рускай, то на «руска-беларускай» мове. Што атрымліваецца пры такіх парадках — няцяжка ўявіць. Вучні рыхтуюць хатнія заданьні па беларускіх падручніках і адказваюць пабеларуску. Настаўнік тлумачыць і задае пытаньні на рускай мове, а школьнікі часта адказваюць на мясцовым дыялекце. Становішча ўскладняецца яшчэ й тым, што нават падручнікам бракуе культуры мовы.[24]

Вышэй прыведзеныя факты й прыклады даволі ілюструюць запраўднае палажэньне беларускай мовы ў школьніцтве БССР, якое знаходзіцца ў поўнай супярэчнасьці з прапагандовымі заявамі афіцыйных савецкіх дакумэнтаў аб «свабодным разьвіцьці й раўнапраўнасьці» ўсіх моваў народаў Савецкага Саюзу. З другога боку, зацытаваныя выказваньні настаўнікаў, студэнтаў і наагул інтэлігенцыі — бясспрэчны довад, што такая дэградацыя беларускае мовы на карысьць мовы расейскае праводзіцца наўсуперак жаданьняў і супраць волі беларускага жыхарства.



Другой, апрача школьніцтва, важнай галінай, у якой забясьпечаная гэгэмонія расейскае мовы, далёка нясумерная да колькасьці расейскага жыхарства БССР, пры адначаснай дэгрэдацыі беларускае мовы, ёсьць выдавецкая справа. Каб мець дакладнае ўяўленьне, як гэтая справа ў запраўднасьці выглядае, будзе карысным прывесьці, за афіцыйнымі савецкімі крыніцамі, статыстыку выданьняў у БССР у беларускай і расейскай мовах за пэрыяд ад 1954 да 1960 году ўлучна.

Ніжэй прыведзеныя статыстычныя паказьнікі за сем апошніх гадоў гавораць самі за сябе й ніякага выясьненьня не патрабуюць. Адно застаецца адцеміць, што калі паводля назваў кнігаў у расейскай мове выдаецца куды болей, чымся ў беларускай, дык агульны іхны тыраж у беларускай мове значна большы, чымся ў расейскай мове. Што-ж да газэтаў, дык іхная колькасьць у беларускай мове амаль у чатыры разы большая, чымся колькасьць газэтаў у расейскай мове. Затое агульны тыраж выдаваных газэтаў у расейскай мове мала ўступае агульнаму тыражу ў беларускай мове, а за некаторыя гады тыражы ў абедзьвюх мовах блізу роўныя. За два апошнія гады (1959 і 1960) агульны гадавы тыраж газэтаў у расейскай мове ўжо пераўышае тыраж у беларускай мове. Што-ж датычыцца часапісаў, дык маем зусім адваротную зьяву: у беларускай мове за шэсьць апошніх гадоў іх выдавалася спачатку амаль удвая, а пасьлей амаль утрая меней, чымся ў ра-

[24] «Літаратура і Мастацтва», № 103, 29. 12. 1961.

сейскай мове, затое іхны тыраж за усе гады быў больш як удвая вышэйшы за тыраж у расейскай мове.

**Выданьні кніг у БССР за 1954—1960 гады**[25]

| Гады | Колькасьць выдадзеных кніг | Тыраж (у тыс.) | Друкарскія аркушы (у тыс.) | Арыгінальныя | Перакладныя |
|---|---|---|---|---|---|
| **1954** | **733** | **15.914** | **153.370** | **481** | **252** |
| У бел. мове | 428 | 10.511 | 98.831 | 193 | 235 |
| У рас. мове | 305 | 5.403 | 54.539 | 288 | 17 |
| **1955** | **670** | **12.952** | **133.403** | **524** | **146** |
| У бел. мове | 260 | 7.198 | 76.080 | 131 | 129 |
| У рас. мове | 410 | 5.754 | 57.323 | 393 | 17 |
| **1956** | **742** | **13.736** | **160.358** | **591** | **151** |
| У бел. мове | 281 | 7.063 | 68.237 | 163 | 118 |
| У рас. мове | 461 | 6.673 | 92.121 | 428 | 33 |
| **1957** | **928** | **16.300** | **165.705** | **791** | **137** |
| У бел. мове | 393 | 9.097 | 84.580 | 280 | 113 |
| У рас. мове | 535 | 7.203 | 81.125 | 511 | 24 |
| **1958** | **1.191** | **14.512** | **160.492** | **1.043** | **148** |
| У бел. мове | 478 | 8.836 | 83.106 | 352 | 126 |
| У рас. мове | 709 | 5.675 | 77.385 | 687 | 22 |
| **1959** | **1.317** | **17.101** | **175.628** | **1.127** | **190** |
| У бел. мова | 571 | 9.499 | 84.249 | 421 | 150 |
| У рас. мове | 744 | 7.601 | 91.378 | 704 | 40 |
| **1960** | **1.602** | **14.231** | **147.454** | **1.487** | **115** |
| У бел. мове | 425 | 7.134 | 61.534 | 326 | 99 |
| У рас. мове | 1.175 | 7.096 | 85.917 | 1.159 | 16 |

**Выданьні газэт у БССР за 1954—1960 гады**[26]

| Гады | Колькасьць | Разавы тыраж (у тыс. экз.) | Гадавы тыраж (у мільёнах экз.) |
|---|---|---|---|
| **1954** | **216** | **1.299** | **228.924** |
| У бел. мове | 176 | 761 | 130.229 |
| У рас. мове | 40 | 538 | 98.695 |
| **1955** | **218** | **1.314** | **233.203** |
| У бел. мове | 177 | 814 | 140.624 |
| У рас. мове | 41 | 497 | 92.579 |
| **1956** | **215** | **1.354** | **236,4** |
| У бел. мове | 172 | 776 | 128,8 |
| У рас. мове | 43 | 578 | 107,6 |
| **1957** | **234** | **1.530** | **268,7** |
| У бел. мове | 191 | 884 | 145,0 |
| У рас. мове | 43 | 646 | 123,7 |
| **1958** | **207** | **1.626** | **279,9** |
| У бел. мове | 164 | 872 | 140,6 |
| У рас. мове | 43 | 754 | 139,3 |
| **1959** | **213** | **1.770** | **291,0** |
| У бел. мове | 167 | 950 | 143,7 |
| У рас. мове | 46 | 820 | 147,3 |
| **1960** | **199** | **2.188** | **324** |
| У бел. мове | 154 | 1.134 | 150 |
| У рас. мове | 45 | 1.054 | 174 |

[25] «Печать СССР». Всесоюзная Книжная Палата», 1954-1960. Москва, 1955-1961.
[26] Тамсама.



**Выданьні часапісаў у БССР за 1955—1960 гады**[27]
(улучна зь іншымі пэрыядычнымі выданьнямі, як зборнікі, бюлетэні й інш., што выходзяць пэрыядычна)

| Гады | Колькасьць | Гадавы тыраж (у тыс. экз.) |
|---|---|---|
| **1955** | **39** | **4.432** |
| У бел. мове | 14 | 3.047 |
| У рас. мове | 25 | 1.385 |
| **1956** | **43** | **4.898** |
| У бел. мове | 16 | 3.179 |
| У рас. мове | 27 | 1.719 |
| **1957** | **54** | **5.140** |
| У бел. мове | 19 | 3.580 |
| У рас. мове | 35 | 1.560 |
| **1958** | **88** | **6.709** |
| У бел. мове | 24 | 4.858 |
| У рас. мове | 64 | 1.851 |
| **1959** | **90** | **7.942** |
| У бел. мове | 24 | 5.807 |
| У рас. мове | 66 | 2.135 |
| **1960** | **92** | **10.393** |
| У бел. мове | 24 | 7.192 |
| У рас. мове | 68 | 3.201 |

Аб прысьпешаных русыфікацыйных тэмпах можа найлепей сьветчыць факт, што яшчэ ў 1930—1935-ых гадох, калі пачаўся ўжо працэс русыфікацыі беларускай мовы, у БССР выдавалася ў сярэднім 85% кніжак у беларускай мове й толькі 5% у расейскай мове.[28]

Падобна ўва ўсіх іншых нацыянальных рэспубліках СССР колькасьць выданьняў у нацыянальных мовах нясумерна малая ў прыраўнаньні да колькасьці выданьняў у расейскай мове. Тым ня меней, ува ўсіх іншых рэспубліках, за выняткам адно Казахскай, дзе з прычыны наплыву чужога нацыянальна элемэнту ў сувязі з асваеньнем цаліны колькасьць выданьняў у казахскай мове з кажным годам моцна падае й павялічваецца колькасьць выданьняў у расейскай мове, суадносіны нацыянальнай і расейскай моваў значна выгаднейшыя для першай, як для другой, чымся ў БССР. Прычыну такое зьявы выясьніць ня цяжка. Калі ходзіць пра балцкія народы (Летувісаў, Латышоў і Эстонцаў), дык іхныя мовы, як неславянскія й тым самым ад расейскай мовы далёкія, маюць параўнальна большае пашырэньне. Апрача гэтага, прыбалцкія народы ў пэрыядзе між абедзьвюма сусьветнымі войнамі мелі собскія незалежныя дзяржавы й толькі ў 1940 годзе апынуліся ў складзе Савецкага Саюзу. Параўнальна ў найлепшым палажэньні грузінская й армянская мовы, што, з аднаго боку, застаецца ў сувязі з найменшым агульным працэсам русыфікацыі двух гэтых каўкаскіх народаў, а з другога боку — у сувязі з тым, што абедзьве гэтыя мовы, як неславянскія, таксама далёкія ад расейскай мовы. Гэтай апошняй акалічнасьцяй

[27] Народное хозяйство СССР в 1959 году. Центральное Статистическое Управление при Совете Министров СССР. Москва, 1960, б. 782-783; Народное хозяйство СССР в 1960 году. Москва, 1961, б. 812-813.
[28] «Летапіс друку БССР» за адпаведныя гады, Менск.

выясьняецца таксама параўнальна большая ступень ужываньня моваў цюркскіх народаў СССР. Навет украінская мова мае параўнальна да беларускай мовы большае пашырэньне ў друку, што можна выясьніць дзьвюма прычынамі: а) вялікай колькасьцяй украінскага народу й тым самым большай удзельнай вагой Украіны ў СССР, б) спэцыфічным палажэньнем Галіччыны, якая да 1939 году ніколі не ўваходзіла ў склад Расейскае імпэрыі й жыхарства якой да часу прылучэньня ў 1939 г. Заходняй Украіны да СССР зусім ня ведала расейскае мовы.

Вышэй паказаныя суадносіны кніжных і газэтных выданьняў у беларускай і расейскай мовах на тэрыторыі БССР яшчэ ня ілюструюць запраўднага палажэньня. Трэба не забывацца, што БССР, падобна як і іншыя нацыянальныя рэспублікі, апрача собскіх выданьняў у расейскай мове, навадняецца цэнтральнымі, як кніжнымі, гэтак і газэтнымі ды наагул пэрыядычнымі выданьнямі ў расейскай мове, што ўдзел беларускай мовы у распаўсюджванай у БССР літаратуры зводзіць да зусім нязначных разьмераў. І гэта ў той час, калі паводля перапісу жыхарства з 15 студзеня 1959 году Беларусы ў БССР складаюць 81,1%.[29]

Звычайна такія выданьні, як навуковая, палітычная й тэхнічная літаратура, за малымі выняткамі, выпускаюцца ў расейскай мове, а ў беларускай мове — галоўна мастацкая й масава прапагандавая літаратура. Але трэба з асаблівым націскам падчыркнуць, што арыгінальная мастацкая літаратура — творы беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, а таксама літаратурныя часапісы — выдаюцца такім малым тыражом, што яны ў ніякім выпадку ня могуць забасьпечыць патрабаваньняў чытача. Рэдактар Парыцкай раённай газэты «Ленінская перамога» С. Прач яшчэ ў 1958 г. жаліўся:

> На паліцах Парыцкай раённай кнігарні ляжыць многа кніг: палітычная, сельскагаспадарчая, навукова-асьветная літаратура, творы рускіх і заходняэўрапэйскіх клясыкаў, сучасных пісьменьнікаў. Аднак патрэбную кнігу не заўсёды купіш. Асабліва мала тут беларускіх пісьменьнікаў ...
>
> Уся прычына, відаць, у тым, што зь нейкага часу творы беларускіх пісьменьнікаў выдаюцца абмежаванымі тыражамі. Тыраж 3-5-8 тысяч экзэмпляраў далёка не задавальняе попыту ... Да раённых цэнтраў даходзіць нязначная колькасьць беларускіх кніг, а ў сельскіх крамах і ларкох іх зусім не прадаюць ... Даволі часта можна сустрэць пагардлівыя адносіны да распаўсюджваньня беларускіх кніг.[30]

Такія «пагардлівыя адносіны да распаўсюджваньня беларускіх кніг» — гэта агульная зьява ў БССР. Пісьменьнік І. Шамякін, выступаючы на 4-ым Зьезьдзе беларускіх пісьменьнікаў у лютым 1959 году, таксама сьцьвердзіў: «Але мы, пісьменьнікі, часта чуем скаргі, што кніг не хапае. Гэтыя скаргі асабліва настойліва выказваюць вучні старэйшых клясаў і выкладчыкі беларускай літаратуры».[31] Пра «пагардлівыя адносіны да распаўсюджваньня беларускіх кніг» найлепей сьветчыць наступны факт. У сувязі з XXII зьездам камуністычнай партыі адбыўся ў Менску 17 лістапада 1961 г. адкрыты сход партарганізацыі Саюзу пісьменьнікаў БССР. І характэрна: на сходзе менш за ўсё гаварылася аб партыйным зьезьдзе, а галоўная ўвага была зьвернутая на заганнае распаўсюджваньне беларускіх кнігаў. «Літаратура і Мастацтва», зьмяшчаючы справаздачу із сходу, пісала:

> Гаворачы пра распаўсюджваньне беларускай літаратуры, пра тыражы беларускіх кніг і часапісаў, Р. Сабаленка прыводзіць наступныя лічбы. На 15 лістапада на часопіс «Полымя» падпісалася 3.128 чалавек. А між тым у нашай рэспубліцы каля 20 тысяч бібліятэк, каля 12 тысяч школ, сотні дамоў культуры і клюбаў. Часопіс да вельмі і вельмі многіх зь іх не даходзіць. Прамоўца крытыкуе заганныя моманты ў практыцы вызначэньня тыражоў кніг у Белдзяржвыдавецтве ... Як і Сабаленка, прамоўца (пісьменьнік П. Панчанка — С. С.) спыніўся на пытаньнях распаўсюджаньня беларускай кнігі ... Нажаль, часам атрымліваецца так, што чытачы проста ня маюць магчымасьці пазнаёміцца зь беларускай кнігай. П. Панчанка прыводзіць абураючы факт, калі кіраўніцтва Парку культуры і адпачынку г. Магілёва, маючы даволі вялікія сродкі на падпіску на газэты і часапісы, ня выпісвае ніводнага беларускага выданьня.»[32]

Старшы інспэктар праўленьня «Саюздруку» М. Палунічаў у артыкуле «Часапіс просіцца ў бібліятэку», прывёўшы некалькі фактаў байкатаваньня беларускіх кнігаў некаторымі бібліятэкамі гораду Магілева, паставіў пытаньне: «Ці ведамыя гэтыя факты Міністэрству культуры БССР і Беларускаму рэспубліканскаму савету прафсаюзаў?» І тут-жа даў адказ: «Так, ведамыя. Аднак ні Міністэрства культуры, ні Беларускі рэспубліканскі савет прафэсіянальных саюзаў па сутнасьці ніякіх практычных мер яшчэ ня прынялі ... Ня выпісваюць беларускіх літаратурна-мастацкіх пэрыядычных выданьняў бібліятэкі сярэдніх і васьмігадовых школ. — Няхай гэтыя выданьні выпісваюць выкладчыкі за наяўны разьлік, — адказаў намесьнік Міністра асьветы БССР С. Умрэйка. — У нас грошай няма».[33]

Прыведзеныя факты даволі ілюструюць тую зьяву, што беларуская мова ў беларускай рэспубліцы адсунутая расейскай мовай зусім на задні плян. Яна дапушчаная да публічнага ўжываньня толькі ў некаторых галінах жыцьця, як мастацкая літаратура, у чым трэба бачыць наўперад заслугу беларускіх пісьменьнікаў, у штодзённай прэсе ды масава-прапагандавай літаратуры, што можна выясьніць палітыкай партыйнага кіраўніцтва, жыва зацікаўленага, каб гэтая літаратура й прэса даходзіла да найшырэйшых масаў жыхарства. Затое ўва ўсіх іншых галінах публічнага й грамадзкага жыцьця ўсяўладна пануе расейская мова, ня вылучаючы навет, як мы бачылі, і школьніцтва. Такім парадкам, расейская мова, як агульная для ўсяго СССР дзяржаўная мова, як мова «клясыкаў марксізму-ленінізму», «перадавой сацыялістычнай нацыі» й «вялікага рускага народу», як «мова міжнацыянальных лучнасьцяў» ды як «другая родная мова» ўсіх народаў Савецкага Саюзу, як яна афіцыйна абазначаецца, **фактычна сталася першай мовай у грамадзкім, палітычным, адміністрацыйным і навет культурным жыцьці БССР. Беларуская-ж мова выціснутая на задні плян і дапушчаная**

[29] Народное хозяйство СССР в 1959 году. Центральное Статистическое Управление. Москва, 1960, б. 17.

[30] «Літаратура і Мастацтва», № 11, 5. 2. 1958.

[31] «Літаратура і Мастацтва», 18. 2. 1959.

[32] «Літаратура і Мастацтва», № 92, 21. 11. 1961

[33] «Літаратура і Мастацтва», № 93, 24. 11. 1961.

фактычна да выконваньня адно падсобных ці пабочных і часткава паказальна-прапагандовых функцыяў.

## САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА

У самым гарце антыбеларускай кампаніі ў галіне мовы ў пачатку 30-ых гадоў галоўнае абвінавачаньне беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі зводзілася да таго, што яна рупілася аб чысьціні беларускае мовы й бараніла яе перад русыфікацыяй. Успомнены акадэмік Вольфсон у гэтай справе ў 1931 г. пісаў: «Адным з паважнейшых заданьняў, якое паставілі перад сабой нацдэмаўскія пурыстыя, было вытруціць зь беларускае мовы ўсякія элемэнты расейскае мовы. Яны выганялі сотні агульна прынятых, арганічна ўрослых у беларускую мову расейскіх словаў. Яны карчавалі ўсё тое, што іх выабражэньню здавалася, як «русыцызм».[34] Таксама ў уступнай часьці ўрадавага дэкрэту «Аб зьменах і спрашчэньні беларускага правапісу» з 28 жніўня 1933 году гаварылася, што «нацыянал-дэмакратызм імкнуўся ўсімі мерамі й спосабамі адарваць беларускую літаратурную мову ад мовы шырокіх беларускіх працоўных мас, стварыў штучны бар'ер паміж беларускай і рускай мовамі і засьмечваў беларускую мову рознымі сярэднявяковымі архаізмамі і буржуазнымі вульгарызмамі».[35]

Такім парадкам як рэформа беларускае мовы 1933 году, гэтак і ўся далейшая бальшавіцкая моўная палітыка разьвівалася ў кірунку зьнішчэньня гэнага «штучнага бар'еру» й мэханічнага збліжэньня беларускае мовы з расейскай мовай. Рэформа 1933 году ўвяла ў беларускую мову каля 30-ёх фанэтычных і марфалягічных расейскіх асаблівасьцяў, жыўцом узятых з расейскае мовы, чужых і дагэтуль няўжываных у беларускай мове, але пытаньня папаўненьня беларускае мовы расейскім слоўнікавым матарыялам яшчэ практычна ня ставіла. Расейскі слоўнікавы матарыял, разам з далейшымі марфалягічнымі й сынтаксычнымі, а навет фразэалягічнымі асаблівасьцямі расейскае мовы ўводзіліся паступова ў беларускую мову пасьля ўспомненае рэформы і ўжо ня дэкрэтаваным шляхам, але ў парадку горача рэкамэндаваных «дабравольных запазычэньняў» і «ўзбагачваньня» беларускае мовы. І ўжо ў прадмове да «Расейска-Беларускага Слоўніка», выдадзенага Інстытутам Мовазнаўства Акадэміі Навук БССР у 1953 г., «навукова» й «аўтарытэтна» сьцьвярджалася, што «толькі пасьля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ... беларуская мова, як і ўся культура беларускага народу, за гады савецкай улады дасягнула высокага разьвіцьця ... выпрацавала свае літаратурныя нормы, значна папоўніла лексычны запас за лік слоў роднай ёй расейскай мовы». Далей у прадмове гаварылася, што беларускі народ, супрацьдзеючы беларускім буржуазным нацыяналістым, «верны дружбе народаў, бараніў чысьціню сваей мовы, папаўняючы яе зь нявычарпальных крыніцаў расейскай мовы».[36]

Ніжэй мы пакажам на канкрэтных прыкладах, узятых з тэкстаў беларускага савецкага друку за некалькі апошніх гадоў, як адбываецца гэтае «папаўненьне» беларускае мовы зь «нявычарпальных крыніцаў расейскае мовы» ўва ўсіх моўных галінах: марфалёгіі, сынтаксу, фразэалёгіі й лексыкі. Дзеля гэтае мэты было намі прастудыявана з моўнага гледзішча цэлы рад друкаваных тэкстаў дзьвюх катэгорыяў: І. палітычнай, навуковай і публіцыстычнай літаратуры рэспубліканскіх выданьняў БССР, мова якіх афіцыйна ўважаецца за правільную й агульна абавязваючую літаратурную мову; ІІ. празаічнай мастацкай літаратуры, якая, як пабачым ніжэй, выяўляе найбольшы супраціў русыфікацыі й застаецца куды чысьцейшай за першую з гледзішча беларускасьці. Ніжэй пералічаем абедзьве катэгорыі дасьледаваных намі тэкстаў, падаючы ў дужках іхныя скароты:

І. Гісторыя БССР, т. 2. АН БССР, Менск, 1958, бач. 626 **(ГБССР)**; Фарміраваньне і разьвіцьцё беларускай сацыялістычнай нацыі. АН БССР, Менск, 1958, б. 268 **(ФР)**; Камуніст Беларусі, № 10, 1959, б. 80 **(КБ)**; газэта «Зьвязда» за 15. 5. 1961, 15. 6. 61, 15. 7. 61, 18. 8. 61, 19. 9. 61, раўнавартасьць бачынаў кніжнага фармату 320 **(З)**; газэта «Літаратура і Мастацтва» за 16. 5. 1961, 16. 6. 61, 21. 7. 61, 18. 8. 61, 19. 9. 61, раўнавартасьць бачынаў кніжнага фармату 320 **(ЛіМ)**. **Разам 1514 бачынаў.** ІІ. І. Шамякім. Крыніцы. Менск, 1957, б. 364 **(ІШ-Кр)**; М. Лынькоў. Векапомныя дні. Менск, 1958, 4 т., б. 1722 **(МЛ-ВД)**; А. Кулакоўскі. Расстаемся ненадоўга. Менск, 1955, б. 392 **(АК-РНД)**; А. Кулакоўскі. Дома. «Полымя», № 6 і 7, 1959, б. 77 **(АК-Д)**; П. Броўка. Калі зьліваюцца рэкі. Менск, 1957, б. 444 **(ПБ-КЗР)**; П. Глебка. Сьвятло з Усходу. «Полымя», № ІІ, 1957, б. 88 **(ПГ-СУ)**; У. Карпаў. За годам год. Менск, 1957, б. 614 **(УК-ЗГГ)**; У. Карпаў. Вясеньнія ліўні. «Полымя», № 2, 3, і 4, 1959, 7, 8 і 9, 1960, б. 283 **(УК-ВЛ)**; М. Пасьлядовіч. З табою пабач. «Полымя», № 3, 1956, ІІ, 1958, 12, 1959, б. 175 **(МП-ЗП)**; К. Крапіва. Людзі і д'яблы. «Полым'я», № 4, 1958; б. 50 **(КК-ЛД)**; І. Мележ. Дні нашага нараджэньня. «Полымя», № 12, 1958, б. 41 **(ІМ-ДНН)**; А. Бялевіч. Добрыя людзі. Менск, 1957, б. 179 **(АБ-ДЛ)**; Т. Хадкевіч. Даль палявая. Менск, 1959, б. 494 **(ТХ-ДП)**. **Разам 4. 723 бачыны.**

**Увага:** Тэксты савецкіх аўтараў цытуюцца ў гэтым артыкуле, як і наагул у беларускіх выданьнях у вольным сьвеце, паводля беларускага, а не зрусыфікаванага савецкага правапісу, устаноўленага моўнай рэформай 1933 году. Затое прыводжаныя далей прыклады беларускае савецкае літаратурнае мовы зь пералічаных вышэй выданьняў пададзеныя бязь ніякіх зьменаў паводля савецкага правапісу.

### Русыцызмы ў галіне марфалёгіі

Яшчэ рэформа 1933 г. увяла ў беларускую мову некалькі чужых ёй расейскіх марфалягічных асаблівасьцяў, выкінуўшы зь яе адпаведныя ім беларускія асаблівасьці. Гэтак для бальшыні назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку рэформа ўвяла канчатак **-а** (завода, інстытута, сацыялізма), заміж ужыванага ў беларускай мове канчатку **-у** (заводу, інстытуту, сацыялізму), а таксама заміж беларускіх канчаткаў назоўнікаў мужчынскага й ніякага роду ў давальным і месным склоне множнага ліку **-ом, -ох** (братом, аб гарадох), увяла канчаткі з расейскае мовы **-ам, -ах** (братам, аб гарадах). Таксама рэформаю 1933 г. было ўведзена ў беларускую мову некалькі расейскіх марфалягічных асаблівасьцяў у галіне лічэбнікаў і дзеясловаў.

[34] «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі» пад рэдакцыяй дырэктара Інстытуту Філязофіі акадэміка С. Я. Вольфсона, т. І. Менск, 1931, б. 125.
[35] Цытуецца паводля «Беларускай Граматыкі» Т. Ломцева. Менск, 1935.
[36] Русско-Белорусский Словарь. Академия наук БССР. Институт языкознания, б. 6.

З расейскіх элемэнтаў у скланеньні назоўнікаў, якія пранікті ў беларускую мову незалежна ад рэформы й выказваюць тэндэнцыю далейшага пашырэньня, варта адцеміць канчаткі **-ей** у родным склоне множ., л. назоўнікаў жаноцкага роду, тымчасам як нармальна ў беларускай мове павінен быць канчатак **-яў.** Гэтак у разгледжаных намі друкаваных тэкстах знаходзім: непрыемнасц**ей**, магчымасц**ей**, масц**ей**, выпадковасц**ей**, нечаканасц**ей**, абласц**ей**, цяжкасц**ей**, сувяз**ей**, народнасц**ей** і г. д. заміж беларускіх формаў: няпрыемнасьц**яў**, магчымасьц**яў**, масьц**яў**, выпадковасьц**яў**, нечаканасьц**яў**, вобласьц**яў**, цяжкасьц**яў**, сувяз**яў**, народнасьц**яў**. Формы зь **-ей (-эй)** нармальна сустракаюцца ў беларускай мове толькі ў некаторых рэдкіх выпадках, як у словах касьц**ей**, мыш**эй**, і пад. Цікава, што канчаткі **-ей** заміж **-яў** сталіся амаль агульным правілам у мове першай катэгорыі разгледжаных намі савецкіх друкаваных тэкстаў (навуковая, палітычная, тэхнічная й публіцыстычная літаратура), затое ў мове другой катэгорыі тэкстаў (творы мастацкае літаратуры) выступаюць шмат радзей і звычайна зьяўляюцца паралельна — **-яў** побач зь **-ей** — навет у тых самых словах.

Гэтта варта адцеміць яшчэ адну русыфікацыйную зьяву ў галіне назоўнікаў, якая асабліва апошнім часам выказвае тэндэнцыю далейшага пашырэньня, хоць яна належыць не да марфалёгіі, а да этымалёгіі. Гэта чужыя беларускай мове суфіксы назоўнікаў **-цель** (парасейску **-тель**): Амялян Кручын у марах бачыў ужо сябе **вызваліцелем** родных мясцін (ТХ-ДП,54); Ён з'яўляецца самым лепшым **выхавацелем** (КБ, 45); Камуністычная партыя была **натхніцелем** і арганізатарам усенароднай барацьбы (ГБССР, 427); Польскія **правіцелі . . .** самі праводзілі каляніяльную палітыку (тамсама, 326); Асаднікі былі злейшымі ворагамі беларускага народа, . . . **душыцелямі** яго нацыянальна-вызвольнай барацьбы (тамсама, 337). Узноў-жа, тымчасам як у тэкстах першай катэгорыі словы із суфіксам **-цель** зьяўляюцца вельмі часта, у тэкстах другой катэгорыі знаходзім іх адно як рэдкія выняткі.

Асабліва пашыраным сяньня русыцызмам у галіне прыметнікаў ёсьць паралельнае будаваньне найвышэйшае ступені прыраўнаньня прыметнікаў, побач з прыстаўкай **най-**, як нармальна ў беларускай мове, яшчэ й пры дапамозе займеньніка **самы** й звычайнай формы ступені прыраўнаньня. Прыкл.: Мой калгас **самы багаты** (АБ-ДЛ, 126); У атрадзе ён лічыўся лепшым знаўцам **самых глухіх** і **самых кароткіх** сцежак (МП-ЗП, III, 1956, 21); вырасце будынак **самага справядлівага** грамадзтва на зямлі (З, 15. 9. 1961); прадукцыйнасць працы, гэта . . . **самае важнае, самае галоўнае** для перамогі новага грамадзкага ладу (З, 15. 9. 61); калектыў . . . здольны вырашаць **самыя цяжкія** задачы (КБ, 43); будуецца Бярозаўская ДРЭС — **самая буйная** ў Беларусі (КБ, 5); Камуністычны лад стварыў **самыя спрыяльныя** ўмовы для росквіту талентаў народа (З, 15. 6. 61). Пабеларуску апрача звычайнай формы з прыстаўкай **най-,** найвышэйшая ступень прыметнікаў можа быць створана таксама апісальным спосабам, пры дапамозе прыслоўя **са́ма,** але ня пры дапамозе займеньніка **самы.** Прыкл.: Мой калгас **сама багаты,** у атрадзе ён лічыўся найлепшым знатаком **сама глухіх** і **сама кароткіх** сьцежак, і г. д.

Узаконеныя ўжо рэформай 1933 г. дзеяпрыметнікі цяперашняга часу залежнага стану, якія беларускай мове зусім няведамыя й адчуваюцца як бясспрэчна русыцызмы, у сяньняшняй беларускай літаратурнай мове знайшлі поўнае пашырэньне. Мы іх знаходзім як у тэкстах першаи, гэтак і другой катэгорыі: Сашка, самы меншы і, зразумела, самы **любімы** чалавек у сям'і (АК-РНД, 69); грунтоўны аналіз **праводзімых** мерапрыемстваў (КБ, 71); аналіз **перажываемага** мамэнту (ГБССР, 36); у цемры пачуўся трэск **распорваемага** мяшка (МП-ЗП, XI, 1958, 82); Польшча, **падштурхоўваемая** міжнародным імпэрыялізмам, . . . напала на Савецкую Расію (ГБССР, 121). У беларускай мове ў гэтым значаньні ўжываюцца дзеяпрыметнікі залежнага стану прошлага часу: **улюблены, праводжаных, перажыванага, распорванага, падштурхоўваная.**

Беларуская мова таксама зусім ня ведае зваротнай формы дзеяпрыметнікаў, якая ў расейскай мове зусім нармальная й агульна пашыраная зьява. Але апошнім часам у БССР зваротныя формы дзеяпрыметнікаў пачалі пераносіць з расейскае мовы й у беларускую мову: Народныя масы . . . змучаныя вайной і ўсё **ўзмацняючымся** прыгнечаньнем (РФ, 21); Гэты плённы працэс быў перарван у сувязі з **пачаўшайся** акупацыяй заходніх раёнаў Беларусі (РФ, 29); **адбыўшыеся** беспартыйныя валасныя канфэрэнцыі былі . . . бурныя (ГБССР, 201); Сярод **вызначаўшыхся** ў барацьбе з ворагам . . . было нямала сыноў беларускага народа (ГБССР, 422); Большасць увайшоўшых у том работ (Леніна) прысвечана барацьбе супраць пагрозы **набліжаўшайся** сусветнай вайны (З, 15. 9. 61) і г д. Няіснуючыя ў беларускай мове зваротныя дзепрыметнікі заступаем апісальнымі формамі, ужываючы дзеля гэтага даданыя азначальныя сказы з займеньнікамі **што** або **які.** Прыкл., заміж «супраць пагрозы **набліжаўшайся** сусветнай вайны» пабеларуску скажам: «супраць пагрозы сусьветнай вайны, **што** або **якая набліжалася».** Заміж «Сярод **вызначаўшыхся** ў барацьбе з ворагам... было нямала сыноў беларускага народа», скажам: «Сярод тых, **што** (або **якія) вызначаліся** ў барацьбе з ворагам, было нямала сыноў беларускага народу» і г. д. Характэрна, што калі ў тэкстах першай катэгорыі, якіх мы прагледзілі ўсяго 1.514 бачынаў друку, даволі часта сустракаецца зваротная форма дзеяпрыметнікаў, дык на 4.723 бачынах тэкстаў другой катэгорыі мы не знайшлі яе зусім. Гэта паказвае, што толькі цяпер пачынаюць прапіхаць у беларускую мову гэтую форму пры выразным пасыўным супраціве беларускіх пісьменьнікаў. Гэтай формы таксама не ўвяла й рэформа 1933 г. Вельмі характэрна, што ў падручніку беларускай мовы для пэдагагічных вучылішчаў і пэдагагічных інстытутаў з 1955 году, напісаным Н. Гурскім, М. Булахавам і М. Марчанкам, сказана, што «дзеяпрыметнікі зваротнай формы ў беларускай мове ўжываюцца рэдка»,[37] у граматыцы беларускай мовы для сярэдніх школ М. Жыркевіча з 1956 году зваротныя дзеяпрыметнікі паказаныя, як нармальныя беларускія формы,[38] а ў выдадзенай у тым-жа годзе «Граматыцы беларускай мовы» для ўнівэрсытэтаў і пэдагагічных інстытутаў Т. Ломцева[39] аб іх не ўспамінаецца зусім. Гэта хіба значыць, што Ломцеў не ўважае зваротных дзеяпрыметнікаў беларускімі формамі. Трэба адцеміць, што й у цяперашняй акцыі ў вабароне беларускай мовы ў БССР некаторыя аў-

[37] Н. І. Гурскі, М. Г. Булахаў, М. Ц. Марчанка. Беларуская мова. Частка І. Падручнік для педагагічных вучылішч і дапаможнік для педагагічных інстытутаў. Менск, 1955, б. 262.

[38] М. І. Жыркевіч. Падручнік беларускай мовы. Частка І. Фанетыка і марфалёгія для 5 і 6 клясаў сярэдняй школы. Менск, 1956, б. 129.

[39] Т. П. Ломтев. Грамматика белорусского языка. Пособие для университетов и педагогических институтов. Москва, 1956.

тары, як В. Красоўскі[40] і пісьменьнік Янка Скрыган[41] кваліфікуюць зваротныя дзеяпрыметнікі, як формы чужыя беларускай мове, рэкамэндуючы іх ня ўжываць. Гэтак Скрыган, прывёўшы пару прыкладаў із зваротнымі дзеяпрыметнікамі, піша: «Думка простая, а сказана Бог ведае як няпісьменна».[42]

Зь іншых асабліва пашыраных русыцызмаў трэба адцеміць што-раз часьцейшае ўжываньне іменнай (кароткай) заміж займеннай (поўнай) формы дзеяпрыметнікаў залежнага стану прошлага часу ў назоўным склоне: Пярэдні танк быў **падбіт** (МЛ-ВД, І, 41); Здымак **зроблен** у 1937 годзе (ЛіМ, 18. 8. 61); У Мінску быў **адкрыт** Беларускі дзяржаўны ўнівэрсітэт (ГБССР, 181); Быў **закончан** рамонт і **ўведзен** у строй рад... прадпрыемстваў (тамсама, 138); Быў **праведзен** дзень голаду (тамсама, 345); У гэтую вёску быў **прыслан** атрад паліцэйскіх (тамсама, 346); над будынкам германскага рэйхстага быў **узнят** сцяг перамогі (тамсама, 422); Будзе **створана** адзіная энергетычная сыстэма СССР (З, 15. 9. 61); За сем год будзе на 80 працэнтаў **павялічан** агульны выпуск прамысловай прадукцыі, **падвоена** вытворчасць электраэнергіі, **патроена** магутнасць хімічнай прамысловасці (КБ, 15). Ня ў прыклад расейскай мове, якая ўжывае дзеяпрыметнікі прошлага часу залежнага стану ў іменнай форме ў якасьці выказьніка ў сказе, беларускай мове ў гэтым выпадку ўласьцівыя займенныя (поўныя) формы гэтай катэгорыі дзеяпрыметнікаў. У прыведзеных прыкладах правільна пабеларуску мусіла-б быць: **падбіты, зроблены, адкрыты, закончаны, уведзены, праведзены, прысланы, узьняты, створаная, павялічаны, падвоеная, патроеная.** І ў гэтым выпадку іменныя формы ўжываюцца ў першай катэгорыі тэкстаў гэтак-жа шырака, як і ў расейскай мове, затое ў другой катэгорыі тэкстаў займенныя формы выразна пераважаюць над формамі іменнымі.

І напасьледак, у вабедзьвюх катэгорыях тэкстаў, побач зь беларускімі формамі прыслоўяў, утвораных ад прыметнікаў, паралельна зьяўляюцца й зусім чужыя беларускай мове расейскія формы: нешта **па-дзіцячы** радаснае, светлае нараджалася ў грудзях (ТХ-ДП, 161), але: І ў гэтым было нешта **па-дзіцячаму** наіўнае і свежае (МП-ЗП, ІІІ, 1956, 37); Папрасіце **па-чалавечы** (УК-ВЛ, VIII, 1960, 84); засмяялася і **па-хлапечы,** вітаючыся, ударыла па яго далоні сваёю рукой (УК-ВЛ, ІІІ, 1959, 108). Кох **пакутніцкі** зірнуў на яго (МЛ-ВД, ІІ, 36); царскае самадзяржаўе **зверскі** падаўляла нацыянальна-вызвольны рух народаў Расіі (РФ, 20). Пабеларуску ў прыведзеных прыкладах мусіла-б быць: **па-дзіцячаму, па-чалавечаму або пачалавецку, пахлапецку, пакутніцка, зьверска.**

### Русыцызмы ў сынтаксе

Адна з характэрных сынтаксычных асаблівасьцяў беларускае мовы, якая адрозьнівае яе ад расейскае мовы, гэта ўжываньне розных склонаў пры дзеясловах з адмоўем і розных пры тых-жа дзеясловах без адмоўя.

[40] В. Красоўскі. Аб мове газет. «Літаратура і Мастацтва», № 40, 18. 5. 1957.

[41] Я. Скрыган. Яшчэ трохі аб мове. «Літаратура і Мастацтва», № 4, 12. 1. 1962.

[42] Я. Скрыган. Тамсама.



Гэтак дзеясловы без адмоўя ў ролі выказьніка ў сказе ў беларускай мове кіруюць вінавальным склонам, у якім стаіць дапаўненьне. Калі-ж гэтыя дзеясловы ўжываюцца з адмоўем, яны вымагаюць ад дапаўненьня роднага склону. У расейскай літаратурнай мове асабліва савецкага пэрыяду ў вабодвых выпадках — пры адмоўі й безь яго — дапаўненьне заўсёды выступае ў вінавальным склоне. Гэтая апошняя сынтаксычная асаблівасьць расейскае мовы нагэтулькі пранікла ў беларускую мову, што сяньня яна сталася блізу вылучнай, а родны склон пры адмоўі зьяўляецца адно ў рэдкіх выпадках.

Прыклады: Мне **не** хацелася трывожыць **той спакой і роздум** (АБ-ДЛ, 28), заміж: **таго спакою й роздуму; Не** выставіў на пасмешышча **дзікую безграматнасць** Кісяля (МП-ЗП, ІІІ, 1956, 32), заміж: **дзікай бязграматнасьці;** Шукаць далёка **прыклады ня трэба** (ЛіМ, 18. 8. 1961), заміж: **прыкладаў; не ўцяміўшы сэнс** яго слоў (УК-ВЛ, IV, 1959, 145), заміж: **ня ўцяміўшы сэнсу;** Сымон **не прамінуў** здзейсніць **свой запаветны план** (МЛ-ВД, ІІ, 26), заміж: **не прамінуў зьдзейсьніць свайго запаветнага пляну;** брыгады **не забяспечылі патрэбны фронт работы** (КБ, 42), заміж: **не забясьпечылі патрэбнага фронту работы;** Успомнім і тое, што за апошняе стагоддзе **ніхто не перамагаў наш народ** (АК-РНД, 252), заміж: **ніхто ня перамагаў нашага народу;** Але першыя поспехі **не ўскружылі галаву** камуністам (З, 15. 7. 61), заміж: **ня ўскружылі галавы,** і г. д.

Варта адцеміць, што вінавальны заміж роднага склону пры адмоўях часамі, хоць і рэдка, зьяўляўся ў беларускай мове й перад русыфікацыйным пэрыядам, але такія сынтаксычныя канструкцыі разглядаліся тады, як русыцызмы ў беларускай мове, і кажны, хто рупіўся аб чысьціні беларускай мовы, змагаўся зь імі. Сяньня-ж, наадварот, гэты русыфікацыйны працэс у беларускай мове блізу закончаны, хоць некаторыя Беларусы ў БССР вычуваюць яго як чужы беларускай мове. Прыкладам, пісьменьнік Янка Скрыган радзіць ужываць толькі родны склон пры дзеясловах з адмоўем заміж вінавальнага склону, бо «найлепшым сьцьверджаньнем гэтага будзе тая самая народная гаворка».[43] Пры гэтым трэба адцеміць, што расейская народная мова, падобна як і беларуская, вінавальнага склону дапаўненьняў пры адмоўях таксама ня ведае й ужывае нармальна роднага склону. Гэтая зьява ўвайшла ў расейскую літаратурную мову пад уплывам неславянскіх заходнеэўрапэйскіх моваў, галоўна нямецкай (за пасярэдніцтвам жыдоўскага жаргону расейскае мовы) і асабліва пашырылася ў савецкія часы й асабліва ў мове газэтна-публіцыстычнай. Таму гэтая сынтаксычная форма павінна разглядацца наўперад як зьява саветызацыі самой расейскай мовы, адкуль яна пранікла й пашырылася ў беларускай мове, як зьява русасаветызацыі.

У беларускай мове дзеяслоў **вучыць, навучаць, павучаць** у ролі выказьніка ў сказе кіруе далейшым дапаўненьнем у родным склоне, тымчасам як у расейскай мове ў такіх выпадках вымагаецца давальны склон. У сяньняшняй беларускай літаратурнай мове БССР абедзьве формы — з родным і давальным склонам — выступаюць ужо паралельна, і то ў вабедзьвюх катэгорыях разгледжаных намі тэкстаў. Вось колькі прыкладаў з гэтым русыцызмам: Люда Кляўшыц забывае ўжо тое, **чаму** яе **вучылі** ў тэхнікуме

[43] Я. Скрыган. Думкі аб мове. «Літаратура і Мастацтва», № 15, 20. 2 1957.

(ТХ-ДП, 231), заміж: **чаго яе вучылі;** Леначку шмат **чаму трэба вучыць** (УК-ВЛ, VIII, 1960, 76), заміж: **шмат чаго трэба вучыць;** Будзем **вучыцца** ў іх **дысцыпліне** (УК-ВЛ, VII, 1960, 50), заміж: **вучыцца дысцыпліны; навучае гэтаму** іншых (МП-ЗП, III, 1956, 63), заміж: **навучае гэтага;** Ён і рухавік пусціў, і Кузьму **навучае справе** (ПБ-КЗР, 329), заміж: **навучае справы; Многаму** ў іх, вопытных хлебаробаў, трэба **павучыцца** (АБ-ДЛ, 175), заміж: **многага павучыцца;** Круглы год яны **вучаць** людзей **аграправілам** (тамсама), заміж: **вучаць аграправілаў;** Вядома, такое «апісанне» **нічаму не навучыць** (КБ, 71), заміж: **нічога не навучыць;** асабістым прыкладам **вучылі** іх **мужнасьці** і **адвазе** (ГБССР, 427), заміж: **вучылі мужнасьці і адвагі,** і г. д.

У беларускай мове дзеяслоў **дзякаваць** у якасьці выказьніка ў сказе кіруе давальным склонам, тымчасам як у расейскай мове адпаведны яму дзеяслоў **благодарить** кіруе вінавальным склонам. У сяньняшняй беларускай літаратурнай мове БССР, побач зь перавагаю правільных для яе формаў, пачынаюць ужо часамі зьяўляцца й расейскія формы. Прыкладам: Усе выступаючыя горача **дзякавалі Савецкую Армію** (ГБССР, 418), заміж: **дзякавалі Савецкай Арміі,** і г. д.

Напасьледак варта адцеміць частае ўжываньне ў сяньняшняй беларускай літаратурнай мове БССР прыназоўніка **па** ў тых сынтаксычных функцыях, у якіх ён нармальна ня ўжываецца ў беларускай мове, але ўжываецца ў мове расейскай. Гэтую зьяву найлепей ілюструюць наступныя прыклады: І толькі Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, самая грандыёзная **па маштабах,** самая глыбокая **па сваіх задачах і мэтах,** разбіла асновы нацыянальнага прыгнечання (З, 15. 8. 61). Правільна пабеларуску будзе: найбольш **грандыёзная маштабамі,** або, **паводля маштабаў,** найбольш глыбокая **паводля сваіх задачаў і мэтаў.** Канфэрэнцыя . . . пачала сваю работу ў дзесяць гадзін раніцы **па мясцоваму часу** (З, 16. 5. 1961). Паблр.: **паводля мясцовага часу. План па выпуску** валавой прадукцыі (КБ, 6). Паблр. у гэтым выпадку зусім будзе лішнім прыназоўнік **па: плян выпуску** валавой прадукцыі. Беларускі народ **па праву** ганарыцца поспехамі ў развіцці сваёй культуры, нацыянальнай **па форме,** сацыялістычнай **па зместу** (КБ, 4). Паблр. было-б гэтак: Беларускі народ **поўным правам** ганарыцца посьпехамі ў разьвіцьці сваёй культуры, нацыянальнай **формаю,** сацыялістычнай **зьместам.** Ракета . . . пайшла **па зададзенаму курсу** (КБ, 2). Паблр.: **згодна з зададзеным курсам.** Звяртаюць на сябе ўвагу таксама брашуры **па асобных** пытаннях палітычнай работы ў масах (КБ, 70). Паблр.: брашуры **пра асобныя пытаньні,** або, **аб асобных пытаньнях.** Пад выглядам барацьбы з цераспалосіцай **па закону** ад 31 ліпеня 1923 г. сялян гвалтоўна прымушалі пераходзіць на хутары (ГБССР 322). Паблр.: **згодна закону,** або **паводля закону.** Пачалося агульнае наступленьне Чырвонай Арміі супраць белапалякаў **па ўсяму фронту** (ГБССР, 147). Паблр.: **на ўсім фроньце.** Мы паклікалі вас **па важнай справе** (МЛ-ВД, II, 60). Паблр.: **у важнай справе.** Прэзідэнт і кіраўнік урада Рэспублікі Гана д-р Кваме Нкрума . . . прыбыў у Савецкі Саюз **па запрашэнню** Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчова (З, 15. 7. 61). Паблр.: **на запросіны.** Падобнае ўжываньне пад уплывам расейскае мовы прыназоўніка **па,** нязгоднае з вымаганьнямі беларускай мовы, асабліва часта сустракаецца ў мове першай катэгорыі тэкстаў, затое ў мове мастацкае літаратуры гэтая зьява здараецца рэдка.



## Фразэалёгія й ідыёматычныя выразы

Кажная мова мае сваю спэцыфіку ня толькі ў строга вызначаных граматычных формах — фанэтыцы, марфалёгіі й сынтаксе, — але таксама й у некаторых апрычоных для гэтае мовы выразах, што пад ніякія агульныя граматычныя правілы не падпадаюць, бо кажная такая моўная зьява становіць правіла для сябе самой. Такія выразы звычайна ўваходзяць да галіны фразэалёгіі або да ідыёматычных выразаў. Вось-жа ў сучаснай беларускай літаратурнай мове БССР, галоўна ў тэкстах першай катэгорыі, а куды менш у мове мастацкай літаратуры, можна таксама знайсьці вялікую колькасьць спэцыфічна расейскіх выразаў, чужых і раней ня ўжываных у беларускай літаратурнай мове, а таксама няведамых і беларускім народным гаворкам. Ніжэй прыводзім колькі прыкладаў гэтай катэгорыі русыцызмаў.

1. **заслугоўвае ўвагі** пастаноўка пытання аб больш рацыянальным выкарыстанні рабочай сілы ў калгасах (КБ, 74); Вялікай **увагі . . . заслугоўвае** творчасьць беларускага жывапісца Пятра Сяргіевіча (ЛіМ, 16. 5. 1961). Тут маем даслоўныя пераклады расейскіх выразаў **заслуживает внимания,** большого **внимания заслуживает,** якім у беларускай мове адпавядае: **заслугоўвае на ўвагу, на вялікую ўвагу заслугоўвае.**

2. Толькі за апошнія гады ў сталіцы рэспублікі **ўступілі ў строй** заводы аўтаматычных ліній (КБ, 4); У адным з баёў я быў ранен, але цяпер ізноў **уступаю ў строй** (ГБССР, 402); **Са строю выйшлі** многія чыгуначныя лініі (тамсама, 405). Выразы гэтыя зьяўляюцца мэханічным перакладам расейскіх **вступить в строй, выйти со строя,** якія пабеларуску можна перадаць, як **увайсьці ў дзеяньне, выйсьці зь дзеяньня.**

3. Барацьба за тэхнічны прагрэс . . . не павінна **выходзіць з поля зроку** партарганізацыі прадпрыемстваў (З, 15. 7. 1961); Асабліва **выпадаюць з поля зроку** нашых агітатараў . . . рабочыя, занятыя ў начных зменах (КБ, 28). Тут маем даслоўныя пераклады тыпова расейскіх выразаў **выходить из поля зрения, выпасть из поля зрения,** якія ў беларускай мове можна перадаць, як **выйсьці** або **выпасьці спад вока,** як супрацьлежнае да **ўспасьці на вока** (гл. Ф. Янкоўскі. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Менск, 1957, б. 411).

4. **На самай справе** (КБ, 3). Гэта даслоўны пераклад спэцыфічна расейскага **на самом деле.** Пабеларуску гэта можна выразіць адным словам — **узапраўды.**

5. Ты **яснасць унясі. Яснасць унясі** (АБ-ДЛ, 124). Узноў-жа даслоўны пераклад расейскага **внести ясность,** што пабеларуску перадаём адным словам **выясьніць** або **высьвятліць.**

6. Паспяхова **ўзяты рубяжы** першых двух год сямігодкі (З, 16. 5. 1961); Адчуваецца іх імкненне і рашучасць зрабіць усё, каб датэрмінова **ўзяць рубяжы** сямігодкі (КБ, 28). Тыпова расейскі, фактычна савецка-расейскі выраз **взять рубежи,** які ў беларускай мове вычуваецца чужым і штучным.

7. такой хуткасці **ў што б там ні стала** даб'ёмся (З, 15. 9. 1961); **у што б там ні было** выканаць адказнае заданне (КБ, 41). Пераклад тыпова расейскае фразы **во чтобы там ни стало.** Пабеларуску гэтую думку можна перадаць фразай **за ўсякую цану.**

8. Гандлюючыя арганізацыі **заклікаены аказваць актыўнае ўздзеянне** на прамысловыя прадпрыемствы (КБ, 64). Даслоўны пераклад расейскага **при-**

званы оказывать активное воздействие. Правільна пабеларуску можна сказаць: **Заданьне гандлёвых арганізацыяў актыўна ўплываць на прамысловыя прадпрыемствы.**

9. **Па ўсіх швах** затрашчалі тылы імперыялізма (КБ, 17). Даслоўны пераклад расейскай прымаўкі — **по всем швам.** Пабеларуску ёсьць у гэтым значэньні **на ўсе застаўкі** (гл. Ф. Янкоўскі. Тамсама, 420).

10. З пачатку года мы **ўкаранілі ў вытворчасць** больш за дваццаць тэхнічных удасканаленняў (УК-ВЛ, IX, 1960, 103); За апошні час **у вытворчасць укаранёна** каля трох тысяч удасканаленняў (КБ, 26); усё новае, перадавое **ўкаранялася ў вытворчасць** (тамсама). Даслоўны пераклад расейска-савецкага выражэньня — **внедрять в производство.**

11. Пііп **па праву** лічыцца лепшым работнікам вытворчасці (З, 15. 8. 1961). Ідыёматычны расейскі выраз **по праву.** Замест яго можна сказаць: **правільна** лічыцца, **справядліва** лічыцца, і г. д.

12. З хваляваннем **глядзіцца** тая частка фільма, дзе паказана, як на завод прыехаў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў (ЛіМ, 19. 9. 1961); Цяпер, як ніколі, **патрабуецца,** каб прапагандыст добра валодаў тэорыяй (З, 15. 7. 1961); Сем мільёнаў дамоў **мяркуецца** пабудаваць у сельскай мясцовасці (КБ, 16). Тут маем аўтаматычнае перанясеньне ў беларускую мову спэцыфічных для расейскае мовы выразаў зь безасабовымі формамі зваротных дзеясловаў: **смотриться** та часть фильма, **требуется,** чтобы пропагандист, **предполагается** построить.

Насаджваньне ў беларускую мову спэцыфічных для расейскае мовы фразаў і ідыёматычных выразаў для беларускае мовы больш небясьпечнае, чымся русыцызмы, прыкладам, у галіне слоўніцтва, бо яно разбурае апрычоны характар мовы, ейную нутраную структуру. Гэтую небясьпеку добра бачаць і перад ёю перасьцерагаюць і некаторыя беларускія савецкія аўтары. Дзеля прыкладу цікава будзе прывесьці разважаньні на гэтую тэму маладога беларускага моваведа, кандыдата філялягічных навук Анатоля Аксамітава:

> Каму з маленства не вядома байка Крылова «Мартышка и очки», дзе вялікі рускі байкапісец высьмейвае тых, хто, прыніжаючы годнасьць другіх, спрабуе выставіць сябе ў выгодным сьвятле. Выкарыстоўваючы народную мудрасьць, у маралі гэтай байкі аўтар заўважае: «Чем кумушек считать трудиться, не лучше ль на себя, кума, оборотиться». У беларускім фальклёры мы знаходзім такую прыказку: «Паглядзі, сава, якая сама».
>
> І ў адной і ў другой прыказцы размова йдзе аб адным і тым-жа. Тым ня менш, мы бачым разыходжаньне ў сродках выражэньня. Яшчэ большае разыходжаньне можна бачыць у такіх параўнальных выразах, як беларускі «ўшыцца ў сабачую скуру» й рускі «черту душу продать», якія толькі ў некаторых сваіх значэньнях зьяўляюцца ідэнтычнымі. Першы ў большай ступені азначае: рабіць нясумленныя ўчынкі, траціць сумленьне й г. д.
>
> Вельмі цяжка знайсьці такі ўстойлівы выраз у рускай мове, які адпавядаў-бы беларускаму «сабакам сена касіць», г. зн. ганебна зьбегчы ад свае сям'і. У рускай мове ёсьць выраз «быть в нетях», які азначае адсутнічаць, невядома дзе хавацца. Аднак гэта ўсё-ж ня тое. Больш эквівалентнага выразу знайсьці ў рускай мове нам не ўдалося.



> На чалавека сумленнага, бяскрыўднага, з добрай душой Беларус гаворыць, што «ён вока табе не запарушыць», а Рускі аб такім чалавеку заўважвае, што «он пальцем тебя не тронет».[44]

## Русыцызмы ў галіне слоўніцтва

Працэс русыфікацыі беларускае мовы найшырэй закрануў ейны лексычны матарыял, што зьяўляецца зусім зразумелым, калі ўзяць на ўвагу агульна ведамы факт, што й нармальныя ўплывы аднэй мовы на другую звычайна лягчэй даступныя й шырэй адбіваюцца ў галіне лексыкі, чымся ў фанэтыцы, марфалёгіі або сынтаксе. Слоўныя запазычэньні з расейскае мовы можна падзяліць на тры агульныя катэгорыі: 1. словы, хоць із славянскімі, але чужымі беларускай мове каранямі або з каранямі ў беларускай мове непрадуктыўнымі, якія ня твораць у ёй марфалягічнага гнязда, але выступаюць адно ў паасобных словах, далёкіх паводля значаньня й славатворнай будовы ад адпаведных ім расейскіх словаў. 2. Словы з каранямі, ведамымі й прадуктыўнымі ў беларускай мове, якія, аднак, у тым значаньні, якое яны маюць у расейскай мове, у беларускай мове ня ўжываюцца, або маюць зусім іншую вонкавую структуру, чымся ў расейскай мове. 3. Словы, якія ў тэй самай форме існуюць і ў беларускай мове, але маюць у ёй зусім іншае значаньне, чымся ў расейскай мове. Беларускі савецкі моваавед Н. Крукоўскі перадапошнюю групу словаў называе структуральнымі калькамі з расейскай мовы, а апошнюю групу — калькамі сэмантычнымі.[45]

Ніжэй зьілюструем найбольш тыповымі й пашыранымі прыкладамі ўсе тры ўспомненыя катэгорыі слоўных запазычэньняў з расейскае мовы. (Словаў, абазначаных зоркамі, няма ў «Расейска-беларускім слоўніку» з 1953 г.).

### А. Словы з рознымі ў вабедзьвюх мовах каранямі

**аберагаць* — оберегать:** Падатковая палітыка **аберагала** інтарэсы памешчыкаў і кулакоў (ГБССР, 333). У беларускай мове ў гэтым значаньні ўжываюцца словы **апчаджаць, ахоўваць.**

**абвузданне* — обуздание:** Прадстаўнікі ССР у Лізе Нацый выступілі з заклікамі да **абуздання** агрэсіўных дзеянняў фашысцкіх дзяржаў (ГБССР, 259). Пабеларуску — **утаймаваньне, уціхаміраньне.**

**абвяржэнне — опровержение:** Паграбаеце і патрабуеце: надрукаваць **абвяржэнне** (З, 16. 5. 61); Не лічу патрэбным **абвяргаць** (КК-ЛД, 30); Яго можа навучыць толькі жыццё, **неабвержны** факт, перад якім ён апынецца (ТХ-ДП, 100). Паблр. **адкліканьне, адклікаць, зьняпраўдзіць, запярэчыць, незапярэчны,** у залежнасьці ад адценьня значаньня.

**азнаменаваць — ознаменовать:** Гэтую падзею працоўныя гарадоў і сёл рэспублікі **азнаменавалі** новымі творчымі перамогамі (ГБССР, 284). Паблр. **адзначыць.**

**апасацца — опасаться:** Ён **апасаецца,** каб праз гэта не павялічылі праграму наагул (УК-ВЛ, II, 1959, 25); Яны ж рабілі тут, што хацелі, нікога не

[44] Анатоль Аксамітаў. Мова — душа народу. «Маладосьць», № 9 (79), 1959, б. 139.

[45] Н. І. Крукоўскі. Рускі лексічны ўплыў.

баючыся, не **апасаючыся** таго, што нехта калі-небудзь можа папракнуць іх (МЛ-ВД, IV, 357)); Вайчок адчуўшы, што Кашалёў мацней за яго воляй, **апасаўся** ўшчынаць з ім спрэчку (ТХ-ДП, 400). Паблр. **баяцца, асьцерагацца, сьцерагчыся.**

**аплот* — оплот:** бачаць у Савецкім Саюзе... **аплот** міру, дэмакрацыі і сацыялізма (КБ, 18); Разбурыць **аплот** эўрапейскай і азіяцкай рэакцыі — царска-самадзяржаўны лад — было нялёгкай задачай (ФР, 17). Паблр. **апора** (пераносн.).

**аснашчэнне — оснащение:** на гэтай аснове забяспечваецца **аснашчэнне** сельскай гаспадаркі навейшай тэхнікай (КБ, 49). Паблр. **аснада, аснаджаньне, забясьпечаньне.**

**асобы* — особый:** На долю працоўных Савецкай Беларусі выпала... **асобая** задача быць пастаянным вартавым савецкіх варот (ГБССР, 288). Паблр. **адмысловы, асаблівы.**

**атражэнне* — отражение:** Падрыхтавацца... **атражэнню** атакі (ІМ-ДНН, 11), Паблр. **адбіцьцё, адбой, адпор.**

**ачаг — очаг:** акупацыйны рэжым у Заходнім Берліне... ператварыўся ў небяспечны **ачаг** узнікнення новай вайны (КБ, 68). Паблр. **вогнішча** (пераносн.).

**беззаветна* — беззаветно: беззаветна** адданых справе камунізма (ГБССР, 351). Паблр. **самааддана, самаахвярна.**

**беражлівасць* — бережливость:** Спаборніцтва за эканомію і **беражлівасць** набыло шырокі размах (КБ, 46). Паблр. **ашчаднасьць.**

**беражоны* — береженый: Беражонага** і бог **беражэ** (ІМ-ДНН, 27). Паблр. **сьцеражонага** й Бог **сьцеражэ.**

**ветка — ветка:** на тэрыторыі Заходняй Беларусі была пабудавана толькі адна чыгуначная **ветка** Варапаева-Друя (ГБССР, 427). Расейскаму **ветка** адпавядае блр. **галіна,** але ў значаньні пераносным, як у прыведзеным прыкладзе, будзе **адгаліненьне.**

**вопыт* — опыт:** Накоплены ў гэтай справе **вопыт** трэба ўмела выкарыстаць (КБ, 63). Паблр. **дазнаньне, практыка.**

**дзяшовы* — дешевый:** Цяпер настае самы спрыяльны час для атрымання малака, ялавічыны, свініны на **дзяшовых** зялёных кармах (З, 31, 5. 61); клапоціцца цяпер аб тым, каб атрымаць **дзяшовы** тавар (ГБССР, 200); Удзяляем увагу і **падзешаўленню** вытворчасці ялавічыны (КБ, 38); зрабіць больш **дзяшовай** вытворчасць прадуктаў раслінаводзтва (тамсама, 39). Паблр. **танны, танна, патаненьне.**

**доблесць — доблесть:** Я згодзен прызнаць, што гэта працоўная **доблесць** (ІШ-Кр, 137); За **доблесную** працу Савецкі ўрад у снежні 1935 г. ўзнагародзіў іх ордэнамі Савецкага Саюза (ГБССР, 280). У старой белар. літаратурнай мове быў адпаведнік гэтаму **дабрамужнасьць, дабрамужны.** У цяперашняй мове яго можна замяніць словам **гэраічнасьць, гэраізм, гэраічны.**

**залог — залог:** У гэтым залог паспяховага выканання (КБ, 46); У рэвалюцыйнай творчасці саміх мас вялікі правадыр... бачыў **залог** трыумфу сацыялістычных адносін (ФР, 31). Паблр. **зарука.**

**звяно — звено:** Брыгады... сталі асноўным **звяном** у калгаснай вытворчасці (ГБССР, 280). Паблр. **вязьмо, вянцо, злучво.**

**звяржэнне — свержение:** закончыць ваину сапрауды дэмакратычным мірам без **звяржэння** буржуазіі немагчыма (ГБССР, 13); сілай зброі **звергнуць** уладу буржуазіі (тамсама, 33). Паблр. **ськінуць, зрынуць.**

**здзелка — сделка:** Не павінна быць **здзелкі** з уласным сумленнем (КБ, 23). У гэтым значаньні паблр. будзе **угода, каншахт, кампраміс.**

**здзельшчына, здзельны — сдельщина, сдельный:** уводзілася **здзельшчына** ў аплаце працы (ГБССР, 232); 85% рабочых перайшлі на **здзельную** аплату (тамсама). Паблр. у гэтым значаньні можна ўжыць **выпрацоўка, выпрацавальны, выпрацоўны.**

**знешне, знешні — внешне, внешний: знешне** сур'ёзна... адказала Вольга Калінаўна (ІШ-Кр, 132); Ноткі самахвальства... і **знешняя** глыбакадумнасць пытання закранулі Паходню (ТХ-ДП, 68). Паблр. **вонкава, вонкавы.** Слова **вонкавы** зусім выкінута зь бел. мовы БССР.

**змычка — смычка:** У аднаўленчы пэрыяд **змычка** паміж горадам і вёскай ішла галоўным чынам праз гандаль (ГБССР, 186). Тыповы расейскі саветызм, якога даўней ня было і ў расейскай мове. Яго можна замяніць словам **злучнасьць.**

**ільгота — льгота:** Калгасы атрымалі вялікія **ільготы** па нарыхтоўках сельгаспрадуктаў (КБ, 51). Паблр. **палёгка.**

**іспыты — испытания:** Ну як твае **іспыты?** (УК-ВЛ, VII, 60). Паблр. **экзамены, выпыты.**

**ісціна — истина:** Вы адказалі, пан Вейс, як і заўсёды, святую **ісціну** (МЛ-ВД, III, 459); У барацьбе за шчасце чалавек знаходзіць **ісціннае** прызначэнне (ПГ-СУ, 69). Паблр. **праўда, праўдзівы, запраўдны.**

**каварны — коварный:** Але ўсе гэтыя **каварныя** намеры ворагаў беларускага народа праваліліся (ГБССР, 338). Паблр. **падступны, зрадлівы.**

**койка* — койка:** У гасцініцы Андрэю ўдалося выпрасіць **койку** для Веры (АК-РНД, 97). Паблр. **ложак.** У белар. савецкай мове **койка** пакульшто ўжываецца ў значаньні **ложка** толькі ў дачыненьні да гасьцініцы, шпіталю й пад., у іншых выпадках яшчэ бытуе слова **ложак.** Але: На ўвесь Маладзечанскі павет функцыяніравала толькі адна бальніца з 30 **ложкамі** (ГБССР, 335).

**крушэнне — крушение:** ганебная сістэма каланіялізму знаходзіцца на мяжы свайго поўнага **крушэння** (З, 15. 8. 61); Кастрычніцкая рэвалюцыя паклала пачатак **крушэнню** капіталізма (КБ, 2). Паблр. **развал.** У іншых выпадках можна ўжыць слова **катастрофа.**

**мяцеж — мятеж:** яны... пачалі арганізоўваць на тэрыторыі нашай краіны **мецяжы** (ГБССР, 168). Паблр. **бунт.**

**накапленне — накопление:** звышпланавыя **накапленні** (УК-ВЛ, VII, 1960, 36); **Накоплены** ў гэтай справе вопыт трэба ўмела выкарыстаць (КБ, 63). Паблр. **намнажэньне, назапашваньне, нагрмаджэньне, назапашаны, намножаны, награмаджаны.**

**намётка — наметка:** Для распрацоўкі першапачатковых **намётак** плана былі прыцягнуты брыгадзіры (КБ, 31). Паблр. **накід.**

**недаўменне* — недоумение:** Мы глядзелі на яго з **недаўменнем** (АБ-ДЛ, 20). Паблр. **зьдзіўленьне, зьбянтэжанасьць.**

**непазбежны — неизбежный:** Зніклі галеча, беспрацоўе, крызісы — **непазбежныя** спадарожнікі капіталізма (ГБССР, 425). Паблр. **нямінучы, няўхільны.**

**несакрушальны — несокрушимый:** Беларускі народ прадэманстраваў сваё **несакрушальнае** маральна-палітычнае адзінства (ГБССР, 301). Паблр. **нязломны.**

**падаўленне, падавіць — подавление, подавить:** патрабавалі прыняць рашучыя меры для **падаўлення** паўстанцаў (ГБССР, 339); несліся патрабаванні: агнём і мячом **падавіць** нацыянальна-вызваленчы рух беларускага народа (тамсама). Паблр. **здушэньне, здушыць.**

**падвяргаць — подвергать:** Відаць, што яна не раз **падвяргалася** артылерыйскаму абстрэлу (ПГ-СУ, 21); Вострай крытыцы быў **падвергнут** начальнік пагрузачна-разгрузачнага цэха (КБ, 9); Яны **падверглі** рэзкай і прынцыповай крытыцы кіраўніцтва камбіната (тамсама. 21). Паблр. **паддаваць, паддаць, падпадаць.**

**пазбягаць — избегать:** Ва ўсякім разе пра гэта **пазбягалі** гаварыць (УК-ЗГГ, 406); Андрэй выпіў двума поўнымі глыткамі, і сам здзівіўся, што выпіў з ахвотаю, хоць раней заўсёды **пазбягаў** выпіўкі (АК-РНД, 274). Паблр. **унікаць, ухіляцца ад, высьцерагацца.**

**папрок*, папракаць* — попрек, попрекать:** хто кіне **папрок** на гэтую заўчасную магілу чалавека (МЛ-ВД, І, 31); але: Па сэрцах людзей прайшоў калючы халадок і нешта падобнае на **дакор** сабе, на сорам (тамсама); Заснеш дзе-небудзь! — пожартам, аднак не без суровасці, **папракнуў** Андрэй (АК-РНД, 120); Забавіліся вы, — з дабразычлівым **папрокам** сказаў праваднік Андрэю (тамсама, 338), але: Андрэю здалося, што ў глыбока запалых, сумных вачах Марыі бліснуў нейкі **дакор.** І ён пачаў думаць, за што **дакор?** (тамсама, 191); Аднак і недалікатны ж чалавек! — уголас **папракнуў** самога сябе Паходня (ТХ-ДП, 193), але: Параска глянула на Яшчына з **дакорам** (тамсама 143). Паблр. **дакор, дакараць.** Прыведзеныя прыклады наглядна добра паказваюць, як беларускае слова **дакор, дакараць** выціскаецца расейскім словам **папрок, папракаць,** якія сяньня ўжываюцца паралельна, але ў тэкстах першай катэгорыі выразна пераважае расейскае слова, а ў тэкстах другой катэгорыі вялікая перавага яшчэ на баку **дакор, дакараць.**

**пахаць* — пахоть:** на кожны двор прыпадала ў сярэднім **пахаці** 5,20 дзесяціны (ГБССР, 190), але: ў многіх раёнах **ворныя землі** прыйшлі ў заняпад (тамсама, 433). Паблр. **ворная зямля, ральля, ворыва,** у залежнасьці ад значэньня.

**плацце — платье:** Ёй не падабалася **плацце** — завузкае (УК-ВЛ, VIII, 1960, 84). Паблр. **сукенка.**

**подзвіг* — подвиг:** Вядзі ж і далей нас на **подзвігі,** наш дарагі камандзір! (МЛ-ВД, IV, 216); сам ня быў гатовы на падобны **подзвіг** (ІШ-КР, 179); Так, жыць і ісці на **подзвіг** (УК-ЗГГ, 72). Паблр. **вычын, дасягненьне,** і пад., залежна ад адценьня значаньня.

**поезд — поезд:** Значыцца **поезд** у іх няма каму весьці? (ІШ-ДНН, 38); Але ўражанне, што **поезд,** у якім ехаў Васіль Пятровіч, стаіць, ня знікла: адплываў вакзал, а **поезд** стаяў (УК-ЗП, 596). Але: Ляснулі буферы, і **цягнік** плаўна крануўся з месца (тамсама); іх **цягнік,** як і раней, стаіць (тамсама); Набіраючы хуткасці, **цягнік** рушыў са станцыі (МЛ-ВД, ІІ, 4). Паблр. **цягнік.**

**прамы* — прамой:** Ёсць і **прамыя** доказы (КК-ЛД, 36); Сума **прамых** падаткаў была вышэйшая, чым нават у царскай Расіі (ГБССР, 333). Паблр. **просты, беспасярэдні.**



**прыурочаны* — приуроченный:** спраўлялі свята ўраджаю, **прыўрочанае** да дзесяцігоддзя калгаса (МЛ-ВД, І, 52). Паблр. **прытарнаваны, прымеркаваны.**

**пуць — путь:** І толькі тут, ужо на станцыі, адбыўся выбух вагона, які нарабіў, вядома, вялікай шкоды і самому эшалону і станцыйным **пуцям** (МЛ-ВД, IV, 39); Перадайце генералу, што ўсіх, хто стане на нашых **пуцях,** растопчам (ІШ-ДНН, 40). Паблр. **шлях.** «Русско-белорусский словарь» падае **шлях,** а **пуць** толькі ў значаньні чыгуначнага шляху.

**пуцёўка — путевка: пуцёўкі** ў дамы адпачынку і санаторыі (ГБССР, 320). Паблр. **ськіраваньне.**

**разараць, разарэнне — разорять, разорение:** непасільныя падаткі **разаралі** жыхароў Беларусі (ГБССР, 93); беларускі народ . . . узнімаў з руін сваю **разораную** нямецка-фашысцкімі акупантамі гаспадарку (тамсама, 430); Вузкасць унутранага рынку буржуазнай Польшчы тлумачылася **разарэннем** і галечай сялянскіх мас (тамсама, 328). Паблр. **руйнаваць, разбураць, спусташаць.**

**разграміць — разгромить:** камуністы Беларусі **разграмілі . . .** як трацкісцка-зіноўеўскую, так і буржуазную апазіцыі (ГБССР, 215). Паблр. **разбурыць, разьбіць, зьнішчыць, здрузгатаць.**

**раздуваць* — раздувать:** Праціўнікі мірнага ўрэгулявання з Германіяй **раздуваюць** ваенны псіхоз (З, 15. 9. 61). Паблр. **разьдзьмухваць.**

**раскол, раскалоць — раскол, расколоть:** Сваім актам заходнія дзяржавы завяршылі **раскол** Германіі (КБ, 65); **Раскол** краіны выклікаў сур'ёзныя дыспрапорцыі ў эканоміцы ГДР (тамсама); спрабавалі захапіць кіраўніцтва Грамадой у свае рукі, каб затым **раскалоць** арганізацыю (ГБССР, 341). Паблр. **разьбіцьцё, расшчапленьне, падзел, разбурэньне, разьбіць, расшчапіць, разбурыць.**

**распасцірацца — распростираться: распасціралася** злавесная і страшная . . . зямля (УК-ВЛ, IV, 1959, 108); Наваколл **распасціраўся** бяскрайні стэп (УК-ВЛ, IV, 1959, 115). Паблр. **разьлягацца, расьсьцілацца.**

**рашэнне — решение:** X з'езд партыі прыняў гістарычнае **рашэнне** аб замене харчовай **развёрсткі** харчовым падаткам (ГБССР, 169). Паблр. **пастанова,** а ў значаньні **разьвёрстка** паблр. **раскладка.**

**рыданне — рыдание:** з трывогай азірнуліся і пачулі ўжо глухія **рыданні** дзяўчыны (МЛ-ВД, IV, 366); **Рыданні** падступалі ў Зосі пад горла (УК-ЗГГ, 194). Паблр. **узрыгі.**

**рэўнасць — ревность:** Калі нарадзілася Соня і Леначка, **рэўнасць** яго не толькі не паменшала, але стала яшчэ больш лютай (УК-ВЛ, II, 1959, 13); Потым Алёша перастаў падабацца, **рэўнасць** да Каці знікла (ІШ-Кр, 236). Паблр. **зайздрасьць.**

**састаў — состав:** Павышалася майстэрства кіруючых савецкіх кадраў каманднага **саставу** (ГБССР, 371), але: Пленум пастанавіў перад . . . усім камандна-палітычным **складам** партызанскага руху . . . задачу далейшага пашырэньня партызанскай барацьбы (тамсама, 397). Паблр. **склад.**

**сачыненне — сочинение:** напісаў **сачыненне** на тройку (ІШ-Кр, 351). У гэтым значаньні ў бел. мове ўжываем **укладаньне, праца.**

**свяшчэнны — священный:** Замацаваць брацкі саюз рабочага класа з сялянствам — наш **свяшчэнны** абавязак (ГБССР, 196); Дастойны ўклад у гэтую **свяшчэнную** справу ўнёс і беларускі народ (КБ, 14). Паблр. **сьвяты, сьвятарны.**

**скажаць — искажать:** Рысы твару выцягваліся, **скажаліся** (МЛ-ВД, I, 4). Пабелр. у гэтым выпадку **выкрыўляцца, крывіцца.**

**скалочваць* — скалочивать:** Імперыялісты... **скалочвалі** антысавецкі ваенны блок (ГБССР, 213). Паблр. **зьбіраць, згуртоўваць.**

**скатваць — скатывать:** Андрэй стаяў адным каленам на падлозе і **скатваў** шынель (АК-РНД, 91). Паблр. **скручваць, згортваць.**

**смірны* — смирный:** Нават шкада яго было, такога **смірненькага,** прычасанага (УК-ВЛ, II, 1959, 32). Паблр. **рахманы, ціхмяны, пакорлівы.**

**спаймаць* — поймать: спаймалі** і ўтаймавалі чубатага злодзея (УК-ВЛ, IV, 1959, 116). Паблр. **злавіць.**

**спаяны — спаянный: Спаяныя** брацкай дружбай (З, 15. 8. 61). Паблр. **зьнітаваны, згуртаваны.**

**ствол — ствол:** Прагаліна раптам павузела, а ніжэй паміж **ствaламі** таполяў ператварылася ў нейкую незвычайную шчарбіну (АК-РНД, 5); **Ствол** яе быў гладкі і роўны (тамсама), але: Прайшлася Вера ўздоўж тоўстага, у некалькі абхватаў, **камля** (тамсама). Паблр. **камель.**

**сугуба* — сугубо:** Нарада наша склікана, панове, неафіцыйна і **сугуба** тайна (ПГ-СУ, 55). Паблр. **вельмі, асабліва, зусім.**

**сукупнасць — совокупность:** Да гэтых фінансавых цэнтраў непасрэдна далучаліся і мясцовыя банкі, якія **ў сукупнасці** з імі кантралявалі ўсе рашаючыя пазіцыі ў эканоміцы передрэвалюцыйнай Беларусі (ФР, 9); На базе грамадскай уласнасці на сродкі вытворчасці пачала мяняцца ўся **сукупнасць** вытворчых адносін (тамсама, 48). Паблр. у першым прыкладзе можна ўжыць **разам, супольна,** а ў другім — **злучво, суцэльнасьць.**

**супруг* — супруг:** Вашага паважанага **супруга** рэкамендуюць галоўным архітэктам горада (УК-ЗГГ, 117). Паблр. **муж.**

**угоддзе — угодье:** Лепшыя землі і **ўгоддзі** знаходзіліся ў руках памешчыкаў і кулакоў (ГБССР, 330); плошча зямельных **угоддзяў**... павялічылася (тамсама, 313). Паблр. **ужыткоўнасьць.**

**унушэнне, унушальна, унушаць — внушение, внушительно, внушать:** Неаднаразовыя гутаркі і **ўнушэнні** брыгадзіра не давалі патрэбных вынікаў (КБ, 43); Сыдзі з дарогі, пудзіла! — суха і **ўнушальна** прапанаваў чалавеку Мішка (МП-ЗП, XI, 1958, 92). Слова чужое ў бел. мове. Замест яго можна ўжыць **намова, намаўляньне, узьдзейваньне.**

**урач — врач:** У 1940 г. у сельскай гаспадарцы Беларусі працавала ўжо больш... ветарынарных **урачоў** (ГБССР, 316). Паблр. **лекар.** Слова **лекар** ужо зусім выкінута зь бел. мовы БССР.

**урок — урок:** Беларускі народ атрымаў з барацьбы супраць інтэрвентаў і белагвардзейцаў сур'ёзны палітычны **ўрок** (ГБССР, 164). Паблр. **лекцыя, навука.**

**хадайніцтва — ходатайство:** яна акуратна вылажыла запоўненыя бланкі папярэдніх допытаў, заяў на прапускі, лісты, **хадайніцтвы** (МЛ-ВД, I, 126); Было задаволена **хадайніцтва** рабочых Ленінграда (ГБССР, 196). Паблр. **стараньне.**

**шар — шар:** весткі... абляцелі зямны **шар** (КБ, 2); Удары більярдных **шароў** гулка разлягаліся ў пустым пакоі (УК-ВЛ, IV, 1959, 103). Паблр. **куля, гала.**

**чаканіць — чеканить:** Роўным строем, **чаканячы** крок, ідуць салдаты (З, 15. 7. 61). Паблр. **адбіваць, выбіваць.**



**чарцёж — чертеж:** Інжынер Палякоў прынёс **чарцяжы** капра (КБ, 41). Паблр. **рысунак.**

**член — член:** У канцы вайны БССР прыняла ўдзел у стварэнні Арганізацыі Аб'еднаных Нацый і з 1945 г. з'яўляецца адным з яе **членаў** (ГБССР, 432). Паблр. **сябра.**

### Б. Словы із супольнымі каранямі, але з расейскай структурай

**абавязацельства — обязательство:** Гэтае **абавязацельства** неабходна настойліва ажыццяўляць (КБ, 6); яна выконвае не ўсе **абавязацельствы** перад калгасам (ТХ-ДП, 80). Паблр. **забавязаньне.**

**абнародаваць — обнародовать:** У загадзе... **абнародаваным** у дзень вызвалення горада (ФР, 37). Паблр. **абвесьціць.**

**абстаяць — обстоять:** А вось з выданнем нот справа **абстаіць** зусім дрэнна (ЛіМ, 21. 7. 61); Асабліва дрэнна **абстаялі** справы на заводзе «Аўтазапчастка» (КБ, 27). У гэтым значаньні ў бел. мове можна ўжыць **стаяць.**

**аб'ём — объем:** Па **аб'ёму** прамысловай вытворчасці Савецкі Саюз абагнаў Францыю (ГБССР, 290). Паблр. **абыймо, абсяг.**

**аб'явіць — объявить:** Фронт барацьбы супраць белапалякаў быў **аб'яўлен** галоўным (ГБССР, 145). Паблр. **абвесьціць.**

**авалодаць — овладеть:** Спецыялісты... дапамаглі калгаснікам **авалодаваць** арганічнай навукай (ГБССР, 316). Паблр. **апаноўваць** або **здабываць навуку.**

**адстаяць — отстоять:** гэты дзяржаўны саюз патрэбен для таго, каб **адстаяць** самастойнае існаванне савецкіх рэспублік (ГБССР, 182). Паблр. **абараніць.**

**бачны, бачнасць — видимый, видимость:** Адсюль **бачны** два магутных хатных капры (КБ, 40); з'яўляюцца членамі калгаса толькі для **бачнасці.** (З, 16. 5. 61). Замест **бачны** паблр. можна ўжыць **прыкметны,** або **былі відаць,** а заміж **для бачнасьці** можна сказаць **дзеля вока.**

**безагаворачны — безоговорочный:** патрабавалася **безагаворачная** капітуляцыя Японіі (ГБССР, 423). Паблр. можна ўжыць або **бязумоўны** або **бязь ніякіх умоваў.**

**бедства — бедствие:** трэба ўзнагародзіць тых, якія пасля нязмерных **бедстваў** працягваюць праяўляць гераізм (ФР, 50); Усякае гвалтоўнае парушэнне гэтай агульнасці з'яўляецца нацыянальным **бедствам** (тамсама, 129). Паблр. **бяда, няшчасьце.**

**ва — во: Ва** ўзброенай сутычцы з паліцыяй былі забітыя і раненыя (ГБССР, 345); Становішча працоўных **ва** ўмовах эканамічнай дэпрэсіі заставалася па-ранейшаму цяжкім (тамсама, 347); Савецкая ўлада ў Беларусі была ўстаноўлена не **ва** ўсіх раёнах адначасова (ФР, 28). Прыйменьнік расейскі **ва (во)** сяньня ўжо поўнасьцяй выцісную адпаведны яму ў бел. мове **ува (ўва).**

**відазмяніць — видоизменить:** Новая гістарычная эпоха... **відазмяніла** гэтую перспектыву сацыялістычнай рэвалюцыі (КБ, 11). Паблр. будзе проста **зьмяніць, перамяніць.**

**воін — воин:** Выключную ўвагу аддавалі працаўнікі тылу раненым **воінам** (ГБССР, 379). Паблр. **ваяк, жаўнер.**

**воінскі — воинский:** У адпаведнасці з законам аб усеагульным **воінскім** абавязку (З, 15. 9. 61). Паблр. **вайсковы.**

**грабёж — грабеж:** Капіталістычныя краіны здабывалі сродкі ... шляхам ваенных **грабяжоў** (ГБССР, 212). Паблр. **рабунак.**

**заніжаць — занижать:** мэбля па **заніжаемых** цэнах (З, 16. 5. 61). Паблр. **зьнізіць, зьніжаны.**

**злабадзённы — злободневный:** Значнае месца прысвечана такім **злабадзённым** пытанням, як падбор і расстаноўка кадраў (КБ, 70). Паблр. **надзённы, пякучы.**

**злашчасны — злосчастный:** ці ўсё там у парадку ў гэтай **злашчаснай** кнізе (МЛ-ВД, I, 134). Паблр. можна тут ужыць **няшчасны.**

**змяняемасць* — изменяемость:** Дапускаецца вялікая **змяняемасць** прапагандысцкіх кадраў (З, 15. 7. 61). Таму што ў бел. мове няма дзеепрыметніка цяперашняга часу залежнага стану **зьмяняемы,** дык ня можа быць і ўтворанага ад яго назоўніка **змяняемасць.** Заміж яго павінна быць **зьменнасьць, зьменлівасьць.**

**знамянальны — знаменательный:** Гэтая **знаменальная** дата залатымі літарамі ўпісана ў летапіс (КБ, 11). Паблр. **паказальны, важны, вялікі.**

**малейшы* — малейший:** Нямецка-фашысцкія захопнікі люта распраўляліся з насельніцтвам за **малейшае** выказванне нездавалення акупацыйным рэжымам (ГБССР, 373). Такой формы вышэйшае ступені прыметніка **малы** бел. мова ня ведае. Паблр. **найменшы.**

**насаджаць* — насаждать:** яны **насаджалі** ў Беларусі кулацкія хутары і дробныя пасёлкі (ГБССР, 235). Гэты дзеяслоў у бел. мове із суфіксам **-в- — насаджваць.**

**неймаверны — неимоверный:** Сродкі да жыцьця мала-памалу знікаюць з прычыны **неймаверных** падаткаў (ГБССР, 93). Паблр. **няверагодны.**

**непазбежнасць, непазбежны — неизбежность, неизбежный:** Ленін ... падкрэсьліваў **непазбежнасьць** паўтарэння асноўных рыс рускай рэвалюцыі ў міжнародным маштабе (КБ, 17). Паблр. **няўхільнасьць, нямінучасьць, няўхільны, нямінучы.**

**непераўзыйдзены — непревзойденный:** Ленін — **непераўзыйдзены** арганізатар (КБ, 12). Паблр. **неперавышаны.**

**нямысліма* — немыслимо:** Існаванне капіталізма без нацыянальнага прыгнёту таксама **нямысліма,** як **нямысліма** існаванне сацыялізма без вызвалення прыгнечаных нацый (ФР, 20). Паблр. у гэтым значаньні можна ўжыць **не да падуманьня.**

**падзенне — падение:** быў прыпынен працэс **падзення** сельскай гаспадаркі Беларусі (ГБССР, 179). Паблр. **упадак, паданьне.**

**падзёж* — падеж:** Скараціўся **падзеж** маладняку (ГБССР, 316). Паблр. **вопадзь, памор, пошасьць.**

**пазбягаць — избегать:** радыё таксама **пазбягае** аднаактовак (ЛіМ, 18. 8. 61). Паблр. **унікаць, ухіляцца** (ад чаго), **высьцерагацца.**

**паплаціцца — поплатиться:** Жорстка **паплаціўся** Піліп Ластоўскі за сваё маладушша (ЛіМ, 18. 8. 61). Гэтая форма дзеяслова ў бел. мове ня ўжываецца. Замест яе можна сказаць проста — **заплаціць.**

**параджаць — порождать:** прычыны, якія **параджаюць** эксплаатацыю чалавека чалавекам (ГБССР, 257). Паблр. **радзіць, нараджаць, выклікаць, спрычыняць.**



**паследаваць* — последовать:** Яго прыкладу **паследавалі** іншыя (МЛ-ВД, II, 28). Паблр. **за ягоным прыкладам пайшлі.**

**пастаянны — постоянный:** На **пастаянную** работу ў вёску партыя паслала вялікі атрад кіруючых работнікаў (КБ, 50); Пры партыйных органах працавалі сотні **пастаянных** дэлегацкіх сходаў жанчын (ГБССР, 216). Паблр. **сталы, заўсёдны.**

**паўсямесна* — повсеместно:** Стварэнне і работа камітэтаў сялянскай беднаты ... **паўсямесна** падтрымліваліся шырокімі слаямі бяднейшага сялянства (ФР, 34). Паблр. **усюды, скрозь, паўсюдна.**

**перамоганосны — победоносный:** Камуністычная партыя расчысціла дарогу нашаму **перамоганоснаму** руху ўперад (КБ, 51). Паблр. **пераможны.**

**плацёж — платёж:** Пры нявыплаце падаткаў **плацяжы** спаганяліся шляхам секвестра (ГБССР, 333). Паблр. **плата, сплата.**

**правячы — правящий: Правячыя** колы Польшчы імкнуліся задушыць рэвалюцыйны рух (ФР, 133). Паблр. **кіраўнічы.**

**прадаставіць* — предоставить:** сцэна тэатра была **прадастаўлена** Беларускаму ардэнаноснаму тэатру імя Янкі Купалы (ЛіМ, 19. 9. 61). Паблр. у гэтым значаньні будзе **даць, аддаць.**

**прадстаць* — предстать:** Яны **прадсталі** перад судом (ГБССР, 343). Паблр. **стаць, зьявіцца, паўстаць.**

**прадузятасць — предвзятость:** Адміністраванне ў гэтай справе магло выклікаць у сялян толькі **прадузятасць** супраць калектыўных форм гаспадаркі (ФР, 47). Паблр. **упярэджаньне.**

**разрадка — разрядка:** важнейшым укладам у справу **разрадкі** міжнароднай напружанасці ў Эўропе было б заключэнне германскага мірнага дагавору (З, 15. 8. 61). Паблр. **разрэджаньне, распружаньне.**

**садружнасць — содружество:** Іх **садружнасць** непарушная (КБ, 17); вучоныя ў **садружнасці** з работнікамі вытворчасці ... зробяць новыя тэарэтычныя даследаванні (тамсама, 36). У першым выпадку паблр. будзе **сяброўства,** у другім — **разам, у супрацоўніцтве.**

**састаяць* — состоять:** У партыі **састаялі?** (МЛ-ВД, «Полымя», IX, 1957, 66). Паблр. **быць, належаць** (да).

**саставіць — составить:** вы сёння не **саставіце** мне кампанію на танцы (КК-ЛД, 15). Паблр. **зрабіць, стварыць,** у іншым значаньні — **скласьці.**

**свяціла — светило:** Як жа новае **свяціла** навукі? — А гэтае **свяціла** нарабіла мне столькі брыдотных прапаноў, што я дзіву давалася (МЛ-ВД, III, 425). Для абазначаньня гэтага паняцьця ў беларускай мове ўжываецца ў пераносным значаньні слова **сьветач** або **зорка.**

**спешка — спешка:** З завода давялося хутка выбрацца, бо праявіў тут Боўцік непатрэбную **спешку** (МЛ-ВД, III, 274). Паблр. **пасьпех.**

**стрымаць — сдержать:** Сваё слова мантажнікі **стрымалі** (КБ, 41). У гэтым значаньні ў беларускай мове ўжываецца **датрымаць,** а **стрымаць** скалькаванае з рас. **сдержать.**

**убраць — убрать:** яны спяшаліся **ўбраць** ураджай у свае сховішчы (ГБССР, 408). Паблр. **зыбраць.** У іншых выпадках — **прыняць, забраць.**

**указаць — указать:** З'езд асудзіў усе апазіцыйныя групоўкі, **указаўшы,** што яны дапамагаюць ворагам Савецкай улады (ГБССР, 169). Паблр. у гэтым значаньні — **зазначыць.**

**унізіцельны — унизительный:** Прыгнёт памешчыкаў і капіталістаў дапаўняўся **ўнізіцельным** нацыянальным зняволеннем (ФР, 12). Паблр. **зьняважлівы, зьняважальны.**

**устараніць — устранить:** манапалістычныя колы ЗША і Англіі імкнуліся **ўстараніць** нямецкіх і японскіх канкурэнтаў з сусветнага рынку (ГБССР, 363). Паблр. **адсунуць,** у іншых значаньнях — **прыняць, прыбраць, зьнішчыць.**

**уход — уход:** аб забароне самавольнага **ўходу** рабочых з прадпрыемстваў і ўстаноў (ГБССР, 310). Паблр. **адыход.**

**цэласнасць — целостность:** Савецкі народ змагаўся за захаваньне **цэласнасці** і незалежнасці першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы (ГБССР, 363). Паблр. **цэласьць, суцэльнасьць.**

**шэсце — шествие:** у перыяд трыумфальнага **шэсця** савецкай улады (ГБССР, 87). Паблр. **паход.**

## В. Беларускія словы з расейскім значаньнем

**адмяніць — отменить:** трэба ня толькі звергнуць эксплуататараў, ... ня толькі **адмяніць** іх уласнасць, трэба **адмяніць** яшчэ і ўсякую прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці (КБ, 52). Слова **адмяніць** ужываецца ў бел. мове толькі ў сваім беспасярэднім значаньні, а ў пераносным значаньні, як у вышэй прыведзеным прыкладзе, яно ня ўжываецца. Заміж яго павінна быць **скасаваць.**

**дзяленне — деление:** У 1938 г. у Беларусі было ўведзена новае адміністрацыйна-тэрытарыяльнае **дзяленне** (ГБССР, 302). У гэтым значаньні ў бел. мове ўжываецца **падзел,** а **дзяленьне** ўжываецца толькі ў значаньні працэсу, найчасьцей — арытмэтычнага дзеяньня.

**зыходзіць — исходить:** Савецкі ўрад **зыходзіць** з таго, ... што бакі праявяць сур'ёзныя адносіны да перагавораў (З, 15. 9. 61); Бальшавікі Беларусі, **зыходзячы** з ленінскіх указанняў ... пачалі паўсюдна ствараць і ўмацоўваць саветы (ФР, 31). Паблр. гаворыцца **зыходзіць уніз, зыходзіць з гары** й пад., але ў значаньні, у якім ужываецца рас. слова **исходить,** ужываецца **выходзіць.**

**колькі-небудзь — сколько нибудь:** У ёй амаль адсутнічала **колькі-небудзь** значная прамысловасць (КБ, 4). **Колькі-небудзь** у бел. мове ўжываецца ў значаньні неазначальнага лічэбніка, а ня прыслоўя, як у прыведзеным прыкладзе, дзе маем чысты русыцызм. Паблр. у гэтым выпадку гаворыцца **хоць крыху, больш-менш.**

**мецца — иметься:** у іх **меліся** яшчэ і сур'ёзныя недахопы (ГБССР, 226); **меліся** выпадкі разбазарвання грамадскіх зямель (тамсама, 458); недахопы ... **меліся** на гэтым участку дзейнасці (КБ, 27). У беларускай мове гэты дзеяслоў у зваротнай форме ўжываецца ў значаньні **адчуваць сябе** й выступае галоўна ў пытальнай форме пры прывітаньні: **як маешся?, як маецеся?** Другое значаньне — спадзяванага або плянаванага дзеяньня (мы **маемся** пайсьці, гэта **мелася** быць учора, і пад.). У значаньні, якое мае гэты дзеяслоў у прыведзеных прыкладах, ужываецца **быць.**

**некалькі — несколько:** Карціна **некалькі** павярхоўная (ЛіМ, 16. 5. 61); прабіваліся на гэты бераг ужо **некалькі** іншым ... спосабам (МЛ-ВД, I, 46); Натуральна, **некалькі** зменшыліся і заработкі (КБ, 42). У бел. мове **некалькі**



ужываецца вылучна у значаньні неазначальнага лічэбніка, а ня прыслоўя, як у прыведзеных прыкладах. У гэтым выпадку паблр. будзе **трохі, крыху.**

**пакуль — пока:** Між тым стварэнню дамовых кухань **пакуль** не ўдзяляецца належнай увагі (КБ, 63). У гэтым значаньні паблр. павінна быць **пакульшто.**

**узрост — возраст:** Па **ўзросту** Андрэй і сапраўды быў старэйшы (АК-РНД, 113); Максім Сцяпанавіч наагул чамусці лічыў патрэбным успамінаць і спасылацца са свой **узрост** (УК-ВЛ, VII, 1960, 33); у Палескім ваяводстве няпісменных ва **ўзросце** старэй 10 год было 70% (ГБССР, 335). Слова **ўзрост** у беларускай мове абазначае вышыню або прагрэс росту, а ў значаньні, якое слова гэтае мае ў прыведзеных прыкладах, ужываецца слова **век.**

Прыведзеныя вышэй тры катэгорыі русыцызмаў — адно невялічкая частка слоўных запазычаньняў з расейскае мовы, выбраных намі з абмежаванай колькасьці друкаваных тэкстаў, якія, на нашую думку, найбольш характэрныя й пашыраныя. Успомнены беларускі савецкі мовавед Крукоўскі ацэньвае, што адно толькі беспасярэднія запазычаньні з расейскае мовы, якія мы аднесьлі да першай катэгорыі словаў з рознымі ў вабедзьвюх мовах каранямі, становяць прыблізна 3-5% усяго слоўнага запасу сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў БССР.[46] Беларускі мовавед Я. Станкевіч, рэцэнзуючы ўспомнены «Расейска-беларускі слоўнік» Інстытуту Мовазнаўства Акадэміі Навук БССР, які налічвае каля 86.000 словаў, уважае, што «ў беларускай часьці слоўніка ўведзена ня меней дзьвюх трэйціх словаў расейскіх, адно перапісаных беларускім ды часта сапсаваным менаванаю «рэформаю» («рэформаю» 1933 году — С. С.) правапісам».[47] Як сказана ў прадмове да гэтага слоўніка, ён, «асабліва ў беларускай сваей часьці, ставіць сабе і заданьні нарматыўнага парадку», г. зн., што ён зьяўляецца абавязваючым для практычнага карыстаньня. Усё гэта сьветчыць, што працэс русыфікацыі беларускае мовы ў галіне слоўніцтва зайшоў ужо далёка.

Пры гэтым працэс гэты праводзіцца вельмі шыбка. Даючы вышэй пералік найбольш пашыраных у беларускай мове русыцызмаў у галіне лексыкі, мы абазначылі зоркамі тыя словы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове БССР, якіх яшчэ няма ў менаваным «Руска-беларускім слоўніку» 1953 году. Як чытач мог заўважыць, такіх словаў, абазначаных зоркамі, даволі ладная колькасьць, што ўсяго некалькі год перад надрукаваньнем тэкстаў, адкуль мы бралі пададзеныя прыклады, яшчэ ня былі ўведзеныя ў беларускую літаратурную мову.

Крукоўскі ўважае за беспасярэднія запазычаньні з расейскае мовы толькі тыя, словы што мы выдзелілі ў першую катэгорыю. Затое словы, выдзеленыя ў другую й трэйцюю катэгорыю, ён адносіць да пасярэдніх запазычаньняў ці г. зв. калькаваньня (гэтак называецца ў моваведзе працэс тварэньня словаў і выразаў у дадзенай мове паводля ўзору й тыпу словаў і выразаў іншае мовы) з расейскае мовы. У запраўднасьці, аднак, зь нязначнымі выняткамі, маем таксама й тут дачыненьне зь беспасярэднімі запа-

---

[46] Тамсама, б. 90.

[47] Я. Станкевіч. Русско-Белорусский словарь 1953 г. Рэц. «Беларускі Зборнік» Інстытуту Вывучэньня СССР, № 7, Мюнхэн, 1957, б. 165.

зычаньнямі, а толькі ў рэдкіх выпадках можа быць мова аб калькаваньні, працэс якога адбываўся-б унутры беларускай мовы. Гэты наш пагляд пацьвярджаюць дзьве важныя акалічнасьці. Папершае, зьяўляецца выключаным, каб на працягу такога кароткага часу, які нас дзеліць ад пачатку русыфікацыйнай кампаніі ў БССР, г. зн. на працягу ня болей, як трыццаць гадоў, маглі ўнутры самой беларускай мовы адбыцца такія вялікія зьмены ў кірунку ейнае русыфікацыі. Падругое, блізу ўсе запазычаньні з расейскае мовы, аднесеныя Крукоўскім да пасярэдніх запазычэньняў, маюць свае чыста беларускія адпаведнікі ў беларускай мове, якія або ўжываюцца й надалей паралельна з расейскімі запазычаньнямі, або ўжываліся ў беларускай мове перад русыфікацыйным працэсам, а толькі цяпер зь яе выкінутыя. Дык бадай як ува ўсіх трох групах словаў расейскага паходжаньня, гэтак і ў расейскіх граматычных формах, уведзеных у беларускую літаратурную мову на месца выціснутых зь яе формаў собскіх, маем справу зь беспасярэднімі й навет у бальшыні выпадкаў мэханічнымі запазычаньнямі, як вынікам плянава праводжанага русыфікацыйнага працэсу.

Для беларускае мовы найбольш небясьпечнымі зьяўляюцца ўводжаныя ў яе расейскія словы, якія мы выдзялілі ў другую й трэйцюю катэгорыю. Дзеля таго, што яны маюць карані, супольныя расейскай і беларускай мове, а пры гэтым карані для абедзьвюх моваў прадуктыўныя, дык неспэцыялістаму ў галіне мовы нялёгка заўважыць іхнага расейскага паходжаньня. Хіба толькі гэтым можна вытлумачыць дзіўную на першы пагляд зьяву, што знаходзім даволі шмат русыцызмаў у мове навет некаторых тых беларускіх савецкіх аўтараў, якія ў іншых выпадках выступаюць як шчырыя абароньнікі чысьціні беларускае мовы. Значыцца, русыцызмы трапляюць у іхную мову часта зусім нясьведама. Затое русыцызмы першае катэгорыі, карані якіх або зусім ня існуюць у беларускай мове, або зьяўляюцца непрадуктыўнымі ці мала прадуктыўнымі, лёгка ўспрыймаюцца, як чужыя для беларускай мовы.

Савецкі вучоны М. Каммары вызначыў агульныя прынцыпы, паводля якіх «падабенствы й адпаведнасьці ў мовах народаў СССР абумоўленыя ўплывам расейскае мовы». Гэтыя падабенствы й адпаведнасьці, паводля Каммары, выражаюцца, «папершае, у запазычаньні **спэцыфічных расейскіх і асабліва новых савецка-расейскіх выразаў** і ў калькаваньні іх; падругое, у засваеньні асноўнага фонду інтэрнацыянальнай лексыкі за пасярэдніцтвам расейскае мовы».[48] Іншыя савецкія моваведы І. Беладзед і А. Мельнічук вызначаюць расейскай мове ролю **«крыніцы ўдасканаленьня нацыянальных моваў».[49]** Усе беларускія савецкія моваведы аднагодна сьцьвярджаюць, што беларуская мова асабліва ў савецкі пэрыяд павялічыла свой слоўны запас шляхам запазычаньняў з расейскае мовы. І гэта таму, што, як піша М. Крукоўскі, «якімі-б шырокімі ні былі магчымасьці словаўтварэньня на базе ўласнага лексычнага матарыялу, яны усё-ж ня могуць поўнасьцю забясьпечыць задаваленьне імкліва растучых патрэб грамадзтва ў новых словах. Таму беларуская мова зьвяртаецца таксама за дапамогай да рускай мовы, запазычваючы зь яе неабходныя словы, якія

[48] Каммари. Тамсама, б. 72.

[49] И. К. Белодед, А. С. Мельничук. Вопросы развития национальных языков в период перехода от социализма к коммунизму. «Вопросы языкознания», № 5, Москва, 1959, б. 11.



па тых або іншых прычынах **ня могуць** быць утвораны на базе ўласных моўных сродкаў».[50] Пагляд Крукоўскага дапаўняе іншы беларускі савецкі мовавед Ф. Янкоўскі, цьвердзячы, што «запазычаньне зьяўляецца неабходнасьцю толькі тады, **калі ў мове няма адпаведнага слова».[51]** (Усюды падчыркнута намі — С. С.).

Адкладаючы на пазьней пытаньне словаў інтэрнацыянальнага паходжаньня, гэтта з асаблівым націскам трэба падчыркнуць, што толькі вельмі нязначная частка расейскіх запазычаньняў у сучаснай беларускай літаратурнай мове, як паказваюць прыведзеныя намі прыклады, можа быць абумоўленая вызначанымі савецкімі моваведамі прынцыпамі, якія пацьвярджалі-б, што расейскія запазычаньні прыйшлі ў беларускую мову, як «спэцыфічныя расейскія і асабліва новыя савецка-расейскія выразы», як «крыніца ўдасканаленьня» беларускай мовы, як «неабходныя словы, якія па тых або іншых прычынах ня могуць быць утвораныя на базе ўласных моўных сродкаў» ці калі ў беларускай мове «няма адпаведнага слова». У васнаўным-жа расейскія запазычаньні адбываюцца ў тых выпадках, калі, папершае, беларускія словы маюць зусім іншыя карані, чымся адпаведныя ім расейскія словы; падругое, калі беларускія й адпаведныя ім расейскія словы, хоць і маюць супольныя карані, але ўзаемна розьняцца сваей структурай, г. зн. этымалягічнай будовай; патрэйцяе, калі беларускія й расейскія словы, супольныя каранямі й этымалягічнай будовай, розьняцца між сабой сэмантычна. У трох успомненых выпадках беларускія словы, як розныя тымі або іншымі элемэнтамі ад расейскіх словаў, мэханічна выкідаюцца із слоўнага запасу беларускае мовы й гэтак-жа мэханічна замяняюцца чужымі ёй расейскімі словамі.

Пасьля ўсяго сказанага, не астаецца ніякае няпўнасьці ў пытаньні, якая канчальная мэта такой моўнай палітыкі Савецкага Саюзу. Гэтая мэта сфармуляваная ўжо ў словах вышэй цытаванага М. Крукоўскага: «Збліжэньне» беларукай з расейскай мовай «зайшло ўжо настолькі далёка, што пачынае ўтварацца пласт новых агульных слоў, якія зьяўляюцца пачаткам новага, будучага лексічнага адзінства».[52] Із зразумелых прычынаў Крукоўскі забыўся дадаць, што гэтае «будучае лексычнае адзінства» дасягаецца вылучна на базе аднэй расейскай мовы, а не ўзаемных уплываў усіх моваў Савецкага Саюзу, бо ў практыцы толькі нерасейскія мовы змушаныя «разьвівацца», «удасканальвацца» й «узбагачвацца» на базе мовы «вялікага рускага народу». Затое расейская мова мае ўсе ўмовы свабоднага й натуральнага разьвіцьця й практычна разьвіваецца безь якіх-небудзь «узбагачэньняў» з боку нерасейскіх моваў.

Неазнаёмленым з усімі аспэктамі палітычных умоваў у Савецкім Саюзе можа выдацца вельмі дзіўным і незразумелым, што ня толькі партыйныя асьветчаньні, але й савецкія спэцыялістыя ў галіне моваведы аднагодна інтэрпрэтуюць факт яўнай русыфікацыі беларускае мовы, як працэс для яе натуральны й навет карысны. Гэтак ужо цытаваны кандыдат філялягічных навук А. Аксамітаў, пасьля прыведзеных ім аргумэнтаў у вабароне апрычонасьці й чысьціні беларускае мовы, неўспадзеўкі прыходзіць да

[50] М. І. Крукоўскі. У кнізе «Фармаваньне і разьвіцьцё беларускай сацыялістычнай нацыі», б. 122.

[51] «Літаратура і Мастацтва», № 38, 11. 5. 1957.

[52] Н. І. Крукоўскі. Рускі лексічны ўплыў, б. 163.

супярэчнага із сваімі разважаньнямі выснаву: «У сучасны момант беларуская мова разьвіваецца па шляху няўхільнага зьбліжэньня зь вялікай рускай мовай. Але ў гэтым працэсе было-б памылкова бачыць заняпад беларускай мовы, бо якраз тут адлюстроўваецца найбольш поўнае й інтэнсыўнае яе разьвіцьцё».[53] Яшчэ перад Аксамітавам амаль тымі-ж словамі цьвердзіў і Крукоўскі, што працэс зьбліжэньня беларускай мовы зь «вялікай рускай мовай» адбываецца «не як вынік дэградацыі, заняпаду беларускай мовы, а, наадварот, як вынік найбольш поўнага і інтэнсыўнага разьвіцьця яе».[54] Ані Аксамітаў, ані Крукоўскі, хіба-ж, і самі ня вераць у тое, што гавораць, а разглядаюць свае выказваньні, як няўхільную даніну камуністычнай дыялектыцы.

## МОВА МАСТАЦКАЕ ЛІТАРАТУРЫ

Як было ўжо няраз адцемлена, сьведамы супраціў русыфікацыі беларускае мовы ў БССР наважана й сыстэматычна праводзяць беларускія паэты й пісьменьнікі пры выдатным падтрыманьні настаўніцтва й студэнцтва. Гэты супраціў асабліва стаўся выразным і адкрытым, пачынаючы з 1956-57 г. г., калі ў сувязі з пасьлясталінскай «адлегай» і асуджэньнем г. зв. «культу асобы» Сталіна настала некаторае злагаджэньне палітычнага курсу.

Калі прыраўнаваць абавязваючую ў БССР афіцыйную літаратурную мову — мову навуковае, палітычнае, тэхнічнае й прапагандавае літаратуры, у тым ліку й мову рэспубліканскага пэрыядычнага друку — да мовы мастацкае літаратуры, дык апошняя, хоць такама засьмечаная русыцызмамі, усё-ж нагэтульк розьніцца ад першай з гледзішча на сваю рэлятыўную чысьціню, што можна гаварыць аб ёй, як мове да некаторай меры асобнай і ад першай у ладнай ступені рознай. Аналізуючы мову мастацкай літаратуры, ня цяжка заўважыць, як яна бароніцца перад накіданымі беларускай мове русыцызмамі і ўжывае іх у васноўным у тых выпадках, калі гэтыя русыцызмы сталіся ўжо агульна прынятымі, здабылі поўнае права грамадзянства й зусім выціснулі адпаведныя ім беларускія граматычныя формы й словы. Гэтак, апрача русыцызмаў, накінутых моўнай рэформай 1933 году, у мове мастацкай літаратуры ўжо поўнасьцяй укараніліся такія русыцызмы, як, прыкладам, форма роднага склону множ. ліку назоўнікаў жаноцкага роду няпрыемнасц**ей**, магчымасц**ей**, бесканчатковыя формы дзеяпрыметнікаў назоўнага склону адз. ліку **падбіт, зроблен, узят**, дзеяпрыметнікі цяперашняга часу залежнага стану **любімы, ствараемы,** а такжа сынтаксычныя формы дапаўненьня ў вінавальным склоне, заміж роднага склону, калі дзеясловы, што імі кіруюць, ужытыя з адмоеўем. З русыцызмаў у галіне лексыкі ўвайшлі поўнасьцяй у мову мастацкае літаратуры, прыкладам, такія словы, як **ачаг, аплот, знешні, доблесны, лікаванне, подзвіг, іспыты, рабяты, урок, існіна, накапленне, рэўнасць, сачыненне, скажаць, урач, хадайніцтва, член, чарціць, абавязацельства, аб'ява, ва, воінскі, злабадзённы, беззаветны, шэсце, узрост** (зам. век) і г. д., якія ўжо ад даўжэйшага часу агульна замацаваліся ў савецкай беларускай літаратурнай мове, а некаторыя зь іх выконваюць ролю адмысловых тэрмінаў.

[53] А. Аксамітаў, тамсама, б. 140.
[54] Н. І. Крукоўскі. Рускі лексічны ўплыў, б. 163.



Затое мова мастацкае літаратуры зусім яшчэ ня знае чужых для беларускай мовы формаў дзеяпрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага стану зваротных дзеясловаў (пачаўшыйся, адбыўшыйся), якія ў афіцыйнай літаратурнай мове бытуюць, як-бы для яе былі нармальнымі. З расейскіх словаў, ужываных у афіцыйнай літаратурнай мове, мова мастацкае літаратуры зусім ня знае такіх русыцызмаў, як **дзяшовы, састаў, здзелка, каварны, мяцеж, пахаць, адстаяць, змяняемасць, неймаверны, пазбягаць, плацёж, прадстаць, цэласнасць, сукупнасць** і да г. п.

На канкрэтных прыкладах зь беларускага савецкага друку можна дакладна прасачыць і самы працэс русыфікацыі. Звычайна спачатку паяўляецца дадзенае расейскае слова ў афіцыйнай літаратурнай мове, прычым спарадычна й рэдка ды выступае паралельна з адпаведным яму словам беларускім. Гэтак ад некалькіх ужо год паралельна з агульна пашыраным у беларускай мове словам **танны,** пачало спарадычна паяўляцца й чыста расейскае слова **дзяшовы,** якое, аднак, яшчэ зусім ня мае доступу да мовы мастацкае літаратуры. У якім кірунку будзе разьвівацца працэс пранікання ў беларускую мову гэтага слова, можна меркаваць з прыкладаў такіх русыцызмаў, як **папрок** або **поезд.** У афіцыйнай літаратурнай мове **папрок** і **поезд** ужываюцца сяньня паралельна з адпаведнымі ім беларускімі словамі **дакор** і **цягнік,** але расейскія адпаведнікі колькасна пераважаюць над беларускімі, і, наадварот, у мове мастацкай літаратуры словы **дакор** і **цягнік** спатыкаюцца шмат часьцей, чымся **папрок** і **поезд.** Значыцца, працэс разьвіваецца ў кірунку русыфікацыйным, а не адваротным яму.

На карысьць беларускасьці мовы мастацкае літаратуры прамаўляе й тая характэрная зьява, што прынятыя ўжо ёю русыцызмы ў колькасных дачыненьнях выступаюць шмат радзей, чымся ў афіцыйнай літаратурнай мове. Ствараецца таму ўражаньне, што дадзенае расейскае слова або форма становіць сьведамую даніну агульна абавязваючаму кірунку, а не агульную тэндэнцыю пісьменьніка, тымчасам як у афіцыйнай літаратурнай мове заўважваецца выразная тэндэнцыя адваротнага характару.

Ёсьць канкрэтныя довады, як паасобныя пісьменьнікі ў працэсе перарэдагоўваньня сваіх мастацкіх твораў ачышчаюць іх ад допушчаных спачатна русыцызмаў. У БССР, як і ў іншых саюзных рэспубліках, вельмі пашыраная практыка, што паасобныя літаратурныя творы, у тым ліку й шматтомныя раманы, спачатку друкуюцца ў месячных літаратурных часапісах, а пазьней выходзяць асобнымі кніжнымі выданьнямі. Пры гэтым кніжныя выданьні часта тэксталягічна значна розьняцца ад іхных першадрукаў у часапісах, бо некаторыя аўтары ўводзяць тыя або іншыя зьмены й папраўкі ў кніжным выданьні, у тым ліку і ў галіне мовы. Звычайна бывае так, што шмат якія русыцызмы, уведзеныя аўтарам у тэкст твору першае рэдакцыі, бываюць выкінутыя з тэксту апошняе рыдакцыі й замененыя адпаведнымі ім паводля значаньня беларускімі словамі й формамі. Такія розьніцы ў галіне мовы мы прасачылі на прыкладах 3-га і 4-га тому раману М. Лынькова «Векапомныя дні», раману У. Карпава «За годам год» і раману І. Шамякіна «Крыніцы». Вынікі нашых параўнаньняў абедзьвюх рэдакцыяў былі нязвычайныя. Вось некаторыя зь іх:

## М. Лынькоў «Векапомныя дні»

| «Полымя» | Кніжнае выданьне |
|---|---|
| Пасцябунчык — **страстны** патрыёт свае бухгальтарскае справы (1957, IX, 37) | Пасцябунчык — **заядлы** патрыёт свае бухгальтарскае справы (III, 305). |
| У партыі **састаялі?** (1957, IX, 66). | У партыі **былі?** (III, 362). |
| Ты ж не глядзі, што я такая баязлівіца і **смірэнніца** (1957, X, 29). | Ты ж не глядзі, што я такая баязлівіца і **паслушніца** (III, 425). |
| выказаў пажаданне **прыўрочыць** аперацыю да прыезду (1957, X, 33). | выказаў пажаданне, каб усю аперацыю **дапасаваць** да прыезду (III, 432). |
| слаба **замаскіраваныя** (1957, X, 34). | слаба замаскаваныя (III, 433). |
| Вялі на **сворках** дзесятак аўчарак (1957, X, 39). | вялі на **павадках** дзесятак аўчарак (III, 443). |
| У кожнага свая **страсць,** генерал (1957, X, 41). | У кожнага свая **слабасць,** генерал (III, 448). |
| Стаяла некалькі пушак, якія сваімі памерамі і сваім выглядам **унушалі** павагу (1957, XI, 105). | Стаяла некалькі пушак, якія сваімі памерамі і сваім выглядам **выклікалі** да сябе павагу (IV, 101). |
| **страстнае** жаданне дапамагчы ёй (1957, XI, 11). | **гарачае** жаданне... памагчы ёй (IV, 237). |
| не бачаць агоніі тых, хто **падвяргаецца** экзекуцыі (1957, XII, 19). | не бачаць агоніі тых, хто **падпадае** пад экзекуцыю (IV, 261). |
| на **жывапісным** узгорку (1957, XII, 39). | на **маляўнічым** узгорку (IV, 316). |
| Не згубілі, а **садысцкі** замучылі (1957, XII, 11). | Не згубілі, а **па-садысцку** замучылі (IV, 238). |
| **ажаніўся на** семнаццаці гадовай дзяўчыне (1957, XII, 66). | **ажаніўся** з семнаццаці гадовай **дзяўчынай** (IV, 384). |

## У. Карпаў «За годам год»

| | |
|---|---|
| Усе глядзелі на Васіля Пятровіча **з недаўменнем** (155, II, 16). | Усе глядзелі на Васіля Пятровіча **няўцямна** (158). |
| У кожным з іх ён як бы пачынаў бачыць **праванарушыцеля** (1955, II, 16). | У кажным з іх ён як бы пачынаў бачыць **праванарушальніка** (169). |
| І баючыся, што народжанаму ў яго марах гораду могуць **нанесці ўрон недальнавідныя людзі** (1955, II, 16). | І баючыся, што народжанаму ў яго марах гораду могуць **пашкодзіць... недалёкія** людзі (169). |
| У яе **ссутуленай** постаці, у нейкай пакорнай **паходцы** было штосці **манашаскае** (1955, II, 27). | У яе **згорбленай** постаці, у нейкай пакорнай **хадзе** было штосці ад **манашкі** (187). |
| Валя ўсё ж палічыла за лепшае спыніцца, **апасаючыся,** што іх могуць убачыць (1955, II, 49). | Валя ўсё ж палічыла за лепшае спыніцца, **баючыся,** што іх могуць убачыць (226). |
| Але справа **абстаяла** крыху працей (1956, VI, 90). | Але справа **стаяла** крыху працей (448). |
| Потым прымусіла сябе сесці цыраваць шкарпэткі... якіх **накапіўся** цэлы **звязак** (1956, V, 91). | Потым прымусіла сябе сесці цыраваць шкарпэткі... якіх **набраўся** цэлы **жмут** (450). |
| Перад ім стаяла дзяўчына, якую ён **абажаў** (1956, VII, 36). | Перад ім стаяла дзяўчына, якую ён **кахаў** (527). |
| людзі ўсё роўна праходзілі б пад ёй (пад аркай), ня стукаючыся аб **своды** галовамі (1957, VII, 40). | людзі ўсё роўна праходзілі б пад ёй, ня стукаючыся аб **скляпеньне** галовамі (535). |
| яны на прыватнай кватэры, за якую **плоцяць** гаспадарам (1957, VII, 68). | яны на прыватнай кватэры, за якую **плацяць** гаспадарам (583). |

## І. Шамякін «Крыніцы»

| | |
|---|---|
| запасная (шпулька з вудзільна) ў мяне ёсць, усё іншае таксама **маецца** (1956, IV, 75). | запасная ў мяне ёсць, усё іншае таксама **знойдзецца** (119). |
| Адчапіся ты, Кацька, ад мяне, — **бясстрастна** і абыякава сказала яна (1956, IV, 101). | Адчапіся ты, Кацька, ад мяне, — **абыякава** сказала яна (164). |
| Школу я кончу, не хвалюйцеся, — ціха і **прымірыцельна** сказаў ён (1956, V, 45). | Школу я кончу, не хвалюйцеся, — ціха і **прымірэнча** сказаў ён (267). |

З прычыны агульных русыфікацыйных тэндэнцыяў, накіданых зьверху, канечнасьці высьцераганьня «вузкіх правінцыяналізмаў» «архаізмаў» ды «штучна твораных нэалягізмаў», а з другога боку — з прычыны канечнасьці «ўзбагачваньня» мовы «зь нявычэрпных крыніцаў мовы вялікага рускага народу», беларускія паэты й пісьменьнікі вельмі абмежаваныя ў сваіх магчымасьцях нармальнага ўзбагачваньня й разьвіцьця сваей мовы на базе народнай мовы й дыфэрэнцыяваньня яе рознымі сэмантычнымі адценьнямі. Таму мова сучаснай беларускай савецкай літаратуры — гэта наагул мова бедная й бясхварбная. Зусім правільна пісаў аб гэтай зьяве беларускі літаратурны крытык у вольным сьвеце Алесь Беразьняк:

> Лепшыя ды багатыя здабыткамі яшчэ нядаўна традыцыі беларускае літаратуры ў ейнай арыентацыі на ўзоры народнае мовы, на ейныя нацыянальныя асаблівасьці, на культуру й нацыянальную чысьціню літаратурнае мовы сяньня ў БССР мусова занядбаныя. Аснова разьвіцьця нацыянальнае літаратурнае мовы — мова народная ў сваёй першароднай някранутасьці чужароднымі ўплывамі абвяшчаецца аджылым і незразумелым правінцыялізмам. Да ўсяго гэтага прывяла нязьменная праз увесь час антынацыянальная палітыка бальшавікоў нівэляваньня беларускае літаратурнае мовы на расейскі ўзор, што разам з выгнаньнем зь беларускае літаратуры нацыянальнае праблематыкі пасьлядоўна й пэўна ські-

роўвае яе ў правінцыянальнае адгалінаваньне літаратуры расейскай.[55]

Усё-ж, ня гледзячы на вышэй прыведзенае сьцьверджаньне А. Беразьняка, сьцьверджаньне зусім правільнае, трэба аб'ектыўна адцеміць, што мова беларускае літаратуры ў тых межах, якія для яе магчымыя, дадатна вырозьніваецца ад афіцыйнай беларускай савецкай літаратурнай мовы ня толькі значна меншай колькасьцяй русыцызмаў, але й некаторымі, хоць і вельмі нясьмелымі спробамі не адрываецца ад мовы народнае. У мове мастацкае літаратуры часта-густа знаходзім ня толькі агульна пашыраныя ў народнай мове словы й выражэньні, ужо зусім няўжываныя ў афіцыйнай беларускай літаратурнай мове БССР, як моцна адрозныя ад адпаведных расейскіх словаў, але часамі й такія, якія зьяўляюцца ведамымі адно ў некаторых частках беларускае моўнае прасторы. Вось жменька прыкладаў на гэтую зьяву:

Яна **бегма** кінулася ў хату (МЛ-ВД, І, 104). Чыста народнае слова, якому ў рас. мове адпавядае **бегом.**

Яна ціхенька падышла і з павагаю, нават з нейкай **бояззю** паглядзела на сынавы дакументы (ПБ-КЗР, 3). **Боязь** — слова пашыранае і ў літаратурнай мове перад русыфікацыйнай кампаніяй.

Лёдзю нібы **выцялі** чым (УК-ВЛ, VII, 1960, 24); Андрэй з размаху **выцяў** (АК-РНД, 86). Першы вячэрні жук **вытнуўся** аб шыбіну акна (МЛ-ВД, І, 92). **Выцяць** — сынанім слова **ўдарыць,** які ў афіцыйнай літаратурнай мове сяньня ня ўжываецца.

**Ёсьцека,** — ... адказаў дзед Грыша (МП-ЗП, III, 1956, 25). Афіцыйная літаратурная мова ня вызнае ўзмацняльнай часьціцы **-ка** ў такіх словах, як **ёсьцека, нямашака, тамака, вуньдзека** й пад.

Немцы, па-вар'яцку пручыся наперад, не надта **зырыліся** на прасёлкавыя дарогі (АК-РНД, 187). **зырыцца** — сынонім слова **заглядацца,** а ў форме абвеснага ладу ў значаньні **ўціхамірыць, пастрашыць,** шырака ведамае ў народзе, але зусім ня ўжыванае ў афіцыйнай савецкай літаратурнай мове.

**Кустаўё** ўсюды, нізіна, то там, то сям ля кустоў паблісквалюць зоркі (АК-РНД, 99). Ведамая ў народзе, але няўжываная ў афіцыйнай савецкай літаратурнай мове зборная форма ад слова **куст.**

а тут вось ідзі **насупраць ночы** (МЛ-ВД, ІІ, 24). Выраз **насупраць ночы** ў значаньні **перад ночай, на спатканьне ночы** — тыповы для беларускае мовы, але няўжываны ў афіцыйнай савецкай беларускай літаратурнай мове.

адшукаў садоўніка дзеда Грышу, чалавека ўжо сівога і **нягеглага** (МП-ЗП, III, 1956, 25). Слова **нягеглы,** сынанім да **недалужлы, зьнясілены,** у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове ня ўжываецца.

Не гледзячы на сваю **нямогласць,** Адам Лабеня ня вытрываў і вышаў на працу (МП-ЗП, XII, 1959, 49). Слова **нямогласьць** у значаньні **нездаровасьць, хворасьць,** у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове зусім ня ўжываецца.

Дзве пары ног захадзілі ў **неўрымслівым** рытме (МЛ-ВД, III, 14). Гэтае, пашыранае ў народзе, слова ў значаньні **неспакойны, няўпынны,** у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове зусім ня ўжываецца.

---

[55] Алесь Беразьняк. Убітым шляхам сацыялістычнага рэалізму. «Беларускі Зборнік» Інстытуту Вывучэньня СССР, № 7, Мюнхэн, 1957, б. 36.



На шашы рабілася **несусвеціца.** Усю дарогу зацягнула дымам (МЛ-ВД, І, 85). Чыста беларускае народнае слова, якое ў афіцыйнай савецкай літаратурнай мове ня ўжываецца.

ён адразу на **нішчымніцу** мяне пераводзіў (МЛ-ВД, І, 82). Гэтае тыпова народнае слова, утворанае з выразу **ні з чым,** абазначае посную ежу, ня ўжываецца ў афіцыйнай савецкай літаратурнай мове.

А вунь там, каля тае студні, **пазалетась** дзед Ахрэм паслізнуўся і зламаў нагу (МП-ЗП, III, 1956, 60). **Пазалетась,** падобна як і **летась, сёлета,** у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове зусім ня ўжываецца.

да таго нылі ногі, збітыя аб **пнеўе** (МЛ-ВД, І, 26). Зборная форма **пнеўе,** бытуючая ў народзе, у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове зусім ня ўжываецца. Заміж яе ўжываецца форма множнага ліку **пні.**

Пэўна, і прыгавор, які выносіць яму пасля смерці народны **погалас,** — самы справядлівы прыгавор (УК-ВЛ, IX, 1960, 107). **Погалас,** у значаньні расейскага **молва,** у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове ня ўжываецца.

Вялікі клопат мне **праз** гэтыя плыты... Я **праз** гэтыя плыты ноч не спаў (МЛ-ВД, І, 98). У афіцыйнай савецкай літаратурнай мове звычайна ўжываецца ў гэтым выпадку пад расейскім уплывам другі прыназоўнік — **з-за.**

Дык я ж цябе **просам прашу,** чалавеча (МЛ-ВД, III, 334). Чыста народны выраз у значаньні **вельмі, настойліва прасіць.**

Стралялі відаць больш **для прыліку** (МЛ-ВД, ІІ, 30). У афіцыйнай літаратурнай мове ў гэтым значаньні ўжываецца выраз **для віду,** запазычаны з расейскае мовы.

лечачыся ад **раматусу.** Дужа той **раматус**назаляў часам чалавеку (МЛ-ВД, І, 8). У афіцыйнай літаратурнай мове, паводля прынцыпу, што ўсе словы іншамоўнага паходжаньня павінны запазычвацца толькі за пасярэдніцтвам расейскае мовы й захоўваць ейныя формы, ужываецца толькі **рэўматызм.** Характэрна, што беларуская форма **раматус** у прыведзеным прыкладзе з Лынькова выступае ня ў гутарцы сялянскага гэроя твору, што не магло-б яшчэ быць дзіўным, але ў мове самога аўтара.

у пустую апоку на стале яе машыны **рынулася** чорная зярністая зямля (УК-ВЛ, VII, 1960, 25). Гэтае народнае слова ў значаньні **кінуцца, зваліцца,** у афіцыйнай літаратурнай мове ня ўжываецца.

Пакуль... гаспадар **свежаваў** зайца, яны пачалі размову з Алёшам (ІШ-Кр, 265). **Сьвежаваць** — чыста беларускае слова ў значаньні **разьбіраць** сьвежа забітую жывёліну.

Быў той слаўны вечар..., калі нават ноччу не адчуваеш яшчэ восеньскай **стыні** (МЛ-ВД, IV, 363). **Стынь,** у значаньні **лёгкі холад,** у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове ня ўжываецца.

Нельга сказаць, каб такая **схованъ** (зямлянка ў лесе — С. С.) падабалася Клышэўскаму (ПБ-КЗР, 127). Беларускае народнае слова, якое ў афіцыйнай савецкай літаратурнай мове ня ўжываецца.

На рынак, кажа, **таечка,** ездзіла (УК-ВЛ, VIII, 1960, 66). Асабісты зварот, пашыраны ў Магілеўшчыне й былой Чарнігаўшчыне.

Ложкі іх былі ссунуты **ўпрытык** (УК-ВЛ, VII, 1960, 56); Цімка прысунуўся да Юркі **ўпрытык** (тамсама, 43). Народны выраз ад тае-ж асновы й таго-ж значаньня, што і ў дзеясловах **прытыкацца.**

Ваня Труцікаў не вытрымаў, пайшоў на **хацішча**, пачаў разграбаць рукамі снег (АК-РНД, 385). **Хацішча** — чыста народнае слова, якое абазначае месца, дзе раней стаяла хата.

яшчэ пакажам, пачым **хунт** ліха (МЛ-ВД, I, 119). Згодна з абавязваючым прынцыпам, што іншамоўныя словы могуць прыходзіць у беларускую мову толькі за пасярэдніцтвам расейскае мовы, у афіцыйнай савецкай беларускай мове ўжываецца **фунт.**

**Цёмначы,** пратаптанымі Ладуцькам сцежкамі, яны без асаблівых перашкод дабраліся да кватэры Еўдакіі (АК-РНД, 344). **Цёмначы** — народны выраз у значаньні **папоцемку.**

Аднойчы паспытаў ужо ласкі **ягонай** (УК-ВЛ, VII, 1960, 19). Прыналежныя займеньнікі **яго, яе, іх** маюць у беларускай мове яшчэ й прыметнікавую форму **ягоны, ейны, іхны,** у якой у афіцыйнай савецкай літаратурнай мове ня ўжываюцца.

і яшчэ адна сям'я, каторая **не выехаўшы,** — абласнога пракурора жонка і трое дзетак (МЛ-ВД, I, 102). Тут маем вельмі характэрную асаблівасьць беларускае мовы — прошлы час абвеснага ладу ў форме «пэрфэкту» падобна да нямецкае, ангельскае ды іншых моваў. Зразумела, што гэтая чыста беларуская форма ня можа ўжывацца ў афіцыйнай савецкай літаратурнай мове.

Беларускі савецкі аўтар В. Красоўскі, прыводзячы многія прыклады заганных перакладаў, робленых з расейскай на беларускую мову ў рэспубліканскіх беларускіх газэтах і ў БЕЛТА, паказвае й асноўную прычыну гэтае заганнасьці. «Гэта адбываецца таму, — піша ён, — што да перакладу ня ўсюды падыходзяць творча — часта робяць так, каб, скажам, пяці словам рускага тэксту абавязкова адпавядалі пяць слоў тэксту беларускага».[56] Гэтая вельмі трапная спасьцярога Красоўскага можа быць з поўным правам аднесеная да ўсяе афіцыйнае літаратурнае мовы БССР, як у перакладных тэкстах з расейскае мовы, гэтаксама і ў тэкстах арыгінальных. Затое да мовы мастацкае літаратуры, навет пры ейных русыцызмах, ейнай ненатуральнай убогасьці й вялікім адрыве ад мовы народнай, гэтай заўвагі Красоўскага прытарнаваць было-б нельга.

## ПІСЬМЕНЬНІКІ Ў ВАБАРОНЕ МОВЫ

Роля беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў у захаваньні беларускай мовы й ейнай абароне перад русыфікацыяй у савецкіх абставінах асабліва вялікая. Бадай яны адныя з поўным зразуменьнем важнасьці гэтага пытаньня робяць сыстэматычныя натугі ў гэтым кірунку, стараючыся пісаць як мага чыстай беларускай мовай у межах, што яшчэ магчымыя ў сяньняшніх абставінах. З другога боку, зь пісьменьніцкага асяродзьдзя ўсьцяж выходзіць ініцыятыва ставіць на беспасярэдняе абмеркаваньне пытаньне чысьціні мовы, ейнае культуры й ейнага павароту да народных моўных крыніцаў. У многіх артыкулах, адумыслова прысьвечаных пытаньням мовы, у выступленьнях на пісьменьніцкіх зьездах, пісьменьніцкіх і культурных зборках дзеячы мастацкае літаратуры, а за імі й наагул працаўнікі культуры,

[56] В. Красоўскі. Аб мове газет. «Літаратура і Мастацтва», № 40, 18. 5. 1957.



пачынаючы ад 1956 г., вядуць бесьперапынную акцыю ў вабароне роднае мовы. Выходзячы з правільнага сфармуляваньня беларускага савецкага філялёга Ф. Янкоўскага, што «абыякавасьць да мовы — абыякавасьць да народу й яго культуры»,[57] пытаньне мовы ў гэтай кампаніі расшыраецца на ўсе дзялянкі беларускае культуры й набывае сэнсу, раўназначнага з сэнсам пытаньня быцьця або нябыцьця беларускае культуры.

У першым разьдзеле гэтае працы мы паклікаліся на артыкул маладога беларускага пісьменьніка Барыса Сачанкі, які галоўна паказаў на ненармальнае звужэньне практычнага ўжываньня беларускае мовы ў публічным жыцьці рэспублікі, у першую чаргу ў школьніцтве й на выцісканьне яе расейскай мовай. Гэтта спынімся на выступленьнях іншых пісьменьнікаў і наагул працаўнікоў пяра, якія асноўную ўвагу засяроджваюць на іншых аспэктах гэтага пытаньня: на абароне перад русыфікацыяй тэй беларускай літаратурнай мовы, якая яшчэ дапушчаная да публічнага ўжываньня, і на зьбліжэньні яе з мовай народнай, як галоўнай крыніцай і базай разьвіцьця мовы літаратурнай.

У поўнай шырыні паставіў гэтае пытаньне й фактычна распачаў моўную дыскусію рэгабілітаваны ў 1956 годзе пісьменьнік Янка Скрыган, а ягоны артыкул пад сьціплым загалоўкам «Думкі аб мове» стаўся выходным пунктам для многіх спасьцярогаў і пажаданьняў іншых удзельнікаў гэтае дыскусіі. Асноўны стрыжэнь разважаньняў Скрыгана зьмяшчаецца ў наступных словах:

> Ведаць мову — знача ведаць законы яе будаваньня, ведаць яе народную аснову. Бо толькі ведаючы народную аснову мовы, можна ведаць, як правільна і проста выказаць думку, як натуральна, паводля законаў гэтай мовы, пабудаваць фразу, дзе якое сказаць слова, патрэбнае іменна для гэтага месца, дзе зрабіць націск, дзе і як вымавіць галосныя, зычныя, цьвёрдыя, мяккія, уласьцівыя гучанню гэтае мовы. Ведаць мову — гэта ў першую чаргу ведаць, як гаворыць народ.[58]

«Ведаць, як гаворыць народ», і, зразумела, фармаваць сваю мову на базе мовы народнае — гэта галоўнае патрабаваньне, якое ставіцца перад беларускімі пісьменьнікамі і ўсімі тымі працаўнікамі культуры й мастацтва, сяродкам выказваньня якіх ёсьць слова. Далей Скрыган перасьцерагае перад тэй небясьпекай, якая станецца няўхільнай, калі творчыя працаўнікі культуры будуць аддаляцца ад мовы народнай, і, зварачаючыся пад іхным адрысам, кідае войстры дакор:

> Мы зарана адрываемся ад народнага творчага асяродзьдзя і, ня ўсьпеўшы прычасьціцца яго народнаму багацьцю, адразу пападаем на работу ў кабінэт. Праз сьцены кабінэту да нас ужо вельмі трудна даходзіць і бляск народнай думкі, і гнуткасьць фразы, і стройная прастата мовы, і трапнасьць прыказкі, і мудрасьць нагляданьня. Усё гэта мы ўжо чэрпаем з газэт ды з чужых кніг. Ад гэтага часта і нашая сухасьць, і бледнасьць, і канцылярызм, і аднастайнасьць.[59]

Выказаныя Скрыганам думкі хутка падхапіў беларускі савецкі літаратурны крытык Алесь Адамовіч. Паказаўшы на адрыў пісьменьніка Івана

[57] Ф. Янкоўскі. Абыякавасьць да роднага слова. «Літаратура і Мастацтва», № 38, 11. 5. 1957.
[58] Я. Скрыган. Думкі аб мове. Тамсама.
[59] Тамсама.

Шамякіна ад народнай мовы ды адцеміўшы, што пісьменьнікі 20-30-ых гадоў «лічылі сваім важнейшым абавязкам сачыць, каб беларуская літаратурная мова вырастала на аснове ўсіх багацьцяў народнай мовы», Ал. Адамовіч выказвае гэткія пажаданьні для сучаснае літаратурнае мовы:

> Літаратурная беларуская мова за апошнія дзесяцігодзьдзі стала больш нармалізаванай, узбагацілася лексычна. І тое, што літаратурная, «кніжная» мова стала больш адрозьнівацца ад гутаркавай — зусім заканамерна. Але гэта не азначае, што нармалізаваная літаратурная мова павінна быць пазбаўленая бытавых, народных і навет мясцовых хварбаў, што яна можа нагадваць «перакладную» мову. Дыстыляваная вада хоць і чыстая, але мала прыемная на смак.[60]

Як ужо гаварылася, у сілу русыфікацыйнага працэсу зь беларускай літаратурнай мовы сяньня выкідваюцца й заменьваюцца расейскімі ўсе тыя словы, якія сваім коранем або славатворнай будовай розьняцца ад адпаведных словаў расейскае мовы. Гэткая практыка абгрунтоўваецца патрэбай ачышчэньня літаратурнай мовы ад «вузкіх дыялектызмаў» або «правінцыяналізмаў». Вось-жа Ал. Адамовіч выразна бярэ ў вабарону такія «дыялектызмы». «І ня трэба нам занадта баяцца слова «дыялектызм», — піша ён — раней неабходна прыслухацца, як слова гучыць, удумацца, на колькі яно трапнае і зразумелае. У любым, самым маленькім «засеку» жывой народнай мовы можна часам знайсьці буйныя зярняты народнай мудрасьці й дасьціпнасьці».[61]

Пытаньне беларускай мовы стаяла ў цэнтры ўвагі на сходзе актыву работнікаў літаратуры й мастацтва БССР, які адбыўся на пярэдадні 40-ой гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Спасярод многіх выступленьняў у вабароне роднае мовы й ейнае народнасьці на асаблівую заслугоўвала ўвагу выступленьне паэты Максіма Лужаніна. Ніжэй прыводзім найбольш характэрныя ягоныя словы:

> Далейшае разьвіцьцё нашай культуры самым цесным чынам зьвязана з разьвіцьцём і пашырэньнем беларускай мовы. Нажаль, некаторыя нашы таварышы па творчай рабоце, мастакі, артысты, кампазытары, людзі, чыё ўсё жыцьцё зьвязана зь беларускай культурай, вельмі часта ня ўжываюць мову народу. А ці можна стварыць нацыянальную культуру, не валодаючы ў дасканаласьці мовай народу?
>
> Гэтым самым людзі закрываюць сабе дарогу да народнай душы, да духоўных здабыткаў народу. Хочацца, каб мова чулася ня толькі ў творчых арганізацыях, але і ў установах, школах сярэдняй і вышэйшай, каб яна была і на папяроснай каробцы, і на трактары, і на станку. Гэта дасьць магчымасьць для разьвіцьця мовы, паспрыяе і прапагандзе беларускай кнігі.[62]

Знаёмячы чытача з важнейшым матарыялам моўнае дыскусіі ў пісьменьніцкім асяродзьдзі БССР, нельга прайсьці міма цікавых і ўва ўсей шырыні пастаўленых заўвагаў Е. Ермаловіча аб г. зв. «дыялектызмах», пад якія, як ужо ўспаміналася, падцягваюцца адменныя ад расейскай мовы

[60] А. Адамовіч. Багацце творчых індывідуальнасцяў. «Літаратура і Мастацтва», № 21, 13. 3. 1957.
[61] Тамсама.
[62] «Літаратура і Мастацтва», № 88, 2. 11. 1957.



словы й формы і, як такія, мэханічна выкідаюцца з ужываньня. Ермаловіч піша:

> Нераспрацаванасьць літаратурных нормаў часта прыводзіць да таго, што ў нас часамі лічаць дыялектызмамі такія словы, якія ніколі ня былі імі і ня могуць быць навет з пункту погляду самых элемэнтарных патрабаваньняў лінгвістыкі...
>
> Дзе шукаць мяжу паміж дыялектызмамі й літаратурнай мовай? Такой абсалютнай мяжы, бадай, і быць ня можа. Але калі слова мае беларускі ці агульнаславянскі корань, бытуе ў народзе, калі народ яго разумее ці навет зможа зразумець па самой прыродзе кораня, ня трэба нашым крытыкам, рэдактарам прыдзірліва адносіцца да яго. Гэта значна ўзбагаціць і пашырыць нашу лексыку, якая ў ніякім разе не абмяжоўваецца слоўнікам у восемдзесят тысяч слоў (алюзія да «Руска-беларускага слоўніка» з 1953 г. — С. С.), а разы ў два, а можа і ў тры багацейшая.[63]

Пытаньням культуры мовы, ейнай чысьціні й народнасьці шмат прысьвяціў увагі савецкі беларускі літаратурны крытык Уладзімер Юрэвіч. Спасярод многіх фактараў, што павінны фармаваць і разьвіваць беларускую літаратурную мову, Юрэвіч, падобна як і іншыя пісьменьнікі, высоўвае, як найважнейшы фактар — народнасьць мовы. У артыкуле пад вымоўным загалоўкам «Магутнае слова ты, роднае слова», узятым зь ведамага вершу Янкі Купалы аб ролі роднае мовы ў нацыянальным жыцьці народу, Юрэвіч піша:

> Родная мова — гэта ў пэўнай ступені той грунт, на якім трымаецца народнасьць літаратуры, калі разумець яе, як імкненьне да праўдзівага адлюстраваньня ў мастацкіх творах нашай рэчаіснасьці, жыцьця народу. Праўдзівае асьвятленьне навакольнага жыцьця пад сілу толькі таму мастаку, які заўсёды з народам. Быць з народам абазначае для пісьменьніка ня толькі вывучаць зьмест яго жыцьця, але і формы выяўленьня гэтага зьместу. Аднэй з такіх форм, найбольш даступнай для ўспрыняцьця, як ведама, зьяўляецца мова народу. Здабыць хараство зь нявычэрпных народных скарбаў, якімі зьяўляецца жывая народная мова, і ёсьць адзін з найпершых клопатаў сапраўднага пісьменьніка.[64]

Беларускія пісьменьнікі выступілі ня толькі ў вабароне народных элемэнтаў беларускае мовы, якія зь яе выкідваюцца пад прылікам «дыялектызмаў» і «вузкіх правінцыяналізмаў», але таксама, хоць і ня гэтак сьмела, і ейнае спадчыны із старой беларускай мовы, якая таксама афіцыйна адкідаецца пад прылікам «архаізмаў». Яшчэ ў самым пачатку моўнае дыскусіі ў 1957 годзе цытаваны вышэй Юрэвіч пісаў:

> Беларуская мова існуе не адно стагодзьдзе. І ў сучаснай літаратурнай мове мы сустрэнем шмат элемэнтаў, якія былі ўласьцівы мове XIX, XVIII і ранейшых стагодзьдзяў. Пісьменьнік ня мае права не зважаць на тыя традыцыі, якія складаліся стагодзьдзямі. Ігнараваць традыцыі — значыць адрывацца ад народу. Калі, напрыклад, паслухацца некаторых «рэфарматараў» і адмовіцца ад фанэтычнага прынцыпу, на якім будуецца правапіс сучаснай беларускай мовы, — гэта будзе азначаць адыход ад традыцыі, што ляжыць у васнове агульнанароднай мовы і складае яе адметную асаблівасьць.[65]

[63] «Літаратура і Мастацтва», № 8, 25. 1. 1958.
[64] «Полымя», № 3, 1960, б. 159.
[65] «Літаратура і Мастацтва», № 34, 27. 4. 1957.

Мы прывялі даволі шмат абшырных цытатаў з выказваньняў беларускіх пісьменьнікаў аб мове дзеля таго, што ўвесь гэты цікавы й каштоўны матарыял для чытача ў вольным сьвеце недаступны. А тымчасам ён — вельмі паказальнае сьветчаньне таго магутнага руху сярод пісьменьнікаў і наагул некаторай часткі беларускай інтэлігенцыі ў вабароне роднае мовы перад русыфікацыяй. Вельмі характэрна і ў савецкіх абставінах зусім зразумела, што бадай кажны з аўтараў стараецца ня толькі філялягічна, але й палітычна абгрунтаваць сваё выступленьне ў вабароне мовы й неяк застрахаваць сябе перад эвэнтуальным абвінавачаньнем яго ў буржуазным нацыяналізьме. Таму, як ужо ўспаміналася напачатку, адныя аўтары паклікаюцца на выказваньні Леніна ў карысьць нерасейскіх моваў Савецкага Саюзу, іншыя на практыку ў галіне расейскае мовы, якая праводзіцца з мэтаю захаваньня ейнае чысьціні й культуры, яшчэ іншыя высьсняюць, што прышчапленьне масам камуністычных ідэяў можа быць найбольш пасьпяховым, калі яны будуць выкладацца ў іхнай роднай мове. Вельмі характэрнае з гэтага гледзішча цьверджаньне цытаванага вышэй Юрэвіча:

> Хто хоча клапаціцца пра тое, каб усё больш шырокія масы савецкіх людзей далучыліся да вялікіх камуністычных ідэялаў, той павінен як мага глыбей і больш дасканала ведаць родную мову, бо на роднай мове гэтыя ідэялы дойдуць да народу хутчэй і паўней. Цяжка зразумець тых людзей, якія лічаць для сябе вялікай заслугай забыцьцё роднай мовы. Яшчэ цяжэй зразумець іх, калі яны працуюць на радыё, дзе жывое слова народу павінна складаць асноўны зьмест творчай дзейнасьці кажнага штатнага супрацоўніка й запрошанага выканаўцы.. Беларускае радыё павінна набыць у эфіры сваё нацыянальнае аблічча.[66]

Апрача тэарэтычных разважаньняў аб народнасьці мовы й ейнай чысьціні, у многіх успомненых і няўспомненых артыкулах падаюцца й канкрэтныя прыклады русыфікаваньня мовы, прыводзяцца многія словы й выразы, жыўцом перанесеныя з расейскае мовы ў беларускую мову, ды высьняецца, якія заміж іх павінны ўжывацца беларускія словы. Але літаральна ў ніводным выпадку гэтыя чужыя нашай мове элемэнты не называюцца сваім собскім іменем, як русыцызмы. Навет найбольш зыркія й зусім яшчэ ў беларускай мове сырыя русыцызмы абходзяцца навакольнай дарогай, і ў такіх выпадках звычайна, як можна было спасьцерагчы ў прыведзеных цытатах, гаворыцца, што «гэтак не гаворыць народ», гэта «не народнае слова», гэта «канцылярщчына», «кніжная мова», «перакладная мова» й пад. У савецкім лексыконе існуюць тэрміны «палянізмы», «гэрманізмы» й пад., але ня існуе слова «русыцызмы», бо русыцызм не разглядаецца, як чужы ў дадзенай мове элемэнт, але як зьява зусім натуральная й пажаданая, што спрыяе разьвіцьцю і ўзбагачаньню дадзенае нерасейскае мовы.



Як ведама, старая беларуская літаратурная мова — мова гаспадарствавая Вялікага Княства Літоўскага, што разьвівалася на аснове паўночна-заходніх гаворак беларускага сярэдняга дыялекту і ўжо ў першай палавіне

[66] Ул. Юрэвіч. Мастацкае слова па радыё. «Літаратура і Мастацтва», № 6, 22. 2. 1961.



XV стг. сталася літаратурнай мовай,[67] у сувязі з палітычным і нацыянальным заняпадам Беларусі ў XVII і XVIII стг. таксама ў гэным часе спыніла сваё існаваньне, як мова жывая. Новая беларуская літаратурная мова, што пачалася ў XIX стг. у выніку беларускага нацыянальнага адраджэньня, разьвівалася на аснове заходніх гаворак сярэдняга дыялекту беларускай мовы.[68] Як у сваім зараджэньні, гэтак і далейшым разьвіцьці яна ўжо не карысталася старой літаратурнай мовай, зь якой была страчаная ўсякая цягласьць разьвіцьця, але фармавалася й узбагачвалася на базе беларускай народнай мовы, чэрпала зь яе ўсе патрэбныя ёй словы й выразы, а таксама, як бывае нармальна ў разьвіцьці кажнае мовы, тварыла для новых паняцьцяў патрэбныя нэалягізмы згодна із законамі беларускае мовы. Гэткі кірунак разьвіцьця беларускай літаратурнай мовы трываў да пачатку 30-ых гадоў, калі ў сувязі із русыфікацыйным палітычным курсам у СССР ён быў раптоўна спынены. Пачынаючы ад гэнага часу, асноўнай крыніцай і базай далейшага разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы сталася, як мы бачылі, вылучна расейская мова.

Пры гэтым расейская мова сталася ня толькі крыніцай далейшага разьвіцьця беларускай літаратурнай мовы, як цьвердзіць савецкая лінгвістыка й як афіцыйна вымагаюць ад нерасейскіх моваў партыйныя дырэктывы, але навет, як мы бачылі на мностве прыкладаў, зь беларускай мовы выкідваюцца тыя ейныя граматычныя формы й словы, якія ў ёй існавалі й былі агульна замацаваныя ўжо раней, але розьніліся ад адпаведных формаў і словаў расейскае мовы. Такім парадкам русыфікацыя йдзе ня толькі ў пары з разьвіцьцём беларускай літаратурнай мовы, але й расьцягваецца на той ейны стан, у якім знаходзілася яна перад русыфікацыйнай кампаніяй, аб чым ані савецкая моваведа, ані партыйныя дырэктывы ў галіне мовы зусім не ўспамінаюць.

Беларуская літаратурная мова, разьвіваючыся перад русыфікацыйным пэрыядам на базе народнае мовы, як і наагул кажная мова, для абазначэньня ўводжаных у мову новых паняцьцяў багата папаўняла свой лексычны запас словамі міжнароднага паходжаньня, якія ў сучасных мовах цывілізаванага сьвету набылі інтэрнацыянальны характар. У сувязі з тым, што беларуская культура ў сваім разьвіцьці арыентавалася на заходнюю культуру, дык і запазычаньні беларускай мовай словаў інтэрнацыянальных адбываліся за пасярэдніцтвам моваў Захаду. Такія словы, лучыўшы ў беларускую літаратурную мову, або й надалей захоўвалі ў сабе некаторыя фанэтычныя й марфалягічныя элемэнты тых заходніх моваў, зь якіх былі запазычаныя, або, будучы раней запазычанымі й агульна пашыранымі, поўнасьцяй засыміляваліся, так што іхны іншамоўны характар пачаў зусім заціраецца.

Вось-жа яшчэ ў самым пачатку русыфікацыйнага працэсу ў СССР як савецкая моваведа, гэтак і партыйная палітыка пачалі тарнаваць прынцып, што ўсякія іншамоўныя словы могуць запазычвацца нерасейскімі мовамі толькі й вылучна за пасярэдніцтвам расейскае мовы. Інакш кажучы, было пастаўленае перад нерасейскімі мовамі патрабаваньне, што ўсе запазычаныя імі раней словы іншамоўнага паходжаньня, як і запазычаныя ў бу-

[67] Я. Станкевіч. Доля мовы беларускае (яе вонкашняя гісторыя) ў розныя пэрыяды гісторыі Беларусі. «Веда», № 1 (28), Нью Ёрк 1954, б. 5.
[68] Тамсама, б. 6.

дучыні павінны захаваць у кажнай нерасейскай мове ўсе тыя фанэтычныя й марфалягічныя асаблівасьці, якія яны маюць у расейскай мове. Вышэй цытаваны савецкі мовавед М. Каммары выразна гаворыць, што агульная тэндэнцыя да моўнай інтэрнацыяналізацыі ў разьвіцьці моваў народаў СССР, побач з уплывам на гэтыя мовы расейскае мовы, выяўляецца «ў засвойваньні асноўнага фонду інтэрнацыянальнай лексыкі цераз пасярэдніцтва расейскае мовы».[69]

Пытаньня русыфікацыі іншамоўнага лексычнага матарыялу ў беларускай мове мы ў гэтым артыкуле не разглядаем з тае простае прычыны, што яно было тэарэтычна й у бальшыні выпадкаў практычна разьвязанае ўжо моўнай рэформай 1933 году, якая выходзіць за межы нашага разгляду. Адно варта прыпомніць, што ў самым пачатку русыфікацыйнай кампаніі, у пачатку 30-ых гадоў, у дачыненьні да нерасейскіх моваў народаў Савецкага Саюзу галоўная ўвага якраз была сьціраваная на раптоўнае й поўнае спыненьне моўных працэсаў, праз якія нерасейскія мовы папаўнялі свой лексычны запас інтэрнацыянальнымі словамі, арыентуючыся ў васнаўным на мовы Захаду, абмінаючы пасярэдніцтва расейскае мовы. Прыкладам, у дачыненьні да ўкраінскай мовы, як паказаў праф. Р. Смаль-Стоцкі на падставе багатага матарыялу, русыфікацыйная кампанія фактычна й пачалася ад патрабаваньня уніфікацыі на расейскай базе тэхнічнай і навуковай тэрміналёгіі, як і наагул усіх словаў іншамоўнага паходжаньня.[70] Таксама ў Беларусі галоўным аб'ектам бальшавіцкіх нападаў сталася дзейнасьць Тэрміналягічнай Камісіі Беларускай Акадэміі Навук з прычыны апрацоўваньня ёй беларускай навуковай і тэхнічнай тэрміналёгіі ў вадрыве ад расейскае мовы.

Пасьлейшая моўная практыка ў ССР пасьля рэформы 1933 году працэс русыфікацыі словаў іншамоўнага паходжаньня ўжо поўнасьцяй завяршыла, так што балерускім элемэнтам у гэтай катэгорыі словаў астаўся адно правапіс, ды й той моцна зрусыфікаваны гэтай рэформай. Сяньня навет асабовыя собскія імёны разглядаюцца ў беларускай літаратурнай мове, як словы іншамоўнага паходжаньня й ужываюцца з расейскімі моўнымі асаблівасьцямі. Найбольш пракуднае для беларускай мовы ёсьць і тое, што ў яе цяпер мэханічна ўведзеныя з расейскай мовы зусім раней ня ўжываныя як у літаратурнай мове, гэтак і ў народных дыялектах імёны па бацьку («отчества»).

Савецкая сучасная моваведа згары залічае да расейскіх слоўных запазычаньняў наагул усе бяз вынятку словы іншамоўнага паходжаньня ў нерасейскіх мовах СССР, пры гэтым навет і такія словы іншамоўнага паходжаньня, якія ані фанэтычна, ані сваей словатворнай будовай нічым ня розьняцца ад расейскае мовы, а для дадзеных моваў усімі сваімі элемэнтамі становяць зусім незалежныя ад расейскае мовы запазычаньні. Гэтак успомнены беларускі савецкі мовавед М. Крукоўскі ўсе словы беларускае мовы інтэрнацыянальнага паходжаньня, якія ацэньвае на 13—15% усяго моўнага стану беларускае мовы, мэханічна адносіць да расейскіх запазычаньняў.[71] **Такім парадкам савецкая моўная палітыка сьціраваная на спыненьне адначасна двух раўналежных працэсаў нармальнага й прыроднага разьвіцьця беларускае літаратурнае мовы: ейнага базаваньня на беларускай народнай мове й ейнай арыентацыі на Захад у галіне прысвойваньня патрэбных інтэрнацыянальных словаў, прымусіўшы ў першым і другім выпадку арыентавацца выключна на расейскую мову.**

Галоўным лёзунгам беларускага нацыянальнага адраджэньня было захаваньне роднае мовы. Яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя першым Францішак Багушэвіч кінуў славуты лёзунг: «Беларусы, не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі». Пасьлей Янка Купала, пераняўшы на сябе духовае правадырства беларускага народу, у шмат якіх сваіх праграмных вершах вызначаў ролю роднае мовы, як найважнейшага й наймагутнейшага фактару нацыянальнага йснаваньня беларускага народу. Гэтую ідэю падхоплівалі й разьвівалі іншыя беларускія нацыянальныя паэты, як у пэрыяд нашаніўскага адраджэньня, гэтак і пасьля — у пэрыяд нацыянальна-вызвольны. Сяньня, у часох найжахлівейшага нацыянальнага паняволеньня, гэтае пачэснае гістарычнае заданьне захаваньня роднае мовы ўзялі на сябе таксама беларускія паэты й пісьменьнікі, будучы поўнасьцяй сьведамымі, што йснаваньне мовы зьяўляецца раўназначнае з нацыянальным існаваньнем беларускага народу й ягонай нацыянальнай культуры.

[69] М. Каммары, тамсама, б. 72.
[70] R. Smal-Stocki, тамсама, б. 88, 108-122, 134 і нас.
[71] Н. І. Крукоўскі. Рускі лексічны ўплыў, б. 90.

# Камунізм і „беларускі нацыяналізм“

## (Гістарычны агляд пачатку дачыненьняў)

Н. Недасек

Камунізм — ад марксавага празь ленінскі ды сталінскі па хрушчоўскі, а ў гэтым дачыненьні таксама й мао-цзэ-дунаўскі, а нат і тытаўскі — заўсёды праклямуе сваю прынцыповую варожасьць да кажнага нацыяналізму, супрацьстаўляючы яму свой «інтэрнацыяналізм». Выводжаны з марксавага лёзунгу — «Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!» — загалоўнага для ўсіх камуністычных сьцягоў, «інтэрнацыяналізм» гэты найчасьцей і ўдакладняецца азначэньнем-прыметнікам «пралетарскі», тымчасам як нацыяналізм часта, хоць і радзей усё-ж, часьцей толькі апошнімі часамі, прыпячатваецца кантраставым прыметнікам-азначэньнем «буржуазны».

Тактычна аднак нацыяналізм можа ня толькі талеравацца, але й падтрымлівацца, а практычна нат і ўкараняцца, калі адно гэтага вымагае сама справа камунізму, «справа рэвалюцыі». Тады яго стараюцца нат зваць не нацыяналізмам, а проста нацыянальным, ато яшчэ й нацыянальна-вызвольным рухам. Толькі нядаўнымі часамі пачалі менш высьцерагацца гаварыць пра нацыяналізм і ў гэткім выпадку, і хрушчоўская праграма камуністычнае партыі СССР у разьдзеле VI часткі I, прысьвечаным «нацыянальна-вызвольнаму руху», пазытыўна выдзяляе «нацыяналізм прыгнечаных нацыяў» затое, што ў ім, бач, «ёсьць агульнадэмакратычны зьмест, ськіваваны супраць прыгнечаньня, і камуністыя падтрымліваюць яго, уважаючы за гістарычна-апраўданы на азначаным этапе; ён выражаецца ў імкненьні прыгнечаных народаў да вызваленьня ад імпэрыялістычнага гнёту, да нацыянальнае незалежнасьці й нацыянальнага адраджэньня».

З другога боку, пад нацыяналізм безь якіх-колечы пазытыўных кваліфікацыяў часта падводзяцца й найумеркаванейшыя ды найсьціплейшыя нацыянальныя рухі, калі адно падтрыманьне іх чаму-небудзь тактычна нявыгоднае для тае-ж справы камунізму, «справы рэвалюцыі». Гэтым правам годнасьць «беларускага нацыяналізму» часта, калі ня скрозь, дастаецца й беларускаму руху нат на тых ягоных этапах, якія ня вызначаюцца выяўленьнем нейкіх палітычных асьпірацыяў ды выходжаньнем за межы чыста культурнага, ато й усяго моўнага, ці моўна-літаратурнага руху.

На сваіх гістарычных досьвітках, ад пачатку мінулага веку, беларускі рух, як ведама, і трымаўся гэтых апошніх межаў моўна-літаратурнага



руху дый нат яшчэ на рэгіянальным, «краевым», а не нацыянальным узроўні; што праўда, ня было тады каму й дакараць яго ў «нацыяналізьме», бо й доўга яшчэ ня было напаяўку таго камунізму, а й зьявіўшыся, доўга яшчэ не сягала проста ягонае вока так далёка й глыбака, каб аж па нейкі там ціхманы й малазнаны беларускі рух. Аднак, із Кастусём Каліноўскім беларускі рух упяршыню сягае ўжо й палітычнага ўздыму да нацыянальнага ўзроўню, адно каб на наступным этапе, із сваім «бацькам» Багушэвічам, замацоўваючыся канчальна на нацыянальным узроўні, прыспусьціцца ўсё-ж ізноў да нізіны руху моўна-літаратурнага.

Ад гэнае пары ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху й назіраецца выразна гэты своеасаблівы рытм уздымаў да палітычнага ўзроўню ды прыспушчваньняў з гэных узвышшаў, кажучы пазьнейшай паэтычнай мовай у даліны моўна-літаратурнага, ці далей і літаратурна-культурнага руху. Гэтак, на Багушэвічу ўзгадаваныя першыя спадкаемцы яго зноў, дый памысьней, выводзяць гэты рух, праз культурны трамплін «Кругу прасьветы й культуры беларускае», на палітычны ўзровень арганізаванага рэвалюцыйнага падзямельля Беларускае Рэвалюцыйнае Партыі, а зараз-жа й Грамады, зусім неўзабаўку ўжо й Беларускай Сацыялістычнай Грамады, з тым, што за наступною палітычнаю рэакцыяй рух у ягонай «нашаніўскай пары» ўвойдзе зноў у межы культурнага й літаратурнага, каб ізноўку сягнуць палітычнага размаху й узвышшаў у рэвалюцыйных 1917—18 г. г.

Гісторыі гэтых этапаў нам ужо даводзілася кранацца падрабязьней у некаторых папераднейшых пісаньнях.[1] Дазволім цяпер адно нагадаць адтуль некаторыя мамэнты што да дачыненьняў між камунізмам і беларускім рухам на гэных этапах. Прыгадаем, што рух Беларускай Сацыялістычнай Грамады быў ня толькі не нацыяналістычным рухам, але нат ішоў пад тым самым сьцягам марксавага-ж «пралетарскага інтэрнацыяналізму» ў тым-жа нат лёзунгавым сфармуляваньні «Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся», хоць часам, у мэтах масавасьці прапаганды й «беларусызаваным» у «Працавітая бедная ўсіх краёў, злучайся!».[2] Гэтая акалічнасьць спраўляе пэўны клопат некаторым савецкім аўтарам, змушаным шукаць тут выхаду ў гіпотэзах, а найчасьцей простых заявах то пра «фікцыйнасьць» самое Грамады, то пра «фальсыфікатарства» (асабліва ў тэй «беларусызацыі» лёзунгу), то пра «мімікрыйнасьць» ейнага сацыялізму. Найпрасьцей ды найбліжэй да запраўднасьці разьвязвае гэтую справу сталінскі гісторык-чэкісты Л. Цанава: «Каб памысьней змагацца з бальшавікамі за ўплыў на масы, Беларуская Сацыялістычная Грамада была змушаная пісаць на сваім сьцягу таксама «сацыялістычныя», таксама «рэвалюцыйныя» лёзунгі».[3]

---

[1] Маем на ўвеце выданьні аўтарства Н. Недасека: «1917—1947», выд. «Бацькаўшчыны», 1947 (у далейшым умоўна: 1917—1947); 1918—1948, выд. тое-ж, 1948 (у далейшым 1918—1948); Очерки истории большевизма в Белоруссии. I. Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией, выд. Інстытуту Вывучэньня СССР, Мюнхен, 1954 (у далейшым ОИББ); Большевизм в революционном движении Белоруссии, выд. тое-ж, Мюнхен, 1956 (у далейшым БРДБ); Нацыянальное самавызначэньне й Саветы. «Беларускі Зборнік», кніга 11, выд тое-ж, Мюнхен, 1959 (у далейшым НСС).

[2] БРДБ, б. 87-88.

[3] Л. Цанава. Всенародная партизанская война в Белоруссии против фашистских захватчиков. Ч. II. Мощный рост партизанского движения. Госуд. изд-во БССР, Минск, 1951 (у далейшым ЛЦ-ВПВБ), б. 700-701.

Змаганьне за ўплыў на масы й запраўды было тым полем, на якім беларускі нацыянальны рух у постаці Беларускае Сацыялістычнае Грамады — БСГ — упяршыню й сустрэўся калі ня так з бальшавікамі, тады яшчэ зусім зьнікомаю што да вялічыні сілаю, асабліва на Беларусі, дык з тэю партыяй — Расейскай Сацыял-Дэмакратычнай Работніцкай Партыяй (РСДРП), фракцыю якое станавілі тады гэныя бальшавікі. І хоць сустрэча гэтая, паводля сьветчаньня самое БСГ, адбывалася ў атмасфэры «надзвычайнае агрэсыўнасьці» з боку РСДРП,[4] вінавачаньне ў «нацыяналізьме» тады яшчэ ў ход ня пушчалася. Сам лідэр бальшавікоў Ленін калі й успамінаў БСГ, дык хоць і сумысна як «Беларускую Грамаду» толькі, з апушчэньнем аўтэнтычнае ў ейным тытуле сярэдняе характарыстыкі «Сацыялістычная», але ўсё-ж ня больш як у кантэксьце «дробнабуржуазных рэвалюцыянераў».[5]

Калі, пасьля прыспушчэньня ў даліну культурнага руху за «нашанiўскай парою», надыйшоў новы ўздым беларускага нацыянальнага руху на палітычнае ўзвышша з надыходам рэвалюцыі 1917 г., сустрэча яго з бальшавікамі аднавілася на тым-жа полі змаганьня за ўплыў на масы, але ўжо ў абставінах шырэйшых магчымасьцяў ня толькі поўнае, а й шанаванае легальнасьці. На гэтым этапе тае сустрэчы нам ужо даводзілася спыняцца падрабязьней, але ў крыху іншым аспэкце;[6] таму да ўсяго, што было пры тым адзначана й устаноўлена, тутака давядзецца дадаць, як важнае ўжо ў цікавай нам цяпер роўніцы, што якраз на гэтым этапе беларускаму руху й было ўпяршыню пастаўленае вінавачаньне ў нацыяналізьме. Сфармуляванае яно было ў першай-жа дакумэнтальнай рэакцыі на першы акт беларускага руху гэтае пары — у рэзалюцыі кіраванага адным зь мясцовых лідэраў бальшавікоў, Міхайлавам (Фрунзэ), Менскага Камітэту Сялянскага Саюзу, прынятай 6 красавіка 1917 г., у справе першага беларускага нацыянальнага зьезду 25 сакавіка 1917 г. у Менску й створанага на гэтым зьезьдзе Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Пункт 2 гэтае рэзалюцыі гучэў наступна: «2. Беларускі Нацыянальны Камітэт становіць сваім складам арганізацыю заможных пластоў беларускага народу й асабліва абшарніцкага землеўладаньня, а характарам сваіх выступленьняў чыста **нацыяналістычную,** пагражае інтарэсам сялянаў і работнікаў імкненьнем адарваць іх, **на груньце ўзмоцнена падаграванага нацыяналізму,** ад працоўных масаў усяе Расеі й падпарадкаваць ідэйнаму кіраўніцтву абшарнікаў»[7] (падчыркненьні нашыя. Н. Н.).

Адсюль і трэба датаваць тарнаваньне бальшавізмам, што за год канчальна й афіцыйна прысвоіў сабе ймя камунізму, характарыстыкі «нацыяналізму» ў дачыненьні да беларускага нацыянальнага руху. Але на дадзеным этапе адбываецца й першы акт іншага, характарам супрацьлежнага, укладу дачыненьняў між беларускім нацыянальным рухам ды камунізмам-бальшавізмам — акт скрыжаваньня іх у гібрыдных фармацыях таго, што ў шырэйшым сэньсе называецца «нацыянал-камунізмам». Закрануўшы

[4] БРДБ, б. 130.

[5] Тамсама, б. 129, а таксама В. И. Ленин. Сочинения. Изд. 4-е. Том 20. Москва, 1948, б. 84.

[6] ОИББ, б. 46-51.

[7] «Минский Голос», № 2396, Минск, 6 апреля 1917 г., перадрук у Документы и материалы по истории Белоруссии. Том IV. Изд-во Академии Наук БССР, Минск, 1954 (у далейшым — ДМИБ, IV), б. 43.



гэтую справу пры ўспамінаным вышэй ранейшым разглядзе, мы адзначылі гэты акт як паўстаньне ў Пецярбургу «Беларускае Сацыял-Дэмакратычнае Работніцкае Партыі (бальшавікоў)» пад кіраўніцтвам Алеся Чарвяка (пасьля Аляксандра Чарвякова) ды самую прадстаўленую гэтай партыяй фармацыю схарактарызавалі як «фармацыю беларускага бежанскага нацыянал-бальшавізму».[8] Цяперашняя нашая тэма абавязвае да грунтаўнейшага разгляду гэтае фармацыі.

Як ужо было адзначана ў тым папярэднім разглядзе, асноўнымі фактарамі, што вызначылі паўстаньне беларускага бежанскага нацыянал-бальшавізму ў постаці Беларускае Сацыял-Дэмакратычнае Работніцкае Партыі (бальшавікоў), было — масавае ваеннае ўцякацтва — «бежанства» зь Беларусі ў Расею, у вялікай меры ў самыя ейныя сталіцы Пецярбург і Маскву, ахопленасьць гэтага бежанства беларускім нацыянальным рухам адразу пасьля рэвалюцыі, адарванасьць яго ад краю зь немагчымасьцяй назіраньня антыбеларускага становішча, занятага там мясцовым наносным армейскім бальшавізмам Заходняга фронту, пры ахапленьні прапагандай, у тым ліку й нацыянальнага самавызначэньня, з боку бальшавізму сталічнага, асабліва пецярбурскага, кіраванага самым Ленінам.

Галоўная асоба, зь якой гісторыкі-сучасьнікі зьвязваюць «беспасярэдняе кіраўніцтва» паўстаньнем БСДРП(б) — Аляксандар Чарвякоў — нарадзіўся ў 1892 г. у сяле Дукарка (за 35 км. ад Менску), паводля савецкае энцыклапэдыі 1934 г. — сын «дробнага службоўца з прыгонных сялянаў».[9] Скончыў Віленскі настаўніцкі Інстытут, працаваў настаўнікам, браў удзел у беларускім настаўніцкім руху, арганізаваным БСГ, ды ўваходзіў у самую БСГ. У часе вайны быў афіцэрам на фроньце, увайшоў у арганізацыю РСДРП, але ў бальшавіцкай фракцыі яе — да таго часу ўжо самастойнай партыі — апынуўся адно па лютаўскай рэвалюцыі, у траўні 1917 г. Крыху перад гэтым зарганізаваў у Пецярбурзе, за Нарваўскаю Заставаю, адзін зь першых па рэвалюцыі аддзелаў БСГ, стаўшыся ягоным сакратаром, а пасьлей і адарваўшы яго ад БСГ ды ператварыўшы ў БСДРП(б). Увесь гэты час дый ладна пасьля знаны пад сваім прыродным беларускім прозьвішчам Чарвяк (стаіць яно яшчэ й пад Маніфэстам пра ўтварэньне БССР 1 студзеня 1919 г., але ўжо неўзабаве па тым, у пару «Літбел», «увысакараднена» — русыфікуецца канчаткам -ов, беларускім правапісам -оў, — рыса, аж як характэрная й сымптаматычная для мэнтальнасьці й нацыянальнага профілю носьбіта прозьвішча).

У самога Чарвякова можна знайсьці ўсяго колькі радкоў, прысьвечаных БСДРП(б), прытым безь якога-небудзь успамінаньня пра сваю асабістую ролю ў ёй (наагул, аніяк нельга адмовіць яму ў вялікай людзкой сьціпласьці, што праз цэлае жыцьцё сьцерагла яго ад ці малых, пры ягоных пась-

[8] ОИББ, б. 51. Самы тэрмін «нацыянальны бальшавізм» не трапляецца ў беларускай палітычнай літаратуры таго часу, але зьяўляецца ўжо ў літаратуры мастацкай, як і адлюстраваньне самое зьявы — прыкл., у ваповесьці Максіма Гарэцкага «Дзьве Душы», напісанай у 1918—19 г. г. з ахопам часу ад 1917 г (гл. М. Гарэцкі. Дзьве душы. Аповесьць. Вільня, 1920, б. 123, а таксама Ант. Адамовіч, Максім Гарэцкі, «Узвышша», № 6, 1928, б. 162).

[9] Большая Советская Энциклопедия, изд. I, том 61, Москва, 1934, б. 195, а таксама Byelorussian Communism and Nationalism: Personal Recollections by S. Krushinsky Research Program on the U.S.S.R. New York City, 1953, p. 54.

лейшых высокіх становішчах ды агульным клімаце бальшавіцкае эры, спакусаў патураньня собскаму «культу асобы», хай і найабмежанейшаму):

> У Петраградзе вылучылася зь Беларускай Сацыялістычнай Грамады рабочая арганізацыя, якая заклала ўлетку 1917 г. пачатак Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі (бальшавікоў) як раёну, а потым сэкцыі адзінай бальшавіцкай партыі. Яе арганізацыі распаўсюдзіліся ў Петраградзе, Маскве ды іншых гарадох.[10]

У гэтым сьветчаньні Чарвякова найбольш важнае, хоць і вельмі недакладнае, агульнае датаваньне заснаваньня БСДРП(б) летам 1917 г. Крыху большыя ўдакладненьні гэтага датаваньня знаходзім у З. Жылуновіча, паводля аднаго з ранейшых пісаньняў якога «БСДРП(б) заснаваная ўлетку (чырвень месяц) у Пецярбургу»;[11] аднак, у вадным зь пісаньняў пасьлейшых, а для гіторыі БСДРП(б) наагул найбольш багатых на дадзеныя — у артыкуле «Беларускія сэкцыі РКП і стварэньне Беларускай Савецкай Рэспублікі» — канчальнае афармаваньне — «перайменаваньне Нараўскае рабочае арганізацыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады ў Беларускую Сацыял-Дэмакратычную Партыю бальшавікоў, з праграмай і статутам РСДРП(б)» — адсоўваецца ўжо «пад канец верасьня» 1917 г.[12]

Гісторык беларускага руху Ф. Турук таксама датуе канчальнае афармаваньне БСДРП(б) у партыю восеняй 1917 г.; на аснове ўсіх гэтых дадзеных бясьпечна будзе ўважаць за час ейнага паўстаньня й афармаваньня чырвень-верасень 1917 г. — пэрыяд, у кажным разе, паміж летнім чырвенска-ліпенскім уздымам бальшавізму ды бальшавіцкім кастрычніцкім (лістападаўскім) пярэваратам — «кастрычніцкай рэвалюцыяй», ды ніяк не пасьля апошняе. Турук падае й жменю іншых важных фактычных дадзеных што да БСДРП(б): аснова яе — ранейшая Нараўская арганізацыя БСГ — ацэньваецца ім у 500 сяброў пераважна работнікаў Пуцілаўскага, Абухаўскага, Артылерыйскага заводаў ды хвабрыкі «Треугольник»; да гэтае арганізацыі даходзіць у Турука й Гэльсынгфорская, пераважна з матросаў — 200 сяброў; падаецца склад Камітэту БСДРП(б) — Чарвякоў, Усьціловіч, Сосна, Гурыновіч, Лаўрэцкі, Паляцка, Лагун, — а таксама цэлы сьцяг фактаў зь дзейнасьці, але ўжо пакастрычніцкіх часоў, у вялікай меры падаваных і іншымі гісторыкамі.[13]

Пачаткі паўставаньня БСДРП(б) найпадрабязьней пададзеныя З. Жылуновічам, ад самых першых радкоў успамінанага вышэй ягонага артыкулу пра беларускія сэкцыі РКП:

> Яшчэ ўлетку 1917 г., калі толькі праца Беларускае Сацыялістычнае Грамады ў Пецярбурзе пашырылася на заводы, у яе склад увайшлі некалькі дзесяткоў членаў сацыял-дэмакратычнае партыі бальшавікоў. Апошнія былі з розных хвабрык і заводаў Пецярбургу, але галоўнае ядро іх складалася з пуцілаўскіх рабочых. Калі за Нараўскаю заставаю зарганізаваўся рабочы аддзел БСГ,

[10] А. Чарвякоў. За Савецкую Беларусь. Менск, 1927 (у далейшым — АЧ-ЗСБ), б. 52.

[11] З. Жылуновіч. Беларуская інтэлігенцыя ў гістарычным аспэкце. «Полымя», № 6, 1926, б. 81-82.

[12] З. Жылуновіч. Беларускія сэкцыі РКП і стварэньне Беларускай Савецкай Рэспублікі, «Полымя», № 10, 1928 (у далейшым ЗЖ-БС), б. 75.

[13] Ф. Турук. Белорусское движение. Москва, 1921 (у далейшым — ФТ-БД), б. 42-43, ас. зацемка [2].



> даволі значны па ліку членаў і дужа эфэктоўны па сацыянальнаму складу іх, вялікая частка апошніх належала адначасна і да сацыял-дэмакратычнае арганізацыі. Усе партыйныя абавязкі яны выконвалі старанна ў адносінах да абедзьвюх партыяў.[14]

Што да гэткае адначаснае прыналежнасьці да дзьвюх партыяў, дык зьява гэтая ня была новаю для беларускага руху, у якім ад самых ягоных пачаткаў нярэдкімі былі выпадкі прыналежнасьці ягоных удзельнікаў адначасна да БСГ і да аднае зь небеларускіх сацыялістычных партыяў, польскіх або расейскіх; між іншага й дарэчы, пра самога Жылуновіча ведамы факт ягонага адначаснага ўваходжаньня і да БСГ, і да РСДРП (толькі не бальшавікоў) яшчэ да рэвалюцыі, пра падобную двупартыйнасьць, з увойсьцем ужо й да бальшавікоў, заснавальніка БСДРП(б) Чарвякова падавалася ўжо вышэй у ягоных біяграфічных дадзеных. Пэўна-ж, у справе паўстаньня БСДРП(б) мамэнт гэты адыграў першарадную ролю. Засьветчванае ім сацыял-дэмакратычнае, «эсдэкаўскае» паходжаньне БСДРП становіць сабою важную характарыстыку прадстаўлянае гэтай партыяй першае фармацыі беларускага нацыянал-камунізму, побач з падчыркваным тут Жылуновічам, а адзначаным і іншымі цытаванымі вышэй аўтарамі з Чарвяковам улучна, пераважна работніцкім складам партыі. Гэтыя дзьве характарыстыкі дазваляюць нам цяпер, дапоўніўшы імі пададзеную вышэй формулу гэнае фармацыі, азначыць гэтую апошнюю як **беларускі бежанскі нацыянал-бальшавізм эсдэкаўскага паходжаньня, пераважна работніцкага складу.**

Паводля Жылуновіча, тэндэнцыя ў кірунку да ўтварэньня БСДРП(б) пачалася ад апазыцыі да БСГ унутры ейнае Пецярбурскае Нараўскае арганізацыі, што ўпяршыню адкрыта выявілася пасьля дакладу прысланага туды ЦК БСГ Язэпа Варонкі, пасьлейшага ведамага дзеяча БНР, ды вылілася ў «наступленьне» на «яго падазроную сацыялістычнасьць», што «вельмі выяўна кідалася ў вочы, чаму й сустрэла сабе вострую ацэнку з боку пуцілаўцаў», так што «пасьля гэтага выпадку тэндэнцыя крытычных адносін да БСГ вырастала ўсё болей, а побач вастрэй выяўляўся й нахіл у бок арганізацыі беларускае сэкцыі сацыял-дэмакратычнае партыі бальшавікоў».[15]

Аднак, і пасьля гэтага «пуцілаўцы яшчэ прыймалі ўдзел у зьезьдзе БСГ з 4 па 10 чырвеня, вылучыўшы таксама двух сваіх членаў у вадзіную дэлегацыю на сэсію Рады беларускіх арганізацыяў і партыяў у Менску 5-6 жніўня», але выступленьні іх на гэтых зборах былі ўжо нагэтульні войстра апазыцыйнымі, што пасьля іх ужо «Менск не хацеў адрозьневаць пецярбурскага асяродку БСГ ад бальшавікоў». Пасьля гэтага, «пад канец верасьня» й адбылося нарэшце канчальнае арганізацыйнае афармаваньне БСДРП(б), так што «з кастрычніка месяца пачалося арганізаванае жыцьцё беларускіх камуністычных атрадаў, адзінае ў той час Расейскае сацыял-дэмакратычнае работніцкае партыі бальшавікоў».[16]

Утварэньне БСДРП(б) дало пачатак ланцуговай рэакцыі далейшага расшчапленьня БСГ у кірунку да «левага», у канчальным выніку бальшавіцкага боку: «Першым водгукам на заснаваньне БСДРП(б) у Пецярбурзе, — сьветчыць Жылуновіч, — быў пакол Сацыялістычнае Грамады ў часе дру-

[14] ЗЖ-БС, б. 73.

[15] Тамсама, б. 73-74.

[16] Тамсама, б. 75.

гое сэсіі Рады беларускіх арганізацыяў і партыяў у Менску з 14 па 25 кастрычніка. Пецярбурская й Бабруйская арганізацыі пакінулі сэсію», і гэтак ужо паўстала «левая БСГ» на чале якраз з Жылуновічам; 3-ці зьезд БСГ, што якраз адбываўся адначасна з сэсіяй, ня ўвёў у ЦК БСГ прадстаўнікоў пецярбурскае — адтады ўжо «левае» — арганізацыі яе. Зразумела, што «пакол» гэты быў «прыхільна спатканы БСДРП(б)», паколькі выразна зарысоўваў перад ёю пэрспэктыву «магчымага паглыненьня арганізацыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады БСДРП(б)», хоць на рэалізацыю гэтае пэрспэктывы й давялося чакаць «яшчэ 2-3 месяцы».[17]

Тымчасам беларускі нацыянальны рух падыходзіў да такога свайго ўзвышшага пункту, як Усебеларускі Кангрэс, скліканы на 5 сьнежня 1917 г. У выяўнай сувязі з гэтым склíканьнем цэнтральны бальшавіцкі савецкі ўрад 2 сьнежня на паседжаньні пад старшынством Леніна ў дакладзе Сталіна абмяркоўвае, побач з украінскім пытаньнем, і беларускае — якраз справу скліканьня свайго зьезду саветаў на Беларусі. Гэтую-ж справу Сталін абмяркоўвае далей на нарадзе з дэлегатамі ад беларускіх губэрняў на ўсерасейскі сялянскі зьезд, а тады й на нарадзе з прадстаўнікамі г. зв. Беларускага Абласнога Камітэту — «абласьнікамі», выразна прарасейска настаўленымі дзеячамі, заангажаванымі ў справе скліканьня Усебеларускага Кангрэсу.[18] Ці на гэтай апошняй нарадзе, ці на якой пасьлейшай, але Сталін дае сваё падтрыманьне «абласьнíком».

БСДРП(б), запрошаная на Кангрэс, паводля Турука, падала заяву ў найвышэйшы савецкі орган — тады Усерасейскі Цэнтральны Выканальны Камітэт Саветаў — аб тым,

> што канечна на зьезьдзе гуртаваць сялянаў і работнікаў, узяўшы ў васнову **гістарычныя абставіны клясавага змаганьня ў Беларусі, якое носіць там нацыянальны характар** (падчыркнена намі, як тыповая нацыянал-камуністычная тэза. Н. Н.). Партыя зазначала, што калі ёй будзе дадзеная магчымасьць паслаць значную колькасьць дэлегатаў, дык ёй удасца павесьці зьезд за сабой. У.Ц.В.К. пайшоў напэярэймы партыі й асыгнаваў сяродкі. На зьезд было адаслана да 10 сяброў партыі,

у ліку якіх Жылуновіч называе Я. Лагуна, А. Усьціновіча, В. Скарынку, Сосну (сюды, пэўна-ж, трэба дадаць і самога А. Чарвякова). Аднак, з адасланьнем гэтых дэлегатаў у Менск выходзіць некаторая й вельмі сымптаматычная замінка: Сталін у час бласлаўляе й адпаведна фінансуе цэлую дэлегацыю на Ўсебеларускі Кангрэс ад гэных прарасейшчыкаў — «абласьнікоў» на чале з Караткевічам, дармо што гэта былі партыйна ня толькі далёкія, але й проста варожыя бальшавіком правыя эсэры, а вось адпаведнае бласлаўленьне й фінансаваньне дзесяцёх усяго нацыянальна-сьведамых Беларусаў — сваіх-жа быццам бальшавікоў з БСДРП(б) — зацягваецца нагэтулькі, што яны мусяць

[17] Тамсама, б. 76.

[18] І. Саладкоў. Вялікі стваральнік беларускай савецкай дзяржаўнасьці. «Камуніст Беларусі», № 4, б. 18. Пар. ЛЦ-ВПВБ, б. 733. Пра «абласьнікоў» гл. таксама 1917—1947, б. б. 10-11, 13-15. Нялішне мець на ўвеце й ацэну Жылуновіча: «Маючы выразны расейскі характар, не прызнаючы беларускае культуры, хаваючы ў сваёй істоце процібеларускія ідэі — Абласны Беларускі Камітэт меўся спаралюшаваць беларускі нацыянальна-рэвалюцыйны рух, меўся стаць яго гегемонам» (гл. М. Мялешка, З. Жылуновіч як гісторык. «Полымя», № 10, б. 200).



ладна спазьніцца на Кангрэс ды, паводля дадзеных Турука, прыбываюць туды адно ў апошні дзень — у дзень разгону Кангрэсу.[19]

Факт гэты дае шмат да думаньня пра запраўднае дачыненьне бальшавіцкага цэнтру — дый якраз у ягоным сэктары кіраўніцтва справамі нацыянальнасьцяў, узначальваным тым-жа ткі народным камісарам да іх Сталінам — да беларускае справы нат у ейным бальшавіцкім варыянце, нат у постаці беларускага нацыянал-бальшавізму. Мелі тут штось да думаньня й адчуваньня й самі нацыянал-бальшавікі, а зь іх лідэр іхны Чарвякоў аж за дзесяць год — у 1927 г. яшчэ абярняся ізь ледзь прыхаванай дакукаю ўспамінаў, фактычна вытыкаў Сталіну ягонае маральнае й асабліва фінансавае падтрыманьне антыбеларускіх антыбальшавікоў — «абласьнікоў», што адпаведна заплацілі за гэта бязвочнаю здрадаю ўжо адразу-ж па ад'езьдзе на Кангрэс дый на ім самым...[20] Нарэшце, можа даць нешта да думаньня й меркаваньня-гіпатэзаваньня й факт супадку дня прыбыцьця нацыянал-бальшавікоў на Кангрэс з днём разгону яго сіламі мясцовага армейскага бальшавізму Заходняга фронту калі й ня з дырэктывы, дык прынамся зь бязумоўнага апрабаваньня бальшавіцкім сталічным цэнтрам.

«Выкарыстаць зьезд (Кангрэс. Н. Н.) з мэтаю яго набліжэньня да Кастрычніка ўваходзіла ў заданьне БСДРП(б) і левае часткі БСГ», — цьвердзіць З. Жылуновіч, прадстаўляючы рэалізацыю гэтага заданьня як «арганізацыю левых элемэнтаў» Кангрэсу ў постаці дэлегатаў пецярбурскае, бабруйскае ды віцебскае арганізацыяў БСГ пад эгідаю БСДРП(б) у нейкую «левую палавіну» Кангрэсу.[21] Іншыя ўдзельнікі Кангрэсу не з тае «палавіны» яго прадстаўляюць справу аднак крыху інакш. Гэтак, М. Косьцевіч (Краўцоў Макар) успамінае толькі як «Шантыру ўдалося на адзін вечар адкалоць **меншую** палавіну Зьезду, якую ён сам ахрысьціў, як «левое тэчэние»[22] (падчыркнена намі. Н. Н.). І як

> пад канец Зьезду зьявіліся зь Петраграду эмісары Сталіна-Джугашвілі (ён быў тады ўсерасейскім наркомам па справах нацыянальнасьцяў). Рознымі абяцанкамі нейкі салдат і два ці тры работнікі-Беларусы стараліся дабіцца ад Зьезду прызнаньня ўсерасейскаю ўладаю петраградзкае рады народных камісараў. З гэтых стараньняў нічога ня выйшла.[23]

Цікавае й назіраньне Косьцевіча над захоўваньнем на Кангрэсе Чарвякова:

> Будучы, гэтак трагічна закончыўшы сваю кар'еру, «прэзыдэнт» Савецкай Беларусі Алесь Чарвякоў хітранька маўчаў і трымаўся зусім незаўважаным, нічым не адрозьневаючыся ад цэлага мора сялянскіх сьвітак і кажушкоў ды ня менш шэрых салдацкіх шынялёў, у якія вайна апранула тых-жа сялянскіх сыноў Беларусі.[24]

Найбольш цікавае аднак сьветчаньне самога Чарвякова, у якім адзначаная ўжо ягоная асабістая сьціпласьць дапаўняецца, пры інтэрпрэтацыі

[19] ЗЖ-БС, б. 77; ФТ-БД, б. 33, зацемка[1].

[20] АЧ-ЗСБ, б. б. 42, 49.

[21] ЗЖ-БС, б. 77.

[22] Краўцоў Макар. 20 гадоў назад. «Шлях Моладзі, № 4 (120), Вільня 5. 2. 1938, б. 4.

[23] Тое-ж, № 6 (122), 26. 2. 1938, б. 2.

[24] Тое-ж, № 4 (120), 5. 2. 1938, б. 5.

прычынаў незадачы місіі кіраваных ім бальшавікоў Кангрэсу, анэкдатычнай прост наіўнасьцяй:

> Былі на Кангрэсе й бальшавікі. Гэта праўда. Іх паслала партыя, каб згуртаваць рэвалюцыйныя элемэнты Кангрэсу, каб выбіць ініцыятыву з рук Рады й Абласнога Камітэту. Каб аслабіць бальшавіцкую групу, Рада пайшла на правакацыю. Яна прыслала ў Пецярбург свайго агента, які, прыкінуўшыся бальшавіком, увайшоў у Пецярбурскую бальшавіцкую арганізацыю й дабіўся таго, што яму далі мандат на Кангрэс ад бальшавікоў. На самым Кангрэсе гэты «бальшавік» уваходзіў у склад кіруючай групы левай часткі Кангрэсу, але ў самы рашучы мамэнт перайшоў на бок правай часткі зьезду. Ня дзіва, што левая частка зьезду была слаба арганізаваная й значных уплываў на Зьезд мець не магла.[25]

Гэтак выходзіць, што аднаму ўсяго «агенту правакатару», нат і не названаму на ймя, так што аніяк не даецца ўстанавіць, хто тут меўся на ўвеце (калі толькі наагул нехта меўся...) — аднаму дэлегату заўдзячваецца неарганізаванасьць і няўплывовасьць цэлае «палавіны», ці хоць-бы «часткі» (але-ж не «часьцінкі» хіба), зьезду каля дзьвюх тысячаў (1872, зь іх 1167 з пастаноўным голасам, калі дакладна) дэлегатаў...

Разгон Усебеларускага Кангрэсу, праведзены органамі мясцовага армейскага бальшавізму Заходняга фронту, матываваўся імі ў пляне традыцыі Міхайлава-Фрунзэ «беларускім нацыяналізмам» і нат «шавінізмам» гэтага Кангрэсу.[26] Аніякіх успамінкаў пра ўдзел нейкіх бальшавікоў у Кангрэсе ня было зроблена, чым у дужкі «нацыяналізму» маўкліва ставіліся й ягоныя дэлегаты ад БСДРП(б). Уражаньне гэтага акту на апошніх добра пераказанае З. Жылуновічам у шчырым, хоць і не пазбаўленым некаторай недагаворанасьці сьветчаньні, што пасьля заўсёды вытыкалася яму як адно з найцяжэйшых ягоных «нацыяналістычных» зграшэньняў:

> Роспуск зьезду (гэтак эўфэмічна змушаны Жылуновіч абазначаць разгон Кангрэсу — Н. Н.) зрабіў адмоўнае ўражаньне й на прадстаўнікоў яго левае палавіны, у тым ліку — дэлегатаў-бальшавікоў. Гэтыя апошнія не маглі ўявіць сабе ўсяго значаньня акцыі менскае савецкае ўлады, цэлы-ж шэраг прычын перашкодзіў ім знайсьці ў сябе апраўданьне роспуску, і ў выніку, трэба адзначыць для гісторыі, было не адно агульнае нелегальнае паседжаньне «пагоджаных» членаў рады зьезду з правае й левае яго частак. Таксама водгукам на роспуск зьезду было выступленьне прадстаўніка левай часткі БСГ на трэйцім зьезьдзе саветаў у Пецярбурзе,

а Турук падае й пра адпаведны водгук самое БСДРП(б), якім была адмысловая рэзалюцыя яе, у якой яна адзначала, «што разгон 1-га Усебеларускага зьезду зьяўляецца ў лепшым выпадку непаразуменьнем і патрабавала, каб дзеля расьсьледваньня акалічнасьцяў разгону й вінаватых была прызначаная камісія з прадстаўнікоў БСДРП(б), ЦК РСДРП(б) ды Наркамнацу. Заява пра гэта была паданая ў ЦК РСДРП(б)», але пра якія-колечы «водгукі» адтуль ні ў Турука, ні дзе-небудзь інш нічога не падаецца.[27]

---

[25] АЧ-ЗСБ, б. 47.

[26] Тэлеграма пра разгон, ФТ-БД, б. 108, першае газэтнае паведамленьне — «Советская правда», № 15, 19. 12. 1917, перадрук у ДМИБ, IV, б. 333, камунікат Савету народных камісараў Заходняе вобласьці й фронту — «Советская правда», № 17, 21. 12. 1917 перадрук у ДМИБ, IV, б. 339-341.

[27] ЗЖ-БС, б. 77; ФТ-БД, б. 34, зацемка[4].



Неўзабаве па звароце нацыянал-бальшавіцкіх і «левых» дэлегатаў разагнанага Кангрэсу ў Пецярбург пачынаецца новы этап гісторыі першае фармацыі беларускага нацыянал-камунізму, зьвязаны зь дзейнасьцяй г. зв. Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту (у скароце — Белнацкому, або Белнакому). На дамаганьні жыдоўскіх камуністых, у студзені 1918 г. дэкрэтам савецкага ўраду ствараецца камісарыят для жыдоўскіх нацыянальных справаў, або Жыдоўскі нацыянальны камісарыят.[28] Могуць быць пэўныя асновы для меркаваньня, што гэтая акцыя жыдоўскіх бальшавікоў ня толькі магла сачыцца, але й пераймацца адпаведнымі беларускімі дзейнікамі (кантакт Жылуновіча, прыкладам, з жыдоўскім работніцкім рухам, з Бундам упаасобку, яшчэ з дарэвалюцыйных часоў ведамы зь ягоных собскіх успамінаў). 7 студзеня 1918 г., паводля Жылуновіча, адбываецца зь ініцыятывы БСДРП(б) (гэта чамусь падчыркваецца Жылуновічам) нарада БСДРП(б), пецярбурскай арганізацыі БСГ, чыгуначнай арганізацыі Беларусаў ды беларускае вайсковае арганізацыі ў справе стварэньня Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту. Абіраецца ягоны камісар, заступнік і сакратар, першыя два з БСДРП(б) і толькі апошні зь «левае» БСГ, што аднак, паводля Жылуновіча, зусім задавальняе апошнюю. Турук падае й прозьвішчы: камісар — Чарвякоў, заступнік — Скарынка, сакратар — Жылуновіч.[29] Аднак, пастанова пра стварэньне «Камісарыяту ў беларускіх нацыянальных справах», як ён афіцыйна называецца, пры Сталінавым народным камісарыяце ў справах нацыянальнасьцяў выносіцца адно 31 студзеня 1918 г., а адпаведны дэкрэт Савету народных камісараў публікуецца 2-га, а новым стылем, пераход на які якраз адбываецца тады, — 15 лютага, ад якое даты й пачынаецца само йснаваньне камісарыяту.[30]

Акт утварэньня Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, які, як і сама дзейнасьць гэтага камісарыяту, не знайшоў яшчэ адпаведнае ўвагі й ацэны ў сучаснай дасьледнай літаратуры, становіць сабой акт першараднага значаньня, будучы фактычна актам прызнаньня з боку цэнтральнага савецкага ўраду ня толькі наяўнасьці й значэннасьці беларускае нацыянальнае справы, але й самое беларускае нацыянальнасьці, Беларусі, як нацыянальнае адзінкі, якую й дарэвалюцыйны бальшавізм і мясцовы армейскі бальшавізм Заходняга фронту вызнавалі адно як адзінку тэрытары-

---

[28] Створаны дэкрэтам Савету народных камісараў РСФСР ад 20 студзеня 1918 г., апублікаваным у № 14 «Газеты Рабочего и Крестьянского Правительства», 21. 1. 1918, а таксама ў № 17 «Собрания узаконений и распоряжений Рабочего и Крестьянского Правительства», 23. 1. 1918, арт. 252, б. 261.

[29] ЗЖ-БС, б. 78; ФТ-БД, б. 42, зацемка[1]. Г. Парэчын (Ідэя беларускай дзяржаўнасьці перад утварэньнем Савецкай Беларусі, «Працы Катэдры сучаснага права Аддзелу Гуманітарных Навукаў Беларускае Акадэміі Навукаў», том I, Менск, 1929, б. 31) цытуе дэклярацыю ў справе камісарыяту, выпушчаную БСДРП(б) і левай БСГ: «Нацыянальнае пытаньне на Беларусі ў выніку асаблівасьцяў гістарычнага мінулага гэтага краю мае клясавыя падставы... Таму трэба выкарыстаць нацыянальнае пытаньне для пашырэньня й паглыбленьня клясавае барацьбы за савецкую ўладу», — тыповая нацыянал-камуністычная тэза.

[30] Акадэмія Навук БССР. Інстытут Філязофіі. Фарміраваньне й разьвіцьцё беларускай сацыялістычнай нацыі. Менск, 1958 (у далейшым ФРБСН), б. 56. Дэкрэт апублікаваны ў № 24, «Газеты Рабочего и Крестьянского Правительства», 15 (2) 2. 1918, а таксама ў № 24 «Собрания узаконений и распоряжений Рабочего и Крестьянского Правительства», 1. 3. (16 лютага) 1918, арт. 328, б. 318.

яльную, як усяго паўночна-заходнюю, ці заходнюю краіну-«вобласьць» Расеі, высьцерагаючыся нат самое характарыстыкі Беларусі, беларускага ў самых назовах сваіх арганізацыяў.[31] У постаці Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту ўтваралася першая бальшавіцкая й савецкая ўстанова з характарыстыкаю беларускае ў сваім назове й з заданьнем, найперш і прынамся, інфармацыйнай сувязі зь Беларусяй у ейным нацыянальным аспэкце, прычым пасярэднікамі ў гэтай сувязі выбіраліся беларускія нацыянал-бальшавікі із сваймі спадарожнікамі. Апошнім фактам гэтак прызнаваўся й беларускі нацыянал-бальшавізм, прытым прызнаваўся ўжо ў ролі свайго агента, адціскаючы гэтым ад такое ролі прарасейскае «абласьніцтва», што спракудзілася перад бальшавікамі ў выпадку з Усебеларускім Кангрэсам. Можна меркаваць, што й гэтае спракуджаньне й яшчэ больш — усё дазнаньне з Усебеларускім Кангрэсам наагул як з дэманстрацыяй непрадбачванай сілы беларускага нацыянальнага руху й значэннасьці беларускае нацыянальнае справы — у вялікай, калі не ў найбольшай меры заважыла на прыняцьці, хоць і не без адвалокі, пастановы савецкага ўраду аб стварэньні самога Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.

Беларускі Нацыянальны Камісарыят, чацьверты й апошні з асобных нацыянальных камісарыятаў пры Сталінавым народным камісарыяце нацыянальнасьцяў (пасьля ўспамінанага ўжо вышэй жыдоўскага й паўсталых яшчэ раней за яго, хоць і дакладна няведама калі, польскага й «літоўскага»[32]), як і ўсе гэтыя камісарыяты, напачатку меў даволі абмежаныя й асьціплыя заданьні, што й спрычыняецца да тае недаацэны яго ў сучаснай дасьледнай літаратуры, пра якую вышэй зазначалася. Заданьні гэтыя фармуляваліся наступна: «1. Інфармаваньне савецкае ўлады пра патрэбы дадзенае нацыянальнасьці. 2. Інфармаваньне нацыянальнасьцяў пра ўсе крокі й мерапрыёмствы савецкае ўлады. 3. Здавальненьне праз органы савецкае ўлады культурна-асьветных патрэбаў масаў жыхарства дадзенае нацыянальнасьці. 5. Самашырокая й масавая агітацыя й прапаганда ідэяў савецкае ўлады між масаў дадзенае нацыянальнасьці».[33] Пэўна-ж, беспасярэднюю карысьць для «дадзенае нацыянальнасьці» тут мог даць хіба адзін пункт 3, усе іншыя сачылі адно карысьць для савецкае ўлады, а «патрэбы дадзенае нацыянальнасьці» бралі адно ў пляне інфармаваньня, а не здавальненьня (як пункт 1). Аднак, сілаю ходу ўжо бліжэйшых па ўтварэньні Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту падзеяў кола заданьняў ягоных, як пабачым далей, мусіла й пашырыцца й паважнець нагэтулькі, што спачатна назначаныя агульныя заданьні пакінулі быць і адзінымі і найвызначнейшымі.

Падзеі гэтыя пачынаюцца ад таго, што ўжо менш як за тыдзень па ўтварэньні Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, бальшавізм і ягоная савецкая ўлада зусім непрадбачана для сваіх і мясцовых і цэнтральных органаў трацяць кантроль над заходняй часткай Беларусі зь Менскам улуч-

[31] Гл. БРДБ, б. б. 103-104, 121; ОИББ, б. 57.

[32] У органе Сталінавага камісарыяту нацыянальнасьцяў «Жизнь национальностей» фігуруюць яшчэ Армянскі й Латыскі камісарыяты, але ў урадавых дэкрэтах успамінку аб іх няма, тымчасам як Польскі камісарыят успамінаецца там ужо 12 сьнежня 1917 г. «Літоўскі» — 28 сьнежня 1917 г. (гл. паказанае вышэй Собрание узаконений..., № 4, б. 67 і № 12, б. 184; аднак асобных дэкрэтаў пра стварэньне іх няма).

[33] Гл. ЛЦ-ВПВБ, б. 734; ДМИБ, IV, б. 477-478, зацемка 90.

на, дзе 21 лютага 1-й Устаўной Граматай Выканальны Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу дэкрэтуе першы беларускі нацыянальны ўрад — Народны Сакратарыят Беларусі, а II-й Устаўной Граматай 9 сакавіка Беларусь дэкрэтуецца Беларускай Народнай Рэспублікай — БНР. Мала таго, узнаўленьне ваеннае актыўнасьці пагражае на Заходнім фроньце ўжо й самому йснаваньню бальшавіцкага савецкага ладу, і 21 лютага сам Ленін ня толькі падпісвае, але й сам піша алярмічны ўрадавы дэкрэт «Сацыялістычная бацькаўшчына ў небясьпецы», апошнім 8-ым, спэцыяльна падчыркненым пунктам якога «непрыяцельскія агенты» ды «контр-рэвалюцыйныя агітатары — расстрэльваюцца на месцы злачынства».[34]

У вабставінах усяго гэтага найперш прысьпешваецца далейшае збліжэньне «левае» пецярбурскае БСГ із БСДРП(б) ды адбываецца канчальнае зьліцьцё іх. Паводля Жылуновіча, «этап пераходу левае БСГ у шэрагі БСДРП(б)» адзначаецца «апошнім актам БСГ» — намаганьнем «запляміць у сваёй рэзалюцыі ад 11 сакавіка 1918 г. працу Беларускае Рады», пры чым «ня болей, як праз месяц пасьля гэтага пецярбурская арганізацыя БСГ фактычна перастала йснаваць».[35] У згаданай Жылуновічам рэзалюцыі пецярбурская БСГ «абураная палітыкаю самазваных беларускіх радаў, рэзка адлучаючы іх ад сябе й абвяшчаючы ім нящадную барацьбу», сама ня бачачы хіба «запляміла» й самую сябе, сваю кагадзешнюю мінуўшчыну, калі брала яшчэ поўны ўдзел у гэных «самазваных радах», якія цяпер абазначае гэткімі ўжо традыцыйнымі тэрмінамі чыста-бальшавіцкага жаргону зь ягоным ашальмаваньнем «самазванымі» ўсіх не ягоных арганізацыяў, а «радамі» ў множным ліку — усіх вышэйшых нацыянальных органаў, якімі на Беларусі пасьлядоўна былі Цэнтральная Рада Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў, Беларуская Вайсковая Рада, Вялікая Беларуская Рада, Рада Усебеларускага Кангрэсу й нарэшце Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, дзейная якраз у тым мамэнце. Усё гэтае «заплямленьне» завяршаецца ўрачыстай прынцыповай дэклярацыяй, што перад сваім адыходам у нябыт арганізацыя «настолькі прыймае ў сваёй праграме нацыянальны рух, наскольк ён не парушае еднасьці рэвалюцыйнага фронту й памагае хутчэйшаму вызваленьню працоўнага народу ад усякага ўціску. Няхай жыве работніча-сялянскі інтэрнацыянал!»[36]

З уліцьцём пецярбурскае БСГ у БСДРП(б) апошняя папаўняе свой пераважна работніцкі склад некатораю дамешкаю інтэлігенцыі, асабліва старых дзеячоў беларускага нацыянальнага руху, як той-жа Жылуновіч (Цішка Гартны), Я. Дыла (Назар Бываеўскі), У. Фальскі (Янка Сваяк, Янка Сьвятляк) ды інш. Але ў гэтым-жа часе VII усерасейскі зьезд бальшавіцкае партыі ў Пецярбурзе 6—8 сакавіка 1918 г. на прапанову Леніна перайменьвае гэтую партыю ў Расейскую Камуністычную Партыю (бальшавікоў) — РКП(б), пасьля чаго захаваньне характарыстыкі «сацыял-дэмакратычнай работніцкай» у назове партыі беларускіх бальшавікоў — БСДРП(б) — стаецца няпрыстойным, адно што з прыняцьцём характарыстыкі «камуністычнай» БСДРП(б) нейкім чынам траціць і свой статус асобнае партыі

[34] Устаўныя Граматы гл. у ФТ-БД, б. б. 110-112, дэкрэт Леніна — у газэце «Правда», № 32, 22. 2. 1918, перадрук у ДМИБ, IV, б. 379-380.

[35] ЗЖ-БС, б. 78.

[36] Гл. У. Ігнатоўскі. Вялікі Кастрычнік на Беларусі, «Беларусь», зборнік пад рэдакцыяй А. Сташэўскага, З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, выд. ЦВК БССР Менск, 1924, б. 203.

ды ператвараецца проста ў «Беларускую Сэкцыю РКП(б) у Пецярбургу».[37] Гісторыя не захавала ніякіх дэталяў, нат дакладнае даты «канца сакавіка», калі адбылася гэтая мэтамарфоза, можна меркаваць адно, што пад шум баравы тае «сацыялістычнае бацькаўшчыны ў небясьпецы» яна прайшла больш-менш гладка, можа нат і зусім неспасьцярожна, прынамся адразу, для самых партыйцаў, але нельга аднак думаць, каб да іхнага поўнага задавальненьня, далейшая бо гісторыя, аб якой ход наперадзе, сьветчыць пра выразнае й упорыстае імкненьне да аднаўленьня гэтага статусу праз размнажэньне «беларускіх сэкцыяў РКП(б)», зьбіраньне іх у васобную субарганізацыю ды дамаганьне ператварэньня яе ізноў у васобную беларускую камуністычную партыю.

У вабставінах гэткага паніжэньня беларускага нацыянал-бальшавізму па лініі партыйнага статусу тым большага значаньня набывае ўтварэньне Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, як вышэйшай і шырэйшай пляцоўкі для дзейнасьці, але арганізацыйны пэрыяд яго ўскладняецца й зацягваецца тымі-ж агульнымі абставінамі часу «сацыялістычнае бацькаўшчыны ў небясьпецы», тым больш, што ў разгортаньні гэтых абставінаў новаўтвораны камісарыят у канцы сакавіка мусіць перабірацца зь Пецярбургу разам з усім савецкім урадам у новую савецкую, а спрадвечную расейскую сталіцу Маскву. Дык тымчасам дзейнасьць беларускага нацыянал-бальшавізму мусіць яшчэ нейкі час ісьці па ранейшай лініі БСДРП(б) — Беларускае Сэкцыі РКП(б). Жылуновіч і Турук падаюць асноўныя факты гэтае дзейнасьці: у галіне бальшавіцкае «партыйнае работы» — арганізацыя собскае партыйнае школы, свайго «саюзу моладзі» (у Жылуновіча — «гурток сацыялістычнае моладзі»), у галіне культурна-асьветнай — арганізацыя культурна-асьветнага гуртка з сэкцыямі музычнай, драматычнай ды агульнаадукацыйнай, у галіне арганізацыйнай — удзел у арганізацыі Беларусаў-вайскоўцаў пецярбурскага гарнізону, арганізацыя матросаў-Беларусаў у Кранштаце, ліквідацыя бальшавіцкім «рэвалюцыйным парадкам» старога беларускага бежанскага камітэту й замена яго сваім у складзе Чарвякова, Усьціловіча, Лагуна, Сосны, Жылуновіча, арганізацыя «Таварыства для змаганьня проці акупацыі Польшчай і Літвой часткі Беларусі», у галіне «абароны сацыялістычнае бацькаўшчыны» — арганізацыя свайго вайсковага аддзелу для абароны Петраграду, сваіх кулямётных кароткатэрміновых курсаў, сваіх вартаў на заводах, вылучэньне 15 «надзейных» сяброў у ваддзел адмысловага прызначаньня» пры Петраградзкім камітэце РСДРП(б), камандыраваньне сваіх сяброў на пскоўскі фронт.[38]

Ды тым-жа часам беларускі нацыянальны рух у краі ўзыйшоў ужо й на свой найузвышнейшы пункт абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі III-й Устаўной Граматай 25 сакавіка 1918 г. у Менску. Яшчэ каля тыдня перад гэтым бальшавікі пачынаюць упяршыню сваё экспэрымэнтаваньне зь фіктывізацыяй ідэі нацыянальна-дзяржаўнае незалежнасьці: інсцэнізаваны імі пры дапамозе ўкраінскіх нацыянал-бальшавікоў II зьезд саветаў Украіны 17—19 сакавіка 1918 г. абвяшчае фікцыйную савецкую «незалежнасьць» Украіны. Абодвы гэтыя факты сваім сэнсам ставілі новыя задачы й адчынялі новыя пэрспэктывы й перад нашым беларускім нацыянал-бальшавізмам. Найпершай задачай, выкананьня якое, пэўна-ж, патрабавалі адразу-ж гаспадары, была контракцыя ў падкантрольных яшчэ беларускіх масах акту 25 сакавіка.

Першы голас у гэткай контракцыі падаў антыбеларускі армейскі бальшавізм Заходняга фронту, які, ачуняўшы пасьля сваіх панічных уцёкаў зь Менску й атаўбаваўшыся ўжо ў Смаленску, інсцэнізаваў там 14 красавіка свой II зьезд саветаў «Заходняй вобласьці», што быў прызначаны раней на 28 лютага й зрываны тымі ўцёкамі. Калі ўспомнены вышэй, таксама II зьезд саветаў Украіны ўжо мала ня месяц перад тым пачаў экспэрымэнтаваньне зь «незалежнасьцяй» савецкае Украіны, дык зьезд у Смаленску, не зрабіўшы яшчэ й кроку ад «Заходняе вобласьці» да Беларусі (крок гэты ня быў зроблены й аж да самага канца 1918 г.), тым ня менш прыняў адмысловую рэзалюцыю «пра контр-рэвалюцыйную палітыку Беларускае Рады». Найцікавейшае ў гэтай рэзалюцыі, сьціраванай супраць Рады БНР і абвешчанага ёю акту 25 сакавіка, што ў ёй ужо ані словам не ўспамінаецца традыцыйная датуль заснаваная Міхайлавам-Фрунзэ кваліфікацыя беларускага руху «нацыяналістычным», ато й нат зусім «шавіністычным», гаворыцца адно пра намаганьні беларускіх «буржуазных наймітаў» (у расейскім тэксьце й ужываецца гэтае беларускае слова «наймітаў» заміж аўтэнтычнага расейскага «наемников»), але ўжо не «нацыяналістых», або «шавіністых», «стварыць нацыянальную буржуазную дзяржаву пад апекаю Нямеччыны».[39] І адтады кваліфікацыя гэта на даўжэйшы час зьнікае з афіцыйных бальшавіцкіх дакумэнтаў і прапаганды наагул, замяняючыся кваліфікацыямі ў гэтым духу «найміцтва замежнай буржуазіі» ды захоўваючыся хіба адно ў дакумэнтах канфідэнцыйных, ня прызначаных для публікацыі, як справаздачы таго-ж бальшавізму «Заходняй вобласьці», або нат і Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.[40] Можна меркаваць, што ў вабставінах часу кваліфікацыя «нацыяналізмам» аказваецца больш неэфэктыўнай, а мо нат і небясьпечнай ужо сваёй магчымасьцяй якраз прыцягальнае сілы ў гэных абставінах. І толькі пад сярэдзіну 20-х год яна пачынае аднаўляцца пакрысе, спачатку ў злагодненай форме кваліфікацыі «нацыянал-дэмакратызмам» ,што толькі пад канец 20-х год набывае поўнага ранейшага зьместу кваліфікацыі «нацыяналізмам», а таксама нат фактычна ўлучае ў сябе, сумяшчаецца ў кажным разе й з тэй кваліфікацыяй «буржуазным замежным найміцтвам». Па пагромах-жа 30-х год, асабліва ў часох «яжоўшчыны», ужо ў поўным ходзе абедзьве, нязьменна бадай і спарованыя, кваліфікацыі і «нацыяналізмам» і «замежным агентурніцтвам» (пэўна-ж, «буржуазныя» і той і гэнае), і лягічная нутраная супярэчлівасьць аж да ўзаемавыключальнасьці ў гэтай спары калі й даходзіць часам да некаторых аўтараў, дык сьціроўваецца імі ня ў роўніцу крытыкі асноваў гэткае тэрміналёгіі, а зноў-такі на галовы тых-жа носьбітаў тае дзівоснае двукваліфікацыі. Гэтак, згадваны ўжо гісторык-чэкісты Цанава ў вадным месцы патэтычна лемантуе: «Яны страцілі нат фармальнае права звацца

---

[37] ФТ-БД, б. 43; ЗЖ-БС, б. 79. Паводля М. Мялешкі (З. Жылуновіч як гісторык. «Полымя», № 10, 1928, б. 201), у вадным з ранейшых сваіх пісаньняў (Арганізацыя сіл. «Полымя», № 2 за 1924 г.) «З. Жылуновіч знаёміць нас зь гісторыяй стварэньня Беларускай камуністычнай партыі, якая неўзабаве ўлілася ў РКП з правамі аўтаномнае сэкцыі»; аднак, пісаньне гэтае нам цяпер недаступнае.

[38] ЗЖ-БС, б. 79; ФТ-БД, б. 43, зацемка[2].

[39] Тэкст гл. у зборніку «Образование СССР», Москва, 1949, б. 107-108, перадрук у ДМИБ, IV, б. 389-390.

[40] Гл. цытаты зь іх у ФРБСН, б. б. 57, 58.

[41] ЛЦ-ВПВБ, б. 728.

беларускімі нацыяналістымі. Па справядлівасьці ім трэба было-б менавацца бэрлінскімі, лёнданскімі, парыскімі й да г. п. нацыяналістымі, г. зн. на ймя іхных запраўдных гаспадароў».[41]

Але зьвернемся з гэтага экскурсу-выбегу наперад да разгляданага намі гістарычнага мамэнту. Задача контракцыі дзейнасьці БНР засьпела Беларускі Нацыянальны Камісарыят яшчэ ў ягонай арганізацыйнай стадыі, ускладненай абставінамі крытычнага для саветаў часу. Па пярэбарах у Маскву ў Пецярбурзе застаецца аддзел камісарыяту начале зь Я. Лагуном і з падпораю больш прарасейскіх элемэнтаў, пераважна з былых «абласьнікоў», што не пакінулі старое сталіцы. У Маскве камісар і заступнік зь беларускіх бальшавікоў неўзабаве пакідаюць камісарыят, як відаць, змабілізаваныя на нейкі фронт, і паводля сьветчаньня Жылуновіча, «левараэсэраўскі бунт у Маскве застаў на пасадзе камісара Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту левага эсэра», пакуль нарэшце на гэтай пасадзе не ўсадавіўся зноў беларускі бальшавік, успамінаны ўжо Усьціловіч, камандыраваны зь Пецярбургу тамтэйшай беларускай сэкцыяй РКП(б).[42] Аднак, за гэты час камісарыят разгарнуў ужо практыку высыланьня сваіх эмісараў на месцы й адчыніў свае аддзелы, апрача Пецярбургу, і ў некаторых беларускіх гарадох, утрымваных яшчэ бальшавікамі, як Віцебск, Смаленск, Ворша й інш.[43] На гэтыя дзейнікі й кладзецца выкананьне тае задачы контракцыі.

З контракцыйнае дзейнасьці эмісараў Белнацкому, сьляды функцыянаваньня якіх маем ня толькі ў васяродках беларускіх уцекачоў у Расеі (як Калуга, Саратаў, Тамбоў і інш.), але й на Беларусі ды аж да Бабруйску й Меншчыны наагул, куды ўпраўляліся мець угляд «упаўнаважаныя» камісарыяту,[44] нам ведамы хіба ўсяго адзін апублікаваны дасюль дакумэнт, пры тым найранейшы ў часе — рэзалюцыя беларускіх уцекачоў з Горадзеншчыны, аселых у Казанскай губэрні, ад 23 красавіка 1918 г. Тут яшчэ ані словам не ўспамінаецца беларускае незалежніцтва й ягоныя акты, увесь «пратэст» кіруецца супраць «пераходу Беларусаў у нямецкае падданства», а галоўны націск кладзецца на пазытыўных патрабаваньнях самавызначэньня: «Адзіны беларускі народ ня можа й не павінен быць падзелены на часткі, ён павінен застацца цэлым і яму павінна быць дадзена, як і іншым народам, права вызначыць сваю долю», пры чым «для абмеркаваньня палажэньня Беларусаў мы знаходзім канечным безадкладнае скліканьне агульнабеларускага народнага сходу».[45]

З адпаведнае дзейнасьці аддзелаў Белнацкому найболыш ведамых нам публікацыяў падае на Віцебскі аддзел, як відаць, найбольш актыўны й сыстэматычны ў гэтай дзейнасьці. З публікацыяў гэтых можна даведацца, што 27 красавіка 1918 г. Віцебскі аддзел Белнацкому разаслаў па валасьцёх Віцебшчыны нейкую, дасюль, здаецца, нідзе не апублікаваную «рэляцыю за № 25» у справе контракцыі беларускаму незалежніцтву, на якую пакліканюцца ў бальшыні рэзалюцыі сялянскіх сходаў, кліканых у парадку гэтае контракцыі на працягу травеня—чырвеня 1918 г. Тэматычнае й стылістычнае падабенства ўсіх гэтых рэзалюцыяў змушае прыпусьціць, што яны

[42] ЗЖ-БС, б. 79-80.
[43] ФТ-БД, б. 43.
[44] Гл., прыкл., ЛЦ-ВПВБ, б. б. 763, 766.
[45] ДГИБ. IV, б. 391.



ўсе й выходзяць з аднаго ўзору тае-ж відаць «рэляцыі № 25». Усе яны будуюцца паводля адзінае схемы зь дзьвюх частак: «пратэсту» супраць Рады БНР (рэдка званай гэтым сваім поўным аўтэнтычным тытулам, а найчасьцей проста «Беларускай», а то й «Менскай Радай»), зьлыганай зь Нямеччынай ды разам зь ёй вінавачанай у спэкуляцыі нацыянальным самавызначэньнем і незалежнасьцяй, і — «прысягі на вернасьць» савецкай Расеі. Аднак, абедзьве гэтыя часткі нязьменна падаюцца ў тым-жа аспэкце пазытыўнага самавызначэньня, якім адзначаецца вышэйспомненая рэзалюцыя з Казанскае губэрні. У першай частцы гэты аспэкт выяўляецца ў супрацьстаўленьні апратэстоўванаму самавызначэньню «свабоднага самавызначэньня», «нашага права» ці хоць-бы «надзеі» на яго, без «умяшаньня ўсякіх прагавітых гвалтаўнікоў у нашыя надзеі, імкненьні й мэты», бо «самавызначэньне Беларусі магчымае толькі пры неўмяшаньні Немцаў». Пры ўсім гэтым «незалежнасьць» Беларусі, калі яе ўспамінаюць, дык апратэстоўваюць адно як «незалежнасьць ад Расеі й, ведама, поўную залежнасьць ад Нямеччыны» (цікавае перадухапленьне формулы з часоў другое нямецкае, гітлероўскае акупацыі), а ня самы прынцып наагул, які часам нат згадваецца, хоць даволі ймглiста, у словазлучэньні «наша незалежнасьць». У другой-жа частцы, калі запэўняецца вернасьць савецкай Расеі, дык увесь час падчыркваецца аспэкт фэдэрацыі, або саюзу зь «Вялікай Расейскай Фэдэрацыяй», чым Беларусь падразумоўваецца як нейкая адзінка дзяржаўнага парадку, праваздольная да такога саюзу ці фэдэрцыі. А ў ваднэй з апублікаваных рэзалюцыяў — Каралёўскае воласьці — гэтая адзінка й проста называецца «беларускай савецкай рэспублікай» у ня зусім зграбным стылістычна, але ясным у сваім сэньсе, заключным клічы: «Няхай жыве Беларуская Фэдэрацыйная Савецкая Рэспубліка зь вялікай свабоднай працоўнай Расеяй!»[46]

Тое, што на Віцебшчыне, адбываецца й на Магілеўшчыне, адно што публікацыяў адпаведных архіўных матар'ялаў адтуль нам тымчасам ведама менш, выразных сьветчаньняў удзелу Белнацкому ў іх няма ды наагул уся справа ўскладняецца кірункам контракцыі й супраць дамаганьняў Украінскае Дзяржавы гэтмана Скарападзкага да паўдзённае Магілеўшчыны — Гомельшчыны. Пачаткі справы тут аднак можна датаваць і раней, як на Віцебшчыне, бо ўжо 6 сакавіка 1918 г. уся Магілеўшчына магла з адмысловай адозвы Магілеўскага губэрнскага рэвалюцыйна-ваеннага камітэту даведацца пра «навіны зь Менску», як там «Беларуская Рада праявіла злосную дзейнасьць. Яна задзіночылася зь Немцамі й Палякамі (!) ды пайшла на саветы й сялянаў».[47] Зь ведамых нам магілеўскіх, аналягічных віцебскім, рэзалюцыяў пратэсту «супраць гвалту, творанага над працоўным народам імпэрыялістымі Нямеччыны й Украіны ды самазванай Беларускай Радай» (формула рэзалюцыі Хоцімскае воласьці) найцікавей сфармуляваная рэзалюцыя з Горы-Горак, грамадзяне якіх «пераканаты, што хіжацкія прапановы — ёсьць замаскаванае імкненьне Нямеччыны анэктаваць Беларусь, і адзінадушна пастанавілі выказаць сваё глыбокае абурэньне

[46] Тэксты ў ДМИБ, IV, б. б. 392-396, 403, істотныя цытаты ў ЛЦ-ВПВБ, б. б. 771-773.

[47] Великая Октябрьская Социалистическая Революция в Белоруссии. Документы и материалы. Том II. Гос. изд-во БССР, Минск, 1957 (удалейшым ВОСРБ, II), б. 912.

супраць імкненьня паняволіць дарагую нам Бацькаўшчыну ды ўрачыста шлюбуюць: «Прысягаемся ўсімі сіламі змагацца за сваю незалежнасьць...»[48]

Гэтак контракцыя беларускаму незалежніцтву ў праводжаньні яе Белнацкомам абарачаецца фактычна й акцыяй таго-ж такі незалежніцтва, толькі ў савецкім варыянце. I знаючы беларускага селяніна, ня цяжка ўявіць яго пры й па сустрэчы з прыежджым камісарам, выяўна заклапочаным, ато й напалоханым Нямеччынай, а мо больш яшчэ — таямнічай «Беларускай Радай» ды несенымі ёй, ніколі ня чутымі тут, дый не адразу ўцямнымі «самавызначэньнем» і «незалежнасьцяй», супраць якіх просяць «пратэставаць», дакляруючы за гэта нейкія свае, лепшыя, а ўсё тыя-ж «самавызначэньне» й «незалежнасьць», абы толькі «ў фэдэрацыі» . . . Прынамся трэба было нек разгледзецца й раздумацца над усім гэтым, бяручы на свой собскі здогад і додум, распытваючы ў людзей больш прачутых і абазнаных, ды зноў на свой розум бяручы й тое «самавызначэньне», і «незалежнасьць», і «фэдэрацыю», дый «Беларускую Раду», дый самую Беларусь, датуль ня вельмі каб папулярызаваную ў псэўданімнай ёй «Заходняй вобласьці». Гэтак фактычна праходзіць папулярызацыя ў беларускіх сялянскіх масах ідэяў дый падзеяў нацыянальнага самавызначэньня й незалежнасьці Беларусі, пра што бяз гэтага мо й не даведаліся-б, прынамся гэтак хутка, людзі гэтых мясьцінаў. I парадаксальна, ці не, а ўсё гэта мусіць весьціся пад савецкім сьцягам «Вялікае Расейскае Фэдэрацыі» ды ў ягонай абароне, праўда, рукамі беларускіх усё-ж трымальнікаў гэтага сьцягу (ці мо лепш — за гэты сьцяг) зь Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту.

Гэтак праводжаную акцыю Белнацком у справаздачы свайму гаспадару-наркому Сталіну ад 1 ліпеня 1918 г. уносіць ужо ў круг таго, што ён называе «асноўнай задачай дзейнасьці камісарыяту», як «барацьбу з тымі буржуазнымі арганізацыямі, якія ў даны мамэнт, дзейнічаючы заадно зь германскімі імпэрыялістымі, стараюцца заняволіць працоўныя масы Беларусі», дапаясьняючы на ўсякі выпадак гэтаму гаспадару, у духу й стылі рэжысэраваных «рэзалюцыяў зь месцаў», як гэта «менскі сакратарыят і так званая Беларуская рада, зьяўляючыся ўрадам капіталістых і памешчыкаў, зьнішчаюць адну за аднэй ня толькі заваёвы кастрычніцкай рэвалюцыі, але навет тыя правы, якія набыў працоўны народ у пачатку сакавіцкіх дзён (цікава, што ў гэтым месцы сучасны савецкі камэнтатар, каб хто, крый Божа, не падумаў пра іншыя «сакавіцкія дні», пачуваецца да абавязку расталумачыць, што «маюцца на ўвазе правы, атрыманыя ў выніку Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі». Н. Н.)» і як гэта «рада й сакратарыят уваходзяць у цесныя зносіны зь нямецкімі ўладамі й вядуць ад імя неўпаўнаважваючага іх народу перагаворы адносна абвешчаньня Беларусі самастойнай дзяржаўнай адзінкай пад пратэктаратам Германіі», гэтак празрыста сугэруючы магчымасьць такога самага — і таксама-ж «ад імя неўпаўнаважваючага народу» — пратэктарату некага іншага, абы над «самастойнай дзяржаўнай адзінкай» . . .[49]

Гэтая формула «Беларусі як самастойнай дзяржаўнай адзінкі», пэўна-ж у кантэксьце «фэдэрацыі», калі не «пратэктарату», што далей, то ўсё болей вырынае ў далейшай дзейнасьці Белнацкому, наступным і важным крокам якое стаецца скліканьне ім на 17—21 ліпеня ў Маскве Усерасейскага зьезду

[48] ДМИБ, IV, б. 398; ЛЦ-ВПВБ, б. б. 773-776.
[49] ФРБСН, б. б. 56, 57.



уцекачоў-«бежанцаў» зь Беларусі, назначанага яшчэ на 15 ліпеня й мала не папсаванага выбухам успамінанага ўжо лева-эсэраўскага паўстаньня. Зьезд гэты найперш прыймае рэзалюцыю «пра бягучы мамэнт» з традыцыйнай ужо двусустаўнай схемай, завершанай заключнымі клічамі: «Далоў насаджваную Немцамі з дапамогаю беларускіх абшарнікаў незалежнасьць! Няхай жыве адзіная, вольная, работніцка-сялянская Беларусь у цесным братнім адзіночаньні з Расейскай Савецкай Рэспублікай!» — і з характэрнай для беларускага нацыянал-камунізму тэзай: «Дэмакратычны беларускі народ даволі нацерпеўся на працягу гісторыі й ад польскіх паноў і ад расейскіх чыноўнікаў і цяпер хоча быць вольным і шчасьлівым».[50] У ваднэй жа з апошніх сваіх рэзалюцыяў — «у пытаньні пра прадстаўніцтва на будучай мірнай канфэрэнцыі народаў» — «прызнаючы, што Беларусь павінна ўвайсьці ў будучым у склад саюзу свабодных народаў на аснове аўтаномнасьці ў фэдэрацыі з Расейскай Савецкай Рэспублікай, Зьезд вызнае за канечнае, каб на будучай мірнай канфэрэнцыі народаў былі прадстаўнікі ад працоўнага беларускага народу для абароны ягоных інтарэсаў на аснове клясавага самавызначэньня».[51] Гэтак упяршыню ды аўтарытэтам цэлага зьезду Беларусаў выстаўляецца тая тэза самавызначэньня Беларусі як нацыянальнай адзінкі, якая прасоўвалася раней у рэзалюцыях сялянскіх сходаў. Тое, што гаворыцца цяпер пра «аснову аўтаномнасьці ў фэдэрацыі», выяўна выражае арыентацыю на якраз кагадзе перад тым, 10 ліпеня 1918 г., прынятую першую канстытуцыю РСФСР, у якой і фармуляваліся гэтыя асновы. Далейшае распрацоўваньне гэтае тэзы ўжо зь беспасярэднім пакліканьнем на гэную канстытуцыю й на дадзеную рэзалюцыю робіцца зьместам пасьлейшага кроку Белнацкому, аб якім гутарка яшчэ будзе, і ў гэтым найбольшае хіба гістарычнае значаньне і дадзенай рэзалюцыі і цэлага зьезду, што ня толькі прыняў яе, але й асноўны ейны матыў правёў і праз іншыя свае рэзалюцыі, патрабуючы і ў іх для Беларусі «права на фэдэрацыйную сувязь з Расейскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай» і «адданьня кіраваньня краем у рукі органаў самакіраўніцтва працоўных беларускіх масаў, г. зн. саветаў беларускіх сялянскіх і беларускіх работніцкіх дэпутатаў»[52] (націсканьне на «беларускіх» тут характэрна нацыянал-бальшавіцкае).

Але Белнацком выкарыстаў зьезд уцекачоў ня толькі для правядзеньня гэтае найважнейшае тэзы. У васобнай рэзалюцыі якраз на даклад камісара Усьціловіча, адначасна з выражэньнем падзякі й ацэны працы камісарыяту, яму прызнаваліся «ўсе правы юрыдычнае асобы, уся паўніня ўлады й упаўнаважаньня ў справах уцекачоў зь Беларусі» й патрабавалася «ўжыцьцё экстрэных захадаў да пашырэньня дзейнасьці, дасягненьня паўніні ўлады й арганізацыі на месцах аддзелаў камісарыяту».[53] Нарэшце, і на далёка не апошнім месцы ў сэньсе важнасьці, а нат на першым у самой працэдуры зьезду, ён быў выкарыстаны для ўстанаўленьня кантакту й зацікаўленьня беларускаю справай самога Леніна, якога зьезд адразу-ж абраў за свайго ганаровага старшыню (акт у тых часох яшчэ зусім ня гэткі рытуальны й аўта-

[50] «Чырвоны Шлях» (у далейшым ЧШ), № 3-4, 25. 8. 1918, Петраград, б. 26 (рэзалюцыя), б. 28-29 (рэпартаж пра зьезд).
[51] Тамсама, б. 28.
[52] Тамсама, б. 27.
[53] Тамсама, б. 28.

матычны, якім сталася абраньне «правадыра» пасьлей у сталінскіх часох) ды прасіў «ушанаваць яго сваім прыбыцьцём», заміж чаго аднак Ленін «ушанаваў» зьезд адно асабістым прыняцьцём і гутаркай з адмысловай дэлегацыяй зьезду. Паводля рэпартажу аб гэтым у органе Белнацкому, газэце «Дзяньніца», «таварыш Ленін вельмі цікавіўся беларускім пытаньнем, час ад часу пытаўся ў старшыні дэлегацыі аб усіх бакох жыцьця беларускага народу. Між іншым, таварыш Ленін спытаўся, на якой мове гавораць на зьезьдзе».[54] Апошняе пытаньне, пра адказ і далейшую рэакцыю на якое ў рэпартажы сымпматычна нічога не гаворыцца, вельмі характэрнае, калі прыгадаць, што Ленін, сьледам за Каўцкім, адзінымі адзнакамі нацыянальнасьці вызнаваў адно мову й тэрыторыю, а, з другога боку, успомніць і той факт, што каля году па тым, на VIII зьезьдзе РКП(б) 18—23 красавіка 1919 г. той-жа Ленін у вадным із сваіх найбольш антыўкраінскіх выказваньняў з прыцiскам цьвердзіў, быццам на Украіне «навет з мовай справа стаіць так, што невядома, ці масавая ўкраінская мова, ці не».[55]

Хоць запраўднае ўражаньне ад Беларусаў на Леніна й магчымыя ягоныя высновы з гэтага так і застаюцца няведамымі нам, не выглядае аднак, каб сустрэча з «правадыром» магла нек астудзіць гэных Беларусаў. Барджджэй наадварот, бо ад таго мамэнту пачынаецца кіраваньне іхных захадаў калі й не адразу беспасярэдня да Леніна, дык у кажным разе да ўзначальванага ім савецкага ўраду — Савету народных камісараў. Тутака аднак справа разьвіваецца праз некаторае «спаборніцтва» між старымі канкурэнтамі — беларускімі бальшавікамі зь Белнацкому й былымі «абласьнікамі», што, як ужо ўспаміналася, застаўшыся ў Пецярбургу, сталіся там за падпору тамтэйшага аддзелу Белнацкому. Іхная тая «падпора» відаць ужо ў некаторых дакумэнтах яшчэ з контракцыі беларускаму незалежніцтву, у Пецярбурзе, здаецца, праведзенай пазьней за іншыя асяродкі, канкрэтна — рэзалюцыі Беларусаў (пераважна матросаў Балтыцкага флёту) г. Кранштату ад 3 ліпеня 1918 г. У рэзалюцыі гэтай, побач з традыцыйным «пратэстам» — тутака сфармуляваным як «няпрызнаньне» БНР, выразна чуюцца тыпова абласьніцкія ноткі, як падчыркаваньне «неад'емнасьці» Беларусі ад Расеі, а яшчэ больш — пратэст супаць «злачынных задумаў рашчасткаваньня (расчленения) Расеі, імя якому — чорны разьдзел вялікае Расейскае Рэспублікі», ды нат дамаганьне скліканьня II Усебеларускага Кангрэсу, ад самага разгону І-га Кангрэсу тыповае для абласьнікоў (гэткага ўспаміну пра вяроўку ў хаце павешанага высьцерагаліся беларускія бальшавікі, зрэшты, у тэй-жа хаце жывучы, тую самую ідэю яны стараліся выражаць іншымі тэрмінамі, як «агульнабеларускі народны сход» у згаданай вышэй Казанскай рэзалюцыі, або нат «Усебеларускі Ўстаноўны Зьезд» у некаторых пасьлейшых дакумэнтах, аб якіх яшчэ гутарка наперадзе).

У Кранштацкай рэзалюцыі быў аднак сфармуляваны, і гэта яшчэ перад сфармуляваньнем яго ўцякацкім зьездам, пастулят Беларусі як «аўтаномнае дзяржаўнае цэласьці».[56] Неўзабаве-ж па тым зьезьдзе ў тым-жа Кранштаце

[54] «Дзяньніца», № 21, 26. 8. 1918 г., Масква (цытата ў І. Саладкова, твор, названы вышэй у зацемцы 18, б. 20).

[55] VIII съезд Российской Коммунистической Партии (большевиков). Изд-во «Коммунист», Москва-Петроград, 1919, б. 91. Пра Ленінавы пагляды на мову й нацыянальнасьць гл. НСС, б. 17, зацемка 31.

[56] ДМИБ, IV, б. 406-407.



зноў прыймаюцца 2 й 3 жніўня 1918 г. аналягічныя рэзалюцыі, а 4 жніўня ў старой, але ўжо пакінутай імі калысцы беларускіх бальшавікоў, на самым Пуцілаўскім заводзе Беларусы-работнікі яго прыймаюць рэзалюцыю, у якой выразна відаць рука абласьнікоў, асабліва ў іхным інтрыгаваньні супраць апанаванага нацыянал-бальшавікамі Белнацкому. У рэзалюцыі прызнаецца «канечнасьць перайменьня гэтак званай Зходняй вобласьці ў Беларускую», а гэтаксама стварэньня беларускага прадстаўніцтва ў Цэнтральнай Калегіі Камісарыяту ў Нацыянальных Справах» (г. зн. новага органу, які, відавочна, даваў-бы магчымасьць, стоячы над Белнацкомам, кантраляваць яго), ды дзеля гэтага пастанаўляецца «паслаць у Маскву дэлегацыю ў складзе двух чалавекаў ад Беларусаў, работнікаў Пуцілаўскага заводу, дзеля беспасярэдняга ўзбуджаньня стараньняў у вышадзначаных пытаньнях перад Саветам Народных Камісараў».[57]

На гэтыя абласьніцкія ходы Белнацком адразу-ж адказвае апрацаваным і паданым у той-жа Савет народных камісараў ды апублікаваным у друку праектам, у якім перахапляецца ськіраваная супраць яго ініцыятыва ў вадпаведным ужо беларускаму нацыянал-бальшавізму варыянце. Гэты «Праект дэкрэту пра ўтварэньне Беларускае вобласьці» прапануе дэкрэтаваньне гэткае вобласьці як «аўтаномнае палітычнае адзінкі» ў складзе РСФСР «на правах самастойнасьці ў сваім гаспадарскім і палітычна-эканамічным жыцьці» ў межах этнаграфічнае карты Беларусі ак. Карскага (з адпаведнымі зьменамі ў згодзе зь Берасьцейскаю мірнаю ўмоваю й чаканай угодаю з Украінскай Дзяржавай гэтмана Скарападзкага) ды пад часовым зьверхнім кіраўніцтвам прызначанага савецкім урадам Камісара для вобласьці. Адылі, у вадмысловай «Тлумачальнай запісцы» да праекту часовым прызнаецца й самы статус «вобласьці» — да скліканьня «Ўсебеларускага Ўстаноўнага Зьезду», аб якім успамінаецца й у самым праекце, ды на абмеркаваньне якога перадаецца ўжо справа «дзяржаўнага ладу й кіраўніцтва Беларускае Нацыянальнае Рэспублікі», як рэалізацыі права Беларусі «на ўтварэньне аўтаномна-нацыянальнай рэспублікі», што абгрунтоўваецца пакліканьнем на адпаведныя артыкулы згадванае ўжо першае канстытуцыі РСФСР. Далей «Тлумачальная запіска» паклікаецца на пастановы ўцякацкага зьезду, які тут ужо завецца проста «апошнім Беларускім Зьездам у Маскве» й рэзалюцыі якога, як і згадваныя вышэй рэзалюцыі з Кранштату й Пуцілаўскага заводу, таксама пакліканыя, залучаюцца ў копіях. Зь іншых мамэнтаў можна адзначыць згадваны ўжо характэрны нацыянал-бальшавіцкі прынцып «самакіраўніцтва . . . у васобе саветаў **беларускіх** сялянскіх (на першым месцы) і работніцкіх дэпутатаў», а таксама паўторанае і ў «Праекце» і ў «Запісцы» адмыслова агаворванае дамаганьне ліквідацыі органаў «Заходняй вобласьці» ў Смаленску як «паўсталых пры выпадковых абставінах з вайсковых арганізацыяў Заходняга фронту бяз удзелу свабоднага волявыяўленьня беларускага народу» ў парадку выпраўленьня «палітычнага ладу й кіраўніцтва Беларусі», што «ў сваёй існасьці далёкія ад таго, чым характарызуецца нацыянальная самастойнасьць, бо яна ў складзе Расейскае Савецкае Рэспублікі цяпер ня творыць нат асобнай вобласьці із сваім нацыянальным назовам, афіцыйна мянуючыся «Заходняй вобласьцяй».[58]

[57] ЧШ, цытаваны №, б. 25-26.

[58] Тамсама, б. 30-31.

13 жніўня, як выяўная рэпліка на гэты праект Белнацкому, зьяўляецца рэзалюцыя сходу Беларусаў-маракоў Балтыцкага флёту ў Петраградзе з рэкамэндацыяй, што «Саветам народных камісараў павінен быць выданы дэкрэт пра ўтварэньне беларускае вобласьці... задзіночвальным цэнтрам якое павінен стацца ў будучыні г. Полацак — гэтае старавечнае сусяроджаньне самастойнага дзяржаўнага жыцьця беларускага народу», а «часовым адміністрацыйным цэнтрам г. Смаленск». Абласьніцкая рука ў гэтай рэзалюцыі выразна відаць ня толькі ў падчыркваньні «непарыўнай і неразарвальнай сувязі» з Расеяй, але й асабліва ў пасажы пра «аднагалоснае пацьверджаньне свайго пляменнага, культурнага й гістарычнага адзінства зь вялікарускім ды маларускім народамі, што часова пераходжалымі гістарычнымі абставінамі разадзіночаныя й разлучаныя, але павінны ў недалёкай будучыні, супольнымі намаганьнямі працоўных беларускіх, маларускіх і вялікарускіх масаў узадзіночыцца й зноў узадтварыць адзіную вялікую й свабодную Расею».[59]

Нарэшце, зь ініцыятывы Пецярбускага аддзелу Белнацкому, «падпіранага» былымі абласьнікамі, 23-24 жніўня адбываецца ў Пецярбургу першая канфэрэнцыя савецкіх беларускіх партыяў і арганізацыяў. Паводля рэпартажу сучасьніка,[60] на ёй «былі прадстаўнікі ўсіх, за выняткам Смаленскага, урадавых Беларускіх Аддзелаў (г. зн. аддзелаў Белнацкому. Н. Н.), Беларусы-работнікі й Беларусы-маракі Балтыцкага флёту ў Кранштаце й Пецярбургу прыслалі поўнае прадстаўніцтва, Пецярбурская камуністычная сэкцыя Беларусаў дэлегавала на канфэрэнцыю сваё сама моцнае ядро». У першым пытаньні пра палітычны стан Беларусі й зрабіў кароткі даклад прадстаўнік гэнага ядра й Белнацкому Я. Лагун, але па ім ініцыятыва адразу-ж перайшла да не слабога, як відаць з кагадзе пададзенага пераліку, ядра й абласьнікоў. Зь іх першы, былы віцэ-старшыня Ўсебеларускага Кангрэсу, а цяпер «с. д. інтэрнацыяналісты — Беларус» А. Вазіла, пасьля выпадаў супраць «дзікой самасьційнасьці», запрапанаваў абмеркаваць пытаньне: «Чым павінна быць Беларусь?», з дакладам пра якое выступіў ведамы лідэр абласьнікоў ад пачатку й асабліва на тым Кангрэсе, Аўсей (Евсевий) Канчар. Гэта быў аднак найбольш прагрэсыўны з усіх абласьнікоў, які найбольш і прагрэсаваў у той час, сумяшчаючы зь перажыткамі абласьніцтва ўжо й прызнаньне беларускае літаратурнае мовы й шмат а шмат з таго «беларускага самасьційніцтва», да чаго ніколі не даходзіў аніводзін іншы з абласьнікоў. Дык па яговым дакладзе «канфэрэнцыя прыйшла да аднадушнае пастановы, што Беларусь павінна быць шырока-аўтаномнай дзяржаўнай адзінкай, павінна пасьля ліквідацыі сучаснага сусьветнага чаду ўвайсьці ў вялікі фэдэрацыйны Расейскі Саюз раўнапраўным сябрам». Гэтак войстрыя куты між нацыянал-бальшавізмам і абласьніцтвам у пададзеным пытаньні згладзіліся, хоць і з большым набліжэньнем да пазыцыяў апошняга, чым першага, але акцыя гэтага першага ўсё-ж даставала яшчэ адно падмацаваньне.

Вялікую ўвагу аддала канфэрэнцыя беларускай культурна-асьветнай справе. На гэтым месцы хоць каротка трэ пералічыць важнейшыя дасягненьні Белнацкому ў гэтай галіне, што, як ужо адзначалася, аднэй з усіх галінаў прадзначанай яму дзейнасьці магла даваць беспасярэднюю карысьць беларускай справе, а не саветам: у Пецярбургу — Вышэйшыя курсы беларусаведы, працоўная школа I ды II ступені (гімназія), работніцкая школа для выраслых, культурна-асьветны клюб «Беларуская хатка», беларуская публічная бібліятэка, Беларускае Вольна-Эканамічнае Таварыства, у Маскве — Беларускі Народны Унівэрсытэт, работніцкі клюб «Беларус», працоўная школа I ды II ступені, Навукова-культурнае таварыства, рыхтавальная праца да арганізацыі дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў Беларусі, у Саратаве — клюбы, школы й шмат іншага ў гэтых і іншых месцах. Разгорнутая была й ладная ў вабставінах часу выдавецкая справа: тыднёвая газэта «Дзяньніца» ў Маскве ўжо ад 1 сакавіка 1918 г. пад рэдакцыяй З. Жылуновіча (фактычны працяг выдаванай ім-жа ў 1916 г. газэты пад тым-жа назовам), двутыднёвік «Чырвоны шлях» у Пецярбургу пад рэдакцыяй былога абласьніка Вазілы, а пасьля калегіі,[61] паважны памерам літаратурны зборнік «Зажынкі», зрыхтаваны, хоць і выпушчаны пазьней «Курс беларусаведы», ня лічачы перакладной камуністычнай прапагандавай літаратуры («Радавая рэспубліка», «Восем гадзін працы», «Павукі й мухі», «Хто чым жыве» й інш.). Прызнаючы вартасьць падобных дасягненьняў, канфэрэнцыя перанесла цэнтр цяжару культурна-асьветнай працы ў роўніцу ўрахунку й прыцягненьня да яе адпаведных кадраў — найперш настаўнікаў, за імі вучнёўскае й студэнцкае моладзі, навукоўцаў. Пасьля абмеркаваньня яшчэ й уцякацкае справы, канфэрэнцыя «пастанавіла безадкладна зьвярнуцца ў Савет народных камісараў з настойлівай просьбай пра пашырэньне правоў беларускага камісарыяту», і гэтак Белнацком дастаў яшчэ адно падтрыманьне. Наагул, як відаць, на канфэрэнцыі згладзіліся ладна куты, што завайстрыліся былі між нацыянал-бальшавіцкімі й былымі абласьнікамі, і згадваны вышэй рэпартаж, нашая адзіная крыніца ў дадзеным выпадку, пад канец усяляк усхваляе выяўленыя на канфэрэнцыі «уменьне й такт» «у першай сумеснай рабоце».

Няма аднак ніякіх вестак аб якой-небудзь рэакцыі савецкага ўраду на ўсе гэтыя вышапісаныя інтэрвэнцыі й праекты зь беларускага боку, барджэй за ўсё яны апынуліся калі зусім ня «ў кошыку», дык прынамся «пад сукном», як мо «недасьпелыя», або «няпэўныя» (удзел былых абласьнікоў, спракуджаных у ваччу ўлады і гісторыяй з Усебеларускім Кангрэсам і сваім небальшавізмам, а часам і зусім антыбальшавізмам, мог быць тут толькі на некарысьць, асабліва з увагі на невялікую «пэўнасьць» і беларускіх бальшавікоў у тых-жа ваччу). Пэўна-ж, у намнажэньні колькасьці й гэтак набліжэньні ейнага «пераходу ў якасьць» яны ў канцавым выніку не маглі не адыграць свае ролі, але беспасярэдняя бязвыніковасьць іх не магла й не астуджваць да дзеяньня праз такі глухі тымчасам да беларускае справы ўрадавы савецкі канал і не зварачаць увагі да другога магчымага каналу — партыйнага, вызначальнасьць якога й для першага, урадавага, дзяржаўнага савецкага каналу не магла ня быць яснай ужо й тады, на першых яшчэ часох усяго дзеяньня бальшавіцка-савецкае сыстэмы. Хіба не без усьведамленьня гэтага й дзейнасьць беларускага нацыянал-бальшавізму выразна паварочвае на гэты канал, зварачаючыся да разбудовы свай-

[59] Тамсама, б. 25.

[60] ЧШ, № 5-6 ад 13 кастрычніка 1918 г., б.б. 6-10.

[61] Падрабязьней пра гэты тыднёвік гл. Ант. Адамовіч: Да 40-годзьдзя Купалавага антыбальшавізму. «Беларускі Зборнік», кніга 9, Інстытут Вывучэньня СССР, Мюнхэн, 1958, б. б. 69-74. Пра культурную дзейнасьць Белнацкому гл ФТ-БД, б. 43, зацемка 2.

го партыйнага грунту, занядбанага ўсё-ж з мамэнтам страты гэным нацыянал-бальшавізмам статусу асобнае партыі.

3-га лістапада 1918 г. камуністыя Белнацкому ў Маскве, што датуль станавілі толькі камуністычную фракцыю гэтага Белнацкому, на адмысловым сходзе ў ліку ўсяго 14-х іх, пастанаўляюць заснаваць маскоўскую сэкцыю РКП(б), у дадатак да адзінае датуль пецярбурскае сэкцыі, простае спадкаемніцы спачатнае БСДРП(б), абіраюць бюро гэтае сэкцыі ў складзе Лагуна, Хрэнава, Усьціловіча й Жылуновіча, а 14 лістапада сэкцыя ўжо зацьвярджаецца Прэсьненскім камітэтам РКП(б). Сьледам за маскоўскай сэкцыяй ды хіба й пад ейнымі беспасярэднімі штуршкамі засноўваюцца такія-ж беларускія сэкцыі РКП(б) ў Казані, Саратаве, Казлове, Тамбове.[62] Гэтак фактычна пачынае аджываць аснова для асобнае партыі беларускага нацыянал-бальшавізму, якою была спачатку БСДРП(б), зьведзеная пасьля да Пецярбурскае беларускае сэкцыі РКП(б) — у гэткім кірунку й ідзе далейшы развой.

Але лістапад 1918 г. нясе з сабой і большыя гістарычныя падзеі, першым і найвызначальнейшым чынам — рэвалюцыю ў Нямеччыне, што дае магчымасьць саветам ануляваць Берасьцейскую мірную ўгоду зь ёю (13 лістапада), пачаць ваенны наступ на незалежную Украіну й рыхтавацца да акупацыі й тэрыторыі-рэзыдэнцыі БНР. З пачаткам савецкага наступу на украінскім фроньце вызначна прагрэсуе й згадванае вышэй бальшавіцкае экспэрымэнтаваньне фікцыяй савецкае «дзяржаўнае незалежнасьці» Украіны — у дваццатых датах лістапада ствараецца часовы савецкі ўрад Украіны ў Курску, які 28-29 лістапада выпушчае свой «Маніфэст» — схема, за месяц і крышку паўтораная раўнаважна для Беларусі з утварэньнем таксама часовага савецкага ўраду Беларусі зь ягоным «Маніхвэстам» у Смаленску.

Першая падзея на шляху да гэтага, цяпер ужо зарысаванага ў пэрспэктыве пункту гісторыі Беларусі наагул і гісторыі беларускага нацыянал-камунізму ўпаасобку, дасюль зусім неасьветленая й, нажаль, не даецца да яснага й поўнага высьвятленьня, а мо й ніколі ня дасца. Рэч у тым, што ў лістападзе ў савецкіх сталіцах раптам зьяўляецца зь візытам адзін зь ведамых заснавальнікаў і лідэраў яшчэ БСГ, а па развале яе ў красавіку 1918 г. на асобныя партыі сацыялістых-рэвалюцыянераў (эсэраў), сацыялістых-фэдэралістых і сацыял-дэмакратаў — адзін зь лідэраў і гэтай апошняй беларускай партыі, у той мамэнт яшчэ й старшыня Віленскае Беларускае Рады ды выдатны дзеяч БНР Антон Луцкевіч. Адзіным дакумэнтальным сьветчаньнем гэтага візыту ў нашых руках толькі інтэрвію з Луцкевічам на тэму «Літва, Беларусь і Палякі ў раёне старой акупацыі» ў № 7-8 ад 30 лістапада 1918 г. згадванага вышэй петраградзкага пра-абласьніцкага двутыднёвіка «Чырвоны Шлях» з прыпіскай, у якой «рэдакцыя ўважае за свой абавязак адзначыць, што за ўвесь пэрыяд акупацыі Заходняй Беларусі А. Луцкевіч з цэлаю хэўрай сваіх паплечнікаў сама нізкім чынам падхалімнічаючы перад нямецкімі ўладамі, праводзілі палітыку «незалежнага» стварэньня «Беларускае Рэспублікі».[63]

[62] ЗЖ-БС, б. 80-81. «Жизнь национальностей» у № 3, 24. 11. 1918, б. 7, датуе ператварэньне фракцыі ў сэкцыю 17 лістапада 1918 г.

[63] ЧШ, № 7-8 ад 30 лістапада 1918 г., б.б. 9-10.



Ні пра абставіны, ні пра характар візыту Луцкевіча зь інтэрвію гэтага нічога даведацца нельга, але ад аднаго з «паплечнікаў» Луцкевіча і з БСГ і зь Беларускае сацыял-дэмакратычнае партыі гэнага часу, нябожчыка праф. В. Іваноўскага, аўтару гэтых радкоў ведама, што Луцкевіч быў запрошаны самым Ленінам дзеля перамоваў пра ўдзел яго й ягонай партыі ў беларускім савецкім «народным» урадзе, які праектавалася стварыць па поўнай савецкай акупацыі Беларусі. Перамовы гэтыя й вяліся зь Ленінам і зь беларускім бальшавіком Жылуновічам, якога сваім часам Луцкевіч вывеў у беларускага паэту Цішку Гартнага й які ўвесь час вельмі яго шанаваў, што й вытыкалася яму пры пасьлейшых бальшавіцкіх «чыстках». Цяпер справа й ішла пра стварэньне кааліцыйнага ўраду з найбольш сваяцкіх — бо-ж марксыстаўскіх — беларускіх партыяў — сацыял-дэмакратаў — значыцца, «меншавікоў» Луцкевіча й бальшавікоў Жылуновіча, у нядаўным таксама сацыял-дэмакратаў з БСДРП(б). Перамовы зусім закончаныя ня былі, але на аснове іх было ўмоўлена, што дзеячы Луцкевіцкае партыі не пакінуць Менску, дзе з надыходам савецкае акупацыі справа й будзе даведзеная да канца.

Па савецкім візыце Луцкевіча ў Радзе БНР у Менску, паводля Турука, якраз «у сувязі з рэвалюцыяй у Нямеччыне й у вабліччы насоўваньня з усходу пагрозных хмараў бальшавізму» даходзіць да кіраўніцтва кааліцыя сацыялістычных партыяў Рады на чале з Луцкевіцкімі сацыял-дэмакратамі й зь ім самым у якасьці прэм'ера й міністра замежных справаў ды ягонымі аднапартыйнымі на рэпрэзэнтацыйных становішчах (праф. В. Іваноўскі — міністар народнае асьветы, А. Смоліч — міністар землярobства, у прэзыдыуме Рады старшыня Я. Лёсік, А. Уласаў, А. Смоліч — тры зь пяцёх прэзыдыуму) — пазыцыя, вельмі выгодная для пераходу ў «лявейшую» кааліцыю на савецкім грунце. Адначасна, як запасны выхад «на ўсякі выпадак», асабліва з пагляду на няпэўнасьць справы з бальшавікамі, ужо й тады добра знанымі з гэтага боку, той-жа Луцкевіч праз старшыняваную ім Віленскую Беларускую Раду вядзе перамовы з г. зв. Літоўскай Тарыбай, салідарнасьць якое зь Віленскай Радай супраць Палякоў ён пазытыўна адзначаў у згаданым вышэй сваім петраградзкім інтэрвію. Перамовы закончаюцца 27 лістапада ўваходам у Тарыбу 6-х сяброў Віленскае Рады з прызначэньнем ад 1 сьнежня на адмысловага міністра беларускіх справаў у ўрадзе Тарыбы Я. Варонкі, міністра нацыянальных справаў ураду Луцкевіча, але не сябра ягонай сацыял-дэмакратычнай партыі.[64]

Вэрсія праф. Іваноўскага дае добрае выясьненьне факту зьяўленьня Луцкевіча на савецкай тэрыторыі — запраўды, ягонае прыбыцьцё туды праз лінію фронту й публічнае фігураваньне яго (хоць-бы як у тым інтэрвію) у савецкіх сталіцах пры ягоным рэнамэ, таксама публічна выткнутым у тэй прыпісцы да інтэрвію, магло быць магчымым адно пры запросіне й гарантыі асабістае бясьпекі з боку вышэйшага савецкага аўтарытэту, якім на

[64] ФТ-БД, б.б. 47, 122. Сфармаваньне ўраду А. Луцкевіча гэтак прыхільна камэнтавалася ў органе Сталінавага камісарыяту «Жизнь национальностей», № 5 8. 12. 1918: «Пад ціскам дэмакратычных элемэнтаў і ў сувязі з агульнай зьменай надвор'я на апошняй сэсіі Рады пастаноўлена сфармаваць аднародна сацыялістычны Народны Сакратарыят. Складаньне яго даручанае Антону Луцкевічу сацыял-дэмакрату, старому беларускаму дзеячу, ведамаму яшчэ ад 1900 году» яшчэ больш цікавы ўспамінак у канцы, што «пры ачышчэньні Менску Немцамі... левая частка Рады застаецца ў Менску».

тую пару мог быць мала хто іншы, апрача Леніна. Нявыясьненым аднак застаецца, як Ленін і Луцкевіч знайшлі адзін аднаго, якое месца ў гэтым знаходжаньні Жылуновіча, ад каго з гэтых трох выходзіла першая ініцыятыва, якія яшчэ былі пасярэднікі, калі былі. Пытаньні гэтыя мо й назаўсёды застануцца без адказу, але гэты адказ і ня йстотны для моцы самое вэрсіі, што знаходзіць сабе ці адно падмацаваньне, як пабачым далей, у наступным ходзе падзеяў.

Савецкія дасьледнікі падаюць яшчэ адзін факт, які таксама можна ставіць у сувязь з вэрсіяй праф. Іваноўскага: аказваецца, «у пачатку лістапада 1918 г., калі паступілі зьвесткі аб тым, што пачалася рэвалюцыя ў Германіі», Ленін меў гутарку з галавой бальшавізму Заходняга фронту й «вобласьці» Мясьніковам і «даў канкрэтныя ўказаньні аб тым, як .... прадоўжыць падрыхтоўчую работу па стварэньню беларускай савецкай дзяржаўнасьці».[65] Гэтая гутарка магла адбыцца пасьля, а мо й разам з гутаркамі з Луцкевічам і Жылуновічам, нат мо пры ўдзеле іх ці аднаго зь іх, а мо й не, мо й бязь ведамага Мясьнікова аб іншых гутарках. Ізноў пытаньні без адказу, але й ізноў адказ для моцы самое вэрсіі ня йстотны.

Нарэшце, у сувязі з вэрсіяй праф. Іваноўскага можа быць і той факт, што толькі 27 лістапада адбылося першае паседжаньне бюро, або камітэту маскоўскае Беларускае сэкцыі РКП(б), абранага яшчэ 3 лістапада, а зацьверджанага ўжо 14 лістапада. На паседжаньні гэтым найперш абіраецца прэзыдыум камітэту сэкцыі ў складзе старшыні З. Жылуновіча, таварыша старшыні П. Клыша, сакратара З. Чарнушэвіча й скарбніка Я. Дылы.[66] Ад гэтага мамэнту й на пару месяцаў абраны тут за старшыню Жылуновіч стаецца прызнаным лідэрам беларускага нацыянал-бальшавізму. Можна меркаваць, што й на гэтым узвышэньні Жылуновіча мог заважыць ягоны ўдзел і вага ў развоі, падаваным у вэрсіі праф. Іваноўскага, хоць, пэўна-ж, ужо й на гэтым апошнім нат павінны былі вызначальна цяжыць у канцавым выніку найбольш асабістыя якасьці, а такая зь іх, поўнасьцяй супрацьлежная тэй якасьці, якую мы адзначылі вышэй у сваім месцы ў Чарвякова як вялікую людзкую сьціпласьць, — вялізарная якраз асабістая нясьціпласьць Жылуновіча з выразнай тэндэнцыяй і да ўстанаўленьня таго «культу» собскае асобы (дармо, што выявіцца ёй аказаліся магчымасьці адно ў галіне літаратуры) — магла стаць у прыгодзе да адсоўваньня гэтай асобай на некаторы час на задні плян сьціплае постаці гістарычна першага лідэра беларускага нацыянал-камунізму.

На паседжаньні 27 лістапада пастанаўляецца склікаць зьезд усіх ужо паўсталых беларускіх сэкцыяў РКП(б) з выразнай пэрспэктывай задзіночаньня й ператварэньня іх ізноў у васобную партыю, г. зн. адтварэньня калішняе БСДРП(б), дзеля рыхтаваньня чаго высылаюцца эмісары ня толькі ў Петраград (лідэры Жылуновіч і Чарвякоў) ды іншыя гарады Расеі — Саратаў, Тамбоў і інш. (А. Дзедзя), але й на Беларусь (П. Клыш, В. Майзель). Тут-жа абіраецца тройка з Фальскага, Няцецкага й Клыша ў справе рэарганізацыі Белнацкому й дэлегацыя да Сталіна ў складзе Дылы, Няцецкага й Чарнушэвіча — абедзьве рэчы ў выразнай сувязі зь ператварэньнем Белнацкому ў «першую ячэйку беларускае савецкае дзяржаўнасьці», паводля Жылуновіча, што прывязвае гэткае ператварэньне якраз да гэтага

[65] І. Саладкоў, артыкул, названы вышэй у зацемцы 18, б. 20.
[66] ЗЖ-БС, б. 81.



часу.[67] Ад гэтага паседжаньня наагул ужо зусім выразнымі стаюцца наяўныя й раней дзьве асноўныя сьціраванасьці беларускага нацыянал-камунізму ў ягонай першай фармацыі — да стварэньня нацыянальнае камуністычнае партыі й да сфармаваньня беларускае савецкае «дзяржавы», чаму нашую формулу гэтае фармацыі пара цяпер канчальна дапоўніць, азначыўшы дадзеную фармацыю як **беларускі бежанскі нацыянал-бальшавізм эсдэкаўскага паходжаньня, пераважна работніцкага складу й нацыянальна-партыйніцкае ды савецка-дзяржаўніцкае сьціраванасьці.**

Цьверджаньне Жылуновіча пра «першую ячэйку беларускае савецкае дзяржаўнасьці», выказанае напярэдадні 10-х угодкаў абвешчаньня БССР, адразу-ж сустрэла энэргічнае пярэчаньне з боку тагачаснага бальшавіцкага проконсула Беларусі, першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Кнорына, што кар'еру сваю пачынаў якраз у армейскім бальшавізьме Заходняга фронту й браў хоць яшчэ й ня вызначны, але вельмі блізкі ўдзел у падзеях гэных часоў з тым абвешчаньнем БССР улучна. Тэарэтычнае абгрунтаваньне пярэчаньня Кнорына тыповае для бальшавіцкага дагматызму, паводля якога факты ня могуць падважваць догмы й «тым горш» для іх, калі яны бываюць гэткія: прызнаць бо праўду Жылуновічу — «гэта азначала-б прызнаць, што агалашэньне БССР нашай партыі было навязана сілай, якая йшла ад нацыянальна-рэвалюцыйнага руху. Гэта азначала-б даць перавагу інтэлігенцыі перад рабочымі й сялянамі».[68] Каб не спракудзіцца аж гэтак перад догмаю няўгіннае перад ніякімі сіламі абсалютавае «партыі» й непераўзыйнасьці абстрактных «рабочых і сялян», ужо нельга надаваць тэй «ячэйцы» ролі, большае, як толькі «папершае, у мабілізацыі й падрыхтоўцы кадраў зь беларускіх уцекачоў і інтэлігенцыі для працы ў БССР, без чаго вырашэньне нацыянальнага пытаньня й утварэньне БССР было-б ускладнена; падругое, у арыентыроўцы беларускіх нацыянальна-рэвалюцыйных кадраў і нацыяналістычна-настроеных рабочых і сялян уцекачоў на БССР і бальшавіцкую партыю, і, патрэйцяе, — у націску на смаленскія арганізацыі, іншы раз недаацэньваючыя нацыянальнага пытаньня».[69]

У гэтым кнорынавым трэйцім — найбольшае абніжэньне запраўднае ролі беларускага нацыянал-бальшавізму гвалтам над фактамі. Пэўна-ж, чыста псыхалягічна зусім зразумела для Кнорына, удзельніка тых смаленскіх арганізацыяў бальшавізму Заходняга фронту й «вобласьці», «патрыятычна» ў дачыненьні да іх высоўваць іх на першы плян, недацягненьні да якога толькі «іншы раз» (калі на самой-жа рэчы — скрозь) маглі выраўноўвацца «націскам» на іх (і, пэўна-ж, не з гары, а хіба з боку). Тым-жа часам факты, ужо паданыя й далей яшчэ падаваныя намі, сьветчаць, што той «націск» беларускіх бальшавікоў зусім разумна кіраваўся імі не на тыя, казаў той, ногі, а яшчэ лепш — боты (дый яшчэ салдацкія) бальшавізму, пастаўленыя на тэрыторыі Беларусі ў Смаленску, а на самую ягоную маскоўскую Ленінскую (дый Сталінскую) галаву, а ўжо гэтая «націскала» сваёй камандаю на гэтыя ногі-боты — «націск», калі й быў, дык ішоў праз галаву на ногі. Пэўна-ж, надаваньне гэнай «галаве» годнасьці вылучнага «тварца савецкае беларускае дзяржаўнасьці» зь першым і апошнім словам у гэтым «тва-

[67] Тамсама, б. 82.
[68] В. Кнорын. Да гісторыі дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі. «Полымя», № I за 1929 г. (у далейшым ВК-ГДПБ), б. 92.
[69] Тамсама, б. 93-94.

рэньні», што запанавала ў савецкай літаратуры па ліквідацыі й кнорынаў, толькі цяпер пакрысе «рэгабілітоўваных», таксама мала адпавядае гістарычнай запраўднасьці, паводля якое ў «тварэньні» тым ініцыятыўная й «нацыскальная» роля мусіць застацца за беларускімі бальшавікамі, апошняе пастаноўнае, ды ня вельмі-ж каб ахвотнае й пасьпешнае, а папраўдзе вымушанае слова — за галовамі маскоўскага цэнтру — за Ленінам і больш беспасярэдня Сталінам, як наркомам нацыянальнасьцяў, а смаленскім «заходнікам» з Кнорынам і інш. у іхных шарох прыпадае хіба адно роля тормазу, пакрысе спушчанага пад тым «націскам» з гары шофэрскага сядзеньня, на заселых на якім кіраўцоў ня спыняўся «націск» і з боку і, галоўнае, зь нізу.

Гэты-ж апошні «націск» зь нізу — ад самых масаў, рухавых сілаў гісторыі таго часу, і вызначаў у канцавым выніку ўсё, і той-жа Кнорын пакінуў найвартасьнейшыя прызнаньні й сьветчаньні гэтага, зробленыя ў маманты, калі ня трэ было, ці не даводзілася азірацца на догму. У гэтых-жа сьветчаньнях, на якія часта й слушна паклікаюцца нашыя дасьледнікі, ня толькі тлумачэньне «выкіданьня за борт старое адміністрацыйнае назвы Паўночна-Заходняга краю й пераходу да названьня краю беларускім» павіннасьцяй-мусам партыі «дамагчыся мабілізацыі яшчэ дадатковых кадраў супраць акупацыі, за савецкую ўладу»,[70] — але й найважнейшае прызнаньне «пэрыяду нямецкае акупацыі» 1918 г. «пэрыядам успрыйманьня масамі ідэі беларускае незалежнасьці», што сьхіляла партыю «да думкі аб патрэбе неадкладнага ўтварэньня Беларускай Рэспублікі» з тым, «каб набыць уплыў на масы, якія йшлі за буржуазнымі нацыяналістамі».[71] А гэта-ж і прызнаньні тэй, супярэчнай догме й дзеля таго неахвоча прызнаванай, сілы нацыянальнага руху, перад якой даводзілася калі ня ўгінацца, дык усё-ж нек выгінацца-выкручвацца й самой няўгіннай «партыі», — тае «ўдзельнае вагі» яго, якую мусіў прызнаць і сам Сталін — хоць і задняю датай, як і Кнорын (і, дарэчы, нат у тым самым 1924 г.)[72] Але-ж, выходзіла гэтак, што беларускі нацыянальны рух, сутыкаючыся з бальшавізмам усё на тымжа полі змаганьня за ўплыў на масы, змушаў цяпер гэты бальшавізм брацца за тую-ж зброю «нацыяналізму», якую асуджаў у гэтым руху, падобна як раней, напачатку, у бальшавіцкіх падозраньнях рух гэты апэраваў зброяю «сацыялізму» толькі дзеля тае-ж мэты заваяваньня масаў.

Але зьвярнемся ізноў да перапыненага выкладу падзеяў. 10 сьнежня 1918 г. Менск ізноў вярнуўся пад савецкую вайсковую акупацыю. Каб не апыніцца пад ёю, яго пакінулі ўсе сябры Рады БНР, за выняткам аднак сяброў Луцкевіцкае партыі сацыял-дэмакратаў — старшыні Рады Я. Лёсіка, а таксама й А. Уласава, А. Смоліча, праф. В. Іваноўскага, А. Прушынскага (Алеся Гаруна) ды інш.[73] Дармо, што ўжо ў загадзе Менскага губэрскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэту ад 10-ж сьнежня «ўрад беларускіх абшарнікаў і капіталістых — «Беларуская Рада» — абвяшчаецца зьнепасаджанай і разьвязанай» ды «ўсе сябры гэтага ўраду падлягаюць арышту й безадкладнаму пераданьню ў рукі ваенна-рэвалюцыйнага камітэту», а пасьля,

[70] Тамсама, б. 93.
[71] В. Кнорын. Камуністычная партыя на Беларусі. «Беларусь», (гл. вышэй зацемку 36), б. 219, 220.
[72] Гл. НСС, б. 11.
[73] ФТ-БД, б. 47.



у пункце 3 «Маніхвэсту» пра ўтварэньне БССР таксама «прадажная «Беларуская Рада» зь ейнымі так званымі «народнымі міністрамі» абвяшчаецца вонках закону»[74] менаваных вышэй сяброў і міністраў сацыя-дэмакратаў ніхто й не зачапіў праз увесь час тае раты савецкае акупацыі. Усё гэта, пэўна-ж, толькі ў падмацаваньне вэрсіі праф. Іваноўскага — ня прыняўшы яе, фактычна цяжка знайсьці іншае тлумачэньне гэткага захоўваньня і самых гэных сяброў і ў дачыненьні да іх.

Першыя бальшавіцкія акупанты Менску на чале з узначаленым І. Рэйнгольдам «Менскім губэрскім ваенна-рэвалюцыйным камітэтам» — тым самым, што выдаў гэны загад пра «зьнепасаджаньне й разьвязаньне» Рады БНР ды арышт ейных сяброў, а пасланы быў у Менск із Смаленску тамтэйшым «Паўночна-Заходнім Абласным Камітэтам» — адразу-ж перакаваліся ў тым «успрыняцьці масамі ідэі беларускае незалежнасьці», пра якое пасьлей пісаў Кнорын: ужо 12 сьнежня на нарадзе зь сялянскімі дэпутатамі Менскае губэрні яны мусілі пачаць спробы нэўтралізацыі гэнае ідэі пастулятамі «савецкае беларускае дзяржаўнасьці». І сам той Рэйнгольд, у недалёкім зусім мінулым сваім «вялікадзяржаўны шавіністы» ды, значыцца, вораг усякіх нат экспэрымэнтаў з нацыянальным самавызначэньнем, цяпер ня толькі прыходзіць да высnаву пра канечнасьць супрацьставіць «буржуазнай белагвардзейскай дзяржаўнасьці савецкую беларускую», але й спрабуе ўтлумачыць гэта свайму смаленскаму начальству з таго Абласнога Камітэту, а дзеля поўнае бязвынікавасьці, мусіць таксама «націскаць» на яго праз «галаву» самое Масквы: «Нажаль, А. К., адарваны ад пытаньняў беларускае рэчаіснасьці, адхіліў тады гэту прапанову й гэтак прымусіў Рэўком зрабіць апэляцыю Маскве да старшыні Ўсерасейскага ЦВК т. Сьвярдлова», — успамінае ён пасьля, тут-жа даючы й вельмі вартаснае сьветчаньне пра непаддаўкосьць гэнага смаленскага «тормаза»: «Самой партыі, правільней, яе кіраўнічым органам, ледзь удалося ўпэўніць АК у канечнасьці самавызначэньня Беларусі».[75]

Але-ж, ужо 8 сьнежня 1918 г., калі пад савецкім кантролем ня было яшчэ ані лапіка лятувіскай этнаграфічнай тэрыторыі, у беларускім Дзьвінску ствараецца «часовы ўрад Савецкае Літвы», які 16 сьнежня выпушчае свой «Маніфэст», за якім 17 сьнежня йдзе такі-ж маніфэст і Савецкай Лацьвіі — ведамая ўжо з саветызацыі Украіны схема паўтараецца па другі бок Беларусі нат з выкарыстаньнем ейнае тэрыторыі, а справа «савецкае беларускае дзяржаўнасьці» ўсё пад гэным тормазам. 15 сьнежня ў Маскве, паводля Жылуновіча, адбываецца агульны сход беларускае сэкцыі РКП(б), на якім найперш дэлегацыя, што наведала Сталіна на папярэднюю пастанову камітэту сэкцыі, інфармуе пра гэтыя наведзіны. Хоць Жылуновіч ка-

[74] Загад быў апублікаваны ў газэце «Минский Голос», № 2917, 10. 12. 1918, перадрук у ДМИБ, IV, б. 429, «Маніхвэст» гл. у зборніку «Кастрычнік на Беларусі», улажыў С. Агурскі, выпуск І, Менск, 1927 (у далейшым КБ-СА), б. 495-461 (у спэцыфічнай беларушчыне «Маніхвэсту» зацытаваная тутака мясьцінка на б. 460 гучыць гэтак: «Прадаўнічая буржуйная Беларуская Рада зь яе так прызыванымі «народнымі міністрамі» абвяшчаецца безабаронnай законамі»).
[75] І. Рэйнгольд. Узьнікненьне Савецкай Беларусі. КБ-СА, б. 278-279 (і пацьверджаньне Кнорынам на б. 286). Пра «вялікадзяржаўны шавінізм» групы Рэйнгольда піша Е. Бугаеў у кнізе Узьнікненьне бальшавіцкіх арганізацый і ўтварэньне Кампартыі Беларусі, Менск, 1959 (гл. рэцэнзію на яе — Навуковае дасьледваньне па гісторыі Кампартыі Беларусі. «Камуніст Беларусі», № 1 за студзень 1960 г., б. 85).

жа адно пра «вялікае ўражаньне» ад гэтае інфармацыі й нічога пра ейны зьмест, але з далейшага ходу й гэтага паседжаньня й падзеяў наагул выглядае, што Сталін няйначай як кіраваў беларускіх бальшавікоў да «каардынацыі» з смаленскімі «паўночна-заходнікамі». Спробы гэткае «каардынацыі», або й «націску», здаецца, ці ня першыя й адзіныя з боку беларускіх бальшавікоў, праваліліся якраз нядаўна перад тым, калі ў сувязі зь перайменьнем кіраванае «паўночна-заходнікамі» з Смаленску адміністрацыйнае адзінкі «Заходняе вобласьці» ў маднейшую на той час «камуну» 13 лістапада 1918 г. да іх езьдзіў ад Белнацкому Лагун з мэмарандумам, каб заадно пры нагодзе перайменіць і «Заходнюю» на «Беларускую», ды надарма. Аднак Жылуновіч выяўна задняю датаю цяпер зазначае, быццам Лагунова незадача ўсё-ж «не пазбаўляла надзеі» на магчымасьць паразуменьня з Смаленскам. Так ці накш, а паразумявацца — «каардынавацца» зь ім цяпер, відаць, быў ужо мус, калі ня просты загад, і сход пасьпешна дэлегуе сваіх сяброў П. Клыша й З. Чарнушэвіча ў Смаленск дзеля гаворак у сувязі з назначанай там чарговай партыйнай канфэрэнцыяй «Паўночна-Заходняга» камітэту, а таксама, па адмысловым дакладзе Жылуновіча, прысьпешвае й скліканьне свае собскае канфэрэнцыі беларускіх сэкцыяў РКП(б) у Маскве, на якую абірае ўжо й сваю дэлегацыю (Чарвякоў, Дыла, Няцецкі, Рыбак, апрача, пэўна-ж, сяброў бюро).

Гэтак ізноў на дарозе беларускіх бальшавікоў неабмінна зьяўляюцца старыя знаёмыя й супараты — смаленскія цяпер ужо «паўночна-заходнікі», ліквідацыі ўлады й «Заходняе вобласьці» якіх дамагаўся нядаўна ў сваіх праектах Белнацком, — у недалёкім сваім мінулым тыя-ж разганятаі Ўсебеларускага Кангрэсу, якім у незадоўгай будучыні судзіцца, па разнабаковай «каардынацыі», калі не канчальна разагнаць, дык у кажным разе загнаць у падспудзьдзе ўсю першую фармацыю беларускага нацыянал-камунізму. А тым-жа самым часам, і даволі сымптаматычна, на гэтай дарозе вынікаюць — праўда, каб зараз-жа й зьнікнуць, мусаў да «каардынацыі» цяперака тут ніякіх няма — і другія даўныя знаёмыя й канкурэнты — былыя «абласьнікі», згадваны ўжо лідэр якіх Канчар якраз прыбывае зь Пецярбургу ў Маскву й зварачваецца да Жылуновіча з прапановай супольнай інтэрвэнцыі да Леніна ў справе скліканьня таго-ж абласьнікамі гэтак лятучонага II Усебеларускага Кангрэсу; высьняецца пры гэтым і змова Канчара зь ідэйным абласьнікам, але партыйным камуністым, а паводля Жылуновіча й наагул авантурыстым, тагачасным кіраўніком Петраградзкага аддзелу Белнацкому Каўшылам, які якраз у сувязі з гэтым раптам выяжджаў на Беларусь. Жылуновіч адразу-ж падае пра ўсё гэта на чарговым паседжаньні бюро маскоўскае сэкцыі, дзе асуджаецца «злачынны сэпаратыстычны выступ» Канчара (у сваіх успамінах Жылуновіч празрыста зашыфроўвае яго ініцыяламі Е. К.) ды пастанаўляецца выклікаць у Маскву Каўшылу для вытлумачэньня ім ягоных ходаў. На тым самым паседжаньні абмяркоўваецца атрыманая з Смаленску тэлеграма ад высланага туды эмісара Клыша — пра характар зьместу яе, бліжэй не паданага Жылуновічам, можна меркаваць толькі з пастановы, прынятае пра яе на паседжаньні й паданае ў Жылуновіча: «Прыняць гэта да ведама, а таксама прыняць меры да хутчэйшай адпраўкі ў Менск магчыма большага ліку актыўных працаўнікоў». З таго-ж яшчэ, што Жылуновіч называе ўсё тое паседжаньне 18 сьнежня «гістарычным», матывуючы тым, што яно было апошняе перад



канфэрэнцыяй сэкцыяў, можна меркаваць, што на паседжаньні гэным і была канчальна прынятая й навага да хуткага займаньня пазыцыяў і дзеяньня ды асноўная стратэгія ў гэтым, рэалізацыя якое мусіла пачацца й ткі пачалася ўжо на тэй канфэрэнцыі.[76]

Канфэрэнцыя беларускіх сэкцыяў, прызначаная на 20, але пачатая дзеля тэхнічных няўвязак адно 21 сьнежня, працягнулася аж па 23; Жылуновіч апісаў яе даволі падрабязна на аснове ня толькі памяці, але й пратаколаў, якія меў у сябе тады. На канфэрэнцыі былі прадстаўленыя 6 беларускіх сэкцыяў РКП(б) — маскоўская, пецярбурская, саратаўская, тамбоўская, менская й невельская, ўсяго 20-ма дэлегатамі. Па рытуальных вітаньнях Леніна, Сталіна, Усерасейскага ЦВК (не бяз выразных дамовак да справы тае «беларускае савецкае дзяржаўнасьці») і Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету ды абраньня прэзыдыюму ў складзе старшыні Жылуновіча, таварыша старшыні Усьціловіча ды сакратароў Блізьнюка й Чарнушэвіча, быў прыняты парадак абрадаў, падаваны Жылуновічам, паводля якога 4-е пытаньне гэтага парадку — «пытаньне пра стварэньне ўраду на Беларусі стаяла ў асяродку ўвагі канфэрэнцыі, і першыя пытаньні былі пралёгам да яго», пры чым у «пралёгу» гэным былі інфармацыі з цэнтру й месцаў, агляды палітычнае працы й палажэньня ды тэарэтычная дыскусія пра нацыянальнае пытаньне.[77]

Дзеля важнасьці й цэнтральнасьці пытаньня пра ўрад Жылуновіч падрабязна падае прабег абмеркаваньня яго, адкуль найперш даведваемся пра самое зьяўленьне гэтага пытаньня «ў выніку перамоваў Каўшылы» ў Смаленску, пра якія ўспаміналася вышэй — выглядае гэтак, што той абласьнік-камуністы-авантурысты ўправіўся-ткі забегчы наперад ды нек прадзначыць прабег тае «каардынацыі» з Смаленскам, да якое кіраваў Сталін. З самога абмеркаваньня найцікавейшы бадай выступ Няцецкага, паводля якога «стварэньне работніцка-сялянскага ўраду на Беларусі» канечнае як «вельмі вялікі козыр у руках савецкае ўлады» супраць «міжнароднага саюзнага імпэрыялізму» — вонкава-палітычны бок пытаньня ў бальшавіцкім трактаваньні тут ухоплены як найлепш. Жылуновіч падае поўнасьцяй і рэзалюцыю канфэрэнцыі пра канечнасьць стварэньня «моцнага ўраду», адна мясьціна якое цікавая ў сувязі з паданай вышэй вэрсіяй праф. Іваноўскага — гэта перасьцярога, што «тыя, што засталіся там (на Беларусі, Н. Н.), — легальныя прадстаўнікі сацыял-згодніцкіх нацыяналістычна-шавіністычных партыяў — стараюцца як мага выкарыстаць спагаднае для іх пакуль становішча», але ў будучыні бач лёгка могуць «зьмяніць арыентацыю» з пранямецкае на нейкую іншую, ды ўсёдна «імпэрыялістычную», дык таму, выглядае, небясьпечныя. У сьвятле бліжэйшых і далейшых выпадкаў нельга аднак бачыць тут чагось іншага й большага за апраўданьне сваіх няспыняных крокаў да завяршэньня пачатае справы ўрадавае кааліцыі з гэнымі «згоднікамі» — «спагадным для іх становішчам» пры пэўнай «самастрахоўцы» ці «перастрахоўцы» на ўсякі выпадак, нялішняй у бальшавіцкіх аб-

---

[76] ЗЖ-БС, б. 82-84. Тэксты «маніфэстаў» гл. у «Жизнь национальностей» (Літвы й Лацьвіі ў № 7, 22. 12. 1918, б. 1-2, найпершы «маніфэст» — Украіны — у № 4, 1. 12. 1918, б. 1-2). Пастанову пра Заходнюю Камуну гл. у КБ-СА, б. 456-457. Пра Каўшылу гл. у артыкуле, названым вышэй у зацемцы 61, б. б. 71-72.

[77] ЗЖ-БС, б. б. 85-86, 87, 88. Паведамленьне пра склік канфэрэнцыі гл. у «Жизнь национальностей», № 7, 22. 12. 1918, б. 7, пра адчыненьне — № 8, 29. 12 1918, б. 7.

ставінах ужо й тады, а таксама забясьпечаньне й абгрунтаваньне магчымасьці адбору найадпавяднейшых і «найзгаднейшых», калі ўжо «згоднікаў», сабе для тае кааліцыі. Тым больш, што якраз у тым мамэньце, паводля органу Сталінавага камісарыяту нацыянальнасьцяў «Жизнь национальностей», «усе расейскія газэты абляцела сэнсацыйная тэлеграма «Роста» пра тое, што ў Маскву выяжджае дэлегацыя Беларускае Рады, якая мерыцца дамагчыся ў камісарыяце замежных справаў разьвязаньня беларускага пытаньня савецкім урадам». Сэнсацыя гэная, узятая, як відаць, з паведамленьня віленскае расейскае газэты «Виленские новости», паданага й у папярэднім нумары сталінавага органу, найбаржджэй так і засталася тыповай газэтнай сэнсацыяй — «качкай», выкарыстанай бальшавікамі адно прапагандна супраць Рады БНР, але нялішне адзначыць, што ў складзе названай у ёй «дэлегацыі» — Зямкевіч, Нямковіч, Карач — ня было ніводнага із знаных Луцкевіцкіх сацыял-дэмакратаў, дык сувязі із справаю кааліцыі зь імі тут не магло быць, але другі бок тае меркаванае кааліцыі — нашых беларускіх бальшавікоў — і гэткія «качкі» не маглі не насьцярожваць, аднначасна й паднадзейваючы ў вабставінах мамэнту.[78]

Далей канфэрэнцыя абмяркоўвала пытаньне пра стварэньне беларускае чырвонае арміі. Вайсковая справа для беларускага бальшавізму, як зрэшты й для беларускага руху наагул, усьцяж была вельмі непамыснай, хоць і займала паважнае месца ў савецка-дзяржаўніцкай сьціраванасьці першае фармацыі беларускага нацыянал-камунізму. Па бальшавіцкім баку яе ставіў яшчэ на пачатку сьнежня 1917 г. адзіны Беларус сярод камісараў «Заходняе вобласьці й фронту» Муха, бязвынікова «просячы», «як Беларус з нацыянальнасьці», «падтрымаць Беларусаў у арганізацыі сваіх палкоў для абароны інтарэсаў Беларускага краю» ды патрабуючы «паставіць пытаньне аднолькава для ўсіх нацыяў: ім усім дазволіць фармаваньне нацыянальных палкоў, або нікому».[79] Паводля сьветчаньняў Жылуновіча, пытаньне гэтае ставілася й на маскоўскай сэкцыі і 27 лістапада, калі аднак яшчэ ніякае пастановы ня было прынята, і на тым «гістарычным» паседжаньні 18 сьнежня, калі ўжо была прынятая пастанова пра фармаваньне беларускае чырвонае арміі (можна нат падумаць, што й «гістарычнасьць» таго паседжаньня Жылуновіч зьвязвае з гэтаю пастановаю, але гэта ў яго нявыразна) ды вылучаная да гэтага камісія з Чарвякова й Чарнушэвіча, пры чым зазначалася, што ў Пецярбурзе Каўшыла ўжо дамогся дазволу на сфармаваньне беларускага аддзелу чырвонае арміі. Цяпер-жа, на канфэрэнцыі сэкцыяў, была прынятая пастанова пра фармаваньне цэлага беларускага Полацкага палка пры Заходняй дывізіі, якое ўжо пачалося ў Маскве й якім мусіў далей займацца прызначаны тут-жа на камісара гэтага палка дэлегат канфэрэнцыі М. Драка-Дракон, ды таксама пра перакід фармаванага ўжо ў Пецярбургу беларускага самаахвотніцкага вайсковага

[78] ЗЖ-БС, б. 89-90. Пра «дэлегацыю Рады» гл. «Жизнь национальностей», № 6, 13. 12. 1918, б. 5, ды № 7, 22. 12. 1918, б. 4 (тут у сувязі з вэрсіяй праф. Іваноўскага цікавы й канчатак: «Сябры Рады добра зрабілі, што заўчасна выбраліся, бо Ваенна-рэвалюцыйным камітэтам па ўваходзе чырвонае арміі ў горад быў выданы загад пра роспуск Беларускае Рады й арышт усіх ейных сяброў і агентаў»).

[79] ВОСРБ, II, б. 355. У часе разгону Ўсебеларускага Кангрэсу Муха зрокся свайго камісарства (гл. успаміны Краўцова паводля зацемкі 23 вышэй, б. 4).



аддзелу ў Менск.[80] Аднак пра будучыню ўсіх гэтых пастановаў і захадаў у літаратуры вестак няма, а пра долю таго Дракі-Дракона пракідаюцца й зусім панурыя намінкі, зь якіх можна меркаваць, што яму ў сувязі з цэлай гэтай вайсковай акцыяй беларускіх бальшавікоў ці не давялося й належаць галавой ад адпаведных бальшавіцкіх «адмысловых» органаў.

Канфэрэнцыя разгледзела яшчэ пытаньне пра арганізацыю сельска-гаспадарскіх камунаў, экспэрымэнтаваньне зь якімі было тады актуальнае для савецкага «ваеннага камунізму», а таксама пра рэарганізацыю Белнацкому, прычым Жылуновічу дасталося яшчэ адно лідэрскае становішча камісара Белнацкому (прыпомнім, што пры арганізацыі гэтае ўстановы ён быў усяго ейным сакратаром, а камісарам — Чарвякоў). Прынятая была адозва-зварот «Да беларускага народу», апублікаваная ўжо 29 сьнежня й падпісаная Цэнтральным Бюро Беларускіх Сэкцыяў РКП(б), абраным на апошнім, прысьвечаным ужо партыйным справам, паседжаньні канфэрэнцыі 23 сьнежня (склад: З. Жылуновіч, Ф. Балбека, А. Чарвякоў, І. Няцецкі, М. Драка-Дракон, Я. Дыла). Тут-жа была абраная й дэлегацыя на тую «Паўночна-Заходнюю» партыйную канфэрэнцыю ў Смаленску, назначаную на 27 сьнежня (П. Клыш, В. Ханін, Я. Лагун — запросіны за подпісам Кнорына прыбылі якраз у часе выбараў ЦБ сэкцыяў), пасьля якое пастаноўлена было ўжо склікаць свой усебеларускі зьезд беларускіх камуністычных сэкцыяў РКП(б) — відавочную базу да стварэньня з гэтых сэкцыяў свае беларускае камуністычнае партыі, што дало-б завяршэньне нацыянальна-партыйніцкай сьціраванасьці першае фармацыі беларускага нацыянал-камунізму, як высунутае ўжо канфэрэнцыяй стварэньне беларускага савецкага ўраду давала завяршэньне ейнае савецка-дзяржаўніцкае сьціраванасьці. Па гэтым канфэрэнцыя й зачынілася адсьпяваньнем «Інтэрнацыяналу» й «Беларускае марсэльезы» («Адвеку мы спалі») — характэрны нацыянал-камуністычны рытуал, практыкаваны адтады й у будучыні заўсёды, калі й пакуль толькі трывалі ўплывы беларускага нацыянал-камунізму.[81]

Па канфэрэнцыі, паводля Жылуновіча, ЦБ Беларускіх Сэкцыяў РКП(б) паінфармавала самога Сталіна пра прабег і пастановы канфэрэнцыі, у выніку чаго дэлегаты яе «не пасьпелі яшчэ пакінуць Масквы, як пытаньне ўраду было разьвязанае».[82]

Што да згаданае адозвы «Да беларускага народу», дык зь яе звычайна цытуецца, як найважнейшы, заклік да Беларусаў ісьці «толькі з Расеяй», аднак для поўнага зразуменьня становішча аўтараў адозвы ў гэтым дачыненьні варта працытаваць ды ўчытацца ў цэлы пасаж, які замыкае той заклік:

> Беларускі працоўны народ цяпер абкружаны з усіх бакоў варагамі. Польшча ў васобе свайго буржуазна-клерыкальнага ўраду ў імкненьні стацца вялікай ад мора да мора, інакш кажучы, быць ізноў рэспублікай, але з каралём, зьвярнула ад першага-ж дня свайго незалежнага йснаваньня «асьвечаны» пагляд у бок «быдла» — Беларусаў, і сяньня ўжо легіянеры — сынкі польскіх абшарнікаў і шляхціцаў — топчуць беларускія нівы, паляць сёлы, катуюць жыхарства. Літоўская Тарыба ў імпэрыялістычных імкненьнях сягае па нашыя землі. Украіна скарападзкіх і пятлюраў ужо адкроіла

[80] ЗЖ-БС, б. б. 82, 84, 91.
[81] Тамсама, б. 91-92.
[82] Тамсама, б. 92-93.

сабе цэлыя беларускія вобласьці. Адна работніцка-сялянская Савецкая Расея працягвае нам руку для супольнага братняга жыцьця, вызнае нашае права быць вольным народам і як роўнаму з роўным ісьці вялікім шляхом сацыялізму. Хутчэй-жа ў дарогу, браты Беларусы! Але толькі з Савецкай Расеяй.

Таксама трэба адзначыць у вадозьве тыповае нацыянал-камуністычнае падчыркваньне беларускасьці тых органаў і дзейнікаў, да стварэньня й падтрыманьня якіх яна заклікае: «Арганізуйце па сёлах, мястэчках і гарадох **беларускія** камуністычныя ячэйкі, сельскія камуны, валасныя й сельскія саветы. Арганізуйце чырвоную **беларускую** армію... Абірайце ў камітэты, камуны й саветы **беларускіх** камуністых»[83] (падчыркнена намі. Н. Н.).

У пасьлейшай савецкай літаратуры зробленыя некаторыя дадаткі й часам арыгінальныя «карэктывы» да таго, што падаў Жылуновіч пра канфэрэнцыю беларускіх сэкцыяў РКП(б), карыстаючыся, як ужо адзначалася, ня толькі собскай памяцяй актыўнага ўдзельніка й нат старшыні, але й пратаколамі. Першым тут, здаецца, завінуўся згадваны ўжо Цанава яшчэ ў 1951 г. Паводля яго, «зараз-жа пасьля вызваленьня большае часткі Беларусі ад нямецкіх захопнікаў, 23 сьнежня 1918 г. («зараз» зусім як у ведамай народнай прыказцы. Н. Н.) на паседжаньні ЦК РКП(б) т. Сталін зрабіў інфармацыю ў пытаньні арганізацыі БССР, пры чым паданая т. Сталінам і апрабаваная Ленінам прапанова ў пытаньні пра арганізацыю БССР была зацьверджаная ЦК ВКП(б)», і толькі ўжо пасьля гэтага «25 сьнежня 1918 г. у Маскве адчыніўся Ўсерасейскі зьезд беларускіх сэкцыяў РКП(б), які абмеркаваў пастаўленае т. Сталінам ад імя й з даручэньня ЦК РКП(б) пытаньне пра сваячаснасьць утварэньня БССР».[84] Гэтак, у выразнае задаваленьне канцэпцыяў сталінскае пары пра Леніна й Сталіна як «тварцоў БССР», іхныя крокі выносяцца як самастойныя на першае месца, а канфэрэнцыя беларускіх сэкцыяў з 21-23 пераносіцца на 25, пасьля гэтага й толькі дзеля «абмеркаваньня» гэтага, ды яшчэ й перарабляецца ў «усерасейскі зьезд» (ці ня той толькі ніколі не адбыты зьезд для заснаваньня беларускае камуністычнае партыі, пра які пастанаўляла тая канфэрэнцыя?).

Па сьмерці Сталіна й «ліквідацыі» пасьля Берыі й ягонага падначаленага Цанавы пайшло пакрысе й пэўнае карэгаваньне пароблены ім і падобнымі «карэктываў». У выпушчаным у 1954 г. томе IV «Дакумэнтаў і матар'ялаў зь гісторыі Беларусі», у канцавой «Хронікі падзеяў» пад 22 сьнежня 1918 г. падаецца ўжо «пастанова І Усерасейскага зьезду беларускіх сэкцыяў бальшавікоў у гор. Маскве пра ўтварэньне Беларускае ССР», г. зн. пра найважнейшую пастанову канфэрэнцыі сэкцыяў, толькі што пацанаўску яшчэ перахрышчванай у «зьезд», а пад 25 сьнежня ўжо ніякага цанаўскага «зьезду» няма, а затое ёсьць дзьве пазыцыі: «І. В. Сталін гутарыць із супрацоўнікамі Беларускага нацыянальнага камісарыяту пра дзяржаўнае ўладжаньне Беларусі. І. В. Сталін праз просты провад дае інструкцыі ў гор. Смаленск Мясьнікову ў пытаньнях арганізацыі БССР і КП(б)Б».[85]

Далей, ужо ў 1958 г., прыкладам, кандыдат гістарычных навукаў Ф. Новікава проста гаворыць пра канфэрэнцыю беларускіх камуністычных сэкцыяў 21 сьнежня 1918 г. у Маскве й нат з новай і вартаснай далейшай дэталізацыяй: «Тут таксама абмяркоўваліся пытаньні ўтварэньня Беларускай Савецкай Рэспублікі. Мерапрыёмствы, выпрацаваныя на гэтай канфэрэнцыі, былі ўхваленыя Ленінам. Яны леглі ў васнову прынятай ЦК РКП(б) пастановы аб утварэньні Беларускай ССР. 25 сьнежня аб гэтых мерапрыёмствах было паведамлена тав. А. Ф. Мясьнікову. Яму было прапанавана адкласьці на некалькі дзён адкрыцьцё VI Паўночна-Заходняй абласной канфэрэнцыі (пачатак работы канфэрэнцыі плянаваўся на 27 сьнежня) і разам з адказнымі партыйнымі работнікамі вобласьці выехаць у Маскву для ўдакладненьня некаторых пытаньняў дзяржаўнага ўладкаваньня Беларусі». Адылі, зараз-жа па гэтым падаецца й пра той-жа, Цанавам выштукаваны, «Усерасейскі зьезд беларускіх сэкцыяў РКП(б)» 25 сьнежня, але з таго, што зьмяншчаецца гэты «зьезд» «у памешканьні кінотэатру «Арс», можна меркаваць, што тут маецца на ўвеце проста масавы мітынг Беларусаў-камуністых і спачувальнікаў, які запраўды адбыўся ў гэткім кінатэатры, але 29 сьнежня, і пра які адзначана было ў сталінскай «Жизни национальностей» (Жылуновіч не адзначыў яго ў артыкуле пра беларускія сэкцыі РКП(б) як, відавочна, чыста прапагандавую й дэманстрацыйную імпрэзу, але ў вадным з ранейшых сваіх пісаньняў падаваў і ён пра гэты «сход пад дэвізам «Беларусы-дахаты»). Яшчэ пасьлей, у 1961 г. доктар гістарычных навукаў І. Саладкоў ужо зноў не ўспамінае канфэрэнцыі 21-23 сьнежня, гаворыць адразу пра пастанову ЦК РКП(б) «па прапанове У. І. Леніна» пра стварэньне БССР «у другой палавіне сьнежня 1918 году», а тады зноў пра выштукаваны «зьезд беларускіх сэкцыяў РКП(б)» 25 сьнежня, далей — пра тую-ж нараду ў Наркамнацы «вечарам 25 сьнежня», і нарэшце пра інструкцыі «па прамому проваду» ў Смаленск, як у «Дакумэнтах і матар'ялах» (адно што ў яго, як і ў Новікавае, у вадпаведнасьці з новым стылем «дэсталінізацыі», той «І. В. Сталін» не фігуруе нідзе, хоць ён бясспрэчна быў тут вызначнай асобай, а не безасабовы ягоны «Наркамнац», або й «ЦК РКП(б)»).[86]

У прыведзеных дадзеных з матар'ялаў савецкіх аўтараў, пры ўсіх іхных разьбежнасьцях, важнае аднаўленьне спатворанага Цанавам асноўнага ходу дзеяньня — ад ініцыятывы беларускіх сэкцыяў РКП(б) праз выкліканае іхным «націскам» апрабаваньне бальшавіцкага цэнтру да «націску» гэтага апошняга на «паўночна-заходніцкі» Смаленск. Новікава, апрача адзначаных вартасных дадаткаў, падае й яшчэ вартасьнейшую ведамку пра нараду адказных партыйных і савецкіх працаўнікоў «Паўночна-Заходняй вобласьці» 27 сьнежня, відаць, у Смаленску, на якой «вельмі ўважліва абмяркоўваліся пытаньні ўтварэньня Беларускай ССР, канструяваньня Часовага рэвалюцыйнага ўраду Беларусі», ды што «ў выніку ўсёй падрыхтоўчай работы быў прыняты дакумэнт «Умовы ўтварэньня БССР», прадстаўлены ад імя ЦК РКП (б) і савецкага ўраду». З шасьцёх пунктаў гэтага дакумэнту, падаваных у Новікавай, менш цікавыя першыя два — пра колькасны склад ураду (із старшыні й 15 сяброў), і ягонага прэзыдыюму (старшыня

---

[83] Тэкст адозвы ў «Жизнь национальнастей», № 8, 29. 12. 1918, б. 1-2, перадрук у ДМИБ, IV, б. 440-443 (нашыя цытаты на б. 442-443)).
[84] ЛЦ-ВПВБ, б. 781.
[85] ДМИБ, IV, б 511.

[86] Ф. Новікава. Перамога савецкай улады на Беларусі і ўтварэньне БССР, «Камуніст Беларусі», № 4, красавік 1958, б. 36 («1917 года» пры «25 сьнежня» тут, пэўна-ж, памылка друку замяж «1918 г.»); «Жизнь национальностей» № 2, (10), 19. 1. 1918, б. 4; М. Мялешка, артыкул, названы вышэй у зацемцы 37 б. 203; Саладкоў, артыкул, названы вышэй у зацемцы 18, б. 21.

ўраду й 2 сябры), а больш — трэйці, паводля якога «ў склад рэспублікі ўваходзяць губэрні: Горадзенская, Менская, Магілеўская, Віцебская й Смаленская (апошняя спрэчна: паводля меркаваньня мясцовых таварышоў)» ды апошнія тры — пра партыйныя органы: «4. АК партыі Паўночна-Заходняй вобласьці ператвараецца ў цэнтральнае бюро КП (бальшавікоў) Беларускай рэспублікі. 5. Старшыня ЦБ партыі павінен быць старшынём ЦК партыі й ураду. 6. Правы ЦБ партыі й аддзелаў ураду застаюцца такімі-ж, як былога АК партыі й аддзелаў Аблвыканкомаў».[87]

Дык выглядае, што VI Паўночна-Заходняя абласная канфэрэнцыя РКП(б) 30-31 сьнежня 1918 г. у Смаленску, што, як ведама, абвесьціла сябе I Зьездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі (КП(б)Б) ды канчальна пастанавіла пра абвешчаньне БССР, у практычных справах тэрыторыі, ураду й партыі мела выходзіць з гэтага дырэктыўнага дакумэнту. Пасьля ўрачыстых актаў гэных абвешчаньняў, у якіх асабліва характэрнае цьверджаньне, што «працоўны народ супрацьставіць сваю работніцка-сялянскую ўладу, сваю савецкую рэспубліку», значыцца — БССР, «ненавіднай уладзе абшарніцкае «Беларускае Рады» й ейнае «народнае» рэспублікі», значыцца — БНР, ды чыста куртуазійнага й вонкава-дэманстрацыйнага акту тэлеграфнага звароту да Масквы па «санкцыю» на гэта[88] (пра нейкі адказ на гэтую куртуазію так нічога й няведама), зьезд і займаецца ўвесь час гэтымі справамі, пры чым разгараецца змаганьне між «тормазнай» вялізарнай бальшынёй «паўночна-заходнікаў» і «націскальнай» невялічкай «групай Жылуновіча», як цяпер тэхнічна абазначаюцца дэлегаваныя з Масквы прадстаўнікі беларускага нацыянал-бальшавізму.

Што да тэрыторыі новае рэспублікі, дык «націск» беларускіх бальшавікоў тут і зусім відавочны і найбольш выніковы, што відаць з прыраўнаньня паданага вышэй трэйцяга пункту «Умоваў утварэньня БССР» ды першага пункту прынятае зьездам пастановы пра межы БССР. Тутака да пералічаных у «Умовах» губэрняў у «васноўнае ядро Беларускае рэспублікі» далучаюцца й «часткі прылежных да іх мясцовасьцяў суседніх губэрняў, заселеных у пераважнасьці Беларусамі», а вызначаюцца гэтыя часткі ў васноўным паводля тае этнаграфічнае карты ак. Карскага, якой ужо, як падавалася ў сваім месцы, спрабавалі апэраваць беларускія бальшавікі ў падобнай сувязі, чаму іхная рука тут зусім выразная. Гэтак у межах Карскага дадаюцца да БССР часткі губэрняў Ковенскае, Сувальскае й Чарнігоўскае, але зь Віленскае губэрні ўжо ня ўлучаецца Віленскі павет (а, значыцца, і сама Вільня), рэзэрваваны, як відаць, самым маскоўскім цэнтрам дзеля ўжо абвешчанае, але ўсё яшчэ бестэрытарыяльнае дзьвінскае «Літоўскае ССР». У тых-жа межах абразаецца губэрня Смаленская (відаць, «меркаваньне мясцовых таварышаў», калі мо й спрычынілася да гэтага абрэзу, дык не магло быць нагэтулькі моцна супраць-беларускім, каб скарыстаць «умову» «спрэчнасьці» й заблякаваць улучэньне Смаленшчыны ў БССР наагул) і Віцебская, хоць пра гэткі абрэз у «Умовах» і ня было нічога; затое губэрні Менская й Горадзенская не абразаюцца паводля Карскага й уваходзяць цалком, як у «Умовах», зь Піншчынай, Берасьцейшчынай, Кобрыншчынай і г. д. — абразаньне гэтак выходзіць, значыцца, на карысьць толькі Расеі

[87] Ф. Новікава, тамсама, б. 36-37.

[88] Гл. у ДМИБ, IV, б. 444-446.



(ды хіба тае пратэгаванае ёю «Літвы»), але ня іншых суседзяў Беларусі. З усяго гэтага, такім парадкам, можна меркаваць пра тую-ж руку беларускіх нацыянал-камуністых у вабароне максымальна магчымага ў дадзеных абставінах тэрытарыяльнага абсягу творанай імі рэспублікі.[89]

Зусім іншы абраз змаганьня вакол справаў ураду й партыі. Найбольш канкрэтных дэталяў з гэтага, вельмі некарыснага для традыцыйнай бальшавіцкай ідэялізацыі ды ідылізацыі свае гісторыі й таму старэнна хаванага абраза, дасюль падаў, здаецца, Цанава, паводля якога беларускія бальшавікі «заявілі, што ўважаюць за канечна патрэбнае стварыць **беларускую камуністычную партыю,** самастойную й незалежную ад ЦК ВКП(б)» ды «патрабавалі ўлучэньня ў склад часовага рэвалюцыйнага ўраду Беларусі прадстаўнікоў буржуазных нацыяналістых. У разьліку, што высунутыя дамаганьні дастануць рана ці позна жаданае ім разьвязаньне, Жылуновіч і кампанія спрабавалі затрымаць апублікаваньне маніфэсту (пра абвешчаньне БССР. Н. Н.)», але «дасталі станаўкі адпор, часовы рэвалюцыйны ўрад застаўся вольным ад нацыяналістых, і Камуністычная Партыя (бальшавікоў) Беларусі была створаная як частка Расейскае Камуністычнае Партыі (бальшавікоў)»; тут-жа цытуецца, з пакліканьнем на дакумэнт Партархіву ЦК КП(б), праўда, з пропускам (і мо якраз чагось вельмі некарыснага) — прысуд пакліканага, відаць, на найвышэйшага арбітра самога Сталіна: «Прапанову Жылуновіча... уважаю за дэзарганізатарскую ды ў карэньні супярэчную пастановам партыі. Ніякіх адмысловых пастанаўленьняў групы Жылуновіча быць ня можа», прычым яшчэ «спробу групы Жылуновіча затрымаць апублікаваньне маніфэсту пра агалошаньне БССР т. Сталін назваў злачынам», так што «дастаўшы нагэтулькі здрузгатальны адпор, баючыся поўнага разгрому», група тая здалася, «падпарадкаваўшыся на словах дырэктывам ЦК».[90]

З паданага Цанавам для нас асабліва цікавае й вартаснае яшчэ адно падмацаваньне вэрсіі праф. Іваноўскага пра кааліцыйны ўрад, дамаганьне якога, да канца падтрымванае Жылуновічам, тут дастала той «здрузгатальны адпор» ды, у канцавым выніку, ад самога Сталіна (праф. Іваноўскі,

[89] Тамсама, б. 446. У пастанове пра межы цікавае й раёнаваньне рэспублікі (пункт 4, б. 447), паводля якога з ранейшых губэрняў мелі тварыцца «раёны», а з паветаў — «падраёны». Менскі раён тварыўся з былой губэрні без паветаў Наваградзкага, Пінскага, Мазырскага, Рэчыцкага, але з далучэньнем паветаў былое Віленскае губэрні; Магілеўскі — з былое губэрні без паветаў Гомельскага, Клімавіцкага й Рагачэўскага, зь якіх тварыўся новы Гомельскі раён, у які таксама ўлучаліся паветы былое Чарнігаўскае губэрні ды Рэчыцкі й Мазырскі паветы Менскае губ.; Горадзенскі — з былой губэрні без паветаў Слонімскага, Пружанскага, Берасьцейскага й Кобрынскага, якія разам з Наваградзкім і Пінскім паветамі Месскае губ. тварылі новы Баранавіцкі раён; Смаленскі й Віцебскі раёны пакрывалі адпаведна свае былыя губэрні. І гэта хіба прадукт творства беларускіх бальшавікаў.

[90] ЛЦ-ВПВБ, б. 783-784. Паводля іншых савецкіх аўтараў, Н. М. Мешкова й В. В. Скарабагатага (Из истории образования Коммунистической партии Белоруссии, «Вопросы истории КПСС», № 6, 1958, б. 109), «група сяброў партыі, супрацоўнікаў Белнацкому пры Наркамнацы РСФСР на чале з Жылуновічам і Лагуном, адстойвала аўтаномію беларускае партыйнае арганізацыі й патрабавала непадпарадкаваньня ўраду Беларусі УЦВК-у. Гэтае нацыяналістычнае гледзішча знаходзіла падтрыманьне і ў некаторых мясцовых партыйных арганізацыях». Ф. Новікава (б. 37) кажа пра «замеры нацыяналістых-фэдэралістых, якія прапанавалі будаваць партыйныя арганізацыі паводля нацыянальнай прыкметы».

між іншага, таксама Сталіну прыпісваў пакрыжаваньне пляну Леніна — на самой рэчы, «пакрыжаваў» тут усё найбарджэй проста адпад патрэбы ў лішніх аксэсуарах фіктывізацыі «беларускасьці» ўраду БССР). Адылі, на гэтым змаганьне ня спынілася. У працэсе яго «група Жылуновіча» дастала найперш як-бы й найвышэйшае становішча старшыні ўраду для самога Жылуновіча, але, у недатрыманьне пункту 5 «Умоваў», ён ня стаўся адначасна старшынём ЦБ партыі, якім застаўся старшыня ператваранага ў гэтае ЦБ пунктам 4 «Умоваў» АК партыі Паўночна-Заходняе вобласьці Мясьнікоў — відавочная перамога «паўночна-заходнікаў» і выразны сымптом асаблівае «часовасьці» й Жылуновічавага старшынства ў часовым урадзе... Далей, зь 15 сяброў ураду паводля пункту 1 «Умоваў» «група Жылуновіча» патрабавала для сябе 8, а дастала 7 — дый ужо з 18, бо да гэтага ліку вырас раптам склад іх у парушэньне гэнага пункту. Адкінутым восьмым кандыдатам «групы», відаць, быў М. Драка-Дракон, якога пасьля Кнорын у гэтай сувязі залічыў да «яўных авантурнікаў і пройдаў» (другі залічаны ім сюды — Квачанюк — усё-ж яшчэ прайшоў у ўрад); на аснове таго, што было на канфэрэнцыі беларускіх сэкцыяў у Маскве, можна меркаваць, што для яго мог патрабавацца «партфэль» камісара вайсковых справаў, якога «група» сабе наагул не дастала. Дый наагул сябры ейныя апыніліся на становішчах — «партфэлях» у бальшыні ня толькі ня ключовых, а адменна другарадных, ато й трэйцярадных (як асьвета — Чарвякоў, сацыяльная забясьпека — Чарнушэвіч, ахова здароўя — Пузыроў, юстыцыя — Квачанюк, нацыянальныя справы — Шантыр) — на рэсортах — «наркаматах», што паводля пасьлейшых «саюзных умоваў» з РСФСР ды канстытуцыі СССР заўсёды заставаліся «не задзіночанымі», «рэспубліканскімі», два-ж важнейшых, пасьля «задзіночаных» ды «агульнасаюзных» рэсортаў — «неркаматаў», хоць і трапілі нек у рукі гэтае «групы» (праца — Дыла, замежныя справы — Фальскі), дык на той мамэнт усёдна ня мелі ніякага практычнага значаньня.[91] Двох зь сяброў «групы» пры трох зь іхных антыподаў — ізноў у захаваньне належнае прапорцыі — падпісалі выпушчаны 1 студзеня ў Смаленску «Маніхвэст» пра ўтварэньне БССР, напісаны, паводля Чарвякова й іншых, Жылуновічам, а адрэдагаваны, паводля Цанавы, самым Сталінам, а 5 студзеня ўрад ужо перабраўся ў Менск.[92] Толькі ўначы з гэтага 5 на 6 студзеня саветы нарэшце акупавалі Вільню, але Антона Луцкевіча, які там у сябе ў хаце, а ня ў Менску вычэкваў тае «кааліцыі», тамака ўжо ня было, ён загадзя падаўся на Захад, ці то даведаўшыся пра крах гэтай імпрэзы, ці то сам паставіўшы крыж на ёй.

Апараза, якую дазнала на І зьезьдзе КП(б)Б «група Жылуновіча», была яшчэ відавочнейшай на лініі партыйнай, а гэта-ж якраз на найвызначальнейшай лініі. Зь 15 сяброў абранага зьездам ЦБ партыі савецкія матар'ялы называюць з гэтае групы адно Жылуновіча, Лагуна, Чарвякова, а ня было-ж іх шмат, хіба, і ў неназыванай пары-другой «і іншых». Галоўнае-ж, прынятае ўжо ў поўнай згодзе з пунктам 6 «Умоваў» зьездам «Палажэньне

[91] В. Кнорын. У час між нямецкай і польскай акупацыямі. КБ-СА, б. 287. Склад ураду гл. у ФТ-БД, б. 45, зацемка 1, а таксама «Жизнь национальностей», № 5 (13), 16. 2. 1919, б. 3.

[92] ЛЦ-ВПВБ, б. б. 783, 784; А. Чарвякоў. Пясьняр змаганьня й змагар за Савецкую Беларусь. «Полымя», № 10 за 1928 г., б. 118 (у гэтым-жа № Полымя тое-ж сцьвярджаецца й у артыкулах С. Замбржыцкага, б. 126, ды М. Мялешкі, б. 204).



аб партыйных арганізацыях КП(б)Б»[93] зачыняла фактычна ўсякую дарогу да надзеі на рэалізацыю нацыянал-камуністычнае ідэі асобнае беларускае камуністычнае партыі, «здрузгатальна» адкінутае й самым Сталінам. Аднак, надзея гэтая ўсё-ж, відаць, яшчэ жыла, бо, паводля сьветчаньня Кнорына, «умовы для посьпеху гэтай ідэі былі, з аднаго боку, у наяўнасьці нацыяналістычных перажыткаў у шэрагу членаў партыі, асабліва ў інтэлігенцыі»,[94] а зь іншага, хоць і не названага Кнорынам боку, зусім такая ідэя якраз нат укаранавалася тым «посьпехам» у вельмі блізкіх і пільна сочаных ды кантактаваных суседзяў — жыдоўскіх нацыянал-камуністых на Беларусі, што не магло не падсычваць надзеі й у Беларусаў.

Рэч у тым, што жыдоўскія камуністыя, якія мелі такія-ж нацыянальныя сэкцыі РКП(б), як і беларускія, яшчэ ў сьнежні 1918 г. пачалі дамагацца арганізацыі асобнае жыдоўскае камуністычнае партыі, выкарыстоўваючы, як прыклеп, патрэбу раскладу «шкоднае» партыі «Бунд». І вось на паседжаньні ЦБ КП(б)Б 15 студзеня 1919 г. пры падтрыманьні старшыні яго Мясьнікова, а пярэчаньні аднаго толькі Кнорына, тады ўсяго малазначнага сакратара-пісара таго ЦБ, была дазволеная арганізацыя асобнае Жыдоўскае камуністычнае партыі Беларусі (у найчасьцей ужываным літарным скароце з расейскага ЕКП(б)Б), якая й пачала сваё існаваньне ад 19 студзеня, а 27 студзеня выпусьціла сваю заснавальную «Дэклярацыю».[95] Можна меркаваць, што чагосьці такога для сябе й на тым-жа паседжаньні спрабавалі дамагацца й Беларусы, паклікаючыся на наяўнасьць і ў іх сваіх беларускіх сэкцыяў РКП(б)Б, бо на паседжаньні гэтым была прынятая пастанова й пра гэтыя сэкцыі, але зусім адваротнага характару. Паводля выпісу з пратаколу таго паседжаньня, апублікаванага ў часе ўжо завойстранага змаганьня зь «беларускім нацыяналізмам» у 1934 г., беларускія сэкцыі РКП(б) проста ліквідаваліся на прапанову таго-ж Мясьнікова «з пагляду на спасьцярожаную агітацыю некаторых Беларусаў-камуністых супраць ВКП(б)» і «з пагляду на йснаваньне Камуністычнае партыі (бальшавікоў) Беларусі» і без «пагляду», але дзеля факту, што «ў некаторых пунктах Беларусі зьявіліся й зьяўляюцца асобы, якія завуць сябе беларускімі камуністымі, якія, як відаць, паставілі сабе за мэту дэзарганізаваць камуністычную й савецкую працу на месцах. Гэтыя асобы ў бальшыні выпадкаў вядуць нацыяналістычную прапаганду».[96]

Гэтак, тое-ж ЦБ КП(б)Б з пачыну таго-ж старшыні Мясьнікова на тым-жа паседжаньні аднэй рукой дазваляла на паўстаньне Жыдоўскай камуністычнай партыі, а другой пастанаўляла вытруціць самыя зародкі-асновы для паўстаньня такое-ж Беларускае камуністычнае партыі. Блізкі да ўсяго

[93] Пра склад Цэнтральнага Бюро й пра «Палажэньне» гл. у Ф. Новікавай артыкул, названы вышэй у зацемцы 86, б. 37-38, ды ў Мешкова й Скарабагатага артыкул названы ў зацемцы 90, б. 110-111.

[94] ВК-ГДПБ, б. 97.

[95] С. Агурский. Еврейский рабочий класс в коммунистическом движении. Менск, 1926, б. б. 100-102, 198-203, 209-211 (на гэтых апошніх балонах — статут ЕКП(б)Б, выдрукаваны й у «Жизнь национальностей», № 5 (13), 16. 2., б. 4, пад цікавым загалоўкам: «Беларуская камуністычная партыя», дый у самым гэтым статуце гаворыцца ўсьцяж пра сувязь не з КП(б)Б, а з БКП(б). Пар. таксама ў Большой Советской Энциклопедии, выд. I, том 24, б. 337 (пад Евсекции).

[96] В. Ф. Шарангович. Пятнадцать лет КП(б)Б и БССР. Минск, 1934, б. 40-42.

гэтага Кнорын на сьвежай яшчэ памяці, у тым-жа 1919 г., камэнтаваў апошняе гэтак, што бач для сяброў «групы Жылуновіча»

> незразумелай была інтэрнацыяналістычная палітыка камуністычнае партыі бальшавікоў Беларусі, і яны абмяркоўвалі пытаньне аб арганізацыі ў процівагу ёй беларускае камуністычнае партыі на ўзор «Бунду» (Шантыр, Фальскі й інш.; Кнорын аднак высьцерагаецца тут дакладнасьці, дзеля якое яму трэ было-б сказаць: «на ўзор» Жыдоўскай камуністычнай партыі — ЕКП(б)Б — творанай «на ўзор» ды «ў процівагу» таму «Бунду». Н. Н.).
>
> Зразумела, зусім лёгка было давесьці, што іхная выдумка несумяшчальная з асноўнымі прынцыпамі бальшавізму, і яны, ня маючы магчымасьці, застаючыся ў урадзе, парваць зь імі, павінны былі адмовіцца ад гэтай выдумкі. Аднак, іхны курс у бок беларускага нацыяналізму гэтым ня мог абмежавацца. Разьбітыя ў пытаньні аб утварэньні свае камуністычнае партыі, яны прабавалі арганізаваць асобна прыяжджаючых з Савецкае Расеі Беларусаў-камуністых і стварыць нацыянальна-беларускія сэкцыі. Цэнтральнае Бюро КП(б)Б паказала, што большасьць ня можа ўтвараць сэкцыі, і адмовіла ім у гэтым[97] (у цытаванай вышэй выпісцы з пратаколу гэтага аргумэнту ад «большасьці» няма й ход не аб «адмове», а аб «ліквідацыі». Н. Н.).

У выніку ўсяго гэтага, паводля пасьлейшых прызнаньняў таго-ж Кнорына, у ўрадзе ствараецца крызіс, выкліканы выхадам зь яго й з партыі трох сяброў «групы Жылуновіча», «народных камісараў» ураду (Фальскага, Шантыра, Дылы), а на неўзабаўным I зьезьдзе саветаў Беларусі 2-4 лютага 1919 г. мусіць адыйсьці й сам старшыня ўраду Жылуновіч, пры чым Кнорын спрабуе тут апраўдвацца, быццам яго «ЦБ КП(б) і прэзыдыум камуністычнае фракцыі баранілі, аднак, (ён) быў правалены дэлегатамі зь месц».[98] На зьезьдзе гэтым наагул калішнія «паўночна-заходнікі» бяруць поўны рэванш і адчыняюць дзьверы трыумфу антыбеларускае рэакцыі: Мясьнікоў стаецца старшынём і ЦБ КП(б) і ўраду — ды ўжо й ня БССР, а ССРБ — Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі — гэты бо тэрытарыяльны, а не нацыянальны назоў, у поўнай гармоніі з такім-жа назовам партыі — КП(б)Б — замацоўваецца ў прынятай зьездам канстытуцыі рэспублікі й трывае аж да «ўзбуйненьня» Савецкае Беларусі ў 1924 г. (афіцыйна-ж назоў БССР аднаўляецца толькі другой канстытуцыяй яе з 1927 г.). Гэтая-ж канстытуцыя маўкліва замацоўвае й адзіную дзяржаўнасьць

[97] В. Кнорын, артыкул названы вышэй у зацемцы 91, б. 287. Той-жа Кнорын у 1924 г. даваў ужо гэткі камэнтар таму самаму: «Група Беларусаў ставіла пытаньне аб утварэньні беларускае кампартыі на тэй самай аснове, на якой быў створаны жыдоўскі фэрбанд (гэтак пераназвалася ЕКП(б)Б на сваёй першай канфэрэнцыі 28 лютага 1919 г. Н. Н.), а калі гэтая прапанова была адхіленая, дык яны папрабавалі арганізавацца, асабліва з прыбываючых з Расеі Беларусаў-кампартыйцаў, беларускія сэкцыі, што йзноў было адхілена Цэнтральным Бюро. Гэтая вялікадзяржаўная тактыка кіруючай групы працаўнікоў першага беларускага савецкага ўраду адпіхнула частку беларускіх камуністых і зрабіла перашкоду далейшаму разьвіцьцю й замацаваньню зьвязку партыі з масамі працоўнага сялянства» (гл. артыкул, названы вышэй у зацемцы 71, б. 219-220).

[98] В. Кнорын, артыкул, названы ў зацемцы 91, б. 288. Пра ўрадавы крызіс гл. ВК-ГДПБ, б. 97 (тут адно відавочная памылка у назове крызісу «лістападаўскім»: у лістападзе 1918 г. часовага ўраду БССР яшчэ ня было, у лістападзе 1919 г. яго ўжо ня было, бо прабыў ён усяго адзін студзень 1919 г., дык і крызіс мог быць адно студзенскі).



расейскае мовы, у якой аднэй толькі даюцца напісы на дзяржаўным гэрбе рэспублікі.[99] Пад прыклепам «ашчаднасьці» зачыняецца ўрадавы орган у беларускай мове «Весткі», і з зачыненьнем у тым-жа лютым «Дзяньніцы» ў Маскве на савецкай тэрыторыі не застаецца больш друкаванага беларускага слова. Сталінская «Жизнь национальностей», паведамляючы ў хроніцы пра канец «Дзяньніцы», тут-жа падае сымптаматычную вестку пра захады пра выданьне твораў беларускіх пісьменьнікаў у расейскай мове, а на першых-жа балонах таго самага нумару (ад 23 лютага 1919 г.) зьмяшчае рэдакцыйны артыкул «Беларусь і РСФСР», у якім із смакам падаецца пра «пратэсты» «беларускіх масаў» супраць стварэньня нат савецкай, але асобнай ад Расеі — РСФСР — Беларускай рэспублікі ды супраць беларускае літаратурнае мовы як «пачвары» («урода»).[100] У сакавіку ліквідуецца Белнацком, і Беларусы наагул зьнікаюць адусюль з вышэйшых савецкіх становішчаў.

Гэтак і зыходзіць із сцэны, як ужо казалася, заганяецца ў падспудзьдзе першая фармацыя беларускага нацыянал-камунізму, толькі па часе й пакрысе выбіраючыся адтуль, асабліва з надыходам у 1920 г. падмацаваньня ў постаці другой фармацыі гэтага нацыянал-камунізму на чале з праф. У. Ігнатоўскім.

Але гэта ўжо наступны, яшчэ абсяжнейшы й цікавейшы разьдзел і этап.

[99] Канстытуцыя была апублікаваная ў газэце «Звезда», № 368, 8. 2. 1919, передрук у ДМИБ, IV, б. б. 457-460.

[100] «Жизнь национальностей», № 6 (14), 23. 2. 1919, б. б. 4, 2.

# Пскоўскі дыялект

Ян Станкевіч

Дыялект пскоўскі граніча на захадзе з моваю латыскай і эстонскай, на поўначы а паўночным усходзе — з мовай расійскай. Паўднявая граніца гэтага дыялекту з гаворкамі Віцебшчыны а Смаленшчыны паўночнага нарэчча беларускага ня выразьлівая, бо гэтае нарэчча вельмі блізкое да дыялекту пскоўскага. На паўдні граніца праходзе прыблізна ўздоўж адміністрацыйнае граніцы былых губэрняў Пскоўскае а Цьверскае з б. губэрнямі Віцебскай а Смаленскай, крыху на поўнач ад гэтае граніцы.[1]

Надабе з пэўнасьцяй вызначыць спачатную й сучасную нацыянальную прыналежнасьць дыялекту пскоўскага, бо праз яго ё сьпярэчныя пагляды. Галаўной прычынаю сьпярэчнасьці ё тое, што Пскоўшчына ўжо 450 год належа да цэнтралістычнага гаспадарства Маскоўскага (названага ў васьмінанцатым стагодзьдзю Расійскім[2]) і падпала пад моцны русыфікацыйны ўплыў. Як ні дзіўна, але на гэтую прычыну звычайна не зважаюць дасьледаваньнікі расійскія. Прымеж таго, калі ў Расіі шчэзла, абрусела шмат моваў плямёнаў фінскіх а турска-татарскіх, то як магла не паддацца русыфікацыйнаму ўплыву мова славянская Пскоўшчыны? Трэба яшчэ дзівіцца з таго апрычонага ад мовы расійскае стану, які мы назіраем у дыялекце пскоўскім.

Старую мову Пскоўшчыны галоўна дасьледавалі: а) А. Соболевский. Псковский говор в XIV веке; б) Н. Каринский. Язык Пскова и его области в XV в.; в) А. Шахматов. Несколько заметок о языке псковских памятников.

Сучасная мова Пскоўшчыны адзначана на «Диалектологической карте русского языка в Европе», выданай Маскоўскай Дыялектолёгічнай Комі-

[1] Дыялектолёґічная Комісія Маскоўская да дыялекту пскоўскага залічае гэткія мясцовасьці: паўднявыя часьці б. паветаў Гдоўскага (Гдоў) а Лускага (Луга) б. Пецярбурскае губ., б. Пскоўскую губэрню з выняткам б. пав. Порхаўскага і паўночнае часьці б. пав. Хомскага; а з б. Цьверскае губ. большую часьць б. Асташкаўскага а Ржэўскага (зь местам Ржэваю) пав. і невялікую часьць б. пав. Зубцоўскага (Дурнова-Опыт, б. 36). З гледзішча гісторычна-палітычнага дыялект пскоўскі займае прастору даўнейшае рэспублікі Вялікі Пскоў, Тарапецкі ўдзел Вялікага Княства Смаленскага і заходнюю часьць Вялікага Княства Цьверскага.

[2] У 1510 г. Масква прысабечыла рэспубліку Вялікі Пскоў, супоўна нішчачы яе апрычонае палітычнае быцьцё.



сяй, і ў прыкладзеным да гэтае мапы «Очерку русской диалектологии» праз яе кажацца ў § 47—48. Запісы асаблівасьцяў дыялекту пскоўскага ёсьць у вадказах на апытаньнікі менаванае Комісі, друкаваных у ейных «Трудох». Асобна трэба адцеміць досыць грунтоўнае апісаньне цяперашняга стану дыялекту пскоўскага К. Иеропольскага «Говор дер. Савкино Пушкинского района Псковского округа».

Сабалеўскі, разгледзеўшы ў менаванай працы мову пскоўскіх рукапісаў (асьмёх із XIV стг. і аднаго 1409 г.) прышоў да гэткіх вывадаў: «Указанные выше данные показывают, что псковский говор в XIV в. отличался от всех известных нам русских говоров того же времени. В нем были такие крупные особенности, каких не имел в XIV в. ни один русский говор, именно: частая взаимная мена **ж** и **з**, **ш** и **с**; переход **е** в **а** (даже под ударением)», бач. 155.

Праз дачыненьне дыялекту пскоўскага да мовы беларускае аўтар кажа: «С западно-русскими говорами у него были следующие общие черты: замена неударяемого **о** через **а**, замена неударяемого **е** через **и** и употребление **зд** вм. **з** в слове **борзо**» (там-жа). Апрача таго, прывёўшы прыклады на зацьвярдзелае **р**, Сабалеўскі зацеміў, што яны «указывают на то, что в псковском говоре XIV в. уже существовало то явление, которое мы наблюдаем теперь во многих малорусских и белорусских говорах, именно употребление твердого (или почти твердого) **р** вм. мягкого» (б. 154).

Пасьлей у «Лекциях по истории рус. языка» Сабалеўскі дадаў яшчэ гэткія, аднолькавыя зь беларускімі, рысы мовы Пскоўшчыны XIV стг.: 1. **в** мяняецца ў **у**, 2. мясцовы склон адз. ліку на **-у** у мужчынскіх асобавых спакменьнікаў, 3. поўнае зьмяшаньне **ѣ** і **е**, 4. 1 ас. мн. ліку **есме.**[3] Дзьве першыя рысы ў мове беларускай агульныя, дзьве другія дыялектычныя — паўночнае групы дыялектаў.

Сабалеўскі канчае сваю працу праз дыялект пскоўскі гэткім зацемам: «Из массы современных русских говоров мы не знаем ни одного, который в большей или меньшей степени был бы похожим на древний псковский и мог бы быть признаваем за его потомка. В настоящее время около Пскова говорят почти совсем так, как говорят около Новгорода». У гэтым паглядзе ня толькі ё прызнаньне факту русыфікацы дыялекту пскоўскага, але й праяўленьне недастатнага знацьця аўтарам мовы беларускае й сучаснага стану дыялекту пскоўскага.

Карынскі, апісваўшы сем памяткаў пскоўскіх XV стг., восем XIV—XV стг., адну XVI стг. і адну XVII стг. і дасьледаваўшы іх асаблівасьці, знайшоў, што дасьледаваны ім дыялетк пскоўскі XV стг. розьніцца ад дасьледаванага Сабалеўскім таго-ж дыялекту пскоўскага XIV стг. гэткімі рысамі: 1. зьліцьцём гуку **е** з гукам **і** ў складох ненацісьненых, 2. зацьвярдзелым **р**. 3. менаю **у** і **в** і складам **ув**, заменаю **ф** пераз **х**, 5. 1 ас. мн. ліку **есмо** і 6. менаю **и** і **ы**» (бб. 201—203). Напярэк Карынскаму трэба зацеміць, што праз першыя дзьве рысы сказаў блізу тое самае й Сабалеўскі.

Каб зьясьніць прычыну менаванае розьніцы памеж моваю пскоўскай XIV і XV стг., Карынскі дапушчае, што «резкие изменения в псковском языке XV в. произошли в следствие влияния на этот язык языка западно-русского (а, может быть, даже и северно-малорусского). А этот вывод веде-

[3] Карынскі, б. 199.

к предположению о колонизации белоруссов (а может быть и северно-малоруссов) в Псковскую область» (б. 203). Праз «Маларусаў», подле Карынскага, сьветча мяшаньне **ы** й **и**, а празь Беларусаў — усі засталыя менаваныя гэтта рысы.

> «Размеры предполагаемой нами колонизации белоруссов на север, — кажа далей аўтар (б. 204) — были значительны. Мы видим, что псковский язык воспринял все важнейшие западно-русские фонетические и частично даже морфологические особенности и при том, насколько можно судить по рассмотренным нами рукописям, влияние охватило всю Псковскую область (мы не нашли памятника XV в. с яркими псковскими чертами, в котором ярко не отразились бы и западно-русские особенности».

Гэтак дапушчае Карынскі, дарма што на гэта нямаш ніякіх даных гістарычных, ані археолёґічных, ані этнаграфічных; наадварот, ё даныя, пярэчачыя такому дапушчэньню. Як Палачане а Смальняне, таксама Псковічы былі Крывічы. Ноўгарадцаў «Курганныя старавечнасьці апрычаюць ад Крывічоў»[4] ды тыя-ж «Курганныя старавечнасьці XI стг. наагул пацьвярджаюць культурную суцэльнасьць усіх гэтых (Полацкіх, Смаленскіх а Пскоўскіх) Крывічоў».[4] Антраполеґічны тып Псковічаў адзін, і ён аднолькавы з антраполеґічным тыпам Беларусаў.

Дзеля таго добра кажа Шахматаў у менаванай працы: «Обращаясь к вопросу о том, прав ли Н. М. Каринский, когда об'ясняет близость псковского наречия к белорусскому движением белоруссов в Псковскую область, имевшем место в конце XIV,[5] замечу, что данных принятия для подобного об'яснения мы не имеем. Псковских памятников старше XIV в. до нас не дошло; поэтому судить о том, каков был язык Пскова XII—XIII в. и отличался ли он от позднейшего языка отсутствием белорусских черт, мы не можем. Правда, в памятниках XIV в. меньше белорусских черт, чем в XV в., но это могло стоять в связи с тем, что в XIV в. или в первой половине этого века псковская письменность находилась под прямым влиянием новгородской, между тем как со второй половины XIV в. начинается влияние на нее письменности западно-русской. Признаю большой заслугой А. И. Соболевского и Н. М. Каринского указание их на связь псковского наречия с белорусским, но вопреки Н. М. Каринскому я склонен думать, что эта связь исконная, вызванная исконным соседством псковичей и белоруссов» (б. 176—177).

Калі зьвернемся да бяссумлеўных памяткаў беларускіх XIV стг., дык пабачым у іх абраз падобны да памяткаў пскоўскіх. Карскі мяшаньне ненасісьненага **е** й **и** падаў толькі, пачынаючы з XV стг. («Белорусы», II—I, 219—220). На зацьвярдзеньне **р** мяккога Карскі падаець толькі гэткія прыклады з XIV стг.: сентебра (1395), терать (1398), Дрысы (да 1399), Дмитръ, Дворыкович (з XIV стг.), серебрьный (1405) («Белорусы», II-I, 383). З полацкіх памяткаў Хр. С. Станґ-Полацк, 18, 20, да гэтага дадаець серебрыны, серебрыных.

**На замену у пераз в Карскі да XV стг. падаець толькі два прыклады —** адзін із 1284 г., другі з 1349 г. («Белорусы», II—I, 290). Станґ із дасьледаваных ім памяткаў падаець въслышить зь лісту Альгерда з каля палавіцы XIV стг. (Kanzleisprache, II), а другі вразумѣлъ із полацкае памяткі з 1392—1415 (Полацк, 14). Прымеж таго на замену літары **в** літараю у Карскі падаець із XIII стг. 7 прыкладаў, дадаючы «і г. д.», з XIV стг. ён падаець 19 прыкладаў («Б.», II—I, 415). Станґ із XIV стг. на замену **в** пераз **у** падаець 14 прыкладаў (Kanzleisprache, 16, Полацк, 10, 12, 14, 18, 21, 22).

Малая колькасьць прыкладаў на некаторыя зьявы да XV стг. як у памятках із задзіночанага гаспадарства беларускага (Вялікага Княства Літоўскага), так і ў пскоўскіх, зьясьняецца, першае, тым, што, чым ранейшая пара, тым меней было пішучых, і дзеля таго яны болей захоўвалі традыцыйны царкоўна-славянскі правапіс; другое, з ранейшае пары шмат памяткаў загінула, а з тых, што захаваліся й дасьледаваныя, ня ўсі дасьледаваны даволі.

А што да розьніцы ў колькасьці ў памятках прыпадкаў замены **в** пераз **у** і замены **у** пераз **в**, то гэтаму зьясьненьне наступное. У мове беларускай пачатнае **в**, стаячае перад сугукам, і прыймя **в** пераходзе ў **ў** па самагуку пярэднята слова, а па сугуку пярэдняга слова пераходзе ў **у**; таксама **в** пераходзе ў **у** просьле паўзы. Гук **у** ніколі не пераходзе ў **в**, але ў **ў**. Другое, **ў** гучыць бліжэй да **у**, чымся да **в**; асабліва ў мове беларускай **ў** адзначаецца вялікім вокалічным элемэнтам. Дзеля таго пісары, пішучы **у** з **в** або **ў** з **в**, перадавалі пераз **у** (або **оу**) гук імі вымаўляны як (**у** з **в**) альбо гук блізкі да вымовы іхнае (**ў** з **в**); прымеж таго перадаваць **ў з в** ня мелі сяродку, ня было літары **ў**, перадаваць **ў** пераз **в** маглі толькі як абмылку, сьцерагучыся, каб не напісаць **у** замест **в**.

Што да **ув**, яно сустракаецца ў мове беларускай шмат радзей за **у** альбо **ў**, бо толькі перад пачатным **а** (спачатным або зь ненацісьненага **о**) па прыймені **у** або **ў** і тады **в** запраўды належа да пачатнага **а**, як протэза (авес, апека, акно, але: у ваўсе, у вапецца, у вакне). А калі прыймя **ў** (або **у**) з **въ** стаіць перад складам із шчэзлым **ь** або **ъ**, тады можа быць (але не заўсёды мусіць быць) **ува** (або **ўва**), **уво** (або **ўво**); прыкладам: **ува ўсім** побач із **у ўсім** (абедзьве хормы з въ вьсѣмъ), уво Ршы (з въ ръши, з **уво Ршы** паўстала Ворша, бо пачалі думаць, што **во** належа тут да спакменьніка, а не да прыймені).

Радзей зьяўляючыся ў мове, склад **ув** мусіў пасьлей а меней адбіцца ў памятках, бо ў іх маем абмежаны моўны матар'ял.

На пераход **ф** у **х** Карскі зь беларускіх памяткаў да XV стг. падаець толькі адзін прыпадак — хома зь лісту 1388 г. («Б.», II—I, 433). Калі ў вапісаным Карынскім, 72, зборніку Сынодальнае бібліотэкі № 154 ё: перхуреи чернець ивана гахоновича, ивана хахиловича, ды ў Паґодзінскай копіі летапісу пскоўскага: при попѣ Иване Хахилевѣ, пархеи гахоновичь і інш. (там-жа, 85), то ясна, што ў мове пскоўскай гук **ф** перайшоў у **х**, а напісаньні з **ф** — фефилатова й інш. (там-жа) былі толькі напісаньнямі традыцыйнымі. Калі, адылі, Карынскі кажа, што ў прыкладзе **фефилатов ео** сьцягнуліся ў **е**, а ў прыкладзе хахилев і інш. не сьцягнуліся, то з гэтым нельга згадзіцца. Як у **хахилев, хахилович** зь **феофил**, так і ў **фефилатов** зь **феофилат** — сталася сьцягненьне, толькі ў першым прыпадку **ео** перайшло ў **аа** (аканьне), каторыя сьцягнуліся ў **а**, у прыпадку другім **ео** сьцягнуліся ў **е**. Розьніца, відавочна, залежала ад месца націску: калі націск быў на **е, ео** сьцягнуліся ў **е**, бяз націску **ео** далі **а**. Прыр. цяпераш-

[4] А. Е. Пресняков – Лекции по русской истории, т. I, 1938, б. 33.

[5] Карынскі запраўды часам гэтае калёнізацыі ўважае XIII стг., або пачатак XIV. (б. 207).

нія беларускія **Хведар, Ходар**, абодвы зь **Феодор;** прыр. таксама **Тодар** з **Теодор.** Відавочна, тое самае слова мела націск на розным месцу, залежна ад мясцовасьці й звычаю вымаўленьня.

Хорму 1-ае ас. мн. л. **есме** падпаможнага дзеяслова адзначыў Сабалеўскі ўв Апостале 1307 г. Правільна Карынскі ўважае гэтую хорму за жывую пскоўскую; яна звычайная ў памятках пскоўскіх і пануе ў тых зь іх, што маюць зыркія дыялектычныя асаблівасьці (Язык Пскова, 194). Правільна таксама хорма 1-ае ас. мн. л. **есмя** прызнана за ноўгарадзкую, яна стрэлася толькі ў трох памятках, з каторых у ваднэй асаблівасьцяў пскоўскіх няма (Пагодзінск. № 1413), другая сьпісаная з ноўгарадзкага арыгіналу (ноўгарадзкі летапіс зб. Сынод. бібліотэкі, № 154), а трэйцяя (2-ая часьць зборніку Сынодальнае бібл., № 53 (255) мала мае рысаў пскоўскіх.

Але й болей пашыраную хорму 1-ае ас. мн. л. **есмо** нельга прызнаць за пскоўскую. Яе нямашака памеж іншага ў памятках XIV й першае палавіцы XV стг. Апрача таго, хормы **есмо** ня было ў паўночнай групе дыялектаў беларускіх. Гэтая хорма была ў старабеларускай мове літаратурнай з паўднявой групы дыялектаў беларускіх улучна з дыялектам сярэднім і ў памяткі пскоўскія магла лучыць толькі беларускім уплывам літаратурным.

Гэткім парадкам менаванымі пяцьма рысамі, каторыя подле Карынскага мелі-б сьветчыць, што, да XIII стг., Беларусаў у Пскоўшчыне ня было, памяткі XIV стг. із задзіночанага гаспадарства беларускага згаджаюцца з памяткамі пскоўскімі XIV стг.

З дасьледаваных Карынскім памяткаў пскоўскіх у зборніку Софійскае бібліотэкі № 1262 можна было знайсьці зьясьненьне таго, што мяшаньне **ы** й **и** ў памятках пскоўскіх адбівала правапісны ўплыў паўднёва-славянскі (заходне баўгарскі а сэрбскі). У памятцы гэтай канца XIV або пачатку XV стг. ё зыркія пскоўскія рысы (звыш 600 прыпадкаў мены **ч** і **ц**, звыш 200 прыпадкаў мены **з — ж, с — ш**) і няма правапісных рысаў паўднёва-славянскіх. Побач із гэтым у ей «мена **ы** й **и** встречается как исключение и примеры этой мены не заслуживают доверия: мнимыми, ненавидимыми, 95. 2, лукавыми 15 адв. 2». Гэта рыса ё таксама ў некаторых гаворках на прасторы б. задзіночанага гаспадарства беларускага. Значыцца, калі няма іншых правапісных рысаў паўднёва-славянскіх, дык няма й мяшаньня **ы — и**. А калі мяшаньне **ы — и** ў памятках пскоўскіх ня ё рысаю ўкраінскай, дык тым самым адпадае гіпотэза Карынскага праз магчымасьць перасяленьня да Пскоўшчыны паўночна-ўкраінскае люднасьці, бо й іншых ніякіх рысаў украінскіх у памятках пскоўскіх няма.

Шахматаў у менаванай працы «Несколько заметок...» паказаў, што некаторыя рысы памяткаў пскоўскіх — мяшаньне **ы — и**, мена **'а (я)** і **е**, мена **и** і **е** (абедзьве рысы асабліва пад націскам), мяшаньне складоў **ла, лу, на** і г. д. зь **ля, лю, ня** былі зьявамі правапіснымі, паўсталымі ў заходняй Баўгарыі а Сэрбіі на аснове тамашніх фонэтычных асаблівасьцяў, і літаратурнай дарогаю прынесеныя да Беларусі, дзе вытварылася такая школа пісьма; зь Беларусі лучылі да Пскова. Шахматаў, адылі, за далёка пайшоў у сваім крытыцызьме й некаторыя рысы — зацьвярдзеньне **р**, зьліцьцё **ѣ** зь **е**, хорму на **-мы** сназдіўнага склону мн. л. (прыкл. ненавидимыми) — ён мусіў прызнаць потым (прыкл. у «Введение в ист. рус. языка», б. 60) за жывыя зьявы дыялекту пскоўскага.



Напярэк Шахматаву бадай можна згадзіцца із Шэрахам, б. 45, 54—55, што прыпадкі аканьня пад націскам у памятках пскоўскіх адбіваюць зьявы жывое мовы, як астачы таго, што раней **о, е** пераходзілі ў **а, 'а(я)** ня толькі ў складох ненацісьненых, але й у націсьненых. Гэтая-ж зьява — астачы аканьня пад націскам — адбіваецца і ў некаторых памятках беларускіх таго часу, што адцеміў і Шахматаў, але залічыў іх да рысаў правапісных і чужых.

Ерапольскі ў вышменаваным артыкуле «Говор деревни Савкино...» зрабіў гэткі вывад што да нацыянальнае прыналежнасьці дыялекту пскоўскага ў цяперашнім яго стане: «Все это не дает нам права отнести изучаемый нами говор к севернорусским. Наш говор ближе за то стоит, кажется нам, к говорам беларусским, что не расходится с наблюдениями проф. Бузука, высказанными им в его работе «Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага й Вяліскага пав.» (б. 597).

Просьле ўсяго менаванага дзіўна, што Маскоўская Дыялектолёгічная Комісія не зважае на кольківаковую русыфікацу дыялекту пскоўскага і ўважае яго за пераходны з расійскай (паўночна-расійскай) асновао і беларускім наслаеньням ды паклікаецца ня толькі на Карынскага, але й на Шахматава (Дурново — Опыт, 47).

Пры сваім разглядзе я буду браць даныя як із апісаных памяткаў пскоўскіх, так із запісаў цяперашняе мовы пскоўскае. Нельга не згадзіцца із Шахматавам, што адно тыя моўныя рысы памяткаў пэўныя, каторыя могуць быць пацьверджаныя цяперашнімі дыялектамі. У даным прыпадку, адылі, мусіць быць узяты пад увагу факт моцнага абрусеньня дыялекту пскоўскага. Дзеля таго трэба наперад дапусьціць, што некаторыя рысы дыялекту пскоўскага могуць быць болей або меней прыцертыя, і тады іх цяжка знайсьці ў цяперашнім яго стане, або й сусім сьцертыя, і тады іх трэба глядзець у найбліжшай якасна да дыялекту пскоўскага прасторы.

Як было зацемлена вышэй, Шахматаў зьясьніў некаторыя рысы памяткаў пскоўскіх правапісным уплывам паўднёва-славянскім, ідучым пасярэдніцтвам задзіночанага гаспадарства беларускага,дзе вытварылася такая школа пісьма. Але, апрача дзівосных рысаў, былі яшчэ такія рысы, што знаходзілі падзьдзяржаньне ў фактах мовы. Да такіх рысаў належылі: пераход ненацісьненых **о, е** ў **а, 'а(я)**, пераход ненацісьненага **е** ў **і**, пераход **ѣ** у **е**, зацьвярдзеньне мяккога **р** і некаторыя іншыя. Прыпадкі такіх зьяваў у большай або меншай меры мусілі паходзіць із жывое мовы, а ня толькі адбіваць наносны правапіс. З гэтым згаджаецца й Шахматаў, 137, кажучы, што «некаторыя з гэтых прыпадкаў зьясьняюцца ўплывам паўднёва-славянскіх орыгіналаў». Другое, калі згадзіцца із Шахматавам, што кадзе менаваныя рысы ё толькі адбіцьцём беларускае школы пісьма, то прыкладаў на гэтыя рысы ў памятках пскоўскіх ня мае быць болей, чымся ў памятках задзіночанае Беларусі, а прымеж таго станаўко іх тамака болей. Такі звышак можна толькі залічыць да адбіцьця жывое вымовы пскоўскае. Пры дасьледаваньню пскоўскіх, як і іншых асаблівасьцяў беларускіх, трэба яшчэ мецць наўвеце, што ўжо з пачатку XV стг. у задзіночанай Беларусі вытварылася літаратурная мова зь яе моцна ўстаноўленымі нормамі пісьма. Мова гэтая нівэлявала мясцовыя асаблівасьці, сьпярэчныя ейным нормам. Асабліва нівэляцы падпалі характарыстычныя рысы паўночнае групы діялектаў — мена **ч** і **ц, ж — з, ш — с** і распадабненьне ў

ваканьню, бо яны былі надта выразьлівыя, але ня увайшлі ў склад рысаў літаратурнае мовы, каторая паўстала на подзе тае ўсходняе часьці дыялектаў сярэдніх, што займалі тэрытору паўднявое Полаччыны.[6]

Пачынаючы з 2-га дзесятка XV стг., характарыстычныя рысы паўночнага нарэчча беларускага — мена **ч і ц, ж — з, ш — с,** хорма **есме** 1-ае ас. мн. л. — у памятках полацкіх чэзнуць (Станґ — Полацк, 92—93), праяўляюцца адно ў некаторых памятках як рэдкія абмылы іх пісароў. Прымеж таго пісьменства аднаплямЕнных Крывічоў псковскіх, арганізаваных у вапрычонае гаспадарства Вялікі Пскоў, адно ў малой меры паддалося ўплыву старабеларускае мовы літаратурнае; бачым гэта з багатага адбіцьця ў памятках псковскіх характарыстычных рысаў псковскіх, як мена **ч і ц, ж — з, ш — с,** а таксама пераход **дл у гл і тл у кл**. Дзеля таго трэба спадзявацца, што й іншыя рысы беларускія адабʼюцца ў памятках псковскіх болей, чымся ў памятках «Літвы». Так яно й ё запраўды.

Пераходжу да разгляду асобных рысаў дыялекту псковскага, галоўна тых, што сьветчаць празь яго беларускасьць, і асабліва тых, што вызначаюць яму месца сярод дыялектаў мовы беларускае.

## ФОНЭТЫКА

**1. Аканьне.** Усі згаджаюцца з тым, што ў памятках псковскіх, як жывая зьява дыялекту псковскага, ё пераход ненацісьненага **о** ў **а**.[7] Дзеля таго ўважаю гэтта лішнім прыводзіць прыклады. Выразьліва аканьне праяўляецца ў XIV стг., зн. у найстаршых захаваных памятках псковскіх, і багата адбіваецца ў стагодзьдзю XV.

Ужо гэта адно прынукае дапушчаць, што таксама ненацісьненае **е** ў тэй або іншай меры ў старой мове псковскай перайшло ў **'а(я)** або, накш кажучы, перайшло ў **'а(я),** паколькі не перайшло ў **і**, бо, першае, мы ня знаем такое мовы, дзе-б толькі ненацісьненае **о** перайшло ў **а**, а **е** засталося бязь зьмены; другое, у цяперашнім дыялекце псковскім таксама **е** перайшло ў **'а(я)**.[8]

Дзеля таго нельга згадзіцца із Шахматавам, калі ён чысьленыя прыпадкі пераходу ненацісьненага **е** ў **'а(я)** памяткаў псковскіх прызнаець за правапісныя. Калі Шахматаў кажа, што «псковская письменность находилась (разумеецца, не раней палавіцы XIV стг. — Я. С.) под непосредственным влиянием западно-русских памятников» (б. 136), альбо нат псковічы спісавалі з орыгіналаў беларускіх (б. 112), а з другога боку, што ў памятках беларускіх прыпадкаў зьмены **е** ў **'а(я)** меней, чымся ў псковскіх («в белорусских памятниках, скажем, XV в., отражающих несомненно акающие говоры, случаев замены **е** через **я** сравнительно немного» (б. 137), то прынамся розьніца памеж колькасьцю прыпадкаў мены **е** ў **'а(я)** памяткаў беларускіх і псковскіх мусіла паходзіць ад самога дыялекту псковскага. Прычыны гэтае розьніцы я паказаў кагадзе.

---

[6] Полаччына з гледзішча пляменнага й дыялектычнага была неаднолькавай: у самым Полацку і на поўнач ад яго жылі Крывічы і нарэчча было паўночнае, як у Віцебску а ў Смаленску, а ў тэй-жа Полаччыне, крыху на паўдня ад Полацку, ужо былі Дрыгвічы з моваю, што сталася прашчурам цяперашняга сярэдняга дыялекту мовы беларускае.

[7] Сабалеўскі 155; Карынскі, 199 і інш.; Шахматаў, 175.

[8] Гл. Дурново-Опыт, 37.



Дзеля таго ня толькі «Возможно, конечно, что некоторые случаи замены **е** через **'а(я)** должны быть обʼяснимы, как акание (ср. замену **о** через **а** в псковских памятниках)» (Шахматаў, б. 137), але напэўна такія прыпадкі былі,[9] і колькасьць іх мусіла быць ня меншай, а большай за гэную розьніцу.

У памятках псковскіх XIV стг. ё, меж іншага, гэткія прыпадкі **а, я** замест ненацісьненага **е**: Друкарскі Псалтыр, №34: былъ ако нощьный вранъ на нырыщ**а**; Друкарскі Псалтыр, № 35: не убоится серди**а** мое 46 адв., крѣпится серц**а** твое 47, отц**а** сыне святый душе 101 адв. (клічны склон); Зборнік Сынодальнае бібліотэкі № 154: бише ч**а**ломъ, 65 адв.; Параклітык 1369: радуйся всемирно**я** слово 10 адв., на древ**я** пригвоздился 22 адв., въздержа в чрев**я** злое невъздержание 44 адв.; Пролог 1383 г.: дѣтищ**а** сыи 56, дионисово капищ**а** 67 адв.[10] Пры падобных прыпадках пераходу **е** ў **а, я** і такія, як — десница тво**я** и мысца тво**я** и просвѣщени**я** лица твоего, Псалтыр № 34 адв.; ты еси светъ и въскрьсения всемъ и живот, Параклітык 1369 г., 23 — і шмат іншых падобных сусім добра могуць быць паходжаньня псковскага. Падобна ў памятках беларускіх Вялікага Княства Літоўскага.

Зацемлю, што ў менаваных памятках няма пэўных рысаў, аднолькавых із украінскімі. У Псалтыру № 34 ані няма мены **ѣ** і **и, и** і **ы**; у Псалтыру № 35: всих вразех 20 адв. **и** ё асаблівасьцю морфолёґічнай, як наагул гэтая хорма ў мове беларускай (гл. ніжэй у ваддзеле морфолёґі), **прид** нимь 41 адв. трэба так разглядаць, як і **при** замест **пре**, наймя: Беларусы пры сваім аканьню, хочучы вымавіць ненацісьненае **е**, вымаўляюць **і** або **ы**. У Прологу 1383 г. прыклады: прѣльстьн**ы**кы 29, кн**ы**гы 30, насыт**ы**лся 51 адв. — яўныя абмылкі ў пісаньні (**ы** пад уплывам **ы** суседняга складу), а з аднаго прыпадку исполн**ы**въ 25 нельга рабіць ніякіх вывадаў. Таксама там-жа при законопрѣступнѣцѣ 23 адв. выглядае на абмылку ў пісаньню (ѣ пад уплывам ѣ наступнага). У Прологу 1383 г. свирильник 3 адв., свирили 16 адв., -лныя 16 адв. могуць быць рысаю беларускай (**і** замест **ѣ** пад уплывам **р, л**, альбо, накш кажучы, пад уплывам словаў із складамі -лі-, -ры-, -ір-, як сьліза, трываць, міргаць, прыр. цяперашнія беларускія хормы словаў перанятых: арышт, рыштант, адрыс, канцыляра, цырамоня, кілішак, кірмаш, кірунак), а иминию, там-жа 25 адв. — абмылка ў пісаньню або асаблівасьць ноўгарадзкая.[11] У Параклітыку 1369 г.: на лон**и** аврамли — відавочна рыса ноўгарадзкага паходжаньня.[12]

Што да **е** (або **ѣ**) на месцу ненацісьненага **'а(я)** у раньніх памятках — Параклітык 1369 г.: неувѣдущюю 17, стежа 52, хіба клѣтвѣ (націск мог быць на канцы слова, пр. блр. бітвá, кляцьбá); Евангеля ад Лукі 1409 г.:

---

[9] Так глядзіць на гэтае пытаньне, меж іншага, вучаньнік Шахматаў, проф. Вс. Ганцов у працы «Особенности языка Радзивиловского списка летописи», б. 133. (ИОРЯС Акад. Наук. т. 32, 1927).

[10] З выняткам прыкладу із Зборніку № 154 Сынод. бібл., узятага з Карынскага, ўсі іншыя прыклады ўзятыя із Сабалеўскага, бб. 126, 129, 134, 137.

[11] Прыклады ўзяты із Сабалеўскага, 129, 137.

[12] Сабалеўскі, б. 144 праз разгледжаныя ім памяткі псковскія кажа: «большая часть псковских рукописей, описанных нами выше, как нам кажется, восходит к новгородским оригиналам, и встречающееся в них изредка **и** на месте ѣ может быть или признаваемо за принадлежащее новгородскому говору, или обʼясняемо, как происшедшее из неударяемаго **е** (в том лѣт**и**, запись Апост. 1309—1312). С **исти** Апост. 1307 ср. ср. великор. **исть** = есть».

марие же магдалыни и марие осиова зряста 11 адв. — звычайная звышправільнасьць; а ў XV стт. і пасьлей — Паґодзінская копія лет. пск.: Ерославъ 201 адв.; Пскоўскі судовы ліст: в пѣнезех 25; Палея 1477 г.: паметь 246; Палея 1494: кладезю 311, кладезь 132, светилище 249 адв. і шмат іншых — зьява не фонэтычная, як думаюць вышменаваныя дасьледаваньнікі, а правапісная мена ненацісьненага **я** на **е**, вытвараная на груньце аканьня.[13]

Якога тыпу аканьне было ў дыялекце пскоўскім — недысыміляцыйнае ці дысыміляцыйнае? Цяпер у часьці Пскоўшчыны аканьне недысыміляцыйнае, у другой часьці **а** ё толькі ў першым складзе перад націскам, а ў засталых — рэдукаваныя самагукі альбо **ы** (Дурново, Опыт, 37). Зважаючы на гэтую часткавую сучасную дысыміляцыйнасьць і на тое, што ў суседніх ляпей захавалых дыялектах беларускіх Віцебшчыны, а нат Цьвершчыны, з каторымі, як пабачым далей, дыялект пскоўскі лучаць блізу ўсі рысы, дысыміляцыйнае аканьне захавалася дагэтуль, можна было-б сказаць, што дысыміляцыйнасьць у ваканьню пскоўскім была. Праз гэта сьветчыла-б таксама чэзьненьне на нашых ачох дысыміляцыйнасьці ў ваканьню Віцебшчыны.[14]

Як спачатку пераконуюча паказаў ван Війк,[15] адлі паглыбіў Шэрах, 28 і наст., спачатна (беларускае) аканьне было недысыміляцыйнае і адно пасьлей часьць яго, наймя паўночнае нарэчча, распадобнілася. Дзеля таго, што дыялект пскоўскі, як пабачым ніжэй, належа да паўночнага (накш паўночна-ўсходняга) нарэчча мовы беларускае, выглядае, што адначасна і ў ім мела стацца распадабненьне ў ваканьню. Ці, адылі, так напэўна сталася? Як гісторыя аканьня паказуе, можа яно зь недысыміляцыйнага абарачацца ў дысыміляцыйнае й наадварот. Зьясьненьне ўмоваў быцьця цяперашняга недысыміляцыйнага аканьня часьці мовы Пскоўшчыны прывяло-б можа да разьвязаньня пытаньня, якім — дысыміляцыйным ці недысыміляцыйным — яно было ў мінуласьці; адгэнуль быў-бы толькі сіг да даведаньня тыпу аканьня ўсяе Пскоўшчыны ў мінуласьці. Пытаньне на карысьць дысыміляцыйнасьці, прынамся тае часьці дыялекту пскоўскага, дзе цяпер аканьне дысыміляцыйнае, разьвязуе хорма на **-эю, -ею** прымальнага склону адз. л. прыметнікаў жаноцкіх (гл. крышку ніжэй ля гэтае хормы).

Што да дысыміляцыйнасьці аканьня па мяккіх сугуках, дык пераход ненацісьненага **е** ў **і** ў складох перад **а** і ў складох па націску, з выняткам канцавых адкрытых, сусім пэўны.[16] Шмат меншае адбіцьцё гэтае рысы ў памятках з прасторы задзіночанае Беларусі зьясьняецца выцісьненьням яе там на пісьме старабеларускай моваю літаратурнай.

Праз тое, што ненацісьненае **о і е** (або **ѣ**) ужо перайшлі ў **а** (паколькі не перайшлі ў **ы, і**), сьветча пераход спакменьніка ніякага роду да роду жаноцкага, каторы знаходзім у прыкладзе: и съзва от всѣх **всю** чаду на-

[13] Гл. праз гэта Станкевіч — Аль Кітаб, 14—15.

[14] П. Кузьмин — Материалы для изучения говора Велижского уезда (ИРЯС III—I, 1930, б. 179).

[15] Zur Entwicklungsgeschichte des Akanje und Jakanje (Slavia XIII, 1934/35, 634, 657, 659, 660, 663).

[16] Прыкладаў множасьць, зь іх таковыя, як радуиться 19 адв., емлиши 75 адв., ирѣтика 93 адв. (усі з Прологу 1383 г.); гнитягуть 78, господь мои отемлить строение дому от мене 117 (усі зь Евангелі ад Лукі 1409 г.) і іншыя сусім выглядаюць на адбіцьцё зьявы жывое народнае мовы.



рочиту, Зб. Сынод. бібл. № 154, б. 248. Пр. у сучаснай мове Пскоўшчыны: зьжамля зь нёбай; какая дзеріва (Ерапольскі, 590, 592).

Пэўне, што й пераход мужчынскіх **о**-асноваў із канцавым **-о** ў назоўным скл. адз. л. да **а**-асноваў стаіць у зьвязку з аканьням: Зб. Сынод. бібл.: посадник кюрила ондрѣевич 124 адв. (пры кирило 131).

Пераход ненацісьненага **у, 'у(ю)** ў **а, 'а(я)** ў прымальным склоне адз. л. паказуюць напісаньні: мокрою волну, Ірмологіён 1344 г. І адв. (Карынскі, 146), побудною пѣснь въспѣвающе, Зб. Соф. бібл. 1262; в послѣднѣю оубо муку 58 адв., там-жа (Карынскі, 132) і шмат іншых. Прыр. даўнейшыя й цяперашнія агульна пашыраныя (з выняткам паўднёва-заходніх гаворак паўднявога нарэчча) хормы беларускія прымальнага склону адз. л. на **-ыю** або **-аю** зь ненацісьненымі **-ы** або **-а** (бачу белыю або белаю хату, сінію або сіняю паперу й інш.), дарма што пішам **-у, -ю** — белую, сінюю.

Пад уплывам **а** ненацісьненага канчатку прымальнага склону адз. л. прыметнікаў з націскам на аснове паўстала ў тым-жа канчатку **а** націсьненае ў дыялекце пскоўскім. Пісалі **о,** але мусіла быць вымаўляна **а,** бо вымаўлянае **о** ў канчатку разгляданага склону нійдзе ня знойдзена, дый яно немагчымае пры аканьню.[17] Апрача таго, цяпер у дыялекце пскоўскім усі жаноцкія прыметнікі **з націскам на канчатку** канчаюцца ў прымальным склоне адз. л. на **-эю, -ею:** йінэю вясну (Ерапольскі). Хорма на **-эю, -ею** прымальнага склону адз. л. магла паўстаць толькі з **-ыю,** як цяперашнія хормы пскоўскія й паўночнага нарэчча мовы беларускае на **-эй:** старэй, маладэй, такей — паўсталі з хормаў на **-ый, -ій.** Нат у некаторых гаворках пскоўскіх і ў некаторых із прасторы б. задзіночанага гаспадарства беларускага зьявілася-**эй** замест **-ый** у дзеясловах. З апошняе прасторы ё запіс **Крэй Божа** ув Арлянятах Ашмянскага пав.; ад гэтага й жэрдка, каторую кладуць на хрыбет страхі, завецца там-жа «крэйка. К р э й запісана таксама ў пав. Наваградзкім, крэй, крэю — у Мядзьведзічах Баранавіцк. п. Цікава, што гэтыя мясцовасьці не належаць да паўночнага нарэчча, але Арляняты да гаворкі Віленска-Ашмянскае, а засталыя да паўднёва-заходніх гаворак. З гэтага відаць, што разгляданая зьява ў сваім першым пачатку ўсебеларуская. З дыялекту пскоўскага **мэю, нэю, крэю, мэем, крэем, мэй, крэй, нэй** (з мыю, крыю і г. д.) падаець Ерапольскі. Прычыну гэтае зьявы трэба бачыць у васлабленьню **ы.** Значыцца, у дыялекце пскоўскім мусіла быць хорма **-ыю** з націскам і бяз націску на **ы** — у канчатку прымальнага склону адз. л. прыметнікаў. **-ыю** паўстала з націсьненага й ненацісьненага канчатку **-аю,** як цяпер ёсьць агульна (але бяз націску) **-ыю, -ію** (новыю, сінію) ў паўночным нарэччу беларускім. Калі-ж у Пскоўшчыне **-аю** перайшло ў **-ыю,** дык там было аканьне дысыміляцыйнае, найменей у часьці, дзе й цяпер яно дысыміляцыйнае, дарма што ня сусім.

2. **Пераход о ў у.** Шырака ведамы ў гаворках беларускае народнае мовы пераход ненацісьненага **о** ў **у** ў канчатку снадзіўнага склону адз. л. жа-

[17] Што можа зьяўляцца **а** націсьненае пад уплывам аналёгі **а** ненацісьненага, маем прыклад у некаторых гаворках сярэднята дыялекту беларускага, дзе ё хормы кага, чага, яга, майга, твайга, свайга, аднага, сягадня, сягалета. Тут пад уплывам аналёгі **а** ненацісьненага з **о** ненацісьненага канчатку дакладнага (роднага) скл. адз. л. (новага) **о** націсьненае ў канчатку менаваных займёнаў перайшло ў **а** націсьненае, а ў дыялекце пскоўскім націсьненае **у** канчатку прыналежнага скл. адз. л. перайшло ў **а** націсьненае пад уплывам **а** ненацісьненага з **у** ненацісьненага таго-ж канчатку прыметнікаў жаноцкіх із націскам на аснове.

ноцкіх прыметнікаў а спакменьнікаў, адбіваецца таксама ў памятках пскоўскіх. Прыклады: вълною морьскую, Ірмологіён 1344 г., 56 адв. (Карынскі, 46); чрѣвноую болезнью, Зб. Сынод. Бібл. 68/270, 20 адв.; четвертоую женою 440, новую повѣстью 23 адв., вѣрую то хвалить 152 адв. і шмат іншых. Таксама ў сучаснай мове Пскоўшчыны «частые случаи в именах женского рода на **-а** окончаний **-уй:** за горуй, ложкуй, жонкуй, с приметуй» (Ерапольскі, 590). Прычына гэтае зьявы ў тым, што, пад уплывам аналёгіі **о** націсьненага ў снадзіўным склоне адз. л., Беларусы стараюцца вымавіць **о** ненаціськенае ў тым-жа склоне, але, ня маючы яго ў сваёй мове, замест яго вымаўляюць **у.** Таго-ж роду зьява ёсьць у злучу **хуч** (Ерапольскі, 597), паўсталым із **хоць.**[18] Значыцца, першая прычына гэтае зьявы — таксама ў ваканьню.

**3. Самагукі о, а перад вуснавымі (лябіяльнымі) сугукамі** лябіялізуюцца ў **у:** умрачившася, Друкарскі Псалтыр № 35 (Сабалеўскі, 137); будрьнъ, Пролог 1383 г., 39 (Сабалеўскі, 130); омоучивше ж двернии праг, Палея 1494 г., 168; от моужаиска града, Зб. Сын. бібл. № 154, 132 адв., мужаескъ, там-жа 149 адв.; **а** перайшло ў **у:** асоуряні и воувилоняни, Палея 1494 г., 395 (Карынскі, 12, 66). Сюды-ж із сучаснае мовы Пскоўшчыны належа мугла (Ерапольскі) з мыгла. Рыса гэтая пашыраная ў народных гаворках беларускіх і асабліва моцна праяўляецца на Палесьсю, дзе нават замест займя І-ае ас. **мы** вымаўляюць **му;** крыху яна лучыла й да сучаснае мовы літаратурнае (прыкл. смурод, смуродзіна).

4 Як у мове беларускай наагул, **е** па мяккіх сугуках перад **ш, ж, ч, ц** не пераходзе ў **о:** цешча, Загорская вол. Хомскага пав. (Труды № 12, 135), нясеш, Ерапольскі, 591. Ґаршек, пятацэк, пясэцік паўсталі пад уплывам такіх памяншальных, як гаршэчак, мяшэчак, бычэчак, у каторых **е** перад **ч** не перайшло ў **о.** Уцемный, Загорская в. (Труды № 12, 135) **е** не перайшло ў **о** (ё) перад зацьвярдзелым **м** (тьмьнъ); гэтак і ў Аль Кітабе (гл. Станкевіч-Аль Кітаб, 20).

5. **ѣ** у дыялекце пскоўскім зьлілося зь **е.**[19]

6. **ъ, ь** перад **й** перайшлі ў **у, і:** у назоўным скл. адз. л. прыметнікаў: злый, худый; у дзеяслоўных хормах: мый (загадны лад), мыю (цяп. час), крый, крыю, шый, шыю; у спакменьніках: шыя, памыйкі (усі прыклады ўзяты з Дурнова Опыт, 37); памыи, Зб. Сынод. бібл. 53/255 (часьць першая) Карынскі, 116. Да гэтага дадам: у дакладным склоне мн. л. і-асноваў: **въ**

[18] Я назіраў у гаворцы сяла Кушляны Ашмянскага пав., што там ня толькі вымаўляюць **у** замест ненаціс. **о** ў канчатку снадзіўнага склону, але таксама займя **што,** ужыванае ў ролі злуча, вымаўляюць як **шту.** Прыкл.: Што ты зрабіў? Але: Казалі, шту ты гэта зрабіў. У Арлянятах таго-ж павету кажуць, прыкладам: Гэту хустку нашу паштудзень.

[19] Пр. Сабалеўскі, 144: «Па всей вероятности, в псковском говоре XIV в. уже не существовало **ѣ**, как звука отличного от **е**, и буквою **ѣ** в псковских рукописях обыкновенно означается звук **е**». Шахматаў: «Весьма замечательно полное отсутствие буквы **ѣ** в нашей грамоте (ліст пскоўскага князя 1463—5 г.); думаю, что это доказывает полное совпадение **е** и **ѣ** в одном звуке: ср. подобное совпадение в белорусском. Как известно, ряд белорусских памятников XIV–XV в. совершенно не употребляют буквы **ѣ.** Ср. в нашей грамоте: суседомъ, пресного, на городе, на кеской улици (Кѣсь древнее название Виндавы), прыехав, и т .д. Ввиду этого показания памятника характера нелитературного, я убеждаюсь в том, что замена **ѣ** через **и** в литературних памятниках древнего Пскова обязана влиянию или оригиналов этих памятников, или определенной школе письма» Грамота Псковского князя Ивана Александровича. ИРЯС, XVII — 3—4, 1912, б. 347).



вѣчных двѣрии стерегуть (Карынскі, 135). Таксама канцавы **ь** 3-яе ас. адз. й мн. л. перад **й** пераходзіў у **і;** адгэтуль паўсталі такія хормы, як побивахути и, Апостал 1309-12 г. 10 (Сабалеўскі, 124), бияхуті и за ланиту, Евангеля ад Лукі 1409 г., 147 (Сабалеўскі, 142).

7. Злучэньні **ль, лъ, рь, ръ, мь, мъ, вь** із слабымі **ь, ъ,** будучы памеж сугукаў, перайшлі ў **лі, лы** і г. д.: не клините (загадны лад), Параклітык 1369 г., запіс (Сабалеўскі, 126), Пролог 1425 г., запіс (Карынскі, 140); не клинить (загадны лад, замест **-те),** Апостал 1309-12 г. (Сабалеъскі, 123); не клинете, Евангеля ад Лукі 1409 г. (Сабалеўскі, 139); клинеть (3-яя ас. адз. л.), Зб. Соф. бібл. 1262, 55 адв.; чресъ законъ божии заклинѣться человѣкъ, там-жа, 56 адв. (Карынскі, 133), з **кльн-;** трими (снадзіўны склон), Палея 1494 г., 2, 5, 333 адв. (Карынскі, 19), з **трьмі,** пр. цяперашнюю хорму блр. **трыма;** хитричемь, Палея 1477, 508 адв. (Карынскі, 51), з хытрьцьмь (снадзіўны склон адз. л.); зри за осми листов уперод, прыпіска XV стт. ў Зб. Сынод. бібл. 53/255, з осмь (**ь** апынулася памеж **м** і сугукам наступнога слова). З часам у мове беларускай хорма **восьмі** загульнілася, значыцца, стала ўжывацца й перад самагукам наступнога слова; у Аль Кітабе ё толькі хорма **осьмі** назоўнага склону адз. л. (Станкевіч-Аль Кітаб, 27). Сюды-ж належа І-ая ас. адз. л. **есми-** звычайная хорма падпаможнага дзеяслова памяткаў пскоўскіх. **Яблыко,** Зб. Соф. бібл. 1262, 86 адв. (Карынскі, 134), **-лы-** тут, побач із іншымі гэтае катэгоры прыведзенымі прыкладамі, сусім выглядае на адбіцьцё жывое вымовы, дарма што ў іншых, разгледжаных Карынскім памятках пскоўскіх таго-ж часу ё **яблоко.** У іншых магло быць занесена з Ноўгараду. Апрача таго **ъ** мог перайсьці ў **о** ў дакладным скл. мн. л. (яблъкъ), дзе быў у палажэньню моцным, скуль дарогаю аналёгі лучыць у **яблоко.** Із сучаснае мовы Пскоўшчыны прывяду **мугла** (Ерапольскі) з **мыгла,** пр. блр. **мыгла;** у ў **мугла** пад уплывам **м.** Магчыма, што **-лы-** з **лъ-** ёсьць у **глып, глыпкій** (Ерапольскі), зн. было-б з **глъб-** (**ъ** а ня вялікі юс), пр. блр. **глыб, глыбокі, глыбіня.**

Карынскі, з выняткам аднаго **яблыко,** не дагледзеў менаваных прыпадкаў з **лі, рі, мі** і г. д. і ўважаў, што **ль, лъ рь** і г. д. перайшлі ў дыялекце пскоўскім у **ле, ло, ре, ро** і г. д. (бб. 134-135). Таксама Шэрах. Апошні на довад гэтага прыводзе, што **Пльсковъ** а **Мьда** не перайшлі ў **Плїскаў** а **Міда** (бб. 53-54). На гэта можна адказаць, што ў **Пльсковъ ль** выпала з прычыны частага паўтараньня гэтага назову пскоўскае сталіцы. Што да **Мьда,** дык пачатныя **ль, лъ, рь, ръ, мь, мъ** рэдка ў мове беларускай пераходзяць у **лі, лы** і г. д., а звычайна перад сабою разьвіваюць **і-** (імшара, імша, імне, побач зь **місьцюк** ё **імсьціцца,** таксама **ірваць, ірдзець** і інш.). Не паўстала-ж хорма **Імда,** відавочна, з тае прычыны, што назоў гэтае ракі часта ўжываўся з прыймёнамі, каторыя згулялі тую-ж ролю, што й прыймёны-прэфіксы, просьле каторых менаваныя гукі не разьвіваюць перад сабою **і-** (ірваць, але парваць). З тае-ж прычыны з Ръша (стары назоў места Воршы) ня ўзьнікла Ірша.

8. Калі пачатныя **л, р, м** стаяць перад шчэзлымі **ь, ъ,** дык перад **л р, м** разьвілося **і-:** Ерапольскі: иржица, ильду; Чарнышоў — Пскоў: **иржи 165, ильняной, ирвуть 173.**

9. **йь-** (із слабым **ь**) на пачатку слова шчэзла: Црковные (людзі) с Кобыля, с Поленския губы. Выпіс із кнігаў пскоўскіх XVII стг. (РФВ, 1913, **б. 7).** Зн., як у мове блр.

10. **-йь-** зь **ь** моцным унутры слова перайшло ў **е:** яецка, Ерапольскі, 597, зь **яйьчько;** меж Троецких вод. Выпіс із кнігаў пскоўскіх XVII стг. (РФВ, 1913, б. 7). Гэтак-жа ў мове беларускай.

11. Празь пераход **у** ў **ў** і **в** у **ў** было зацемлена вышэй. Гэтая рыса вельмі моцна адбіваецца ў памятках.[20] Гэты-ж пераход ё і на канцы складу, прыкл.: траўка, кароў (Труды № 12, 135).[21] Калі **ў** апынецца памеж сугукаў, дык яно, ня могучы быць вымаўлена, чэзьне: Зб. Соф. бібл. 1262: възратятся 3 адв., не възратил ся 15 адв., прыкладаў шмат (Карынскі, 138). Як звышправільнасьць ё възврастъ 46, там-жа, адв.; Евангеля Друкарскае бібл. № 18: взращю ся 38 адв., взращьщеся 31 адв. (Карынскі, 147); з възвра-; Палея 1494: чрълености 4, черленаа 24 адв. (Карынскі, 58), — з чрвл- (з **р** складатворным). Гэткія а падобныя прыклады ў іншых памятках (Карынскі, 86, 107, 118, 126). Пр. цяперашнія блр.: першы зь првьшьйь (з **р** складатворным), бярно зь бьрвьно.

Рэдчае пісар, ня маючы для **ў** асобнага знаку, перадаець яго праз **оув:** и сташа оув источника, Палея 1494, 464; пировѣ оув церкви да не бывають, Зборнік Соф. бібл. 1262 і некаторыя іншыя.

**Прыростак въз-** з прычыны пераходу **в** у **у** або **ў** і шчэзьненьня слабога **ъ** зьмяніўся ў **уз-** або **ўз-:** оузваниемь, Зборнік Соф. бібл. 1262, 63 адв. (Карынскі, 135); узвеличися, Параклітык 1386 г., 107 адв. (Сабалеўскі, 133); оуздали, Пaґодзінск. пск. лет., 133 адв., не оуздерьжять, там-жа, 114 (Карынскі, 83) і інш.

12. **Націск:** Ерапольскі: дачка́, ваду́, коней,[22] бе́руць, падве́рнецца; Федарава: руку́, нагу́, на зямлю́, на гару́, пад гару́, заня́л, прыня́л, было, спа́ла, сасна́ (Труды № 12, 134); Загорская вол.: руку́, нагу́, на руку́, за нагу́, на зямлю́, пад гару́, заня́л, прыня́л, прыняла́, спа́ла, (Труды № 12, 136); нікога, нікому, нічога (Дурново-Опыт, 99); віхор. Ерапольскі, 589. З хормы морьскую вълною, Ірмолоґіён, 344, 56 адв. (Карынскі, 146) відаць, што націск на **-о-** морская, бо накш **о** ў канчатку снадзіўнага скл. не перайшло-б у **у.** Увесь прыведзены націск аднолькавы з націскам беларускае мовы літаратурнае і із звыш дзевяцёх дзясятых гаворкаў беларускае мовы народнае.

З выняткам колькіх словаў — коней, морскі — гэта націск новы, ён разьвіўся прыраўнальна нядаўна ў мове беларускай, так што нават яшчэ не абняў усяе мовы беларускае. Зь яго відаць, што мова Пскоўшчыны не пераставала жыць і разьвівацца ў кірунку беларускім, дарма што яе русыфікавалі.

### Зь мяжыслоўнае фонэтыкі

Протэтычнае **в** перад **о** а **у:** вужьники, Апостал 1307 г., 110 (Сабалеўскі, 121); праз гэта сьветча, як звышправільнасьць, жиоучи, Судовы ліст 23 (двойчы) (Карынскі 93), замест живоучи; Ларивонович, Зб. Сынод. бібл. № 154, 202, 203, Пaґодзінск. Пск. Лет., 186; ларивоновича, Пскоўскі ліст 1463-5 г.

---

[20] Колькі прыкладаў: въ вѣчных двѣрии стерегуть, Зб. Соф. бібл. 1262, 35 адв. (Карынскі, 135); вдержалъ, Ліст 1463 г. (ИРЯС XVII – 3–4, 1912, б. 348); Загорская вол.; ўдаріць, ўкрасьць (Труды № 12. 135); Федарава: ўмець, ўдавіць, там-жа, 134. Ерапольскі: наўцілся.

[21] Пр. Шахматаў (ИРЯС, XVII — 3—4, 1912, б. 348. Сабалеўскі, 149.

[22] Ерапольскі зварочуе ўвагу на ўплыў гэтага націску на Пушкіна: «Ко́ням, барин, тяжело́».



(ИРЯС, XVII, 3-4, 1912 г., б. 349); левонтей, Зб. Сынод. бібл. № 154, 221 адв. Із сучаснае мовы: Ерапольскі: вуліца, ву́лей, вугор, вутка, Воля (пам. ад Вольга), воўцы, вокунь; Федорова: вокны, навука (Труды № 12, 134); Загорская вол.: воўцы, вуліца, вохра (Труды, № 12, 135).

На пачатку слова перад **а** спачатным і **а** зь ненацісьненага **о** (у памятках яно **о** этымолёґічнае й правапіснае) протэза бывае толькі па прыймені **ў, у:** Палея 1477 г.: где оув осла рога, 416 адв., оувалериянъ 581 адв., 582 (Карынскі, 54); Зб. Сынод. бібл. № 154: заложиша городъ каменъ оув орѣшка 1302; Паґодз. пск. лет.: оу града, оув опоки 17 адв., а псковичи тогда бяше оув орешка 28 адв., оув опоки 38, оув опочкомъ конци 157 адв. Што перад пачатным **а** прыстаўное **в** бывае толькі па прыймені **ў** або **у,** відаць із таго, што Псковічы ніколі ня звалі сваіх местаў Варэшак, Вапока (або Вапочка), але заўсёды Арэшак, Апока, Апочка (бяз **в** на пачатку), а пісалі Орешак, Опока, бо правапіс быў традыцыйны, царкоўна-славянскі. Што да прыстаўнога **в** пр. Я. Станкевіч — «Прыстаўное **в** у мове беларускай» (Родная мова, у Вільні, 66-75).

Перад пачатным **і,** паўсталым ізь ненацісьненага йь-, ё протэза **й:** йинэю вясну. Ерапольскі.[23]

Ёсьць у мове пскоўскай і протэтычнае **і-** да прыймені-прыростку **з** (з **йьз** а **съ**): ізьдзелаць. Ерапольскі, 589.

Па прыймёнах перад займем **йь** няма (паходзячага ад прыймёнаў) **н: з** йім, к йім (усюдых без прыстаўнога **н**). Ерапольскі, 591.

Як бачым, мяжыслоўная фонэтыка дыялекту пскоўскага — беларуская.

У памятках пскоўскіх часта ўжываецца **і** памеж словаў: Евангеля № 3 Друкарскае бібл.: исходя же изъ града того отрясѣте **и** прахъ отъ ногъ вашихъ 13 (тут можна зразумець, што **і** ўжыта дзеля падчыркненьня, замест «таксама»); иже на кровѣ **и** да не слазить взяти 34; и приступиль обяза **и** струпы 88 адв.; и дадите **и** милостыню 93; да **и** послеши 99 (Карынскі, 148); Зб. Соф. бібль. 1262: вѣдѣ разбоиника . . . приемша **и** отпущение 25 адв.; бегливаго тѣкущаго **и** присно к грѣху 26 адв.; не возмогоша **и** его яти 28; что **и** есть оже глаголеть 48; а внидоша **и** жерци 86, і інш. (Карынскі, 137). Таксама ў колькіх іншых памятках.

Калісь, за хлапецкіх год, даводзілася мне чуць, што мой дзед часта, здавалася без патрэбы, ужываў **і,** але не магу сказаць, ці было ў яго ўжываньне падобнае да ўжываньня меж словаў **і** ў памятках пскоўскіх.

### Сугукі

1. **Кв** перад **ѣ** з **ой.** У мове беларускай часткава захавалася група **кв-** перад **ѣ** з **ой.** Ё гэта ў вагульна-пашыраным слове **кветка, кваціcты,** у назове **Кветунь** аднае мясцовасьці ў пав. Трубчэўскім на Севершчыне. Нат на абруселых прасторах беларускіх — у Тульшчыне, Варанежчыне, Куршчыне — ведамная гэта асаблівасьць (А. Крымский — Древне-киевский говор, 399. ИОРЯС XI-3, 1906), знае яе й дыялект пскоўскі (Крымский, там-жа).

**2. Праславянскія злучэньні дл, тл** у дыялекце пскоўскім захаваліся безь пераходу ў **л** і пасьлей зьмяніліся ў **гл, кл.** Прыклады з памяткаў: при-

---

[23] Тут-жа зацемлю, што ў дыялекце пскоўскім, як наагул у мове беларускай, захавалася (спачатнае) **й** ў слове **юшка** (Ерапольскі, 584). У мове рас. у гэтым, як і ў іншых, прыпадку пачатнае **й** адпала — **уха.**

вегли есме невѣсту тобѣ, Палея 1494 г., 334 адв.; привегли, Палея 1477, 422; и многихъ христіанъ присѣкли и в полон свегли, Сынод. бібл. № 154, 203 адв.; полоняниковъ привегли к великому князю, Паґодз. пск. лет., 147; рече им не чькли есте яко створи богъ. Зб. Соф. бібл. 1262, 57 адв. і шмат іншых (Карынскі, 58, 72, 85, 137 і інш); от жерегла малым частым неводом на берегу к Роскапели а острову Заечю от жерегла не ловит нихто ... меж Троецких вод от жерегла топи ... Выпіс із пскоўскіх кнігаў XVII стг. (РФВ, 1913, б. 7). **жерегло** із **жердло,** гэта тое-ж слова, што агульна-беларускае «жарало». Тут жараглом завецца ўток Мды ў Чудзкое возера ў Пскоўскім павеце.

З часам гэтая асаблівасьць дыялекту пскоўскага шчэзла пад уплывам расійскім, **гл, кл** былі заступлены неорганічна гукам **л,** адно захаваліся астачы ранейшае вымовы ў некаторых словах, як **жагло** із żędło[24] — жыгала, **мыгла** (запіс Ант. Адамовіча ў Тарапцу), — мыла. **Мыгла** перайшло таксама да эстонскае мовы й захавалася ў хорме **могель, мугель** «луг».[25]

Групы **дл, тл** былі захаваны толькі ў дыялекце пскоўскім, іншыя дыялекты беларускія гэтае асаблівасьць ня знаюць. Але пераход **дл** у **гл, тл** у **кл** ё рысаю агульна-беларускай.[26] Агульна-беларускай ё хорма дзеяслова **сустракаць,** каторая сваім **к** стаіць у зьвязку з пскоўскім **кл** (стрэк, стрэклі замест стрэў, стрэлі). Таксама агульнабеларускае **жыгала** сваім **г** стаіць у зьвязку із пскоўскім **жагла.**

Шахматаў пскоўскія **дл, тл,** з каторых **гл, кл,** выводзіў ад мовы «польскіх плямёнаў», што, як ён дапушчаў, жылі ў Пскоўшчыне да прыходу туды «усходня-славянскае люднасьці». Але як добра зацеміў I. Polivka (Slavia, I, 1922/23, б. 121), каб, прыкладам, польскае zrzódło ператварыць у жарагло, трэба знаць прыраўнальную граматыку славянскіх моваў. Надабе згадзіцца із Сабалеўскім а іншымі, што разгляданая пскоўская рыса захавалася з пары праславянскае. А калі згадзіцца з Трубецкім, што ў заходня-славянскіх мовах **дл, тл** дзеля таго захаваліся, што памеж гэтых гукаў пачаў праходзіць склададзел (Zsl. Ph., II, 117-121), дык гэтая рыса была перажыта пскоўскім дыялектам у пару праславянскую супольна із заходня-славянскімі дыялектамі, што ані ня дзіўна ў суцэльнай яшчэ, хоць дыялектычна здыфэрэнцыяванай мове.

3. **Пераход ґ у г.** На вялікай бальшыні тэрыторы цяперашняе мовы пскоўскае ё ґ, але памяткі пскоўскія сьветчаць праз **г:** Зб. Соф. бібл. 1262: осподьство 81 адв., осподии своихъ 83; Праўны ліст 1483 г.: осподою, осподинъ; Паґодз. пск. лет.: осподара 194, о осподарю 212 адв., осподар 219 і інш. Зб. Сынод. бібл. № 154: осподарь 129, осподаря 197 адв., 208, осподарю 219 і інш. (Карынскі, 72, 86, 138, 142). Праз **г** светчаць такія прыклады із сучаснага дыялекту пскоўскага, як янёнак (Ерапольскі, 589) — ягнё, у каторым магло выпасьці толькі **г** (ягнёнак). З гэтага відаць, што спачатна ў дыялекце пскоўскім было **г** (а ня ґ), пасьлей заступленае, пад уплывам

[24] Пр. Дурново — Введение в ист. рус. языка, I, Брно, 1927, 121.

[25] Пр. **Шахматов (РФВ, 1913, б. 10).**

[26] Пр. Шахматов, вынаска: «Переход **д в г** в таком положении не чужд белорусским говорам, где находим **вяглiна из** польск. вэндлина; **а** для Пскова он доказывается формой проклѣеть в Софийском № 1262, л. которая строит, конечно, вм. протлѣть в фразе: «аще бо не всееши пшеница ни прочихъ семенъ в землю, то не проклѣеть, ни плоды створить; аще ли в земли сътлееть, то плод створить».



расійскім, гукам **ґ.** Дагэтуль захавалася толькі ў вадзіночных словах, як ґáркі (такі, што добра гарыць), гайнуць (гукáць), назоў сяла Гайкі (Ерапольскі, 558), мыгла (мыла, запіс Ант. Адамовіча ў Тарапцу). Апрача таго, у ўсіх словах на суцэльнай прасторы **г** захавалася ў дыялекце пскоўскім на трэйцяй часьці Ржэўскага павету (Труды № 9, 1927, б. 9).

4. **Пераход л у ў.** У сучасным стане дыялекту пскоўскага няма пераходу **л** у **ў,** але даўней, відавочна, **л** у палажэньню ля **ъ,** у тым ліку ў дзейным дзеяпрыметніку мінулага часу (part. praet. act. II), было перайшоўшы ў **ў.** Відаць гэта зь цяперашняе хормы ў Пскоўшчыне дзеяпрыслоўя мінулага часу (part. praet. act. I): паелшы, сказалшы, приляцелшы й г. д. (Ерапольскі, 591), хормы памяткам пскоўскім нязнанай; там гэтае дзеяпрыслоўе ніколі ня мае **л.**[27] Відавочна, Псковічы, хочучы, пад расійскім уплывам, вымаўляць **л** у дзейным дзеяпрыметніку мінулага часу замест свайго ў (казаў з казалъ), пачалі вымаўляць **л** і ў дзеяпрыслоўю мінулага часу, бо ў вадным і другім прыпадку мелі ў сваей мове ў. У памятках пскоўскіх на пераход **л** у **ў** мог-бы сьветчыць прыклад **молвчите.** Палея 1494 г. (Карынскі, 29). Пераход **л** у **ў** захаваўся ў дыялекце пскоўскім у поўнай сіле на трэйцяй часьці павету Ржэўскага, часьці найменей зрусыфікаванай (Труды № 9, 1927, б. 9).

5. **Злучэньні здй, зґй** перайшлі ў дыялекце пскоўскім у **ждж,** праз што сьветчаць такія прыклады, як **дошч** (Труды № 12, 134). Цяпер, адылі, пад расійскім уплывам, ё звычайна **жж** на месцу **здй** а **жґй.** У памятках пскоўскіх на месцу менаваных злучэньняў досыць часта сустракаецца **жг** — побач із цсл. **жд.** Ё, праўда, памяткі, у каторых **жг** няма, а толькі **жд.** З малымі выняткамі **жг** знаходзім у слове **дожг** (дождж) і паходзячых ад яго (дожгь, надъжгити, Апостал 1307 г. і інш.). У сучаснай мове пскоўскай гэтага злучэньня няма, там **дошч,** як зацемлена кагадзе, зн. як наагул у мове беларускай — **дошч,** дажджу (пішацца дождж, дажджу й г. д.). Дзеля гэтага ў групе **жг** памяткаў пскоўскіх трэба бачыць уплыў ноўгарадзкага правапісу: ня маючы ў альфабэце сяродку дзеля перадаваньня **ждж,** пскоўскія пісары перадавалі яго праз **жг,** пераймаючы іх у Ноўгарадцаў, але ў Пскове іх вымаўлялі накш, чымся ў Ноўгарадзе.

6. **Зацьвярдзеньне р.** На зацьвярдзеньне **р** ё множасьць прыкладаў у памятках XV стг. (гл. Карынскі, 32, 71, 84, 105, 117, 125, 136). Шмат меней, але досыць, каб сконстатаваць зацьвярдзеньне **р,** знаходзім прыпадкаў у памятках XIV стг.: перад **а:** симона оусъмара, Апостал 1307 г., 25;градъте, Параклітык 1386 г., 69; як звышправільнасьць: грядящии (град-), Евангеля ад Лукі **1409, 123; зацемлю, што** ў менаваных памятках няма мены **а-я** па іншых сугуках. Перад **у:** буру, Параклітык 1369 г., 83; вечеру творяше, Евангеля Друкарск. бібл. № 18, 93 адв., і там-жа як звышправільнасьць: горюшну зерну 60; у гэтых дзьвюх памятках няма мены **у : ю** па іншых сугуках. Перад **і:** гризениемь, Параклітык 1369 г., 81 адв. — звышправільнасьць; па іншых сугуках няма мены **и : ы** ў гэтым рукапісе. Рызы Пролог 1383 г., 62 адв., звышправільнасьць там-жа: открити 16, риб 35 адв. Рибарь 97; па іншых сугуках прыпадкі мены **и — ы** ў Прологу 1383 г лёгка зьясьняюцца як абмылы ў пісаньню. покриваемъ, Параклітык 1386 г.

[27] «Причастные формы уже заменились деепричастными с окончанием — вшие, -шие». Каринский, 192.

45; два прыпадкі **и** замест **ы** ў гэтым рукапісе па іншых сугуках — поживе непостыжимии 50 адв., въ пустини 74 — яўныя абмылы ў пісаньню.[28]

Цяпер у дыялекце пскоўскім ё звычайна **р** мяккое, але спорадычныя прыпадкі з **р** зацьвярдзелым[29] паказуюць, што ўперад у Пскоўшчыне было ўсюдых **р** зацьвярдзелае.

7. **Зацьвярдзеньне вуснавых** на канцы слова й перад сугукамі, у згодзе із сучасным дыялектам пскоўскім,[30] зырка выражана ў памятках. Прыкладаў множасьць. Прывяду колькі: Палея 1494 г.: црковъ 39 адв. і інш., скорбъ 68, голубъ; Палея 1477 г.: скорбъ 56, голубъ 61 адв., роуфъ 311, оудобъ II. І іншыя (Карынскі, 9, 46, 65, 98).

8. **ж, ш, ч, шч, ц цьвярдыя** як у сучасным[31] так і ў старым дыялекце пскоўскім. У памятках з прычыны традыцыйнага правапісу ня ў кажнай гэтае зацьвярдзеньне праяўляецца аднолькава моцна, але даволі, каб можна было яго з пэўнасьцяй сконстатаваць.[32]

9. **Літара щ** у памятках пскоўскіх, відавочна, вымаўлялася як **шч**, хоць цяпер пад расійскім уплывам вымаўляецца й **шш** побач із **шч**.[33]

10. **Дзеканьне а цеканьне** захавалася дагэтуль у дыялекце пскоўскім. Гэта сьцьвярджае Маскоўская Дыялектолёгічная Комісія ў сваім «Очерку русской диалектологии» (Дурново-Опыт, б. 37), Ерапольскі, б. 588 і іншыя. У памятках таксама ё прыклады на гэтую зьяву: азоцьстіи, Палея 1494, 246 адв. (побач собскае імя азоти), Карынскі, 34; и се сила бяше град окручила и коніи и колясница, Палея 1477, 446; имного болѣвшю есть расчиснустася ему челюсти и оустнѣ его не сведостеся, там-жа, 543 адв.[34] (Карынскі, 56). У Палеі 1477 г. ё мена **ч** й **ц** і **ч** шмат часьцей замяняе **ц**, чымся наадварот. Праз гэтую-ж рысу сьветча й **хуч** (Ерапольскі, 597) з **хоць** і завярежіць із заверэдзіць (там-жа, 594). Значыцца, **дзь ць** вымаўляліся зьліжана да **дж, ч** мяккіх. Цяперашнюю вымову іх сьцьвярджае Маск. Дыял. Комісія: «мягкие **ц, дз** из **т, д** мягких также способны абращаться в **ч, дж** мягкие: джѣчи» (Дурново-Опыт, 38).

11. Як наагул у мове беларускай, **н** у суфіксе **-іна** абстрактных спакменьнікаў зьмякчылася: шириня, Палея 1494 г., 322, Зб. Сынод. бібл. № 154, в ширину, там-жа II адв. (Карынскі, 27).

[28] Прыклады ўзятыя із Сабалеўскага, 120, 126, 127, 133, 142 і з Карынскага (Евангеля Друк. бібл. № 18), б. 147.

[29] Ерапольскі, 588: дверы, крык, крычаць, звярушка, рынулся, пірастал. Чарнышоў – Псков, 172, 180; діравый, Чарнышоў – Асташкаў.

[30] Загорская вол.: кроў, сем, уб'ю, п'ю (Труды № 12, б. 136); п'янкый, Ерапольскі.

[31] Федарава: чыстый, чарві, малчы, там-жа **шч** цьвярдое (Труды № 12, 134). Пр. Ерапольскі, 588 і Дурново-Опыт, 37.

[32] Пр. у Пскоўскім судовым лісьце: «После шипящих и **ц** находим часто **оу** и **ы**: за жывот 21 (двойчы), положыть II, позывницы 7 (двойчы), на оулицы 7, исцу 22, на исцы 10 (Карынскі, 93). У Пагодз. пск. лет. «Твердость шипящих и **ц** обозначается нередко: нѣмцы 3 адв., творцоу 5 адв., 25 адв., коупцы 188, моужъ 8, 21, 36 адв.; тысящъ 47 адв.; вашъ III адв., нашоу 142 адв., роубежу 144 (Карынскі, 83). Пр. таксама Карынскі, 54, і інш.

[33] Пр. Сабалеўскі, 149: «Исъчепли (у Параклітыку 1383 г. — Я. С.) произошло, конечно, из ишчепли; употребление в этом слове **сч** вм. **щ** указывает, по нашему мнению, на то, что буква **щ** в псковских памятниках XIV в. передает звук **шч**, а не **шш**».

[34] А ў Палеі 1494 г. гэтак: растиснустася ему челюсти и оустьне ся его не свесте, 438 адв.

12. **Здваеньне сугукаў.** Асыміляцу **й** да папярэдняга мяккога сугуку па шчэзьненьню **ь** адбіваюць прыклады: десят**ю**, заеч**ю**. Выпіс із пскоўскіх кнігаў XVII стг. (РФВ, 1913, б. 7). Відавочна тут быў здоўжаны сугук, каторы, адылі, як гэта ёсьць у памятках ізь іншае тэрыторы беларускае, пісары звычайна не абзначалі. Прыклады на здваеньне ізь цяперашняе мовы пскоўскае: треттий, Чарнышоў-Пскоў, 171, 174.

13. **Мена або зьліцьцё ч і ц, ж і з, ш і с; вымова зь, сь.** «В значительной части говоров **ц** и **ч** совпали в одном звуке **ц** твердом или шепелявом **ц** твердом; в некоторых немногих говорах в звуке **ц** мягком или шепелявом звуке, близком к **т** мягкому. В другой части говоров существуют оба звука и **ц** и **ч**, при чем **ч** в таком случае может произносится твердо, как и **ц**; эти звуки частью различаются правильно, частью смешиваются: чэлый при цэрвяк. Более архаичными следует считать говоры, в которых **ц** и **ч** совпали» (Дурново-Опыт, 37). Затое пскоўскія **зь, сь** ляпей апісаны ў Ерапольскага: «Звук **з** мягкое произносится с легкою шепелявостью, как склонный к **ж**: зжмяя, зжяелёный. Обратно: жзяелезо и др.» «То же следует сказать о **с**, произносимом как **сш**: сшиний, сшизый, сшилязень. **Сш** бывает обыкновенно перед гласным мягким» (б. 588).

Да гэтага можна толькі дадаць, што, як і ў паўночнай дыялектычнай ґрупе прасторы б. задзіночанага гаспадарства беларускага, у мове пскоўскай спорадычна сустракаюцца прыпадкі мены **ж-з, ш-с** цьвярдых, прыкл. здати замест ждати (Сабалеўскі, 120).

Менаваныя рысы вельмі багата адбіваюцца ў памятках пскоўскіх ды тым балей, чым меней у іх чужога ўплыву.

Мена або зьліцьцё **ч** й **ц** і зьліжаная да **шь ж** мяккіх вымова **сь, зь** або зьліцьцё — таксама чэзнуць у Пскоўшчыне, адно, здаецца, памалей, чымся ў Полаччыне, Віцебшчыне а Смаленшчыне. Але ў некаторых мясцовасьцях нат баржджэй. Гэтак Кузьмін у вышменаваным артыкуле апісуе таксама мову Тарапецкага пав. Пскоўшчыны і траха сусім не знаходзе ў ім мены **ч** і **ц**, затое ў пав. Вялікім Віцебшчыны менаваная мена пануе. Не зазначае Кузьмін вымовы **сь, зь** зьліжанае да **ш, ж** мяккіх у тым-жа Тарапецкім пав., але прыклады на такую вымову прыводзе з пав. Вялікага (б. 153). Нат у глухіх сёлах Хомскага пав. мена **ч** і **ц** ёсьць толькі ў суседзтве з высяленцамі з Астроўскага пав. (Труды № 12, 135). У вадказе з Лускага пав. на апытаньнік зазначана: «зрэдку сустракаюцца словы **з ч** замесьт **ц**» (Труды № II, 181). Гэткім парадкам у вапошніх дзьвюх зьявах ё поўная аналёга з дыялектамі смаленска-віцебска-полацкімі.

Дзеля таго што мена **ч-ц** ё рысаю таксама народнае мовы (паўночна) расійскае, часьць расійскіх лінґвістых уважае яе за расійскую і на моўнай тэрыторы беларускай, у тым ліку пскоўскай. Але апрача таго, што яна ёсьць у народнай мове расійскай, яны ня могуць прывесьці іншых арґумэнтаў. Гэтая рыса, адылі, ё ў бальшыні дыялектаў польскіх ды ў некаторых іншых мовах славянскіх, меж іншага, у дольне-лужыцкай а палабскай, а гэта паказуе, што супольнасьць яе ў часьці мовы беларускай із паўночна-расійскім нарэччам ня сьветча праз яе паходжаньне расійскае на тэрыторы беларускай. Таксама нельга згадзіцца із Шахматавам праз быццам польскае паходжаньне гэтае рысы ў Беларусі і ў Расіі. Калі-б так было, дык гэтая рыса была-б найболей пашырыўшыся на захадзе Беларусі, а прымеж таго яе там сусім няма.

**зь, сь** зблiжаных да **ж, ш** мяккiх i мены **ж-з, ш-с** мова расiйская ня знае, але гэтая рыса пашырыўшыся ў гаворках польскiх i дольне-лужыцкай мове. Нiч (Nitsch) сьхiнаўся да пагляду, што разгляданыя рысы ё дыялектычнай зьявай мовы праславянскае.[35]

Уважаньне менаваных зьяваў за дыялектычна праславянскiя ё чыстай гiпотэзаю, прымеж таго што да некаторых тэрытораў сцьверджана гiстарычна неславянскае паходжаньне разгляданых рысаў. Малэцкi ў сваей монографii праз харвацка-славiнскую мену **ч** на **ц**[36] давёў, што гэтая рыса ў дыялектах харвацкiх паўстала як рэзультат сымбiёзы вэнэцкага дыялекту й харвацкае мовы, а ў мясцовасьцi славiнскай, каторай мова знае гэтую рысу, захавалася вымова даўнейшых тырольска-нямецкiх колёнiстых. Усюдых, дзе ё менаваныя рысы, можна ў вадных прыпадках допушчаць, у другiх сьцьвярджаць бытцё, да прыходу Славян, iншае стыхii, неславянскае. Жывучыя на такiх землях неславянскiя плямёны ня мелi ў сваей мове аднаго сугуку ў парах **ч-ц, ж-з, ш-с.** З гэтае прычыны ўзьнiкла разгляданая мена-мяшаньне.

На паўночных тэрыторах славянскiх моваў з уплываў неславянскiх могуць быць прыйманыя пад увагу ўплыў германскi, балцкi а фiнскi. Германскi ўплыў здаецца пэўны ў мове палабскай а дольне-лужыцкай, фiнскi — у паўночна-расiйскiм нарэччу. Дыкжэ Аванесаў i прызнаець, што ў нарэччу паўночна-расiйскiм «звуки **ц** и **ч** заменились одним звуком **ц** в связи с языковым смешением славян и финских племен».[37] Уплыў балцкi магчымы дзеля таго, што ў мове прускай ё вымова **дз** замест **дж.** Прускi ўплыў на мову польскую трэба адкiнуць, бо, першае, прускiя Балты так далёка на паўдня ня жылi, а, другое, польскi антрополёгiчны тып нiчога ня мае супольнага з тыпам балцкiм. Але паўстаньне ў мове беларускай менаваных рысаў пад уплывам балцкiм рэч сусiм пэўная. Балты былi субстратам народу беларускага, ды расьсяленьне Беларусаў а старавечных Балтаў на землях беларускiх пакрываюцца.[38] Мусiла тут быць пляма балцкае, у каторага мове ня было аднаго сугуку ў кажнай з параў **ч-ц, ж-з, ш-с.** Яно не захавалася, бо сталася субстратам беларускага плямены Крывiчоў. Калi зьвернем увагу, што яшчэ ў XI-XII стагодзьдзях у Княстве Смаленскiм, на ўсходнiм яго паграніччу жыло балцкае плямя Голядзь — вiдавочна астача гэтага плямены, што яшчэ ня зьлiлося зь беларускiмi Славянамi, дык праўдападобна яно, гэтае плямя (а не адно яго астача) было субстратам беларускага плямены Крывiчоў. З другога боку, ведама сярод Прусаў (прускiх Балтаў) плямя Голiнды. Назоў «Голiнды» ў мове беларускай нормальна зьмяняецца ў «Голядзь». Дык можна думаць, што Голядзь беларуская была свая Голiндам прускiм i мела ў сваей мове менаваныя даныя, дзякуючы каторым у нарэччу крывiцкiм разьвiлiся разгляданыя гэтта зьявы. Iншыя плямёны балцкiя сталiся субстратам iншых плямёнаў беларускiх. Што да разгляданых рысаў у мове польскай, то iх найлягчэй зьясьнiць там уплывам мовы люднасьцi германскае, што жыла на цяперашняй тэрыторы польскай

---

[35] Próba ugrupowania gwar polskich (Rozprawy Wydziału Filologicznego Akademii Umiejętności. XLVI, 1900).

[36] Cakawizm z uwzglednieniem zjawisk podobnych. Kraków, 1929.

[37] Р. Аванесов — Очерки русской диалектологии, Масква, 1949, б. 35.

[38] Гл. Я. Станкевiч — Савецкае хвальшаваньне гiсторыi Беларусi, у Мюнхене, 1956, б. 8–18. Там-жа падана лiтаратура праз паходжаньне Беларусаў.



да прыходу туды Славян i, мабыць, часткава засталася па iх прыходзе. Гэткая гiпотэза праз уплыў на мову польскую субстрату германскага здаецца мне праўдападабнейшай, чымся гiпотэза Бодуэна дэ Куртэнэ праз уплыў фiнскi, да каторае сьхiнаецца таксама Малэцкi ў цытаванай працы.

14. **Ф** перайшло ў **х** альбо ў **хв:** гахановичь, Пагодзiнскi пск. лет., III, 129, 165 адв., 169, 194, гахановича, там-жа, 120, 142, 158 (Карынскi, 72, 85). Iз сучаснае мовы: «Вместо **Ф** обыкновенно слышится **х:** хамiлiя, хабрiка, Яхiм, хунт, Пракохiй, Вульх (Ерапольскi, 589); Федарава: Хвёдар, Хвiлiп, Хёкла (Труды № 12, 134); Загорская вол.: Хёдар, Хаўронья, Хiлiп (Труды № 12, 135).

15. **Дысымiляца. кт** распадобнiлася ў **хт:** нихто. Выпiс iз пск. кнiгаў XVII стг. (РФВ, 1913, 7), хто, Ерапольскi, 593, з къто.

**р, л** распадобнююцца ў словах чужых: Люрик, Палея 1494 г., 439 адв., Трувол, там-жа. Таксама ў Палеi 1477 г. i iншых (Карынскi, 34, 57 i iнш.).

## КОЛЬКI ДРАБНЫХ АСАБЛIВАСЬЦЯЎ

Ё канцавое **i** ў слове «мацi» (Ерапольскi).

**н** у оустьне, Палея 1494 г., 438 адв.; оустьнѣ, Палея 1477 г. (Карынскi, 56). Пр. сучаснае блр. «вусны».

**в** у слове «освы», Ерапольскi (вiдавочна восвы). У мове блр. гэтак: назоўны скл. адз. л. — ася́, мн. л. — восвы.

**м** (а ня **н**) у некаторых iмёнах: Мiкалай, Мiкуня (Ерапольскi, 589).

Ваевода... того Микифорка орабилъ. Пск. лiст 1480 г. (Беляев — Рассказы из рус. истории, кн. III, Псков, б. 44).

Цьвярдое **н** у слове «амiн», Параклiтык 1386 г. (Сабалеўскi, 131), як у старой i цяперашняй мове беларускай наагул.

## КОЛЬКI РЫСАЎ IЗ СЛАВАТВОРСТВА

Суфiк **-i-** у васнове неазначаньнiкаў вiдiтi, смотрiтi: видити, Зб. Сынод. бiбл. 53/255 (другая часьць), 157, видиша, там-жа, 287; оусмотривъ, Iрмолоґiён 1344 г., 40 адв., расмотрих, там-жа; оусмотристе, Палея 1494 г., 103 адв., расмотрити, там-жа, 472; расмотривше, Зб. Сынод. бiбл. 68/270, видити, там-жа, 180, оувидивше, там-жа, 139 адв. «и др.» (Карынскi, 20, 68, 102, 122, 146, i iнш.). Гэты-ж суфiкс у памятках полацкiх: смотрити, осмотрити, видити (Станґ — Полацк, 43).

Суфiкс **-а-** у дзеясловаў «слухаць», «сука́ць»; суфiкс **-я-** ў дзеясловаў «купляць» (Ерапольскi, 589).

Бяссуфiксная хорма неазначальнiкавае асновы дзеяслова «раўцi» (Ерапольскi).

Суфiкс **-ен-** у множным лiку **-нт-** асноваў: кацяняты, гусяняты (Ерапольскi).

Памяншальны суфiкс **ьце** ў оконце, Палея 1477 г., 60.

Прыростак **су-** (а ня **с**) у сусѣдъ, запiс Мiнеi Сынод. бiбл. № 173; сусѣд, Пскоўскi судовы лiст 15; соусѣди, Зб. Сынод. бiбл. 68/270, 54 (Карынскi, 94, 105, 143).

## МОРФОЛЕҐІЯ

Мужчынскія спакменьнікі на **-р, -л** із пярэднім сугукам канчаюцца ў назоўным склоне адз. л. на **-о:** князь александро, Зб. Сынод. бібл. № 154, 202 (Карынскі, 68). Таксама ў мове блр. наагул, ды ў вялізарнай большыні мовы пароднае і ў мове літаратурнай такія спакменьнікі перайшлі да мужчынскік а-асноваў (Аляксандра, няма Аляксандры, бачу Аляксандру). Як відаць із прыведзенага вышэй прыкладу посадник Кюрила, із Зб. Сынод. бібл., відавочна, такі пераход да мужчынскіх а- асноваў стаўся і ў Пскоўшчыне.

Таксама мужчынскія хрышчоныя імёны памяншальныя із суфіксам **-ък** у мове беларускай канчаліся на **-о**[39] і таксама перайшлі да а-асноваў: Саўка, Янка, Сымонка, Міхалка і інш., няма Саўкі, бачу Саўку. Зь ня хрышчоных імёнаў належа сюды маршалка — таксама спакменьнік подле свае хормы памяншальны, а зь імёнаў з устаўным **ъ-** Марка. Як бачым із прыкладу — писал Марко (Параклітык 1369 г., запіс) — тое-ж ё і ў дыялекце пскоўскім.

**о** ё на канцы і ў назовах местаў прыметнікавага паходжаньня: изборьско, Зб. Сынод. бібл. № 154, 47 адв., 175, 204, Смоленско, там-жа, 144, 194, — дзеля таго, што разумеецца спакменьнік ніякага роду «места» ( а ня «горад»). Карскі кажа: «В старинных западнорусских памятниках нередко видим (у назовах местаў) окончание средн. рода на **-о**: оу Полотеско, гр(амота) около 1300 г.; Крас.: Витебско, 75, 80, дал ему лоуцко 77 (8), мѣнско 88, на смоленско 90 и др. При всех таких названиях городов следует подразумевать слово «место», что в Литовско-Русском государстве, под влиянием польского языка, обозначало «город» (Белорусы, II-3, 27). Карскі меў русыфікацыйныя тэндэнцы і там, дзе мова беларуская розьніцца ад расійскае, а прыпадкам зыходзіцца з польскай, часта — сьведама або нясьведама — гаварыў праз польскі ўплыў. Гэтак і тут, дарма што каля 1300 г. аніякага ўплыву польскага ў Беларусі ня было. Назовы местаў на -ско, як бачым, ё і ў мове пскоўскай, а прымеж таго ў Пскоўшчыне ніколі польскага ўплыву ня было.

**Дакладны (родны) скл. адз. л.** абстрактных і зборных мужчынскіх спакменьнікаў на **-у:** пскоўскі ліст 1463-65 г.: а искалъ на них животу брата своего; просилъ у нас исправе головника и животу и пива и меду;[40] Паґодзінск. пск. лет.: много животоу пограбиша 94 (Шахматаў, там-жа), меду 183, дару 109 адв., миру 112, до миру 133 (Карынскі, 88); Зб. Сынод. бібл. № 154: из риму 147, мироу не взяша 194 адв., «и др». (Карынскі, 73); Пскоўскі судовы ліст: грабежу не будет 7, своего закладу 9, до зароку 18 (Карынскі, 93-94). Із сучаснае мовы: от удару, із анбару, мёду (Ерапольскі, 590, 592).

**Мясцовы скл. адз. л.:** а) асабовыя спакменьнікі мужчынскія на **-у:** при федосу, Пролог 1383 г., запіс (Сабалеўскі, 127); при борису, Параклітык 1369 г., запіс; при борису, адрывак Парамейніка 1313 г. (Карынскі, 145); о сыну, Палея 1477 г., 384, о сыну, Палея 1494 г., 304 (Карынскі, 59); б) канчатак **-у** па **к, г,** мяккіх сугуках а **р:** Пск. судовы ліст: оу торгу 17, пиру 7; Зб. Сынод. бібл. № 154: въ полотьску 37 адв., на полку 242 адв., на волоку 379, на Днепру 372, о мироу 140; Пагодз. пск. лет.: в полочку 125, в воискоу 189 адв.; Палея 1477 г.: о миру 362, и пришед сѣде в градѣ сарихоу 340 (Карынскі, 59, 73, 88, 94). Із сучаснае мовы: у клівяру, на пню (Ерапольскі).

Аналёгічны самагук на месцу слабога **ь** ёсьць у **ляве,** Запіс Мінеі Сынод. бібл. № 173 (Карынскі, 143) з львъ, у прыкладзе заразом ё пераход **ь** у **'а (я).**

**Назоўны скл. мн. л.** мужчынскіх а ніякіх о-асноваў канчаецца на **-ы, -і:** горады, лесы, берагі (Дурново-Опыт, 38); рогі, сыны (спачатная кароткая у-аснова), вокны, вёслы (Ерапольскі). Так сама нт-асновы: кацяняты, гусяняты, вуцяняты (Ерапольскі).

**Дакладны скл. мн. л.** мужчынскіх о-асноваў мяккіх мае хорму на -еў (кароткіх ю-асноваў): царевъ, Палея 1494, 210; Пагодз. пск. лет.: пріателевъ, 153, рублевъ 97; Зборнік Сынод. бібл. № 68/270: носителевъ 269 адв., царев 203; Зборнік Сынод. бібл. 53/255 (другая часьць): молев 153, врачев (двойчы) 167 адв., звѣриев 99 адв.; Зборнік Соф. бібл. 1262: тропаревъ 14 адв. Зборнік Сынод. бібл № 154: царевицовъ 128 адв. (Карынскі, 38, 70, 88, 108, 119, 127). Із сучаснае мовы: Ерапольскі: мужоў, язёў, цароў.

**Клічны скл. адз. л.** а-асноваў у дыялекце пскоўскім XIV-XV стг. яшчэ быў. У памятках частая ё хорма господо й колькі іншых. У Прологу 1383 г.: възгласи ему честная она главо человеколюбивая (Сабалеўскі, 130, пр. Карынскі, 189). Націск хіба быў перанесены на канец слова — подле назоўнага скл. адз. л.

**і**-асновы канчаюцца ў мясцовым скл. мн. л. на **-ёх:** Ерапольскі: у гасьсёх (гасьцёх), у лашадзёх, сшянёх (сянёх).

**Канчатак -ім, -ым** у мясцовым скл. адз. л. прыметнікаў а займёнаў: Друкарскі Псалтыр № 34 з XIV стг.: въ сердци своимь 65 адв.; Зб. Соф. бібл. 1262: в бѣсящимся 101, о кающимся 90 адв., 19, о всякомь глаголѣ исходящимъ I адв., о владѣющимь I адв.; Пролог 1425: о мнисѣ впадшимь 101 адв., на стоящимь болванѣ 40 адв., о рожьшимся 162 і інш.; Зб. Сынод. бібл. № 68/270: о исходящимъ от земля огни 224 адв., о боудоущимъ 225, в граде семъ царьствоующимъ 3 (Карынскі, 108, 138, 141).

**Снадзіўны скл. мн. л.** прыметнікаў, займёнаў, радзей спакменьнікаў на **-мы:** Параклітык 1386 г.: вснимы силамы, дѣлы злымы (Сабалеўскі, 149) Палея 1494 г.: всимы силы црствы 211, сынмы хамовы 159, между сынмы первыми 157 адв.; Ліст 1463-65 г.: людмы, над нашимы Купцинамы.[41] Падобна ў іншых памятках пскоўскіх (Карынскі, 53, 82, 103, 123).

**Займя 2-ое ас. а зваротнае** маюць хормы з **-о-** ў прызн.-мясц. скл. адз. л. собѣ въ здравие, Апостал 1309-12 г., запіс (Сабалеўскі, 122). Ерапольскі: табе сабе.

**Хормы займёнаў тъ, вьсь, сь, самъ.** У памятках: назоўны-прымальны **скл. адз. л.: мужч. роду** — тот, сесь, наз. скл. жан. р. — тая, ніякі р. — тое

---

[39] У паўднявой часьці паўднёва-заходніх гаворак у іх і цяпер ё гэты канчатак — Юрко (зь Юръко).

[40] Шахматов праз гэта кажа: «Едва ли сколько-нибудь употребительны формы род. на -у от основ с ударением на падежных окончаниях в великорусских говорах, но в белорусских оне известны, напр., в старом языке: до четвергоу» (ИРЯС, XVII — 3—4, 1912, 348).

[41] Шахматаў: «Сопоставьте с этым -мы в белорусском друцком говоре густымы борамы, з намы (Романов, Белор. Сборник, IV, стр. XV). Ср. други указания у Карского Белорусы, II, 204». Дадам, што гэтыя-ж хормы ё цяпер і ў пав. Валожынскім Віленшчыны.

прым. жан. р. — тую; снадз. скл. муж. і ніякага р. — тым, усім, самым; наз. прым. мн. л. — тыі, усі, самы; дакл. -мясц. скл. мн. л. — тых, усіх, самых; прызначальны скл. мн. л. — тым, усім, самым; снадз. скл. мн. л. — тымі, усімі (Карынскі, 192). Ерапольскі: тая, тое, тым, тыі, усі, усіх (б. 591). Загорская вол.: усім (Труды № 12, 135).

**Зь лічнікаў** адцемлю: с двѣма на десятьма тысящьма, Евангеля ад Лукі 1409 г., 94 (Сабалеўскі, 142); чатыры, Загорская в. (Труды № 12, 135).

**Дзеяслоў.** Калі неазначаньнікі на **-нуць** ня маюць значэньня момэнтальнасьці, дык у іх хорма на **-нуць** заступлена хормаю на **-ці:** мокці, Загорская вол. (Труды № 12, 136). Таковыя хормы вельмі пашыраныя ў гаворках беларускіх.

Хорма І-ае ас. адз. л. падпаможнага дзеяслова была **есьмі** (Карынскі, 192); хорма І-ае ас. мн. л. **есьме**, праз што была мова вышэй. Тэматычныя дзеясловы ў І-ай ас. мн. л. маюць хормы на **-м** (Карынскі, 193, Ерапольскі, 591), дзеясловы з асновамі цяперашняга часу на **о/е** маюць пад націскам перад канчаткам **-м** самагук **-е-** — нясем. Ерапольскі, 591.

Дзеясловы ў 3-яй ас. адз. і мн. л. маюць у памятках звычайна канчатак **-ть.** Пр. Карынскі, 193. Бяссумлеву радкія канчаткі **-тъ** заўдзячаюць сваё быцьцё ў памятках пскоўскіх чужому літаратурнаму ўплыву. У мове сучаснай канчатак **-ць:** будзіць, ходзіць, яны любюць, ён любіць, Загорская вол. (Труды № 12, 136).

У 2-ой ас. мн. л. загаднага ладу ё хормы на **-іце.**

## НЕКАТОРЫЯ РЫСЫ ІЗ СЫНТАКСУ

Адно ў множным ліку ўжываюць спакменьнікаў дзьверы, каноплі, грудзі (Ерапольскі).

Род спакменьнікаў: красный яблак, густая па́ра, кака́я дзеріва (Ерапольскі, 590). съзва... всю чаду нарочиту, Зб. Сынод. бібл. № 154, 248. Таксама ў памятках задзіночанае Беларусі чада жан. роду (Карскі, II-3, 23), а цяпер у мове беларускай яблык муж. роду, а па́ра жан. р.

Замест прыймені **къ** ужываюць прыймені **до (да):** искаху и придоху **до** него, Евангеля ад Лукі 1409 г., 94 (Сабалеўскі, 142).

Таксама прыймя **до** ўжываецца замест прыймені **въ:** Іду **да** міліцыі, хадзі **да** зафхоза (Ерапольскі, 593).

Прыймя **за** ўжываюць і ў значэньню рас. через: зри за осми листов уперод, Зб. Сын. бібл. № 53/255, прыпіска XV стг., 93 адв. (Карынскі, III).

«У казьніку ўжываюць складаных прыметнікаў. Прыкл.: Яна была бальная; Ілья был глухей» (Ерапольскі, 592).

Пры вызначэньню мэты ўжываюць толькі неазначальніка: іці рыбе палавіць. Ерапольскі.

Ерапольскі і аўтары «Диалектологическай карты русскаго языка» (Дурново й інш.) кажуць, што ў мове пскоўскай замест мінулага часу дзеяслова ўжываюць дзеепрыслоўе мінулага часу (нясклоннае part. praet. I): Яны ушолшы, яна поемшы (Ерапольскі, 593); Карова была цяліўшы (Дурново-Опыт). Ведама мне, што ў шмат якіх гаворках беларускіх, меж іншага ў віленска-ашмянскай, гэткіх хормаў ужываюць замест дзеепрыметніка залежнага стану мінулага часу (part. praet. pass.) ў тых прыпадках, калі



выказуецца мінулы дзейны стан. Гэтак, прыкладам, кажацца **дзяцё памылася.** Калі хтось дзяцё памыў, дык яно (ёсьць) **памытае;** але калі дзяцё само памылася, дык яно (ёсьць) **памыўшыся.** Здаецца, што гэтак ужываюць і менаваных хормаў пскоўскіх.

Адцемлю злуч **чы:** а чи буду гдѣ помялъся... и вы отьци и братие исправляюче чтите, Пралог 1425 г., запіс (Карынскі); а чи где буду. описалъ ся. и вы. отьци. и братья. пойте. испраливаюця, Параклітык 1369 г., запіс (Сабалеўскі); чи где боудеть помятено или криво написано, Апостол 1309-12 г., запіс (Сабалеўскі).

Згодна з моваю беларускай, у дыялекце пскоўскім «наблюдается обилие слов с ласкательными суффиксами: малюхетный (маленький), николишиньки (никогда). Иногда к словам с суффиксами ласкательными или уменьшительными присоединяется частица **-ка:** таперинька, тутынька» (Ерапольскі, 592).

З выняткам злучэньняў **гл, кл** із **дл, тл** усі менаваныя асаблівасьці дыялекту пскоўскага супольныя ў яго або з усей моваю беларускай, або з дыялектамі паўночнага (накш паўночна-ўсходняга) нарэчча мовы беларускае. Блізу ўсі гэныя асаблівасьці чужыя мове расійскай. Разгледзіўшы рысы мовы пскоўскае, нельга сумлявацца, што з гледзішча гісторычнага дыялект пскоўскі — чыста беларускі. У сучасным сваім стане ён — таксама беларускі, але вельмі зрусыфікаваны.

Зьліцьцё або мяшаньне **ч і ц, ж і з, ш і с,** вымова **зь, сь** зьбліжаная да **ж, ш** мяккіх, дысыміляцыйнае аканьне, зьліцьцё **ѣ і е,** хорма **есьме** І-ае ас. мн. л. паказуюць, што дыялект пскоўскі належа да паўночнае (накш паўночна-ўсходняе) групы дыялектаў беларускіх. Злучэньнямі **гл, кл з дл, тл** дыялект пскоўскі займае да некаторае меры апрычонае месца ў паўночна-дыялектычнай групе мовы беларускае, але ад іншых дыялектаў гэтае групы ён шмат меней розьніцца, чымся ўся гэтая група ад паўднявое дыялектычнае групы мовы беларускае.

## ПАСЛОЎЕ

Зь невялічкімі выняткамі разгледжаныя памяткі пскоўскія напісаны моваю царкоўна-славянскай (стара-баўгарскай). Як наагул у памятках моваю царкоўна-славянскай, таксама ў такіх-жа пскоўскіх, рысы мовы жывое, у даным прыпадку беларускае, ёсьць у іх як адхіны ад мовы памяткі ды як недагляд і абмылы.

Аўтару гэтага артыкулу былі няпрыступныя арыгіналы памяткаў і яму давялося карыстацца цытатамі з памяткаў, прыводжанымі пярэднімі дасьледаваньнікамі; дзеля таго ля прыводжаных рысаў мовы мусіла быць паказана як месца іх у памятцы, так і месца ў пярэдняга дасьледаваньніка.

Пры друку з тэхнічных прычынаў ётаваныя літары мусілі быць заступлены літарамі **я, ю, е,** замест юсаў ужыты **у** або **я,** залежна ад вымовы юса, раскрыты цітлы, і літары, вынесеныя над радок, унесены ў радок. Дзеля таго-ж нельга было дакладней графічна абазначыць вымовы **зь, сь,** дабліжанае да вымовы **ж, ш** мяккіх, а ў ваканьню самагукаў пераходных (**а, ’а (я)** да **э, ’э (е), ы, і**).

## СКАРАЧЭНЬНІ НАЗОВАЎ КНІГАЎ, ЦЫТАВАНЫХ АРТЫКУЛАЎ І МЯСЦОВАСЬЦЯЎ

**Дурново: Опыт** — Н. Дурново, Н. Соколов и Д. Ушаков. Опыт диалектологической карты русского языка в Европе, с приложением очерка русской диалектологии (Труды Московской Диалектологической Комиссии, V, 1915).

**Ерапольскі** — Иеропольский. Говор деревни Савкино Пушкинского района Псковскога округа (ИРЯС, III-2, 1930).

**Загорская в.** — Загорская воласьць Хомскага пав.

**ИРЯС** — Известия по русскому языку и словесности Академии Наук.

**Карынскі** — Н. Каринский. Язык Пскова и его области в XV в. (Записки ист.-фил. фак. СПБ университета, 93, 1909).

**Кузьмін** — П. Кузьмин. Материалы для изучения говоров Велижского уезда (ИРЯС III-1, 1930).

**РФВ** — Русский Филогический Вестник.

**Сабалеўскі** — А. Соболевский. Очерки из истории русского языка. II. Псковский говор в XIV в. (Университетские известия, у Кіеве, 1884, № 1-2).

**Станг: — Kanzleisprache** — Ch. Stang. Die westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen, Oslo, 1935.

**Станг: Полацк** — Ch. Stang. Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polozk. Oslo, 1939.

**Станкевіч:** Аль Кітаб — J. Stankievič. Mova rukapisu Al Kitab Kryvickaha muzeju Ivana Łuckieviča ŭ Vilni. New York, 1954.

**Труды** — Труды Московской Диалектологической Комиссии.

**Федарава** — Федарава Болагаўскае вол. Вялікалуцкага пав.

**Шахматаў** — А. Шахматов. Несколько заметок о языке псковских памятников (Журнал Министерства Народного Просвещения, июль, 105).

**Шэрах** — Y. Šerech. Problems in the Formation of Belorussian (Word, vol. 9, 1953).

**Чарнышоў: Пскоў** — В. Чернышев. Псковское наречие (Труды Комиссии по русскому языку Академии Наук СССР, I, 1931).

**Чарнышоў: Асташкаў** — В. Чернышев. Говор города Осташкова (Материалы и исследования по русской диалектологии, 2, М.-Л., 1949).

# Стан вывучэньня гісторыі ў БССР

## Павал Урбан

Коратка гаворачы, у БССР ня існуе нацыянальнай гістарыяграфіі; адсутнічае й дасьледваньне гісторыі беларускага народу. Усё тое, што ў БССР падганяецца пад гэтыя паняцьці, зьяўляецца ў запраўднасьці казёншчынай. Больш таго, гэта — свайго роду накінутая расейская агентура, пакліканая выпалашчваць нацыянальны зьмест зь гісторыі Беларусі.

Як ведама, у сілу гістарычных абставінаў у Беларусі за царскіх часоў не магла скласьціся свая нацыянальная гістарычная школа. Ня было навет магчымасьцяў для больш грунтоўнага вывучэньня гісторыі беларускага народу. Гэтаму не садзейнічала, папершае, забарона да 1905 году беларускага друкаванага слова, а, падругое, нацыянальнае прыгнечаньне наагул і адсутнасьць нацыянальных кадраў гісторыкаў. Нешматлікая сьведамая нацыянальная інтэлігенцыя была занятая пераважна прасьветніцтвам першай неабходнасьці. Некалькі-ж прафэсыянальных гісторыкаў рабіла першыя крокі ў гэтым кірунку, ды апошнія, з свае ці не з свае віны, знаходзіліся пад уплывам расейскае гістарыяграфіі або гэтак званага «заходня-русізму».

Вывучэньнем гісторыі Беларусі, асабліва з часоў паўстаньня 1863 году, займаліся пераважна расейскія гісторыкі. Аднак гэтае вывучэньне ня было самамэтай, а дыктавалася палітычнымі прычынамі. Пад уплывам апошняга паўстаньня расейскі ўрад і грамадзкасьць робяць як-бы неспадзяванае й важнае «адкрыцьцё» Беларусаў, угледзеўшы ў іх «тую самую рускую народнасьць». Гэтаму адкрыцьцю, якое сяньня праслаўляецца ў БССР, як «найбольшае навуковае дасягненьне» ў галіне дасьледваньня гісторыі Беларусі, было прысьвечана шмат працаў расейскіх гісторыкаў.

Трэба прызнаць, што ў дзялянцы дасьледваньня гісторыі Вялікага Княства Літоўскага старая расейская гістарыяграфія дасягнула шмат большых вынікаў, чымся цяперашняя савецкая, асабліва бэсэсэраўская гістарыяграфія. Першая ўсё-такі прыйшла да высьнаву, што Вялікае Княства Літоўскае ці гістарычная Літва было «літоўска-рускім» ці «літоўска-беларускім» гаспадарствам зь перавагай «рускага» ці «беларускага» нацыянальнага элемэнту. Ведама, пад «літоўскім» тут разумелася жмудзкае, а пад «беларускім» — геаграфічны варыянт таго-ж «общего русского» ці навет расейскага. Савецкая-ж гістарыяграфія, і ў першую чаргу сяньняшняя бэсэсэраўская, запазычыла ў старой расейскай гістарыяграфіі толькі вышэй успомненае «ад-

крыцьцё», канцэпцыю пра тое, што Беларусы гістарычна й нацыянальна складаюць неразьдзельную частку «рускай народнасьці». Уся гісторыя Вялікага Княства Літоўскага ў якасьці палітычнага падарунку поўнасьцяй перададзена сяньняшнім Літоўцам, г. зн. гістарычным Жмудзінам. У гэтай гісторыі беларускаму народу выдзелена месца «нацыянальна-паняволенага» народу, месца народу, што быццам гвалтам быў улучаны ў варожае яму гаспадарства.

Першыя паважныя крокі ў кірунку сыстэматычнай і грунтоўнай распрацоўкі гісторыі беларускага народу былі зробленыя ў першым дзесяцігодзьдзі існаваньня БССР. У той час разьвіцьцё беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі ачолілі старшыня Інстытуту Беларускай Культуры й пазьнейшы прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук прафэсар Усевалад Ігнатоўскі, рэктар Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту прафэсар Уладзімер Пічэта, прафэсар М. Доўнар-Запольскі, В. Дружчыц, В. Ластоўскі, А. Смоліч, А. Ляўданскі й іншыя. Ужо ў першай палавіне названага дзесяцігодзьдзя было апублікавана каля двух дзясяткаў меншых і большых працаў зь гісторыі Беларусі,[1] спасярод якіх можна адзначыць «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (выд. 5, 1925) праф. У. Ігнатоўскага, «Гісторыю Беларусі» (ч. I, 1924) праф. У. Пічэты й юбілейны зборнік «Чатырохсотлецьце беларускага друку, 1525—1925 гг.» (1926). У другой палавіне гэтага дзесяцігодзьдзя былі выдадзеныя зборнікі гістарычных дакумэнтаў «Беларускі архіў» (тт. I-III, 1927—1931), «Гістарычна-археалягічны зборнік» (т. I, 1927), манаграфія М. Шчакаціхіна «Нарысы гісторыі беларускага мастацтва» (т. I, 1928) і іншыя. Былі падрыхтаваныя да друку «Гісторыя Беларусі з даўнейшых часоў да канца XVIII ст.» У. Пічэты й капітальная праца М. Доўнар-Запольскага «Гісторыя Беларусі», якія аднак не пабачылі сьвету.

Бязумоўна, гэтыя пачаткі й названыя працы мелі свае недастаткі, і ў першую чаргу былі яшчэ пад моцным уплывам «заходня-русізму». Пры нармальных умовах разьвіцьця яны маглі-б даць плённыя вынікі. Ня трэба забываць, што й БССР 1920—1930-ых гадоў ня была незалежнай дзяржавай. Гэта быў быццам-бы «падарунак» Леніна. Як і раней, над працай беларускіх навукоўцаў тут навісала зоркае вока маскоўскай цэнзуры. Аднак ужо ў гэтых працах можна было прасачыць новую гістарычную думку, адлюстраваньне канцэпцыі пра гістарычна-нацыянальную апрычонасьць беларускага народу, пра ягонае самастойнае дзяржаўнае жыцьцё ў мінулым, пра ягоную высокаразьвітую сярэднявечную культуру.

Падобны кірунак разьвіцьця маладой беларускай гістарыяграфіі, ведама, ня мог не закрануць імпэрыялістычных амбіцыяў Масквы. Зь беларускіх гісторыкаў першым у няласку Масквы трапляе прафэсар Мітрафан Доўнар-Запольскі, які ўяўляў зь сябе першарадную навуковую сілу. Ён ссылаецца ў Маскву яшчэ ў канцы 1920-ых гадоў, дзе й паміpae ў 1934 годзе. З гэтае прычыны не пабачыла сьвету й ягоная праца — «Гісторыя Беларусі». Потым наступае добра ведамая «нацыяналістычная» чыстка 1930 году, якая найбольш закранае беларускі гістарыяграфічны фронт. Як ведама, чыстка праводзілася пад лёзунгам змаганьня з «контррэвалюцыйным» **Саюзам Вызваленьня Беларусі,** які быццам-бы ачольваў прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук праф. У. Ігнатоўскі. Што-ж тычыцца беларускіх гісторыкаў, запраўднай прычынай гэтай барбарскай рэпрэсіі было тое, што апошнія, як пра гэта сьветчаць і абвінавачваньні Масквы, «імкнуліся ідэялізаваць мінулае Беларусі». У выніку гэтага ў 1930 годзе арыштоўваюцца акадэмікі Ў. Пічэта й В. Ластоўскі, А. Смоліч, Я. Дыла, В. Дружчыц і шмат іншых маладзейшых беларускіх гісторыкаў, этнографаў і навет студэнтаў гістарычных факультэтаў. Прафэсар У. Ігнатоўскі канчае самагубствам у лютым 1931 году пасьля доўгіх допытаў у падвалах ГПУ й прымусовага адрачэньня ад пасады прэзыдэнта Беларускай Акадэміі Навук. Іхныя працы былі забароненыя або зусім зьнішчаныя. У якой ступені тут праявіліся нацыянальная нязносьнасьць і шавінізм Масквы, можа быць прыкладам хоць-бы той факт, што адначасна зьнішчаюцца навет статуэткі беларускага першадрукара з XVI стагодзьдзя доктара Францішка Скарыны й беларускага нацыянальнага гэроя з паўстаньня 1863 году Кастуся Каліноўскага.

Фактычна з гэтай рэпрэсіяй была зьліквідаваная нацыянальная гістарыяграфія ў БССР яшчэ ў пачатковай стадыі свайго разьвіцьця. У БССР з гэтага мамэнту наступае гістарыяграфічны застой, потым прыходзіць казённшчына, што безразборліва зьмешвае ў вадно цэлае імпартаваныя з Масквы старыя й новыя канцэпцыі пра гістарычнае мінулае беларускага народу. У выніку гэтага беларускі народ зноў застаецца «гістарычна безьдзяржаўным» і «культурна адсталым» народам, наагул нейкай гістарычнай выпадковасьцяй, быццам-бы штучна адарванай ад свайго кораня — так званага «адзінага рускага народу».

Пасьля апошняе чысткі казённую гістарыяграфію ў БССР ачоліў акадэмік і адначасна віцэ-прэзыдэнт Беларускай Акадэміі Навук — маскоўскі стаўленік В. Шчарбакоў. Першыя гады ягонай дзейнасьці абмяжоўваюцца змаганьнем з рэцыдывамі беларускага «буржуазнага нацыяналізму» й прапагаваньнем «марксістоўскай мэтадалёгіі». У сувязі з гэтым вядзецца падрыхтоўка зборніка дакумантаў, што меўся адлюстраваць «контррэвалюцыйную дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў у часы Кастрычніцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны». У вадказ на пастанову СНК і ЦК ВКП(б) «Аб выкладаньні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР» з 16 травеня 1934 году няшматлікі склад супрацоўнікаў Інстытуту гісторыі БАН, дырэктарам якога зьяўляецца цяпер Расеец Н. М. Нікольскі,[2] прыступае да падрыхтоўкі «Хрэстаматыі зь гісторыі Беларусі.» Сам акадэмік В. Шчарбакоў працуе над «Нарысамі гісторыі Беларусі». Наагул у 1934—1936 гг. паяўляюцца ў друку наступныя паасобныя выданьні: «Нарысы гісторыі Беларусі» (ч. I-II), «Клясавая барацьба й гістарычная навука ў БССР» і «Сялянскі рух і казацтва на Беларусі» В. Шчарбакова, «Гісторыя мануфактуры на Беларусі» (т. II) Д. Даўгялы, «Саветы ў 1905 годзе» П. Горына, «Гісторыя гаспадаркі прыгоньнікаў на Беларусі» Кернажыцкага й зборнік тэндэнцыйна прэпараваных дакумантаў — «Гісторыя Беларусі ў дакумантах і матарыялах» (т. I, 1936).

[1] V. Pičeta. La littérature historique blancheruthène, 1921—1926, Bulletin d'Information des sciences historiques en Europe Orientale, t. I, fasc. 3—4, Varsovie, 1928, pp. 213—222.

[2] Н. М. Нікольскі (нар. 1877) ніколі ня меў нічога супольнага зь гісторыяй Беларусі. Ягоная спэцыяльнасьць — старажытная гісторыя Ўсходу й гісторыя рэлігіі. У 1922 годзе быў назначаны прафэсарам Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Пасьля «нацыяналістычнай» чысткі ў 1931 стаўся акадэмікам БАН і ачоліў ейны Інстытут гісторыі. За свае заслугі перад Масквой быў узнагароджаны 2 ордэнамі Леніна й ордэнам Працоўнага Чырвонага Сьцягу. Атрымаў таксама годнасьць «заслужанага дзеяча культуры БССР».

Можна ўявіць, што гэта былі за «гістарычныя» працы, узьніклыя на разваліна́х «нацыяналістычнае» чысткі 1930—1931 гадоў! Зрэшты неўзабаве быў арыштаваны таксама й акадэмік В. Шчарбакоў, а разам з гэтым рухнулі й усе ягоныя «здабыткі» ў змаганьні з рэцыдывамі беларускага гістарыяграфічнага нацыяналізму. Як ведама, пастановай СНК БССР з 9 ліпеня 1936 году Беларуская Акадэмія Навук таксама была пераназвана ў **Акадэмію Навук БССР**, фармальна стаўшыся такім чынам звычайнай савецкай установай.

Фактычна 1937—1939 гады былі пустым месцам у казённай бэсэсэраўскай гістарыяграфіі. У **Историческим журнале** (№ 7, 1938) паявіўся даволі вымоўны артыкул «Борьба белорусского народа против литовского и польского ига» І. Лочмеля. Выйшлі таксама два фальклёрныя зборнікі пад рэдакцыяй Н. Нікольскага: «Дарэвалюцыйная і Совецкая Беларусь у народнай творчасьці» (1938) і «Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі» (1939). Гэтая гістарыяграфія пачала крыху ажываць з восені 1939 году. Стымулам гэтага было прылучэньне Заходняй Беларусі да БССР і ўся тая камэдыя, што разыйгрывалася каля гэтага «ўзбуйненьня» БССР. У гэты час у БССР была дэлегаваная ведамая расейская шавіністка гісторык А. М. Панкратава й выбраная ў 1940 годзе акадэмікам Акадэміі Навук БССР. Яна цяпер ачоліла разьвіцьцё казённай гістарыяграфіі ў БССР.

Да беларускай тэматыкі зьвярнуўся таксама акадэмік У. Пічэта, звольнены з ссылкі й затрыманы назаўсёды ў Маскве. У 1940 годзе ён апублікоўвае прынагодную працу «Основные моменты исторического развития Западной Украины и Западной Белоруссии» (Масква). На гэтую тэму паяўляюцца таксама кнігі «Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов» (Масква, 1940) І. Ф. Лочмеля й «Заходняя Беларусь пад панскім гнётам і яе вызваленне» (Менск, 1940) таго-ж І. Ф. Лочмеля й Н. М. Нікольскага. Наконадні вайны пад кіраўніцтвам акадэміка Ў. Пічэты ў Інстытуце гісторыі Акадэміі Навук СССР быў падрыхтаваны да друку І-шы том «Гісторыі Беларусі» (з даўнейшых часоў да 1861 году).[3] У далейшым акадэмік У. Пічэта працаваў над 2-ім томам «Гісторыі Беларусі». Апрача таго ён падрыхтоўваў да друку 2-томны «Учебник по истории Белоруссии для высших учебных заведений», напісаны пераважна яшчэ перад другой сусьветнай вайной.[4]

Як ведама, акадэмік У. Пічэта (Харват з паходжаньня; памёр у 1947 г.) заўсёды быў пад уплывам «заходня-русізму», і ўжо з гэтае прычыны яго ня можна было залічыць да беларускіх «буржуазных нацыяналістых». Аднак ён захапляўся гісторыяй Беларусі й трымаўся, хоць і некансэквэнтна, тых паглядаў, што яшчэ Полацкае княства запачаткавала беларускую дзяржаўнасьць і што Вялікае Княства Літоўскае ўзьнікла не ў працэсе заваёваў, але склалася мірным шляхам як дабравольны саюз Беларусаў і Жмудзінаў, і што з нацыянальнага пункту гледжаньня яно было больш беларускім, чымся жмудзінскім. Пасьля свае рэгабілітацыі акадэмік У. Пічэта змушаны быў зрачыся многіх сваіх ранейшых паглядаў на гісторыю беларускага народу ды ў папад ці не ў папад падкрэсьліваць так званае «культурнае й

[3] С. В. Бахрушин. В. И. Пичета как историк СССР. **Ученые записки Института славяноведения,** № I, 1949, б. 7—14.

[4] В. Д. Королюк. Рукописное наследство академика В. И. Пичеты. Тамсама, б. 25–34.



нацыянальнае адзінства» беларускага народу з расейскім. Аднак у васнаўным ён трымаўся ранейшых сваіх канцэпцыяў. Якраз з гэтае прычыны не пабачылі сьвету як падрыхтаваныя пад ягоным кіраўніцтвам у Інстытуце гісторыі АН СССР І-шы й 2-гі томы «Гісторыі Беларусі», так і двутомны «Падручнік зь гісторыі Беларусі для вышэйшых навучальных установаў». Некалькі ягоных працаў зь гісторыі Беларусі выйшлі толькі ў 1961 годзе ў вадпатомным выданьні Акадэміі Навук СССР.[5]

Супрацоўнікамі-ж Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук БССР у 1940 годзе быў выдадзены яшчэ адзін зборнік тэндэнцыйна падабраных дакумантаў.[6] У 1942 годзе яны распрацоўвалі дзьве тэмы: «Роля беларускага народу ў айчыннай вайне супраць нямецка-фашыстоўскіх акупантаў» і «Барацьба беларускага народу зь нямецкімі акупантамі». Кіраўніком гэтых абедзьвюх тэмаў была акадэмік А. М. Панкратава. Сама яна пісала кнігу на тэму «Барацьба беларускага народу зь немецкімі акупантамі ў 1918 годзе». Да гэтае тэматыкі быў прыцягнуты таксама й акадэмік У. Пічэта, які меўся напісаць кнігу на тэму «Барацьба беларускага народу зь нямецкімі захопнікамі пачынаючы ад XII стагодзьдзя да нашых дзён». Праўдападобна апошнія тэмы й працы засталіся незакончанымі, бо іх ня сустракаецца ў бібліяграфіі БССР. З часу Другой сусьветнай вайны гэтая бібліяграфія прыводзіць толькі наступную літаратуру: «Партизанское движение в Великой Отечественной войне» (Масква, 1943), «Освобождение Белоруссии» (Менск, 1944) і «Ленин и Сталин — создатели белорусского государства» (**Беларусь,** № 2, 1944) былага партыйнага боса ў БССР П. К. Панамарэнкі й «Разгром немецких войск в Белоруссии. Краткий оперативный очерк» (Масква, 1945) Е. А. Шылоўскага.[7]

Нарэшце, у 1945 годзе Інстытут гісторыі Акадэміі Навук БССР прыступіў да напісаньня двутомнай «Гісторыі БССР», якая мелася абняць як гістарычнае мінулае Беларусі, так і гісторыю БССР. Як і трэба было спадзявацца, адказнымі рэдактарамі двутомніка былі вызначаныя акадэмікі Н. М. Нікольскі, А. М. Панкратава й В. Н. Перцаў. Зрэшты напісаньнем гэтае «Гісторыі» кіраваў Інстытут гісторыі Акадэміі Навук СССР. Прадбачвалася таксама на аснове двутомніка падрыхтаваць «Падручнік зь гісторыі Беларусі» для 8-10 клясаў сярэдніх школаў, у той час, як сам двутомнік меўся быць дапаможнікам для студэнтаў і выкладчыкаў вышэйшых навучальных установаў.

Хоць хвальшаваньне гісторыі беларускага народу поўнасьцяй залежыла ад расейскіх гісторыкаў, аднак працэдура напісаньня й выданьня І-га тому «Гісторыі БССР» зацягнулася ажно на 10 гадоў; другога-ж — на 14 гадоў! Першы макет двутомніка быў падрыхтаваны, праўдападобна, у 1947 годзе. Ён аднак быў адкінуты, і ў 1948 годзе ў **Известиях Академии Наук БССР** (№ 3) паяўляюцца так званыя «Тезисы об основных вопросах истории БССР», у якіх зьверху й апрыёры накідаюцца асноўныя прарасейскія канцэпцыі гісторыі беларускага народу. Другі макет «Гісторыі БССР» быў гатовы ў 1949 годзе. Ён абгаварваўся ў Інстытуце гісторыі АН СССР і быў прыняты пасьля ўвядзеньня некаторых папраўак і зьменаў. Праводзілася

[5] В. И. Пичета. **Белоруссия и Литва XV–XVI вв.** Пад. рэд. З. Ю. Капыскага, В. Д. Каралюка й Н. Н. Улашчыка. Масква, АН СССР, 1961, 815 б.

[6] **Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі,** т. II, Менск, АН БССР, 1940.

[7] Большая Советская Энциклопедия, выд. 2-е, т. 4, Масква, 1952, б. 491–492.

канчатковая рэдакцыя І-га тому «Гісторыі БССР», а 2-гі том быў ужо здадзены ў друк.[8]

Тым часам насьпявае кульмінацыйны пункт прапагаваньня расейскага патрыятызму й вялікадзяржаўніцкага шавінізму, клясычным адлюстраваньнем чаго былі дырэктывы XIX зьезду КПСС. Гэта прыводзіць да яшчэ больш узмоцненага выкараненьня так званага «буржуазнага нацыяналізму» ў гістарыяграфіі нерасейскіх народоў, з аднаго боку, і да бяспрыкладнай ідэялізацыі гісторыі й імпэрыялізму расейскага народу, з другога. Як ведама, у гэты час узьнікла расістоўская канцэпцыя пра «гістарычную выбранасьць» расейскага народу, а таксама формула так званага «абсалютнага дабра», якая сьцьвярджала, што прылучэньне нерасейскіх народаў да Расеі й расейскае панаваньне над гэтымі народамі зьяўляецца для іх абсалютным дабром. Як-бы там ня было, але ў выніку ўсяго гэтага касуецца й другі варыянт макету двутомнай «Гісторыі БССР» і пішыцца новы. Гэты трэйці варыянт макету абгавараваўся ў Менску напачатку 1953 году ў прысутнасьці гісторыкаў з Акадэміі Навук СССР і прадстаўнікоў ад Украінскай і Літоўскай ССР. У працэсе гэтага абгаварваньня зазначалася, што ў параўнаньні з папярэднімі макетамі, апошні варыянт шмат больш зьвярнуў увагі на паказаньне «Русі, як адзінай калыскі расейскага, украінскага й беларускага народаў», шмат выразьней падкрэсьліў «выключную ролю расейскага народу ў гісторыі беларускага й іншых народаў СССР», больш яскрава вызначыў значэньне для беларускага народу Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая «прынесла яму сацыяльнае й нацыянальнае вызваленьне». З другога боку зазначалася, што гісторыя беларускага народу абавязкова павінна будавацца з улікам падзеяў гісторыі расейскага народу, павінна падпарадкавацца пэрыядызацыі гісторыі расейскага народу. У пытаньні Вялікага Княства Літоўскага часткай прысутных выказвалася думка, што для беларускага народу яно было... «меншым злом», бо ў той час Маскоўшчына яшчэ «не магла працягнуць рукі братэрскай дапамогі» беларускаму народу й «вызваліць яго зь літоўскае няволі». Іншыя сьхіляліся да канцэпцыі, выведзенай у макеце, згодна якое Вялікае Княства Літоўскае ўважалася такой-жа чужацкай навалай, якой магла быць для беларускага народу, напрыклад, «крыжацкая» ці «мангольская» навала.[9] У прынцыпе тут няма ніякай розьніцы між першым і другім, бо абодва варыянты аднае й тае-ж канцэпцыі бачылі ў Вялікім Княстве Літоўскім «чужы» для беларускага народу дзяржаўны твор. Аднак апублікаваны І-шы том «Гісторыі БССР» прыняў апошні варыянт гэтае антыбеларускае канцэпцыі.

У такіх, запраўды цяжкіх, нарадзінах І-шы том «Гісторыі БССР» паявіўся ў сьвет і паявіўся ў **расейскай мове** толькі ў 1954 годзе. Дзеля падкрэсьленьня «нацыянальнай формы» ён выйшаў пад рэдакцыяй акадэміка-сакратара Аддзелу грамадзкіх навук АН БССР акадэміка В. Перцава й кандыдатаў гістарычных навук К. Шабуні й Л. Абэцэдарскага. Як зазначаецца ў прадмове да гэтага выданьня, апрача іншых беларускіх гісторыкаў, «вялікую дапамогу ў напісаньні» «Гісторыі БССР» прыклалі акадэмікі А. М.

[8] А. Козлов. Научно-исследовательская работа Института истории Академии наук Белорусской ССР за 1946–1949 годы. **Вопросы истории**, № 8, 1950, б. 157—159.

[9] В. М. Лайко и М. Е. Стрельцов. Обсуждение основных вопросов истории Белоруссии. **Вопросы истории**, № 5, 1953, б. 133–136.



Панкратава й М. Н. Ціхаміраў, сябра-карэспандэнт АН СССР (цяпер акадэмік) М. В. Нечкіна, прафэсары В. К. Яцунскі й А. І. Барановіч і кандыдаты гістарычных навук Э. Н. Бурджалаў, В. Т. Пашута (цяпер доктар) і А. В. Мітрафанава. Аднак і бяз гэтае зацемкі добра ведама, што «Гісторыя БССР» пісалася ў сьценах Інстытуту гісторыі АН СССР і пісалася, калі ня вылучна, дык пад наглядам расейскіх гісторыкаў.

2-гі том «Гісторыі БССР», які абыймае савецкі пэрыяд ад 1917 да 1958 году, выйшаў у беларускай мове ў 1958 годзе. Ён выйшаў пад рэдакцыяй цяперашняга дырэктара Інстытуту гісторыі АН БССР сябры-карэспандэнта І. Краўчанкі й сябры-карэспандэнта Н. Каменскай.

Ведама, з гледзішча насьвятленьня беларускага нацыянальна-вызвольнага руху 1917—1920 гадоў і нацыянальнага жыцьця ў БССР 1920—1930 гадоў цікавым экзэмплярам зьяўляецца таксама й 2-гі том «Гісторыі БССР». Гэты рух разглядаецца тут, як нешта чужое для беларускага народу, наагул як быццам-бы «польская» й «нямецкая» агентура. Чаму? Таму, што гэты рух быў ськіраваны супраць савецкай улады, а галоўнае, што ён меў на ўвазе «адарваць Беларусь ад Расеі». З гэтае прычыны ён быў аднačасна «польска-нямецкай» агентурай, бо аўтары заўважаюць гэтую агентуру ня толькі ў факце самога беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, але й у будучым лёсе Беларусі. Бо, адарваўшы Беларусь ад Расеі, беларускія «буржуазныя нацыяналістыя» нямінуча «прадалі-б» яе Польшчы ці Нямеччыне. Такая лёгіка, што народы павінны ўваходзіць або ў Расейскую імпэрыю, або павінны быць праглынутыя іншымі імпэрыямі. Ведама, лепш, калі яны пастаўлены на калені перад Масквой. Гэтая лёгіка аднак не дапускае магчымасьці існаваньня незалежнасьці меншых дзяржаваў. Другім парадоксам 2-га тому «Гісторыі БССР» зьяўляецца цьверджаньне, што толькі Масква магла прынесьці й прынесла нацыянальнае вызваленьне беларускаму народу, што толькі ў выніку «ленінскай нацыянальнай палітыкі» гэтай Масквы беларускі народ «першы раз у гісторыі» атрымаў сваю нацыянальную дзяржаўнасьць! Дыялектыка ўласнага жывата: незалежнасьць, напрыклад, Беларусі ў вачох Масквы зьяўляецца, такім чынам, нацыянальнай здрадай; нацыянальным-жа вызваленьнем уважаецца палітычнае падпарадкаваньне Беларусі той-жа Маскве!

З гледзішча насьвятленьня гістарычнага мінулага беларускага народу найбольш цікавым зьяўляецца І-шы том «Гісторыі БССР». Гэта — клясычны прыклад ня толькі хвальшаваньня гісторыі Беларусі, але гісторыі наагул. Вышэй зазначалася, што падчас абгаварваньня трэйцяга варыянту макету «Гісторыі БССР» асаблівая ўвага зьвярталася на тое, каб гісторыя беларускага народу насьвятлялася ў цеснай сувязі зь гісторыяй расейскага народу. Аўтары І-га тому «Гісторыі БССР» вытрымалі гэтую лінію. У І-шым томе «Гісторыі БССР» адсутнічае гісторыя беларускаго народу. Яна падменена тут штучна сплеценай гісторыйкай пра неразьдзельнасьць жыцьцёвага шляху «адзінага рускага народу», пра так званыя «спрадвечныя імкненьні» беларускага народу злучыць свой гістарычны й нацыянальны лёс з расейскім народам. Пры гэтым апошняя гісторыйка ня ёсьць нейкім хоцьбы й мізэрным дасьледавальным вынікам, але збудавана вылучна на голых пастулятах. Падобныя пастуляты накідаюцца навет і там, дзе прыведзены фактычны матарыял наглядна адкідае іх. Ведама, у «Гісторыі БССР» няма пэрыядызацыі, напрыклад, на Полацкі ці Літоўскі пэрыяды, але за-

хавана цягласьць: Кіеўская Русь (якая называецца тут «Старажытнаруская дзяржавай») — Маскоўшчына — Расейская імпэрыя. Таму Полацкі пэрыяд гісторыі беларускага народу бегла закрануты ў разьдзеле (II) «Феадальныя адносіны ў Старажытнарускім гаспадарстве» й закрануты толькі дзеля таго, каб лішні раз прадэманстраваць канцэпцыю пра палітычную супольнасьць Полацкага княства зь Кіеўскай Русяй. Разьдзел III улучае рубрыку пад назовам «Устанаўленьне ўлады літоўскіх князёў на тэрыторыі Беларусі» й наступныя параграфы: «Устанаўленьне панаваньня літоўскіх феадалаў у заходніх землях Русі» й «Змаганьне супраць панаваньня літоўскіх феадалаў у XIV ст.». Разьдзел IV («Разьвіцьцё феадальных адносінаў у XV-XVI ст.») ужо атрымлівае параграф наступнага характару: «Рух у Беларусі за ўзьеднаньне з Расейскім гаспадарствам». У разьдзеле VII, які носіць вымоўны загаловак «Вызвольная вайна беларускага народу. Змаганьне за ўзьеднаньне з Расейскім гаспадарствам у сярэдзіне XVII ст.», ёсьць наступныя параграфы: «Новы ўздым народна-вызвольнага змаганьня» й «Вайна з Рэчай Паспалітай за ўзьеднаньне Ўкраіны й Беларусі з Расейскім гаспадарствам». Разьдзел X наагул прысьвечаны так званаму «Ўзьеднаньню Беларусі з Расеяй».

Як падсказваюць хоць-бы загалоўкі названых разьдзелаў і паасобных параграфаў, Вялікае Княства Літоўскае разглядаецца ў І-шым томе «Гісторыі БССР» як варожая беларускаму народу дзяржава й сіла, а гісторыя беларускага народу ўдала ўплецена ў гісторыю Маскоўшчыны. У кантэксьце ўсё гэта даведзена да такой выідэялізаванай дасканаласьці, якая ня можа ня выклікаць усьмешкі нават у чалавека, неазнаёмленага зь гісторыяй Беларусі. Неабаснаваныя цьверджаньні, як, напрыклад, «...Параза Татараў на Куліковым полі яшчэ больш узьняла палітычны аўтэрытэт Масквы, узмоцніла пацяг да яе шырокіх народных масаў Беларусі», або «...У сілу далейшага росту Маскоўскага гаспадарства народныя масы Беларусі ўсё больш цягнуліся да Масквы», у «Гісторыі БССР» можна сустрэць амаль на кажнай бачынцы, а часамі некалькі варыянтаў на аднэй і тэй-жа бачынцы. Затое ў гэтай «Гісторыі» зусім адсутнічае насьвятленьне шматстагодняга крывавага змаганьня беларускага народу з маскоўскай агрэсіяй. Гэтае змаганьне й нацыянальны супраціў беларускага народу проста выкінутыя зь «Гісторыі БССР», як наагул жыўцом выкінутая зь гісторыі беларускага народу цэлая эпоха — эпоха Вялікага Княства Літоўскага, эпоха Літвы.

Апрача разгледжанае хвальшыўкі — двутомнай «Гісторыі БССР» — у 1945—1958 гадох у БССР было выдадзена больш трох дзясяткаў іншых паасобных працаў. Амаль усе яны прысьвечаны гісторыі савецкага пэрыяду й галоўным чынам гісторыі ўтварэньня БССР.[10] Гістарычнаму мінуламу

[10] Пономаренко П. К. **Тридцать лет Советской власти в Белоруссии.** Менск, 1947, 2-е выд., 1949; Каменская Н. В. **Образование Белорусской Советской Социалистической Республики.** Менск, АН БССР, 1947, 2-е выд. 1948; Горбунов Т. С. **Воссоединение белорусского народа в едином белорусском Советском социалистическом государстве.** Масква, 1948, 2-е выд. на беларускай мове, Менск, 1950; Панкевич П. **Что дала Советская власть трудящимся Белоруссии.** Менск, 1948; Панкевіч П. **Што дала Савецкая ўлада працоўным заходніх абласцей Беларусі.** Менск, 1948; Шиловский Е. А. **30 лет Белорусской Советской Социалистической Республики.** Менск, 1949; Сацункевіч С. І. **Комуністычная партыя Беларусі ў перыяд барацьбы за калектывізацыю сельскай гаспадаркі рэспублікі (1930–1934).** Менск, 1952; Каменская Н. В. **Вялікая**



беларускага народу гісторыкі БССР пасьвяцілі ў гэтым пэрыядзе літаральна толькі пару манаграфіяў,[11] зь якіх найбольшую вартасьць мае, бязумоўна, адна праца М. Алексютовіча пра дзейнасьць Францішка Скарыны. Выйшлі таксама наступныя зборнікі дакумантаў: **«Документы и материалы по истории Белоруссии»** (т. III-IV, 1953-1954), што ўлучаюць дакуманты з 1900—1924 гадоў; аднатомнік **«Революционное движение в Белоруссии 1905-1907 гг. Документы и материалы»** (1955);**«Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Документы и материалы»** (т. I-II, 1957); аднатомнік **«Революционные комитеты БССР. Июль — декабрь 1920 г. Документы и материалы»** (1957); аднатомнік **«Комитеты бедноты Белоруссии. Документы и материалы»** (1958).

Апошнімі гадамі ў БССР таксама было выдадзена больш дзясятку па-

**Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і ўтварэньне БССР.** Менск, АН БССР, 1954; Шаціла В. І. **Рэвалюцыйная барацьба ў Мінску ў гады першай рускай рэвалюцыі 1905–1907 гг.** Менск, 1956; Каменская Н. В. **Первые социалистические преобразования в Белоруссии (25 октября 1917 г. – июль 1919 г.).** Менск, АН БССР, 1957; Саладков И. И. **Большевики Белоруссии в период подготовки и проведения Великой Октябрьской социалистической революции (март 1917 — февраль 1918 гг.).** Менск, АН БССР, 1957; Саладкоў Т. Е. **Большэвікі Беларусі ў перыяд першай сусветнай вайны і другой рускай рэвалюцыі (1914—сакавік 1917 гг.).** Менск, 1957; Ивашин В. Г. **Великий Октябрь в Минске.** Менск, 1957; Зярніцкі М С. **Газета «Звязда» ў барацьбе за перамогу Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беларусі.** Менск, 1957; **«Из истории борьбы белорусского народа за Советскую власть и победу социализма».** Зборнік артыкулаў. Менск, 1957; Завалееў Н. Е., Кручок Р. Р. **Рабочы клас Беларусі ў барацьбе за перамогу Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.** Менск, АН БССР, 1957; Каменская Н. В., Лук'янаў Е. П. **Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ў Беларусі.** Менск, 1957; Лукьянов Е. П. **Крестьянское движение в Белоруссии накануне Великой Октябрьской социалистической революции.** Менск, АН БССР, 1958; Мілаванаў В. А. **Першыя крокі калгаснага руху ў Беларусі (кастрычнік 1917–1920 гг).** Менск, АН БССР, 1958; Горбач У. І., Галаўнёў А. І. **Беларускі народ у барацьбе за мір і дружбу паміж народамі.** Менск, 1958; Казеко И. И. **М. В. Фрунзе в Белоруссии.** Менск, 1958; Глебка П Ф., Буслаў К. П. і др. **Фарміраванне і разьвіццё беларускай сацыялістычнай нацыі.** Менск, АН БССР, 1958; Маргунскі С. П. **Создание и упрочение белорусской государственности, 1917–1922 гг.** Менск, АН БССР, 1958; Вихарев С. Р. **Суверенитет Белорусской ССР в составе Союза ССР.** Менск, 1958; **«Очерки по истории государства и права Белорусской ССР».** Выд. I. Менск, Белдзяржуніверсытэт, 1958; **«Белорусская Советская Социалистическая Республика».** Менск, АН БССР, 1958 і іншыя.

[11] Абэцэдарскі Л. С. **Барацьба ўкраінскага і беларускага народаў за ўз'яднанне з Расіяй у сярэдзіне XVII ст.** Менск, 1954; **«История Минска».** Менск, АН БССР, 1957; Саладков И. И. **Социальсо-экономическое положение Белоруссии до Великой Октябрьской социалистической революции. Конец XIX – начало XX в.** Менск, Белдзяржуніверсытэт, 1957; Абецедарский Л. С. **Белорусы** в **Москве XVII в.** Менск, Белдзяржуніверсытэт, 1957; Кацер М. С. **Белорусская архитектура. Исторический очерк.** Менск, 1956; **«Материалы по археологии БССР».** т. I. Пад. рэд. Е. І. Карнэйчыка й К. М. Палікарповіча. Менск, АН БССР, 1957; Вольскі В. **Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізма. Менск, 1958;** Ларчанка М. Г. **Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі суседніх славянскіх народаў у другой палове XIX ст.** Менск, Белдзяржуніверсытэт, 1958; **«Из истории борьбы за распространение марксизма в Белоруссии в 1883–1917 гг.».** Зборнік артыкулаў пад рэд. К. П. Буслава. Менск, АН БССР, 1958; Лушчыцкі І. Н. **Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палове XIX ст.** Менск, 1958; Фрыдман М. Б. **Адмена прыгоннага права ў Беларусі.** Менск, 1958; Алексютовіч М. А. **Скарына. Яго дзейнасць і светапагляд.** Менск, АН БССР, 1958.

асобных манаграфіяў і калектыўных працаў,[12] зь якіх заслугоўваюць на ўвагу манаграфія А. Сьмірнова пра Кастуся Каліноўскага, нарысы К. Палікарповіча й Э. Загарульскага зь гісторыі старажытнага Полацку, а таксама выданьне «Літоўскага Статуту» з 1529 году. Пажадана таксама, каб гісторыкі БССР перамаглі свой «прарасейскі сэпаратызм» і выдалі важнейшы помнік беларускага права — «Літоўскі Статут» з 1588 году. Заслугоўвае на ўвагу й выдаваная ў Маскве ў гэтым годзе археалягічная праца Ф. Гурэвіча,[13] якая згодна цьверджаньняў савецкіх рэцэнзэнтаў унясе шмат новага ў насьвятленьне старажытнасьці Заходняй Беларусі. Ведама, пра навуковую вартасьць, напрыклад, «Гісторыі Полацку» засьветчыць сам зьмест гэтае першае працы падобнага характару, што выходзіць у БССР на 42-ім годзе яе існаваньня. Трэба спадзявацца, што, апрача наносных «прарускіх» канцэпцыяў гісторыі Полацку й Полацкага княства, яна ўсё-такі будзе зьмяшчаць шмат фактычнага матарыялу, што, бязумоўна, і будзе мець найбольшую важнасьць. Было апублікавана таксама пару зборнікаў дакумантаў,[14] зь якіх найважнейшым зьяўляецца двутомнік «Белоруссия в эпоху феодализма». Да характарыстыкі апошняга двутомніка дакумантаў мы вернемся пазьней, а цяпер затрымаемся коратка на працоўным пляне Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук БССР 1959-1965 гадоў.

Як маглі мы заўважыць з агляду навуковай прадукцыі гісторыкаў БССР, уся іхная ўвага зьвернутая на распрацаваньне гісторыі так званай Беларускай савецкай рэспублікі, наагул на апісаньне савецкага сацыялістычнага «раю». Толькі з 1957 году заўважаецца невялікі ўхіл у бок тэматыкі зьгітарычнага мінулага Беларусі, што, ведама, сталася вынікам так званае «лібэральнае» палітыкі Хрушчова, запачаткаванай у 1956 годзе. Трэба адзначыць, што беларускія гісторыкі патрабавалі шмат большага й патрабавалі ня толькі беларуска-гістарычнай тэматыкі, але й больш аб'ектыўнага насьвятленьня гісторыі беларускага народу. Аднак неўзабаве наступае так званая «эпоха пабудовы камунізму ў СССР», а разам зь ей новая расейская шавіністычная рэакцыя, якая зьяўляецца шмат страшнейшай, чымся падобная рэакцыя, якая праявілася асабліва ў вапошнія гады жыцьця Сталіна.

З гэтае прычыны ў працоўным пляне Інстытуту гісторыі АН БССР на 1959-1965 гады таксама пераважае сучасная савецкая тэматыка. З 36 заплянаваных тэмаў больш 20 тэмаў прысьвячаецца гісторыі гэтак званага «сацыялістычнага будаўніцтва» ў БССР. Асаблівая ўвага зьвяртаецца савецкай партызанцы ў часе Другой сусьветнай вайны, і гэтай праблеме прысьвячаецца больш 10-ці тэмаў. Гістарычнаму мінуламу беларускага народу заплянавана прысьвяціць каля 12 тэмаў. Яны наступныя: **«Разьвіцьцё капіталізму ў Беларусі ў другой палавіне XIX — пачатку XX ст.»** (Е. Лук'янаў, Л. Ліпінскі, З. Абезгаўз і А. Воранава); **«Расклад феадальна-прыгоньніцкай сыстэмы й нараджэньне капіталістычных адносінаў у сельскай гаспадарцы Беларусі ў першай палавіне XIX ст.»** (В. Чэпка); **«Фармаваньне й разьвіцьцё беларускай буржуазнай нацыі»** (Е. Карнэйчык); **«Аграрныя адносіны ў Беларусі ў другой палавіне XVI—XVIII ст.»** (Е. Шлёсбэрг); **«Эканамічнае разьвіцьцё гарадоў Беларусі ў пэрыяд складаньня й разьвіцьця хвальваранна-паншчыннай сыстэмы гаспадаркі. Канец XV — першая палавіна XVII ст.»** (З. Капыскі); **«Эканамічнае разьвіцьцё гарадоў Беларусі ў пэрыяд зьнямогі Рэчы Паспалітай. Другая палавіна XVII—XVIII ст.»** (А. Карпачоў); **«Рабочы рух у Беларусі ў 1910-1917 гг.»** (А. Воранава); **«Сялянскі рух у Беларусі ў эпоху капіталізму, 1861-1900 гг.»; «Рабочы рух у Беларусі ў другой палавіне XIX — пачатку XX ст.»; «Разьвіцьцё культуры й прасьветніцтва ў Беларусі ў XIX — пачатку XX ст.»; «Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1917 году ў Беларусі».**

Апрача названых тэмаў, у Інстытуце гісторыі АН БССР пішуцца кандыдацкія дысэртацыі: «Сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё Магілева ў XVI — першай палавіне XVII ст.» (В. Мялешка) і «Узьяднаньне Беларусі з Расеяй» (В. Горцаў). Заплянавана таксама выдаць аднатомнік дакумантаў **«Разьвіцьцё рамяства й гандлю ў Беларусі ў XVI—XVIII ст.»** і зборнік дакумантаў **«Інвэнтары феадальных уладаньняў Беларусі ў XV—XVIII ст.»** (т. I-IV). Вонках Інстытуту гісторыі АН БССР прафэсар А. П'янкоў падрыхтоўвае манаграфію на тэму **«Сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё Беларусі ў VII—XVIII ст.»** (Менскі пэдінстытут); Л. Абэцэдарскі працуе над тэмай **«Расейска-беларускія культурныя сувязі ў другой палавіне XVI — першай палавіне XVII ст.»** (БДУ); Я. Мараш — **«Нарысы зь гісторыі каталіцкай царквы ў Беларусі»**; І. Малюкевіч — **«Гістарычныя карэньні дружбы беларускага й літоўскага народаў»** і Я. Мараш і Б. Фіх працуюць над брашурай **«Гісторыя Слоніму, Ліды й Ваўкавыску».**[15] Апошнія гісторыкі зьяўляюцца выкладчыкамі Горадзенскага пэдагагічнага інстытуту.

Як можна спасьцерагчы, у названай тэматыцы зусім адсутнічаюць тэмы

[12] Марченко И. Е. **Аграрные проеобразования в Белоруссии в 1917-1918 гг.** Менск, АН БССР, 1959; Кравченко И. С., Залесский А. И. **Белорусский народ в годы Великой Отечественной войны.** Менск, АН БССР, 1959; Липило П. П. **Компартия Белоруссии — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.** Менск, 1959; Сьмірноў А. П. **Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года.** Менск, 1959; Кравченко И. С. **Работа Компартии Белоруссии в тылу врага в годы Великой Отечественной войны.** Менск, АН БССР, 1959; **«Из истории социалистического строительства Советской Белоруссии».** Зборнік артыкулаў пад рэд. І. С. Краўчанкі. Менск, АН БССР, 1959; **«Статут Великого Княжества Литавского 1529 года».** Менск, АН БССР, 1960; Ратушнов Н. **В боевом походе. Записки о деятельности 208-го партизанского отряда на территории Белоруссии.** Менск, 1960; Воранава А. І. **Рабочы рух у Беларусі напярэдадні і ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг.** Менск, АН БССР, 1960; **«Социалистическая законность в деятельности местных Советов БССР (1917—1958 гг.)**. Менск, АН БССР, 1960; Маркиянов Б. К. **Борьба Компартии Белоруссии за укрепление своих рядов в 1921—1925 гг.** Менск, 1961; **«Из истории партизанского движения в Белоруссии в 1941-1944 гг.».** Адказны рэд. І. С. Краўчанка. Менск, АН БССР, 1961; Нетылькин А. **Пинск. Исторический очерк.** Менск, 1961; Поликарпович К. М., Загорульский Э. М. **История Полоцка. Очерки.** Менск, АН БССР, 1962 і іншыя.

[13] Гуревич Ф. Д. **Древности Белорусского Понеманья.** Масква, АН СССР, 1962.

[14] **«Белорусская ССР в международных отношениях. Международные договоры, конвенции и соглашения Белорусской ССР с иностранными государствами 1944–1959 гг.»** Падрыхтавалі С. П. Маргунскі й А. С. Зайцаў. Менск, АН БССР, 1960; **«Белоруссия в эпоху феодализма»,** т. II—III (сярэдзіна XVII ст. – 1860). Менск, АН БССР, 1960-1961; **«Революционные комитеты БССР. Ноябрь 1918 — июль 1920 гг. Документы и материалы».** Падрыхтаваў В. А. Круталевіч. Менск, АН БССР, 1961.

[15] И. С. Кравченко. Некоторые итоги работы и задачи Института истории АН БССР. **Вопросы истории, № 7, 1960,** б. 189–193; Н. В. Каменская. О некоторых вопросах развития исторической науки в Белоруссии. **Вопросы истории, № 11, 1960, б. 159–167.**

з палітычнае гісторыі Беларусі, а таксама тэмы зь гісторыі беларускай культуры. Адсутнічае таксама й публікацыя дакумантаў з гэтае дзялянкі гісторыі беларускага народу. Між тым некалькі дзясяткаў томаў склалі-б падобныя дакуманты, што дасюль параськіданыя ў розных старых расейскіх і польскіх выданьнях або ляжаць яшчэ ў архівах. Навет кнігі «Літоўскай мэтрыкі», гэтай галоўнай архіўнай скарбніцы Вялікага Княства Літоўскага, дасюль ня выйшлі адным выданьнем. А іх захавалася ажно 29 томаў, якія дзесьці гніюць у Цэнтральным дзяржаўным архіве Масквы й многія дакуманты якіх наагул яшчэ ня бачылі сьвету. Усё тое, над чым працуюць гісторыкі БССР у дзялянцы гістарычнага мінулага беларускага народу, адносіцца да ягонай сацыяльна-эканамічнай гісторыі. Гэтай гісторыі прысьвячаецца таксама й публікацыя пару зборнікаў гістарычных дакумантаў. Адным словам, вывучэньне гісторыі Беларусі зьведзена да вывучэньня, якое практыкуецца пры дасьледваньні звычайнай правінцыі Расеі. Праўда, Інстытут гісторыі АН БССР заплянаваў напісаць і выдаць 8-томную «Гісторыю БССР», першыя 4 томы якой прысьвячаюцца гістарычнаму мінуламу Беларусі, а іншыя 4 томы — савецкаму пэрыяду. Аднак ці можа гэты шматомнік запоўніць той вялікі пропуск у вывучэньні палітычнай гісторыі беларускага народу, г. зн. палітычнай гісторыі Полацкага княства й Вялікага Княства Літоўскага, што знарок практыкуецца ў БССР? Зрэшты 8-томная «Гісторыя БССР» ня ставіць перад сабой гэтага заданьня. Яшчэ шматомнік не напісаны, а ўжо гаворыцца, што ў ім павінна адлюстравацца «неразрыўная сувязь гісторыі беларускага народу зь гісторыяй вялікага расейскага народу», што ў ім «неабходна раскрыць глыбокія карэньні дружбы беларускага народу з расейскім народам».[16] Такім чынам 8-томная «Гісторыя БССР» можа быць толькі больш пашыранай копіяй разгледжанай вышэй двутомнай «Гісторыі БССР». Пры тым гэтая копія выйдзе ў шмат горшым варыянце.

Як зазначалася вышэй, з запачаткаваньнем эпохі «камунізму» Хрушчоў запачаткаваў адначасна й новую эпоху наступу расейскага шавінізму. Ягоная русыфікатарская палітыка асабліва праявілася ў моўнай рэформе, якая была праведзеная ў школах савецкіх нацыянальных рэспублікаў у 1959 годзе. Цяпер-жа расейская мова насаджваецца ня толькі ў сярэдніх школах гэтых рэспублікаў, але ўсюды й на кажным кроку штодзённага жыцьця нерасейскіх народаў. Адначасна з моўнай русыфікацыяй, якая, як ведама, праводзіцца пад адкрытым лёзунгам «пераняцьця мовы **вялікага** народу й **вядучай** нацыі, мовы Леніна й народу перадавой культуры», ажыцьцяўляецца таксама палітыка штучнага зьмешваньня падсавецкіх народаў і ў першую чаргу штучнага зьмешваньня нерасейскіх народаў з расейскім. Практыка апошніх гадоў зганяньня выхадцаў шматлікіх рэспублікаў, асабліва моладзі, на так званыя «новабудоўлі камунізму» якраз уваходзіць у пляны апошняе палітыкі. Варыянтам гэтае палітыкі зьяўляецца й так званы «абмен кадрамі», пра што ў больш канкрэтнай форме было сказана ўпяршыню ў новай Праграме партыі. Цяпер ёсьцека факты, якія сьветчаць, што апошні «абмен» ці палітыка навадненьня нацыянальных рэспублік расейскім культурным і кіраўнічым элемэнтам праводзіцца зь нябывалай сілай. Пайменна мы сустракаемся з фактамі як «нацыяналістычных» чыстак у

[16] Тамсама.



міністэрствах і вышэйшых навучальных установах савецкіх нацыянальных рэспублікаў, так і з фактамі супраціву гэтаму гвалту. Вось што, напрыклад, сьветчыць пра гэта савецкая прэса:

> «Нацыяналістычная абмяжаванасьць перашкаджае, напрыклад, некаторым працаўніком праўдзіва ацаніць прагрэсыўнае значэньне расшырэньня абмену кадрамі паміж нацыянальнымі рэспублікамі й углыбленьня працэсу інтэрнацыяналізацыі складу іхнага насельніцтва».[17]

На гістарыяграфічным фроньце гэтая русыфікацыя крочыць шмат далей. Яна ажыцьцяўляецца, як ведама, пры помачы выкараненьня так званага «буржуазнага нацыяналізму» зь гістарыяграфіі нерасейскіх народаў, г. зн. шляхам выгнаньня з гэтае гістарыяграфіі элемэнтаў нацыянальнае гісторыі й замены іх вылучна элемэнтамі гісторыі расейскага народу. Другімі словамі, гісторыя нерасейскіх народаў дэнацыяналізуецца ў такіх памерах, якія сьціраюць іх гістарычнае «я» й робяць іх сурагатам расейшчыны. У сувязі з гэтым цяпер засуджваюцца й навет канфіскуюцца выдадзеныя дасюль шматлікія працы зь гісторыі нерасейскіх народаў, а ад гісторыкаў нацыянальных рэспублікаў патрабуецца не напісаньня гісторыі сваіх народаў, але толькі адлюстраваньня так званых «спрадвечных» сувязяў з Расеяй, ідэялізацыі расейскага імпэрыялізму й каляніялізму ці так званага «прагрэсыўнага значэньня» прылучэньня тых ці іншых народаў да Расеі. Дарэчы трэба зазначыць, што Масква наагул мала лічыцца зь гісторыкамі нацыянальных рэспублікаў. Напрыклад, з даручэньня Хрушчова ў 1960 годзе Інстытут гісторыі АН СССР прыступіў да напісаньня адзінаццацітомнай «Гісторыі СССР», якая павінна быць апошнім словам у насьвятленьні гістарычнага мінулага падсавецкіх народаў. Як сьветчаць партыйныя дырэктывы, з гэтае «Гісторыі» павінны зьнікнуць навет найменшыя праявы «буржуазнага нацыяналізму» нерасейскіх народаў, г. зн. больш-менш аб'ектыўнае насьвятленьне гісторыі гэтых народаў. Галоўная ўвага ў мнагатомніку будзе зьвяртацца не на тое, што «дзяліла» народы СССР у мінулым, але на тое, «што збліжала іх». Што-ж тычыцца гісторыі Расеі й расейскага народу, дык дырэктывы не забыліся напомніць пра тое, што пры напісаньні «Гісторыі СССР» гісторыкі павінны ў першую чаргу выходзіць з палажэньня пра «прагрэсыўнасьць Расейскай імпэрыі» й «выключную ролю» расейскага народу ня толькі ў гісторыі нерасейскіх народаў СССР, але ў гісторыі людзтва наагул. «Расейскі народ, як ведама, — зазначалася ў гэтых дырэктывах, — параўнальна даўно заняў паважнае месца ў гісторыі людзтва. Дзякуючы сваей гэраічнай працоўнай клясе й ейнай Камуністычнай партыі, ён стаў пасьля перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі першым пасярод роўных народаў СССР».[18]

У выніку гэтае шавіністычна-расістоўскае палітыкі Масквы працы зь гісторыі нерасейскіх народаў цяпер цэняцца не паводля іхнай навуковай вартасьці, але вылучна згодна таго, наколькі яны адлюстроўваюць гэтую «гістарычную веліч» расейскага народу ці наколькі ідэялізуюць «прагрэсыўную ролю» Расейскай імпэрыі. Калі-ж у гэтых працах адсутнічае падоб-

[17] Т а д е в о с я н Э. В. Национальные отношения в СССР в период развернутого строительства коммунизма. **Преподавание истории в школе**, № 2, 1962. б. 37.

[18] Ф. Д. К р е т о в. К вопросу о создании многотомной истории СССР. **Вопросы истории**, № 2, 1961, б. 54—66.

ны падатак расейскаму народу й расейскаму імпэрыялізму, або калі апошні падатак адлюстраваны слаба, яны тут-жа надзяляюцца ярлыком «буржуазна-нацыяналістычнай» і «антысавецкай» літаратуры. Каб ня быць галаслоўным, ськіруем чытача хоць-бы да савецкае ацэнкі падручнікаў зь гісторыі нерасейскіх народаў.[19]

Як ведама, на XXII зьезьдзе КПСС (ды што падкрэсьлена й у новай Праграме партыі), абрушваючыся супраць «нацыяналістых», Хрушчоў з уласьцівай яму брутальнасьцяй патрэбаваў «выкараненьня навет найменшых праяваў буржуазнага нацыяналізму» ў васяродзьдзі нерасейскіх народаў. Бязумоўна, гэты ягоны кліч, кінуты быццам-бы ў імя камунізму, а ў запраўднасьці ў імя «вялікай і магутнай Расеі», да чаго, між іншым, тут-жа прызнаўся й сам Хрушчоў, яшчэ больш балюча мусіць адбіцца й на гістарыяграфіі нерасейскіх народаў і ў першую чаргу на гістарыяграфіі БССР, бо на гісторыю беларускага народу Масква зьвяртае асабліўую ўвагу.

Такім чынам заплянаваная 8-томная «Гісторыя БССР», калі наагул яна зможа выйсьці пасьля дырэктываў XXII зьезду КПСС, загадзя засуджана быць хвальшыўкай, быць апалёгіяй расейскага каляніялізму ў Беларусі. Зрэшты нас тут найменш цікавіць запраектаваная 8-томная «Гісторыя БССР». Нас цікавіць найбольш агульны стан бэсэсэраўскай гістарыяграфіі й прычыны гэтага жалюгоднага стану.

Пайменна, прасачыўшы разьвіцьцё гістарыяграфіі ў БССР і ў першую чаргу стан дасьледваньня гісторыі беларускага народу, а таксама ўзяўшы на ўвагу тыя прарасейскія канцэпцыі, якія запанавалі ў гэтай гістарыяграфіі, мы змушаныя прыйсьці да высновы, што Масква знарок не дапушчае разьвіцьця беларускай гістарыяграфіі, штучна супрацьставіцца вывучэньню гісторыі Беларусі. Гэта робіцца, ведама, ня ў імя так званага «пралетарскага інтэрнацыяналізму», ды гэты прынцып для Масквы мае толькі прапагандовае значэньне, але вылучна ў імя расейскага вялікадзяржаўніцкага шавінізму.

Вышэй мы маглі сканстатаваць, зь якім барбарствам была зьнішчаная ў 1930 годзе беларуская гістарыяграфія яшчэ ў ейнай першапачатковай стадыі разьвіцьця. Бачылі таксама камэдыю з напісаньнем двутомнай «Гісторыі БССР», якая стваралася толькі дзеля запаўненьня «нацыянальнай формы», бо факт існаваньня БССР зьяўляецца неаспрэчным фактам. Нарэшце, бачылі, што на працягу дзесяцігодзьдзяў разьвіцьцё гістарыяграфіі ў БССР поўнасьцяй знаходзілася ў руках расейскіх гісторыкаў і што гэтая гістарыяграфія сыстэматычна ўнікала беларускай гістарычнай тэматыкі, што ў сіле й цяпер. Падобных рэпрэсіяў і абмежаваньняў у дасьледваньні гісторыі собскага народу не перажывала ніводная зь іншых савецкіх нацыянальных рэспублікаў, улучаючы сюды й Украінскую ССР. Гісторыя іншых нерасейскіх народаў СССР не перажыла падобнага хвальшаваньня, як гэта сталася зь гісторыяй беларускага народу. Бязумоўна, гісторыя ўсіх народаў Савецкага Саюзу падганяецца пад расейскі капыл, але ў вапошнім выпадку гэтае хвальшаваньне зводзіцца пераважна да тэндэнцыйнай інтэрпрэтацыі тых ці іншых гістарычных зьяваў, да засуджэньня тых ці іншых нацыянальна-вызвольных рухаў і нацыянальнага супраціву ды да падкрэсьленьня так званага «прагрэсыўнага значэньня» прылучэньня тых

[19] А. Карин. Учебники по истории союзных республик. **Преподавание истории в школе**, № 3, 1961, б. 88—94.



ці іншых народаў да Расеі. У сваей цэласьці насьвятленьне гісторыі апошніх народаў усё-ж захоўвае сваё нацыянальнае аблічча й сваю гісторыка-нацыянальную цягласьць. Гісторыя-ж беларускага народу фактычна зусім зьліквідаваная зь лёгкае рукі Масквы.

Запраўды, азнаёміўшыся зь гістарыяграфіяй іншых савецкіх рэспублікаў, мы можам сустрэць як абагульняючыя працы зь історыі гэтых народаў, выдадзеныя ў 40-х або навет у 30-х гадох, так і паасобныя манаграфічныя выданьні, прысьвечаныя паасобным праблемам, эпохам і аспэктам іхнай гісторыі. Гэта асабліва адносіцца да закаўкаскіх рэспублікаў.[20] Да апошніх здабыткаў належаць таксама публікацыі архіўных дакумантаў, нацыянальных і замежных хронікаў. Бягучыя працоўныя пляны гісторыкаў апошніх рэспублікаў таксама ўлучаюць шматлікія тэмы зь гістарычнага мінулага, незалежна, з палітычнае ці культурнае гісторыі.[21] Гэтых магчымасьцяў пазбаўленая гістарыяграфія БССР. Выдадзеныя-ж у 1960—1961 гадох Інстытутам гісторыі АН БССР два томы архіўных дакумантаў — **«Белоруссия в эпоху феодализма»** — і тыя пакліканыя спрычыніцца да хвальшаваньня гісторыі Беларусі.

Пайменна, 2-гі том гэтага выданьня зьмяшчае пераважна дакументы маскоўскага паходжаньня: даносы й рапарты маскоўскіх агентаў і ваяводаў з часоў вайны 1654—1667 гг., перапіску маскоўскага цара з Багданам Хмяльніцкім і казакамі апошняга, што дзейнічалі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, граматы маскоўскага цара, выдадзеныя некаторым захопленым гарадом, ды даносы некаторых Беларусаў, асабліва царкоўнікаў, што падчас гэтае вайны сьхіліліся на бок маскалёў. Потым ужо ідуць дакументы, што адлюстроўваюць так званае «змаганьне народных масаў Беларусі супраць сацыяльнага, нацыянальнага й рэлігійнага прыгнечаньня». У томе не знайшлося месца для дакумантаў з Канцыляріі Вялікага Княства Літоўскага або для іншых матарыялаў, якія насьвятлялі-б падзеі не аднастаронньня й з маскоўскага пункту гледжаньня, але й з пункту гледжаньня Вялікага Княства Літоўскага. Не абыйшлося, ведама, без нацяжкаў і хвальшаваньня. Напрыклад, пра дзейнасьць беларускага палкоўніка Паклонскага, які ў першай фазе вайны 1654—1667 гадоў сьхіліўся на бок Масквы, зьмешчаныя матарыялы толькі да таго часу ягонай дзейнасьці, пакуль ён заставаўся ў саюзе з маскоўскім войскам. Як толькі ён з сваім партызанскім аддзелам зноў перайшоў на літоўскі бок, з гэтага часу Паклонскі зьнікае з бачынак 2-га тому зборніка «Белоруссия в эпоху феодализма». Тым часам Паклонскі меў вялікія заслугі ў змаганьні з маскоўскімі акупантамі, што адлюстравалася ў шматлікіх архіўных матарыялах, якія аднак не ўвайшлі ў названы зборнік. Таксама ў зборніку шмат выхваляецца «прамаскоўскі гэраізм» жыхарства Магілева, што, ведама, не адказвае запраўднасьці, бо магілеўчане змушаныя былі сьхіліцца на бок Паклонскага

[20] Ш. Р. Арутюнян. Армянская советская историография за сорок лет. **Вопросы истории,** № 7, 1960, б. 101–120; А. С. Сумбад-заде. Развитие исторической науки в Азербайджанской ССР за годы Советской власти. **Вопросы истории,** № 11, 1957, б. 206–218; Яго-ж. Историческая наука Азербайджана между XX и XXI съездами КПСС и перспективы ее развития. **Вопросы истории,** № 10, 1959, б. 121—136.

[21] З. Ш. Раджабов. Состояние и некоторые основные задачы советской исторической науки в Таджикской ССР. **Вопросы истории,** № 7, 1960, б. 193—199; Некоторые итоги и дальнейшие задачи исследовательской деятельности академий наук союзных республик. История СССР, № 4, 1959, б. 220—224.

и украінскіх казакаў. Аднак ня ў гэтым справа. Справа ў тым, што ў зборніку навет апушчаныя вытрымкі з хронікі, якія сьветчаць зусім пра іншае, і гісторык, які хацеў-бы выкарыстаць зборнік «Белоруссия в эпоху феодализма», ня знойдзе ведамкі пра антымаскоўскае паўстаньне ў Магілеве 1660 году, падчас якога поўнасьцяй быў зьнішчаны маскоўскі гарнізон.

У 3-ім томе зборніка «Белоруссия в эпоху феодализма», які абыймае 1772—1860 гады, таксама апублікаваныя дакуманты расейскага паходжаньня: рапарты й даносы генэралаў-губэрнатараў і «ўказы» цароў. Ня лучылі сюды матарыялы зь гісторыі спробаў адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае пры цары Паўлу I, а таксама зь гісторыі аднаўленьня ВКЛ у часе Напалеонаўскай вайны. Аднак тут мы хацелі-б зьвярнуць увагу на той факт, што ў вапошні зборнік ня толькі што не ўвайшлі архіўныя матарыялы зь гісторыі Смаленшчыны, але навет зь гісторыі цэлае Віленскае губэрні. Справа ў тым, што сяньня Віленшчыну Масква перадала Літоўскай ССР; Смаленшчына-ж знаходзіцца ў складзе РСФСР. Гэты палітычны фактар знайшоў таму адлюстраваньне й у зборніку «Белоруссия в эпоху феодализма». Аднак ведама, што Віленская губэрня ня толькі ўлучала сьціплую Віленшчыну, якая зьяўляецца таксама беларускай, але . . . і Лідчыну, і Ашмяншчыну, і Маладэчаншчыну, і Пастаўшчыну, і Браслаўшчыну. Гістарычная Жмудзь зусім не ўваходзіла ў Віленскую губэрню й складала асобную **Самагіцкую вобласьць.** Такім чынам Віленская губэрня была чыста беларускай, якою яна й уважалася ў старой Расеі. Складальнікі 3-га тому зборніка «Белоруссия в эпоху феодализма» жыўцом выкінулі зь беларускае цэласьці агромную тэрыторыю, якая раўнялася палавіне Заходняй Беларусі ў ейных межах да 1939 году.

БССР вылучана з агульнага палажэньня іншых савецкіх нацыянальных рэспублікаў з гледзішча выкладаньня нацыянальнае гісторыі ў школах і вышэйшых навучальных установах. Пасьля нацыяналістычнае чысткі 1930 году да апошняга моманту гісторыя Беларусі ня выкладалася ў сярэдніх школах. Толькі ў 1958 годзе было павядомлена, што курс зь гісторыі Беларусі будзе ўведзены ў гэтых школах з 1958—1959 навучальнага году.[22] Адпаведны падручнік зь гісторыі БССР быў выдадзены толькі ў 1960 годзе.[23] Трэба дапускаць, што падобная рэформа закранула таксама й вышэйшыя навучальныя ўстановы, і магчыма ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце была адчынена асобная катэдра гісторыі Беларусі ці БССР. У іншых савецкіх нацыянальных рэспубліках справа стаяла інакш. Яны ад даўняга часу мелі падручнікі з нацыянальнае гісторыі як для сярэдніх школаў, так і для вышэйшых навучальных установаў,[24] што сьветчыць і пра выкладаньне нацыянальнае гісторыі ў школах і ўнівэрсытэтах гэтых рэспублікаў. Праўда, былі некаторыя выняткі й для апошніх рэспублікаў. Напрыклад, у Кіргіскай ССР першы навучальны падручнік з нацыянальнае гісторыі для сярэдніх школаў быў выдадзены ў 1957 годзе;[25] у Таджыцкай ССР — у 1959 годзе й прыступлена да напісаньня падручніка для вышэйшых навучальных установаў.[26] Катэдра нацыянальнай гісторыі пры Азэрбайджанскім унівэрсытэце была аснована ў 1940 годзе. У 1942 годзе выкладаньне гісторыі Азэрбайджану было ўведзена на ўсіх факультэтах унівэрсытэту. Гэтая катэдра была зьліквідаваная ў 1948 годзе ў часе ўзрастаньня расейскае рэакцыі ды адчыненая толькі ў 1958 годзе.[27] Аднак ня трэба забывацца, што Беларусь усё-такі стаіць на больш вышэйшым культурным узроўні, чымся ўспомненыя сярэдняазіяцкія рэспублікі. Тым часам у БССР і дасюль няма падручніка з нацыянальнае гісторыі для вышэйшых навучальных установаў.

Зрэшты, няма вялікае карысьці з увядзеньня выкладаньня гісторыі Беларусі ў сярэдніх школах БССР ці ў вышэйшых навучальных установах. Няма карысьці й з тых ці іншых падручнікаў. Усе яны збудаваныя паводля прынцыпу двутомнай «Гісторыі БССР» ды й шмат горш, пра што сьветчаць хоць-бы тыя матарыялы з рубрыкі «Ў дапамогу выкладчыкам гісторыі», што ў другой палавіне 1958 году друкаваліся на бачынках «Настаўніцкае газэты».[28]

Чаму-ж так ігнаруецца гісторыя Беларусі? Ці беларускі народ і запраўды ня меў свае нацыянальнае гісторыі, як пра гэта сьветчыць савецкая гістарыяграфія, выводзячы беларускую «нацыянальную дзяржаўнасьць» ад 1919 году?

Бязумоўна, беларускі народ мае вельмі багатую ў сваей разнастайнасьці гісторыю. Сьціплы дасьледнік ужо ў Полацкім княстве можа спасьцерагчы станаўленьне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці. Зь сівых часоў гэтае княства, якое займала большую частку беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, жыло сваім самастойным жыцьцём, ніколі не падпарадкоўваючыся Кіеўскай Русі. Сваю канцэпцыю пра так званую адзіную «Старажытнарускую дзяржаву» савецкія гісторыкі будуюць літаральна на пяску, бо шматстагодніе войны Полацкага княства зь Кіеўскай Русьсю размываюць апошнюю канцэпцыю да апошняе пясчынкі. Больш сьмешнай паказваецца й канцэпцыя пра «адзіны старажытнарускі народ», які быццам склаўся ўжо ў тыя сівыя часы, праглынуўшы й беларускія плямі. Як ведама, будучы толькі палітычна залежнымі ад Кіеўскай Русі, у пачатку XII стагодзьдзя сталася зусім незалежным і Смаленскае княства, а з палавіны гэтага стагодзьдзя — і Турава-Пінская зямля. Сама-ж Кіеўская Русь развалілася на дробныя часткі, і такім чынам Манголам ня было патрэбы дзяліць «старажытнарускі народ» на славутую тройцу: беларускі, расейскі й украінскі народы.

Далей склалася Вялікае Княства Літоўскае ці коратка Літва, якое найперш задзіночыла беларускія землі, а потым пашырыла сваю ўладу на Кіеўскую Русь ці Ўкраіну й на некаторыя землі будучае Расеі. Вялікае Княства Літоўскае ўжо было беларускай нацыянальнай дзяржавай у поўным сэньсе гэтага значэньня. Мы тут ня маем на ўвазе даводзіць «беларускасьці» Вялікага Княства Літоўскага, аднак усё-такі трэба закрануць наступныя

[22] Л. Абэцэдарскі. Усходнеславянскія плямёны на тэрыторыі Беларусі. **Настаўніцкая газета,** 22. 8. 1958.

[23] И. М. Ильюшин. Первые успехи учителей истории Белоруссии. **Преподавание истории в школе,** № 4, 1961, б. 44.

[24] Ш. Р. Арутюнян. Армянская советская историография за сорок лет. **Вопросы истории,** № 7, 1960, б. 107–108.

[25] Б. М. Зима. Киргизский государственный университет. **Вопросы истории,** № 11, 1959, б. 190–194.

[26] З. Ш. Раджабов. Состояние и некоторые основные задачи советской исторической науки в Таджикской ССР. **Вопросы истории,** № 7, 1960, б. 194—195

[27] Ш. Ф. Мехтиев. Азербайджанский государственный университет имени С. М. Кирова. **Вопросы истории,** № 12, 1959, б. 185—187.

[28] **Настаўніцкая газета,** 22 і 29 жсіўня, 2, 5, 12, 16, 23 і 26 верасьня, 7, 17, 21 і 31 кастрычніка, 4, 18 і 28 лістапада, 2 і 5 сьнежня за 1958 год.

мамэнты. Папершае, у гэтай дзяржаве з пачатку яе заснаваньня панавалі беларуская мова й беларуская культура, што ўжо пярэчыць «антыбеларускаму» й што недапушчальна, калі-б заснавальнікам гэтае дзяржавы была, як цьвердзяць савецкія гісторыкі, чужая беларускаму народу сіла. У гэтай дзяржаве панавалі таксама правы й звычаі беларускага народу, а яна сама абараняла вылучна гістарычна-нацыянальныя інтарэсы беларускага народу. У ёй былі беларускія ці агульна славянскага характару інстытуты, як інстытут Паноў-Рады, інстытут вялікакняжых намесьнікаў і ваяводаў і г. д., якія былі беларуска-славянскімі ня толькі з тэрміналёгіі, але й зьместам. На працягу гісторыі Вялікага Княства Літоўскага ў беларускім асяродзьдзі ўстанавіўся таксама агульны нацыянальны назоў — Ліцьвіны. Нарэшцэ гэтая дзяржава мела сваім дзяржаўным гэрбам старую беларускую **Пагоню,** запазычаную ў Полацкім княстве.

Як ведама, заснавальнікамі Вялікага Княства Літоўскага былі ваяўнічыя Літоўцы, пачын якіх падтрымалі й іншыя беларускія землі. У некаторых гістарычных крыніцах захаваліся ведамкі, якія цьвердзяць пра тое, што старажытныя Літоўцы былі славянамі. Пра гэта, напрыклад, гаворыцца ў працах Сільвіуса Пікколёміні (пазьнейшы папа Пій II, 1458—1464), у **Камэнтарыях пра Маскоўшчыну** (1526) Жыгімонта Гербэрштайна й ў **Гісторыі Маскоўскага княства** (1557) венэцыянца Марко Фоскарыно. Магчыма першую ведамку пра Літву як аднаго із славянскіх плямёнаў пакінуў бізантыйскі імпэратар Канстанцін Парфіражанэт. У сваей працы **Аб кіраваньні імпэрыяй,** напісанай у палавіне X стагодзьдзя, ён пералічае ўсходнеславянскія плямі, называючы побач Крывічоў нейкіх **Ленцанінаў** ці **Лензанэнаў.** Дасюль гэты назоў і племя застаюцца нерасшыфраванымі. Праўдападобна Канстанцін Парфіражанэт меў на ўвазе пайменна гэтую старажытную Літву ці Лютву.

Хоць і няма для гэтага паважных довадаў, савецкія гісторыкі ўсьцяж цьвердзяць, што старажытныя Літоўцы былі балтыцкім племям і больш канкрэтна — Жмудзінамі. Аднак, як ведама, назоў «Літва» ніколі ня прытарнаваўся да гэтае «кроўнае» Жмудзі, у той час, як ён пашырыўся на беларускія землі. Ды Жмудзь доўгі час заставалася паза межамі Вялікага Княства Літоўскага, а потым выступала як апрычоная правінцыя з сваім собскім назовам, маючы собскія прывілеі й звычаі й навет апрычонае войска. Будучы толькі адной із земляў Жмудзі, г. зн. Аўкштотай, як часамі называюць старажытную Літву, не магчыма ўявіць, каб гэтая міньятурная зямля змагла накінуць сваю волю ў многа разоў большаму й зусім чужому народу. У вапошнім выпадку ўзьнікае таксама праблема людзкіх рэзэрваў. Як ведама, старажытныя Літоўцы, пачынаючы з канца XII стагодзьдзя, рабілі вельмі частыя набегі на чужыя землі, у якіх, як паведамляюць летапісы, іх гінула тысячамі. Гэтыя набегі рабіліся бяз удзелу Жмудзінаў. Скуль-жа гэтая маленькая Літва-Аўкштота магла чэрпаць, такім чынам, людзкую сілу? Гэтае пытаньне разьвязваецца вельмі лёгка, прызнаўшы старажытных Літоўцаў адным із славянскіх плямёнаў вялікага памеру. Апошняя пастаноўка пытаньня зробіць зразумелым таксама й цеснае сужыцьцё старажытных Літоўцаў з Полацкім княствам.

Зрэшты тэрыторыя, дзе жылі гэтыя старажытныя Літоўцы, а пайменна Віленшчына й Наднёманшчына, археалягічна зьяўляецца славянскай тэрыторыяй. Славянскія асаблівасьці апошняе тэрыторыі археалёгі заўважылі ўжо даўно, пайменна у вастатках будоуляу з так званымі «рускімі» печамі. Наднёманшчына й Віленшчына, як, між іншым, Пскоўшчына, Полаччына й Смаленшчына, вельмі багатыя даўгімі й прадаўгаватымі курганамі. Да нядаўняга часу гэтыя курганы ўважаліся балтыцкага паходжаньня й больш канкрэтна — «літоўскага», што разумелася ў сяньняшнім значэньні гэтага тэрміну, г. зн. жмудзінскага паходжаньня. Аднак, на аснове больш дакладнага дасьледваньня гэтых курганоў, некаторыя савецкія археалёгі ўстанавілі цяпер, што даўгія й прадаўгаватыя курганы належылі вылучна Крывічом. Устаноўлена таксама, што Крывічы рухаліся ня з поўдня, але з захаду ці з Вісла-Бугскага міжрэчча. Частка іх, як відаць, затрымалася ў Наднёманшчыне й на Віленшчыне. Пра гэта сьветчыць і Крыўгорад ці горад Крывічоў, які знаходзіўся на месцы пазьнейшай Вільні. Зь цягам часу гэтая частка Крывічоў зьмяніла свой ранейшы назоў, прыняўшы новы — Літва ці Лютва, ад слова «люты», што, магчыма, было сынонімам «ваўка». Згэтуль і такія месты чыста славянскага паходжаньня, як Ваўкавыск, Вількомір, Валчаны, Валкінікі й г. д., якімі таксама багатыя Наднёманшчына й Віленшчына.

Наагул, пры ацэнцы нацыянальнага характару Вялікага Княства Літоўскага трэба браць пад увагу не ягоных заснавальнікаў, але тое, чым яно сталася ў працэсе свайго разьвіцьця й існаваньня. Як зазначалася вышэй, гэты працэс засьветчыў чыста беларускі характар, а значыцца й Вялікае Княства Літоўскае было беларускай нацыянальнай дзяржавай. Калі-ж да праблемы падыходзіць інакш, г. зн. вылучна з пункту гледжаньня ягоных заснавальнікаў ды прызнаць гэтымі заснавальнікамі так званых «Літоўцаў-Жмудзінаў», дык у вапошнім выпадку й Кіеўскую Русь прыдзецца лічыць не славянскай дзяржавай, бо згодна цьверджаньняў кіеўскіх летапісаў апошняя таксама была заснавана прыбыльцамі — Нарманамі.

Як бачым, беларускі народ меў багатую гісторыю, і ягоная нацыянальная дзяржаўнасьць узьнікла ня ў 1917 ці 1919 годзе, але шматлікімі стагодзьдзямі раней, шмат раней, чымся ўзьнікла Маскоўшчына. Адмаўленьне Масквой гэтага гістарычнага факту, штучнае пазбаўленьне беларускага народу ягонай нацыянальнай гісторыі, здаецца, кідаюць сьвятло на прычыны гэтых дачыненьняў Масквы да Беларусі. Яны наступнага характару. Справа ў тым, што факт прызнаньня гістарычнай апрычонасьці беларускага народу ня толькі падрывае цэласьць «вялікае Расеі» ў ейнай «тройцы»: Беларусі, Украіны й самое сьціплае Расеі, але й уневажняе канцэпцыю як пра «гістарычна-нацыянальную супольнасьць» Беларусаў, Украінцаў і Расейцаў, так і пра «гістарычную цягласьць» Кіеўскай Русі — Маскоўшчыны — Расейскай імпэрыі. Каб утрымаць у сіле апошнюю шавіністычную канцэпцыю, а разам з гэтым лягчэй утрымаць Беларусь у складзе Расейскай імпэрыі, Масква таму прыбягае да штучнага хвальшаваньня гісторыі беларускага народу, угаварваючы яму, што сваю нацыянальную дзяржаўнасьць ён «упяршыню» атрымаў толькі з рук Леніна. У выніку гэтага й атрымоўваецца, што беларускі народ у мінулым ня меў свае дзяржаўнасьці, наагул свае гісторыі. У Полацкі пэрыяд ён тварыў быццам палітычную й нацыянальную «цэласьць» у «Старажытнарускай дзяржаве», а ў Літоўскі пэрыяд — сілком быў адарваны ад гэтай «рускай цэласьці» й паняволены чужацкай сілай.

Апошні наш вывад пацьвярджаецца й наступнай статыстыкай.[29]

[29] Усе ніжэй прыведзеныя дадзеныя ўзятыя з кнігі: **Народное хозяйство СССР в 1960 году. Статистический ежегодник.** Масква, 1961.

**Насельніцтва СССР (у тысячах чалавек)**

| Рэспублікі | 1939 | на 15 студзеня 1959 | ацэнка на 1 студзеня 1961 |
|---|---|---|---|
| СССР | 190 678 | 208 827 | 216 151 |
| РСФСР | 108 379 | 117 534 | 120 554 |
| УССР | 40 469 | 41 869 | 43 091 |
| **БССР** | **8 910*** | **8 055** | **8 226** |
| Узбэцкая ССР | 6 336 | 8 106 | 8 665 |
| Казахская ССР | 6 094 | 9 310 | 10 387 |
| Грузінская ССР | 3 540 | 4 044 | 4 200 |
| Азэрбайджанская ССР | 3 205 | 3 698 | 3 973 |
| Літоўская ССР | 2 880 | 2 711 | 2 804 |
| Латыская ССР | 1 885 | 2 093 | 2 142 |
| Армянская ССР | 1 282 | 1 763 | 1 893 |

**Нацыянальны склад насельніцтва СССР згодна перапісу 1959 году (у тыс. чалавек)**

| Народы | Колькасьць |
|---|---|
| Усяго | 208 827 |
| Расейцы | 114 114 |
| Украінцы | 37 253 |
| **Беларусы** | **7 913**** |
| Узбэкі | 6 015 |
| Казахі | 3 622 |
| Грузіны | 2 692 |
| Азэрбайджанцы | 2 940 |
| Літоўцы | 2 326 |
| Латышы | 1 400 |
| Армяне | 2 787 |

**Нацыянальны склад студэнтаў (у тысячах чалавек)**

| Нацыянальнасьць | 1927/28 | 1960/61 | % да нацыянальнага складу насельніцтва перапісу 1959 г. |
|---|---|---|---|
| Усяго | 168,5 | 2 396,1 | 1,1 |
| Расейцы | 94,5 | 870,9 | 0,76 |
| Украінцы | 24,6 | 186,8 | 0,5 |
| **Беларусы** | **4,9** | **36,3** | **0,45** |
| Узбэкі | 0,5 | 33,3 | 0,55 |
| Казахі | 0,3 | 25,2 | 0,69 |
| Грузіны | 4,0 | 25,6 | 0,95 |
| Азэрбайджанцы | 1,9 | 17,7 | 0,6 |
| Літоўцы | — | 16,6 | 0,7 |
| Латышы | — | 10,0 | 0,7 |
| Армяне | 3,4 | 21,1 | 0,75 |

* Да 1956 году савецкая статыстыка паведамляла, што пасьля прылучэньня Заходняй Беларусі ў 1939 годзе ў БССР налічвалася каля 10,5 мільёнаў чалавек насельніцтва (улучаючы сюды й насельніцтва Беласточчыны, якая ў 1945 годзе была перададзеная Польшчы).

** Да Беларусаў, ведама, не залічанае насельніцтва Смаленскай вобласьці (1 143 тыс. чалавек), Бранскай вобласьці (1 550 тыс. чалавек) і калішняй Вялікалуцкай вобласьці, часткі Калінінскай вобласьці (1 807 тыс. чалавек) і Пскоўскай вобласьці (952 тыс. чалавек). Насельніцтва апошніх вобласьцяў зь лёгкае рукі Масквы сталася «Расейцамі».



**Вышэйшыя навучальныя ўстановы й колькасьць студэнтаў (студэнты ў тыс. чалавек)**

| Рэспублікі | 1940/41 | 1960/61 | %%% да насель-ніцтва ў вацэнц на студзень 1961 |
|---|---|---|---|
| **СССР** | | | |
| а) установы | 817 | 739 | |
| б) студэнты | 811,7 | 2 396,1 | 1,1 |
| **РСФСР** | | | |
| а) установы | 481 | 430 | |
| б) студэнты | 478,1 | 1 496,7 | 1,2 |
| **УССР** | | | |
| а) установы | 173 | 135 | |
| б) студэнты | 196,8 | 417,7 | 0,97 |
| **БССР** | | | |
| а) установы | 25 | 24 | |
| б) студэнты | **21,5** | **59,3** | **0,72** |
| **Узбэцкая ССР** | | | |
| а) установы | 30 | 30 | |
| б) студэнты | 19,1 | 101,3 | 1,1 |
| **Казахская ССР** | | | |
| а) установы | 20 | 28 | |
| б) студэнты | 10,4 | 77,1 | 0,74 |
| **Грузінская ССР** | | | |
| а) установы | 21 | 18 | |
| б) студэнты | 28,5 | 56,3 | 1,3 |
| **Азэрбайджанская ССР** | | | |
| а) установы | 16 | 12 | |
| б) студэнты | 14,6 | 36,0 | 0,9 |
| **Літоўская ССР** | | | |
| а) установы | 7 | 12 | |
| б) студэнты | 6,0 | 26,7 | 0,96 |
| **Латыская ССР** | | | |
| а) установы | 7 | 10 | |
| б) студэнты | 9,9 | 21,6 | 1,0 |
| **Армянская ССР** | | | |
| а) установы | 9 | 10 | |
| б) студэнты | 11,1 | 20,2 | 1,0 |

**Колькасьць навуковых працаўнікоў у рэспубліках**

| Рэспублікі | 1940 | 1960 | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | %%% да насельніцтва пачатку 1961 | доктараў | кандыдатаў навук |
| СССР | 98 315 | 354 158 | 0,16 | 10 945 | 98 262 |
| РСФСР | 61 872 | 242 872 | 0,2 | 7 929 | 67 146 |
| УССР | 19 304 | 46 657 | 0,1 | 1 343 | 13 622 |
| **БССР** | **2 227** | **6 840** | **0,08** | **181** | **2 013** |
| Узбэцкая ССР | 3 024 | 10 329 | 0,12 | 222 | 2 442 |
| Казахская ССР | 1 727 | 9 623 | 0,09 | 157 | 2 123 |
| Грузінская ССР | 3 513 | 9 137 | 0,2 | 430 | 3 207 |
| Азэрбайджанская ССР | 1 933 | 7 226 | 0,18 | 189 | 1 983 |
| Літоўская ССР | 633 | 3 320 | 0,12 | 31 | 758 |
| Латыская ССР | 1 128 | 3 348 | 0,15 | 64 | 898 |
| Армянская ССР | 1 067 | 4 275 | 0,22 | 164 | 1 502 |

**Колькасьць навуковых установаў на 1 студзеня 1961 году**

| Рэспублікі | Усяго | У тым ліку: інстытуты й іхныя філіялы й аддзелы | навуковыя й дасьледчыя станцыі |
|---|---|---|---|
| СССР | 3 828 | 1 729 | 494 |
| РСФСР | 2 150 | 993 | 249 |
| УССР | 597 | 228 | 90 |
| **БССР** | **101** | **44** | **13** |
| Узбэцкая ССР | 120 | 64 | 16 |
| Казахская ССР | 138 | 67 | 35 |
| Грузінская ССР | 173 | 90 | 11 |
| Азэрбайджанская ССР | 99 | 48 | 7 |
| Літоўская ССР | 64 | 31 | 10 |
| Латыская ССР | 86 | 25 | 13 |
| Армянская ССР | 79 | 42 | 9 |

**Навуковыя працаўнікі згодна нацыянальнасьці**

| Нацыянальнасьць | 1958 | 1960 | %% да нацыянальнага складу насельніцтва згодна перапісу 1959 |
|---|---|---|---|
| Усяго | 284 038 | 354 158 | 0,17 |
| Расейцы | 182 567 | 229 547 | 0,2 |
| Украінцы | 27 803 | 35 426 | 0,09 |
| **Беларусы** | **5 137** | **6 358** | **0,08** |
| Узбэкі | 2 666 | 3 748 | 0,06 |
| Казахі | 1 966 | 2 290 | 0,06 |
| Грузіны | 6 836 | 8 306 | 0,3 |
| Азэрбайджанцы | 3 855 | 4 972 | 0,17 |
| Літоўцы | 2 315 | 2 959 | 0,12 |
| Латышы | 2 263 | 2 662 | 0,19 |
| Армяне | 6 445 | 8 001 | 0,28 |

**Акадэміі навук саюзных рэспублікаў у канцы 1960 году**

| Назоў | год заснаваньня | правадзейныя сябры й сябры-карэспандэнты | навуковыя ўстановы | навуковыя працаўнікі |
|---|---|---|---|---|
| АН СССР | 1725 | 534 | 241 | 23 771 |
| АН УССР | 1919 | 203 | 66 | 4 199 |
| **АН БССР** | **1928** | **88** | **30** | **1 455** |
| АН Узбэцкай ССР | 1943 | 70 | 32 | 2 388 |
| АН Казахскай ССР | 1945 | 74 | 38 | 1 697 |
| АН Грузінскай ССР | 1951 | 69 | 45 | 2 225 |
| АН Азэрбайдж. ССР | 1945 | 55 | 26 | 1 823 |
| АН Літоўскай ССР | 1941 | 34 | 15 | 569 |
| АН Латыскай ССР | 1946 | 40 | 21 | 859 |
| АН Армянскай ССР | 1943 | 67 | 30 | 1 227 |

Як наглядна паказвае вышэй прыведзеная статыстыка, БССР і Беларусы стаяць на апошнім месцы як колькасьцяй студэнтаў, так і колькасьцяй навуковых установаў і навукоўцаў. Беларусы найбольш пацярпелі так-



сама ад штучнай русыфікацыі (напрыклад, штучнае залічэньне да «Расейцаў» насельніцтва Смаленскай і Бранскай вобласьцяў) і наагул ад рэпрэсіяў, бо насельніцтва БССР, як паказвае першая табліца, нічуць не павялічылася ў параўнаньні з 1939 годам, а, наадварот, шмат зьніжылася. Усё гэта сьветчыць, ведама, што Беларусы стаяць на асобным палажэньні ў СССР, на палажэньні найбольш прыгнечанае нацыі. На гістарыяграфічным фроньце гэтае палажэньне зьяўляецца яшчэ больш трагічным, што мы маглі канстатаваць з нашага папярэдняга агляду. Гэтая трагэдыя выяўляецца таксама з наяўнасьці кадраў гісторыкаў у БССР. Згодна афіцыйных дадзеных, у 1960 годзе ў БССР налічвалася мала больш за 200 гісторыкаў, якія працуюць у навуковых і вышэйшых навучальных установах.[30] З гэтае колькасьці ў тым-жа 1960 годзе 171 чалавек мелі навуковую ступень кандыдата гістарычных навук і толькі 8 асобаў — доктара гістарычных навук.[31] Для параўнаньня адзначым, што толькі ў вадным Інстытуце гісторыі Акадэміі Навук СССР у канцы 1957 году працавала 6 акадэмікаў, 6 сяброў-карэспандэнтаў, 54 доктараў гістарычных навук і 228 кандыдатаў гістарычных навук.[32]

Такім чынам зьнішчэньне нацыянальнай гістарыяграфіі ў БССР дыктавалася вылучна шавіністычнымі інтарэсамі Масквы. Гэтым інтарэсам служыць і сяньняшняя казённая бэсэсэраўская гістарыяграфія. Яна ня мае права кранацца палітычнай гісторыі Беларусі. Асноўным ейным заданьнем зьяўляецца хвальшаваньне гістарычнага мінулага беларускага народу, наагул адмаўленьне гісторыі беларускага народу ў карысьць шавіністычнаімпэрыялістычных інтарэсаў Масквы. З другога боку, гісторыя беларускага народу, узятая ў ейным аб'ектыўным разьвоі, асабліва гісторыя магутнае гістарычнае Літвы, гэтае беларускае нацыянальнае дзяржавы, уяўляе для Масквы канец усялякім ейным вялікадзяржаўніцкім канцэпцыям, няўхільны канец ейнаму панаваньню ў Беларусі. Вось чаму Масква ўсялякімі магчымымі сяродкамі імкнецца ўтрымаць беларускі народ у няведаньні свае гісторыі.

[30] И. С. Кравченко. Некоторые итоги работы и задачи Института истории АН БССР. **Вопросы истории**, № 7, 1960, б. 189.
[31] **Коммунист Белоруссии**, № 7, 1960, б. 72.
[32] **История СССР**, № 2, 1958, б. 210.

# Тэма сучаснасьці
## ў творчасьці беларускіх савецкіх кампазытараў

Мікола Кулікович

Праблема сучаснай тэматыкі ў савецкім мастацтве была заўсёды й застаецца цяпер найважнейшай і войстра актуальнай у партыйнай бальшавіцкай палітыцы, паколькі яна арганічна й непадзельна зьвязана із заданьнямі камуністычнага ўзгадаваньня й палітычнай прапаганды. Яшчэ пры Леніне нарком Луначарскі марыў аб сваіх пралетарскіх мусорскіх, а пры Сталіне Жданаў заклікаў савецкіх мастакоў і пасьля вайны «на лінію вагню». Пры Хрушчове праблема сучаснасьці ў мастацтве СССР набывае асаблівую вайстрыню й значаньне дзеля гэтак званага будаваньня камуністычнага грамадзтва, стварэньня новага савецкага чалавека. Партыйны лідэр сам, беспасярэдня, выступае з трыбуналу і ў друку, вядзе часта інтымныя гутаркі з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі і ўсё на адну й тую-ж тэму: «цеснай сувязі літаратуры й мастацтва з жыцьцём народу». Звычайна, па сьлядох Хрушчова йдуць і рэспубліканскія партыйна-савецкія кіраўнікі.



Ці мала размоваў было аб сучаснай тэматыцы і ў мастацтве БССР, аднак, больш-менш заўважальнага эфэкту яны не давалі. У канцы 1958 г. ведамы музыкавед Беларусі Г. Цітовіч скардзіўся, што «няма яшчэ твораў на сучасную тэматыку».[1] У пачатку 1960 г. загадчык аддзелу агітацыі й прапаганды ЦК КПБ выказаў сваё незадаваленьне, што ў беларускіх пісьменьнікаў, мастакоў, кампазытараў, работнікаў тэатру, кіно сучасная тэма «яшчэ не ўваходзіць як сьлед у жыцьцё, а таму так мала пакуль зьяўляецца высокамастацкіх твораў на сучасную тэму».[2] Паводля сьцьверджаньня рэспубліканскай прэсы, толькі творчая канфэрэнцыя гораду Менску, праведзеная ў красавіку 1961 г., была тым заўважным мерапрыемствам, дзе «Бадай упяршыню за апошні час адбылася такая творчая размова па надзённых пытаньнях мастацтва».[3]

[1] Сучасная тэма. «Літаратура і Мастацтва», 24. 9. 1958.
[2] Другі пленум пісьменьнікаў БССР. «Маладосьць», № 3, 1960.
[3] Надзённыя праблемы. «ЛіМ», 11. 4. 1961.



Можна згадзіцца, што некаторы ўзрух у пытаньнях надзённай тэматыкі ў вапошнія часы ўзапраўды наглядаецца. Папіхачамі тут зьяўляюцца наступныя грамадзка-палітычныя здарэньні:

1. 5-ты пленум Саюзу Савецкіх Кампазытараў СССР у Маскве ў пачатку 1960 г., прысьвечаны тэме «Сучаснасьць у музыцы», на якім перад усімі аўтарамі была пастаўленая «галоўная задача»: «шукаць музыку нашай эпохі».[4]

2. 24-ы зьезд Камуністычнай Партыі Беларусі ў лютым 1960 г., дзе ў выступленьнях першага сакратара КПБ Мазурава й некаторых іншых сучаснасьць была абвешчаная, як «галоўная тэма мастацтва» і дзе пастаўленае было патрабаваньне да ўсіх мастакоў: даць «праўдзівы і высокамастацкі паказ сацыялістычнай рэчаіснасьці».[5]

3. Працэс падрыхтоўкі да XXII партыйнага зьезду. Найбольш паказальнымі ў гэтым працэсе зьяўляюцца: а) паяўленьне ў друку артыкулу кампазытара Цікоцкага — старшыні Саюзу Кампазытараў БССР і музыкаведа І. Нісьневіча «Жыцьцё народу — крыніца натхненьняў» у лютым 1961 г., у якім сказана, што ўвесь 1961 год праходзіць «пад знакам падрыхтоўкі да XXII зьезду КПСС», што ў гэты час у музычнай творчасьці «важны ўсе жанры, якія раскрываюць ідэйна значныя тэмы ў высокамастацкай форме».[6] Артыкул заяўляе, што «кампазытарская грамадзкасьць як ніколі раней згуртавалася вакол вырашэньня надзённых задач, якія перад намі паставіла Камуністычная партыя».[7] б) Правядзеньне Менскім гаркомам партыі ў красавіку 1961 году тэарэтычнай канфэрэнцыі работнікаў мастацтва сталіцы, дзе, апрача галоўнага дакладу на тэму «Сучасная савецкая рэчаіснасьць — галоўны зьмест творчасьці дзеячоў літаратуры і мастацтва», былі дадзеныя й судаклады на розныя варыянты гэтае тэмы, у тым ліку й судаклад кампазытара Багатырова на тэму «Музыка і сучаснасьць».[8] У гэтым выступленьні Багатыроў, бяручы на сябе партыйна-музычнае лідарства, агітуе:

> Перад усімі намі праблема сучаснасьці ў музыцы паўстае, як першачарговая, самая важная праблема ... У аснове разьвіцьця ... жанраў ... новая сучасная тэматыка. Яна зьяўляецца асаблівасьцяй савецкай музыкі, (якая) зацьвердзілася на пазыцыях новай эстэтыкі — эстэтыкі сацыялістычнага рэалізму.[9]

4. Паяўленьне ў журнале «Камуніст» і іншых газэтах у траўні 1961 г. кіруючага артыкулу Хрушчова «Да новых посьпехаў літаратуры і мастацтва» з новым заклікам, каб мастацкія творы «абуджалі ... захапленьне ўсім выдатным і прыгожым у нашай сацыялістычнай рэчаіснасьці».[10] У сувязі з гэтым праграмным артыкулам: а) рэспублікіканскі друк публікуе спэцыяльныя перадавіцы «Гэроіка нашых дзён — крыніца натхненьня» («Звязда») і «Партыя натхняе і накіроўвае» («Літаратура і Мастацтва»);[11] б) Саюз Кампазытараў БССР праводзіць у канцы траўня агульны сход, на якім

[4] Хреньнікаў. Слово к друзьям. «Советская Музыка», № 1, 1960, бач. 5.
[5] Галоўная тэма мастацтва. «ЛіМ», 27. 2. 1960.
[6] Жыцьцё народа — крыніца натхненьня. «ЛіМ», 28. 2. 1961.
[7] Тамсама.
[8] І творчыя сілы і талент — народу. «Звязда», 8. 7. 1961.
[9] А. Багатыроў. Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», 11. 4. 1961.
[10] Гэроіка нашых дзён — крыніца натхненьня. «Звязда», 28. 5. 1961.
[11] Перадавіца «Звязды», 28. 5. 1961; «ЛіМ», 16. 5. 1961.

абгаворвае практычныя выпрацоўкі й рэалізацыю творчых плянаў і заявак на сучасную тэматыку.[12] в) ЦК Камуністычнай партыі Беларусі ў чэрвені 1961 г. праводзіць рэспубліканскі сход актыву творчай інтэлігенцыі, на якім выступае першы сакратар КПБ Мазураў і іншыя выдатныя дзеячы і які партыйны ворган «Зьвязда» разглядае як «сучаснасьць — душа творчасьці».[13]

На довад таго, што сучасная тэматыка знайшла сваё адлюстраваньне ў творчасьці беларускіх савецкіх кампазытараў, рэспубліканская прэса час ад часу падае назовы й кароткія анатацыі найбольш адказваючых гэтаму заданьню музычных твораў. Прыкладам, гаворыцца аб творчасьці кампазытара Аладава, які «хутка адгукваецца на буйнейшыя заявы і падзеі нашага грамадзкага жыцьця», што, у васаблівасьці, ягоныя 4-ая й 5-ая сымфоніі расказваюць «пра станаўленьне характару савецкага чалавека».[14] Аб новай сымфоніі кампазытара Лукаса паведамляецца, што «характар музыкі, яе аптымізм, сьветлая лірыка светчаць, што твор адлюстроўвае нашу рэчаіснасьць».[15] І-ая сымфонія маладога кампазытара Чэраднічэнкі, паводля крытыкаў, зьяўляецца такім творам, у якім «складаная праблема — музыка і сучаснасьць... знайшла сваё адлюстраваньне... Увесь зьмест сымфоніі адлюстроўвае імкненьне савецкага народу да міру, да стваральнай працы».[16] У кампазытара Пукста, у ягонай 6-ай сымфоніі быццам дадзенае «радаснае адчуваньне савецкага жыцьця».[17] На сучасную тэму была напісаная нядаўна кампазытарам Семянякам опэра «Калючая ружа» з жыцьця сучаснай савецкай беларускай моладзі (аб ёй мы скажам ніжэй), цяпер пішацца маладым аўтарам Глебавам новы балет «Мара балерыны», дзе сюжэтам зьяўляецца павяртаньне балерыны з капіталістычнай краіны на сваю сацыялістычную бацькаўшчыну.

Найбольшая колькасьць сучаснай тэматыкі падае, як гэта й трэба было мяркаваць, на песенную творчасьць беларускіх савецкіх кампазытараў. Тут мы можам сустрэць песьні «Дагнаць Амэрыку» (Пукста), «Палі стэпавыя» (Кузьняцова — аб посьпехах «цаліньнікаў» Казахстану), спэцыяльны цыкль песьняў «Мае сучасьнікі» (Алоўнікава), «Аб шчасьлівай нашай долі» (Семянякі), «Песьня камуністычных брыгад» (Пукста) і многіх іншых аж да песьні Гагарыну «Помні гэтыя дні» (Вагнэра).

Апошнія весткі паведамляюць аб стварэньні такіх экстра-сучасных твораў, як сымфанічная фантазія аб касьмічных караблёх-спадарожніках пад назваю «Ад мары да дзярзаньня, ад дзярзаньня да перамогі» (Аладава), як сымфонія Цікоцкага пад назваю «Сымфонія міру».[18]

Пры перагляданьні матарыялаў аб станаўленьні праблемы сучаснасьці ў музычнай творчасьці БССР у вочы мімаволі кідаецца ўся тая палітычная шуміха й траскатня, тая дэмагагічнасьць і бессаромнасьць, зь якімі падаюць яе партыйна-савецкія кіраўнікі й асабліва тыя прэтэнсіянальныя, банальныя, лёзунгавыя крыкліва-траскучыя шапкі-назовы музычных твораў, якімі называюць, на пацеху кіраўніцтва, свае творы крытыкі й самі кампазытары, зь якімі робяць свае крытычныя высновы. Такія назовы, як «Гэроіка нашых дзён — крыніца натхненьня», ледзь голая прапаганда, яшчэ падходзіць для перадавіцы савецкай газэты, але згадзіцца й сур'ёзна ўспрыняць даклад кампазытара аб творчасьці пад назваю «Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё» (даклад і артыкул Багатырова, аб якім яшчэ будзе мова), ці фантазію Аладава пад назваю «Ад мары да дзярзаньня, ад дзярзаньня да перамогі» — проста немагчыма. У гэтай, уласьцівай толькі савецкаму стылю, акалічнасьці здаровы розум адразу-ж адшукае вялікія грахі супраць запраўднасьці й рэальнасьці, распазнае нячэснае імкненьне схвальшаваць, абмануць грамдазкую апінію й думку. Тут пры ўважлівым дасьледаваньні й выступае перад намі адваротны бок мэдалю ў гонар сучаснасьці.



Ня гледзячы на тое, што ў справаздачных матарыялах беларускіх партыйна-савецкіх кіраўнікоў, зь якімі мы часткова ўсьпелі пазнаёміцца вышэй, зьмяшчаецца ў васнове славахвала савецкім дасягненьням і посьпехам, амаль што аніводная прамова, аніводзін артыкул не абыходзіцца без заяваў і прызнаньняў зусім рэальнага практычнага характару. Гэта й ёсьць тая крыніца, зь якой можна даведацца праўды. Гэтак у справаздачным дакладзе на XXIV зьезьдзе Камуністычнай партыі Беларусі, што рабіў першы сакратар ЦК Мазураў, уся мастацкая дзейнасьць БССР паддалася рэзкай крытыцы:

> Асабліва незадаваленьне выклікае сучасны стан... адсутнасьць у рэпэртуары тэатраў... значных твораў на надзённыя тэмы... Рэзка і слушна гаварылася на партыйным зьезьдзе аб пагаршэньні працы беларускіх кампазытараў у жанры масавай савецкай песьні.[19]

Газэта «Літаратура і Мастацтва» не аднойчы заклікае й папярэджвае кампазытараў, што

> слухачы чакаюць... глыбокага грамадзкага і лірычнага зьместу на хвалюючыя тэмы нашых векапомных дзён...[20] нашым кампазытарам трэба сьпяшыцца з ажыцьцяўленьнем творчых плянаў.[21]

Дырэкцыя Рэспубліканскага Дому Народнай Творчасьці абураецца:

> Чаму-ж нашы аўтары ня пішуць сучасных песень... Грамадзкасьць Рэспублікі чакае... песень аб Камуністычнай партыі і Радзіме... няма ў нас песень для ўрачыстых народных сьвятаў і дэманстрацый... савецкіх абрадаў.[22]

Дарэчы тут адцеміць, што найбольш зручны, просты, лёгкі жанр творчасьці, які так ці йнакш яшчэ можа адказваць на надзённасьць, гэта й ёсьць песенны жанр. Аказваецца, што ў ім кампазытарам няма чым пахваліцца. А што-ж можна казаць аб вялікіх музычных формах? Крытыкі й музыказнаўцы таксама ня маюць задаваленьня з кампазытарскай дзейнасьці: «нашыя беларускія кампазытары павінны як мага больш глыбока і шырока адлюстраваць нашу сучаснасьць».[23] Ды й самі кампазытары змушаныя прызнацца, што вобраз сучасьніка ў іхнай творчасьці знаходзіць адлюстраваньне

[12] З творчым запалам. «ЛіМ», 30. 5. 1961.
[13] Сучаснасьць — душа творчасьці. «Звязда», 13. 6. 1961.
[14] Пясьняр нашых дзён. «ЛіМ», 16. 12. 1960.
[15] Сімфонія Лукаса. «ЛіМ», 20, 2. 1960.
[16] Посьпех маладога кампазітара, «ЛіМ», 27. 2. 1960.
[17] Музыка і сучаснасьць. «ЛіМ», 17. 2. 1960.
[18] І творчыя сілы і талент — народу. «Звязда», 8. 7. 1961.
[19] Галоўная тэма мастацтва. «ЛіМ», 27. 2. 1960.
[20] Музыка і жыцьцё. «ЛіМ», 14. 6. 1960.
[21] З творчым запалам. «ЛіМ», 30. 5. 1961.
[22] Увага масаваму жанру. «ЛіМ», 25. II. 1950.
[23] Кантата І. Кузьняцова. «ЛіМ», 4. 4. 1959.

не толькі «ў пэўнай ступені»,[24] што яны «ў вельмі вялікім даўгу перад нашымі сучасьнікамі».[25]

Такім чынам твораў на сучасную тэматыку ў беларускіх савецкіх кампазытараў зусім няшмат. Калі-ж узяць на ўвагу настойлівыя патрабаваньні партыі аб неабходным адлюстраваньні надзённай савецкай рэчаіснасьці, будоўлі камунізму, дык твораў, якія адказвалі-б такім вымаганьням, настолькі мала, што іх можна пералічыць на пальцах. І вось дзеля таго, каб стварыць бачнасьць руху апанаваньня сучаснаю тэмаю, каб задаволіць савецкую статыстыку, завуаляваць запраўднае становішча справы, у БССР хапаюцца за нячыстыя, аблыжныя камбінацыі й махляваньні. Вельмі цікава трохі спыніцца на падобных зьявішчах.

Першы прыхватак — прыпіскі, падробкі статыстычных дадзеных і лічбаў. Тут у сучасныя надзённыя творы прыпісваюцца рэчы, што напісаныя на іншую, але савецкую тэматыку, як прыкладам» а) ленінская сюжэтыка («Песьня аб Леніне» Абеліевіча, «Песьня пра Леніна» Семянякі, «Нас вітае Ленін» Кузьняцова, сымфанічная паэма «Вечна жывы» Вагнэра, кантата «Ленін» Кузьняцова, фантазія «Просты і скромны» Аладава й іншыя), якая сваёй напластаванай, ужо мала верагоднай вобразнасьцю адрозьніваецца ад шэрай надзённасьці; б) партызанская сюжэтыка (цыкль песьняў Алоўнікава аб героях Айчыннай вайны, «Памяці Веры Харунжай» Падкавырава, «Партыйная клятва» Вагнэра, сымфанічная паэма «У Тураўскай пушчы» Аксакава й інш.); в) паэтычная й любоўная лірыка («Сьвеціць месяц», «Вячэрняя песьня», «Ой шумяць лясы зялёныя», «З другам» Семянякі, «Ціхі вечар» Вагнэра, «Тры сястрыцы» Кузьняцова, «Радзіма мая дарагая» Алоўнікава й інш.), заўсёды прывабная для аўтараў; г) творы, што ня маюць праграмы й належаць да чыстай музыкі (3-яя сюіта Аладава, саната для фартэп'яну Багатырова, сымфонія Лукаса, віянчэльны канцэрт Падкавырава, скрыпічныя п'есы Абеліевіча, сымфонія Чараднічэнкі, альтова саната Тырмана, сымфонія Пукста й інш.). Вось якія творы цешацца посьпехам у сучаснай тэматыцы, а зусім ня тыя, што могуць вылучацца сваёй надзённасьцяй.[26]

Дарэчы тут зацеміць, што ў сучасную тэматыку ўключаюцца часта творы, маючыя салідную даўнасьць ад часу іх напісаньня, што таксама належыць да прыхватку прыпіскі й жангляваньня. Гэтак, прыкладам, кіраўнікі Саюзу Кампазытараў БССР у сваіх артыкулах 1961 году ўспамінаюць, як найбольш надзённыя творы: 2-ую сымфонію Багатырова, што напісаная ў 1946-47 гг.; 3-юю сымфонію Цікоцкага, што напісаная ў 1949 г.; сымфанічную паэму «Нарач» Алоўнікава, што напісаная была ў 1954 г.; 3-юю сымфонію Аладава, напісаную ў 1952 г.; канцэрт для скрыпкі Падкавырава, што быў напісаны ў 1955 г.; фартап'янны канцэрт Камінскага, напісаны ў 1955 г.; песьню «Ой шумяць лясы зялёныя» Семянякі, што была напісаная ў пачатку 1955 г.[27] Падобных падманаў можна было-б прывесьці значна

---

[24] З выступленьня А. Цікоцкага на сходзе актыву. «ЛіМ», 9. 6. 1961.

[25] З артыкулу А. Цікоцкага й І. Нісьневіча — Жыцьцё народа — крыніца натхненьня. «ЛіМ», 28. 2. 1961.

[26] Сьпіс твораў зроблены паводля артыкулаў: Зноў аб песьні; Жыцьцё народа — крыніца натхненьня; Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», 4. 10. 1960; 11. 4. 1961.

[27] Сьпіс твораў узяты з артыкулаў А. Цікоцкага й А. Багатырова «ЛіМ», 28.



больш, але й гэта дастаткова. Хацелася-б толькі спаслацца тут на словы беларускага музыкаведа Ракавай, якая, гаворачы аб савецкай надзённай песьні, піша: «Даводзіцца канстатаваць, што ў нашым быце лепш захоўваюцца песьні пяцігадовай і большай даўнасьці, новыя-ж песьні заваёўваюць аўдыторыю з куды большай цяжкасьцю».[28] Гэта зразумела, бо тады яшчэ ня так моцна націскалі з надзённасьцю, было вальней аўтарам выбіраць тэматыку й выражаць свае пачуцьці. Прыхватак прыпіскі, аднак, часта рассакрэчваецца і гэта можа служыць абвінавачваньнямі у дачыненьні да аўтараў. Паказальны ў гэтым дачыненьні артыкул беларускага музыкаведа Ладыгінай, які яна зьмясьціла ў маскоўскім часапісе «Советская Музыка» і ў якім скардзіцца на беларускую крытыку, што, замест дасьледваньня адлюстраваньня сучаснасьці ў творах, усё «зводзіцца толькі да пералічаньня . . . , да таго яшчэ . . . напісанага . . . ў розныя пэрыяды».[29]

Другім прыхваткам падробкі служыць прысьвечваньне твораў партыйна-савецкім палітычным зьявам, сьвятам, абходам ці арганізацыям і асобам. Прыхватак гэты вельмі просты, навет наіўны, але вельмі распаўсюджаны й дзейны. Наступае, прыкладам, гадавіна Кастрычніка, партыйны зьезд, ракетны палёт ці што іншае, і амаль што кажны кампазытар прысьвечвае твор аднэй з гэтых падзеяў, хоць паводля свайго зьместу й характару яны ня маюць зь ёй нічога супольнага. Гэтак, прыкладам: 30 гадавіне Кастрычніка былі прысьвечаныя творы: опэра «Кастусь Каліноўскі» Лукаса, 2-я сымфонія Багатырова, 2-ая сымфонія Цікоцкага; 30-ай гадавіне БССР — 3-яя сымфонія Цікоцкага, балет «Князь-Возера» Залатарова; Ленінскаму камсамолу — 1-ая сымфонія Падкавырава й ягоны фартап'янны квінтэт, фартап'яннае трыё Багатырова, маладзёжная суіта Вагнэра, маладзёжнае скерца Чараднічэнкі; «мірнай стваральнай працы» — 3-яя сымфонія Аладава; «Дружбе народаў» СССР — 3-яя сымфонія Падкавырава й інш.[30] Найчасьцей такія творы вельмі звычайныя, пішуцца паводля старых рэцэптаў, ёсьць такія, што зьвязаныя зь вельмі далёкімі часамі мінулага (прыгонныя часы ў балеце «Князь-Возера», паўстаньне 1863 г. у опэры «Кастусь Каліноўскі»), але дастаткова іх прысьвяціць актуальнаму здарэньню, як і сам твор набывае «сучасную вайстрыню». Вось, прыкладам, канцэрт для скрыпкі з аркестраю Падкавырава. Згодна крытычнай аналізы, у васнове яго ляжыць «клясычная традыцыя», заўважваюцца вялікія ўплывы Чайкоўскага, Глазунова, Рымскага-Корсакава, а ў фінале выкарыстаная старая беларуская песьня «Кума-ж мая, кумачка».[31] Твор, як бачым, мала чаго мае із сучаснасьцяй, але, прыймаючы на ўвагу (а гэта важна ў СССР), што Падкавыраў, былы камсамолец, прысьвячае свой твор савецкай моладзі, і канцэрт атрымаў надзённую тэматыку.[32]

---

2. 1961 і II. 4. 1961. Дакладныя даты напісаньня ўспомненых твораў узятыя з арт. Г. Цітовіча «Профессиональная музыка» ў брашуры «Белорусская ССР». Музгиз, 1957, бб. 90, 94, 97, 105, 109.

[28] Зноў песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.

[29] Белорусские газеты о музыкальной жизни Республики. «Сов. Музыка», № 2, 1960, б. 166.

[30] Сьпіс рэчаў зроблены паводля брашураў «Белорусская ССР», выданьне МУЗГИЗ, Масква, першай у 1956 г., другой — у 1957 г. Першы нарыс аб прафэсыянальнай музыцы І. Смольскага, бб. 54, 62, 65, 66; другі нарыс І. Нісьневіча, бб. 85-110.

[31] Белорусский концерт. «Сов. Музыка», № 12, 1959, б. 33.

[32] Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», 11. 4. 1961.

Трэйці прыхватак, які найбольш стварае ілюзорнае бачаньне сучаснасьці, палягае ў тым, што музычнаму твору надаюць (хутчэй навязваюць) палітычную праграму, накшталт газэтнай шапкі-загалоўку, даюць яму агітацыйны прапагандовы назоў, які мусіць, зразумела, вызначаць сам зьмест і прызначаньне твору. Сымфонія, сымфанічная паэма, суіта, фантазія — амаль што кажная зь іх набывае палітычную шапку й адзеньне. Гэтак мы бачым: 4-ую сымфонію Цікоцкага пад назовам «Барацьба за мір», 3-юю сымфонію Падкавырава — «Мая Радзіма», 3-юю сымфонію Аладава — «Стваральная праца», сымфанічную паэму Алоўнікава «Песьні міру», сымфанічную паэму Камінскага «Радасны шлях», 4-ую й 5-ю сымфоніі Аладава — «Станаўленьне характару савецкага чалавека», сымфонію Чараднічэнкі «Заклік міру», сымфанічную паэму Аладава — «Зары насустрач», фантазію таго-ж Аладава — «Ад мары да дзярзаньня, ад дзярзаньня да перамогі» (аб касьмічных савецкіх караблёх) і г. д.[33]

Ёсьць многа твораў з галін чыстай музыкі, дзе, як кажуць самі крытыкі, «аўтар ня даў ... канкрэтнай літаратурнай праграмы і таму цяжка апісаць карціны або падзеі».[34] І вось больш сумленны крытык аб такім непраграмным творы піша: «Сымфоніі ўласьцівы вельмі аптымістычны настрой, пруткая рытміка, напорыстасьць»,[35] але іншы крытык, больш «палітычна падкаваны» (мова аб сымфоніі маладога кампазытара Чараднічэнкі — М. К.) падае: «Увесь зьмест сымфоніі адлюстроўвае імкненьне савецкага народу да міру, да стваральнай працы..., адлюстроўвае нашую сучаснасьць».[36] Вось, значыцца, пры дапамозе «лоўкай думкі» знайшлося ўсё, што патрэбнае: і мір, і стваральная праца, і яскравая сучаснасьць, і твор з традыцыйнага, яшчэ вучнёўскага, ператвараецца на вачох у палітычна войструю надзённую падмогу партыі.

Пры надаваньні праграмы й зьместу твору вялікае значаньне ў Саветах набывае выкарыстоўваньне ў ім народных матываў, а яшчэ лепш старых рэвалюцыйных работніцкіх (расейскіх) песьняў. Усё гэта асучасьнівае твор. Дастаткова было Аладаву ў фінале сваей 3-яй сымфоніі даць танцавальную народную тэму, як адразу загаварылі аб адлюстраваньні «савецкага» сьвята й усю сымфонію палічылі за сучасную.[37] Ня менш важна ў сучасным творы мажорны, бадзёры настрой. Такі твор добра падходзіць да адлюстраваньня савецкага аптымізму, радаснага савецкага жыцьця. Дзякуючы мажорным ладам і непраграмныя сымфоніі Лукаса й Чараднічэнкі, як можна было ўжо бачыць, адразу-ж знайшлі пачэснае месца ў сучаснай надзённай тэматыцы. Ніхто не адважваецца сказаць, што пад бадзёры марш могуць з посьпехам хадзіць людзі зусім розных сьветапаглядаў, і камуністыя, і капіталістыя, і фашыстыя, але ўсе савецкія крытыкі ўважаюць аптымізм вылучнай асаблівасьцяй савецкага жыцьця. Прыхватак надаваньня праграмы мае лучнасьць з прыхваткам прысьвечваньня, хаця зьяўляецца больш тонкім, складаным і больш далёкасяжным.

Усе вышэй названыя камбінацыі існуюць адначасова, карыстаюцца вялікай папулярнасьцю ў кампазытараў і крытыкаў, а навет і кіраўніцтва, асабліва калі трэба даваць справаздачу й паказаць савецкія посьпехі й дасягненьні ў праблеме сучаснасьці. Тым ня меней, задаволіць поўнасьцю партыйна-савецкае кіраўніцтва падобныя махляваньні, ясна, ня могуць. Скаргі, дакоры, заклікі ўсё часьцей трапляюць на бачыны друку. Кампазытары ані ідэйна, ані мастацка ня могуць усё-ж патрапіць разьвязаць праблемы сучаснасьці.

☆

Адным з найгалоўнейшых прарываў у творчай дзейнасьці беларускіх савецкіх кампазытараў зьяўляецца нізкая якасьць іхных твораў на сучасную тэму. Аўтарам ніяк не ўдаецца той «высокамастацкі паказ сацыялістычнай рэчаіснасьці»,[38] якога патрабаваў ад іх першы сакратар партыі Беларусі. Партыйна-савецкае кіраўніцтва ня бачыць добрай якасьці ані ў буйнай, ані ў малой музычнай форме:

> Мы яшчэ ня можам назваць значнага спэктаклю, які перадаваўбы з ... дасканалым майстэрствам вялічыню тэмы ...[39] Усё яшчэ не задавальняе стан песеннай творчасьці ... Мала ствараецца мэлёдычных песень ... трапляюцца такія, дзе прыкметны мэлёдычная аднастайнасьць і нудныя эмацыянальныя штампы.[40]

Кампазытараў заклікаюць і папярэджваюць:

> Народ чакае новых сымфоній і песень, опэр і балетаў багатых ... дасканалай рэалістычнай формай.[41]

Зьвернемся хаця-б на пачатак да опэрнай творчасьці, дзе беларускія кампазытары на першай дэкадзе ў Маскве (у 1940 г.) зрабілі сур'ёзныя й заўважальныя посьпехі. Цяпер «у тэатры опэры й балету забыліся на творы Цікоцкага, Багатырова, Залатарова, Пукста, іх даўно ўжо не паказваюць гледачу».[42]

Пасьляваенныя спробы стварыць што-небудзь значнае ў гэтай галіне («Алеся» Цікоцкага, «Надзежда Дурава» Багатырова, «Машэка» Пуксты, «Андрэй Касьценя» Аладава) скончыліся поўным правалам, адбіўшы ахвоту, асабліва ў старэйшых аўтараў, займацца опэрным жанрам. Дырэкцыі тэатру нічога не аставалася, як толькі «спадзявацца на тое, што старэйшае пакаленьне кампазытараў парадуе нас новымі яркімі опэрнымі творамі на тэмы сяньняшняга дня».[43] Спадзяваньні занялі, аднак, такі доўгі час, што дырэкцыі давялося зрабіць сацыялістычныя заказы маладым, больш сьмелым аўтарам. Так паявілася нядаўна (у лістападзе 1960 г.) адзіная опэра на сучасную тэму — «Калючая ружа», з жыцьця сучаснай беларускай моладзі, якую напісаў малады кампазытар Семяняка. З прычыны таго, што гэта опэра выклікала й выклікае яшчэ ў БССР шуміху, на ёй варта трохі затрымацца. Ужо адно тое, што Семяняка да опэрнай формы зьвярнуўся ўпяршыню ў сваім жыцьці, маючы раней толькі песенную практыку, не магло, зразумела, не адбіцца на якасьці твору. Вагнэр (аўтар аднаго беларускага балету) яшчэ на папярэднім пераглядзе «Калючай ружы» адразу-ж заўважыў не-

[33] Сьпіс твораў зроблены паводля нарысаў Смольскага й Нісьневіча, артыкулаў Цікоцкага й Багатырова, якія цытаваліся вышэй, а таксама зацемкі ў «Звязьдзе», 8. 6. 1961.
[34] Сымфонія Лукаса. «ЛіМ», 20. 2. 1960.
[35] Жыцьцё народа — крыніца натхненьня. «ЛіМ», 28. 2. 1961.
[36] Посьпех маладога кампазытара. «ЛіМ», 27. 2. 1960 .
[37] Пясьняр нашых дзён. «ЛіМ», 27. 2. 1960.

[38] Галоўная тэма мастацтва.
[39] Тамсама.
[40] Музыка і жыцьцё. «ЛіМ», 14. 6. 1960.
[41] Тамсама.
[42] Стварыць спэктаклі яркія, змястоўныя. «ЛіМ», 9. 6. 1961.
[43] Каб слухалі з асалодай. «ЛіМ», 16. 6. 1961.

дахопы «маладога кампазытара, што ўпяршыню зьвярнуўся да такога сур'ёзнага жанру, як опэра».[44] Музыкавед Ладыгіна разглядае опэру Семянякі, «як пробу пяра».[45] Праглядаючы гэты новы твор, калегі Семянякі рабілі вельмі правільныя заўвагі аб тым, што: «асабліва ярка паказаны адмоўныя пэрсанажы» (Цікоцкі), аб «пэўнай аднастайнасьці-гармоніі» (Мухарынская), аб «злоўжываньні аднымі і тымі-ж фарбамі і прыёмамі» (Нісьневіч), аб тым, што опэра «ня ўзьнімае глыбокіх праблем сучаснасьці» (Алоўнікаў), аб «наяўнасьці пэўнай салённасьці» (Модэль).[46]

Сцэнічная пастаноўка опэры спрычынілася да паяўленьня крытычнага артыкулу Цікоцкага, у якім старэйшы кампазытар выказваўся, што

> Лібрэта ... ня прэтэндуе на асаблівую глыбіню і арыгінальнасьць, часам у ім сустракаюцца агрэхі супраць лёгікі разьвіцьця сюжэту і асобных вобразаў ... Можна папракнуць Семяняку ў пэўнай стылістычнай стракатасьці музыкі опэры і злоўжываньні празьмерна ўжо адчувальным мінорам ... Кампазытар чамусьці адмовіўся ад найбольш моцнага боку сваей творчасьці — народнасьці ... Больш музычных характарыстык вобразаў пазбаўлена нацыянальнай выразнасьці».[47]

У вадным больш пазьнейшым артыкуле Цікоцкі й музыкавед І. Нісьневіч, пачаўшы з пахвалы, усё-ткі не маглі не сказаць, што «Калючая ружа» — далёка не беззаганны твор».[48] Найбольш сур'ёзнай крытыкай опэры Семянякі быў артыкул музыкаведа Ладыгінай, які яна зьмясьціла на бачынах маскоўскага часапісу «Советская Музыка» (у лютым 1961 г.). Ладыгіна піша:

> «Калючая ружа» ані ў якой меры ня вырашае тых складаных праблемаў, якія стаяць зараз перад опэрным жанрам ... Аўтар музыкі і ня ставіў перад сабою вялікіх творчых задач. Намеры яго скромныя ... Твор у ва многім блізкі жанру апэрэты ... У опэры мае месца банальнасьць многіх сытуацыяў і вобразаў ... Не дасягнута поўнае стылістычнае адзінства (парою ў музыцы чуецца то Дунаеўскі, то Чайкоўскі, то Даргамыжскі). Недастае інтанацыі канкрэтнасьці ... Гэта моладзь «у агуле», але не студэнцкая беларуская моладзь ... Нажаль лірычныя пэрсанажы намаляваны наогул «аднэю фарбаю» ... Аснаўная тэма (гэроя Паромскага — М. К.) ня ёсьць вольная ад мэлёдраматызму ... разьвіцьцё атрымоўвае ў бок сэнтымэнтальнага «надрыву». Аўтары змусілі пяяць яго (Паромскага — М. К.) сэнтымэнтальны раманс ... Галоўны недахоп характарыстыкі ... адсутнасьць інтанацыйнай канкрэтнасьці. Так-жа неакрэсьлена ў інтанацыйных адносінах партыя Святланы (гэраіні опэры — М. К.) ... Роль хору параўнальна невялікая ... Слухача не пакідае пачуцьцё незадаволенасьці. Яшчэ меней значна ў опэры роля асамблей ... Разглядаючы «Калючую ружу», як пробу пяра Семянякі ..., мы спадзяемся, што ў далейшым кампазытар адмовіцца ад пратораных шляхоў».[49]

---

[44] Абмеркаваньне новай опэры. «ЛіМ», 5. 5. 1960.
[45] Колючая роза. «Сов. Музыка», № 2, 1961, б. 90.
[46] Абмеркаваньне новай опэры. «ЛіМ», 5. 5. 1960.
[47] На опэрнай сцэне — сучасьнікі. «ЛіМ», 2. 12. 1960.
[48] Жыцьцё народа — крыніца натхненьня. «ЛіМ», 28. 2. 1961.
[49] Колючая роза. «Сов. Музыка», № 2, 1961, б. 90.



Такія ёсьць думкі аб новай опэры аўтарытэтных музычных дзеячоў. Мы зусім ня хочам паддаваць пад сумлеў здольнасьці маладога аўтара і намет удалыя месцы ягонай музыкі, (яны ўсё-ж значна пераўвялічаныя партыйнаю прэсаю), але для буйнага мастацкага твору ня можа быць ніякіх ськівдак, і таму на аснове фактаў аб'ектыўная думка бясспрэчна аднясе «Калючую ружу» да яшчэ слабых мастацкіх спробаў. Гэтая опэра толькі сьцьвярджае крызысовае становішча з адлюстраваньнем сучаснасьці. Той шум, што ўзьняты вакол «Калючай ружы» й ейных «дасягненьняў», тлумачыцца вылучна матывамі прапагандова-партыйнага характару.[50]

Ня вельмі адрозьніваюцца ад якасьці адзінай сучаснай опэры й творы сымфанічнага й камэрнага жанру, што пішуцца на сучасную тэму. Крытыка, навет у афіцыйных падсалоджаных рэцэнзіях, гаворыць аб «істотных недахопах формы, перагружанасьці фактуры», «адсутнасьці цэльнасьці, няўдалым матарыяле», «слабым сымфанічным разьвіцьці», расьцягнутасьці формы, парушэньні лёгікі разьвіцьця ў такіх творах, як сымфонія Падкавырава, сымфоніі Пуксты, сымфоніі Багатырова, сымфоніі Аладава.[51] Аб тых-жа «рухласьці формы і стылістычнай пярыстасьці», «расьцягнутасьці», «мазаічнасьці» сьветчаць і іншыя творы (сымфонія Цікоцкага, скрыпачная фантазія Аладава, сымфанічная паэма «Нарач» Алоўнікава).[52] Мы наўмысьля падаём тут імёны найбольш ведамыя й кваліфікаваныя. Можна толькі здагадвацца, якая якасьць твораў наагул (аб гэтым яшчэ будзе ніжэй).

Найбольш просты жанр масавай песьні на сучасную тэматыку, як мы ўжо маглі пабачыць, таксама нізкі сваёй якасьцяй: «Многія ... напісаны фармальна і абыякава».[53] Шмат зь іх па сваёй мэлёдычнай мове — шэрыя, цьмяныя ... Другія ... ўявіліся ... нечым даўно знаёмым ... Аўтары пайшлі па пратоpaнай сьцежцы ..., перапеў знаёмых інтанацый».[54] У бальшыні тут «адсутнічае свая ўласная мэлёдычная мова».[55] Кампазытар Багатыроў у сваім дакладзе на творчай канфэрэнцыі і ў цытаваным ужо намі артыкуле, у тон усей крытыцы, заяўляе: «Будзем гаварыць шчыра: песенны жанр у нас цяпер значна адстае ... Задавальняюцца нярэдка эрзацамі ... Папулярызуюцца шэрыя, безкалярытныя творы».[56] Хацелася-б яшчэ тут дадаць з матарыялу аб песеннай творчасьці аўтара опэры «Калючая ружа» Семянякі, які мы ўважаем вельмі характэрным для савецкай рэчаіснасьці. Як кажа музыкавед Ракава:

> «Іншы раз малады кампазытар паўтарае самога сябе, пераносячы адзін і той-жа мэлёдычны вобраз з адной песьні ў другую ... Мэлёдыі песень ... зьбліжаюцца інтанацыйна, ясна адчуваецца і ладава-гарманічнае падабенства ... адсутнічае свая ўласная мэлёдычная мова».[57]

---

[50] Пахвальны артыкул аб «Калючай ружы» быў навет зьмешчаны ў прапагандной экспартнай газэтцы для эміграцыі «Голас Радзімы».
[51] Б. Смольский. Профессиональная музыка. «Белорусская ССР», изд Музгиз. Масква, 1956, бб. 62, 65, 66-67.
[52] И. Нисневич. Профессиональное творчество. «Белорусская ССР», Масква, 1956, бб. 96, 105, 109.
[53] Увага масаваму жанру. «ЛіМ», 25. II. 1959.
[54] Зноў аб песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.
[55] Тамсама.
[56] Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», II. 4. 1961.
[57] Зноў аб песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.

Песьні на сучасную тэму беларускіх кампазытараў нагадваюць «блізьнятаў», настолькі яны штампаваныя, трафарэтныя, аднастайныя й казённыя: «Большасьць зь іх так і ня стала здабыткам шырокіх народных мас».[58]

Трэба адцеміць, што беларуская рэспубліканская прэса, а таксама й беларускія крытыкі часта не гавораць аб запраўдным становішчы музыкальнай творчасьці, нярэдка ўпрыгожваючы яго й вылучаючы на першы плян. Ладыгіна, жадаючы аб'ектыўна падыйсьці да пытаньня, зьмясьціла ў часапісе «Советская Музыка» спэцыяльны артыкул, у якім робіць закід газэце «Літаратура і Мастацтва»: «Газэта захвальвала слабыя вопусы, не рашаючыся, увачавідку, паказваць некаторыя «мастытым» аўтарам тыя ці іншыя недахопы іхных твораў».[59] Цэнтральны друк і крытыка паступаюць тут больш рэзка. Ды й нельга замаўчваць тэй акалічнасьці, што творы беларускіх савецкіх аўтараў, асабліва за апошнія гады, не зьвяртаюць на сябе ўвагі кваліфікаванай крытыкі. Дастаткова прагледзець часапіс «Советская Музыка», каб пераканацца ў гэтым. У пералічваных творчых, хаця й скромных, удачах мы ня знойдзем імёнаў беларускіх аўтараў. Штогод на пленумах і зьездах Саюзу кампазытараў СССР ладзяцца паказы творчасьці розных рэспублікаў, асабліва, зразумела, творчасьці на сучасную тэматыку. Беларускія кампазытары прадстаўляюцца на такіх паказах зусім незадавальняюча. На адным з пленумаў у Маскве (у 1960 г.) ведамы малады музыкавед БССР Г. Цітовіч змушаны быў адцеміць: «Беларуская музычная творчасьць прадстаўлена на гэтым пленуме вельмі скромна, як, дарэчы сказаць, гэта было і раней».[60] Газэце «Літаратура і Мастацтва» ў васнэй зь перадавіцаў таксама давялося сьцьвердзіць нявыгаднае становішча беларускай савецкай музычнай творчасьці на ўсесаюзнай арэне. Там можна прачытаць: «Трэба прыняць пад увагу і сур'ёзныя заўвагі, якія былі выказаны ў час апошняй сустрэчы беларускіх кампазытараў з маскоўскімі ў адрас амаль што ўсіх твораў, паказаных там».[61] Вось як стаіць справа з мастацкім адлюстраваньнем актуальнай, надзённай савецкай тэматыкі ў беларускай музычнай творчасьці. Чым-жа можна вытлумачыць гэтыя амаль што сталыя й агульныя творчыя няўдачы беларускіх савецкіх кампазытараў? Багатыроў у сваім дакладзе й артыкуле адказвае на гэтае цікавае пытаньне гэтак: «Адсутнасьць майстэрства вельмі часта перашкаджае нашым кампазытарам пераканальна раскрываць... добрыя музычныя ідэі і думкі».[62] Тое самае думае й старшыня Саюзу беларускіх кампазытараў Цікоцкі, які ўважае, што «пашырэньне вобразнага ладу і сродкаў выразнасьці ў творах не дае нам падстаў лічыць узровень прафэсіянальнага майстэрства ўсіх беларускіх кампазытараў адпаведным».[63] Маскоўскі крытык-музыкавед В. Вінаградаў абмяжоўвае тую-ж прычыну асяродзьдзем беларускай кампазытарскай моладзі, у якой, на думку крытыка, «няма дастатковага ўменьня разьвіць тэматычны матарыял».[64].

[58] Тамсама.
[59] Белорусская газета о музыкальной жизни Республики. «Сов. Музыка», № 2, 1960, б. 166.
[60] Говорят участники 5 пленума ССК. «Сов. Музыка», № 4, 1960, б. 75.
[61] Музыка і жыцьцё. «ЛіМ», 14. 6. 1960.
[62] Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», 11. 4. 1961.
[63] Жыцьцё народа — крыніца натхненьня. «ЛіМ», 28. 2. 1961.
[64] В. Вінаградаў. У композиторской молодежи Белоруссии. «Сов. Музыка», № I, 1959, б. 150.



У такім адзінстве думкі хаваецца тэндэнцыя партыйна-савецкага кіраўніцтва падвесьці такую прычыну нездавальняючага становішча, якая-б адводзіла істотнае тлумачэньне ў бок ад савецкага рэжыму, як асноўнага й галоўнага віноўніка, і ўзвальвала-б віну на самых кампазытараў. Зразумела, сярод беларускіх музыкаў ёсьць і людзі дрэнна або недастаткова падрыхтаваныя да сур'ёзнай творчасьці, але таксама ёсьць і майстры, прафэсыяналізацыя якіх, кампазытарская тэхніка, веды, дасьветчаньне й здольнасьці паза ўсякім сумлевам. Між тым і яны, як правіла, бываюць бездапаможнымі перад разьвязаньнем праблемы сучаснасьці. Значыцца, карэнь зла тут трэба шукаць у іншым. Мы перакананыя, што ён ляжыць у ідэйным баку справы, мастацкае-ж увасабленьне толькі вынік, а ня прычына.



Нізкая якасьць творчасьці на сучасную тэматыку пры ўсіх дакорах і закідах яшчэ не ўважаецца савецка-партыйным кіраўніцтвам за вялікі грэх, бо тут ратуе сама актуальная тэма. Зусім што іншае сустракае ідэялягічныя памылкі і ўхілы, што можа ператварыцца ў запраўдны праступак перад лініяй партыі. Таму кіраўніцтва ў самую першую чаргу як найважнейшую справу ставіць настойлівае патрабаваньне перад аўтарамі ідэялягічную вытрыманасьць творчасьці. У кажнай перадавіцы, кажным выступленьні кіраўніцтва ў пытаньнях мастацтва мы чуем заклікі на партыйнае вырашэньне ўсякай тэмы, тым больш, зразумела, савецкай, ды яшчэ надзённай. Партыю трывожыць, што на беларускія сцэны «часта трапяць творы, якія па ідэйных... якасьцях не адпавядаюць высокароднай мэце камуністычнага выхаваньня».[65] Навет масавая песьня не адпавядае «аптымістычнаму жыцьцярадаснаму настрою будаўнікоў камунізму».[66] І савецкім мастаком безьліч разоў паўтараюць: «Наша партыя ўсіх нас нацэльвае на тое, каб савецкі народ меў такія творы літаратуры, жывапісу, музыкі, тэатру, якія былі-б блізкія яму і зразумелы, выхоўвалі яго ў духу камуністычных ідэялаў».[67]

Такое настырлівае, штодзённае чытаньне мастаком партыйных установак само сабой гаворыць нам, што й у ідэялягічным сумленьні аўтараў далёка ня ўсё ў парадку. На канфэрэнцыі творчых працаўнікоў (у красавіку 1961 г.) гучэлі такія нядвузначныя словы: «Асобныя майстры мастацтва страцілі творчае адчуваньне жыцьця, прытупілі сваю прынцыповасьць... Заўважаецца нейкі застой, які зусім не пасуе да таго, што робіцца ў краіне».[68] Аказваецца, што ў Саюзе кампазытараў БССР «амаль палова сяброў... бязьдзейнічае, ня прыймае ўдзелу ў творчым і грамадзкім жыцьці».[69] Партыйная ідэялёгія, а разам зь ёю савецкая сучаснасьць і мэтад яе вырашэньня — сацыялістычны рэалізм уступаюць у канфлікт із сумленьнем мастака, ствараюць такую разьбежнасьць, што «кампазытары... абыходзяць многія буйнейшыя падзеі нашых дзён, якія ўвайшлі ў гісторыю... Гэта добра ведаюць і самі кампазытары, якія ня раз папракалі адзін аднаго

[65] Галоўная тэма мастацтва. «ЛіМ», 27. 2. 1960.
[66] Музыка і жыцьцё. «ЛіМ», 14. 6. 1960.
[67] Артыкул галоўнага дырыжора опэрнага тэатру Любімава, перадавіца «ЛіМ», 16. 6. 1961.
[68] Надзённыя праблемы. «ЛіМ», 11. 4. 1961.
[69] Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. Тамасама.

і самі сябе . . . ў адсутнасьці жывога і яркага водгуку на важнейшыя жыцьцёвыя праблемы сучаснасьці».[70] Характэрна, што падобная творчая пасыўнасьць праяўляецца «ў час вялікіх зьдзяйсьненьняў, запуску спадарожнікаў і ракет у космас, асваеньня цалінных зямель, ажыцьцяўленьня гігантычных будоўляў . . . , відаць нашы кампазытары страцілі пачуцьцё часу».[71] Камуністычнае сяньня ня ўспрымаецца мастаком глыбока, ня будзіць яго, не хвалюе, а толькі чапляе павярхоўна, афіцыйна, казённа. Гэта адразу-ж адбіваецца і на творчай працы. Мы разумеем, чаму песьня «Камуністычных брыгад» аднаго зь лепшых беларускіх песеньнікаў (Р. Пукста) напісаная й слухаецца «без акрылённасьці і ўсхваляванасьці, без сапраўднага гарачага пачуцьця».[72] Чаму ў песьні, што носіць загаловак «Партыі» (Д. Лукаса) заўважваецца «абыякавасьць у выяўленьні пачуцьцяў».[73] Чаму наагул «многія музычныя творы напісаны фармальна і абыякава».[74]

Музыкавед Ракава, пераглядаючы зборнік новых песьняў беларускіх кампазытараў, выдадзены ў 1959 г. пад гучным прапагандовым назовам «Пяе наша радасьць», скардзіцца: «Слухаеш гэтыя песьні, (за рэдкім выключэньнем) не адчуваеш глыбокага, моцнага пачуцьця, не адчуваеш, што яны глыбока прадуманы і вынашаны іх аўтарамі».[75] Ува ўсей гэтай сытуацыі ўзноў-жа прабуюць абвінавачваць самых кампазытараў, закідаючы ім, што яны быццам «дрэнна ведаюць жыцьцё»,[76] у той час, калі «ўвасабленьне вобразу савецкага чалавека патрабуе . . . глыбокага вывучэньня навакольнага жыцьця».[77]

У савецкіх абставінах звычайна немагчыма паказаць на запраўднага віноўніка, але трэба думаць, што й там ясна, што за сорак зь лішнім год і старэйшае й новае пакаленьне (асабліва апошняе, як «равесьнік Кастрычніка» й выхаванае пры савецкай уладзе) мастакоў пасьпелі дастаткова прыглядзіцца, вывучыць і зразумець савецкую запраўднасьць. Толькі бачаць яны яе цьвяроза, аб'ектыўна й ува ўсей яе няпрыгляднасьці. Партыя-ж дае загад — «актыўнага эстэтычнага ўзвышэньня ўсяго новага».[78] Іншымі словамі, партыя «нацэльвае» на паказ выдуманага й схвабрыкаванага жыцьця, якога ў запраўднасьці ня існуе. Ці не зразумела, што сумленны мастак пападае ў разгубленасьць і жах перад такімі заданьнямі.

У ідэйны канфлікт, апрача аўтаравага сумленьня, уступае й само мастацтва, высокім вызначэньнем якога заўсёды была мастацкая праўда. Яно ўсей сваей істотай пратэстуе й супрацьставіцца камуністычным мэтанакіраваньням эстэтычнага ўзвышэньня. Згодна выказваньня кампазытара А. Багатырова (хоць, пэўне, ён не хацеў быць гэтак зразуметым), «бывае ў нашых творах, што, напрыклад, мінулае ўвасоблена ярчэй, чым сяньняшняе, барацьба паказана больш пераканальна, чым перамога, сьмерць — больш выразна, чым жыцьцё».[79] Нас гэта й ня дзівіць. Так і павінна быць пры ідэйных разьбежнасьцях і супрацьлеглыхласьцях.

Вельмі характэрным фактам зьяўляецца тут спроба кампазытараў адлюстраваць вобразы сучаснасьці, паказаць постаці гэрояў камуністычнай будоўлі. Як кажа кампазытар А. Багатыроў: «Гэроі падобных твораў — толькі ходзячыя ідэі . . . (прыгадаем хоць-бы вобразы некаторых партыйных кіраўнікоў і партыйных важакоў у нашых опэрах і балетах) . . . Рупарам . . . выступае сумны, няцікавы чалавек . . . А колькі ў нас такіх твораў, ды яшчэ прысьвечаных сучаснай тэме».[80] У маладога на цэлых сто працэнтаў савецкага кампазытара Ю. Семянякі, у вадзінай сучаснай опэры «асабліва ярка паказаны адмоўныя пэрсанажы».[81] Мы даведваемся нават аб тым, што сярод беларускіх савецкіх кампазытараў «зусім нядаўна бытавала яшчэ такая думка, што паказаць сучаснае жыцьцё ў опэры немагчыма».[82] Тэорыя гэтая была добра абгрунтаваная гісторыяй музыкі й клясычнымі прыкладамі й на нашую думку была праўдзівай, асабліва ў савецкіх умовах. Правільную думку, аднак, партыйным «нацэльваньнем» змусілі замоўкнуць.[83]

І ў песьні вобразы савецкай рэчаіснасьці атрымоўваюць выгляды, якія ня могуць падабацца кіраўніцтву. Там «дзеючыя асобы не надзелены «лица необщим выражением» . . . «Чаму мы (пытаецца адзін зь пісьменьнікаў — М. К.) павінны мірыцца зь песьнямі, у якіх гэроі падобны, як этыкеткі на цукеркавых каробках».[84] Мы зьяўляемся сьветкамі цікавага зьявішча, што й каляпартыйныя кампазытары, якія можа й сумленна хочуць правесьці ў сваей творчасьці партыйныя заданьні, ня могуць, аднак, даць сабе рады, бо гэтыя намаганьні йдуць у разрэз з праўдзівым мастацтвам. Гэтак, прыкладам, кампазытар А. Цікоцкі ў 2-ой сымфоніі, якую прысьвяціў «узьяднаньню беларускага народу ў сацыялістычнай дзяржаве», пайшоў на дарозе «зьнешняй ілюстрацыйнасьці»,[85] «плякатнасьці і . . . калейдаскапічнасьці».[86] М. Аладаў у сваей творчасьці ня мог часта дабіцца «пэўнага ўвасабленьня свайго замыслу».[87] П. Падкавыраў у новай 3-яй сымфоніі «Мая Радзіма» паставіў перад сабой заданьне адлюстраваць «дружбу народаў», але далей «зьнешняга рашэньня» справа ня рушылася».[88] У 3-яй сымфоніі А. Цікоцкага «Барацьба народу» — задум «цалкам застаўся не раскрытым».[89] Як не стараўся малады кампазытар Ронькін зрабіць із сваей «Гэраічнай увертуры» твор, што адлюстроўвае сацыялістычны патас, выразнай кульмінацыі так і не атрымалася.[90] Можна сказаць наагул, што амаль што ўсе творы на сучасную тэму «ня выклікаюць . . . асацыяцыяў з значнымі вобразамі, выразьнікамі якіх яны павінны былі зьявіцца».[91] І чым больш партыйным і актуальным імкнецца быць зьмест музычнага твору, чым больш плякатнасьці, лёзунгавасьці, прапагандовасьці й дэмагагічнасьці ў ягонай праграме, тым меней у ім мастацкай вартасьці, бо такая праграма сама сабою зьяўляецца абстракцыйнай, неканкрэтнай, публіцыстычнай і нярэальнай,

[70] Зноў аб песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.
[71] Увага масаваму жанру. «ЛіМ», 25. 2. 1959.
[72] Зноў аб песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.
[73] Тамсама.
[74] Увага масаваму жанру. «ЛіМ», 25. II. 1959.
[75] Зноў аб песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.
[76] Гэтак сьцьвярджаў паводля партыйнага заданьня кампазытар Багатыроў, выступаючы на 3-ім пленуме кампазытараў СССР у Маскве. «Сов. Музыка», № 2, 1959, б. 37.
[77] З артыкулу А. Багатырова «Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё». «ЛіМ», 11. 4. 1961.
[78] З прамовы Мазурава на партыйным зьезьдзе. «ЛіМ», 27. 2. 1960.
[79] Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», II. 4. 1961.
[80] Тамсама.
[81] Аберкаваньне новай опэры. «ЛіМ», 5. 5. 1960.
[82] Любімаў. Каб слухалі з асалодай. «ЛіМ», 16. 6. 1961.
[83] Гэтак падае дырыгент Любімаў, але мяркуем, што тэорыя жыве схавана.
[84] За доўгавечнасьць песьні. «ЛіМ», 14. 2. 1961. Заўвагі № 85, 86, 87, 88, 89, 90 і 91 зроблены на падставе нарысу Смольскага ў «Белорусская ССР», Масква, 1956, бб. 62-66 і нарысу Нісьневіча ў «Белорусская ССР», Масква, 1957, бб. 91-107.

якой месца на палітычным бальшавіцкім мітынгу, а не ў мастацтве. Недарма прафэсыянальная крытыка ў вадзін голас пачала гаварыць аб вонкавых сяродках і прыхватках, аб ілюстрацыйнасьці, бесхарактарыстычнасьці, калейдаскапічнасьці, павярхоўнасьці й аднастайнасьці кампазытарскай музычнай мовы ў творах на надзённую тэму.

У нас ёсьць шмат дадзеных, што сучасная тэматыка аснoўнай масай кампазытараў сустракаецца ня толькі адмоўна, але й зь вялікай няпрыемнасьцяй, як чужое цела, што прымусова ўводзіцца ў здаровы арганізм. Гэта сьцьвярджае музыкавед Ракава, якая заўважыла, што кампазытары сталі глядзець на сучасную тэму, «як на надакучлівую дробязь, якой трэба аддаць даніну... пад націскам акалічнасьцяў і пасьля многіх напамінкаў».[92] Мы вельмі добра ведаем, што значаць гэтыя «акалічнасьці» й «напамінкі». Зразумела, у савецкіх умовах немагчыма зусім ня сутыкацца із сучаснаю тэмаю, ідэялягічна чужой для мастака, і вось ён збывае з рук творы, «напісаныя насьпех, пазбаўленыя шчырай эмацыянальнасьці..., не сагрэтыя сэрцам».[93] Аўтар пазбаўляецца высокага мастацтва, ператвараецца ў звычайнага рамесьніка або, як кажуць, «хаўтурыць», каб матарыяльна існаваць і адмахнуцца ад навязанай яму працы. Вось дзе крыніца абыякавасьці, шэрасьці, запазычанасьці, штампу, трафарэту, бескалярытнасьці й іншых падобных «якасьцяў» творчасьці, аб якіх гаварылася вышэй. Падобныя абыякавасьць і нэўтральнасьць музычнай мовы могуць прывесьці да яе розных разуменьняў і ўражаньняў, ня выключаючы й антысавецкіх. Савецкі музыкавед хвалюецца, што творчасьць беларускіх кампазытараў на найбольш актуальныя сучасныя тэмы «па сваёй нэўтральнасьці пачуцьцяў... можа служыць тэксту любога зьместу».[94] Значыцца, хопіць ад «Песьні камуністычных брыгад» адабраць ейны назоў і тэкст, а пакінуць толькі музыку, і можна сьмела перапісаць яе на фашыстаўскі марш ці песьню аўтамабілістых Форда. Аніякай розьніцы ня будзе. У кажным выпадку для нас дастаткова ясна, што паняцьці аб савецкай сучаснасьці, як аб крыніцы натхненьня, даюць якраз вынікі адваротныя, вядуць да згубы натхненьня й запраўды мастацкіх творчых імкненьняў і задумаў.



Ня прыймаючы ані ідэйна, ані мастацка сучаснай савецкай рэчаіснасьці й надзённай тэматыкі, кампазытар накіроўвае сваю творчую думку й прафэсыянальнае майстэрства ў іншыя бакі й на іншыя тэмы. Адною з найбольш прыцягальных галінаў, — ды трэба думаць, і ідэйных накіраваньняў, зьяўляецца галіна мінулага, тэмы й сюжэты легэндаў і паданьняў, гістарычных зьяваў і здарэньняў. Дастаткова прагледзіць назовы музычных твораў, каб пераканацца ў гэтым. Опэры: «Надзежда Дурава» А. Багатырова (вайна 1812 г.), «Кастусь Каліноўскі» Д. Лукаса (паўстаньне ў Беларусі ў 1863 г.), «Машэка» Р. Пукста (беларуская легэнда аб народным волаце й паэма Я. Купалы таго-ж назову); балеты: «Князь-возера» В. Залатарова (прыгон у Беларусі), «Падстаўная нявеста» Вагнэра (прыгон у Беларусі), сымфанічная суіта «Сымон Музыка» Р. Пукста (народнае паданьне й паэма Я. Коласа

[92] Зноў аб песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.
[93] Тамсама.
[94] Зноў аб песьні. «ЛіМ», 4. 10. 1960.



таго-ж назову), сымфанічная паэма «Нарач» У. Алоўнікава (паўстаньне беларускіх рыбакоў за польскіх часоў), сымфанічная «Паэма-легенда» Глебава (на сюжэт Купалавага «Машэкі»), кантата «А хто там ідзе» Р. Пукста (на ведамы верш Я. Купалы), цыклі рамансаў А. Багатырова, А. Аладава, Д. Лукаса, У. Алоўнікава, Кузьняцова, Абіліевіча на тэксты М. Багдановіча, А. Міцкевіча, Бэрнса, Лесі Украінкі, Кальцова, Жукоўскага, Пушкіна, Лермантава, Нікіціна, Апухціна, Шэкспіра, «Беларускія казкі» М. Аладава для народных інструмэнтаў, і шмат іншых.[95]

У пераважнай бальшыні мы бачым у васнове твораў тэмы й сюжэты беларускія, блізкія й родныя абразы навакольнай прыроды, людзей, іхныя думкі й пачуцьці, каларытныя народныя абрады, звычаі й быт. Шмат у чым мінулае праяўляецца і ў партызанцкай тэматыцы, якая заўсёды карысталася посьпехам сярод кампазытараў. Тут многа й рамантычнасьці, легэндарнасьці, малюнкаў прыроды й быту. Да такіх твораў часткава можна аднесьці опэры: «Алеся» А. Цікоцкага, «Андрэй Касьценя» А. Аладава, «Марынка» Р. Пукста; сымфанічныя паэмы: «З днеўніка партызана» М. Аладава, «Партызанская быль» У. Алоўнікава, «У Тураўскай пушчы» Аксакава й іншыя.

Адлюстраваньне мінулага ў некаторай меры знаходзіцца і ў творах, прысьвечаных тэме задзіночаньня Беларусі, як, прыкладам, у опэры «Яснае сьвітаньне» А. Туранкова, сымфоніях Цікоцкага й Пукста, кантатах Багатырова, Семянякі, Падкавырава, Аладава й іншых. Навет у найбольш сучасных творах з надзёнымі праграмамі й назовамі знаходзяцца цэлыя часткі, якія захопліваюць адлюстраваньнем мінулага. Іх мы знаходзім у 2-ой сымфоніі Цікоцкага, 3-яй сымфоніі Аладава, фартапіянным трыё Багатырова, у якіх разгортваюцца малюнкі беларускае прыроды. Калі ўзяць дзеля прыкладу сымфанічную суіту Алоўнікава «На Палесьсі», якая прысьвечаная новаму Палесьсю, дык там каля палавіны музычнага матарыялу аддадзеная адлюстраваньню старога традыцыйнага краю.

Беларускія савецкія кампазытары асталіся вернымі й яшчэ аднаму атрыбуту мінулага: старой беларускай народнай песьні. У сучаснасьці ёй цалкам прысьвечаныя рознастайныя суіты (Аладава, М. Чуркіна, Глебава), фантазіі (Залатарова), рапсодыі (Падкавырава), эськізы (Д. Камінскага, Залатарова). Беларуская народная песьня й танец служаць вытокам музычнай мовы 3-яй сымфоніі Аладава, канцэрту Камінскага, апошняй сымфоніі Залатарова. Амаль што ніводзін твор і на надзённую тэматыку не абходзіцца без выкарыстаньня беларускага песеннага й танцавальнага фальклёру. Гэтак песьні: «Ох, ці мне вох», «Ой, дубе, мой дубе», «Была я ў бацькі на выданьні», «А ў полі на раздольлі» мы знойдзем, як матарыял, у 2-ой і 3-яй сымфоніях Цікоцкага; «Ой, арол», «Чаму-ж мне ня пець?» — у 3-яй сымфоніі Аладава; «Кума-ж мая, кумачка» — у канцэрце Падкавырава; «Зялёны дубочак» і «Ох, і сеяла Вульляніца лянок» — у фартапіянным канцэрце Камінскага; «Чаму-ж мне ня пець?» — у віянчэльным канцэрце таго-ж аўтара. На старых песенных матывах ці мала будуецца й новых надзённых масавых савецкіх песьняў, як, прыкладам, песьні: «Лясная песьня», «Песьня пра Заслонава», «Радзіма мая дарагая» Алоўнікава, «Ой, шумяць лясы зялёныя», «Явар і каліна» Семянякі,

[95] Пералік твораў тут і ў далейшым робіцца на падставе жаролаў, што паказаныя вышэй.

і інш. Сюжэтныя матывы й новых савецкіх песьняў, як любоўныя пачуцьці, сяброўства, патрыятычнасьць, зьявы прыроды, усе лірычныя адценьні заўсёды карыстаюцца традыцыйным музычным матарыялам, бо толькі ён можа выразіць і адлюстраваць запраўды шчырыя імкненьні аўтара.

Хаця савецкая ўлада афіцыйна стараецца паказаць сябе апякуном і абароньнікам народнага мінулага, аднак практычна зварот да мінуўшчыны, выхад творчых намераў у мінулае, ясна, ня вельмі выгадны партыйна-савецкаму кіраўніцтву, ды яшчэ тады, калі ў надзённай тэматыцы ясна відаць вялізарны прарыў. Кідаецца ў вочы й такое важнае зьявішча, што мастацкая якасьць твораў на тэмы мінулага стаіць звычайна на больш высокім узроўні. Крытыкі вельмі часта сьцьвярджаюць посьпехі й дасягненьні кампазытараў у такіх творах: «Кампазытар... пaводзіцца зь імі (народнымі тэмамі — М. К.) зь вялікай любоўю» (Танцавальная суіта Залатарова), «найбольш удалая частка суіты перадае настроі, павязаныя з малюнкамі беларускае прыроды» (Суіта Камінскага), «твор знаходзіць цёплы прыём у слухачоў» (уэртура Аладава — адлюстраваньне беларускае прыроды), «кампазытар знайшоў пераканаўчае ўвасабленьне» («На Палесьсі» Алоўнікава).[96] Пра 3-юю сымфонію Цікоцкага гаворыцца, што «найбольш пераканаўча яна рэшана ў першых двух частках, дзе творчаскі пераасэнсавана народная мэлёдыя».[97] 3-яя сымфонія Аладава за беларускія песенныя вытокі, выкарыстаньне арыгінальных старых дажынкавых і бытавых песьняў вызнаецца як «буйны ўклад у разьвіцьцё беларускай музыкі».[98] Якраз у багацьці народных нацыянальных вобразаў, у народных мэлёдыях і інтанацыях кампазытар чэрпае «сродкі для пераканаўчай музычна-псыхалягічнай замалёўкі гэрояў-прадстаўнікоў народу, для адлюстраваньня беларускага пэйзажу і ўвасабленьня казачнасьці і фантастыкі народных павер'яў».[99] Канцэрт для фартэпіяну з аркестраю ў кампазытара Камінскага ўдаўся найбольш рэпэртуарным, ведамым паза межамі рэспублікі, самабытным і сьвежым толькі таму, што, як сьцьвярджаюць крытыкі, аказаўся «ён вельмі блізкім беларускай народнай песьні, якая гучыць у ім у выглядзе напевак і тэм-мэлёдыяў».[100] Цікавы й характэрны прыклад з творам Аладава — ягоным фартэпіянным квінтэтам. Твор гэты быў напісаны ў 1925 г., у той час, калі Беларусь знаходзілася ў адраджэнскім пэрыядзе, калі мастак мог свабодна выражаць свае думкі й пачуцьці. І вось гэты квінтэт, пабудаваны цалкам на беларускай народнай песеннасьці («Дзеўкі хмеля садзілі», «У горадзе на рынку», «Як памерла матулька»), згодна сьветчаньня музыкаведаў, і дагэтуль уважаецца адным із найбольш рэпэртуарных твораў.[101]

Такая ёсьць вялізарная роля нацыянальнай думкі, нацыянальнага зьместу й формы ў мастацкай творчасьці.

У прыраўнаньні з такімі вось творамі, творы, напісаныя на сучасную тэму, выглядаюць яўна нясьпелымі, няўдалымі й надуманымі. У сваім вышэй названым артыкуле-дакладзе Багатыроў прызнаецца, што ў вапошніх

[96] Смольскі, цыт. праца, бб. 63-74.
[97] І. Нісьневіч, цыт. праца, б. 95.
[98] Тамсама, б. 106.
[99] Тамсама, б. 95.
[100] Тамсама, б. 110.
[101] Аб гэтым у Смольскага, бб. 67-68, і ў Нісьневіча, б. 64.



творах Цікоцкага, Аладава, Алоўнікава, Падкавырава ды ягоных собскіх «мінулае ўвасобленае ярчэй за сяньняшняе».[102] Усё гэта моцна не падабаецца партыйна-савецкаму кіраўніцтву, што выклікае ў яго дакоры, закіды й навет абурэньне: «Нас ня могуць задаволіць вузкафальклёрныя каноны глыбокай старажытнасьці, якія нярэдка прапагандуюцца пад выглядам захаваньня нейкіх нязьменных нацыянальных традыцыяў... Неабходна да канца пераадолець факты ідэялізацыі мінулага, старых традыцыяў і звычаяў». Партыя актыўна ўмешваецца ўва ўсе намеры й задумы творчых працаўнікоў, даючы свае рэцэпты й загады, каб наблізіць творчасьць да сучаснасьці й партыйнай ідэялёгіі. Гэтак сюжэт опэры «Кастусь Каліноўскі», які ейны аўтар Лукас успрыняў, як лірыка-эпічнае гістарычнае зьявішча, прымусілі рэалізаваць, як партыйную гэроіку, дзе сам вобраз Каліноўскага паўставаў пабальшавіцку падробленым ды да таго пазбаўленым нацыянальнай выразнасьці й зрусыфікаваным. Такая ідэйна-мастацкая разьбежнасьць і супрацьлегласьць прывяла да правалу опэры, настолькі яснымі былі ў ей «супрацьлегласьці паміж гэроіка-драматычным зьместам опэры і яе лірычнай музыкай».[104] Тое-ж самае выйшла і з опэрай Пуксты «Машэка», дзе падраблялі Машэку й народ. Кампазытару Падкавыраву закідалі навет тое, што ён у сваей новай сымфоніі «карыстаўся галоўным чынам старой сялянскай песьняй, яе не пераасэнсаваўшы».[105] У СССР уважаецца прагрэсыўным толькі такі прыхватак, калі народная песьня нерасейскіх народаў набывае напластаваньні расейскай, асабліва рэвалюцыйнай песьні, выкарыстоўваньне-ж фальклёру ў някранутым выглядзе ўважаецца прыземленасьцяй. Загадчык аддзелу агітацыі й прапаганды ЦК КПБ у вадным із сваіх выступленьняў хваляваўся, што «прыземленасьць і архаічная стылізацыя — дзьве бяды».[106]

Тэма мінулага, ды яшчэ асабліва нацыянальнага мінулага, такім чынам разглядаецца, як практыка ня зусім у савецкіх умовах бясьпечная, а таму нахіл беларускіх кампазытараў да сваей старыны, што творыць кантраст із партыйнай лініяй, набывае вялізарнага палітычнага значаньня. Колькаснае й якаснае разьвязаньне тэмы мінулага становіцца прысудам для казённай сучаснасьці. Вялікую вайстрыню таму набываюць розныя выказваньні аб «пытаньнях нацыянальнай своеасаблівасьці ў праблеме сучаснасьці», аб неабходнасьці беларускаму аўтару «захаваньня нацыянальнай выразнасьці»,[107] аб усім тым, што служыць заданьням нацыянальнага мастацтва, служыць супраць яго партыйнага, зрусыфікаванага й бескалярытнага казённага выгляду. Тэма мінулага — жыватворчая крыніца мастака, зь якою разам ён змагаецца супраць антымастацкага мэтаду — сацыялістычнага рэалізму, супраць адлюстроўваньня выдуманай і нярэальнай камуністычнай рэчаіснасьці.

☆

[102] А. Багатыроў, цыт. праца, «ЛіМ», 11. 4. 1961.
[103] Рэпэртуар і глядач. «ЛіМ», 4. 10. 1960.
[104] І. Нісьневіч, цыт. праца, б. 88.
[105] Тамсама, б. 96.
[106] З прамовы Халіпава. «Зьвязда», 11. 3. 1959.
[107] Гэтыя пытаньні не аднойчы ўздымаюцца й самымі беларускімі кампазытарамі, прыкладам, А. Цікоцкім у артыкулах «Музыка и современность» («Сов. Музыка», № 8, 1960, б. 151) і «На опэрнай сцэне — сучасьнікі» («ЛіМ», 2. 12. 1960).

Другой галінаю, куды ад савецкай актуальнай надзённасьці ўцякае творчая дзейнасьць беларускіх савецкіх кампазытараў, зьяўляецца галіна чыстай музыкі, чыста музычныя законы, сяродкі й мастацкія прыхваткі, клясычная традыцыя, акадэмічнасьць. У гэтым бязумоўна ёсьць і некаторая сувязь і блізіня зь першаю галінаю мінулага, аб якой мы толькі што гаварылі. Яшчэ ніколі раней у музычнай творчасьці БССР ня было такой прыцягальнасьці й такога пашырэньня сымфанічных і камэрных (інструмэнтальных і вакальных) жанраў, як гэта сталася ў пасьляваенныя гады. Сымфоніі творацца амаль што ўсімі кампазытарамі, у тым ліку й кампазытарскай моладзяй. Такія кампазытары, як Аладаў і Цікоцкі, маюць іх ужо па пяць, а кампазытар Пукст (нядаўна памерлы) напісаў іх аж шэсьць. Канцэрты й фантазіі для фартапіяну (з аркестрам) напісаныя кампазытарамі Камінскім, Тырмандам і Аксакавам, канцэрты й фантазіі для йскрыпкі (з аркестрам) — Падкавыравам, Аладавам і Вагнэрам, канцэрт для віялянчэлі — Камінскім, санаты фартапіянныя — Багатыровам, Камінскім, М. Русінам, саната для віялянчэлі — Багатыровам, фартапіянны квінтэт — Падкавыравам, смычковыя квартэты — Яфімавам, Лукасам і Алоўнікавам, фартапіянныя трыё — Аладавам, Туранковам, Падкавыравам, Багатыровам і Абеліевічам, камэрныя п'есы: фартапіянныя варыяцыі — Камінскім, Анчыкавам, фартапіянныя прэлюдыі — Падкавыравам, Алоўнікавам, скрыпачныя п'есы й мініятуры — Аладавам, Пукстам, Абеліевічам, п'есы для віялянчэлі — Багатыровам, і шмат чаго іншага. Гэты салідны сьпіс твораў, апрача вымоўнай колькасьці, вылучаецца й сваёю добраю якасьцяй. Майстэрства беларускіх аўтараў бяссумлеўна расьце й разьвіваецца. Навет у маладых праяўляецца «незаўраднае прафэсыянальнае майстэрства, яркая самабытнасьць мысьленьня».[108] У васнове ўсіх гэтых твораў, амаль што як правіла, ляжыць клясычная музычная традыцыя. Праўда, традыцыя гэтая ў савецкіх умовах абмежаваная расейскай музычнай клясыкай (пераважна расейскай нацыянальнай школай Мусорскага, Барадзіна, Рымскага-Корсакава), але й тут многія аўтары дасягваюць праяваў беларускай своеасаблівасьці. Прыкладам, у сваей сымфоніі Лукас «для ўвасабленьня музычных вобразаў ... абраў традыцыйную клясычную форму ... аднак уся яна прасякнута інтанацыямі беларускай песеннасьці».[109] Крытыкі падаюць, што й сымфонія маладога кампазытара Чараднічэнкі, якая напісаная таксама ў клясычнай форме, ёсьць «твор адзначаны яркім індывідуальным почыркам, цэльнасьцю будовы і сымфанічнасьцю».[110]

Вельмі важна падчыркнуць, што беларускія аўтары сымфанічных і камэрна-інструмэнтальных жанраў сумленна імкнуцца ўнікаць праграмаў (асабліва, зразумела, сучаснай тэмы) і ствараюць непраграмныя, чыста музычныя творы. Ды й навет бяручы навязаную ім праграму й ідэю, пераважна пішуць і такія творы ў клясычнай традыцыі. Гэтак пра сымфонію Лукаса крытыка піша: «Аўтар ня даў сымфоніі канкрэтнай літаратурнай праграмы і таму цяжка апісаць ...»[111] Услужлівым рэцэнзэнтам даводзіцца, значыцца, самым прыдумваць праграму ды падрабляць яе пад партыйны густ. Кампазытар Аксакаў у сваей сымфанічнай паэме «У Тураўскай пушчы» ўзяў быццам прыемную для партыі праграму (2-ая сьветавая вайна), але аб'ектыўна твор, як кажа Цікоцкі, «радуе тым, што аўтар, пасьлядоўна верны традыцыям рускай клясычнай музыкі, пасвайму пераасэнсоўвае музычную мову беларускага народу ў арыгінальных аўтарскіх тэмах».[112]

Мы і ў вакальных камэрных творах беларускіх аўтараў бачым жаданьне адштурхнуцца ад сучаснасьці й апрацоўваць клясычныя тэксты Шэксьпіра, Бэрнса, Міцкевіча, Пушкіна, Лермантава, Жукоўскага, а так-жа беларускіх клясыкаў Багдановіча, Купалы й Коласа. Падобная мэта прабіваецца й з практыкі арганізацыі ў вапошнія часы спэцыяльных канцэртаў з камэрных твораў беларускіх савецкіх кампазытараў, дзе выконваюцца непраграмныя творы: фартапіянная саната Багатырова, фартапіяннае трыё Цікоцкага, скрыпачная саната Камінскага, віялянчэльная саната Русіна й іншыя.[113] Характэрным прыкладам можа служыць тут і аўтарскі вечар кампазытара Багатырова, які цяпер адыгрывае ролю музычнага лідара ў Беларусі. Ня гледзячы на ўсе заявы аб ягонай собскай прыхільнасьці да сучаснай тэматыкі, на заклікі й падштурхоўваньні сваіх калегаў да алюстроўваньня «камуністычнай надзённасьці», Багатыроў асабіста вельмі рэдка адказвае сваей творчасьцяй на партыйныя заданьні. Ён фактычна яшчэ не стварыў аніводнага твору на тэму сучаснай савецкай рэчаіснасьці. Гэтак і на ягоным аўтарскім вечары праграма мела ў сваей аснове створаную на клясычных традыцыях чыстай музыкі санату для віялянчэлі (з фартапіянам), а з вакальна-камэрнага жанру былі выкананыя рамансы на тэксты Шэксьпіра.[114]

Захапленьне беларускімі кампазытарамі чыстай музыкай, якое аб'ектыўна йдзе на карысьць павышэньня кампазытарскага майстэрства й якое дае пазытыўныя вынікі іхнай творчай дзейнасьці, гаворыць шмат аб чым. Тут разьвейваецца тэорыя, што адлюстраваньню сучаснай тэматыкі перашкаджае нездавальняючая прафэсыянальная падрыхтоўка аўтараў. Тут мы ўзноў знаходзім сьцьверджаньне аб няпрыйманьні савецкай сучаснасьці савецкімі-ж аўтарамі, уцяканьне ад яе ў сфэру чыстага мастацтва. Тэорыя «мастацтва для мастацтва», гэтак ненавісная бальшавіцкаму кіраўніцтву, значыцца, і да гэтага часу прываблівае да сябе й служыць адным з найлепшых выхадаў для аўтарскага сумленьня.

Партыйна-савецкаму кіраўніцтву ўсе гэтыя настроі й ухілы дастаткова ведамыя. Ужо ад самага пачатку прафэсыянальнай творчай дзейнасьці

> адзначаны сур'ёзныя хібы ў фармаваньні мастацкага сьветапогляду маладых кампазытараў. Заўважана захапленьне ... тэхнікай пісьма, прафэсыянальным «рамяством», пры недастатковай увазе да адлюстраваньня юнымі музыкантамі натхнёнай працы будаўнікоў камунізму. Нажаль, гэтыя зьявы не абмінулі сыстэмы навучаньня ў Беларускай кансэрваторыі і музычных вучылішчах.[115]

Супраць такіх хібаў і ўхілаў, што ператвараюцца ўжо ў палітычнае зьявішча, вядзецца жорсткае змаганьне, аднак справа надзённасьці ня толькі не паляпшаецца, а, наадварот, — пагоршваецца. Чыстая музыка, му-

---

[108] З рэцэнзіі аб камэрных творах Абіліевіча. І. Нісьневіч, цыт. праца, б. 112.
[109] Сымфонія Лукаса, «ЛіМ», 20. 2. 1960.
[110] Посьпех маладога кампазытара. «ЛіМ», 27. 2. 1960.
[111] Глядзі зноску 107.

[112] Жыцьцё народа — крыніца натхненьня. «ЛіМ», 28. 2. 1961.
[113] Першы камерны. «ЛіМ», 25. II. 1960.
[114] Вечар Багатырова. «ЛіМ», 17. 1. 1961.
[115] Увага да творчай моладзі. «ЛіМ», 4. 4. 1959.

зычныя законы, клясычная традыцыя, акадэмізм і прафэсіяналізм пакуль што яшчэ ня пераможаныя партыйнай ідэялёгіяй.



Зусім неспадзяваным для партыйна-савецкіх колаў зьявілася тэндэнцыя рэалізаваць савецкую сучаснасьць у сьветапаглядзе трагэдыйным, у змрочных і панурых адценьнях і настроях. Трагэдыйныя канцэпцыі запаланілі творы лепшых кампазытараў СССР, у тым ліку й асабліва кампазытарскую моладзь. Замест таго, каб згодна заклікаў партыі ствараць кампазыцыі, што «адказвалі-б аптымістычнаму й жыцьцярадаснаму настрою будаўнікоў камунізму», кампазытары сталі шукаць выхаду ў пэсымізьме. Такое скрыўленьне палітыкі партыі ўнесла ў партыйнае кіраўніцтва вялікую заклапочанасьць і трывогу.[116]

У БССР такое зьявішча таксама часткова мае месца. Кампазытар Багатыроў выступаючы з дакладамі аб музыцы й сучаснасьці, гаварыў аб кірунку рэмаркізму (ад прозьвішча пісьменьніка Рэмарка), які ўслаўляе ідэі «згубленага пакаленьня», рысы адзіноцтва, закінутасьці, прыніжаныя пачуцьці.[117] Паводля выснаваў Багатырова, у найбольш сучасных творах найлепшых беларускіх кампазытараў, як 3-яя й 5-ая сымфоніі Цікоцкага, 3-яя й 4-ая сымфоніі Аладава, сымфанічная паэма «Нарач» і суіта «Песьня міру» Алоўнікава, скрыпкавы канцэрт Падкавырава й, напасьледак, у 2-ой сымфоніі самога-ж Багатырова адлюстраваная «сьмерць больш выразна, чым жыцьцё».[118] Думка Багатырова дапаўняецца й іншымі крытыкамі. Гэтак музыкавед Смольскі знаходзіць, што ў фартапіянным трыё Падкавырава, у першых двух частках лірыка-элегічны настрой «пераходзіць у становішча глыбокай задумлівасьці і тугі. Кульмінацыя гучыць трагічна».[119] У сымфоніі кампазытара Чараднічэнкі, як падае музыкавед Сізко, дадзеныя паводля задуму самога аўтара «згушчаны змрок і часамі востры боль».[120] Смычковы канцэрт Лукаса зьяўляецца творам, якому «ўласны элемэнты сэнтымэнтальнасьці, пэўнай разьмякчонасьці і пасыўнасьці».[121] Музыкавед Нісьневіч вылучае траурна-трагічны вобраз у сымфанічнай паэме Алоўнікава «Партызанская быль», некаторыя рамансы таго-ж аўтара на тэксты М. Багдановіча, дзе «вельмі глыбока і шчыра перададзены... трагізм цяжкой утраты».[122]

Справа тут, зразумела, не ў самым выкарыстаньні трагічных вобразаў, што было-б зусім нармальна, але ў тым, што такія вобразы, пачуцьці й настроі перадаюцца аўтарамі з найбольшай пераканальнасьцяй, шчырасьцяй і майстэрствам, што яны вырозьніваюцца ў творы й перавышаюць усё іншае. Звычайна элегійнасьць, сум, жальба й наагул мінорны тон больш за ўсё зазначаюцца ў творах на сучасную тэму. Кампазытара Семяняку Цікоцкі абвінавачвае ў «злоўжываньні празьмерна ўжо адчувальным мінорам».[123] Тыя-ж настроі відаць і ў масавых песьнях на сучасную тэму. Багатыроў у сваім цытаваным дакладзе сьцьвярджае, што ў песьнях беларускіх аўтараў «пераважаюць сумна-мэлянхалічныя... настроі... інтанацыі... сумнага жорсткага рамансу, што зусім не адпавядае патрабаваньням часу».[124] Музыкавед Ракава зазначае, што масавыя песьні беларускіх кампазытараў пішуцца больш «у той-жа мінорнай танальнасьці».[124] Лірыка звычайна разумеецца й успрымаецца беларускімі песеньнікамі ў ейным элегійным адценьні, і такая масавая лірычная песьня «амаль зусім выцясьніла песьні грамадзянскія».[126] Грамадзянскія тэмы й сюжэты служаць толькі, як афіцыйныя адпіскі, як надакучлівая даніна якой-небудзь урачыстасьці, а ў іншыя мамэнты гучаць песьні лірычна-элегійныя, у якіх, паводля сьцьверджаньняў крытыкаў, «назіраецца і мяшчанска-сэнтымэнтальная чутлівасьць».[127]

Вельмі цікава, што вышэй адцемленыя масавыя творы, якія выпаўняюць эстрады, кіно, радыё, якія гучаць на зборках, вечарынках і ў хатах, карыстаюцца вялікім посьпехам і распаўсюджаньнем. А калі аўтарам робяцца закіды ў лёгкадумнасьці й палітычных памылках, дык яны самі «прыхільнікі душашчыпацельных, сьлязьлівых песень, любяць спасылацца на паўсямеснае прызнаньне іх творчасьці народам».[128] Гэты факт зьяўляецца найлепшым довадам, што ў дачыненьні да сучаснай тэмы мастацтва паміж уладаю й народам існуе вялікая разьбежнасьць. Як-бы ня былі папулярныя ў масах «мяшчанскія» песьні, яны ўсё-ж адлюстроўваюць духовыя пачуцьці падсавецкіх людзей, даўно стомленых выхваляньнем камуністычнага будаўніцтва. Кампазытары ў гэтым выпадку толькі выконваюць агульныя пажаданьні.



Нам астаецца цяпер зрабіць некаторыя вывады з нашага дасьледаваньня.

Сучасная, актуальная, надзённая тэматыка, як можна было бачыць, не карыстаецца прыхільнасьцяй сярод творчых працаўнікоў, наадварот, яна выклікае настойлівыя імкненьні адштурхнуцца ад яе, прычым гэтае адштурхваньне йдзе паводля асацыяцыяў да адваротнага. Выхадамі з палажэньня служаць галіны мінулага, чыстай музыкі й, навет, пэсымістычныя настроі й пачуцьці, што, бязумоўна, набывае палітычнае значаньне й можа разглядацца, як пэўная ідэйная апазыцыя, як пэўны, у некаторай ступені, супраціў партыйнай лініі. Аднак і пры такіх меркаваньнях было-б памылкаю перабольшваць вагу пададзеных тут фактаў. Савецкая ўлада мае шмат сяродкаў і спосабаў весьці сваю лінію камуністычнага ўзгадаваньня й падпарадкаваць гэтай лініі творчых працаўнікоў. Сучасная тэматыка, як сталая палітыка партыі, заўсёды будзе ставіцца перад савецкім мастацтвам. Пры тым-жа цяпер ёсьць ці мала самых творцаў, што ці за страх, ці за сумленьне падтрымліваюць і будуць падтрымліваць партый-

---

116 Дастатковa прагледзець часапіс «Сов. Музыка» за 1960 і 1961 гг.
117 Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», II. 4. 1961.
118 Тамсама.
119 Смольскі, цыт. праца, б. 69.
120 Посьпех маладога кампазытара. «ЛіМ», 27. 2. 1960.
121 Тамсама, бб. 69-70.
122 І. Нісьневіч, цыт. праца, бб. 104 і 113.

123 На опэрнай сцэне — сучасьнікі. «ЛіМ», 2. 12. 1960.
124 Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», II. 4. 1961.
125 Зноў аб песьні. «ЛіМ», 14. 6. 1960.
126 Гл. зноску 122.
127 Музыка і жыцьцё. «ЛіМ», 14. 6. 1960.
128 Сэрца мільёнаў падслухаць біцьцё. «ЛіМ», II. 4. 1961.

ныя ўстаноўкі. З праграмнымі творамі, крыклівымі лёзунговымі назовамі, прысьвячэньнямі найбольш супэрактуальнага зьместу й вызначэньня нам давядзецца сустракацца й надалей.

Тым ня меней, на аснове цьвёрдых фактаў і прыкладаў даволі доўгай практыкі мы ўпэўнена можам сказаць, што высокаідэйны й высокамастацкі паказ савецкай рэчаіснасьці ў музычнай творчасьці астанецца неажыцьцёўленым, і ў найбольш навет прыслужлівых мастакоў адлюстраваньне савецкай надзённасьці далей вонкавай ілюстрацыйнасьці, калейдаскапічнасьці й пёрыстасьці тэмаў і вобразаў ня пойдзе. У творах назаўсёды застануцца ў кантрастным выглядзе няўдалыя спробы стварыць сучасных гэрояў і, наадварот, удалыя творчыя знаходкі ў вапісаньні нацыянальных характараў быту й прыроды.

Крытыка ўвесь час падчырквае няроўнасьць сучасных музычных твораў, іхную непаўнацэннасьць з прычыны таго, што кантрастныя да сучаснасьці сытуацыі й характарыстыкі ўвасабляюцца шчыра й яскрава, а сама сучаснасьць шэра, плякатна й абыякава. Гэтыя апошнія асаблівасьці заіснавалі разам із савецкай тэматыкай, выступаюць заўважна асабліва цяпер і, зразумела, будуць вылучацца і ў будучыні. Няроўнасьць і непаўнацэннасьць мастацкага твору — азнака савецкага часу застанецца зь ім назаўсёды. Мы перакананыя, што застануцца й творчыя прыхільнасьці й прывабнасьці да мінулага і ў першую чаргу да свайго нацыянальнага песеннага й танцавальнага фальклёру, да асновы творчасьці — клясычных традыцыяў, бо ўсё гэта ўзапраўды служыць ідэйнаму й мастацкаму развою мастака, бо тутака ён і можа разгарнуць свае здольнасьці, выразіць свае духовыя пачуцьці, шчыра й поўна, а галоўна свабодна выказацца. У прапагандовым творы нічога такога зрабіць нельга. Вось чаму сучасная тэма ў партыйным разуменьні ня мае шансаў на прынацьце яе мастаком.

## ПАСЛОЎЕ

Ад напісаньня дадзенага дасьледаваньня да ягонай здачы ў друкарскі набор прайшло ня мала часу, у якім у Савецкім Саюзе і ў прыватнасьці ў БССР адбыліся больш менш важныя палітычна-грамадзкія падзеі: 25-ы зьезд Камуністычнае партыі Беларусі (верасень 1961), Рэспубліканскі агляд тэатральна-канцэртнай дзейнасьці, прысьвечаны «Сучаснай тэме ў мастацтве» (кастрычнік 1961), 4-ты Зьезд Кампазытараў БССР (люты 1962), ды над усім гэтым апошняя падрыхтоўка й самае правядзеньне 22-га партыйнага зьезду з абвешчаньнем Новай Праграмы партыі. У ўмовах савецкага жыцьця, партыйнага кантролю й ціску ніводзін творчы працаўнік ня можа застацца ў баку ад такіх падзеяў і бывае змушаны так ці інакш адказаць на іх сваей творчасьцю. Таму зусім зразумела, што ў вапошнія часы і на музычным фоне БССР зьявіліся новыя творы кампазытараў на сучасную тэматыку, большасьць зь якіх былі прысьвечаныя 22 Зьезду й праслаўленьню партыі.

Быў закончаны маладым кампазытарам Я. Глебавам і выстаўлены тэатрам опэры й балету новы беларускі балет «Мара» аб лёсе простай беларускай дзяўчыны-танцавальніцы. Яна, паводле сюжэту, [illegible]

й знайшла сваё шчасьце. Балет «Мара», такім чынам, стаўся першым беларускім творам у гэтым жанры на сучасную тэму. Маладымі кампазытарамі Р. Бутвілоўскім і Д. Смольскім былі прадстаўленыя дзьве поўнаметражныя сымфоніі, якія, згодна апініі крытыкаў, «раскрываюць вобразы савецкага юнацтва».[129] Выйшлі тры сымфонічныя увэртуры: «Увэртура ў славу партыі» А. Цікоцкага, «Сьвяточная увэртура» А. Багатырова і «Урачыстая увэртура» Я. Глебава. Кампазытар І. Кузьняцоў даў кантату «Радуйся наша зямля дарагая», дзе праходзяць малюнкі шырокіх прастораў Савецкага Союзу, «шчасьлівага» калгаснага жыцьця, заклік да міру й спакою і нарэшце фінал, што быццам гучыць «гімнам працы і партыі».[130]

Сярод масавых песьняў паявіліся: «Партыі слава ў вяках» М. Шнэйдэрмана, «Слухайце людзі кліч камуністаў» Ю. Семяняні, «Калі гаворыць камуніст» І. Роўкіна, «Горад міру» Р. Бутвілоўскага, «Сялігорская раніца» У. Алоўнікава (рабочае будаўніцтва), «Маладосьць у паход» Ю. Семяняні, яго-ж «Ляціце арлы-сокалы», «Песьня будаўнікоў Нафтаграда» З. Лукаса і інш. Папоўніўся і цыкль песьняў на касьмічную тэму творамі Роўкіна «Герой-касманаўт», Р. Тырманда «Слава розуму чалавека», Г. Вагнэра «Помні гэты дзень» (Гагарыну), П. Падкавырава «Песьня аб Гагарыне» і інш. Навет у новы балет Я. Глебава «Мара» патрапіў спэцыяльны «Касьмічны танец», куды кампазытар увёў гучаньне электра-музычнага інструмэнту.

Дастаткова прачытаць адно назовы ўсіх новых твораў беларускіх савецкіх кампазытараў, каб зразумець іх наяўнае агітацыйна-прапагандовае прызначаньне, намер патрапіць у самы фокус партыйнай палітыкі. Так, напрыклад, кампазытар Цікоцкі, толькі яшчэ складаючы сваю новую увэртуру «Слава», ужо робіць да яе эпіграфам словы з праекту Праграмы КПСС «Чалавек чалавеку-друг, таварыш і брат» і запэўнівае грамадзкасьць, што ідэйным зьместам ягонай увэртуры ёсьць «Слава партыі, слава розуму, слава савецкаму чалавеку».[131] Кампазытар павучае і ўсіх сваіх калегаў, што праект Праграмы «для нас кампазытараў, гэта — невычарпальная крыніца натхненьня».[132] У сьлед за Я. Цікоцкім аб партыйнасьці й абумоўленасьці кампазытарскай творчасьці гаворыць і другі народны артысты БССР — Р. Шырма: «У нашам сучасным мастацтве добра тое, што патрэбна партыі».[133] На адлюстраваньні ў сваей творчасьці новай партыйнай праграмы і вынікаў 22-га партыйнага зьезду робіць асноўную стаўку й апошні чацьверты зьезд кампазытараў Беларусі.[134]

Такая назойлівая, рэглямэнтаваная, з гары накіданая і дэкрэтаваная палітыка для беларускага сучаснага мастака адразу-ж выклікае вялікае сумляваньне што да мастацкай якасьці сучасных твораў, што да магчымасьці сказаць у іх што-колечы новае, арыгінальнае, а галоўнае вольнае й індывідуальнае. Апошнія выказваньні крытыкі і самых кампазытараў, як і раней, толькі сьцьвярджаюць нашыя здагадкі.

Напярэдадні апошняга 4-га Зьезду кампазытараў Беларусі старшыня Саюзу кампазытараў А. Цікоцкі і адказны сакратар І. Нісьневіч выступілі

---

[129] Рысы народнасьці. «Літаратура і Мастацтва», 30. 1. 1962.
[130] Мелёдыі нашых дзён. Тамсама, 26. 9. 1961.
[131] Увэртура ў славу партыі. «Літаратура і Мастацтва», 12. 9. 1961.
[132] Тамсама.

з артыкулам: «Думкі пра музычнае заўтра», дзе амаль што нічога ім не ўдалося сказаць аб пэрспэктыве творчасьці, але затое больш давялося спыніцца на даволі прыкрых зьявах кампазытарскага сяньня:

«Хіба-ж можам мы, кажуць кіраўнікі, з нашымі мінулымі, часам састарэлымі творчымі крытэрыямі, мінулым узроўнем майстэрства... ажыцьцявіць пастаўленую партыяй перад намі задачу?» Адказ на гэтае пытаньне напрошваецца благі, бо, як пішацца далей у артыкуле: «на працягу многіх год заўважаецца значнае адставаньне беларускіх кампазытараў у аваладаньні майстэрствам... У нас доўгія гады няма буйных, манумэнтальных твораў... Асноўнай заганай новых опэр зьяўляецца слабая, а часам бездапаможная музычная драматургія... Нашы некаторыя кампазытары, музыказнаўцы яшчэ вельмі мала вывучаюць жыцьцё»... Наша кампазытарская арганізацыя вельмі марудна расьце колькасна... Марксісцка-ленінская падрыхтоўка маладых кампазытараў... павінна дапамагаць ім крытычна адносіцца да... праяваў загніваючай буржуазнай культуры, якія часам шкодна ўплываюць на ідэйнаэстэтычныя густы моладзі. Маладыя кампазытары... нігілістычна адносяцца да лепшых здабыткаў мінулага. Яны не ўмеюць асэнсаваць сучаснасьць... Вялікая праца чакае ўсіх нас...»[135]

Музыказнаўца Р. Шырма публічна заяўляе, што яго — «вельмі турбуе абніжэньне мастацкага ўзроўня».[136] Дырыжэр опэры Л. Любімаў не аднойчы выказваў патрабаваньні аб «значна большай актыўнасьці беларускіх кампазытараў».[137]

Ужо колькі год ставяць і абгаварваюць пытаньні сучаснай тэмы ў савецкім мастацтве і ўсё толькі для таго, каб і цяпер ізноў-жа сказаць — «Мы павінны па-дзелавому павесьці гаворку аб сучаснай музыцы».[138] Пасьля такога агульнага агляду музычнага становішча ўважаем патрэбным трохі затрымацца і на канкрэтных творах беларускіх савецкіх кампазытараў апошняга часу.

Пра опэрна-балетную творчасьць, вельмі малаколькасную (на сучасную тэму толькі адна опэра і адзін балет) навет, у вапошні пэрыяд, прэса канстатуе, што «намаганьні тэатру ў стварэньні сучасных опэр і балетаў... не зьяўляюцца ва ўсіх адносінах бездакорнымі».[139] Мы ўжо раней гаварылі тут аб опэры «Калючая ружа» Ю. Семянякі, аб яе прапагандовым разьдзьмуханьні і параўнальна слабой мастацкай вартасьці, а цяпер у вапошніх крытычных заценках ёсьць яшчэ больш сьцьверджаньняў правільнасьці нашых высноваў. Спэцыяльны карэспандэнт газэты «Сов. Культура» М. Тэраганян, прагледзіўшы «Калючую ружу» ў Менскім тэатры, знайшоў, што ў опэры Семянякі «перш за ўсё не задавальняе музыка», што пытаньне, ці тут «можна гаварыць, як аб дасягненьні».[140] Р. Шырма мяркуе, што ў опэры «ўжо вельмі дробныя, занадта ўжо выпадковыя і надуманыя «страсьці» пэрсанажаў... Здольны кампазытар не знайшоў... месца для яскравай, жыцьцесьцьвярджаючай характарыстыкі рэальнага асяродзьдзя».[141] Пра толькі што створаны новы балет «Мара» Я. Глебава ўжо цяпер гавораць крытычна, хаця і вызнаюць здольнасьці маладога аўтара. Гэтак Р. Шырму не задавальняе адсутнасьць у балеце «чоткага зьместу»,[142] музыкалёг А. Ракава лічыць твор у вялікай меры «статычным» і «дывэртысмэнтным».[143]

У песеннай творчасьці музыказнаўцаў трывожыць пасьпешлівасьць, пагоня за надзённасьцю, спрошчаная мэлёдычная мова, адсутнасьць стылю, запазычанасьць, перапевы знаёмых матываў, іхняя бледнасьць, нявыразнасьць, адсутнасьць самабытнага пераасэнсаваньня. Навет у такіх папулярных беларускіх песеньнікаў, як Алоўнікаў, Падкавыраў, Вагнэр, Семянянка, Лукас ці мала падобных недахопаў, «штучнай прыдуманнасьці», калі песьня «пазбаўлена крылаў», «не кранае сэрца».[144] Часьцей за ўсё бывае, што чым больш прэтэнсіянальная назва песьні, тым менш яна вартая. Так у песьні Р. Тырманда «Слава розуму чалавека» выступае дробны матар'ял, эстраднасьць, неадпаведнасьць гэраічнай тэматыцы, а ў песьні М. Шнэйдэрмана «Партыі слава ў вяках» «манатонны і наўмысна афіцыёзны выгляд».[145]

Найгалаўнейшае тое, што кампазытары і іхная творчасьць знаходзяцца ў выразнай супрацьлежнасьці з афіцыйнай партыйна-савецкай палітыкай. Кіраўніцтва й крытыкі заўважаюць, што кампазытары і асабліва маладыя аўтары ня выхоўваюцца ў пачуцьці «грамадзкага абавязку», застаюцца і дагэтуль «па-за грамадзкай працай», «ухіляюцца ад напісаньня масавых песьняў, прасякнутых духам рэвалюцыйнай рамантыкі, гераізму».[146] Атрымоўваецца так, што музыка песьняў выяўляе настроі й характар, не адпавядаючыя тэматыцы савецкай гэроікі.[147] Успрыманьне камуністычнай рэчаіснасьці ў змрочных, пэсымістычных, трагэдыйных хварбах і тонах, аб чым падавалася намі раней, за апошнія часы ня толькі ня зьнікла, але, наадварот, здаецца, пашырылася. У новым балеце «Мара» замест сьветлых, аптымістычных адценьняў кампазытарам (вельмі маладым) дадзены «драматычныя настроі, напружаныя гучаньні».[148] Сымфонія маладога Р. Бутвілоўскага выражае настроі смутку і тугі, хаця яна й прысьвечана сучаснай камуністычнай моладзі. Гэтыя хварбы зьнікаюць толькі ў фінале сымфоніі, калі трэба падпарадкавацца казённаму рэцэпту бадзёрасьці.[149] У сымфоніі наймалодшага аўтара — Д. Смольскага: «гэрой, нажаль, ня можа пераадолець варожыя сілы... Сымфонія па сваім зьмесьце і агульным настроі мае трагэдыйны характар»,[150] дарма што і яна маладзёжная і прысьвечаная 22-му партыйнаму зьезду.

Такія-ж рысы наглядаюцца і ў музыцы беларускіх савецкіх кампазытараў да кінафільмаў. У Алоўнікава ў фільме «Веснавая навальніца» «надрыў і бязвыходнасьць амаль увесь час гучаць у музыцы».[151] З. Лукас да фільму «Чалавек не здаецца» напісаў «сэнтымэнтальную, зьнешне мэлан-

[135] Усё цытаванае тут і вышэй з названага артыкулу «Думкі пра музычнае заўтра». «ЛіМ», 23. 1. 1962.
[136] Нерастаржымая сувязь. «Сов. Культура», 27. 1. 1962.
[137] Новыя опэры і балеты. «ЛіМ», 9. 1. 1962.
[138] Думкі пра музычнае заўтра. «ЛіМ», 23. 1. 1962.
[139] Новыя опэры і балеты. «ЛіМ», 9. 1. 1962.
[140] Театр и его культура. «Сов. Культура», 25. 11. 1961.
[141] Нерасторжимая связь. «Сов. Культура», 27. 1. 1962.

[142] Тамсама.
[143] «Мара». «ЛіМ», 17. 10. 1961.
[144] Трэба нам песень. «ЛіМ», 26. 1. 1962.
[145] На чарговай серадзе. «ЛіМ», 23. 1. 1962.
[146] Экзамен на сталасьць. «ЛіМ», 26. 9. 1961.
[147] На чарговай серадзе, «ЛіМ», 23. 1. 1962.
[148] Артыкул Ракавай у «ЛіМ», 17. 10. 1961.
[149] Рысы народнасьці. «ЛіМ», 30. 1. 1962.
[150] Тамсама.
[151] Музыка ў кіно. «ЛіМ», 12. 9. 1961.

калічную музыку».[152] Чым болей ставіцца адзіная сучасная опэра Семянякі «Калючая ружа», тым болей заўважаюць у гэтай маладзёжнай опэры неадпаведныя настроі. Р. Шырма піша: «У цэнтры аўтарскай задумы аказалася якаясь вялая моладзь — дзяўчына хоча атруціцца пасьля няўдалага спатканьня».[153]

На гэтым можна і скончыць нашае паслоўе да дасьледаваньня аб сучаснай тэматыцы ў музыцы БССР. Мы бачым, што палажэньне не зьмянілася ў пасьлязьездаўскім пэрыядзе. Аднак зрабіць гэтае дапаўненьне было патрэбным для таго, каб яшчэ больш пераканацца, што сучасная тэматыка ў савецкім мастацтве з самага пачатку пастаноўкі пытаньня і да нашых дзён пацярпела поўнае фіяска. Партыйнае заданьне «ня ўлезла» ў мастацкую творчасьць. Гэта відаць усім, навет і людзям з партбілетамі. Толькі вось прызнацца да гэтага партыйнае кіраўніцтва ня можа. І ўзноў будуць «па-дзелавому» весьці бясплодныя гутаркі й размовы аб сучаснасьці ў мастацтве, як і ў многіх іншых пытаньнях савецкага беспэрспэктыўнага жыцьця.

---

# Сельская гаспадарка Беларускай ССР
## у сьвятле апошніх статыстычных дадзеных

Сымон Кабыш

Беларусь заўсёды ўважалася пераважна сельскагаспадарскай краінай. Але трэба адцеміць, што пасьля Другой Сусьветнай Вайны значна павялічылася й ейная вытворчасьць прамысловай прадукцыі. БССР цяперака займае важнае месца ў вагульнасаюзнай вытворчасьці аўтамашынаў, трактароў і мэталярэзных станкоў. Вытворчасьць гэтых галінаў прамысловасьці базуецца пераважна на прывозных матарыялах. Разьмеркаваньне прадукцыі гэтае прамысловасьці строга цэнтралізаванае. Важным прадпрыемствам паводля свайго пэрспэктыўнага разьвіцьця ёсьць нядаўна пабудаваны Салігорскі калійны камбінат, які працуе на каштоўнай сыравіне, дабыванай з багатых залежаў соляў у нетрах беларускай зямлі на Случчыне. Можна спадзявацца, што надыйдзе час, калі патрэбы беларускага народу будуць забасьпечвацца сваім каменным вуглём, залежы якога знойдзеныя ўжо на паўдні кріны. Знойдзеныя таксама шматлікія азнакі знаходжаньня ў нетрах беларускае зямлі нафты й прыроднага газу.

Тымчасам Беларусь і сяньня зьяўляецца сельскагаспадарскай краінай. Сельскае насельніцтва ў 1961 годзе складала 66%, а гарадзкое — толькі 34%. У вагульным ліку 8.226 тысяч жыхарства сярэднягадовы лік работнікаў і службоўцаў абыймаў 2.979 тысяч чалавек, у тым ліку толькі ў саўгасах працуе на сельскай гаспадарцы 347 тысяч чалавек. Апрача гэтага, у калгасах наяўных калгасных сем'яў налічваецца 938 тысяч.[1]

Глебы Беларусі, а таксама ейныя кліматычныя ўмовы добра спрыяюць разьвіцьцю сельскае гаспадаркі.

У паўночна-заходняй часьці рэспублікі пераважаюць нявысокія ўзвышшы марэннага паходжаньня. Раўнінная паўдзённа-ўсходняя часьць у некаторых мясцох пераходзіць у нізіны. Паўдзённая часьць Беларусі становіць сабой абшырную забалочаную нізіну, праз якую працякае буйны прыток Дняпра — Прыпяць із шматлікімі прытокамі. Гэта — Палесьсе. Заходняя часьць Палесься больш узвышаная, тут праходзіць вадаразьдзел між Чарнаморскім і Балтыцкім басэйнам.

Клімат Беларусі ў вагульным памяркоўны з дастатковай колькасьцяй ападкаў, якіх выпадае амаль двойчы больш летам, чымся зімой. Вясна тут пачынаецца ў другой палове сакавіка й трывае ў сярэднім менш за два

месяцы. Працягласьць лета дасягае пяці месяцаў. У зімовы пэрыяд сьнегавы пласт бывае дастатковым. Вэгэтацыйны пэрыяд па паўдзённым усходзе рэспублікі трывае да 200 і больш дзён. На поўначы Беларусі клімат больш сьцюдзёны, а вэгэтацыйны пэрыяд амаль на 20—25 дзён карацейшы.[2]

Каля 60% тэрыторыі Беларусі займаюць дзірванна-падзолістыя глебы. Гэты від глебаў — аднародны. Нязначную часьць іх становяць гліністыя й сугліністыя глебы. Больш буйныя прасторы занятыя лёгкімі суглінькамі. Каля 17% тэрыторыі займаюць пяшчаныя глебы. Дзьве трэйція гэтых пяшчаных прастораў знаходзяцца пад лясамі й хмызьнякамі, а рэшта выкарыстоўваецца пад сельскагаспадарскія ўжыткоўнасьці. Больш за 12% усяе тэрыторыі займаюць вялікія плошчы, пераходныя да нізінаў і балотаў. Балоты знаходзяцца пераважна ў Палескай нізіне і ў басэйне ракі Бярэзіны.[3]

Глебавыя й кліматычныя фактары Беларусі ствараюць даволі выгадныя ўмовы для ўдалага вядзеньня асноўных галінаў сельскае гаспадаркі.

Улічваючы прыродна-эканамічныя ўмовы ў паасобных частках Беларусі, тэрыторыя рэспублікі Міністэрствам сельскае гаспадаркі БССР была падзелена на сельска-гаспадарскія зоны. У кажнай зоне вызначаны галоўныя кірункі разьвіцьця й вытворчасьці сельска-гаспадарскай прадукцыі.

**1. Лёна-малочна-мясная зона.** У гэтую зону ў васноўным уваходзіць Віцебская вобласьць, а таксама паўночныя раёны Магілеўскай, Менскай і Гарадзенскай вобласьцяў. У паляводзтве гэтай зоны пераважае лёнавы кірунак. Разьвіцьцю вытворчасьці лёну дапамагалі глебава-кліматычныя ўмовы. Да таго яшчэ ў гэтай часьці Беларусі мясцовае жыхарства на працягу цэлых стагодзьдзяў займалася вытворчасьцяй лёну й таму мае вялікую практыку ды традыцыйныя працоўныя навыкі.

Аб высокай эфэктоўнасьці вытворчасьці лёну ў гэтай зоне гаворыць той факт, што затраты працы на вытворчасьць лёнавалакна тут у два разы меншыя, чымся ў іншых зонах Беларусі. У гэтай зоне лёнам засяваецца каля 10% пасеўнай плошчы, у той час калі ў іншых зонах — толькі 3—5%. У калгасах гэтае зоны даходы зь лёну складаюць у сярэднім больш за 49% валавых грашовых даходаў.[4]

**2. Бульба-малочна-сьвінягадаўляная зона.** Гэтая зона ахоплівае цэнтральную часьць Беларусі. У яе ўваходзяць большая часьць раёнаў Менскай, Магілеўскай, Гарадзенскай і Берасьцейскай вобласьцяў, а таксама некаторыя раёны Гомельскай вобласьці. Паводля вялічыні тэрыторыі — гэта найбольшая зона, што займае больш за 45% усіх сельскагаспадарскіх земляў калгасаў рэспублікі. У гэтай зоне найбольшая колькасьць ворнай зямлі. Ворыва займае тут 66% усяе сельскагаспадарскае зямлі.[5] У зоне дасюль удала разьвівалася вырошчваньне бульбы. На калгасы й саўгасы зоны ўскладзенае заданьне забясьпечаньня бульбай Менску, Магілева й іншых буйных гарадоў. Гэтая зона забясьпечвае бульбай таксама 35 сьпіртавых і крахмальных заводаў. У раёнах Гарадзенскай, Берасьцейскай і на паўдзённым захадзе Менскай вобласьці разьвітая вытворчасьць цукровых буракоў, якая забясьпечвае сыравінай тры цукровыя заводы ў Беларусі.

---

[2] Белорусская ССР. Москва, 1957, б. 22.
[3] Тамсама, б. 29 і 31.
[4] С. Н. Малинин. Иппа. Экономика Белорусской ССР и перспективы ее развития. Москва, 1960, б. 117—118.
[5] Тамсама, б. 118.



**3. Зона вытворчасьці мяса, малака, бульбы, буракоў і канопляў.** Гэтая зона ахоплівае палескія раёны Беларусі. Тут пераважаюць буйныя плошчы тарфяных глебаў, якія й дасюль толькі часткава асушаныя ды й то не заўсёды выкарыстоўваюцца для пасеваў. Тут пераважае гадоўля буйнае рагатае жывёлы. Прадукцыя жывёлагадоўлі ў калгасах у сярэднім перавышае 54%. Калгасы гэтае зоны маюць 75% усіх пасеўных плошчаў канопляў у Беларусі. Вытворчасьць канопляў сканцэнтраваная ў гаспадарках Любанскага раёну Менскай вобласьці на асушаных тарфяніках у басэйне прытоку Прыпяці — Арэсы.[6]

Гэты, аднак, умоўны падзел рэспублікі на зоны не заўсёды захоўваецца. Сельскагаспадарская вытворчасьць у паасобных зонах застаецца нязвычайна разнастайнай.

Агульная зямельная плошча БСС — 20,7 мільёнаў гэктараў, зь іх 14,1 міл. га знаходзіцца ў карыстаньні сельскагаспадарскіх прадпрыемстваў і гаспадарак. Усіх сельскагаспадарскіх ужыткоўнасьцяў у Беларусі 9,8 міл. га, у тым ліку ворнай зямлі — 6,0, сенажацяў — 2,4, выганаў і пасьбішчаў — 1,1 міл. га. Усе сельскагаспадарскія ўжыткоўнасьці ў канцы 1959 году разьмяркоўваліся такім чынам: саўгасы й іншыя дзяржаўныя сельскагаспадарскія прадпрыемствы (дапаможныя гаспадаркі бальніцаў, дзіцячых і інвалідзкіх дамоў, дасьледныя гаспадаркі навукова-дасьледвальных установаў і г. д.) мелі 1,9 міл. га, з чаго толькі саўгасы — 1,8 міл. га; землі калгасаў — 7,3 міл. га; прысядзібныя дзялянкі калгасьнікаў — 0,4 міл. га і зямельныя дзялянкі работнікаў і службоўцаў — 0, 15 міл. га.[7]

У 1940 г. у Беларусі было ўсяго толькі 92 саўгасы, якія ў першыя гады савецкае ўлады былі зарганізаваныя з абшарніцкіх маёнткаў. Да 1956 году колькасьць саўгасаў узрасла да 123, а ў 1960 г. на тэрыторыі рэспублікі было іх ужо 300. Такое вялікае збольшаньне колькасьці саўгасаў у Беларусі, асабліва пасьля 1956 г., было выкліканаператварэньнем гэтак званых эканамічна слабых і адсталых калгасаў у саўгасы. Паасобныя калгасы гэтай катэгорыі былі далучаныя да існуючых саўгасаў. Паводля стану на 1 студзеня 1961 г. значная частка саўгасаў мае малочны й мясамалочны кірунак, іх налічваецца 218, 22 саўгасы гадоўлі сьвіней, 21 гародніна-малочных, 13 гадоўлі птушак, 2 гадоўлі коней.[8]

**Табліца 1. Пасеўныя плошчы сельскагаспадарскіх культур у саўгасах Беларусі (тыс. гэктараў)[9]**

| | 1953 | 1957 | 1958 | 1959 |
|---|---|---|---|---|
| Бульба | 7 | 57 | 66 | 108 |
| Зерневыя культуры | 37 | 279 | 267 | 476 |
| у тым ліку: азімае жыта | — | 127 | 117 | 213 |
| пшаніца | 3 | 13 | 7 | 13 |
| Усе пасевы кукурузы | — | 23 | 27 | 55 |
| Тэхнічныя культуры | — | 1 | 3 | 21 |
| Уся пасеўная плошча | 90 | 464 | 507 | 920 |
| Гародніна | 1 | 3 | 3 | 6 |
| Кармовыя культуры | 45 | 124 | 169 | 309 |

---

[6] Тамсама, б. 119.
[7] Сельское хозяйство СССР. Статистический сборник. Москва, 1960, б. 122, 124.
[8] Народное хозяйства СССР в 1960 году, б. 509—511.
[9] Сельское хозяйство СССР, б. 146, 149, 154, 160, 164, 176, 177, 182.

**Табліца 2. Валавы збор сельскагаспадарскіх культур у саўгасах Беларусі (тыс. тонаў)[10]**

| | 1953 | 1956 | 1957 | 1958 | 1959 |
|---|---|---|---|---|---|
| Зернявыя культуры | 35 | 76 | 207 | 186 | 308 |
| Бульба | 77 | 214 | 437 | 363 | 717 |
| Гародніна | 17 | 20 | 32 | 26 | 54 |

Аналізуючы структуру пасеўных плошчаў саўгасаў Беларусі, заўважаецца нізкая ўдзельная вага пасеўных плошчаў пшаніцы, тэхнічных культураў і гародніны. Гэтыя культуры патрабуюць лепшых земляў, моцных угнаеньняў і затраты працы, чымся пасевы іншых культур. Гэтыя асаблівасьці ўлічаныя савецкімі плянуючымі арганізацыямі, і таму вытворчасьць працаёмкіх культураў перанесеная на калгасную сыстэму, дзе праца аплачваецца ніжэй, чымся ў саўгасах.

На працягу раду гадоў адбыліся наступныя зьмены ў калгаснай сыстэме Беларусі:[11]

**Табліца 3.**

| | 1940 | 1950 | 1953 | 1958 | 1959 | 1960 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Усяго калгасаў | 10165 | 9326 | 5278 | 3828 | 2992 | 2377 |
| Колькасьць калгасных двароў (тыс.) | 776,7 | 1236,8 | 1283.5 | 1184.7 | 1084.6 | 940,0 |

Значнае збольшаньне калгасных двароў у калгасах у 1950 годзе было выкліканае правядзеньнем калектывізацыі аднаасобніцкіх сялянскіх гаспадарак у Заходняй Беларусі, што да 1939 году ўваходзіла ў склад Польшчы. Пасьлядоўнае зьменшаньне колькасьці калгасаў пасьля 1940 году зьвязанае з узбуйненьнем, а таксама зь перватварэньнем калгасаў у саўгасы. Як відаць з дадзеных 1953 да 1960 году, у калгасах Беларусі зьменшылася на 343,5 тысяч калгасных двароў. Такое непрапарцыянальнае зьменшаньне колькасьці калгасных сем'яў выкліканае значным перасяленьнем калгасьнікаў на цалінныя землі Казахстану й Сібіру, на лесараспрацоўкі ў Карэлію, а часьць калгасьнікаў пры перватварэньні калгасаў у саўгасы стала работнікамі саўгасаў.

**Табліца 4. Пасеўныя плошчы асноўных сельскагаспадарскіх культураў у Беларусі ў гаспадарках усіх катэгорыяў (тыс. га)[12]**

| | 1913 | 1940 | 1953 | 1956 | 1958 | 1959 | 1960 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Уся пасеўная плошча | 4542 | 5212 | 5129 | 5470 | 5449 | 5615 | 5664 |
| Зернявыя культуры | 3630 | 3475 | 3481 | 3126 | 2748 | 2743 | 2662 |
| Тэхнічныя культуры | 128 | 313 | 186 | 400 | 324 | 327 | 321 |
| у тым л. лён-даўгунец | 104 | 275 | 144 | 340 | 278 | 282 | 270 |
| Бульба | 583 | 929 | 870 | 995 | 1025 | 1023 | 1027 |
| Гародніна | 42 | 62 | 41 | 48 | 44 | 46 | 50 |
| Кукуруза | — | — | 0,1 | 217 | 255 | 291 | 521 |
| Кармавыя культуры | 159 | 433 | 550 | 900 | 1307 | 1476 | 1603 |

[10] Тамсама, б. 213, 237, 242.
[11] Тамсама, б. 51, 52; СССР в цифрах в 1960 году. Краткий статистический сборник. Москва, 1961, б. 219.
[12] Народное хозяйство СССР в 1960 году, б. 393, 394, 400, 403, 404, 406, 407.



Пераважаючай харчовай культурай у Беларусі заўседы было азімае жыта, якое ў 1957 годзе займала 1468 тысяч га з 3029 тыс. га агульных пасеваў зернявых культураў у рэспубліцы. З гэнага году пасевы зернявых культураў, у тым ліку й азімага жыта, пачалі зьмяншацца. У параўнаньні з 1913 годам пасеўная плошча зернявых культураў у 1960 годзе зьменшылася амаль на адзін мільён гэктараў. Прычынай, што выклікала скарачэньне пасеваў зернявых культураў, было прымусовае навязваньне партыйнымі арганізацыямі пасеваў кукурузы ды значнае пашырэньне пасеваў кормавых культураў.

У 1962 г. прадугледжана пад кукурузу засеяць больш за 700 тысяч гэктараў. Тымчасам гэтая паўдзённая й цёплалюбная культура ў Беларусі на зерне не дасьпявае. Спробы дасьледных станцыяў і паасобных сэлекцыянэраў-вучоных вывесьці хуткасьпелыя сарты кукурузы для зонаў з параўнальна кароткім вэгэтацыйным часам дасюль не ўдаліся. Пасевы кукурузы выкарыстоўваюцца ў Беларусі на малакаштоўны сілас ізь сьцёблаў, у найлепшым выпадку зь недасьпелымі пачаткамі (шышкамі), якія адумысловым эквівалентам пераводзяцца ў поўнае зерне. Ураджайнасьць зялёнай кукурузнай масы ў 1961 годзе дасягала ў Беларусі толькі 150 цэнтнараў з гэктара. Каб дасягнуць высокіх збораў кукурузы ў калгасах і саўгасах, партыйнае кіраўніцтва Беларусі дазволіла на мясцох адбіраць ад калгасьнікаў угноеныя прысялібныя зямельныя дзялянкі ды засяваць іх кукурузай для калгасаў. У замену адабраных дзялянак калгасьнікам вызначалі землі для пасеваў бульбы й гародніны ў іншых мясцох калгасных уладаньняў. Аднак усе мерапрыемствы для значнага павышэньня ўраджайнасьці зялёнай кукурузы й недасьпелых пачаткаў на больш цэнны сілас дасюль не ўдаліся. Значныя плошчы кукурузы ў калгасах і саўгасах скормліваюцца на корані.

З вырошчваных у Беларусі тэхнічных культураў першае месца займаюць пасевы лёну-даўгунца, што складаюць больш чымся 75% усяе плошчы пад тэхнічнымі культурамі. Прадукцыя лёна-валакна складае 20% усесаюзнае прадукцыі.[13] Пасевы цукровых буракоў у Беларусі праводзіліся яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя, імі тады забясьпечвалася каля 20 дробных цукровых заводаў.[14] Аднак-жа заводы зачыніліся й пасевы гэтай культуры былі спыненыя. У 1960 годзе пад пасевамі цукровых буракоў было занята 29 тысяч гэктараў. Гэтая сыравіна перапрацоўваецца на двух існуючых заводах і пасевы яе будуць пашырацца, бо ў Беларусі заплянавана пабудаваньне яшчэ аднаго цукровага заводу.

**Табліца 5. Валавыя зборы сельскагаспадарскіх культур у гаспадарках усіх катэгорыяў Беларусі (тыс. тонаў)[15]**

| | 1913 | 1940 | 1950 | 1953 | 1956 | 1958 | 1959 | 1960 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Зернявыя культуры | 2568 | 2727 | 2684 | 1572 | 1790 | 1790 | 1958 | 2314 |
| у тым ліку пшаніца | 72 | 191 | 163 | 243 | 194 | 148 | 133 | 143 |
| Лёна-валакно | 33 | 36 | 42 | 20 | 107 | 88 | 57 | 85 |
| Цукровыя буракі | — | — | 70 | 91 | 120 | 253 | 305 | 383 |
| Бульба | 4024 | 11879 | 9537 | 8040 | 11015 | 8240 | 9396 | 10641 |
| Гародніна | — | 673 | 483 | 586 | 572 | 503 | 529 | 843 |

[13] Белорусская ССР, б. 162.
[14] Тамсама, б. 166.
[15] Народное хозяйство СССР в 1958 и 1960 году, б. 418—436.

**З валавога збору здадзена дзяржаве:**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Зернявых культураў | — | 436 | 487 | 329 | 207 | 166 | 185 | 184 |
| Лёна-валакна | — | 21,6 | 23,0 | 19,2 | 88,0 | 82,3 | 55,6 | 76,9 |
| Цукровых буракоў | — | — | 36 | 87 | 111 | 215 | 267 | 328 |
| Бульбы | — | 1296 | 677 | 698 | 958 | 593 | 606 | 827 |
| Гародніны | — | 68 | 39 | 53 | 71 | 71 | 93 | 160 |

У пасьляваенныя гады ў Беларусі значна збольшыліся плошчы пад пладова-ягаднымі насадамі, што відаць з наступных дадзеных: у 1945 г. пад імі было 46 тыс. гэктараў, у 1950 — 87 тыс. га, у 1953 — 133, у 1956 — 150, у 1958 — 126, у 1959 — 130, у 1960 — 138 тысяч гэктараў.[16] Валавы збор з гэтых насадаў у 1960 годзе дасягнуў 221 тыс. тонаў. Відаць ураджаі зь іх бываюць што другі год, бо ў 1959 г. было сабрана толькі 96 тыс. тонаў, а год перад гэтым, у 1958 — 201 тыс. тонаў.[17]

**Табліца 6. Сярэднягадавая ўраджайнасьць асноўных культураў сельскае гаспадаркі ў Беларусі (цэнтнараў з аднаго гэктара)[18]**

| | 1949—1953 | 1954—1958 |
|---|---|---|
| Зернявых культураў | 6,2 | 6,0 |
| Пшаніцы азімай | 8,0 | 7,8 |
| Пшаніцы яравой | 5,7 | 5,8 |
| Лёну-даўгунца (валакна) | 1,5 | 2,9 |
| Цукровых буракоў | 95 | 82 |
| Бульбы | 90 | 100 |
| Гародніны | 118 | 127 |

Зьніжэньне валавых збораў збожжа, у тым ліку й пшаніцы, часткава выкліканае зьменшаньнем пасеўных плошчаў, аднак асноўная прычына — гэта нізкая ўраджайнасьць збожжавых культураў.

Для ўдалага разьвіцьця жывёлагадоўлі Беларусь мае дастатковую колькасьць сенажацяў, пасьбішчаў і выганаў, пры пэўным разьвіцьці пасеваў кармовых траваў. Калгасы й саўгасы Беларусі ў 1959 годзе мелі 24 мільёны гэктараў усіх відаў сенажацяў. Аднак-жа эфэктоўных заліўных сенажацяў ёсьць толькі 328 тыс. гэктараў. Рэшта — сенажаці сухадольныя, забалочаныя, малапрадукцыйныя, штогоду зарастаюць хмызьнякамі, забалочваюцца й дзічэюць.

Жывёлагадоўля ў Беларусі пашырана ўсюды.

**Табліца 7. Лік прадуктыўнае жывёлы ў гаспадарках усіх катэгорыяў Беларусі (на 1 студзеня, тысячы галоў)[19]**

| | 1916 | 1941 | 1951 | 1957 | 1958 | 1959 | 1960 | 1961 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Буйная рагатая жывёла | 2293 | 2844 | 2746 | 2881 | 3152 | 3361 | 3472 | 3666 |
| У тым ліку кароў | 1610 | 1956 | 1382 | 1726 | 1840 | 1957 | 1959 | 2037 |
| Сьвіньні | 2444 | 2520 | 1623 | 2397 | 2704 | 2741 | 2874 | 3164 |
| Авечкі й козы | 2050 | 2578 | 1409 | 1503 | 1588 | 1454 | 1261 | 1213 |
| Коні | 1483 | 1170 | 722 | 628 | 625 | 613 | 571 | |

[16] Народное хозяйство СССР в 1960 году, б. 444.
[17] Тамсама, б. 446.
[18] Сельское хозяйство СССР, б. 214—245.
[19] Народное хозяйство СССР в 1958 и 1960 году, б. 451—454.



**Табліца 8. Удзельная вага грамадзкае жывёлы калгасаў, саўгасаў і іншых дзяржаўных прадпрыемстваў у вагульнай колькасьці жывёлы ўсіх катэгорыяў гаспадарак Беларусі на 1 студзеня (у працэнтах)[20]**

| | 1954 | 1959 | 1960 |
|---|---|---|---|
| Буйная рагатая жывёла | 42 | 49 | 54 |
| у тым ліку кароў | 23 | 34 | 37 |
| Сьвіньні | 27 | 40 | 48 |
| Авечкі | 68 | 58 | 62 |

З табліцы відаць, што колькасьць буйнае рагатае жывёлы толькі ў 1957 г. дасягнула ўзроўні 1941 г., аднак колькасьць кароў у 1960 г. засталася на ўзроўні 1941 г. Гэты факт сьветчыць аб немераможных цяжкасьцях разьвіцьця малочнае жывёлы на працягу 15-гадовага пасьляваеннага пэрыяду.

Павольнымі тэмпамі разьвіваецца сьвінагадоўля. За пасьляваенны час колькасьць авечак зьменшылася больш, чымся на палавіну. У вагульным пагалоўі прадуктыўнае жывёлы ўдзельная вага прыватнага сэктару (калгасьнікаў, работнікаў, службоўцаў) займае ў Беларусі яшчэ ладнае месца, што й відаць з наступнае табліцы (на 1 студзеня ў працэнтах):[21]

**Табліца 9.**

| | Буйн. раг. жыв. | | | У т. л. каровы | | | Сьвіньні | | | Авечкі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1954 | 1959 | 1960 | 1054 | 1959 | 1960 | 1954 | 1959 | 1960 | 1954 | 1959 | 1960 |
| Ува ўсёй БССР | 58 | 51 | 46 | 77 | 66 | 63 | 73 | 60 | 52 | 32 | 42 | 38 |
| Менская вобл. | 56 | 50 | 45 | 76 | 66 | 63 | 74 | 63 | 57 | 18 | 33 | 28 |
| Віцебская | 55 | 46 | 40 | 76 | 64 | 59 | 66 | 47 | 36 | 37 | 53 | 42 |
| Магілеўская | 53 | 49 | 43 | 75 | 66 | 63 | 73 | 62 | 52 | 28 | 39 | 30 |
| Гомельская | 50 | 48 | 45 | 73 | 67 | 64 | 70 | 64 | 55 | 22 | 31 | 27 |
| Берасьцейская | 65 | 54 | 49 | 79 | 65 | 62 | 74 | 64 | 57 | 42 | 49 | 52 |
| Горадзенская | 70 | 59 | 54 | 83 | 69 | 64 | 77 | 61 | 54 | 47 | 47 | 48 |

Найбольш высокая ўдзельная вага прадуктыўнае жывёлы ў прыватным сэктары захавалася ў Берасьцейскай і Горадзенскай вобласьці, якія да 1939 г. ўваходзілі ў склад Польшчы.

Вытворчасьць прадуктаў жывёлагадоўлі Беларусі ў гаспадарках усіх катэгорыяў характарызуецца наступнымі паказьнікамі:[22]

**Табліца 10.**

| | 1913 | 1940 | 1953 | 1956 | 1958 | 1959 | 1960 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прадукцыя сала й мяса ў убойнай вазе (тыс. тонаў) | 219 | 275 | 240 | 347 | 406 | 418 | 405 |
| Малако (тыс. тонаў) | 1429 | 2005 | 1861 | 2264 | 2766 | 2872 | 3219 |
| Яйкі (міл. штук) | 413 | 612 | 571 | 708 | 811 | 884 | 868 |
| Воўна (тыс. тонаў) | 2,7 | 3,3 | 2,2 | 2,6 | 2,4 | 2,2 | 2,1 |

[20] Сельское хозяйство СССР, б. 590.
[21] Тамсама.
[22] Народное хозяйство СССР в 1958 и 1960 году, б. 464—476.

**З агульнае вытворчасьці здадзена дзяржаве:**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жывёлы й птушак у жывой вазе (тыс. тонаў) | — | 141 | 112 | 176 | 231 | 278 | 302 |
| Малака (тыс. тонаў) | — | 230 | 380 | 590 | 818 | 997 | 1125 |
| Воўны (тыс. тонаў) | — | 1,2 | 1,6 | 1,9 | 2,0 | 2,0 | 1,9 |
| Яек (міл. штук) | — | 112 | 71 | 101 | 101 | 134 | 146 |

Удзельная вага вытворчасьці прадукцыі жывёлагадоўлі грамадзкага й прыватнага сэктараў паказана ў наступнай табліцы (у працэнтах):[23]

**Табліца 11.**

| | Грамадзкі сэктар (калгасы, саўгасы й інш. дзярж. прадпр.) | | | Прыватны сэктар (калгасьнікі, работнікі й службоўцы) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1953 | 1958 | 1959 | 1953 | 1958 | 1959 |
| Мяса й сала (уб. вага) | 32 | 32 | 38 | 68 | 68 | 62 |
| Малако | 18 | 38 | 43 | 82 | 62 | 57 |
| Воўна | 70 | 63 | 62 | 30 | 37 | 38 |
| Яйкі | 15 | 15 | 5,9 | 85 | 85 | 94,1 |

Паводля афіцыяльных дадзеных, ува ўсіх катэгорыях гаспадарак Беларусі атрымана ў 1959 г. 868 мільёнаў штук яек, зь іх у калгасах і саўгасах 52,4 міл. штук і 815,6 міл. у прыватным сэктары. Такім чынам у 1959 г. у прадукцыі жывёлагадоўлі зацісьнены і не ўспамаганы савецкай дзяржавай прыватны сэктар заняў вядучае месца, за выняткам вытворчасьці воўны.[24]

У 1960 г. у сельскай гаспадарцы Беларусі налічвалася 59,3 тысячы трактараў у 15-сілавым вылічэньні, зь іх у саўгасах — 13,2 тыс., у калгасах — 38,5 тыс. і ў РТС — 3 тысячы. Збожжавых камбайнаў было ўсяго 10,7 тыс., зь іх у саўгасах — 2,6 тыс. і ў калгасах — 7,7 тысяч.[25]

У саўгасах рэспублікі ад 1959 г. на аднаго работніка выпадала 4,9 конскіх сілаў энэргэтычных магутнасьцяў, а ў калгасах і РТС — 2,6 конскіх сілаў. Да пачатку 1960 году было электрыфікавана 49% калгасаў і 99% саўгасаў.[26]

У калгасах, саўгасах і дапаможных сельскагаспадарскіх прадпрыемствах Беларусі да пачатку 1960 г. было занята 14 194 спэцыялістых з вышэйшай і сярэдняй адумысловай асьветай, у тым ліку 629 інжынераў, 2392 аграномаў. Зь сярэдняй асьветай налічвалася 10 819 спэцыялістых, зь іх тэхнікаў 1999, аграномаў, заатэхнікаў, вэтфэльчараў і лесаводаў — 7 174 асобаў.[27]

На заканчэньне агляду стану сельскае гаспадаркі Беларусі неабходна адзначыць, што ў вызначаных сельскагаспадарскіх зонах вытворчая спэцыялізацыя ня ўтрымоўваецца. Усе натугі калгасаў і саўгасаў накіраваныя на выкананьне пасеўных плянаў паасобных культураў, што вызначаюцца ў цэнтры й залежаць ад шматлікіх прычынаў, а ў першую чаргу ад частых інструкцыяў М. Хрушчова. І так пасьля 1956 г. заўважна скараціліся пасевы збожжавых культураў, асабліва аўса й ячменю, якія прызнаныя быццам-бы культурамі малакаштоўнымі й нізкаўраджайнымі. З гэннага-ж году зьніжаюцца пасевы лёну-даўгунца, які ў Беларусі дае ня дрэнныя зборы валакна й семя.

У параўнаньні з 1913 г. заўважна вырасьлі пасеўныя плошчы бульбы, хаця ўраджайнасьць гэтага цэннага для жыхарства Беларусі прадукту заставалася нізкай, асабліва ў калгасах і саўгасах. Нізкія зборы бульбы — гэта вынік недастатковага ўгнаеньня. Трэба адзначыць, што з 1962 г. пасеўныя плошчы бульбы ў калгасах і саўгасах будуць моцна скарочаныя й замененыя пасевамі кукурузы й цукровых буракоў на корм жывёле. На сакавіковым пленуме ЦК КПСС (1962), Хрушчоў у сваім дакладзе настойліва «рэкамэндаваў» скараціць пасевы бульбы напалову, бо цукровыя буракі, на ягоную думку, даюць куды больш кармовых адзінак, чымся бульба. Няма сумлеваў, што камуністычнае кіраўніцтва Беларусі будзе ймкнуцца за ўсю цану выканаць гэтую непрадуманую хрушчоўскую інструкцыю. Цукровыя буракі, як і кукуруза, у большай ступені, чымся бульба, патрабуюць цяпла, клапатлівага догляду й угноенай глебы. Тымчасам калгасы й саўгасы ня маюць дастатковае колькасьці ўгнаеньняў.

Настойлівае навязваньне масавых пасеваў кукурузы прынесла калгасам і саўгасам ня мала стратаў. Гэтая паўдзённая культура вельмі добра разьвіваецца на ўгноеных землях. Аднак-жа ў беларускіх умовах навет недасьпелая пачаткі (шышкі) не ўсьпяваюць разьвіцца. Толькі зялёная маса кукурузы выкарыстоўваецца на малакаштоўны сілас, а значная частка пасеваў яе страўліваецца жывёлай на карані. Між іншага, зьвяртаюць на сябе ўвагу афіцыйныя весткі аб ураджайнасьці зялёнай масы кукурузы ў калгасах і саўгасах Беларусі, якія ў 1959 г. быццам-бы дасягнулі 331 цэнтнараў з гэктара. Непатрэбнае й яўнае хвальшаваньне статыстычных дадзеных — зусім відавочнае.[28] Такой ураджайнасьці зялёнай масы кукурузы ніколі і ў ніводнай саюзнай рэспубліцы яшчэ ня было. Ды ў дадатак яшчэ ў пасьлейшыя гады ўраджайнасьць зялёнай масы кукурузы была падаваная вельмі скромна — 150 цэнтнараў з гэктара.

Паводля насычанасьці прадуктыўнай жывёлай на 100 га сельска-гаспадарскіх ужыткоўнасьцяў калгасы й саўгасы Беларусі перавышаюць усе сельскагаспадарскія зоны РСФСР. Аднак-жа сярэдняя вага жывёлы, удоі малака ад кажнае каровы, а таксама ўдзельная вага пародзістай жывёлы ў вагульным пагалоўі ў калгасах і саўгасах Беларусі ніжэй сярэдніх паказьнікаў па Савецкім Саюзе і ў параўнаньні зь іншымі саюзнымі рэспублікамі. Штогоду ў калгасах і саўгасах бывае значны адпад прадуктыўнае жывёлы ад бяскорміцы, хаця ў статыстычных матар'ялах фігуруюць вельмі буйныя паказьнікі нарыхтаваных кормаў. Толькі ў 1961 г. пала 516 тыс. сьвіней, г. зн. 15% усяго пагалоўя.[29]

Нізкая ўраджайнасьць палявых культураў, а таксама вельмі слабая прадуктыўнасьць жывёлагадоўлі ў Беларусі, як, зрэштай, і ўва ўсім СССР, паводля цьверджаньняў М. Хрушчова на сакавіковым пленуме ЦК КПСС (1962), зьяўляецца вынікам малаэфэктоўнага экстэнсыўнага выкарыстаньня зямель калгасамі й саўгасамі, выкліканага травапольнай сыстэмай земляробства, устаноўленай яшчэ пры Сталіне. Паводля Хрушчова, травапольле ня толькі затрымала, але й спрычыніла сельскай гаспадарцы паважныя

---

[23] Сельское хозяйство СССР, б. 614.
[24] Тамсама, б. 355—356.
[25] Тамсама, б. 412, 414.
[26] Тамсама, б. 408, 429, 433.
[27] Тамсама, б. 468, 469.
[28] Тамсама, б. 249.
[29] «Сельская жизнь», 16. 1. 1962.

шкоды. Пастановай пленуму ўжо сёлета назначана значную частку траваў заараць ды засеяць кукурузай, цукровымі буракамі, бабовымі культурамі і ў першую чаргу гарохам. Дасюль кармовыя травы ў Беларусі займалі да 30% усяе пасеўнае плошчы. У ліку гэтых траваў паважнае месца займалі пасевы такіх каштоўных кармовых культураў, як канюшына, люцэрна, цімафейка. Шырока культываваныя пасевы гэтых траваў яшчэ да правядзеньня калектывізацыі ў радзе мясцоў Беларусі памаглі разьвіцьцю прадуктыўнае жывёлагадоўлі, тымбольш, што на вільготных плошчах гэтыя травы даюць высокія ўраджаі, асабліва канюшына, якая ў дадатак зьяўляецца выдатным папярэднікам пасеваў лёну й азімага жыта. Паўсюднае й шаблённае выцясьненьне пасеваў траваў у першую чаргу прынясе непапраўную шкоду жывёлагадоўлі Беларусі й суседнім Прыбалтыцкім рэспублікам.

Вельмі сумлеўна, каб новая сыстэма кіраваньня сельскай гаспадаркі тэрытарыяльнымі вытворчымі калгасна-саўгаснымі ўправамі й абласнымі камітэтамі сельскае гаспадаркі на чале зь Беларускім рэспубліканскім камітэтам здольная была вывесьці калгасы й саўгасы Беларусі на шырокі шлях разьвіцьця й высокай вытворчасьці сельскагаспадарскае прадукцыі. Новая сыстэма кіраваньня пазбаўляе калгасы навет абмежаванай гаспадарскай самастойнасьці, якая прадугледжана статутам сельскагаспадарскага калектыву. Нізкая й няўстойлівая аплата працы калгаснага сялянства зьяўляецца асноўнай прычынай малой зацікаўленасьці калгасным жыцьцём. Гэтае пытаньне дасюль застаецца адкрытым і неразьвязаным. Дзеля гэтага заклікі Хрушчова перамагчы цяжкасьці ня могуць знайсьці належнага водкліку сярод калгаснага сялянства.



## КНІГАПІС

**Stanisław Kot. Szymon Budny. Der grösste Häretiker Litauens im 16. Jahrhundert. Wiener Archiv für Geschichte des Slaventums und Osteuropas, Bd. II. Studien zur älteren Geschichte Osteuropas, I. Teil. Festschrift für Heinrich Felix Schmid. Graz—Köln 1956, b. 63—118.**

Хоць працаў аб найвыдатнейшым дзеячу рэфармацыі ў Беларусі, Сымону Будным, ёсьць ужо шмат, але нямашака аб ім да гэтае пары грунтоўнае манаграфіі. Вось таму цэнны кароткі нарыс С. Кота, ведамага дасьледніка рэфармацыйнага руху ў Польшчы й Вялікім Княсьцьве Літоўскім, у якім аўтар дае абагульненьне ўсяго важнейшага ведамага сяньня аб Будным, і, што асабліва важна, новаадкрытымі дэталямі дапаўняе істотна мала дасьледваны жыцьцяпіс «найбольшага гарэтыка Літвы».

Калі сяньня даволі шмат знаем пра дзейнасьць і пагляды Буднага, дык весткі пра яго самога ўсё яшчэ вельмі скупыя. Аўтар працы дапушчае, што радзіўся Будны нейдзе каля 1530 году ды што меў добрую вышэйшую адукацыю, бо знаў мовы лацінскую, грэцкую, гэбрайскую, царкоўнаславянскую. У 1558 годзе пры кальвінскім зборы ў Вільні Будны дастае ступень катэхэты, і хутка пасьля гэтага князь Мікалай Радзівіл Чорны накіраваў яго, ужо як пастара, у Клецак. З Клецку Будны бярэ дзейны ўдзел у арганізаваньні на кошт магнатаў Радзівіла, Валовіча, Глябовіча друкарні ў Нясьвіжы, зь якое ў 1562 годзе й выходзяць ягоныя першыя, пісаныя пабеларуску, кнігі: «Катыхісіс» і «А апраўданьні грэшнага чалавека перад Богам».

З Клецку-ж у 1563 годзе Будны піша цікавы ліст да галавы пратэстанцкае царквы Цьвінглі ў Цюрыху, Гэнрыха Булінгера. Ліст гэты знаходзіцца ў цюрыхскім дзяржаўным архіве. Пісаны ён, каб парадзіцца ў справе пратэстанцкага становішча да праваслаўнае догмы аб сьвятой Тройцы. Будны ў лісьце, між іншым, кажа: «Жыць мне выпала ў гэткім глухім кутку, што сюды й пасланцы з краёў вашых ніколі не даходзяць, але, затое, праз меру часта наведваюць нас Татары, Маскоўцы ды іншыя барбары...» У ветлівай скромнасьці Будны просіць далей выбачэньня за просты стыль свайго ліста, «бо-ж музы ніколі не вяліся пад нашымі халоднымі зорамі...»

У тым-жа 1563 годзе Будны зрывае з кальвінізмам і далучаецца да антытрынітараў, папулярна званых тады арыянамі, рэлігійнае плыні, што адкідала догму аб сьвятой Тройцы. Ад году-ж 1567 ён становіцца на найбольш радыкальныя пазыцыі ўнітарызму ды вядзе гарачыя спрэчкі з «трыбожнікамі». Для пацьверджаньня й мацнейшага абгрунтаваньня сваіх паглядаў, Будны тады-ж бярэцца за грунтоўнае крытычнае вывучэньне тэксту сьвятога пісьма, у выніку чаго й паўстае ягоны пераклад Бібліі на польскую мову, які вышаў з друку ў 1572 годзе ў Нясьвіжы.

У 1573 годзе Будны пераяжджае ў Лоск да арыянскага магната Яна Кішкі. У справах веры й сярод арыянаў ён далей займае асабліва радыкальнае становішча, прыкладам чаго могуць быць гэткія цьверджаньні Буднага: «Гэта няпраўда, што людзі звычайна думаюць аб душах, а паймена, што яны па сьмерці жывуць, пераносяць мукі або радасьці... Будзе гэта толькі пасьля ўскрашэньня й апошняга суду... Што душа па сьмерці ня жыве, відаць гэта ясна на аснове шмат якіх месцаў сьвятога пісьма... Душа ня што іншае, як людзкое жыцьцё або цела людзкое: а каб былі нейкія душы, якія-б па сьмерці цярпелі мукі або цешыліся ў небе, гэта звычайныя байкі...»

Калі ў тэалягічна-дагматычных пытаньнях Будны займаў сярод арыянаў становішча радыкальнае, дык у пытаньнях сацыяльна-палітычных, спрэчкі аб якіх у арыянскіх грамадах тады асабліва горача вяліся, Будны стаяў на пазыцыях памяркоўных. Прызнаваў ён патрэбу дзяржаўнае ўлады, апраўдваў абаронную вайну, кару сьмерці, прызнаваў права арыянам займаць урады й мець маемасьць. Свае сацыяльна-палітычныя пагляды Будны найшырэй выказаў і абгрунтаваў у выдадзенай папольску ў 1583 годзе ў Лоску кнізе «Аб урадзе мяча».

Асабліва гарачым абароньнікам Будны быў свабоды веры, сумленьня, думкі. Дамагаўся ён і ад супраціўнікаў, і ад сваіх аднаверцаў, поўнае талеранцыі. Бараніў права вольнае палемікі, адкідаў цэнзуру. Нястачу талеранцыі ўськідаў ён ня толькі папе, Лютэру, Кальвіну, але й сваім аднадумнікам. Фанатыкам Будны ніколі ня быў. Відаць гэта й з таго, што ён асуджаў забабонную неталеранцыю тых праваслаўных, якія «Лаціньнікаў уважаюць ня толькі за гарэтыкаў, але проста за паганаў, асабліва Маскоўцы, якія навет і тое месца, дзе «лаціьнянін» сядзеў, сьціраюць ці змываюць, каб не запэцкацца».

Палемікі й дыскусіі, паводля Буднага, патрэбныя, але яны павінны весьціся бязь ненавісьці. Характэрнае яго выказваньне: «Хоць я й перакананы ў правільнасьці майго цьверджаньня, але ня буду сьлепа яго трымацца, і, калі нехта дасьць мне лепш абгрунтаваны пагляд, я перайму яго з удзячнасьцяй». У справе свабоды слова Будны дамагаўся, каб магчымасьць вольнага выказваньня мелі «ня толькі вучоныя, але й людзі без навукі, ня толькі настаўнікі, але й вучні, ня толькі пастыры, але й авечкі ды слухачы, ня толькі багатыя, але й бедныя».

Год сьмерці Сымона Буднага да гэтай пары быў няведамы. Заслуга С. Кота,што на аснове весткі ў знойдзенай у бібліятэцы ў Капэнтазе няведамай дагэтуль бібліяграфам кнігі, ён устанавіў дакладную дату й месца сьмерці Буднага. Памёр Будны 13 студзеня 1593 году ў Вішняве (відаць Валожынскім). Больш 30 год свайго жыцьця правёў ён у працы пастаронь культурна-палітычных цэнтраў краю, у глухой «правінцыі». Круг ягонай дзейнасьці ахопліваў тады гэткія мястэчкі Беларусі: Клецак, Нясьвіж, Лоск, Любчу, Узду, Заслаў, Холхла, Іўе, Камень, Гэрманавічы, Вішнява. Цяпін, Ціхінічы.

Хоць праца С. Кота карысная, найперш тым новым, што дасьледніку ўдалося аб Будным устанавіць, ды не пазбаўленая яна й некаторых недакладнасьцяў ды спрэчных дапушчэньняў. Адцемім гэтта толькі важнейшае. Найперш, ня можна пагадзіцца зь цьверджаньнем, што «ніякога мяшчанства тады яшчэ ня было ў тых аколіцах ... на ўсход ад Вільні, адзінага запраўднага места тагачаснае Літвы» (б. 117). Месты ў Ліцьве-Беларусі тады ня толькі былі, але навет і цьвілі й на ўсходзе ад Вільні. На гэтай аснове яшчэ ў XV стагодзьдзі яны атрымалі й свае меставыя самаўрады, г. зв. майдэборскае права, як прыкладам Полацак, Віцебск, Ворша, Магілеў, Менск ды іншыя. І мяшчанства беларускае тады выяўляла ня толькі гаспадарчую, але й культурна-рэлігійную актыўнасьць, пра што сьветчыць дзейнасьць тагачасных цэхавых ды царкоўных брацтваў.

Няма ніякіх паважных асноваў і на тое, каб, як робіць гэта С. Кот, К. Гурскі й некаторыя іншыя польскія аўтары, дапушчаць польскае паходжаньне Буднага. Сам аўтар, сьцьвердзіўшы, што «скуль Будны паходзіць, ягоны век, дзе ён вучыўся — жаролы аб гэтым нам нічога ня кажаць», у супярэчнасьць самому сабе колькі радкоў ніжэй падае: «быў ён Паляком, паходзіў з Мазуршчыны» (б. 64). Робіць гэта ён галоўна на тэй аснове, што на Мазуршчыне можна сустрэць мясцовасьці, якія завуцца «Буды» ці «Буднэ». Ды гэта ніякі довад, бо-ж ня менш «Будаў» і на беларускіх землях. Пры тым, ведамы й аўтарытэтны польскі мовавед А. Брукнэр само слова «будны» ўважае за ня польскае, а «рускае» (у дадзеным выпадку беларускае) слова, ды этымалегію яго выводзіць з «оудьдень», значыцца дзень звычайны, несьвяточны.*

Пісаў і друкаваў Будны пабеларуску, папольску, палацінску. Мовы беларускую й польскую знаў роўна дасканала. Сваю выдавецкую дзейнасьць пачаў ён з выданьня кнігаў беларускаю мовай. Калі ў сваіх пазьнейшых палемічных творах, побач мовы лацінскае, карыстаўся ён моваю польскай, дык гэта часткова паясьняецца тым, што ягоная палеміка была накіраваная галоўна на захад, у Польшчу. Творы ягоныя былі пісаныя найперш супроць і для польскіх «братоў» арыянаў, становішча якіх у справах і дагматычных, і сацыяльна-палітычных, шмат у чым было адрозным ад арыянаў Літвы, «буднэітаў». З другога боку, у XVI стагодзьдзі сацыяльныя й культурныя вярхі ў Беларусі пачыналі ўжо палянізавацца ды пераймаць мову польскую. Стуль дасканалая веда мовы польскае ў Буднага ў тую пару рэч ня дзіўная, а зусім зразумелая й не патрабуе дапушчэньня ягонага «польскага» паходжаньня.

Затое добрую яго веду мовы беларускае й царкоўнаславянскае немагчыма выясьніць накш, як толькі ягоным паходжаньнем зь Беларусі. Аўтар-жа, прыняўшы польскае паходжаньне Буднага, мусіць дапушчаць, што беларускае мовы ён «навучыўся» толькі пазьней (б. 68). Гэтае дапушчэньне супярэчыць агульнай тагачаснай палянізацыйнай тэндэнцыі ў Беларусі. Беларускасьць Буднага пацьвярджае, між іншым, і ягоная польская мова, ды ня толькі гэтым, што яна перасыпаная беларушчынай, але й тым, што ў ей няма й сьледу нейкага польскага дыялекту. Нормы тагачаснае, толькішто паўсталае, польскае літаратурнае мовы, былі яшчэ не ўсталяваныя, і па мове тагачасных польскіх пісьменьнікаў звычайна лёгка пазнаць дыялектны абшар ягонага паходжаньня. Польская-ж мова Буднага, калі зраджае нейкія тэрытарыяльныя асаблівасьці, дык толькі беларускія.

Да пытаньня нацыянальнасьці Сымона Буднага важна зьвярнуць яшчэ ўвагу на прадмову першае друкаванае ягонае кнігі «Катыхісісу». У прадмове выступае яскравы беларускі патрыятызм ды вялікая пашана й любоў да «слаўнае», як ён сам яе называе, беларускае мовы. Гэтую любоў Будны намагаецца прышчапіць і нашчадкам князёў Радзівілаў, якім «Катыхісіс» у прадмове прысьвечаны на тое, «абы вашы княжацкія міласьці таго народу язык мілаваці рачылі». Гэткі, яўна пачуцьцёвы, падыход да беларускае мовы ў Буднага-Беларуса рэч зразумелая й натуральная. Калі-ж дапусьціць, што ён Паляк, які прыехаў на беларускія землі з Польшчы й мову беларускую толькі «навучыўся» пасьлей — гэткі патрыятызм і любоў мовы былі-б неправўдападобныя.

---

* Brückner Aleksander. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa 1957 b. 47.

**Р. Максімовіч**

**М. А. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд. Інстытут філазофіі Акадэміі Навук БССР. Менск 1958, б. 146.**

Доктара Франьцішка Скарыну ў падсавецкай Беларусі доўгі час і спамінаць у друку бяз войстрага асуду не выпадала. Ад 1928 г. партыйнымі коламі Скарына ў СССР быў апавешчаны за «буржуазнага», «рэакцыйнага», а навет за «сярэднявяковага манаха»[1] й «езуіта»,[2] хоць манахам ніколі ён ня быў, дый за ягоным жыцьцём ня было на сьвеце й ордэну езуітаў. У выніку, усякая дасьледная праца пра Скарыну ў СССР была спараліжаваная на даўгія гады. Не стала й дасьледнікаў, хто мог-бы аб ім пісаць, бо ўсе выдатнейшыя падсавецкія навукоўцы, якія асобаю Скарыны цікавіліся — Ул. Пічэта, М. Даўнар-Запольскі, М. Шчакаціхін, М

Пятуховіч, Яз. Воўк-Левановіч, А. Станкевіч – зазналі прасьлед, арышты, ссылку, а некаторыя былі зьнішчаныя й фізычна. Вось прычыны, чаму Алексютовічава кніжыца – першая абшырнейшая публікацыя пра Скарыну ў БССР і СССР на працягу больш 30-цёх год. Дзеля гэтага варта прыгледзецца да яе ўважней.

У ўводным разьдзеле, пасьля асуду «дваранска-буржуазнае» скарынаведнае літаратуры за ейныя «вузкаклясавыя антынародныя пазыцыі» ды «скажонае ўяўленьне характару дзейнасьці Скарыны» (б. 10), Алексютовіч узносіць свае – «марксіцка-ленінскія прынцыпы» — падыходу да тэмы, якія, як зь перагляду кніжыцы можна пераканацца, зводзяцца да пазыцыяў партыйна-дагматычных, а, – наверх, – абавязваючых сяньня навукоўцаў БССР пазыцыяў вялікадзяржаўна-расейскіх.

Гэтыя свае «прынцыпы» аўтар адразу-ж і дэманструе ў разьдзеле пра сацыяльна-эканамічны й культурны «фон» эпохі. Гэтак, нялёгкае палажэньне мяшчан і сялянства ў Скарынавую пару, якое ў Беларусі аднакжа тады нічым істотным ня розьнілася ад палажэньня іх ува ўсёй Эўропе, і ўжо ніяк ня было горшым за долю сялянства й мяшчанства ў тагачаснай Маскоўшчыне, Алексютовіч намагаецца прадставіць так, быццам яно тут было найцяжэйшым. У самых панурых хварбах малюе Алексютовіч і рэлігійнае жыцьцё ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім, а калі давесьці гэта яму нестае адпаведных фактаў, дык абраз «раскладу» праваслаўнае царквы ў Беларусі дапаўняе ён сьветчаньнем Максіма Грэка, дый іншых, аб царкоўным раскладзе ў – Маскоўшчыне! (б. 23). Таксама й вялікія князі літоўскія ў аўтара, выглядае, аб нічым іншым і ня думалі, як толькі аб сацыяльным, нацыянальным і рэлігійным уціску сваіх падданых. Але дэспатычныя самадзяржаўныя маскоўскія князі тады-ж, паводля яго, ня ўціскалі, а толькі «цэнтралізавалі» сваю дзяржаву. Яны не падбівалі, не захоплівалі, а ўсяго «зьбіралі» й «аб'ядноўвалі» чужыя землі. Дый сам імпэрыяльны рост Масквы ў Алексютовіча славіцца скрозь як фактар «вялікага прагрэсыўнага значэньня» (б. 31).

Каб даць нейкі прыклад свайму цьверджаньню аб арыентацыі беларускага народу на Маскву, Алексютовіч кажа, што ў «радзе беларускіх летапісаў» выражаецца «спачуваньне» палітыцы маскоўскіх князёў (б. 35), але пры тым нічога не ўспамінае, што ў бальшыні гэтых летапісаў яўная варожасьць да Масквы. Для тае-ж мэты – паказаць, як беларускі народ калісьці гарнуўся да «зьяднаньня» з Масквою, – Алексютовіч прыводзе радкі народнае, быццам, беларускае песьні з пары «бліжэйшых насьледнікаў Ягайлы» (б. 37). Ды ў навуковай літаратуры даўно ведама, што гэта зусім не народны твор і не пары Ягайлавых «насьледнікаў», а прапагандная падробка пад народную песьню, складзеная, як сьцьвярджаюць Янчук ды Карскі, ня гэтак даўно нейкім дзяком, вайсковым пісарам, ці падобным расейскім царскім чыноўнікам.[3] Ніякіх прамаскоўскіх сымпатыяў у арыгінальнай вуснай творчасьці беларускага народу не знайсьці.

Радзьдзел «Жыцьцё й дзейнасьць Скарыны» прыклад таго, як Алексютовіч цалком залежны ад працаў якраз «буржуазных» аўтараў. І гэта зразумела, бо-ж ніякое паважнейшае «марксіцкае» скарынаведнае літаратуры ня йснуе. Горш, што разьдзел гэты пісаны не на аснове самастойнага вывучэньня адпаведных крыніцаў і літаратуры, а гэта бяскрытычная кампіляцыя мяркаваньняў і пагляд аў іншых. У выніку, на кажным кроку натыкаемся на цьверджаньні супярэчныя з дакумэнтамі й фактамі. Вось колькі прыкладаў:

На пачатку разьдзелу аўтар намагаецца заняць сваё становішча ў ведамай у скарынаведнай літаратуры спрэчцы: меў Скарына побач імя Франьцішак і імя Юр'я – «Георгія» – ці не, паколькі другое ймя сустракаем толькі раз у копіі аднаго адзінага дакумэнту – прывілею вялікага князя Жыгімонта, — і, магчыма, гэта звычайная апіска перапішчыка. Алексютовіч уважае, што Скарына гэтае ймя меў. Паводля яго, прывілей выдаваўся ў сувязі з «маемаснымі справамі» Скарынавага брата Івана, які «да сваёй сьмерці жыў у Полацку», і дзеля гэтага «кароль, відаць спэцыяльна ўказаў у прывілеі праваслаўнае ймя Скарыны Георгі, якое ён атрымаў у тым-жа Полацку пры хрышчэньні й быў там пад ім вядомы» (б. 40).

Акты, тымчасам, паказваюць зусім адваротнае гэтаму, што мяркуе давесьці Алексютовіч. Паперш ае, Іван Скарына перад сьмерцяю жыў ня ў Полацку, а ў Пазнані, дзе меў гандлёвую базу й склады. Там ён у 1529 годзе й памёр. Гэта ведама з пазнанскіх актаў, пра якія ў іншым месцы ўспамінае й Алексютовіч (б. 53), але пазнаёміцца зь іхным зьместам так і не паруп іўся. Падругое, тыя маемасныя справы Івана, якія дакучалі доктару Скарыне, ня мелі ніякога дачыненьня да Полацка, былі гэта пазнанскія справы. Для меставых-жа ўладаў Пазнані было напэўна зусім абыякава, якое ймя меў Скарына ў Полацку. Да таго-ж Юры – «Георгі» – такое-ж добрае йм я каталіцкае, як і праваслаўнае. Калі-б Алексютовіч меў звычай заглядаць у крыніцы, дык мог-бы лёгка зацеміць і тое, што якраз полацкія судовыя акты ў справе спрэчкі Іванавых зяцёў за радавую зямлю Скарынаў знаюць доктара Скарыну толькі пад адным імём: Франьцішак. Калі-б Скарына быў хрышчаны й рос у Полацку, як Юры, а йм я Франьцішак нажыў сабе нейдзе на чужыне, трэ было-б чакаць, што дзе-як-дзе, але ў полацкіх юрыдычных актах у справе спадчыннае зямлі йм я гэтае найперш павінна было-б і стаяць. Калі-ж яго там няма шака, дык і Алексютовічава дапушчэньне, што Скарына пад імём Юр'я «быў там вядомы», ня мае пад сабою ніякога дакумэнтнага грунту.

У другім месцы, адцеміўшы за А. В. Фляроўскім факт спаленьня Скарынавых кнігаў у Маскве, Алексютовіч ад сябе дадае: «у паведамленьні ня ўказваецца, ці былі гэта кнігі прывезеныя зь Літвы, ці яны выданы ў самой Маскве» (б. 49). З гэтае заўвагі відаць, што самога «паведамленьня» Алексютовіч так і ня чытаў, бо тамака выразна сказана, што спаленыя кнігі былі ў Маскву прывезеныя. Няпраўда, таксама, што Француз Анрэ Тэвэт пра паленьне ў Маскве кнігаў піша ў сваёй «Касмаграфіі» (б. 49). Пра гэта ў «Касмаграфіі» нічагуткі. Але затое спамін текі ёсьць у Тэвэтавай кнізе «Pourtraits et vies . . .». З гэтае блытаніны ясна, што ніводнай з гэтых кнігаў Алексютовіч таксама ня бачыў. Калі аўтар далей кажа, што «у 1526–1527 гг. Маскву наведаў Багдан Онкаў» (б. 50), дык з гэтага відаць, што незнаёмы ён з дакумэнтамі й гэтае справы, бо на аснове іх зусім яшчэ ня відаць, што Онкаў і запраўды да Масквы даехаў. А, падругое, самое падарожжа ніяк не магло адбыцца ў 1527 г., а, найпазьней, у першай палове 1526-га, бо ў восені гэтага году літоўскія паслы ў Маскве справу абрабаваньня Онкава ў Маскоўшчыне ўздымаюць ужо перад маскоўскім князем.

Ня толькі ўжо поўная абыякавасьць да крыніцаў, але й слабая веда гісторыі «прагрэсійнае» Маскоўшчыны вызірае ў Алексютовіча, калі за найпазьнейшы магчымы час падарожжа Скарыны ў Маскву прыймае ён год 1535 (б. 50). Калі, як кажацца ў вадпаведным дакумэньце, Скарынавыя кнігі ў Маскве былі спаленыя «на загад князя», дык адбыцца гэта магло найпазьней у годзе 1533, годзе сьмерці князя Васіля Іванавіча. Ягоны-ж сын і наступнік, Іван Грозны, народжаны ў 1530 г., у гадох 1534–35 быў малым хлапчуком, знаходзіўся пад апекаю маці, і ніякіх загадаў як князь яшчэ не выдаваў.

Нямаведама, як Алексютовіч дайшоў і да таго, што «з 1529 г. супраць Скарыны . . . пачаліся няспынныя працэсы з-за . . . радавой маемасьці ў Полацку . . . якія цягнуліся да 1535 году» (б. 52–53). Акты паказваюць, што за радавую маемасьць у Полацку доктар Скарына наагул ня судзіў-

ся, а судзіліся за яе зяці ягонага брата Івана. У дакумэнтах нічагуткі ня можна знайсьці й аб нейкай канфіскаце Скарынавае маемасьці, пра што падае, нямаведама на якой аснове, Алексютовіч (б. 53). З судовых актаў вынікае зусім супроцьлежнае, а наймя, што абодва працэсы — і за жончыну маемасьць у Вільні, і за спадчыну брата Івана ў Пазнані — доктар Скарына выграў.

Нястача беспасярэдняга абгрунтаваньня на крыніцах, залежнасьць ад паглядаў іншых, пры адначасовай слабой ведзе чужых моваў, часам аўтара й зусім бянтэжаць. Гэтак А. В. Фларoўскі, публікуючы ў 1936 годзе ў «Časopis Národního Musea» тэкст адкрытага ліста караля Фэрдынанда I, адзначае, што дакумэнт гэты надрукаваў першы раз у 1885 г. Ф. Дворскі «v Jelinkově Slovanském sborniku». Jelinkově тутка прозьвішча рэдактара-выдаўца зборніка Адварда Елінкі, і фраза гэтая значыць: «у Елінкавым Славянскім зборніку». Вось асабліва акуратны «марксіцкі» перапішчык скарынаведнае літаратуры й фактаў ад «буржуазнага» Фларoўскага, Алексютовіч, месца гэтае перадае гэтак, што быццам дакумэнт быў «надрукаваны ў зборніку «Молодой Олень» (б. 55), ці — «пераклаў» прозьвішча Елінкі (jelinek пачэску значыць «алянё») і падаў яго як назоў зборніка. Пры гэтым, у працы пісанай пабеларуску пераклад зрабіў чамусьці не ў беларускую, але ў расейскую мову!

Яўна нясьведамы аўтар і культурных абставінаў у Беларусі Скарынавае пары, калі цьвердзіць, што «барацьба Скарыны за родную мову» была абаронаю ад пасяганьня паноў, каб «апалячыць» (б. 67). У той час беларуская мова была дзяржаўнаю моваю Вялікага Княства Літоўскага, моваю актаваю й дыпляматычнаю, моваю летапісаў і сьвецкага пісьменства, моваю ня толькі народу, але й «паноў». У Скарынавую пару ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім навет і каталіцкія біскупы свае граматы пісалі або палацінску, або пабеларуску, але не папольску. Дый у самой Польшчы тады рабіліся толькі нясьмелыя пачаткі польскага пісьменства. У дзяржаўна-юрыдычнай галіне й у літаратуры там панавала тады яшчэ скрозь мова лацінская. Беларускую-ж мову шанавалі тады й у Польшчы. Прыкладам, пры канцы XV стагодзьдзя кароль Казімір Ягайлавіч у Кракаве, у капліцы на Вавэлі, адпаведныя напісы загадвае рабіць пабеларуску. Дык пагрозы моўнае паланізацыі ў Беларусі ў Скарынавую пару яшчэ не адчувалася, і нейкая гутарка пра гэта сьветчыць толькі аб аўтаравым неарыентаваньні ў культурна-палітычных абставінах пары. Палажэньне зьмянілася толькі ў другой палове XVI стагодзьдзя.

Алексютовічу яўна не ўдаецца й Скарынавыя пагляды XVI стагодзьдзя ўціснуць у нейкія «макрсіцкія» дагматычныя катэгорыі стагодзьдзя XX-га. Дзеля гэтага яму й выглядае, што «Скарына — вельмі супярэчлівая й непасьлядоўная асоба» (б. 98). Прычына-ж «супярэчлівасьці» тут бясспрэчна не ў Скарыне, а ў васобе самога аўтара дый ягоных партыйна-дагматычных «прынцыпаў», бо сьветагляд Скарыны — натуральны плод свайго нацыянальнага й сацыяльнага асяродзьдзя ды свае культурнае пары.

Скарына, як ведама, не шкадаваў часу, клопату й коштаў, каб выдаваць рэлігійныя кнігі для «народу паспалітага». Ці-ж можа зразумець і належна раскрыць ягоныя ймкненьні й сьветагляд той аўтар, які, ведаючы гэта, патрапе гаварыць, што Скарына «не захапляецца „сьв. кнігамі" не адчувае перад імі замілаваньня» (б. 84). Падобны, заснаваны не на відавочных фактах, а толькі на вымаганьнях казённае ідэялёгіі, падыход аўтара й у ягонай спробе выясьніць сацыяльна-палітычныя пагляды Скарыны. Каб зручней было падвесьці Скарыну пад абавязваючую ў СССР ідэялёгію, Алексютовіч яўна й беспадстаўна намагаецца Скарыну зьбядніць, «паўпэрызаваць». Цьвердзіць ён, прыкладам, што Скарына «памірае ў беднасьці, пакінуўшы пасьля сябе



толькі кнігі дый даўгавыя абавязацельствы» (б. 120). Навязвае тут Алексютовіч да адкрытага ліста караля Фэрдынанда, дадзенага Скарынаваму сыну Сымону. Ліст гэты — у вельмі благім, з грубымі памылкамі, перакладзе — прыведзены й у Алексютовіча (б. 55). Ды сэнс ліста адваротны цьверджаньню аўтара. Не на тое, хіба-ж, Сымон Скарына прасіў каралеўскага ліста, каб дашуквацца бацькавых даўгоў, а каб спагнаць ягоную маемасьць. У лісьце й гутарка аб тым, каб улады памагалі сыну Сымону ў спагоне бацькавай спадчыны, кнігаў і даўгавых належнасьцяў. Рэдагуючы адпаведны дакумэнт, каралеўская канцылярыя, для юрыдычнага парадку дадала аднак-жа й слова «даўгі», бо-ж, зразумелая рэч, калі нехта спаганяе бацькаву маемасьць, той мусіць пераняць і ягоныя даўгавыя забавязаньні, калі-б яны аказаліся. Вось гэтае, карэктнае зь юрыдычнага гледзішча рэдакцыі ліста, Алексютовічу стала на тое, каб доктара Скарыну «пралетарызаваць» дый пісаць — «памірае ў беднасьці».

Пры гэткім неаб'ектыўным і згрунту ненавуковым падыходзе толькі зразумела, што Алексютовічу не ўдаецца сказаць нешта новае й арыгінальнае й пра Скарынаў сьветагляд. Калі піша ён шмат пра тое, што Скарына ў Бібліі бачыў ня толькі рэлігійную кнігу, але й крыніцу пазнаньня «сямі навук вызваленых», дый усякае веды наагул, дык пісалі-ж пра гэта ўжо даўно беларускія «буржуазныя» вучоныя, прыкладам М. Даўнар-Запольскі ў 1905 г.[4] дый, урэшце, сказаў гэта й сам Скарына ў прадмове да Бібліі. Таксама й усьведамленьне таго, што інтэлект Скарыны стаяў вышэй усякіх канфэсійна-дагматычных спрэчак і розьніцаў, Алексютовічу засталося толькі пераняць ад другога беларускага «буржуазнага» аўтара — І. Абдзіраловіча, словы якога пра гэта, апублікаваныя ў 1921 г., ён і прыводзе (б. 105).

Падсумоўваючы, даводзіцца сьцьвердзіць, што ў выніку даўгіх год партыйнага загону скарынаведа ў БССР ня здолела й сяньня стаць на цьвярды дасьледніцкі грунт, грунт дакумэнтаў, фактаў дый незалежнае навуковае думкі. Дзеля гэтага й паўстаюць там не навуковыя працы, а прапагандныя партыйныя памфлеты. Адзін зь яскравых прыкладаў гэтага — Алексютовічава публікацыя.

Вынік абавязваючай у падасавецкай Беларусі тэзы аб «дабрадзейнасьці» дый «прагрэсіўнасьці» ўплываў расейскае мовы становіць і беларуская мова Алексютовічавай кніжкі. Сынтаксычны лад у яе чыста расейскі. Тое-ж у вялікай меры й із слоўнікам. Вось колькі прыкладаў: прамыя, рашэньне, указвае, балатыроўка шарамі, падвергнуць, цягаценьні, садзейнічыць, пераўзыходзіць, подзьвіг, падвергалася, ложнай, адкравеньне, ісьціна, пасьцігнуць, аплот, государ, прыменяць, ганеньні, саслоўе, сачыненьне, адабрэньне, унушалі, абавязацельствы і г. д. Кніжкі вось гэткаю «беларускаю» моваю выдае сяньня Акадэмія Навук **Беларускае** ССР. Без расейскага слоўніка іх і не зразумець.

Алексютовіч разоў колькі адзначае вялікі патрыятызм і заслугі доктара Францішка Скарыны ў вабароне беларускага народу перад паланізацыяй. Нажаль, ні чытачом сучасным ягонае кніжыцы, ні некалішнім іхным нашчадкам у прыклад такое-ж патрыятычнае абароны беларускага народу й ягонае мовы ад русыфікацыі ніколі не давядзецца паставіць М. А. Алексютовіча.

**С. Брага**

[1] Кнорын В. Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытаньні. «Асьвета», часапіс Народнага Камісарыяту Асьветы й Саюзу Працаўнікоў Асьветы, № 4. Менск, 1928, б. 4.

[2] Никифоров В. По мастерским художников Белоруссии. «Искусство», № 3. Ленинград, 1934, б. 101.

[3] Карский Е. Ф. Белорусы, т. III, ч. 3. Петроград, 1922, б. 28–31.

[4] Довнар-Запольский М. В. и Шендрик Д. З. Исторические судьбы Верхняго Поднепровья и Белоруссии и культурние их успехи. «Россия», под редакцией В. П. Семенова, т. IX. С. — Петербург, 1905, б. 95–96.

**Атлас Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Акадэмія навук БССР. Галоўнае ўпраўленне геадэзіі і картографіі. МУС СССР. Мінск—Масква, 1958 г. XIV, 140 картаў. Тыраж: 10.000 у беларускай мове, 15.0000 у расейскай мове.**

Атляс — твор калектыву навукоўцаў і працаўнікоў Акадэміі Навук БССР, Акадэміі Сельскагаспадарскіх Навук БССР, Дзяржпляну БССР, Галоўнага Ўпраўленьня Геадэзіі і Картаграфіі Мін. Нутраных Справаў СССР, Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту імя Леніна, Беларускага філіялу Геаграфічнага Таварыства Саюзу ССР, Упраўленьня Гідрамэтслужбы БССР і Менскай картаграфічнай хвабрыкі. У працы прыймала ўдзел панад 90 чалавек. Атляс рэдагаваны калегіяй у складзе: С. М. Малініна — старшыня калегіі і адказны рэдактар (ён-жа й старшыня Дзяржпляну БССР), К. І. Лукашова й І. С. Лупіновіча — намесьнікі рэдактара (першы — віцэпрэз. АН БССР, другі — прэзыдэнт Акадэміі Сельскагаспадарскіх Навук БССР), П. Л. Рагавога, акадэміка АН БССР, В. В. Урусава — дырэктара Менскай картаграфічнай хвабрыкі й адказнага рэдактара па выпуску ды А. Н. Аўксенцьева — сяброў рэдкалегіі.

Рэдакцыя тэксту й геаграфічных назоваў беларускага выданьня належыць акадэміку К. К. Крапіве. Як бачым, аўтарытэтнасьць і масістасьць выдаўцоў, на савецкую шкалю, найвышэйшая.

Пачынаецца атляс прадмовай і ўводзінамі. У прадмове на бач. 5 зазначаецца, што «атляс прызначаецца для шырокага кола чытачоў». Відавочна, што гэткае цьверджаньне ня ўвязваецца з тыражом атлясу — 25 тысячаў у двух мовах. Навет паводля дадзеных атлясу (карты 94—99) у БССР налічваецца каля 20 тысячаў установаў, для якіх атляс патрэбны абавязкава (бібліятэкі, дамы культуры, навуковыя ўстановы й агульна-адукацыйныя школы). Дык, як бачым, беларускае выданьне атлясу навет ня можа абслужыць патрэбаў установаў БССР і, відавочна, для «шырокіх колаў» у БССР атлясу няма.

Ад уводзінаў адразу кідаецца ў вочы тэндэнцыйнасьць, недакладнасьць, часта наўмысная, апрацоўкі атлясу. Гэтак у ўводзінах зазначана: «Сорак год назад, 1-га студзеня 1919 году часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларусі апублікаваў маніфэст аб стварэньні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі» — і нічога ня сказана, дзе была абвешчаная БССР. Адказ-жа мы знаходзім аж на 140 карце — там паказана месца абвешчаньня БССР. Паказчык ясна паказвае горад Менск — месца ўтварэньня БССР. Гэтак чытачу падаюцца няправільныя весткі: месца абвешчаньня БССР — Смаленск — не названае, і гэты факт схвальшаваны. Падобны хвальш у нармальнай навуковай публікацыі недапушчальны.

Статыстычныя дадзеныя ўводзінаў не адлюстроўваюць стану эканамічнага жыцьця, бо пададзеныя ў працэнтах. Статыстыка раздрабляецца там, **дзе гэта ня** мае ніякага значаньня, а там, дзе ўдакладненьне было-б патрэбнае, аўтарскі калектыў гэтага ня робіць. Прыкладам, на бачыне XIII пададзена: «У 1957 г. у БССР выпушчана 928 назоў кніг і брашур тыражом 16 300 тысячаў», але ні словам не абумоўлена, колькі з гэтага ліку кніжак беларускіх. У гэтым выпадку аўтарам атлясу трэба было-б падаць, што зь ліку 928, беларускіх кніжак было выпушчана толькі 294 (паводля Ежегодника Книги за 1957 г., В. К.) ці, інакш кажучы, толькі 31% кніжак у беларускай мове было выдадзена ў рэспубліцы з 80% беларускага насельніцтва. А калі-б яшчэ далей раздрабіць статыстыку на жанры літаратуры, дык на **беларускае** друкаванае слова прыпадала-б недзе ад 5 да 10% толькі.

140 картаў можна згрупаваць у катэгорыі: адміністрацыйныя, фізыка-



геаграфічныя, геалягічныя, эканамічныя, гістарычныя й карты паказьнікі культурна-асьветнага будаўніцтва. Шмат картаў суправаджаецца блёкавымі й лінейнымі параўнальнымі паказьнікамі.

Геаграфічная частка атлясу пачынаецца картай Савецкага Саюзу, выкананай у роўнапрамежкавай канічнай праэкцыі Каўрайскага на эліпсоідзе Красоўскага. На нашую думку, лягічна было-б пачаць гэтую частку атлясу картамі Сьвету — Эўропы — СССР з адзначэньнем палажэньня БССР на іх. Гэта надавала-б атлясу характар апрычонасьці, а не лякальнае савецкае публікацыі. Але падобная пастаноўка справы, як відаць, ня ў пляне ўкладальнікаў: асобнае апрычонае месца ў геаграфічным атлясе належыцца толькі СССР, а ня рэспубліцы.

Карты адміністрацыйныя абласныя маюць на сяньня толькі бібліяграфічнае значаньне, бо адміністрацыйны падзел рэспублікі мяняўся ад 1958 году некалькі разоў.

На картах фізыка-геаграфічных падаецца мала чаго новага. Бальшыня дадзеных на гэтых картах была ўстаноўлена даўно.

Карты геалягічныя й карысных выкапняў не адлюстроўваюць усіх новых здабыткаў геалягічнае навукі, зробленых і закончаных перад выхадам атлясу. Гэтак у атлясе не падаюцца залежы каменнага вугалю, паклады сапрапэляў, пэрспэктыўнасьць адкрыцьця зялезных рудаў.

На картах эканамічных прамысловасьць БССР, на першы пагляд, пададзеная досыць шырака. Аднак больш блізкае азнаямленьне з картамі заводзіць чытача ў тупік. Гэтак, прыкладам, на агульнай карце энэргэтыкі рэспублікі на кажную вобласьць прыпадае па некалькі дзясяткаў буйных энэрга-выпрацоўных прадпрыемстваў. Дарэмна траціць чытач час, калі стараецца знайсьці гэтыя прадпрыемствы на картах абласных. З гэтых абласных картаў відаць, што толькі абласныя цэнтры выпрацоўваюць энэргію. Гэта што? Недагляд ці памылка? А хутчэй за ўсё справа выглядала гэтак: Дзяржплян уклаў карты агульнарэспубліканскія паводля сваіх дзяржплянавых праектаў, а абласныя карты ўкладаліся паводля запраўднага стану рэчаў, дык і атрымалася, мякка кажучы, разьбежнасьць.

Як і водзіцца ўва ўсіх савецкіх выданьнях, посьпехі прамысловасьці найчасьцей выражаюцца ў працэнтах, бяручы за базу 1913 год. На нашую думку, выраб усяе прамысловасьці (асабліва хімічную, выраб гарэлкі й інш.) неабходна было-б падаць у вагавых дадзеных.

Працэнтавасьць пераважае й на картах сельскагаспадарскіх. Падаецца занальны падзел сельскае гаспадаркі БССР. Паказальна, што аўтары атлясу ўсё-ж не асьмеліліся выдзяліць асобнае кукурузнае зоны БССР (карта 71).

Апрацоўваючы карту шчыльнасьці насельніцтва ў БССР, укладальнікі не падалі карты, абсалютна неабходнае для такое публікацыі, карты разьмяшчэньня Беларусаў у СССР.

Ненавуковасьць, тэндэнцыйнасьць укладальнікаў атлясу бадай найбольш задэманстраваная ў разьдзеле «Гістарычныя карты». Шмат, відаць, спатрэбілася аўтарам часу, каб знайсьці разьвязку для цэлае працы: зрабіць, каб у атлясе нідзе не падаць этнаграфічных беларускіх земляў. Наадварот, у гэтых картах шукаецца псэўданавуковая аснова шасьціпавятовае БССР ды праводзіцца «общерусскость» земляў (карта 133). Але й гэтая частка мае сваю асабліва пікантную цікавасьць. Гэтак на карце 139 падаецца лінія фронту ў 1944 г., а на ўсход лініі фронту падаюцца краі кантраляваныя партызанамі. Пытаньне: якімі гэта партызанамі? Вачавідная хвальсыфікацыя дадзеных карты 140: фармаваньне тэрыторыі БССР. Аўтары зусім ня ўспомнілі, што ў 1939—40 гадох Беласток і Вільня ўваходзілі ў склад БССР.

Цяпер некалькі слоў аб тэрміналёгіі атлясу. Моўная апрацоўка атлясу была даручаная К. Крапіве. І, як бачым, К. Крапіва стараўся: расейскія геаграфічныя назовы чысьцюсенька

захаваныя ў арыгінальнай форме. Гэтак мы маем Брэст заміж Берасьце, Мінск заміж Менск, Навагрудак заміж Наваградак. У беларускай вымове пададзеныя амаль усе сумежныя з БССР мясцовасьці за выключэньнем геаграфічных назоваў Літоўскае ССР. Тут пішацца Вільнюс заміж Вільня, Друзгенікай заміж Друзгенікі й г. д.

Непаўнацэннасьць атлясу адлюстроўваецца і ў тым, што ў ім зусім не разглядаецца транспарт, дарогі ды зусім няма картаў лінгвістычных.

Але што зводзіць вартасьць атлясу да нуля — гэта адсутнасьць паказьнікаў: геаграфічнага, у першую чаргу, потым прадметнага. Аўтарам геаграфам хіба добра ведама, што карыстаньне атлясам без паказьнікаў (індэксаў) цяжкое для чытача знаёмага зь геаграфіяй дадзенае мясцовасьці і зусім немагчымае для чужога чытача. Гэты факт паказальны. Калі перад вайной усе савецкія геаграфічныя выданьні друкаваліся без паказьнікаў, то ў паваенны пэрыяд для выданьняў расейскіх, агульнасаюзных, паказьнікі далучаюцца, а для рэспубліканскіх не.

Вялікай заганаю атлясу ёсьць нявыпрацаваная агульная сыстэма тлумачальных абазначаньняў, якія мусілі-б быць зьмешчаныя на першых бачынах атлясу, а не на паасобных картах. У беларускім выданьні атлясу назіраецца таксама неахайная апрацоўка: устаўленыя расейскія карты (карта 27) і расейскі тэкст (бач. 25).

Дадатняя рыса атлясу — тэхніка апрацаваньня картаў, падбор, колер ды графіка — менская картаграфічная хвабрыка можа гэтым ганарыцца.

Падсумоўваючы, трэба прызнаць, што апрача тае вартасьці, што гэта **першы** бэсэсэраўскі атляс, публікацыя гэтая ніяк ня можа прэтэндаваць на геграфічна-статыстычны атляс-даведнік, на што Акадэмія Навук БССР, выдаючы атляс, відаць, разьлічвала.

**В. Кіпель**

---